А. А. Гужалоўскі

# Гісторыя музейнай справы Беларусі

*Рэкамендавана*
*Вучэбна-метадычным аб'яднаннем вышэйшых навучальных устаноў па гуманітарнай адукацыі ў якасці вучэбна-метадычнага дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-23 01 12 «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны (па напрамках)»*

МІНСК
БДУ
2012

УДК 069(476)(091)(075.8)
ББК 79.1(4Беи)я73
Г93

Рэцэнзенты:
загадчык кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў,
доктар гістарычных навук, прафесар *М. А. Бяспалая*;
загадчык кафедры музеязнаўства і экскурсазнаўства
Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і
мастацтваў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт *А. М. Масцяніца*

**Гужалоўскі, А. А.**
Г93 Гісторыя музейнай справы Беларусі : вучэб.-метад. дапам. / А. А. Гужалоўскі. — Мінск : БДУ, 2012. — 303 с. : іл.
ISBN 978-985-518-664-0.

Упершыню выкладаецца шматвяковая гісторыя айчыннай музейнай справы. У комплексе прааналізаваны юрыдычныя, адміністрацыйныя, навуковыя, захавальніцкія, адукацыйныя і іншыя аспекты дзейнасці музеяў Беларусі. Паказана карціна іх развіцця на розных этапах — ад дамузейнага збіральніцтва да нашага часу.

Вучэбна-метадычны дапаможнік прызначаны для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-23 01 12 «Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны (па напрамках)». Кніга будзе цікавай і для музейных работнікаў, спецыялістаў у галіне аховы помнікаў, калекцыянераў.

**УДК 069(476)(091)(075.8)**
**ББК 79.1(4Беи)я73**

**ISBN 978-985-518-664-0**

# ПРАДМОВА

Музеялагічная падрыхтоўка заклікана навучыць моладзь арыентавацца ў сучасным свеце, асэнсоўваць яго як сукупнасць культурных дасягненняў чалавечай супольнасці. Прадстаўнікі музейнай прафесіі павінны спрыяць узаемаразуменню і прадуктыўнаму дыялогу розных культур. У працэсе вывучэння курса «Гісторыя музейнай справы Беларусі» студэнты атрымліваюць уяўленне пра шматвобразнасць і самакаштоўнасць айчынных музеяў на розных этапах іх гістарычнага развіцця, спрабуюць прымяняць свае веды на практыцы, будаваць прагнастычныя мадэлі музейнай сферы.

Сёння музейную тэорыю і практыку можна развіваць толькі з улікам карысных шматгадовых набыткаў. Разгляд гістарычнага вопыту музеяў неабходны для распрацоўкі сучасных пытанняў музеялогіі. Падобны падыход дазваляе сфарміраваць рацыянальнае разуменне: мінулае музея праз дзень сённяшні накіравана ў будучыню.

У працэсе вучобы студэнты спасцігаюць гісторыю музейнай справы, практыку работы музеяў, а таксама развіццё навуковай думкі на розных этапах пройдзенага шляху. Гэта галіна гістарычнай навукі мае свае ключавыя паняцці і характарыстыкі, свае крыніцы і гістарыяграфічныя даследаванні. Яе перыядызацыя вызначаецца асаблівасцямі існавання музейных устаноў у канкрэтных сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных умовах. Гісторыя музейнай справы выкарыстоўвае метады гістарычнай навукі, дапаможных дысцыплін, мастацтвазнаўства, помніказнаўства, культуралогіі.

Вучэбна-метадычны дапаможнік «Гісторыя музейнай справы Беларусі» знаёміць студэнтаў з вузлавымі пытаннямі станаўлення і развіцця айчынных музеяў — ад стварэння першых дамузейных збораў у эпоху Сярэднявечча да цяперашняга часу. Упершыню выкладаецца шматвяковая гісторыя музейнай справы Беларусі. Матэрыял згрупаваны па асноўных перыядах гісторыі краіны, што дае ўяўленне аб пастунальным развіцці

айчынных музеяў, а таксама матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа. Унутры кожнага з перыядаў музеі сістэматызаваны паводле іх ведамаснай прыналежнасці, а з пачаткам іх спецыялізацыі — па профільных групах. У дапаможніку ўлічаны сучасныя тэарэтыка-метадалагічныя падыходы да музейнай дзейнасці, у прыватнасці музей разглядаецца як форма трансляцыі культур, назапашанага сацыяльнага вопыту.

Аўтар імкнуўся ўзнавіць рэальную карціну дамузейнага збіральніцтва і музейнай справы, паказаць залежнасць стварэння музеяў ад сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных умоў жыцця грамадства, вызначыць ролю і месца музеяў сярод іншых сацыяльна-культурных інстытутаў.

Вялікі набытак у выглядзе фондавых калекцый, метадаў і прыёмаў іх апрацоўкі, вывучэння і прадстаўлення публіцы сведчыць аб самаадданай працы музейных работнікаў. У гэтай кнізе расказваецца пра найбольш яркіх асоб, сапраўдных падзвіжнікаў музейнай справы.

Вучэбна-метадычны дапаможнік «Гісторыя музейнай справы Беларусі» падрыхтаваны на аснове шматгадовага вопыту выкладання аднайменнага вучэбнага курса студэнтам, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-23 01 12 «Музейная справа і ахова гістарычна-культурнай спадчыны» ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, а таксама музейным супрацоўнікам, якія праходзяць перападрыхтоўку ў Інстытуце культуры Беларусі.

# Глава 1

# ЗАРАДЖЭННЕ МУЗЕЙНАЙ СПРАВЫ Ў XI — ПАЧАТКУ XX ст.

## 1.1. ПРЫВАТНАЕ ЗБІРАЛЬНІЦТВА

Культурны кантэкст Сярэднявечча вызначыў зараджэнне музея ў Беларусі як прыватнай справы. Першымі збіральнікамі рухала пачуццё прэстыжу, імкненне ўмацаваць сваё грамадскае становішча. Усходнеславянскія князі стваралі зборы і выдаткоўвалі на іх велізарныя грашовыя сродкі. Прадстаўнікамі феадальных вярхоў былі назапашаны вялікія калекцыі мастацкіх і гістарычных каштоўнасцей, якія складалі культурнае багацце краю. У некаторых з іх выразна прасочвалася музейнае ядро — групы прадметаў, якім надавалася сімвалічнае або эстэтычнае значэнне.

Маюцца ўскосныя сведчанні аб існаванні ўжо ў XIII ст. у сталіцах усходнееўрапейскіх княстваў скарбніц, якія выконвалі першапачаткова эканамічную функцыю. На працягу многіх стагоддзяў падобныя скарбніцы былі неабходным атрыбутам княжацкай рэзідэнцыі і з’яўляліся адначасова адным з сімвалаў улады. Мяркуецца, што на беларускіх землях найбагацейшая скарбніца ў гэты перыяд існавала ў Полацку — горадзе, які ў XI—XIII стст. адыгрываў ролю важнага эканамічнага і палітычнага цэнтра Усходняй Еўропы (сюды збіраліся на раду, прыносілі ахвяры багам, звозілі даніну, гандлявалі).

Зборы прадметаў, што перахоўваліся ў сярэдневяковых цэрквах, мелі ў меншай ступені эканамічны і ў большай ідэалагічны характар. У іх складзе былі многія рэліквіі, якія карысталіся павагай вернікаў і звязваліся з імёнамі Хрыста, Маці Божай, апосталаў, святых і пакутнікаў. Большасць рэліквій упрыгожвалі золатам, срэбрам і каштоўнымі камянямі. У храмах захоўвалі таксама рукапісы ў мастацкіх вокладках, дарагія ўсходнія тканіны.



***Крыж– Ефрасінні- Полацкай***

Так, вядомая беларуская асветніца ***Ефраеіння-Полацкая*** разам са складаннем царкоўных акафістаў і перапісваннем кніг клапацілася пра мастацка-рэліквійнае напаўненне заснаваных ёю храмаў. Яна вырашыла ўпрыгожыць Багародзіцкі мужчынскі манастыр абразом Маці Божай Эфескай — адным з трох перапісаных абразоў Прачыстай Дзевы Марыі, створаных, паводле хрысціянскага падання, евангелістам Лукой. Намер Ефрасінні дапамаглі ажыццявіць візантыйскі імператар Мануіл Комнін і патрыярх Лука Хрысаверг, і неўзабаве абраз Маці Божай быў дастаўлены з Эфеса ў Полацк. Ефрасіння ж «внесше в церковь Святей Богородицы и постави ю... и украси ю златом и камением многоценным». Пабудаваная паводле загаду Ефрасінні Полацкай Спаса-Праабражэнская царква таксама захоўвала ў сваёй рызніцы вельмі каштоўныя дарункі. Калі Звеніслава, сястра Ефрасінні, прыняла па навучанні апошняй манаства, то, прыйшоўшы ў манастыр, ахвяравала туды свой пасаг, «принесе всю свою утварь златую и порты многоценные».

Крыж Ефрасінні Полацкай быў створаны ў 1161 г. полацкім майстрам Лазарам Богшам для Спаскага манастыра. Крыж выконваў ролю рэлікварыя (пераносныя сасуды для перахоўвання рэліквій), каб зберагчы атрыманыя Ефрасінняй з Іерусаліма і Канстанцінопаля хрысціянскія святыні — кроплі крыві Ісуса Хрыста, часткі Крыжа Гасподня, камень ад труны Багародзіцы, часткі мошчаў св. Панцеляймона і св. Стэфана і інш. Падобныя рэлікварыі былі даволі распаўсюджаны ў сярэдневяковай Еўропе не толькі сярод прадстаўнікоў царквы, але і свецкіх арыстакратаў. Рэлікварыі разглядаліся як найбольш каштоўнае ўпрыгожванне даспехаў рыцара, пакоя да́мы, парадная залы караля.

Калі пачатак збіральніцтва, а дакладней працэс назапашвання прадметаў музейнага характару, на полацкіх землях прасочваецца фрагментарна, то факт існавання скарбніцы Вялікага Княства Літоўскага (далей — ВКЛ) пакінуў у гістарыяграфіі больш глыбокі след. Скарбніца змяшчала архіў ВКЛ, канцылярскія кнігі, найважнейшыя дзяржаўныя дакументы, ваенныя трафеі, падарункі, іншыя каштоўныя прадметы. Адначасова яна выконвала функцыі галоўнага арсенала. Да сярэдзіны XVI ст. скарбніцай, якая была цесна звязана з велікакняжацкай канцылярыяй,

*Верхні і Ніжні замкі ў Вільні*



загадваў непасрэдна канцлер. Пасля гэтыя абавязкі пачаў выконваць падскарбі земскі (на сённяшні час — гэта як бы міністр фінансаў).

Натуральна, што ўзнікненне скарбніцы ВКЛ не было адзначана ніякім асаблівым актам. Таму цяжка ўстанавіць з поўнай дакладнасцю дату яе з'яўлення (гэтак жа, як і даты падобных збораў у Вене, Дрэздэне ці Лондане). Умоўным зыходным пунктам возьмем апошнія дзесяцігоддзі жыцця ***Міндоўга*** (сярэдзіна XIII ст.). Яго багацейшая скарбніца, якая знаходзілася ў тагачаснай сталіцы княства Навагрудку — на той час ужо багатым і мнагалюдным горадзе, з'яўлялася важным сродкам дзяржаўнай палітыкі.

Так, у час важных перамоў з магістрам А. Сцырландам апошні «асляпіў свае вочы золатам Міндоўга». Не менш важную ролю княжацкае срэбра адыграла ў палітычнай ізаляцыі Таўцівіла. Нарэшце, калі Міндоўг атрымаў тытул караля, скарбніцу ўзбагацілі дзве кароны (яго і жонкі Марфы), упрыгожаныя каштоўнымі камянямі.

Пасля перанясення сталіцы ВКЛ у Вільню і будаўніцтва ў горадзе княжацкай рэзідэнцыі тут канцэнтруюцца значныя матэрыяльныя і мастацкія каштоўнасці. Свайго апагея гэты працэс дасягнуў пры Вітаўце, калі княства пераўтварылася ў буйнейшую дзяржаву Усходняй Еўропы. У велікакняжацкую рэзідэнцыю сцякаліся дарункі, даніна, ваенныя трафеі з заваяваных зямель і тых, што знаходзіліся ў васальнай залежнасці. У 1362 г. Альгерд пасля перамогі ў бітве каля Сініх Водаў захапіў шмат цудоўных трафеяў у Херсанэсе. А ў 1427 г. Вітаўт так апісваў магістру сваё наведванне Разанскай зямлі: «Нас сустрэлі вялікія герцагі



*Археалагічныя знаходкі на месцы рэканструкцыі Ніжняга замка ў Вільні*

зямель, якія тут называюцца вялікімі князямі: разанскі, перыяслаўскі, пронскі, навасільскі — і абяцалі нам вернасць, паслухмянасць... Прымалі нас з вялікай пашанай і дарылі золата, срэбра, коней, шаблі».

Не меншыя каштоўнасці паступалі ў скарбніцу з Тэўтонскага ордэна, у прыватнасці ў якасці выкупу за ваеннапалонных. У 1398 г., у час сустрэчы Вітаўта з магістрам ордэна К. фон Юнгінгенам, крыжакі ўразілі вялікага князя шчодрымі падарункамі — залатымі даспехамі, конямі, лоўчымі сокаламі. А праз тры гады жыхары Дынабурга з узнятымі крыжамі і дарункамі выйшлі да Вітаўта, які асадзіў горад. Падобныя прыклады можна прыводзіць і далей.

Адным з тых, каму ў 1397 г. давялося ўбачыць частку скарбніцы вялікіх князёў літоўскіх, быў пасол Тэўтонскага ордэна Кібурт. Пасля прыёму ў троннай зале Верхняга замка Вітаўт запрасіў пасольства ў залу для прыватных аўдыенцый. Паводле слоў тэўтонскага пасла, гэта быў вельмі прасторны пакой, увесь абабіты раскошнымі ўсходнімі дыванамі. Пасярод пакоя стаяў вялікі стол, таксама накрыты каштоўным дыванам; на стале знаходзілася вызалачанае распяцце, цудоўная карона, меч і залаты скіпетр. На пярэднім плане была размешчана выява Маці Божай, вылітая з золата і срэбра; перад выявай гарэла хрустальная лампада, якая вісела на залатым ланцужку. Акрамя Верхняга замка, у Вільні гасцям князя паказвалі звярынец.

Аднак каштоўны збор панёс значныя страты пасля шлюбу вялікага князя Ягайлы. Па ўмовах шлюбнага дагавору ён абавязаўся выплаціць адступное былому жаніху Ядвігі ў памеры 200 тыс. чырвонцаў, а таксама перавезці з Вільні ў Кракаў скарбніцу свайго бацькі і дзеда. Апошняй умове палякі надавалі сімвалічны сэнс — у абмен на польскую карону Ягайла аддаваў у сталіцу Польшчы адзін з найважнейшых сімвалаў дзяржаўнасці ВКЛ. У наступныя гады скарбніца княства папаўнялася эпізадычна.

Некаторае ажыўленне ў яе папаўненні назіраецца ў пачатку XVI ст. у гады княжання Аляксандра. Звязана гэта было не з ваеннымі поспехамі князя, а з яго любоўю да навук і мастацтваў. Аляксандр быў выдатна адукаваны, дасканала валодаў некалькімі мовамі, чытаў працы грэчаскіх і рымскіх філосафаў. У княжацкай рэзідэнцыі з'яўляюцца новыя карціны, скульптуры, ювелірныя вырабы, рукапісныя кнігі. Пасля падпісання Люблінскай уніі 1569 г. значэнне скарбніцы ВКЛ як буйнейшага ў краіне

гісторыка-мастацкага збору канчаткова падае. Але культурная дзейнасць Аляксандра зрабілася аб'ектам перайманне ў арыстакратычных колах княства, перш за ўсё сярод бліжэйшых сяброў князя — Канстанціна Астрожскага, Міхала Глінскага, Альбрэхта Гаштольда, Януша Радзівіла.


*Мікалай-Радзівіл-Чорны*

Адзін з нашчадкаў апошняга, ***Мікалай-Радзівіл-Чорны*** (1515—1565), залажыў у Нясвіжскім замку збор, найбольш багаты ў ВКЛ на працягу наступных двух стагоддзяў. Мікалай сябраваў з аматарам мастацтва і збіральнікам — каралём і вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам і часта аглядаў яго вавельскі збор, які складаўся з 350 фламандскіх габеленаў і дзесяткаў скульптур. У 1547 і 1553 гг. ён здзейсніў падарожжы ў Вену і Аўгсбург, дзе мог азнаёміцца з багацейшымі зборамі Габсбургаў. Жонка Мікалая Чорнага, Альжбета Шыдлавецкая, працягваючы традыцыі свайго бацькі, польскага мецэната, запрашала ў Нясвіж вядомых паэтаў і мастакоў, музыкантаў і вучоных. Ужо ў гэты час Нясвіж займае статус другой сталіцы ВКЛ. Тады ж Мікалай Чорны паклаў пачатак нясвіжскаму збору, заснаваўшы нумізматычны кабінет, а таксама загадаў адбіць медаль са сваёй выявай. На працягу XVII і XVIII стст. гэта калекцыя папаўнялася эпізадычна, да 1812 г. агульная колькасць манет і медалёў у ёй дасягнула 13 252.

Мецэнацкія захапленні бацькі пераняў яго сын Мікалай Крыштоф па мянушцы Сіротка (1549—1616). Мікалай Крыштоф вучыўся ў Страсбургскім універсітэце, падарожнічаў па Францыі, Аўстрыі, Італіі, дзе пазнаёміўся з Папам Рымскім Грыгорыем XIII і венецыянскім дожам Нікола дэ Понтэ — заўзятымі калекцыянерамі і мецэнатамі. Па вяртанні ў Нясвіж Мікалай Крыштоф заняўся асветніцтвам і мецэнацтвам, а таксама добраўладкаваннем сваёй рэзідэнцыі. Януш Радзівіл прасіў сваіх сваякоў у лістах, каб дасылалі ў «кунсткамеру» яго бацькі гетмана Крыштофа розныя цікавыя рэчы. Вядомы Януш сваім удзелам у стварэнні ў аўстрыйскім замку Амбрас Пантэона славы — першага ў Еўропе ваеннагістарычнага музея.

У 1616 г. у Нясвіжы завяршылася будаўніцтва мураванага замка па праекце запрошанага Сіроткай славутага архітэктара Яна Марыі Бернардоні, дзе размясцілася калекцыя карцін. Гэты збор абавязаны сваім з'яўленнем Альбрэхту Уладзіславу Радзівілу — сыну Сіроткі,



*Нясвіжскі замак*

запрасіўшага ў замак мастакоў, якія стварылі галерэю партрэтаў Радзівілаў і славутасцей. Апісанне галерэі пакінуў вядомы беларускі паэт і краязнаўца У. Сыракомля, ён наведаў замак у сярэдзіне XIX ст. Спасылаючыся на інвентар 1770 г., ён узгадвае 984 карціны, выкананыя на палатне і дрэве. У. Сыракомля лічыў, што многія з іх былі цікавыя не толькі як творы мастацтва, але і своеасаблівыя крыніцы, якія адлюстроўваюць гістарычных асоб і падзеі. У Каралеўскай зале знаходзіліся партрэты Івана Жахлівага, Карла XII, Аўгуста II, Вітаўта, цвярскога князя Міхаіла і інш.; у Гетманскай — партрэты гетманаў велікакняжацкіх і каронных, у т. л. саміх Радзівілаў. Былі ў замку палотны з гістарычнымі сюжэтамі. Асобныя карціны належалі пэндзлю мастакоў італьянскай і фламандскай школ, іншыя былі напісаны мясцовымі аўтарамі — бацькам і сынам Д. і Ю. Гескімі, І. Шрэтарам, Я. Дамелем.

Акрамя мастацкіх твораў, інтэр'ер упрыгожвалі каштоўныя скульптуры, шпалеры, дываны, залататканыя слуцкія паясы, а таксама васковыя фігуры.

У нясвіжскай рэзідэнцыі быў закладзены Сіроткай спецыяльна абсталяваны арсенал, дзе ў адпаведнасці з замкавым інвентаром 1765 г. захоўвалася вялікая колькасць халоднай і агнястрэльнай зброі, а таксама вайсковы рыштунак вялікай мастацкай каштоўнасці. Акрамя таго, там знаходзіліся гарматы з арыгінальнымі назвамі: «Папугай», «Гідра», «Цэрбер» і афарыстычнымі надпісамі на ствалах. Найбольшая грамата, датаваная 1600 г., была адліта непасрэдна ў нясвіжскай людвісарні Г. Молзэра, іншыя — выраблены майстрамі заходнееўрапейскіх краін.

Спецыяльнае памяшканне ў замку было адведзена пад сховішча старажытнасцей (т. зв. скарбец), дзе знаходзіліся гетманскія булавы, маршальскія жэзлы, меч, падараваны Радзівілам Папам Рымскім Інакен-

цыем XI, калекцыя пячатак, пярсцёнкаў, асабістыя рэчы магнатаў Сабескіх, Вішнявецкіх і інш. Існаваў таксама і патаемны скарбец, пра які ведалі толькі гаспадары замка і іх даверaныя асобы.

Паводле сцвярджэння нашчадкаў Радзівілаў, у 1551 г. быў заснаваны нясвіжскі архіў, калі кароль Жыгімонт II выдаў Мікалаю Чорнаму прывілей (на думку шэрагу сучасных беларускіх і польскіх даследчыкаў, ён з'яўляецца фальсіфікатам) на захаванне дзяржаўных актаў ВКЛ, якія дагэтуль захоўваліся ў Вільні.



*Рыцарскі шлем са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы*

У хуткім часе пасля заснавання архіва быў пакладзены пачатак стварэнню бібліятэкі, якая, па сведчаннях сучаснікаў, была адной з лепшых у Рэчы Паспалітай. Да 1770 г. яна налічвала каля 20 тыс. тамоў кніг і мноства рукапісаў.

Крыніцы папаўнення радзівілаўскіх калекцый былі разнастайныя. У наваколлі Нясвіжа працавалі майстэрні мастацкага ліцця, фаянсавая мануфактура, была наладжана вытворчасць слуцкіх паясоў. Некаторыя прадметы тым ці іншым шляхам трапл яліў збор з замкаў мясцовых магнатаў і з-за мяжы.

Па сваім характары нясвіжскі збор быў закрытага тыпу. Агледзець яго мелі права толькі некаторыя прадстаўнікі феадальнай знаці Рэчы Паспалітай і высокія замежныя госці. Трэба адзначыць, што, у адпаведнасці з агульнымі заканамернасцямі культурнага развіцця еўрапейскіх краін, пасля ўтварэння нацыянальных дзяржаў падобныя зборы кладліся ў аснову нацыянальных публічных музеяў. Аднак з-за неспрыяльных палітычных абставін, перш за ўсё барацьбы за беларускія землі, якая ў той або іншай форме вялася паміж Расіяй і Польшчай на працягу стагоддзяў, у Беларусі гэтага не адбылося.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г. генерал-аншэф А. І. Бібікаў вывез архіў і бібліятэку з Нясвіжа ў Пецярбург. Да 1842 г. усё трымалася ў сховішчах Акадэміі навук нераспакаваным, а пасля складання каталога было падзелена паміж Акадэміяй навук, Духоўнай акадэміяй і Маскоўскім універсітэтам.

9 студзеня 1813 г. адмірал П. В. Чычагаў аддаў распараджэнне адправіць у Маскву прадметы нясвіжскіх калекцый «з ліку здабычай узятых... ад непрыяцеля[1] ў Нясвіжы». Найбольш каштоўныя калекцыі, ацэненыя

[1] Дамінік Радзівіл са сваім атрадам удзельнічаў у вайне 1812 г. на баку Напалеона.



*Ружанскі палац Сапегаў*

ў 10 млн злотых былі адпраўлены ў распараджэнне начальніка майстэрні і Зброевай палаты П. С. Валуева, а таксама ва Успенскі сабор. Нумізматычны кабінет быў перададзены ў Харкаўскі ўніверсітэт. У замку захавалася некалькі пудоў сталовага срэбра, а таксама частка партрэтаў з Гетманскай залы. Пасля гэтых рэквізіцый, нягледзячы на некаторыя спробы ў пачатку ХХ ст., нясвіжскі збор аднавіць у папярэднім аб'ёме ўжо не ўдалося.

Падобным да нясвіжскага па складзе, характары і крыніцах папаўнення быў збор вядомага магнацкага роду Сапегаў, які таксама дасягнуў росквіту да сярэдзіны XVII ст. Заснавальнікам лічыцца ***Леў Сапега*** (1557—1633) — буйнейшы дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, складальнік Статута ВКЛ. Атрымаўшы выдатную адукацыю за мяжой, ён прысвячаў вольны ад дзяржаўнай службы час вывучэнню гісторыі, філасофіі, юрыспрудэнцыі. Энергічны і мэтанакіраваны чалавек, Л. Сапега здолеў сабраць у сваім Ружанскім палацы велізарную бібліятэку, значна дапоўненую яго сынам Казімірам.

Акрамя таго, у адпаведнасці з інвентаром Ружанскага палаца 1793 г., у двух яго асобных пакоях размяшчалася збраёўня, якая налічвала звыш 150 адзінак зброі, выпрабленай у розных еўрапейскіх краінах і на Усходзе. Некаторыя ўзоры (шаблі, бердышы, булавы, мушкеты, пісталеты і інш.) былі інкруставаны каштоўнымі металамі. Там, у прыватнасці, перахоўвалася зброя і рыштунак гетманаў Льва, Паўла і Казіміра, палаш падканцлера літоўскага Ляона Казіміра, якім ён пад Зборавам і Берасцечкам біўся з казакамі Б. Хмяльніцкага, шпага канцлера Аляксандра ў каралавай апраўе, шатры, захопленыя пад Венай.

Значнай была нумізматычная калекцыя Сапегаў, якая налічвала 1125 адзінак. Да яе далучалася калекцыя пячатак, а таксама ўзоры мінералаў. Прадметам гонару ўладальнікаў Ружанскага палаца былі падборка старажытных гравюр і жывапісныя палотны. Інтэр'еры залаў упрыгожвалі мазаікі, скульптура, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Многія з іх былі мясцовай вытворчасці — ружанскія майстры славіліся майстэрствам вырабу сукна, дываноў, шпалер, мастацкіх паясоў і многіх іншых вырабаў.

*Францішак-Сапега*



У палацавым скарбцы захоўваліся найбольш каштоўныя з пункту гледжання ўладальнікаў прадметы: старажытнае залатое шыццё, радавыя гербы, манускрыпты, абразы, разнастайныя мемарыяльныя рэчы. Але найперш кідаліся ў вочы старажытныя хрустальныя кубкі — «Іван» і «Іваніха», якія перахоўваліся пад замком і выносіліся пад гукі музыкі і гарматныя стрэлы пры вітанні караля, а таксама дванаццаць вылітых са срэбра міфалагічных фігур, што былі вышынёй больш за локаць. У тым жа скарбцы перахоўвалася рэгалія ордэна Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі[1].

У канцы XVIII ст. Аляксандр Сапега перанёс сваю рэзідэнцыю ў мястэчка Дзярэчын, куды былі перавезены калекцыі і бібліятэка. Наступны ўладальнік Дзярэчына — Францішак, вядомы як адзін з найбольш адукаваных людзей свайго часу, стварае новы збор жывапісу. У дзярэчынскай галерэі можна было ўбачыць работы Ф. Франчыя (славутая Мадонна, экспануемая ў Эрмітажы), П. дэла Векія (знакамітая кампазіцыя пад назвай «Чарадзей і чарадзейка»), П. Веранезе, Дж. Лафранка і іншых італьянцаў, некалькі французаў — Д. Кало, Ж. Б. Бургіньён і К. Ж. Вернэ, а асабліва галандскіх майстроў, такіх як Г. Мэтсю, С. і Я. Рэйсдаляў, Я. ван дэр Меера, А. Кёйпа, К. Нетшэра, А. Пінакера і інш. Частка гэтых работ прыйшла ў якасці пасагу жонкі Францішка, П. Патоцкай, іншыя трапілі ў Дзярэчын дзякуючы Вялікай Французскай рэвалюцыі, якая раскідала па Еўропе мастацкія скарбы, назапашаныя французскімі арыстакратамі на працягу стагоддзяў (вядома, што ў Дзярэчынскім палацы пэўны час жылі сем'і французскіх арыстакратаў, якія хаваліся ад рэвалюцыйнага тэрору).

[1] Рэгалію вызначыў, а потым перадаў Ляону Казіміру Сапегу, падканцлеру літоўскаму, кароль Уладзіслаў IV, але сейм 1637 г. яе не зацвердзіў.

У хуткім часе, у выніку секвестрацыі мастацкіх і іншых збораў шляхты, якая мела дачыненне да паўстання 1831 г., «сапежанскі збор» быў адпраўлены ў Эрмітаж і Акадэмію мастацтваў у Пецярбург, у т. л. больш за 300 карцін, дзясяткі мармуровых статуй, некаторыя з якіх упрыгожваюць Летні сад, а таксама 48 мазаік. Калекцыя старажытнай зброі і даспехаў трапіла ў Маскву. Забралі і тое, што Сапегі схавалі ў суседніх Юндзілавічах. Кнігі і дакументы перадалі з Дзярэчына ў Гродзенскую палату дзяржаўных маёмасцей, рэшту калекцый прадалі з малатка дробным гандлярам. Сярод іншага там былі бронзавыя скульптуры эпохі барока, прывілеі, напісаныя яшчэ да першага хрышчэння паганскай Літвы, лісты да Сапегаў, напісаныя папамі, царамі, каралямі.

Прыклад Радзівілаў і Сапегаў прывабліваў магнацкія роды Хадкевічаў, Астрожскіх, Солтанаў, Лапацінскіх, Прозараў, Друцкіх-Любецкіх і інш. Можна меркаваць, што іх зборы не нашмат саступалі па багацці вышэйзгаданым, нават калі яны тысячную частку сваіх прыбыткаў выдаткоўвалі на набыццё мастацкіх і гістарычных каштоўнасцей (напрыклад, гадавы даход вялікага гетмана літоўскага Канстанціна Астрожскага складаў 11 млн злотых). Характэрнымі рысамі, уласцівымі ўсім гэтым зборам, былі: універсальны характар, які непазбежна прыводзіў да фрагментарнасці калекцый; хісткая мяжа паміж калекцыйнымі рэчамі і прадметамі інтэр'ера; амаль поўная сацыяльная ізаляванасць. Тым не менш, нягледзячы на ўсю абмежаванасць дзейнасці магнатаў-збіральнікаў, яны адыгралі вялікую ролю ў справе захавання помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, далі штуршок развіццю музейнай справы на тэрыторыі краю.

У другой палове XVIII ст. на беларускіх землях, як і ва ўсёй Рэчы Паспалітай, распаўсюджвалася асветніцкая ідэалогія, буржуазная па сваім аб'ектыўным змесце. Ідэі Асветніцтва, станаўленню якіх у значнай ступені спрыялі адкрыцці прыродазнаўства, заваёўвалі ўсё больш прыхільнікаў. Побач з філасофіяй, літаратурай, мастацтвам асветніцкія ідэі знайшлі сваё адлюстраванне і ў музейнай справе. Важную ролю ў іх распаўсюджванні адыгралі калекцыі Храптовічаў, Ябланоўскіх, Тызенгаўзаў і інш., якія значна адрозніваліся ад замкавых магнацкіх збораў. З'яўляючыся своеасаблівымі асяродкамі культуры і навукі, гэтыя калекцыі кніг і дакументаў, прадметаў мастацтва і натуральнай гісторыі прыцягвалі ўвагу адукаванай часткі грамадства.

У гэтай сувязі трэба спыніцца на збіральніцкай дзейнасці ***Яўхіма Храптовіча*** (1729—1812), высокаадукаванага чалавека, які адыграў прыкметную ролю ў палітычным жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Атрымаўшы адукацыю ў Вільні і Германіі, Я. Храптовіч займаў пасады дыпламатычнага пасланніка ў Парыжы і Вене, маршалка Галоўнага Трыбунала, канцлера. Ён актыўна ўдзельнічаў у адкрыцці шэрагу школ, спрабаваў змяніць вядзенне фальварковай гаспадаркі, быў адным з заснавальнікаў

«Таварыства сяброў навукі» ў Варшаве. Але галоўным захапленнем Я. Храптовіча было калекцыяніраванне кніг і рукапісаў, якім ён займаўся ўсё жыццё.



*Яўхім Храптовіч*

Увесь верхні паверх палаца Храптовічаў у Шчорсах уяўляў спецыяльна абсталяванае памяшканне для бібліятэкі, у якой налічвалася каля 20 тыс. кніг. Яны былі размешчаны на трох галерэях, што ўтваралі амфітэатр, па якім можна было лёгка перамяшчацца. У цэнтры памяшкання знаходзіўся стол і пюпітры для чытання.

Крыніцы папаўнення кніжнага збору былі разнастайныя — уладальнік прывозіў кнігі з Германіі, Францыі, Італіі, купляў старадрукі і рукапісныя кнігі ў закрытых кляштарах[1], набыў частку Варшаўскай публічнай бібліятэкі епіскапа І. Залускага. З дзвюх апошніх крыніц шчорсаўская бібліятэка ўзбагацілася шматлікімі старымі лацінскімі і кірылічнымі выданнямі. Галоўнай крыніцай папаўнення рэдкімі заходнееўрапейскімі выданнямі паслужыла Рымская бібліятэка кардынала І. Імперыялі, распрададзеная пасля яго смерці ў 1737 г. Нарэшце, у XVIII ст. выдавецкая справа ў самой Рэчы Паспалітай была вельмі ажыўленай.

Як грамадскі дзеяч Я. Храптовіч цікавіўся мінулым беларускіх зямель, выкарыстоўваючы кожны зручны выпадак, каб збіраць архіўныя матэрыялы — акты, лісты і інш. Са шматлікіх каштоўных дакументаў, якія захоўваліся ў іншых зборах, ён здымаў копіі, што дазволіла сабраць архіў у складзе 150 тамоў першакрыніц па гісторыі Рэчы Паспалітай і суседніх з ёй дзяржаў.

Да найбольш важных архіўных дакументаў адносіліся: дзённік польскага пасольства ў Расію 1686 г., дзённік М. Мнішак, апісанне каранацыі Уладзіслава IV, геаграфічна-статыстычнае апісанне парафій Рэчы Паспалітай 1791 г., калекцыя геаграфічных картаў і інш.

Акрамя бібліятэкі і архіва, у Шчорсаўскім палацы размяшчалася багатая калекцыя карцін, гравюр мясцовага і замежнага вырабу (каля 7 тыс. адзінак), а таксама «музей разнастайных помнікаў».

Высокі мастацкі густ спалучаўся ў Я. Храптовіча з сапраўдным талентам калекцыянера. Пры стварэнні сваёй галерэі заходнееўрапейскага мастацтва ён імкнуўся да набыцця твораў вялікай каштоўнасці, а не таго

---

[1] Пасля далучэння Галіцыі да Аўстрыі імператар Іосіф II закрыў там каля 150 кляштараў, што скарыстаў Я. Храптовіч.



*Палац-Храптовічаў-у-Шчорсах*

або іншага гучнага імя. Гэтым тлумачылася адсутнасць у шчорсаўскай галерэі падробкаў шэдэўраў вялікіх майстроў, якія часта сустракаліся ў магнацкіх зборах. Сярод твораў галандскіх, фламандскіх, італьянскіх і аўстрыйскіх мастакоў былі пейзажы С. Рэйсдаля і І. Кесэля, рэлігійныя сюжэты І. Лампі і Н. Грасо.

Пасля смерці Я. Храптовіча ўвесь збор перайшоў да яго сына Адама, інспектара школ Віленскага ўніверсітэта і апантанага бібліяфіла. Ён значна пашырыў бібліятэку з дапамогай беларускага паэта Я. Чачота, які некаторы час выконваў у Шчорсах абавязкі бібліятэкара. У адпаведнасці з распрацаваным раней статутам бібліятэкі, які даваў вольны ўваход даследчыкам, у гэты перыяд там працавалі многія вучоныя, мастакі, паэты. Сярод іх — астраном М. Пачобут, гісторык І. Даніловіч, паэты У. Сыракомля і А. Міцкевіч. У 1820 г. у Шчорсах быў складзены статут таварыства філарэтаў.

Адам Храптовіч не пакінуў нашчадкаў і завяшчаў збор першаму ўніверсітэту, які будзе адкрыты ў краі. Палац перайшоў ва ўладанне да яго далёкіх сваякоў Буцянёвых, якія не падзялялі захаплення папярэдніх уладальнікаў. У 1913 г. апошні ўладар Шчорсаў К. А. Храптовіч-Буцянёў загадаў перадаць бібліятэку Кіеўскаму ўніверсітэту, пакінуўшы сабе каля 3 тыс. кніг, а мастацкую калекцыю вывез у Маскву. Лёс «музея помнікаў старажытнасці» не вядомы. Хутка пасля стварэння Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у 1924 г. Народны камісарыят асветы БССР, спасылаючыся на волю былых уладальнікаў, накіраваў у Народны камісарыят асветы УССР просьбу аб вяртанні бібліятэкі ў Мінск. Украінскі бок пагадзіўся, але перадача па невядомых прычынах не адбылася.

Палымянай прыхільніцай распаўсюджвання ідэй асветніцтва была ўладальніца маёнтка Сямяцічы ***Ганна-Ябланоўская*** (1728—1800), дач-

ка Казіміра Сапегі, генерала артылерыі ВКЛ. Наведаўшы Парыж, Рым і іншыя еўрапейскія сталіцы, яна азнаёмілася са шматлікімі дасягненнямі навукі і культуры таго часу. Па вяртанні Г. Ябланоўская з захапленнем распачала эканамічныя пераўтварэнні ў сваім маёнтку, стварэнне кабінета рэдкасцей і бібліятэкі. У хуткім часе Сямяцічы, дзе былі адкрыты мануфактуры, крамы, лячэбныя ўстановы, сталі цэнтрам прыцягнення навакольных жыхароў, а імя ўладальніцы маёнтка карысталася гучнай славай.


*Ганна-Ябланоўская*

Акадэмік В. М. Севяргін, які прыбыў у Сямяцічы па даручэнні Аляксандра I, хутка пасля смерці Г. Ябланоўскай, зрабіў кароткі вопіс яе калекцыі для дастаўкі ў Маскоўскі ўніверсітэт натуральнага кабінета нябожчыцы.

Збор размяшчаўся ў чатырох вялікіх залах, дзе экспанаваліся творы мастацтва, нумізматычная калекцыя, некаторыя этнаграфічныя матэрыялы, калекцыя мінералаў, прывезеных з заходнееўрапейскіх краін (у асноўным з Германіі, Францыі, Італіі). У асобнай авальнай зале перахоўвалася бібліятэка, у каталозе якой налічвалася некалькі тысяч тамоў.

Аб шырокіх навуковых інтарэсах гаспадыні сведчылі ўбачаныя В. М. Севяргіным фізічныя прылады, мадэлі машын; чучалы жывёл, птушак, рыб, земнаводных; калекцыі розных відаў насякомых, раслін; узоры парод дрэў, некаторых гатункаў насення і пладоў. Апошнія былі прывезены з пяці частак свету і рознымі спосабамі закансерваваны.

Асабістай увагі заслугоўвала калекцыя васковых мадэлей чалавечых органаў, якую акадэмік В. М. Севяргін ахарактарызаваў як амаль дасканалую.

Другі сучаснік захапляўся ў Сямяцічах вялікай калекцыяй прыгожых гравюр, вырабамі з косці XVI ст., касцюмамі жыхароў Індыі і хатнім начыннем рымлян з Геркуланума і Пампеі. Гэтыя экспанаты былі расkладзены ў прыгожых шафах, інкруставаных перламутрам і караламі.

Прыродазнаўчы збор, створаны Г. Ябланоўскай, меў яскрава акрэслены дыдактычны характар. Ён павінен быў садзейнічаць распаўсюджванню агульных ведаў аб прыродзе і чалавеку, развіццю земляробства і жывёлагадоўлі. З той жа мэтай Г. Ябланоўская склала і выдала некалькі брашур па вядзенні сельскай гаспадаркі. Відавочна, што збор, перад якім ставіліся падобныя задачы, не мог мець закрыты характар. Ён быў добра вядомы сучаснікам, прыцягваючы ўвагу не толькі аглядаўшых яго






*Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі; імператар Іосіф II; вялікі князь Павел; Марыя Фёдараўна, жонка Паўла — наведвальнікі збору Г. Ябланоўскай*

ў розныя часы Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Паўла I, але і шматлікай мясцовай шляхты.

Падобна А. Храптовічу, уладальніца Сямяціч у 1788 г. вырашыла перадаць свой збор у грамадскае карыстанне. У адным з лістоў, датаваных гэтым годам, яна пісала: «...я не бачу нічога лепшага, чым зрабіць Айчыну нашчадкам майго кабінета натуральнай гісторыі». У якасці адзінай умовы Г. Ябланоўскай было знайсці чалавека, здольнага каталагізаваць калекцыі.

Высакароднае памкненне мецэнаткі не паспела рэалізавацца ў Рэчы Паспалітай, і ў 1802 г., хутка пасля яе смерці, нашчадкі прадалі ўвесь яе збор, ацэнены ў 50 тыс. рублёў, Аляксандру I. Сямяціцкая бібліятэка была перададзена ў Імператарскую публічную бібліятэку, частка кабінета натуральнай гісторыі — у Эрмітаж, а другая — у Маскоўскі ўніверсітэт.

Ацэньваючы збіральніцкую дзейнасць Г. Ябланоўскай, неабходна адзначыць некаторыя ўласцівыя ёй музейныя элементы, а менавіта:

- імкненне выкарыстоўваць сабранае ў асветніцкіх мэтах;
- інвентарызацыя калекцый (задуманая, але не рэалізаваная);

● выкарыстанне экспазіцыйнага абсталявання;

● выдавецкая дзейнасць.



***Ігнат-Масальскі***

Пералічаным вышэй не вычэрпваецца спіс прыватных збораў, якія з'явіліся на хвалі асветніцкай ідэалогіі. Невялікія па памерах калекцыі жывапісу, гістарычных рэліквій, прыродазнаўчых прадметаў былі раскіданы па шляхецкіх рэзідэнцыях у розных частках краю. Фактам несумненна вялікага культурнага значэння было існаванне ў другой палове XVIII ст. у праслаўленым паэтамі і мастакамі палацы ў Вярках (зараз у межах Вільні) мастацкай калекцыі. Яе аснова была сфарміравана віленскім біскупам, першым старшынёй Адукацыйнай камісіі ***Ігнатам-Масальскім*** у час яго падарожжаў за мяжу. Хуткаму павелічэнню колькасці карцін у Вярках (напрыканцы XVIII ст. іх лічба пераўзышла 200) спрыяла асабістая энергія калекцыянера, а таксама яго статус дыпламатычнага прадстаўніка Рэчы Паспалітай у Італіі, Францыі, Аўстрыі.

Крыніцы не дазваляюць у дэталях рэканструяваць калекцыю І. Масальскага, але вядома, што яе большую частку складалі работы старых майстроў, у т. л. П. Рэмбранта, Л. да Вінчы, П. Рубенса. Цікавасць знатакоў выклікалі таксама карціны тагачасных французскіх майстроў (А. Вернэ, Ю. Робера, Т. Гюдэна, А. Грэнье, Э. Грандзі) і лепшых мастакоў фламандскай школы (Ф. Снейдэрса, Н. Мааса, Э. Ваперса і інш.). Гэта сведчыць пра сувязь карціннай галерэі ў Вярках з жывым тагачасным мастацтвам і падаецца вельмі адметным фактам, асабліва, калі ўлічыць, што яно было выключана са збіральніцкіх праграм большасці музеяў XVIII ст. Другой адметнай асаблівасцю мастацкага збору І. Масальскага было імкненне ўладальніка зрабіць яго як мага больш даступным для публікі. Вядома, што паміж палацам у Вярках і Вільняй рэгулярна курсіравала вялікая карэта, прывозячы і забіраючы ў адваротным кірунку шматлікіх наведвальнікаў. Апошняе трэба зразумець у кантэксце выступленняў біскупа на сеймах за вызваленне сялян ад прыгону і надзяленне іх зямлёй, стварэнне шырокай сеткі пачатковых школ, іншыя асветніцкія мерапрыемствы.

Пасля пакарання смерцю І. Масальскага яго збор перайшоў да новага гаспадара Вяркоў — маршалка шляхты Віленскага павета С. Ясінскага, а потым — вядомага расійскага генерала Л. Вітгенштэйна, жанатага з

княгіняй Радзівіл. Ён пашырыў мастацкі збор, перавёз з Нясвіжа ў Вяркі частку карцін, а таксама стварыў там з былой радзівілаўскай збраёўні рыцарскую залу.

Адным з цэнтраў культурнага жыцця беларускіх зямель XVIII ст. быў палац у Паланэчцы (цяпер Баранавіцкі раён), якім валодаў віленскі кашталян князь Мацей Радзівіл. Хоць ён і не належаў да ліку багацейшых радавых радзівілаўскіх гнёздаў, жыццё ў Паланэчцы вызначалася тонкім густам і прыгажосцю. Гаспадар палаца быў добра вядомы сучаснікам не толькі як мецэнат і літаратар, але і як калекцыянер, які любіў мастацтва. Пасля смерці М. Радзівіла збор у Паланэчцы папаўняўся эпізадычна, і ў другой палове XIX ст. быў вывезены на Захад.

У ліку іншых асветніцкіх збораў заслугоўвае ўвагі збор Эльжбеты Агінскай, жонкі харунжага Антонія Пузыны, у маёнтку Лучай (цяпер Пастаўскі раён).

Узнікненне асветніцкіх калекцый на мяжы XVIII і XIX стст. сведчыла аб пачатку новага этапа ў прыватным збіральніцтве на тэрыторыі Беларусі. Змяніліся задачы дзейнасці калекцыянераў, склад іх калекцый, былі зроблены першыя спробы ўвесці сабраныя прадметы ў навуковы ўжытак. Збіральнікі наблізіліся да асэнсавання прыналежнасці сваіх багаццяў усяму грамадству.

У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай тэрыторыя Беларусі была ўключана ў склад Расійскай імперыі, што адбілася на сацыяльна-эканамічным і палітычным стане краю. Аднак у культурных адносінах жыццё мясцовага насельніцтва на працягу першай паловы XIX ст. не зведала кардынальных змен. Царскі ўрад у правядзенні сваёй палітыкі на далучаных землях першапачаткова імкнуўся абаперціся на шляхту, апалячаную ў сваёй асноўнай масе. Ёй была дадзена значная культурная і нацыянальная аўтаномія, у выніку чаго ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. паланізацыя насельніцтва беларускіх зямель, што апынуліся ў складзе Расійскай імперыі, нават узмацнілася. Па-ранейшаму адсутнічалі нацыянальныя школы, друк, навуковыя, а таксама культурныя ўстановы. У гэтых умовах ішло станаўленне гуманітарна-навуковай думкі, з'яўляліся першыя сапраўды навуковыя калекцыі, якія вызначылі рысы прыватнага збіральніцтва ў Беларусі першай паловы XIX ст. Менавіта ў гэты перыяд, таксама як і ў суседніх дзяржавах, узнікае цікавасць з боку гісторыкаў, археолагаў, натуралістаў да славянскіх старажытнасцей, а таксама флоры і фаўны. Пашыраецца сацыяльны склад калекцыянераў за кошт з'яўлення першых прадстаўнікоў трэцяга саслоўя. Тады ж у перадавых вучоных-калекцыянераў фарміруюцца гісторыка-крыніцазнаўчыя і мастацтвазнаўчыя адносіны да збіраемых рэчаў.

Палац у Паставах, які належаў ***Канстанціну-Тызенгаўзу*** (1786—1851), унуку славутага рэфарматара Рэчы Паспалітай і заснавальніку беларускай арніталогіі, выклікаў вялікую цікавасць у аматараў прыродазнаўства. Пастаўскі палац быў шырока вядомы арніталагічнай калекцыяй, а таксама галерэяй, дзе былі прадстаўлены жывапісныя творы мясцовых і заходнееўрапейскіх майстроў.



***Канстанцін-Тызенгаўз***

Зацікаўленасць арніталогіяй узнікла ў К. Тызенгаўза яшчэ ў юнацтве, калі ён спасцігаў асновы прыродазнаўства пад кіраўніцтвам С. Юндзіла ў Віленскім універсітэце. Толькі ўдзел у вайне 1812 г. адарваў яго ад любімай справы, і пасля вяртання з эміграцыі на Радзіму ён працягваў збіраць прыродазнаўчыя калекцыі, не забываючыся аб сваім другім захапленні — жывапісе. Вынікам шматлікіх падарожжаў па беларускіх землях і за мяжой была бездакорная ў навуковых адносінах калекцыя чучалаў птушак (каля 3 тыс. адзінак). Большая частка іх была прэпарыравана самім уладальнікам, астатнія — спецыяльна запрошаным таксідэрмістам. Паводле сведчання прафесара Віленскага ўніверсітэта А. Ф. Адамовіча, гэта быў найбольш значны арніталагічны збор у Рэчы Паспалітай. У парку побач з палацам у звярынцы ўтрымліваліся жывыя птушкі і млекакормячыя. Не меншую каштоўнасць уяўлялі выкананыя самім К. Тызенгаўзам сотні каляровых выяваў і медных муляжоў птушак, а таксама табліцы-класіфікатары, у якіх калекцыянер прадэманстраваў дар мастака. Гэты дар у свой час высока ацанілі славутыя прадстаўнікі віленскай мастацкай школы Норблін, Арлоўскі, Рустэм.

К. Тызенгаўз стварыў невялікую (каля 60 палотнаў), але з тонкім густам падабраную калекцыю італьянскага, галандскага, французскага і нямецкага жывапісу. Асаблівую ўвагу звярталі на сябе карціны Л. да Вінчы «Выратавальнік свету», П. Веранэзе «Хвароба Анціоха», П. Рубенса «Зняцце з крыжа», П. Брэйгеля «Венецыянскі маскарад», А. Дзюрэра «Адам і Ева». З мясцовых мастакоў у галерэі былі прадстаўлены творы Ф. Смуглевіча, Я. Дамеля, С. Чаховіча.

Дзейнасць К. Тызенгаўза не абмяжоўвалася збіральніцтвам. З-пад яго пяра выйшла 19 сур'ёзных навуковых прац, у т. л. 3-томная «Агульная арніталогія». Ён вёў перапіску з Брытанскім музеем і Імператарскім



***Палац Тызенгаўзаў у Паставах***

музеем у Вене, рускім прыродазнаўцам Э. І. Эйхвальдам і нямецкім вынаходнікам Э. Гекелем, быў сябрам шэрагу навуковых таварыстваў. Палац у Паставах нагадваў сапраўдную навукова-доследную станцыю, дзе дваровыя выконвалі абавязкі птушкаловаў, паляўнічых, прэпаратараў. Збор К. Тызенгаўза аглядалі вучоныя і ўсе, каму гэта было цікава, а ў 1851 г. ён перадаў у дар Дрэздэнскаму прыродазнаўчаму музею спецыяльна падабраную калекцыю птушак Беларусі.

Пасля смерці ўладальніка Паставаў яго імем былі названы адзін з відаў пчол, а таксама некалькі раслін. Сын К. Тызенгаўза, Райнольд, перадаў арніталагічную калекцыю ў Віленскі музей старажытнасцей, а мастацкія каштоўнасці разам з архівам былі перавезены спачатку ў Кіеў, а потым у Варшаву.

Цікавай калекцыяй у гэты перыяд валодаў адзін з заснавальнікаў беларускай археалагічнай навукі — ***Канстанцін Тышкевіч*** (1806—1868). Пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта і непрацяглай службы ў Міністэрстве фінансаў ён вяртаецца ў родны Лагойск, дзе адкрывае пазыковы банк, ткацкую фабрыку, майстэрні. Адначасова пачынае праводзіць раскопкі і збор этнаграфічных матэрыялаў на тэрыторыі Мінскай губерні. Яго збор, складзены з дапамогай малодшага брата Яўстаха, размяшчаўся ў дзвюх спецыяльна адведзеных для гэтай мэты залах палаца ў Лагойску. Прадметы групаваліся наступным чынам:

● Археалагічная калекцыя, якая з'яўлялася навуковым ядром збору. У ёй былі шырока прадстаўлены вынікі раскопак курганоў, праведзеных К. Тышкевічам у Барысаўскім і Мінскім паветах. Калекцыя была старанна сістэматызавана паводле прынцыпу месцазнаходжання прадмета. Асабліва вылучаліся ў ёй разнастайныя жаночыя ўпрыгожанні, вельмі цікавыя з пункту гледжання этнаграфіі. У асобнай зашклёнай

шафе экспанаваліся прадметы, знойдзеныя ў выніку археалагічных раскопак на Блізкім Усходзе, у Пампеі і Геркулануме (егіпецкая мумія, папірусы, прадметы са слановай косці і г. д.).



*Канстанцін Тышкевіч*

• Калекцыя гравюр, падзеленая на дзве часткі. Першая ўключала адбіткі на рэлігійныя тэмы, выкананыя ў XVII—XIX стст., другая — партрэты гістарычных асоб, сярод якіх знаходзіўся славуты партрэт Т. Касцюшкі. У абедзвюх частках калекцыі змяшчаліся як творы невядомых мясцовых гравёраў, так і майстроў з Рэчы Паспалітай, Англіі, Францыі. К. Тышкевіч аддаў шмат сіл і часу на стварэнне гэтай калекцыі і ў 1858 г. апублікаваў каталог гравюр, які ўтрымліваў багаты матэрыял для беларускай іканаграфіі.

• Манеты, медалі, пячаткі (агульная колькасць манет і медалёў складала 1140 адзінак, 420 з якіх было адбіта ў Рэчы Паспалітай).

• Зброя, даспехі і рыштунак (у т. л. шпага Пятра І, дзве пазалачоныя шаблі з мініяцюрнымі выявамі С. Баторыя, асабістыя рэчы Станіслава Аўгуста Панятоўскага).

У вітрынах былі размешчаны ордэны, старажытная бронза, узоры тканін, крыж з мясцовага касцёла, зроблены ў XVI ст., і г. д.

Сцены абедзвюх залаў былі ўпрыгожаны творамі беларускіх мастакоў Ф. Смуглевіча, Я. Дамеля, А. Арлоўскага, Я. Рустэма і скульптурнымі партрэтамі работы П. Сліжаня. Мелася таксама 47 карцін замежных мастакоў (Ж. Кало, Ф. Селіман, А. Каналета і інш.). У 1847 г. быў пакладзены пачатак этнаграфічнай калекцыі.

Уклад К. Тышкевіча ў развіццё музейнай справы Беларусі вялікі. Упершыню прыватнае збіральніцтва было пастаўлена на трывалы навуковы грунт. На працягу 30—60-х гг. XIX ст. пры ўдзеле вучоных у Лагойску ішла напружаная праца па фарміраванні калекцый, іх навуковай апрацоўцы, складанні каталогаў і будаўніцтве экспазіцый. Лагойскі збор, які сучаснікі небеспадстаўна называлі «музеем старажытнасцей», ужо ў 40-я гг. XIX ст. атрымаў даволі шырокую вядомасць. У значнай ступені гэтаму спрыялі шматлікія навуковыя кантакты К. Тышкевіча (ён быў сябрам некалькіх навуковых таварыстваў), а таксама выкарыстанне ўласнага збору пры напісанні прац па археалогіі.

Навуковая і збіральніцкая дзейнасць прывяла ўладальніка Лагойскага палаца да думкі аб неабходнасці перадачы сваіх калецый у грамадскае



***Палац-Тышкевічаў-у-Лагойску***

карыстанне. У яго лісце, датаваным 1847 г., ёсць наступныя радкі: «З майго пункту гледжання, мэта кожнага збору можа быць дасягнута толькі ў тым выпадку, калі ён дае вышэйшую карысць чалавечаму грамадству... і наадварот, сквапнасць зачыняючага дзверы перад тым, хто імкнецца да ведаў — агідная». Прыкладна тады ж К. Тышкевіч даў згоду на прапанову мінскага губернатара перадаць увесь яго збор у дар наследніку расійскага трона — будучаму імператару Аляксандру II. Аднак апошні не зацікавіўся беларускімі старажытнасцямі, і перадача не адбылася.

Усведамляючы важнасць лагойскага збору для развіцця навукі, К. Тышкевіч ахвяраваў большую яго частку Віленскаму музею старажытнасцей, частку археалагічных знаходак перадаў у Кракаўскі музей археалогіі, а калекцыя шкла эпохі Рымскай імперыі і сёння знаходзіцца ў Музеі нарадовым у Варшаве. Вялікую калекцыю ўласных археалагічных знаходак ён перадаў у распараджэнне Маскоўскага археалагічнага таварыства.

Калі збор К. Тышкевіча ўтрымліваў у асноўным гісторыка-археалагічныя матэрыялы, то збіральніцкая дзейнасць канцлера графа ***Мікалая-Пятровіча-Румянцава*** (1754—1826) была звязана з археаграфічнай і крыніцазнаўчай працай, якая разгарнулася ў Расійскай імперыі пачатку XIX ст. Трэба адзначыць, што апошні перыяд жыцця гэтага знакамітага дыпламата, вучонага і збіральніка (з 1813 па 1826 г.), калі ён адышоў ад дзяржаўных спраў і цалкам прысвяціў сябе навуцы, непарыўна звязаны з яго знаходжаннем у Гомелі. Пасля выхаду ў адстаўку М. П. Румянцаў перабудаваў Гомельскі палац з мэтай размяшчэння ў ім бібліятэкі і мастацкай галерэі і правёў там значную частку з апошніх найбольш плённых гадоў свайго жыцця.

У збіральніцкай і навуковай дзейнасці М. П. Румянцаў цікавіўся галоўным чынам матэрыяламі па славянскай гісторыі і старажытнай пісьменнасці. У гэтых адносінах Беларусь пачатку XIX ст. уяўляла неабсяжнае поле дзейнасці. На сродкі М. П. Румянцава даследаваліся архівы Полацка, Магілёва, Мсціслава, Турава, і ў выніку было выяўлена шмат каштоўных рукапісаў. Аднак найбольш плённым з пункту гледжання распрацоўкі беларускай археаграфіі было супрацоўніцтва М. П. Румянцава з гомельскім протаіерэем І. І. Грыгаровічам. У 1824 г. ён сабраў і выдаў на сродкі свайго патрона «Беларускі архіў старажытных грамат» — першы археаграфічны зборнік, прысвечаны выключна Беларусі. Трэба адзначыць, што ў якасці дадатку да зборніка па рэкамендацыі М. П. Румянцава быў складзены першы «Слоўнік карэнных беларускіх слоў». У рукапісным аддзеле Гомельскай бібліятэкі знаходзіліся не толькі арыгінальныя матэрыялы, але і копіі, выпіскі, што тычыліся беларускай гісторыі, зробленыя самім уладальнікам. Асаблівую ўвагу вучонага прыцягвала гісторыя Полацка, яго старажытнасці. У 1818 г. ён адшукаў на тэрыторыі былога Полацкага княства Барысаў камень — манументальны помнік эпіграфікі XII ст.

*М. П. Румянцаў*



У апошнія гады жыцця М. П. Румянцаў зацікавіўся нумізматыкай, чаму ў значнай ступені садзейнічаў скарб арабскіх манет, знойдзеных у Гомелі і апісаных па яго просьбе акадэмікам Х. Д. Фрэнам.

Перад смерцю ён паспеў аддаць загад аб перадачы дзяржаве сваіх збораў разам з пецярбургскім домам на Англійскай набярэжнай. Гэта і склала падмурак музея, адкрытага ў Пецярбургу ў 1831 г. Туды ж у адпаведнасці з яго жаданнем былі перавезены і гомельскія калекцыі. Старажытныя беларускія граматы, сабраныя І. І. Грыгаровічам, папоўнілі бібліятэку археаграфічнай камісіі пры Міністэрстве народнай асветы Расійскай імперыі.

Добра вядомы сучаснікам быў ваенна-гістарычны збор, створаны ў другой чвэрці XIX ст. у маёнтку Дабраўляны Віленскай губерні. Сканцэнтраванне ўвагі пераважна на зброі і вайсковым рыштунку дазволіла яго ўладальніку ***Адаму Гюнтэру*** сабраць каштоўную калекцыю польскіх, рускіх, французскіх, турэцкіх, нямецкіх і мясцовых узораў XIII—XIX стст.

У 1824—1830 гг. па праекце архітэктара Я. Барэцці А. Гюнтэр збудаваў новы палац у рамантычным стылі. Адначасова з будаўніцтвам палаца ішла рэканструкцыя старога рэгулярнага парку. Яго адметнасцю





стала водная сістэма, якая складалася з трох сажалак, каналаў, крыніц і гарманіравала з гротамі і альтанкамі. У духу часу заснавальнікі парку стварылі ідылічныя пейзажы вясковага жыцця. На ўскраіне знаходзілася малочная ферма ў выглядзе будана, дзе пераапранутая ў швейцарку жанчына раздавала ежу, а нармандка разлівала гарбату. Побач ляжаў пастух з дудою. Нечакана для шматлікіх гасцей А. Гюнтэра ў парку маглі з'явіцца цыганы ці літаратурныя персанажы кшталту Эсмеральды ці Квазімоды.

У цэнтры парку знаходзілася капліца з алтаром, унутры якога за шклом былі раскладзены свяшчэнныя рэліквіі, якія сведчылі аб былой воінскай славе шляхецкіх родаў ВКЛ. На сценах, па перыметры памяшкання, былі развешаны стрэлы, сякеры, парахаўніцы, чаканы, кірасы, шлемы, бердышы, алебарды. Акуратна сгрупаваныя, яны ўяўлялі цікавае і прыгожае відовішча. Да калекцый зброі далучаліся нешматлікія курганныя знаходкі.

Можна сцвярджаць, што збор А. Гюнтэра фарміраваўся пад уплывам ідэй І. Чартарыйскай, якія рэалізаваліся ў яе «Гатычным доме» ў Пулавах[1]. Аб гэтым сведчыць падобная архітэктура абодвух музейных будынкаў, экспазіцыйныя рашэнні, крыніцы папаўнення гэтых збораў (падобна Пулавам, у Дабраўляны дасылалі сямейныя рэліквіі і зброю прадстаўнікі шматлікіх шляхецкіх родаў). Нарэшце, існуюць ускосныя звесткі аб тым, што І. Чартарыйская і А. Гюнтэр мелі перапіску.

Пасля смерці ўладальніка Дабраўлян у 1854 г. збор быў падзелены і вывезены ў Варшаву. Палац і парк загінулі падчас Першай сусветнай вайны.

---

[1] Ізабела Чартарыйская — прадстаўніца аднаго з магутных арыстакратычных родаў Польшчы, палымяная патрыётка. Неўзабаве пасля падзення Рэчы Паспалітай яна стварыла ў сваім Пулаўскім маёнтку «Гатычны дом» — музей, у якім праявілася ідэя каўчэга польскіх культурных каштоўнасцей. Музей планаваўся як калекцыя помнікаў сусветнай гісторыі, аднак іх адбор у маральных і палітычных адносінах быў абумоўлены польскай гісторыяй, прыкладамі гераізму, рыцарства і бітваў за радзіму. І. Чартарыйская мела намер перадаць свой музей польскаму народу.



*Палац А. Гюнтэра ў Дабраўлянах*

Разглядаючы прыватныя зборы Беларусі першай паловы XIX ст., трэба ўзгадаць купца-старавера ***Івана Іванавіча Сабольшчыкава*** (1763—1836) у Віцебску. З'яўленне яго збору сведчыла аб заканчэнні перыяду манаполіі збіральнікаў-арыстакратаў, развіцці калекцыяніравання ў бок большай дэмакратызацыі.

Вядома, што І. І. Сабольшчыкаў быў адукаваным чалавекам. Дзякуючы прыроднаму розуму і працавітасці, ён хутка разбагацеў, меў тры каменныя дамы і багатую малельню. Цікавіўся гісторыяй, складаў вершы, перапісваў кнігі рэлігійнага зместу, ведаў замежныя мовы. Пакінуў пасля сябе рукапісны «Зборнік», які складаўся з 189 артыкулаў і ўяўляў хроніку чалавечай гісторыі ад стварэння свету да XVIII ст. У найбольш цікавым артыкуле пад назвай «Касмаграфія» ён выклаў сваё бачанне ўсяго жывога, што ёсць на планеце, звычаяў і вераванняў іншых народаў.

У малельні І. І. Сабольшчыкава размяшчаўся збор царкоўных старажытнасцей, у якім былі сапраўдныя унікумы (першыя друкаваныя кнігі, старажытныя абразы ў залатых і срэбраных акладах, інкруставаныя каштоўнымі камянямі). Як адзначаў відавочца, «для археолага малельня І. І. Сабольшчыкава ўяўляла багатае сховішча старажытнасцей і рэдкасцей».

Рашэнне ўладальніка змясціць збор у малельны пакой было прадыктавана не толькі яго зместам, але і імкненнем пазнаёміць з сабранымі старажытнасцямі сяброў стараверскай абшчыны. Далейшы лёс калекцыі І. І. Сабольшчыкава не вядомы.

Не менш цікавым зборам валодаў ***Тодар Нарбут*** (1784—1864), вядомы аўтар 9-томнай «Гісторыі літоўскага народа». Ён праводзіў раскопкі курганоў, вывучаў этнаграфію і фальклор паўночнай часткі Беларусі. У маёнтку Шаўры знаходзіўся створаны ім невялікі збор старажытнасцей, а таксама бібліятэка, дзе захоўваліся рэдкія рукапісы і выпіскі з кёнігсбергскага тайнага архіва, звязаныя з гісторыяй Беларусі.

Яго сучаснік ***Адам Плятэр*** (1790—1862) вывучаў гісторыю беларускіх гарадоў, праводзіў археалагічныя раскопкі. У сваім маёнтку Краслава ён з маленства калекцыяніраваў прадметы, звязаныя з беларускай гісторыяй і

археалогіяй. Акрамя таго, там знаходзіўся архіў дакументаў вялікай гістарычнай каштоўнасці.

Першая палова XIX ст. была часам стварэння падобных калекцый мінскім чыноўнікам Ю. Кабылінскім, князем Чацвярцінскім у Гродне, настаўнікам Слуцкай гімназіі І. К. Гесэ і некаторымі іншымі збіральнікамі. Іх дзейнасць спрыяла захаванню помнікаў гісторыі і культуры, стварэнню крыніцазнаўчага фонду археалогіі, этнаграфіі і гісторыі Беларусі, фарміраванню першых публічных музеяў.

У першай палове XIX ст. у віленскіх навуковых колах нараджаецца ідэя аб неабходнасці стварэння агульнадаступнага мастацкага музея. Заклік да яго стварэння сфармуляваў гісторык і аматар мастацтва А. Праздзецкі ў 1842 г. на старонках віленскага перыядычнага друку. Вопыт стварэння агульнадаступных мастацкіх экспазіцый тут ужо быў. У 1820 г. з поспехам прайшла выстава выяўленчага мастацтва ў сценах Віленскага ўніверсітэта.

На яго думку, у аснову такога збору павінны былі легчы добраахвотныя ахвяраванні мясцовай знаці, якая мела значныя мастацкія скарбы. Можна дапусціць, што гэты пункт погляду падзялялі шэраг мясцовых мецэнатаў і калекцыянераў, якія выпрацавалі да гэтага часу мастацтвазнаўчыя адносіны да збіраемых прадметаў. Вышэй ужо гаварылася аб дзейнасці І. Масальскага, Ф. Сапегі, К. Тызенгаўза.

Падобным высокім узроўнем характарызавалася дзейнасць ***Міхала-Тышкевіча*** (1828—1897) — егіптолага, мастацтвазнаўцы і калекцыянера. У сваім маёнтку ў Астрашыцкім Гарадку ён стварыў калекцыю жывапісных палотнаў старых майстроў (Рафаэль, Гальбейн, Босх і інш.) і прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Аднак найдаражэйшай для М. Тышкевіча была асобная калекцыя старажытнаўсходніх і антычных старажытнасцей, здабытых ім уласнаручна падчас навуковых паездак у Італію, у прыватнасці ў Геркуланум і Пампею, а таксама Егіпет. Значную колькасць антычных скульптур, керамічных вырабаў, камей і манет калекцыянер набыў у антыквараў. Пасля ад'езду М. Тышкевіча ў 1862 г. у Італію Астрашыцкі палац страціў значэнне культурнага цэнтра. Славутыя ж калекцыі М. Тышкевіча пасля смерці гаспадара былі распрададзены на аўкцыёне ў Парыжы у 1898 г. Сёння прадметы гэтых калекцый можна бачыць у экспазіцыях Брытанскага музея, Луўра, музеяў Берліна і Капенгагена.

Каштоўны гісторыка-мастацкі збор меў уладальнік Косаўскага палаца ***Вандалін-Пуслоўскі*** (1814—1884), вядомы таксама сваімі актыўнымі намаганнямі ў галіне дабрачыннасці. Свой збор карцін В. Пуслоўскі сфарміраваў пры дапамозе замежных арт-дылераў. Дзякуючы ім, у другой палове XIX ст. Косаўскі палац узбагаціўся эскізамі Леанарда да Вінчы,

карцінамі Рубенса, Тэньера, Брэйгеля, Верньё і іншых заходнееўрапейскіх мастакоў. Касаўскую мастацкую калекцыю значна папоўніў нашчадак В. Пуслоўскага — Францішак, вядомы філантроп і мецэнат.

Як і век Асветы, эпоха Рамантызму сведчыла, што адной з асноўных рыс мясцовай шляхецкай культуры з'яўляецца шанаванне і пераманне стылю жыцця і густаў французскай арыстакратыі. Палацы Незабытоўскіх у Бацэвічах, Горватаў у Барбараве, Скірмунтаў у Пінску былі запоўнены па-мастацку аздобленай мэбляй і дыванамі, карцінамі і парцэлянай, вырабамі з бронзы, срэбра, хрусталю і косці. Прадметы інтэр'ераў гэтых палацаў экспартаваліся пераважна з-за мяжы, а некаторыя з іх былі шэдэўрамі мастацтва сусветнага ўзроўню. Разам з тым у першай палове XIX ст. у мастацкім жыцці беларускіх зямель праяўляецца новая тэндэнцыя — з'яўленне цікавасці да нацыянальнага мастацтва. Тлумачыцца гэта перш за ўсё значнымі поспехамі мастакоў Віленскай школы ў разглядаемы перыяд, а таксама ўзнікненнем устойлівай цікавасці лепшых прадстаўнікоў сацыяльных вярхоў былога ВКЛ да сваёй культуры.

Ва ўмовах поўнай абыякавасці, а падчас і варожых адносін царскага ўраду да аховы і выкарыстання культурнай спадчыны Беларусі прыватная ініцыятыва ў гэтым пытанні мела велізарнае значэнне. Большасць калекцыянераў не толькі адкрывалі свае зборы для больш шырокай аўдыторыі, але і перадавалі сабраныя рэчы ў існуючыя публічныя музеі і нават стваралі новыя.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. назіралася далейшае развіццё тэндэнцый, якія мелі месца раней. Змяніўся сацыяльны склад збіральнікаў. На змену магнату-дылетанту прыйшоў інтэлігент, які валодаў глыбокімі ведамі ў пэўнай навуковай дысцыпліне. Зніклі такія матывы збіральніцтва, як радавы гонар, дэманстрацыя сваёй магутнасці і г. д., якія нарадзілі эклектычныя зборы. Новае пакаленне калекцыянераў, кампенсуючы недахоп матэрыяльных сродкаў ведамі і настойлівасцю, было перакананае ў важнасці сваёй дзейнасці для захоўвання і вывучэння нацыянальнай культуры.

У гэты перыяд узнікла значная колькасць гістарычных збораў, што было прамым вынікам інтэнсіўнага развіцця гістарычнай навукі і адасаблення шэрагу дапаможных гістарычных дысцыплін — археалогіі, нумізматыкі, археаграфіі і інш. Беларускія старажытнасці выклікалі жывую цікавасць не толькі вучоных, але і значнай колькасці аматараў-калекцыянераў, якія ўводзілі ў навуковы ўжытак рэчавы матэрыял па айчыннай гісторыі.

Асаблівае значэнне для зараджэння музейнай справы ў Беларусі мела збіральніцкая дзейнасць археолага, этнографа і грамадскага дзеяча ***Івана-Луцкевіча*** (1881—1919), які першым усвядоміў факт прыналежнасці



*І. Луцкевіч*

беларускаму народу ўласнай культурнай спадчыны. Помнікі матэрыяльнай культуры Беларусі ён пачаў збіраць яшчэ гімназістам. Пасля заканчэння Маскоўскага археалагічнага інстытута і Пецярбургскага ўніверсітэта праводзіў археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Беларусі, падарожнічаў з мэтай збору этнаграфічных матэрыялаў, падтрымліваў шчыльныя сувязі з вучонымі і калекцыянерамі. Калекцыя І. Луцкевіча ў асноўным сфарміравалася да 1906 г. і мела гісторыка-краязнаўчы профіль.

Збор знаходзіўся ў Вільні ў памяшканні рэдакцыі газеты «Наша ніва». Гэта давала магчымасць пазнаёміцца з сабранымі прадметамі шматлікім наведвальнікам рэдакцыі — літаратарам, вучоным, грамадскім дзеячам. Пісьменнік З. Бядуля, які ўпершыню апынуўся ў рэдакцыі ў 1912 г., так апісваў свае ўражанні ад убачанага: «На сьценах вісяць абразы беларускіх даўнейшых князёў, старасьвецкія беларускія вопраткі, шаблі, шэломы і панцыры XVI сталецьця. Рожныя тканіны народнай беларускай творчасьці, паясы слуцкія, дываны, разьба рожная. Музыкальныя інструменты — дуда, цымбалы, труба пастырская, жалейка. У шафах ляжаць скарбы мінуўшых гадоў: манэты і мядалі, пячаткі, кнігі беларускай пісьменнасці. Жывая паэма старыны!». Вядома, што экспазіцыя, разгорнутая ў рэдакцыі «Нашай нівы», была крыніцай паэтычнага натхнення для М. Багдановіча і іншых аўтараў.

Шматгранная дзейнасць І. Луцкевіча прывяла яго да думкі аб перадачы грамадству сваёй калекцыі. Гэта думка канчаткова аформілася восенню 1912 г., калі на старонках «Нашай нівы» быў змешчаны заклік да стварэння Беларускага музея. У ім, у прыватнасці, гаварылася: «Клічэм усіх, хто спагадае адраджэнню 10-мільённага беларускага народа, памагчы нам у збіранні музэя». Верагодней за ўсё аўтарам закліку, які прадугледжваў шчыльную сувязь паміж праектуемай установай, бібліятэкай і навуковым таварыствам, быў сам Іван Луцкевіч. Яго калекцыя — падмурак будучага музея — з поспехам дэманстравалася на Віленскай краёвай выставе ў 1913 г. У той час яна мела наступную структуру:

- этнаграфія (вопратка, тканіны, прадметы побыту, музычныя інструменты);
- археалогія (прадметы з курганных і іншых раскопак);
- мастацтва (карціны, абразы, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва);
- нумізматыка;
- зброя і вайсковая амуніцыя;
- бібліятэка (пераважна старадрукі і рукапісы).

У пачатку Першай сусветнай вайны губернскія ўлады мелі намер эвакуіраваць калекцыю І. Луцкевіча ў глыб Расіі, выдзеліўшы для гэтага асобны вагон. Аднак уладальнік адмовіўся і працягваў навуковую, збіральніцкую і педагагічную работу. У выніку ў 1914—1918 гг. было створана Беларускае навуковае таварыства, беларуская гімназія, прыйшло прызнанне навуковага свету, з'явіліся паслядоўнікі і вучні (пад уплывам І. Луцкевіча пачалі збіраць старажытнасці В. Ластоўскі і Р. Зямкевіч). Менавіта ў гэты час І. Луцкевіч адкрыў Аль-Кітаб — выдатны літаратурны помнік Сярэднявечча, а таксама шэраг старабеларускіх выданняў XVI—XVII стст. Частка іх была прадстаўлена на выставе, арганізаванай калекцыянерам сумесна з нямецкім мастацтвазнаўцам А. Іпелем у 1918 г. у Мінску і Вільні.



*Скульптурная выява Хрыстаса збору І. Луцкевіча*

Праз год, ужо смяротна хворы, І. Луцкевіч перадаў увесь збор ва ўласнасць Беларускага навуковага таварыства. Сябры таварыства стварылі на яго падмурку Беларускі музей, які існаваў у Вільні ў 1921—1946 гг. і карыстаўся вядомасцю як адно з буйнейшых сховішчаў помнікаў беларускай гісторыі і мастацтва.

Поспехі, дасягнутыя беларускай археалогіяй у першай палове XIX ст., зрабілі папулярнай ідэю раскопак і збору археалагічных помнікаў. У другой палове XIX ст. адзначаецца пашырэнне гэтых работ, якія праходзілі на больш высокім навуковым узроўні, што прывяло да з'яўлення некалькіх значных збораў.

Адным з іх валодаў ***Вацлаў Пятровіч Федаровіч*** (1848—1911) — віцебскі адвакат, вядомы як ініцыятар стварэння Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, член-карэспандэнт Кракаўскай акадэміі навук, удзельнік шматлікіх археалагічных з'ездаў. Глыбокія веды ў розных галінах, гуманнасць, незалежнасць у поглядах — усё гэта дапамагло В. П. Федаровічу заваяваць папулярнасць сярод мясцовай адвакатуры і насельніцтва. Ён лічыўся адным з лепшых судовых аратараў прыдзвінскага краю. Аднак найбольш праславіўся В. П. Федаровіч як адзін з буйнейшых калекцыянераў Беларусі.

Збор В. П. Федаровіча стаў вядомы ў сярэдзіне 80-х гг. XIX ст. У яго аснову былі пакладзены набытыя ў 1880-я гг. калекцыі старажытнасцей віцебскага гарадскога ўрача К. Бергнера, а таксама знакамітых археолагаў-аматараў А. Плятэра і М. Кусцінскага. У канцы XIX ст. В. П. Федаровіч рабіў частыя паездкі па Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях, дзе набываў рэчы з курганных раскопак і іншыя старажытнасці ў прыватных асоб. У 1895 г. збор папоўніўся старажытнымі манетамі ВКЛ і ювелірнымі вырабамі, знойдзенымі падчас абследавання ім



*Масонскі знак са збору В. П. Федаровіча*

рэчышча Віцьбы. Значнаму прырошчванню калекцыі спрыяла выкананне адвакацкіх абавязкаў, таму што частку сваіх ганарараў В. П. Федаровіч атрымліваў старажытнасцямі.

Высокую ацэнку збору даў археолаг і калекцыянер В. Шукевіч, які азнаёміўся з ім у 1900 г. З 2 тыс. прадметаў, сабраных да таго часу В. П. Федаровічам, да найбольш каштоўных адносіліся археалагічныя знаходкі, датуемыя XII—XIII стст. (у т. л. пярсцёнкі, бранзалеты, прасліцы), а таксама калекцыя мясцовага жывапісу. Праз дзесяцігоддзе збор налічваў ужо 5 тыс. адзінак і выглядаў наступным чынам: археалогія, нумізматыка, фалерыстыка, этнаграфія, археаграфія, ваенны, выяўленчы і масонскі аддзелы. Не меншую каштоўнасць мела шматтомная гістарычная бібліятэка.

Прадметы, размешчаныя ў спецыяльна выраблених вітрынах і шафах, займалі чатыры пакоі будынка, далучанага да гарадскога клуба. Для зручнасці агляду экспазіцыя асвятлялася дзённым святлом, праз зашклёную столь. Адчынены для ўсіх зацікаўленых мясцовай гісторыяй «музей Федаровіча» карыстаўся папулярнасцю ў сучаснікаў. Яго наведвалі не толькі мясцовыя жыхары, але і арганізаваныя экскурсійныя групы. В. П. Федаровіч спрабаваў папулярызаваць свой збор таксама і з дапамогай друку, публікуючы побач са сваімі работамі гісторыка-краязнаўчага характару асобныя гістарычныя помнікі.

Напрыканцы XIX ст. была пачата каталагізацыя і фатаграфаванне найбольш каштоўных прадметаў, але смерць уладальніка перашкодзіла давесці гэтую справу да канца. Сын В. П. Федаровіча таксама не паспеў гэта зрабіць у сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны. У выніку шэраг прадметаў, у прыватнасці археалагічныя, страцілі навуковую каштоўнасць.

У 1920 г. збор быў нацыяналізаваны Камісіяй па ахове помнікаў старажытнасці і мастацтва, супрацоўнікі якой на працягу некалькіх гадоў займаліся яго вопісам, пасля чаго перадалі Віцебскаму гістарычнаму музею.

Важная ў археалагічных адносінах калекцыя належала вядомаму даследчыку беларускіх старажытнасцей ***Вандаліну-Шукевічу*** (1852—1912). Матэрыялы гэтай калекцыі, якія знаходзіліся ў маёнтку Нача, былі вынікам планамерных раскопак каменных могілак і іншых аб'ектаў, якія праводзіў В. Шукевіч у Гродзенскай, Мінскай і іншых заходніх губернях імперыі. У адпаведнасці з каталогам, складзеным В. Шукевічам у 1908—1909 гг., агульная колькасць прадметаў налічвала 5779 адзінак. Усе археалагічныя знаходкі былі класіфікаваны па табліцах і падзяляліся на тры аддзелы: а) каменны век; б) бронзавы век; в) век жалеза. Існавала таксама невялікая нумізматычная калекцыя. Грамадства мела магчымасць азнаёміцца з часткай гэтага збору на выставе, прымеркаванай да правядзення IX археалагічнага з'езда ў Вільні ў 1893 г. Прымаючы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні з'езда, В. Шукевіч прадставіў на выставу прадметы з могільнікаў Лідскага павета. Аднак навуковыя колы былі праінфармаваны аб складзе гэтай калекцыі значна раней. Шмат з сабранага калекцыянер адсылаў у Імператарскую археалагічную камісію, шчодра дзяліўся вынікамі навуковай працы з мясцовымі вучонымі. Пасля смерці ўладальніка калекцыя была раздроблена і папоўніла музейныя зборы Расіі і Польшчы.

Буйнейшы гісторыка-археалагічны збор у Беларусі напрыканцы XIX ст. узнік дзякуючы намаганням мінскага калекцыянера ***Генрыха-Хрыстафоравіча-Татура*** (1846—1907). Пачаўшы збіраць старажытнасці ў 14-гадовым узросце, ён хутка зацікавіўся археалогіяй. Калекцыя значна папоўнілася ў выніку курганных раскопак, якія інтэнсіўна праводзіліся ім на тэрыторыі Мінскай губерні ў 70—90-я гг. XIX ст. Шмат цікавых помнікаў далі паездкі Г. Х. Татура па беларускіх праваслаўных цэрквах і манастырах з мэтай збору старажытных культавых прадметаў (нягледзячы на каталіцкае веравызнанне, ён здолеў атрымаць у Сінодзе дазвол на гэта). Нямала каштоўных прадметаў гісторыка-побытавага характару і твораў мастацтва перайшло да Г. Х. Татура з магнацкіх радавых гнёздаў у выніку ламбардных аперацый.

У пачатку XX ст. для размяшчэння ўжо вельмі значнага збору гаспадар адвёў два будынкі, у адным з якіх захоўваліся карціны і абразы, а ў другім — гісторыка-археалагічная калекцыя і бібліятэка. Акадэмік І. І. Сразнеўскі, агледзеўшы збор у 1907 г., ахарактарызаваў яго як разнастайны. Сярод убачанага вылучаліся «вынікі раскопак курганоў (касцякі, каменныя прылады, розныя ўпрыгожанні); старажытна-польскія даспехі і зброя, напрыклад: лук Панятоўскага, шлем эпохі 30-гадовай вайны, парахаўніца 1641 г. з інкрустацыяй на скуры, велізарны рыцар на кані, закаваны ў панцыр з гербам Радзівілаў на грудзях; сцягі; шырокі збор анцімінсаў, царкоўнае начынне, адзенне, крыж, ахвяраваны

Жыгімонтам І Лагойскаму касцёлу, калекцыя слуцкіх паясоў і тканін, манеты, посуд, гузікі, маркі і інш.». Вельмі каштоўныя выданні кніг XVI—XIX стст. захоўваліся ў бібліятэцы.

Г. Х. Татур рабіў спробы выкарыстоўваць сабранае ў навуковых і асветніцкіх мэтах. Так, на аснове сваёй археалагічнай калекцыі ён напісаў кнігу. Сабраныя матэрыялы дазволілі яму ў 1888 г. правесці археалагічную выставу ў Мінску, а ў 1893 г. стаць адным з экспанентаў выставы пры IX археалагічным з'ездзе. Аднак большая частка гэтага збору не была вядома шырокай аўдыторыі.

Трэба адзначыць, што збіральніцкая, як урэшце і археалагічная, дзейнасць Г. Х. Татура рэзка крытыкавалася яго сучаснікамі. Апантанасць калекцыянера, а таксама зацікаўленасць беларускімі старажытнасцямі спалучаліся ў ім з дылетантызмам у навуцы, які ўзмацняўся рознымі гандлёвымі аперацыямі. Непапраўную страту археалогіі нанеслі яго хаатычныя курганныя раскопкі, прычым шмат са знойдзенага бясследна знікла[1].

Г. Х. Татур не пакінуў нашчадкаў, і ўвесь збор, ацэнены ў 200 тыс. рублёў, паступіў у продаж. Спрабуючы захаваць яго для горада, супрацоўнік Мінскага царкоўна-археалагічнага музея Д. В. Скрынчанка безвынікова звяртаўся па дапамогу ў мясцовыя інстанцыі. Не прынеслі поспеху яго звароты і да прызнаных рускіх аўтарытэтаў — П. С. Уваравай, С. І. Шчукіна, І. Е. Забеліна. У выніку большая частка збору была набыта прадстаўніком ствараемага ў той час Віленскага музея мастацтва і навук, які так і не быў адкрыты, пасля чаго сляды яго губляюцца. Другую частку прыдбаў з дапамогаю І. Луцкевіча заснавальнік нацыянальнага музея ў Львове І. Свяціцкі, які стварыў там беларускі аддзел.

Цікавыя археалагічныя матэрыялы, здабытыя падчас раскопак на тэрыторыі Беларусі, былі пакладзены ў падмурак прыватных калекцый вучоных Е. Р. Раманава, А. П. Сапунова (аб іх музейнай дзейнасці будзе сказана ніжэй), Н. П. Авенарыуса, а таксама ***Міхала Федароўскага*** (1853—1923). Апошні на працягу доўгага часу вёў раскопкі кurганоў, шукаў палеалітычныя стаянкі ў заходняй частцы Беларусі. Археалагічную калекцыю М. Федароўскага, якая знаходзілася ў Косіна Гродзенскай губерні, дапаўнялі шматлікія этнаграфічныя матэрыялы (адзенне, упрыгожанні, цацкі, прылады працы, іншыя побытавыя рэчы заходніх беларусаў). З'яўляючыся сябрам шэрагу польскіх навуковых таварыстваў, М. Федароўскі перадаў большую частку сабранага на працягу 1877—1904 гг. музеям Варшавы.

---

[1] Асабістая перапіска Г. Х. Татура сведчыць пра тое, што ён прадаваў рэчы са сваёй калекцыі не толькі прыватным асобам у Германію і Польшчу, але і такім аўтарытэтным музеям, як Клюні і Луўр.

Вялікае значэнне для вывучэння гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі меў прыватны збор віленскага калекцыянера ***Антона Рафаілавіча Брадоўскага*** (1859—1928). Першыя знаходкі былі зроблены ім у 70-я гг. XIX ст. падчас выканання ім абавязкаў тэхніка-будаўніка, а ў 1906 г. збор, які налічваў больш за 20 тыс. прадметаў, быў адкрыты для ўсіх жадаючых у Вільні. Наведвальнікі маглі азнаёміцца з археалагічнымі знаходкамі, вялікай нумізматычнай калекцыяй, абразамі, ордэнамі, масонскімі знакамі, калекцыяй старажытных гадзіннікаў і прадметамі яўрэйскага побыту. На жаль, каштоўнасць збору зніжала слабая сістэматызацыя прадметаў, іх невывучанасць. Гэта прыводзіла да таго, што некаторыя анатацыі насілі анекдатычны характар (напрыклад, дэманстраваліся «гліна, якой 50 тыс. гадоў таму харчаваўся першабытны чалавек» альбо «што засталося ад літоўскага правадыра, які жыў 1000 гадоў таму»). Аднак большасць прадметаў, сабраных А. Р. Брадоўскім, уяўляла значную гістарычную і мастацкую каштоўнасць.



*Э. К. Гутэн-Чапскі*

З пачаткам Першай сусветнай вайны, А. Р. Брадоўскі эвакуіраваў свой збор у Віцебск, дзе ён папоўніў фонды гістарычнага музея.

Развіццё гістарычнай навукі садзейнічала станаўленню нумізматыкі як самастойнай гістарычнай дысцыпліны. Важнае месца ў гэтым працэсе займалі калекцыянеры, якія не толькі сістэматызавалі, вывучалі, апісвалі сабраныя манеты, але сталі разглядаць іх як самастойныя гістарычныя крыніцы. Да таго ж пры складанні калекцый пільная ўвага ўдзялялася грашоваму абарачэнню на тэрыторыі Беларусі.

Асобнае месца сярод нумізматычных калекцый займала калекцыя ***Эмерыка Карлавіча Гутэн-Чапскага*** (1828—1897). Цікавасць да нумізматыкі прыйшла да яго яшчэ ў юнацтве пад уздзеяннем бацькі — члена Віленскай археалагічнай камісіі. Сярод першых паступленняў вызначаліся манеты, набытыя ў М. Тышкевіча і нумізмата К. Баўэра. Знаходзячыся на дзяржаўнай службе ў Міністэрстве ўнутраных спраў, а потым на пасадах віцэ-губернатара ў Ноўгарадзе і Пецярбургу, ён рабіў частыя паездкі па цэнтральных губернях імперыі, якія таксама давалі цікавыя знаходкі. Так, у 1853 г. Э. К. Гутэн-Чапскі набыў каштоўную нумізматычную калекцыю яраслаўскага памешчыка П. Шышкіна, якая складалася ў асноўным з манет часоў княжацкай Русі. Шмат чаго ён набыў у рускіх гандляроў-антыквараў і замежных нумізматаў.



*Скарбчык-у-Станькава*

Калі Э. К. Гутэн-Чапскі выйшаў у адстаўку ў 1879 г., ён пасяліўся ў сваім маёнтку Станькава Мінскай губерні і цалкам аддаўся любімай справе. Вынікам шматгадовых намаганняў і грашовых затрат было стварэнне там першакласнага нумізматычнага збору (больш за 10 тыс. адзінак), калекцый гравюр (каля 6 тыс. адзінак), картаў, зброі, жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кніг і рукапісаў. Усё гэта, старанна каталагізаванае па раздзелах, захоўвалася ў спецыяльным павільёне пад назвай «скарбчык», пабудаваным у выглядзе двухпавярховага мініяцюрнага сярэдневяковага замка і аб'яднанага з жылым будынкам лёхай. Аматары нумізматыкі знаёміліся са зборам Э. К. Гутэн-Чапскага, наведваючы «скарбчык» альбо вывучаючы каталогі, уласнаручна складзеныя і выдадзеныя ўладальнікам.

Перад смерцю Э. К. Гутэн-Чапскі прыняў рашэнне аб перадачы ў грамадскае карыстанне сабраных калекцый. Прадаўшы калекцыю рускіх манет вялікаму князю Георгію Міхайлавічу Раманаву, ён вывез усё, што, з яго пункту гледжання, тычылася гісторыі польскага народа, у Кракаў. Апісаннем гэтай часткі калекцыі пасля смерці ўладальніка займаўся доктар мастацтвазнаўства Ягелонскага ўніверсітэта, у будучым дырэктар Музея нарадовага ў Кракаве Ф. Капера. У хуткім часе ў Кракаве адкрыўся публічны музей, які ўвабраў большую частку станькаўскіх калекцый і па сённяшні дзень мае назву «Музей Чапскіх».

Заўзятым збіральнікам быў мінскі чыноўнік ***Міхал-Гаўсман*** (1817—1889). Цікавасць да калекцыяніравання прыйшла да яго ўжо ў 50-я гг. XIX ст., падчас выканання абавязкаў сакратара канцылярыі мінскага дваранскага сходу. Пасля вяртання ў Мінск у 70-я гг. XIX ст. з валагодскай ссылкі, якую ён адбываў за ўдзел у паўстанні 1863 г., пабудаваў дом, у якім стварыў бібліятэку і экспанаваў творы мастацтва, археалагічныя знаходкі, а таксама матэрыялы, якія характарызавалі побыт беларусаў.

Аднак галоўным захапленнем М. Гаўсмана была нумізматыка, а таксама іншыя дапаможныя гістарычныя дысцыпліны — сфрагістыка і геральдыка. Шмат матэрыялаў яму далі занядбаныя мюнц-кабінеты і сямейныя архівы старых шляхецкіх гнёздаў. Калекцыя М. Гаўсмана набыла вялікую вядомасць, і гэтаму ў значнай ступені спрыяла гісторыка-археалагічная выстава, праведзеная ім у 1880 г. у Мінску.



*І. Х. Каладзееў*

Шмат гадоў збіраў нумізматычную калекцыю ўладальнік маёнтка Шо Віцебскай губерні І. Жаба. У яе склад, побач з замежнымі, уваходзіла шмат манет і медалёў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Значную калекцыю манет (каля 3 тыс. адзінак) і царкоўных старажытнасцей сабраў другі беларускі калекцыянер — святар з в. Парэчча Мінскай губерні П. Гаховіч. Большую частку гэтай калекцыі ўладальнік ахвяраваў у музей мінскага царкоўна-археалагічнага камітэта.

У разглядаемы перыяд, побач з павышэннем цікавасці да помнікаў матэрыяльнай культуры, назіраецца пільная ўвага калекцыянераў да пісьмовых гістарычных крыніц. У выніку на мяжы стагоддзяў у Беларусі з'явілася некалькі каштоўных збораў рукапісаў і кніг. Звычайна іх стваралі па раней распрацаваным плане, каб выявіць максімальную колькасць крыніц па асобных тэмах або перыядах гісторыі.

Адзін з такіх збораў, прысвечаных вайне 1812 г., належаў памешчыку ***Івану Хрысанфавічу Каладзееву*** (1859—1914). Яго капітал і прадпрымальніцкі талент адчувальна паўплывалі на развіццё г. Барысава. З імем І. Х. Каладзеева звязана шэраг ініцыятыў па сацыяльна-эканамічным развіцці горада, у т. л. стварэнне першай тэлефоннай станцыі. Заснаваўшы пасад Новабарысаў у Мінскай губерні ў непасрэднай блізкасці да месца пераправы адыходзячай французскай арміі цераз р. Бярэзіну, ён зацікавіўся гэтым эпізодам вайны і распачаў руплівы збор матэрыялаў. З цягам часу сфера збіральніцкіх зацікаўленасцей І. Х. Каладзеева пашырылася і ўключала ўжо ўсе дакументальныя і літаратурныя крыніцы па руска-французскіх адносінах у 1805—1815 гг. У выніку трыццацігадовых пошукаў у Расіі і за мяжой ён здолеў сабраць значную бібліятэку (каля 15 тыс. тамоў на 11 еўрапейскіх мовах), у аснову якой былі пакладзены кніжныя зборы маскоўскага генерал-губернатара А. А. Закрэўскага і яго пецярбургскага цёзкі — вядомага бібліяфіла і калекцыянера. Асаблівую каштоўнасць уяўляў рукапісны аддзел, дзе побач з арыгіналамі захоўваліся копіі дакументаў, знятыя ў замежных архівах, а таксама калекцыі картаў, планаў, гравюр і карцін. Да «унікаў»



*Помнік, прысвечаны вайне 1812 г. на рацэ Бяроза, усталяваны І. Х. Каладзеевым*

І. Х. Каладзеева адносіліся падборкі растопчынскіх афіш, газеты, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі падчас французскай акупацыі, гравюры ўдзельнікаў вайны 1812 г., асабістая паходная карта Напалеона і інш.

У пачатку ХХ ст. новабарысаўскі збор ужо прыцягваў увагу даследчыкаў. Рускі бібліёграф К. А. Ваенскі ў 1904 г. пісаў, што «ў цяперашні час бібліятэка І. Х. Каладзеева, як сховішча, прысвечанае выключна адной эпосе, па сваёй паўнаце з'яўляецца бясспрэчна першым зборам не толькі ў Расіі, але і ў Еўропе». Разумеючы значнасць сабранага матэрыялу, І. Х. Каладзееў забяспечыў да яго вольны доступ усіх зацікаўленых эпохай напалеонаўскіх войнаў. Для аблягчэння працы даследчыкаў у новабарысаўскім зборы яго ўладальнік правёў каталагізацыю картаў, выдаў каталог рускага аддзела бібліятэкі.

Ужо ў 1903 г. сябры пецярбургскага таварыства прыхільнікаў ваенных ведаў паставілі пытанне аб стварэнні на базе збору І. Х. Каладзеева публічнага музея. А калі напярэдадні 100-годдзя вайны 1812 г. пачаліся падрыхтоўчыя работы па стварэнні музея ў Маскве, І. Х. Каладзееў прыняў рашэнне аб перадачы яго арганізатарам сваёй бібліятэкі. Пазней яго ўдава ахвяравала туды ж увесь рукапісны і выяўленчы матэрыял. Аднак музей 1812 г. так і не быў адкрыты, а ў 1915 г. збор І. Х. Каладзеева быў занесены ў галоўную інвентарную кнігу Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве пад нумарам 49561, дзе і знаходзіцца цяпер.

Буйной калекцыяй археаграфічных матэрыялаў валодаў гісторык, этнограф, публіцыст, эканаміст, член Кракаўскай акадэміі навук ***Аляксандр Карлавіч Ельскі*** (1834—1916), які ў выніку сваёй 50-гадовай навуковай і збіральніцкай дзейнасці пакінуў глыбокі след у гісторыі культуры Беларусі. А. К. Ельскі скончыў Мінскую гімназію, з 1852 па 1856 г. знаходзіўся на ваеннай службе, удзельнічаў у Крымскай кампаніі ў чыне паручніка. У 1857 г. пасяліўся ў сваім маёнтку Замосце Мінскай губерні, дзе сумяшчаў калекцыяніраванне з літаратурнай і грамадскай работай.

Яго калекцыя адрознівалася надзвычайнай шматграннасцю і складалася з калекцый жывапісу, гравюр, парцэляны, шкла, мэблі, ордэнаў, мемарыяльных, археалагічных і этнаграфічных прадметаў. Першая ўзгадка аб зборы роду Ельскіх прыпадае на 1812 г., калі карціны і гістарычную зброю з цікавасцю аглядаў камандзір польскага корпуса князь Ю. Панятоўскі — сябра палкоўніка кавалерыі К. С. Ельскага, бацькі калекцыянера.

*А.-К.-Ельскі*



Аднак найбольш каштоўнай часткай збору была калекцыя аўтографаў і дакументаў, якая налічвала 20 тыс. адзінак, і багатая гістарычная бібліятэка. Фарміраванне калекцыі А. К. Ельскага пачалося ў другой чвэрці XIX ст. У яе аснову былі пакладзены сямейныя архівы згасаўшых магнацкіх родаў, а таксама асабістыя архівы мясцовых культурных дзеячаў, з якімі ён падтрымліваў блізкія адносіны. У далейшым гэта калекцыя была пашырана за кошт мэтанакіраванага збору гістарычных дакументаў і сістэматызавана па тэматычных разделах. Сярод іх асаблівую цікавасць выклікалі дакументы адміністрацыйнага характару, аддзелы, прысвечаныя падзеям 1794, 1812, 1831, 1864 гг., а таксама арміі, філасофіі, прыродазнаўству, царкве. Мелася т. зв. «царская папка» з аўтографамі Пятра І, Паўла І, Ганны Іаанаўны, «французская папка» з аўтографамі Напалеона, Людовіка XVI, Жазэфіны, Сэн-Жуста, Рабесп’ера, Марата, аддзел А. Міцкевіча, «радзівілаўская папка», аўтографы М. Лютэра, Д. Вашынгтона і шмат іншага.

У Замосці знаходзілася невялікая (каля 60 палотнаў), але ўмела падабраная калекцыя жывапісу. У ёй побач з творамі заходнееўрапейскіх майстроў (А. дэль Сарта, П. Веранезе, М. Бачыарэлі) меліся працы шматлікіх прадстаўнікоў беларускага, літоўскага і польскага мастацтва. У багатым аддзеле гравюр, які налічваў больш за 2 тыс. нумароў, можна было ўбачыць эстампы А. Вато, Ф. Бушэ, Юнга, літаграфіі М. Фаянса, А. Арлоўскага і некаторых іншых мясцовых і заходнееўрапейскіх аўтараў.

Важнае месца ў зборы займаў аддзел беларускіх песень, прымавак, прыказак, легендаў і літаратурных твораў. Аб гэтым напрамку сваёй калекцыйнай дзейнасці А. К. Ельскі ў адным з лістоў, датаваным 1890 г., пісаў як аб збіранні ўсяго, што тычыцца беларускай літаратуры, «...у надзеі, што Беларусь яшчэ дачакаецца свайго Шаўчэнку». Гэты аддзел добра дапаўняла створаная з дапамогаю дачкі калекцыянера Аляксандры этнаграфічная калекцыя, якая складалася з прадметаў сялянскага побыту, прылад працы, музычных інструментаў і да т. п.

Неабходна адзначыць, што А. К. Ельскі імкнуўся надаць свайму збору музейны характар. Не абмяжоўваючыся яго асабістым выкарыстаннем у навуковых мэтах (з-пад пяра калекцыянера выйшла каля тысячы артыкулаў і нарысаў гісторыка-краязнаўчага, а таксама этнаграфічнага характару), А. К. Ельскі гасцінна прымаў усіх зацікаўленых. Для запісу наведвальнікаў вялася спецыяльная кніга, дзе звярталі на сябе ўвагу імёны З. Глогера, В. Спасовіча, М. Рале, Т. Корзана і іншых выдатных вучоных. Шмат з сабранага калекцыянер пры жыцці перадаў у музеі Варшавы, Вільні, Кракава, імкнучыся хаця б часткова здзейсніць сваю ідэю стварэння агульнадаступнай музейна-архіўнай установы.

У хуткім часе пасля смерці ўладальніка акупацыйныя польскія ўлады вывезлі «Бібліятэку і музей старажытнасцей Аляксандра Ельскага» ў Варшаву. Частка калекцыі загінула падчас рэвалюцыйных падзей 1917 г. Пасля Другой сусветнай вайны згарэла цэнтральная частка сядзібы, дзе ў той час размяшчалася каля дзясятка сем’яў. Тое, што засталося, разабралі сяляне для пабудовы жылля.

У 1885 г. у распараджэнне гарадскіх улад Слуцка паступіў вялікі збор гістарычных дакументаў і старадрукаў пратэстанцкага пастыра Ю. Бергеля. Гэты збор, які захоўваўся ў 12 шафах, уладальнік завяшчаў гораду.

Вайскова-гістарычныя помнікі ўтваралі найбольш каштоўную частку збору апошняга ўладальніка маёнтка Русінавічы Мінскай губерні, вядомага калекцыянера Я. Уняхоўскага. Пачаўшы сваю дзейнасць на мяжы стагоддзяў з сістэматызацыі ўласнага збору, ён неўзабаве набыў частку збору К. Тышкевіча ў Лагойску, а таксама каштоўныя прадметы з іншых занядбаных шляхецкіх гнёздаў. Галоўнай «слабасцю» Я. Уняхоўскага была беларуская вайсковая гісторыя — у яго калекцыі прыцягвалі ўвагу турнірныя рыцарскія даспехі, у тым ліку кальчуга з выявай герба «Пагоня», наплечнікі князя Альбрэхта Радзівіла XVII ст., камплекты зброі, уніформа і помнікі, звязаныя з падзеямі вайны 1812 г. на тэрыторыі Беларусі, узбраенне «крылатага» гусара і шмат іншага. Частку прадметаў з калекцыі Я. Уняхоўскага сёння можна ўбачыць у экспазіцыі Музея войска польскага ў Варшаве.

У асобнай зале маёнтка Іванск Лепельскага павета таксама экспанаваліся выключна помнікі вайсковай гісторыі. Гэта зала «вайсковай славы» ўзнікла дзякуючы захапленням гаспадара маёнтка В. Валадковіча. Апошні праводзіў інтэнсіўныя археалагічныя раскопкі на палях дзвюх вялікіх бітваў — Яна Хадкевіча з Дзмітрыем Шуйскім, а таксама Н. Ш. Удзіно з П. Х. Вітгенштэйнам. Было знойдзена шмат цікавага: панцыры, коп’і, шаблі, каменныя кулі, ядры, гузікі, какарды, фрагменты конскай збруі і многае іншае.

Разам з гістарычнымі калекцыямі ў Беларусі існаваў шэраг цікавых прыватных збораў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Многія з іх пачалі фарміравацца яшчэ ў першай палове XIX ст., калі рэзідэнцыі магнатаў і заможнай шляхты поўніліся карцінамі і дыванамі, скульптурамі і вазамі, вырабамі з косці, хрусталю, парцэляны. Першыя ўладальнікі набывалі іх для ўпрыгожвання сваіх дамоў. Але з цягам часу гэтыя прадметы побытавых комплексаў набылі значэнне каштоўных мастацкіх калекцый. Такім быў збор князёў Паскевічаў у Гомелі.

Гомельскі палац М. П. Румянцава ў 1837 г. перайшоў да фельдмаршала ***Івана Фёдаравіча Паскевіча*** (1782—1856) у якасці падарунка за перамогі ў вайне з Персіяй. У наступныя гады ён стаў ледзь не прыгажэйшым і багацейшым ва ўсім краі. На афармленне інтэр’ера палаца паўплываў рамантызм, які ўвайшоў у моду. Гэта праявілася ў захапленні карцінамі старажытных майстроў, гістарычным матэрыялам, экзотыкай. Залы былі ўпрыгожаны мармурам, пазалотай, каштоўнымі пародамі дрэў, што стварала ўражанне ўрачыстасці і багацця. У парку прыцягвалі ўвагу дзясяткі мармуровых фігур і бюстаў работы знакамітых італьянскіх, французскіх і нямецкіх майстроў (некаторыя з іх знаходзіліся раней у Летнім садзе ў Пецярбургу). На бакавой тэрасе палаца ўзвышалася статуя польскага палкаводца І. Панятоўскага работы скульптара Б. Торвальдсэна.

У сярэдзіне XIX ст. да палаца была прыбудавана вежа ў стылі неарэнесансу, дзе дэманстраваліся найбольш каштоўныя калекцыі. Іх склад быў абумоўлены ваеннымі паходамі ўладальніка, а таксама яго мастацкім густам. Так, інтэр’еры залаў вежы ўпрыгожвалі карціны мастака-рамантыка Я. Сухадольскага, які маляваў паходы І. Ф. Паскевіча ў Турцыю, Персію, Польшчу; палотны Каналета; партрэты рускіх цароў і царыц пэндзля айчынных і заходнееўрапейскіх мастакоў. Значную цікавасць выклікаў збор ваз, падараваных І. Ф. Паскевічу Мікалаем І і прускім каралём Фрыдрыхам Вільгельмам, скульптурныя творы А. Кановы і Х. Раўха, калекцыі старажытнай зброі і парцэляны, кніг і рукапісаў.

Збор Паскевічаў, які канчаткова сфарміраваўся ў канцы XIX ст., прыцягваў увагу не толькі мясцовых аматараў мастацтва, але і вучоных абедзвюх сталіц імперыі[1]. Аднак трапіць у замак нават для выбраных было складана, а падчас прысутнасці ў ім гаспадароў — увогуле немагчыма. Становішча змянілася толькі пасля нацыяналізацыі збору ў 1918 г. і ператварэння яго ў багацейшы самастойны музей.

---

[1] Аб гэтым сведчаць падрабязныя апісанні мастацкіх скарбаў Паскевічаў, якія з’яўляліся ў часопісах Пецярбурга і Масквы, спасылкі на гомельскі збор пры складанні музейных каталогаў, а таксама гістарычныя даследаванні.



*«Прадчуванне»- Г.-Вейсенгофа*

Буйнейшы збор прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, сярод якіх вылучалася калекцыя парцэляны, знаходзіўся ў Обрынскім палацы, які належаў роду Кашыцаў.

Падобныя зборы мелі Незабытоўскія ў Бацэвічах Бабруйскага павета (калекцыі старадаўніх гадзіннікаў, урэцкага шкла, саксонскай і венскай парцэляны), Галынскія ў Крычаўскім палацы (партрэтная зала, якая налічвала 42 палотны XVII—XIX стст.), Святаполк-Завадскія ў Крошыне Наваградскага павета (калекцыі старадаўняй зброі, парцэляны, сямейных партрэтаў), Цэханавецкія ў Бачэйкаве Лепельскага павета і інш.

Разам з гэтымі побытавымі, або інтэр'ернымі, зборамі твораў мастацтва, якія неслі на сабе адбітак былой эпохі, з'яўляюцца новыя спецыялізаваныя мастацкія калекцыі. Да ліку апошніх адносілася вельмі папулярная сярод сучаснікаў калекцыя жывапісу мастака ***Генрыха-Вейсенгофа*** (1859—1922), выпускніка Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, дзе ён вучыўся ў класе славутага Г. Клота. Калекцыя знаходзілася ў Русаковічах Ігуменскага павета, дзе былі напісаны сусветнавядомыя шэдэўры «Прадчуванне», «Стары двор Русаковічы», «Могілкі ў Русаковічах». У калекцыянерскай дзейнасці Г. Вейсенгофа адлюстравалася цікавасць да гісторыі і культуры беларускага народа. У Русаковічах можна было ўбачыць шмат эцюдаў і замалёвак беларускіх пейзажаў, тыпаў сялян, шляхты і мяшчан, а таксама сядзіб і палацаў.

Самастойнае значэнне ў калекцыі мелі карціны старых беларускіх мастакоў, у прыватнасці «Аўтапартрэт» Я. Дамеля, партрэты, створаныя В. Ваньковічам і Я. Рустэмам і інш. Апрача жывапісных твораў, тут знаходзілася калекцыя ўрэцкага шкла, слуцкіх паясоў, старых абразоў.

Цікава адзначыць, што ў 1901 г. Г. Вейсенгофу давялося паспрабаваць свае сілы ў экспазіцыйным дызайне. Ён атрымлівае запрашэнне ад

арганізатараў мінскай прамысловай і сельскагаспадарчай выставы выканаць эскізы яе экспазіцыі і дыпломаў, якія выдаваліся лепшым экспанентам. У 1917 г. гаспадар Русаковіч пераехаў у Варшаву, не прыняўшы новай улады, дзе і памёр у 1922 г. Мясцовыя сяляне разабралі маёнтак Г. Вейсенгофа на дровы, лёс яго калекцыі не вядомы.

Яшчэ адным прыкладам спецыялізацыі ў галіне мастацкага калекцыяніравання з'яўляецца дзейнасць уладальніка сядзібы ў Геранёнах Ашмянскага павета І. Карвін-Мілеўскага. За перыяд з 1880 па 1895 г., не шкадуючы сіл і сродкаў, ён сабраў адну з лепшых калекцый польскага і беларускага жывапісу (больш за 200 адзінак). Добрую калекцыю галандскага і французскага жывапісу сабраў у сваім маёнтку Клеўніца Віцебскай губерні бібліяфіл А. Умястоўскі. На пачатку ХХ ст. вядомасцю карысталася калекцыя рускага і заходнееўрапейскага жывапісу палкоўніка С. Гарцінга ў Дукоры. Залы Дукорскага палаца пры яго апошнім уладальніку ўпрыгожвалі сцены, выкладзеныя з суцэльных люстэркаў, унікальная паркетная падлога, прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Усе гэтыя калекцыі пры спрыяльных умовах павінны былі скласці падмурак Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Акрамя пералічаных збораў гістарычных і мастацкіх прадметаў, працягвалі фарміравацца прыродазнаўчыя калекцыі. Яны характарызаваліся грунтоўнай спецыялізацыяй, выкарыстаннем сабраных прадметаў у навуковых даследаваннях, а таксама ў асветніцкіх мэтах. З'яўленне гэтых калекцый у значнай ступені абумовіла вострая патрэба ў прыродазнаўчым вывучэнні Беларусі.

У гэтай сувязі заслугоўвае ўвагі навуковая дзейнасць вядомага беларускага геабатаніка і дэндролага ***Уладзіміра Уладзіміравіча Адамава*** (1875—1937). У пачатку стагоддзя ў маёнтку Вялікія Лётцы Віцебскай губерні ён распачаў стварэнне батанічнага саду і гербарыяў. У іх камплектаванні на чале з уладальнікам удзельнічалі таксама славутыя батанікі Я. К. Кесельрынг, К. Н. Вагнер, Р. Ф. Німан, А. Д. Ваейкаў, а таксама супрацоўнікі батанічных садоў Пецярбургскай акадэміі навук і Ляснога інстытута, Парыжскага прыродазнаўчага музея, Жэнеўскага альпійскага сада.

У канцы ХІХ ст. у распараджэнні У. У. Адамава была 1021 расліна — акліматызаваныя прадстаўнікі заходнееўрапейскай, азіяцкай і іншай флоры. Праз дзесяцігоддзе калекцыя павялічылася больш як удвая. На аснове гербарыяў і батанічнага саду быў створаны невялікі батанічны музей.

Побач з выкарыстаннем іх для навуковых мэт самім уладальнікам, калекцыі ў Вялікіх Лётцах сталі месцам правядзення даследчай працы мясцовага землеробчага гуртка, іншых вучоных. А з 1924 г. гэтыя калекцыі былі запатрабаваны як вучэбная база Беларускага дзяржаўнага ветэрынарнага інстытута.



*Маёнтак Мерачоўшчына, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка. На заднім плане — Косаўскі палац*

Шырока вядомым у Віцебскай губерні было імя натураліста-самавучкі ***Язэпа Кандратавіча Мароза*** (1856—1933). У яго доме-лабараторыі на хутары Фатынь размяшчалася багатая калекцыя птушак і насякомых, вялікая навуковая бібліятэка. У выніку заняткаў па вывучэнні глеб Беларусі сфарміравалася мінералагічная калекцыя. Падобна У. У. Адамаву, Я. К. Мароз не толькі дзяліўся вынікамі сваёй навуковай працы з калегамі-вучонымі, але і забяспечваў усім зацікаўленым доступ да сабранага. Паводле слоў сучасніка, на хутары Фатынь быў «...жывы, дзеючы музей, у якім нават павярхоўны назіральнік, амаль што апрача сваёй волі атрымлівае шмат ведаў, знаёміцца з раслінамі, іх жыццём і ўвогуле ўпэўніваецца ў карысці ведаў».

З іншых прыродазнаўчых прыватных збораў заслугоўваюць увагі батанічныя калекцыі агранома В. Ельскага ў гадавальніку Ігнацічы Мінскай губерні, а таксама энтамалагічныя калекцыі барона фон Станге ў Гродне і В. дэ Вір’ена ў в. Лішкі Гродзенскай губерні.

Характарызуючы развіццё прыватнага збіральніцтва, нельга абмінуць з’яўленне першых тэхнічных калекцый. Адной з іх валодаў віцебскі інжынер Г. М. Юрчанка, сабраўшы ў пачатку стагоддзя прадметы, якія мелі дачыненне да будаўніцтва чыгунак (кастылі, гонты і пад.), калекцыю чарцяжоў чыгуначных збудаванняў, паштовак з выявамі вакзалаў і каталогаў тэхнічных вытворчасцей. Значную каштоўнасць уяўляла профільная бібліятэка, якая налічвала звыш 1,5 тыс. тамоў.

Першыя спробы аматараў беларускіх старажытнасцей стварыць мемарыяльныя музеі датуюцца XIX ст. Так, у 1857 г. уладальнік Косаўскага палаца Вандалін Пуслоўскі арганізаваў рэстаўрацыйныя работы ў занядбаным маёнтку Мерачоўшчына, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка. Быў ме-

марыялізаваны пакой, дзе нарадзіўся славуты ваенны і палітычны дзеяч. У канцы XIX ст. падобным мемарыяльным пакоем у маёнтку Скокі быў ушанаваны ад'ютант Т. Касцюшкі Ю. Нямцэвіч. Яго нашчадкі сабралі ўзнагароды, пагоны, гадзіннік, дарожны пісьмовы прыбор, калекцыю табакерак, падараваных Напалеонам, Паўлам I, Д. Вашынгтонам, Т. Джэферсанам, а таксама жывапісныя і скульптурныя партрэты Ю. Нямцэвіча. Апошняя гаспадыня Залесся М. Жаброўская падчас абнаўлення свайго палаца таксама захавала рабочы кабінет свайго славутага продка М. К. Агінскага — т. зв. кампазітарскі пакой.

Такім чынам, на беларускіх землях існавала значная колькасць разнастайных прыватных калекцый, якія адыгрывалі важную ролю ў культурным і навуковым жыцці рэгіёна. Грамадска-палітычны і культурны ўздым, рост нацыянальнай самасвядомасці, які намеціўся на беларускіх землях на мяжы XIX і XX стст., абудзіў у найбольш перадавой часткі грамадства жаданне вывучаць гісторыю і прыроду сваёй радзімы, захаваць ад заняпаду помнікі яе мінулага. У шэрагу выпадкаў дзейнасць калекцыянераў характарызавалася не толькі дбайным падборам прадметаў, высокім узроўнем іх навуковай апрацоўкі, але і разуменнем грамадскай значнасці сабранага. Апошняе цалкам тычыцца К. Тышкевіча, І. Луцкевіча, Э. К. Гутэн-Чапскага, І. Х. Каладзеева, Я. К. Мароза і іншых, якія пры жыцці зрабілі свае калекцыі грамадскім набыткам. Пазней іх калекцыі папоўнілі фонды музеяў Беларусі, Расіі і Польшчы.

## 1.2. МУЗЕІ НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ

Канец XVIII ст. азначаны стварэннем першых музеяў пры некаторых свецкіх і духоўных навучальных установах Беларусі. Захоўваючы многія рысы прыватных збораў, гэтыя музеі ўвасаблялі дыдактычны прынцып нагляднасці навучання. Іх калекцыі спрыялі засваенню ведаў, развіццю мастацкага густу, пашырэнню навуковага кругагляду вучняў. Усё гэта сведчыла аб зараджэнні адукацыйна-выхаваўчай сацыяльнай функцыі, якая атрымала далейшае развіццё ў музеях XIX—XX стст. Акрамя таго, некаторыя калекцыі разглядаемых музеяў, дзякуючы дзейнасці выкладчыкаў-энтузіястаў, ператварыліся ў сапраўдныя навуковыя лабараторыі.

Першы такі ***музей*** узнік у ***Гродзенскай медыцынскай акадэміі*** ў другой палове XVIII ст. Яго стварэнне было звязана з дзейнасцю ўпраўляючага каралеўскімі эканоміямі ў ВКЛ А. Тызенгаўза, які ў 1775 г. запрасіў узначаліць акадэмію вядомага французскага медыка і натураліста, доктара батанікі і медыцыны ***Жана-Эмануэля Жылібера*** (1741—1814), які да гэтага




*Ж.-Э.-Жылібер*

працаваў ва ўніверсітэце французскага горада Монпелье. Прымаючы прапанову А. Тызенгаўза, Ж. Э. Жылібер усведамляў усю складанасць працы і грунтоўна падрыхтаваўся да яе. На шляху з Монпелье ў Гродна ён сустракаўся з вядомымі прыродазнаўцамі таго часу, у т. л. з А. Жусьё ў Парыжы, Ж. Банэ ў Жэневе, А. Галерам у Берне. Ад іх ён атрымаў каштоўныя парады, а таксама шмат карысных кніг і дапаможнікаў. У выніку, калі напрыканцы 1775 г. малады вучоны прыехаў у Гродна, ён валодаў вялікай калекцыяй насення і іншымі навуковымі прадметамі.

У маі 1776 г. А. Тызенгаўз заключыў з Ж. Э. Жылiберам дагавор, адзін з пунктаў якога абумоўліваў стварэнне музея натуральнай гісторыі, а другі — батанічнага саду. Трэба заўважыць, што ў пункце пра музей гаворка ішла хутчэй не аб стварэнні, а аб сістэматызацыі і пашырэнні, бо некалькімі гадамі раней А. Тызенгаўз абачліва набыў багаты прыродазнаўчы збор бібліятэкара Радзівілаў К. Магніцкага. Разам з узорамі, якія прывёз Ж. Э. Жылібер з-за мяжы, гэты збор стаў падмуркам будучага музея.

Вялікае значэнне для папаўнення калекцый мелі навуковыя экспедыцыі, якія арганізоўваў Ж. Э. Жылібер у 1776—1777 гг. у заходняй частцы Беларусі, пра што ён сам піша ў працы, прысвечанай мясцовай флоры. Да гэтага ж часу адносяцца і яго першыя палеанталагічныя даследаванні, вынікі якіх таксама ўзбагацілі музей. Акрамя таго, у абмен на ўзоры беларускай флоры і фаўны П. Паласам з Пецярбурга, А. Сахандэрам з Лондана, настаўнікам Ж. Э. Жылібера А. Гуанам з Монпелье ў музей дасылаліся прадметы натуральнай гісторыі і цэлыя зельнікі-калекцыі.

Апісанне музея пры Гродзенскай медыцынскай акадэміі пакінуў нямецкі астраном І. Бернулі, які агледзеў яго ў 1778 г. Да часу яго прыбыцця стварэнне музея натуральнай гісторыі яшчэ не было скончана. Але ўжо тады нямецкага падарожніка ўразіла багацце калекцый мінералаў (каля 10 тыс. адзінак), сярод якіх былі ўзоры жалезных і медных выкапняў, бурштыну, а таксама мастацкія вырабы з некаторых мінералаў. Асобна ў экспазіцыі была прадстаўлена група экспанатаў, якія выкарыстоўваліся для вывучэння фізікі і знаходзіліся пад наглядам вопытнага механіка.

Да кабінета натуральнай гісторыі далучалася багатая бібліятэка, якая налічвала больш за 3 тыс. тамоў кніг па медыцыне і прыродазнаўстве, вы-



*Будынак Гродзенскай медыцынскай акадэміі*

дадзеных у Францыі, Аўстрыі і Германіі. Тут жа экспанаваліся 300 медзярытаў з выявамі малавядомых раслін Альпаў і Пірэнеяў, падрыхтаваных прафесарам батанікі ўніверсітэта Монпелье П. дэ Белевелем у пачатку XVII ст. Ж. Э. Жылібер планаваў зрабіць з медзярытаў адбіткі і дадаць да іх уласны каментарый.

Другі падарожнік — англійскі гісторык В. Кокс — апісвае моцныя ўражанні, якія ў яго засталіся ад наведвання батанічнага саду, створанага дзякуючы клопату Ж. Э. Жылібера. Паводле меркавання англічаніна, сад, які ў 1778 г. налічваў не менш як 1,5 тыс. відаў раслін, быў не горшы за буйнейшыя батанічныя сады Еўропы. Акрамя таго, у будынку акадэміі знаходзіўся анатамічны тэатр, дзе размяшчаліся навукова-дапаможныя матэрыялы па астэалогіі.

Такім чынам, музей пры Гродзенскай медыцынскай акадэміі ўжо ў першыя гады свайго існавання здолеў сабраць рознабаковыя прыродазнаўчыя калекцыі. У 1780 г. Ж. Э. Жылібер дакладаў аб сваёй працы каралю Рэчы Паспалітай Станіславу Аўгусту Панятоўскаму: «Кабінет натуральнай гісторыі ўкамплектаваны ад мінералаў да пладоў, засталіся толькі жывёлы. Пачаць іх збор стане магчымым толькі ў тым выпадку, калі акадэміі будуць прадстаўлены два стралкі, два птушкаловы і добры рыбалоў. Анатамічны кабінет укамплектаваны ў адносінах астэалогіі. Астатняе будзе зроблена па ходу чытання лекцый».

Ж. Э. Жылібер даваў сваім вучням глыбокія веды па медыцыне і натуральнай гісторыі. Аднак наладжаная ім збіральніцкая работа была скіравана не толькі на выкладанне вучэбных дысцыплін, але і на сур'ёзныя навуковыя даследаванні. Французскі натураліст склаў некалькі зельнікаў, прысвечаных дзікарастучым раслінам з ваколіц Гродна і Вільні — найста-

рэйшыя гербарыі з тэрыторыі Беларусі, на падставе якіх ён напісаў кнігу «Flora Lituanika». З'яўленне гэтых зельнікаў азначала нараджэнне батанікі ў Беларусі. Гэта была першая калекцыя раслін Рэчы Паспалітай, складзеная і апісаная адпаведна сістэмы К. Лінея. На ёй выхавалася цэлае пакаленне вядомых у будучым прыродазнаўцаў — Ю. Пачоскі, У. Скрабачэўскі і інш. Акрамя таго, падчас збору калекцый Ж. Э. Жылібер падрыхтаваў фітагеаграфічную карту. Такім чынам, музей можна назваць першай навуковай лабараторыяй па вывучэнні флоры, фаўны і палеанталогіі Беларусі.

Музей знаходзіўся яшчэ ў стадыі станаўлення, калі ў 1781 г., паводле загаду караля, Гродзенская медыцынская акадэмія была далучана да Віленскага медыцынскага калегіума (у будучым — медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта). Нягледзячы на пратэсты А. Тызенгаўза, туды была перавезена большая частка музейных прадметаў і раслін з батанічнага саду. Менш каштоўныя кнігі, астранамічныя, фізічныя і механічныя прадметы перадалі ў Гродзенскае дамініканскае вучылішча. Праз некалькі гадоў, паспешліва пакідаючы медыцынскі калегіум, Ж. Э. Жылібер пакінуў у Вільні свае калекцыі. Пазней, дзякуючы доўгім перамовам, што тычыліся магчымай кампенсацыі, пенсіі, вяртання збораў, частка калекцыі трапіла ў 1790 г. у Ліён. Тое, што засталося, у тым ліку славутыя зельнікі Ж. Э. Жылібера, пасля закрыцця ў 1841 г. Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі было перададзена ўніверсітэту Святога Уладзіміра ў Кіеве.

Арганізацыя музея ў Гродзенскай медыцынскай акадэміі храналагічна супала са стварэннем ***музея Полацкай езуіцкай калегіі***, якую заснаваў кароль Рэчы Паспалітай Стафан Баторый. Ён вярнуў Полацк у склад ВКЛ падчас Лівонскай вайны ў 1579 г. і выдаў ордэну езуітаў зямельны надзел у горадзе. Новыя гаспадары, якія атрымалі разам з зямлёй некалькі кляштараў і цэркваў, былі абавязаны, паводле дагавора, адкрыць семінарыю для выхавання моладзі, што і было зроблена ў хуткім часе. Нягледзячы на войны, бедствы і неспрыяльныя для полацкіх езуітаў палітычныя падзеі, на працягу XVI—XVIII стст. калегіум існаваў і ўзбагачаўся за кошт скарбаў ордэна, а таксама шчодрых ахвяраванняў каралёў і магнатаў.

Стварэнне музея ў Полацкім калегіуме звязана з прыбыццём у горад езуітаў з Заходняй Еўропы. Гэта стала магчыма пасля таго, як у 1774 г. Кацярына II узяла пад апеку езуітаў у межах Расійскай імперыі. Зрабіла яна гэта, кіруючыся палітычнымі матывацыямі, насуперак папскай буле аб скасаванні ордэна. У 70-я гг. XVIII ст. у Полацк накіраваліся людзі розных званняў і ведаў, мастацтваў і рамёстваў: тут былі механікі, мастакі, медыкі, бібліяфілы, археолагі, астраномы, хімікі, лекары, вынаходнікі і ствральнікі розных машын. Многія з іх прывозілі з сабой

прыродазнаўчыя зборы і мастацкія вырабы, розныя механізмы і кнігі.



*Г. Грубер*

Сярод прыбыўшых езуітаў былі вядомы італьянскі архітэктар і мастак Ю. Анжыяліні, доктар гісторыі і археалогіі Сарбоны Д. Рышардо, былы сакратар Адукацыйнай камісіі Г. Пірамовіч. Да найбольш аўтарытэтных выкладчыкаў калегіума адносіўся ***Габрыэль Грубер*** (1738—1805), аўстрыйскі вучоны-энцыклапедыст, мастак і архітэктар. Ён добра ведаў гісторыю, хімію, валодаў шасцю мовамі, быў нядрэнным музыкантам і мастаком. Менавіта ён з'явіўся ініцыятарам сістэматызацыі прывезеных у Полацк калекцый і пабудовы на іх аснове музейных экспазіцый. Пасля ад'езду Г. Грубера ў 1800 г. у Пецярбург на працягу дзевяці гадоў музеем кіраваў Франчэска Рыка — выдатны вучоны і выкладчык з Італіі, які значна павялічыў калекцыі, а пасля яго смерці і да самага выгнання езуітаў з Расіі — таленавіты вучань Г. Грубера, ураджэнец м. Добрае ля Мсціслава Язэп Цітовіч.

У 1788 г. па праекце Г. Грубера да галоўнага будынку калегіі быў прыбудаваны корпус, дзе размясціліся навуковыя кабінеты і музей для выкладчыкаў і студэнтаў. Экспанаты сістэматызавалі ў трох вялікіх залах наступным чынам: карцінная галерэя, кабінеты — фізічны, прыродазнаўчы, астранамічны, хімічны.

У мастацкай галерэі дэманстраваліся партрэты, пейзажы, карціны на міфалагічныя сюжэты, выкананыя алеем і тушшу. Сярод гэтых твораў вылучаліся карціны С. Чаховіча, а таксама партрэты Ж. Кальвіна і М. Лютэра, створаныя невядомымі мастакамі. З твораў старых майстроў тут знаходзіліся карціны П. Рубенса і С. Розы. Цікава, што аўтарам некаторых карцін быў сам Г. Грубер. Інтэр'ер галерэі дапаўнялі некалькі скульптурных партрэтаў, мазаікі, вайсковы рыштунак і некаторыя іншыя рэчы.

У фізічным кабінеце былі сабраны розныя прыборы мясцовай і замежнай вытворчасці, большасць з якіх характарызавалася высокай якасцю вырабу (электрафор больш за шэсць футаў у дыяметры, электрычныя машыны, лейдэнскія банкі, увагнутыя люстэркі). Аднак некаторыя рэчы ў кабінеце мелі вельмі аддаленыя адносіны да навукі. Яны былі цікавы перш за ўсё таленавітым вырашэннем складаных канструктарскіх задач, напрыклад «купідон, які рухаўся ў брычцы; стары, ківаючы галавой; гандляр у краме, які прадае тавар». Гэтыя экспанаты рухаліся пры дапамозе цэлай сістэмы замаскіраваных механізмаў. Мэтай іх дэманстрацыі было імкненне выклікаць чыста вонкавы эфект, уразіць наведвальніка.

Гэтай жа мэце служыла ўмацаваная на сцяне фізічнага кабінета вялікіх памераў «размаўленчая галава». Езуіт, які суправаджаў наведвальнікаў, прапаноўваў задаваць «галаве» розныя пытанні. «Галава» адразу ж адказвала на пытанні субяседніка, прытым на той мове, на якой да яе звярталіся, а выраз твару рэагаваў на тэму размовы адпаведнай мімікай. Гэты цуд меў вельмі просты сакрэт: за сцяной знаходзіўся дасведчаны механік, які прыводзіў у рух механізмы і адказваў на пытанні.

Прыродазнаўчы кабінет вылучаўся багаццем сваіх калекцый. Найбольш поўна ў іх былі прадстаўлены ўзоры горных парод, выкапняў, руд, металаў, каштоўных камянёў. Акрамя таго, мелася 387 узораў парод дрэў, 518 тыпаў раслін, іклы мамантa, закамянелыя рэшткі жывёл, выдатная калекцыя ракавін. Лепшыя асобнікі змяшчаліся ў 20 шкляных рамах, а ўзоры раствораў захоўваліся ў 98 спецыяльных пасудзінах.

У астранамічным кабінеце дэманстраваліся тэлескоп Доланда, выраблены ў Лондане, тры рэфлектарныя тэлескопы, тры астранамічныя гадзіннікі, глобусы, барометры, тэадаліды і г. д.

Асобна былі размешчаны макеты, звязаныя з будоўляй і архітэктурай (драўляныя калоны, гіпсавыя капітэлі, рэшткі пабудоў, мастоў, плацін). У шафах знаходзіліся нумізматычныя зборы, а таксама «калекцыі рэдкасцей» — вырабы з рэдкіх камянёў, мазаіка, зброя, археалагічныя знаходкі.

Завяршаў экспазіцыю хімічны кабінет, які адпавядаў навуковаму ўзроўню свайго часу. Пры ім знаходзіліся розныя прыстасаванні для апрацоўкі металаў.

Музей дапаўняла бібліятэка, якая налічвала каля 35 тыс. тамоў кніг на розных мовах.

Калекцыі музея вельмі хутка ўзбагачаліся дзякуючы пастаяннай увазе выкладчыкаў калегіума, якія надавалі вялікае значэнне кабінетам у вучэбным працэсе. Колькаснаму росту музея таксама спрыяла ўрадавая пастанова, якая прадугледжвала беспадатковы ўвоз з-за мяжы ўсіх інструментаў і кніг, неабходных для вучэбных заняткаў. Часцей за іншых да музейных збораў звярталіся студэнты факультэта вольных навук, дзе разам з філасофіяй і рыторыкай выкладаліся фізіка, хімія, гісторыя і прыродазнаўства.

Аднак значэнне Полацкага музея не абмяжоўвалася рамкамі акадэміі. Музей быў шырока вядомы дзякуючы цікавым экспанатам і незвычайнай пабудове экспазіцыі. На публічныя дэманстрацыі па механіцы, гідрастатыцы, оптыцы, акустыцы, электрычнасці прыбывалі натоўпы людзей. Перад вачыма шляхты, якая жыла ў вёсках, глухой правінцыі, з'яўляўся новы, дзівосны свет цудаў прыроды. Ананімны шляхціц пакінуў наступныя ўражанні ад наведвання полацкага музея: «Пазнаёміўся там са зборамі айца Грубера, асобай дасведчанай у матэматыцы, фізіцы, механіцы ў такой ступені, што ў музеі тамтэйшага кляш-



*Музейны будынак, спраектаваны Г. Груберам для Полацкай езуіцкай акадэміі*

тара паказваў нам шмат інструментаў фізічных і механічных, сваёй рукой зробленых, роўна як і англійскіх. У тым жа музеі бачылі даволі значны збор ракавін і ўзоры мармуру нямецкага, галандскага і расійскага. У тых жа пакоях, прысвечаных навуцы, знаходзяцца ў немалым зборы выкапнёвыя рэчы. Краявіды добрага пэндзля, яго ўласнай рукі. Зброя персідская, нямецкая і польская, таксама выява машыны, пры дапамозе якой быў узведзены ў Рыме купал на саборы Святога Пятра».

У 1780 г. падчас падарожжа па далучаных заходніх губернях калегіум наведала расійская імператрыца Кацярына II. Прыемна здзіўлены ўбачаным у музеі, кабінетах і бібліятэцы быў яе ўнук імператар Аляксандр I, які наведаў Полацк ў ліпені 1802 г.

У 1822 г., пасля выгнання езуітаў з Расіі, будынак Полацкай акадэміі, у тым ліку музей і бібліятэка, быў перададзены ордэну піяраў. Але ўжо праз восем гадоў піяраў перавялі ў Вільню, а ўся іх маёмасць перайшла ў дзяржаўную казну.

У маі 1830 г. з мэтай разбору кабінетаў і музеяў у Полацк была накіравана камісія на чале з прафесарам Пецярбургскага ўніверсітэта Д. Паповым. Вынікам яе дзейнасці з'явілася адпраўка ў Пецярбург лепшых кніг, карцін, мазаік, помнікаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, нумізматыкі, а таксама ўнікальнага сонечнага гадзінніка. Усё гэта было пазней падзелена паміж універсітэтам, Акадэміяй навук і Акадэміяй мастацтваў. Частку музейных каштоўнасцей адабралі дзеля продажу з таргоў, астатняе прызначалася для Полацкага кадэцкага корпуса.

Калі паўстала пытанне аб пераводзе Гродзенскай медыцынскай акадэміі, кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі не выпадкова абраў Вільню.



*Т. Жабро̆ўскі*

Замест езуіцкай акадэміі, дзейнасць якой была скасавана, тут адкрыліся Літоўская галоўная школа (з 1803 г. — універсітэт). Рэарганізацыя духоўнай акадэміі ў свецкую адукацыйную ўстанову спрыяла вызваленню навукі ад сярэдневяковай схаластыкі. Нягледзячы на нядоўгі тэрмін свайго існавання, універсітэт адыграў важную ролю ў развіцці навукі, культуры і асветы на беларускіх землях, паспрыяў фарміраванню навуковай і творчай інтэлігенцыі.

У сярэдзіне XVIII ст. з'яўляюцца ***кабінеты Віленскага ўніверсітэта*** як вынік даследчыцкай і выкладчыцкай дзейнасці яго супрацоўнікаў. Заснавальнікам аднаго з першых падобных кабінетаў — фізікі і астраноміі, а таксама абсерваторыі — быў прафесар Т. Жаброўскі. Прысвячаючы значную частку свайго курса вывучэнню электрычных, магнітных і атмасферных з'яў, ён сабраў калекцыю механізмаў і фізічных прыбораў. Некаторыя з іх былі сканструяваны мясцовымі майстрамі. Пераемнікі Т. Жаброўскага значна ўзбагацілі калекцыю кабінета выпісанымі з Парыжа больш дасканалымі механізмамі.

Прыкладна ў гэты ж час у Літоўскай галоўнай школе пачынаюцца працы па стварэнні мінералагічнага, заалагічнага, анатамічнага і нумізматычнага кабінетаў. Аднак да часу пераўтварэння галоўнай школы ў Віленскі ўніверсітэт гэта праца была яшчэ далёкая да заканчэння. У першай трэці XIX ст. склад кабінетаў пашырыўся, некаторыя з іх набылі навуковую значнасць. Пасля рэарганізацыі новым абліччам вызначаўся заалагічны кабінет. Пашырыўся таксама анатамічны збор. Значныя змены адбыліся ў арганізацыі нумізматычнай калекцыі. Яна пашырылася за кошт калекцый мюнц-кабінета закрытага Валынскага ліцэя, якія былі перададзены ў Віленскі ўніверсітэт, і прыватнай калекцыі магістра філасофіі А. Багаткевіча. Паводле каталога 1831 г. калекцыя налічвала 21 439 адзінак. Да калекцыі манет і медалёў далучалася невялікая калекцыя рэдкасцей.

Далейшыя работы па пашырэнні кабінетаў Віленскага ўніверсітэта былі спынены з прычыны паўстання 1831 г. Пасля яго падаўлення ўніверсітэт быў закрыты, а большасць калекцый размеркавана па іншых навучальных установах.



***Будынак Горы-Горацкага земляробчага інстытута***

Вялікае значэнне пытанням распаўсюджвання і практычнага ўкаранення перадавога сельскагаспадарчага вопыту ў беларускіх губернях надавалі стваральнікі ***музея пры Горы-Горацкім земляробчым інстытуце.***

Земляробчая школа, заснаваная ў 1840 г. у Горы-Горках Магілёўскай губерні і пераўтвораная праз восем гадоў у сельскагаспадарчы інстытут, была адной з нямногіх вышэйшых навучальных устаноў Беларусі XIX ст. Стварэннем інстытута царскі ўрад спрабаваў вывесці з цяжкага і працяглага крызісу гаспадарку беларускай шляхты, а таксама некаторым чынам кампенсаваць закрыццё Віленскага ўніверсітэта. З цягам часу гэта навучальная ўстанова ператварылася ў найбуйнейшы ў імперыі цэнтр па пашырэнні сельскагаспадарчых ведаў.

Стварэнне Горы-Горацкага музея было звязана з фарміраваннем сельскагаспадарчай адукацыі ў Расійскай імперыі. Імкненне да нагляднасці навучання абумовіла адкрыццё сельскагаспадарчых кабінетаў і музеяў у Пецярбургскім земляробчым вучылішчы, Лясным і Межавым інстытутах, некаторых універсітэтах. Але арганізацыі музея ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце надавалася асаблівая ўвага.

У 1846 г. на разгляд вучонага камітэта Міністэрства дзяржаўных маёмасцей быў прадстаўлены праект прафесара аграноміі Горы-Горацкай земляробчай школы Б. А. Цалінскага аб стварэнні пры школе музеума айчыннай сельскагаспадарчай прамысловасці. Неўзабаве пасля зацвярджэння праекта музея ў пачатку 1847 г. пачалася планавая збіральніцкая праца. У часопісе Міністэрства дзяржаўных маёмасцей было надрукавана настаўленне для адбору і перасылкі розных прадметаў у Горы-Горкі. Пачалося набыццё найбольш каштоўных экспанатаў на айчынных і замежных сельскагаспадарчых выставах. Вялікая ўвага надавалася

збіральніцкай працы, якая павінна была праводзіцца самімі выкладчыкамі і студэнтамі ў Магілёўскай губерні.

Падмурак музея быў закладзены ў першыя тры гады яго існавання. Большасць прадметаў была даслана ў музей праз палаты дзяржаўных маёмасцей. Аб інтэнсіўнасці папаўнення «музеума айчыннай прамысловасці», а таксама навуковых кабінетаў сведчаць наступныя лічбы (гл. табл.).

**Структура сельскагаспадарчага музея пры Горы-Горацкім земляробчым інстытуце**

| Назва | Колькасць прадметаў на 1850 г. |
|---|---|
| Музей айчыннай сельскай прамысловасці | 1790 |
| Кабінет земляробчых прылад і машын | 432 |
| Фізічны кабінет | 146 |
| Хімічны кабінет і лабараторыя | 1627 |
| Заалагічны кабінет | 5562 |
| Батанічная калекцыя | 1901 |
| Мінералагічны кабінет | 2287 |
| Анатаміка-паталагічны кабінет | 386 |
| Калекцыя геадэзічных прылад і інш. | 42 |
| Ветэрынарныя інструменты | 116 |
| Усяго | 14 289 |

Музей і кабінеты папаўняліся ў наступныя гады. У 1851 г. на Лонданскай сусветнай выставе для музеума былі набыты сельскагаспадарчыя прылады і машыны, выраблeныя ў Вялікабрытаніі і ЗША. Батанічная калекцыя музея значна пашырылася з дапамогай прафесара ***І.-А.-Сцебута***. Адначасова новы музей прымаў ахвяраванні ад прыватных асоб і таварыстваў.

Мэтанакіраваная збіральніцкая праца, пільная ўвага да Горы-Горацкага музея з боку кіраўніцтва інстытута, а таксама шчодрае фінансаванне ў хуткім часе далі свой плён. Паводле сведчання сучасніка, ужо ў 1857 г. «музеум меў багатую і прыгожа размешчаную калекцыю ўсяго, што мае дачыненне да сельскай гаспадаркі і сумежных з ёю галін вытворчасці, а таксама прыродазнаўчых навук; музеумы іншых вядомых інстытутаў не змаглі б параўнацца ў багацці і дасканаласці з калекцыямі Горы-Горацкага».

Музей і кабінеты знаходзіліся на другім паверсе галоўнага корпуса інстытута і былі адчынены для наведвання два дні ў тыдзень. Падчас агляду выкладчыкі інстытута — загадчыкі кабінетаў — давалі тлумачэнні, адказвалі на пытанні студэнтаў і наведвальнікаў. У сваю чаргу, студэнты праводзілі эксперыментальныя работы па выкарыстанні і ўдасканаленні прылад і машын, займаліся ў кабінетах, што спрыяла засваенню імі практычных ведаў.

*І. А. Сцебут*



Аўдыторыя музея не абмяжоўвалася спецыялістамі і студэнтамі. З калекцыямі знаёміліся землеўласнікі з усіх беларускіх губерняў, якія ўдзельнічалі ў Горы-Горацкіх сельскагаспадарчых з'ездах, што рэгулярна праводзіліся на базе інстытута. Іх арганізатары бачылі ў музеі важны сродак распаўсюджвання прагрэсіўнага вопыту і ўключылі ў правілы правядзення з'ездаў пункт аб абавязковай дэманстрацыі ў зале пасяджэнняў лепшых прадметаў калекцый. Такім чынам, Горы-Горацкі музей, з'яўляючыся буйнейшым сельскагаспадарчым зборам у тагачаснай Расійскай імперыі, меў перспектыву стаць не толькі вучэбным, але і навукова-практычным сельскагаспадарчым цэнтрам.

Далейшыя работы спыніліся ў сувязі з паўстаннем 1863 г. Горы-Горкі занялі атрады паўстанцаў, якіх падтрымала студэнцтва. У тым жа годзе Горы-Горацкі сельскагаспадарчы інстытут быў закрыты, а яго вучонай радзе было даручана правесці адбор вучэбных дапаможнікаў для дастаўкі ў Пецярбург. Лепшыя адабраныя калекцыі, мадэлі і інструменты ацанілі ў 36 590 рублёў і праз некаторы час у 76 скрынях перавезлі ў Лясны інстытут у Пецярбург. Менш каштоўныя рэчы пакінулі ў Горы-Горках, частка з якіх была прададзена з таргоў.

З'яўленне кабінетаў і музеяў пры вышэйшых навучальных установах Беларусі сведчыла аб пачатку якасных змен у станаўленні музея як сацыякультурнага інстытута. Сабраныя ў іх калекцыі вылучаліся высокім узроўнем навуковай арганізацыі і, што самае галоўнае, актыўна выкарыстоўваліся ў навучальным працэсе, гэта значыць, мелі камунікатыўны характар. Апошняя акалічнасць дазваляе ўпершыню ў дачыненні да гэтых збораў ужыць тэрмін «музей». Нават асветніцкія прыватныя зборы, якія існавалі на мяжы XVIII і XIX стст., былі даступныя вельмі абмежаванаму колу асоб.

У першай палове XIX ст. побач з музеямі вышэйшых навучальных устаноў з'явіліся ***кабінеты і вучэбныя калекцыі ў сярэдніх навучальных установах Беларусі***.




*Мінская мужчынская гімназія*

Да 1773 г. пытанні адукацыі ў Рэчы Паспалітай амаль цалкам знаходзіліся ў кампетэнцыі касцёла. Большасць касцельных і кляштарных школ была пазбаўлена самых элементарных наглядных дапаможнікаў. Найбольш распаўсюджаным дыдактычным прыёмам было чытанне падручніка, яго тлумачэнне і завучванне на памяць.

Уключэнне беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі храналагічна супала са стварэннем Кацярынай II дзяржаўнай сістэмы народнай адукацыі. Статут народных вучылішчаў, які быў зацверджаны ў 1786 г., прадугледжваў адкрыццё свецкіх навучальных устаноў у губернскіх і павятовых гарадах. Да ліку прагрэсіўных бакоў гэтай ініцыятывы трэба аднесці пункт статута, у якім настаўнікам раілася апісваць поспехі навук у губерні, заўважаючы стан альбо павелічэнне кнігасховішчаў і збораў натуральных рэчаў і іншых дапаможнікаў пры вучылішчах. Фарміраванню кабінетаў пры губернскіх гімназіях спрыяла і ўрадавая пастанова, якая абавязвала губернатараў клапаціцца аб набыцці для вучылішчаў кніг, картаў і мясцовых твораў прыроды і мастацтва.

Вучэбнымі калекцыямі, якія змяшчалі прадметы натуральнай гісторыі і фізічныя прыборы, у канцы XVIII ст. валодалі Магілёўскае і Віцебскае галоўныя вучылішчы. Фізіка-матэматычны і прыродазнаўчы кабінеты Мінскай гімназіі, сфарміраваныя ўжо праз дзесяць гадоў пасля адкрыцця гімназіі ў 1803 г., таксама належалі да ліку старэйшых вучэбных калекцый Беларусі. Крыху пазней, у 1834 г., была заснавана Гродзенская гімназія. На момант адкрыцця там знаходзіліся фізічная, мінералагічная і заалагічная калекцыі, атрыманыя ў спадчыну ад закрытага расійскімі ўладамі Гродзенскага дамініканскага вучылішча.

На працягу першай паловы XIX ст. гімназічныя кабінеты ў цэлым захавалі сваю структуру. Саступаючы якасна і колькасна зборам вышэй-

шых навучальных установ, яны адыгралі важную ролю ў паляпшэнні выкладання прыродазнаўчых дысцыплін.

Развіццё капіталістычных адносін у Расійскай імперыі ў другой палове XIX ст. — рост прамысловасці, чыгункі, інтэнсіфікацыя і спецыялізацыя сельскай гаспадаркі — патрабавала павышэння ўсеагульнага ўзроўню адукацыі. Узрастала патрэба ў спецыялістах з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй, прафесійна падрыхтаваных фабрычных рабочых.

Неабходнасць прыстасавання сістэмы народнай адукацыі да сацыяльна-эканамічных умоў асабліва востра адчувалася ў Беларусі і падтрымлівалася прагрэсіўнай часткай грамадства. Тым часам царскі ўрад, напалоханы размахам нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 г., патрабаваў ад кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі ідэалагічнага выпраўлення паўстаўшага краю, выхавання народа ў духу праваслаўя і вернасці цару. Нямала сіл і сродкаў было аддадзена барацьбе з польска-каталіцкім уплывам, правядзенню русіфікатарскай палітыкі, якая пакінула беларускую мову і культуру па-за школьным класам, іншым ідэалагічным мерапрыемствам. Тым часам арганізацыя навучання, яго якасць заставаліся ў Беларусі на нізкім узроўні, нават у параўнанні з цэнтральнымі губернямі імперыі[1]. Не хапала настаўнікаў, пачатковых і сярэдніх школ, адсутнічалі ўніверсітэты.

Адным з найважнейшых патрабаванняў да школы ў другой палове XIX — пачатку XX ст. было развіццё прынцыпу нагляднасці навучання. Дзякуючы нагляднасці навучэнцы атрымлівалі канкрэтныя ўяўленні аб навакольнай рэчаіснасці, законах прыроды і грамадства, вывучаемых прадметах. Выкарыстанне гэтага прынцыпу спрыяла жываму ўспрыманню, замацаванню ведаў, павышала цікавасць да заняткаў. У гэты час у навучальных установах Беларусі з'явілася вялікая колькасць вучэбных кабінетаў і калекцый, якія складаліся са спецыфічных экспанатаў (пераважна наглядныя дапаможнікі і педагагічная літаратура). Перш за ўсё гэта тычыцца сярэдніх навучальных установ, якія да азначанага часу значна павялічылі сваю колькасць. Розныя па колькасным і якасным складзе кабінеты фізікі, прыродазнаўства, механікі і малявання знаходзіліся ў мужчынскіх і жаночых гімназіях, рэальных і камерцыйных вучылішчах, духоўных і настаўніцкіх семінарыях. Большасць гэтых збораў, якія змяшчалі, як правіла, невялікую колькасць аўтэнтычных прадметаў, папаўняліся эпізадычна і не мелі музейнага значэння. Тым не

[1] Гэту думку можна праілюстраваць наступнымі лічбамі: па даных перапісу 1897 г., у Пецярбургскай губерні пісьменнымі былі 62 % насельніцтва; у Маскоўскай губерні — 49 %; у той час як у Гродзенскай — 39 %; у Віцебскай — 33 %; у Мінскай — 24 %; у Магілёўскай — 22 %.

менш у некаторых сярэдніх навучальных установах былі зроблены практычныя крокі па стварэнні сапраўдных музеяў гісторыка-краязнаўчага, мастацкага і педагагічнага профіляў.

Да ліку апошніх адносіцца ***археалагічны музей полацкага кадэцкага корпуса***, заснавальнікам і галоўным захавальнікам якога быў падпалкоўнік А. В. Русет. Падмуркам гэтага музея, які карыстаўся шырокай вядомасцю, сталі калекцыі, сабраныя краязнаўцамі-аматарамі, афіцэрамі І. І. Даўговым, А. К. Марэлем, Л. Л. Кірпічовым. Экспазіцыю археалагічных помнікаў дапаўнялі старажытныя фізічныя і астранамічныя прыборы, якія засталіся ад былой езуіцкай акадэміі. Музей быў адкрыты для наведвальнікаў. У 1911 г. адзін з экскурсантаў у сваіх нататках аб музеі адзначыў, што «пры поглядзе на яго ўзгадваюцца некаторыя куткі Публічнай бібліятэкі і Эрмітажа».

У 1911 г. стварэнне ***музея мясцовых старажытнасцей*** распачалі навучэнцы і выкладчыкі мужчынскай гімназіі ў *г. Клімавічы* Магілёўскай губерні. Першымі экспанатамі ў ім былі матэрыялы курганных раскопак, якія праводзіліся ў раёне Клімавіч і Хоцімска, а таксама старажытныя рускія, польскія і нямецкія манеты. Прыкладна ў гэты ж час пачаў фарміравацца ***збор Гродзенскага рэальнага вучылішча***. Яго характар акрэсліла буйная калекцыя помнікаў каменнага веку, якую ахвяраваў для стварэння музея мясцовы краязнаўца і настаўнік Я. Ф. Арлоўскі. У 1915 г. збіранне і сістэматызацыю музейных матэрыялаў па шырокай праграме распачалі выкладчыкі і выхаванцы духоўнай семінарыі ў Мсціславе Магілёўскай губерні.

Сведчаннем канчатковага прызнання дыдактычнага прынцыпу нагляднасці навучання, які набываў асаблівае значэнне падчас выкладання дзецям малодшага ўзросту, было стварэнне ў канцы першага дзесяцігоддзя XX ст. ***педагагічных музеяў пры ўсіх настаўніцкіх семінарыях Беларусі***. Галоўнай мэтай гэтых музеяў была падрыхтоўка семінарыстаў — будучых настаўнікаў пачатковых школ да выкарыстання навучальных дапаможнікаў у працэсе выкладання. Калекцыі педагагічных музеяў шырока выкарыстоўваліся таксама на курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў пачатковых школ, якія праводзіліся пры семінарыях.

Узорам для стваральнікаў педагагічных музеяў пры настаўніцкіх семінарыях быў ***педагагічны музей пры ўправе Віленскай навучальнай акругі***, заснаваны ў 1903 г. На працягу першых пяці гадоў яго існавання быў назапашаны каштоўны вопыт работы з выкладчыкамі і навучэнцамі акругі, што праводзілася на базе шматлікіх калекцый навучальных дапаможнікаў і бібліятэкі. Гэты вопыт выкарыстоўваўся падчас арганізацыі музеяў пры навучальных установах.

У 1909 г. педагагічныя музеі былі заснаваны ў Свіслачы Гродзенскай і Рагачове Магілёўскай губерняў, у 1910 г. — у настаўніцкіх семінарыях

Маладзечна, Нясвіжа і Полацка. Стварэнне іх шчодра фінансавалася кіраўніцтвам навучальнай акругі. Для музеяў былі знойдзены спецыяльныя памяшканні або асобныя класы, якія мелі дастатковую экспазіцыйную плошчу. Вельмі хутка папаўняліся калекцыі. Напрыклад, у 1914 г. музей Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі налічваў 1316 экспанатаў і 535 тамоў педагагічнай літаратуры.

Усё гэта спрыяла павелічэнню аб'ёму асветніцкай работы, у якой стваральнікі педагагічных музеяў бачылі галоўны сэнс іх існавання. Значных поспехаў у гэтай галіне дасягнуў музей Рагачоўскай семінарыі, у стварэнні якога браў непасрэдны ўдзел таленавіты педагог Д. А. Сцяпура, вядомы сваёй прыхільнасцю ідэям К. Д. Ушынскага аб нагляднасці навучання. У справаздачы семінарыі за 1912 г. мы чытаем: «Музей, які валодае шматлікімі салiднымі выданнямі, даваў магчымасць выкарыстоўваць іх падчас выкладання ў самой семінарыі і пачатковым пры ёй вучылішчы, на практычных уроках музей шырока адкрываў свае вітрыны практыкантам, якія дэталёва знаёміліся з лепшымі дапаможнікамі па дадзеным прадмеце. Акрамя таго, саміх выхаванцаў далучалі да актыўнага ўдзелу ў рабоце музея і такім чынам падрабязна знаёмілі з яго зместам. На паказальных уроках выкладчыкаў і курсантаў выкарыстоўваліся шматлікія музейныя дапаможнікі».

Падобную карціну можна было назіраць у музеях іншых семінарый. У кожным з іх, акрамя навучэнцаў, штогод удасканальвалі сваё прафесійнае майстэрства звыш 100 выкладчыкаў.

Востры недахоп кваліфікаваных настаўнікаў пачатковых школ прымушаў кіраўніцтва Віленскай акругі ажыццяўляць мерапрыемствы па паляпшэнні іх падрыхтоўкі. Разам з адкрыццём новых педагагічных навучальных устаноў, арганізацыяй розных выставаў, курсаў і іспытаў на званне настаўніка важным сродкам павышэння якасці навучання з'яўляліся педагагічныя музеі, якія ствараліся пры пачатковых навучальных установах невялікіх павятовых гарадоў. Можна казаць, прынамсі, аб дзесяці падобных музеях перадваенных гадоў. У адрозненне ад музеяў настаўніцкіх семінарый, накіраваных перш за ўсё на работу з навучэнцамі, гэтыя музеі адрасаваліся ў першую чаргу настаўнікам вясковых пачатковых школ. Яны мелі сціплыя калекцыі, якія складаліся пераважна з выяўленчых матэрыялаў і давалі на ўроках навыкі выкарыстання наглядных дапаможнікаў, знаёмілі настаўнікаў з найноўшай педагагічнай літаратурай.

Падобным па сваіх мэтах і задачах быў ***музей наглядных дапаможнікаў***, адкрыты ў 1910 г. ***пры мінскіх жаночых педагагічных курсах***.

У пачатку XX ст. пытанні арганізацыі музеяў навучальных устаноў неаднаразова абмяркоўваліся кіраўніцтвам Віленскай навучальнай акругі,

на сходах і з’ездах педагагічнай грамадскасці, у перыядычным друку. Энтузіясты музейнай справы распрацоўвалі праграмы, вызначалі формы і метады работы з навучэнцамі, шукалі аптымальныя формы арганізацыі школьнага музея. У гэтай сувязі варта ўзгадаць праграму стварэння краязнаўчых школьных музеяў, якая з’явілася на старонках афіцыйнага органа Віленскай навучальнай акругі ў 1914 г. Яе аўтары сцвярджалі, што само жыццё вызначае настаўніку задачу — усебакова вывучаць мясцовы край як з мэтай педагагічнай, так і з мэтай самаадукацыі і збліжэння з мясцовым насельніцтвам. Пры гэтым лічылася, што вынікі падобнай дзейнасці павінны ўвасобіцца ў музейных калекцыях, якія характарызавалі прыроду, гісторыю і эканоміку краю. Асаблівая роля ў камплектаванні фондаў музеяў адводзілася навучэнцам, якім прапаноўвалі збіраць матэрыялы падчас краязнаўчых экскурсій. Такім чынам, праграма прапаноўвала мадэль школьнага музея як цэнтра арганізацыі краязнаўчай работы, мадэль, якая была рэалізавана на практыцы ўжо ў 20-я гг. XX ст.

Блізкімі па сваёй дзейнасці да музеяў навучальных устаноў былі музеі земстваў. Земскі вопыт у галіне музейнай справы заслугоўвае пільнай увагі. Нягледзячы на нядоўгі перыяд існавання земстваў у Мінскай, Магілёўскай і Віцебскай губернях (1911—1917), земствы ў асобе сваіх супрацоўнікаў — настаўнікаў, урачоў, аграномаў — наладзілі музейнае будаўніцтва, што тлумачылася іх арганічнай патрэбай у музеях як сродку павышэння агульнакультурнага ўзроўню насельніцтва. Земскія музеі ствараліся па распрацаваным плане, і як вынік — сабраныя калекцыі вылучаліся паслядоўнасцю і сістэматычнасцю. Свядома, згодна з аб’ектыўнымі патрабаваннямі, абіраўся профіль музеяў, праводзілася іх далейшая спецыялізацыя. Аднак галоўную ўвагу стваральнікі земскіх музеяў надавалі асветніцкай дзейнасці, імкнуліся весці работу з максімальна шырокай аўдыторыяй, перш за ўсё — вясковай. Усё гэта сведчыла аб рэалізацыі земствамі прагматычнай канцэпцыі музея, якая не раз прапаноўвалася на працягу XIX ст. і падразумявала яго ўдзел у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці краіны.

Музейныя работы былі распачаты адразу ж пасля стварэння ў беларускіх губернях земстваў. У 1911 г. структура ***перасоўнага педагагічнага музея*** была распрацавана ***быхаўскай павятовай управай***. Адначасова з быхаўскім камплектаваліся калекцыі ***перасоўнага музея наглядных дапаможнікаў у Лепелі***. Багаты ***музей наглядных дапаможнікаў***, які налічваў дваццаць аддзелаў, структураваных згодна з навучальнымі дысцыплінамі, мела ***магілёўская губернская ўправа***. ***Педагагічны музей*** з культурна-гістарычным і этнаграфічным аддзеламі з лютага 1916 г. ствараўся ***магілёўскай павятовай земскай управай***.



*Земскі сельскагаспадарчы музей у Мінску*

У студзені 1913 г. заснаваны ***Земскі сельскагаспадарчы музей у Мінску***. На думку яго стваральніка губернскага агранома І. Я. Некляпаева, музейныя экспазіцыі павінны былі дэманстраваць матэрыялы, якія б усебакова і поўна характарызавалі мясцовую сельскую гаспадарку. На працягу 1913 — пачатку 1914 г. першыя паступленні ў музей выкарыстоўваліся на курсах, якія наладжваліся для сялян, настаўнікаў пачатковых школ, меліяратараў і інш. З восені 1914 г. пасля заняцця будынка музея ваенным ведамствам работы па камплектаванні калекцый былі спынены.

У тым жа студзені 1913 г. пасяджэнне ***віцебскага губернскага земства*** прыняло рэзалюцыю, згодна з якой галоўнай бліжэйшай задачай санітарнага аддзялення на чале з урачом І. А. Сушкевічам было стварэнне ***перасоўнага санітарна-гігіенічнага музея-выставы***. Аўтары рэзалюцыі бачылі ў музеі галоўны сродак папулярызацыі ведаў па санітарыі і гігіене, мяркуючы, што нагляднасць больш істотная за доўгія чытанні і лекцыі. Сабраныя матэрыялы дазволілі ў перадваенныя месяцы вясны і лета 1914 г. правесці пробныя выставы, на якіх знаёмілі з асновамі медыцынскіх ведаў, гігіены, барацьбы з інфекцыямі, прапагандавалі здаровы лад жыцця.

Такім чынам, з канца XVIII і да пачатку XX ст. пры навучальных установах Беларусі былі сфарміраваны каштоўныя краязнаўчыя, мастацкія і педагагічныя калекцыі, якія адыгрывалі важную ролю ў выкладанні асобных навучальных дысцыплін, у прафесійнай падрыхтоўцы, а таксама ў павышэнні агульнакультурнага ўзроўню навучэнцаў. Стваральнікі музеяў дадзенай групы імкнуліся пабудаваць навучанне на прынцыпах самастойнасці і творчасці, давалі шырокае поле для выяўлення здольнасцей. У выніку іх работы былі закладзены асновы самастойнай галіны дзейнасці музеяў — музейнай педагогікі.

## 1.3. МУЗЕІ НАВУКОВЫХ ТАВАРЫСТВАЎ

Важную ролю ў вывучэнні беларускіх зямель адыгрывалі музеі навуковых таварыстваў.

Пасля закрыцця Віленскага ўніверсітэта навуковыя таварыствы, якія на добраахвотнай аснове аб'ядноўвалі спецыялістаў і аматараў — гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, прыродазнаўцаў, — былі галоўнымі цэнтрамі па ўсебаковым вывучэнні Беларусі. Падчас з'яўлення першых беларускіх навуковых таварыстваў музеі ў Еўропе ўжо сталі часткай грамадскага жыцця, адным са сродкаў вырашэння навуковых і асветніцкіх задач. Большасць навукоўцаў і аматараў, якія гэта ўсведамлялі, адводзілі музейнай справе важную ролю ў сваёй дзейнасці.

Найбольш актыўна навуковыя таварыствы Беларусі ўдзельнічалі ў працэсе стварэння музеяў у пачатку XX ст., калі развіццё навуковых даследаванняў падштурхоўваў агульны эканамічны і культурны ўздым ва ўсёй імперыі. Першыя спробы распаўсюджваць лепшы сельскагаспадарчы вопыт музейнымі сродкамі рабіліся на хутары Залучассе ў Віцебскай губерні ў 30-я гг. XIX ст. Гэтыя спробы былі звязаны з Беларускім вольным эканамічным таварыствам (1826—1839). Намаганнямі ўрача, сябра таварыства К. І. Гібенталя, Залучассе ў сціслыя тэрміны пераўтварылася ў сапраўдную эксперыментальную станцыю. Вядома аб існаванні там не толькі доследных палёў, сельскагаспадарчай школы для сялянскіх дзяцей, вялікай агранамічнай бібліятэкі, але і збору мадэлей сельскагаспадарчых машын. Меўся на хутары таксама кабінет глеб.

Аднак першы агульнадаступны музей з'явіўся праз два дзесяцігоддзі дзякуючы намаганням сяброў Віленскай археалагічнай камісіі.

Сярэдзіна XIX ст. характарызавалася складанай, а часам супярэчлівай сітуацыяй, якая склалася ў Беларусі. Палітыка Пецярбурга ў адносінах да насельніцтва былой Рэчы Паспалітай пасля паўстання 1831 г. негатыўна адбівалася на культурным развіцці «паўночна-заходняга краю» і ўскладняла працэс фарміравання нацыянальнай навуковай інтэлігенцыі. У той жа час узнікла ўстойлівая цікавасць да гістарычнага мінулага і старажытнасцей беларускіх зямель. Культурным цэнтрам гэтых зямель па-ранейшаму заставалася Вільня. Тут атрымлівалі адукацыю вядомыя навукоўцы і краязнаўцы — Я. Тышкевіч, А. Кіркор, У. Сыракомля і інш. Іх намаганнямі выдаваліся геаграфічныя апісанні і археаграфічныя даведнікі, праводзіліся сістэматычныя археалагічныя раскопкі.

Гэтыя работы прыводзілі да ідэі стварэння музея, дзе б вывучаліся, захоўваліся, а таксама папулярызаваліся сярод шырокіх колаў грамадства ўсе сабраныя матэрыялы. На ідэю стварэння музея паўплываў таксама прыклад ужо створаных на той час публічных гістарычных музеяў у Рызе,

Львове, Кракаве. Можна меркаваць, што сябры Віленскай археалагічнай камісіі ведалі аб вопыце стварэння музея ў Арэнбургу. Апошні сфарміраваўся дзякуючы намаганням беларускага вучонага і грамадскага дзеяча, выхаванца Мінскай гімназіі і Віленскага ўніверсітэта **Тамаша Зана** (1796—1855), які пасля вяртання з арэнбургскай ссылкі ў 1841 г. жыў у Беларусі.



***Т.-Зан***

Т. Зан быў адным з першых у Расійскай імперыі, хто ўсвядоміў неабходнасць стварэння агульнадаступнага музея. Знаходзячыся ў ссылцы, ён у 1830 г. напісаў работу пад назвай «Аб мэтах і спосабах утрымання прапануемага Музеума ў Арэнбургу», якую ў тым жа годзе прадставіў мясцоваму ваеннаму губернатару. Калі меркаваць па назве работы, Т. Зан ставіў перад сабой толькі практычную задачу. Аднак на самай справе толькі другая частка праекта мела прыкладны характар і адпавядала сваёй назве. У першай жа частцы, якая складалася з чатырох параграфаў, быў выкладзены план стварэння нацыянальнага музея на базе сеткі рэгіянальных краязнаўчых музеяў.

У першым параграфе, які называўся «Прычыны і мэта стварэння музеяў», Т. Зан разважае пра шматвобразнасць і адзінства прыроды, сувязь з ёй чалавека. Звяртаючы ўвагу на важнасць вывучэння навакольнага свету, асаблівую ролю ў гэтым ён надае «збіранню ў адно месца ўсіх прадметаў прыроды і прамысловасці, здольных даць разуменне ўласцівасцей, відах, зменах зямлі і яе твораў, аб магчымасцях і дзейнасці жывёл і людзей».

У другім параграфе «Карыснасць і недахопы створаных музеяў» Т. Зан завяршае характарыстыку музея як грамадскага інстытута. Да ўзгаданай вышэй сацыяльнай функцыі дакументавання грамадскіх і прыродных працэсаў дадаецца функцыя асветніцкая. Адзначаючы важную ролю музеяў у станаўленні такіх навуковых дысцыплін, як этнаграфія, геалогія, заалогія, батаніка, Т. Зан рэзка крытыкуе музейную практыку пачатку XIX ст. Ён выступае супраць абмежаванасці доступу да музейных збораў, а таксама іх элітарнасці, скептычна ставіцца да спробаў паказаць у экспазіцыях сталічных музеяў аб'ектыўную карціну жыцця ў розных рэгіёнах імперыі. На яго думку, гэтыя спробы не прынясуць поспеху, бо адсутнічае планавае камплектаванне музейных збораў, якія папаўняюцца толькі за кошт выпадковых пакупак, калекцый падарожнікаў і г. д. Класіфікацыя вучонымі сабраных у музеях прадметаў вядзецца таксама адвольна і суб'ектыўна.

Т. Зан выказваў сумненне адносна мэтазгоднасці існавання музеяў, якія напоўнены разнастайнымі прадметамі, штучна ўзятымі з натуральнага асяроддзя. Ён пісаў: «Прадметы прыроды і мастацтва, адарваныя ад сваіх прыналежнасцяў, ад прычын, што паспрыялі іх з’яўленню, ад вынікаў, што яны стварылі і падрыхтавалі, вынутыя навобмацак з прыгожага і прывабнага будынка, як цэгла, як капітэлі храмаў, як рэшткі статуй — здзіўляюцца роднаснаму суседству, у якім з цяжкасцю знаходзяцца. Краіны ж і месцы, з якіх гэтыя рэдкасці вывезены, спустошоныя, часам губляюць свой знешні выгляд, сваю папярэднюю цікаўнасць і важнасць». Няцяжка заўважыць, што думка, выказаная ў гэтым урыўку, пераклікаецца з ідэяй «жывога музея», сфармуляванай сучаснымі тэарэтыкамі музейнай справы, што ўвасобілася ў практыцы экамузеяў.

Трэці параграф — «Неабходнасць музея народнага» — з’яўляецца цэнтральным ва ўсім праекце Т. Зана. У ім ідзе размова пра неабходнасць стварэння нацыянальнага музея, дзе знайшлі б сваё адлюстраванне прырода і эканоміка імперыі. Аўтар з жалем пісаў пра абыякавасць нават адукаваных слаёў грамадства да вывучэння роднага краю («помнікі грэкаў і рымлян ведаем лепш, чым нашых славян»). На яго думку, гэта не толькі шкодна для развіцця навукі і адукацыі, але зніжае эфектыўнасць кіравання дзяржавай. Нацыянальны музей, на думку аўтара, павінен з’яўляцца своеасаблівай мікрамадэллю краіны, мець вялікае навуковае і практычнае значэнне і, самае галоўнае, спрыяць асвеце народа. Разумеючы маштабнасць задуманага праекта, Т. Зан пісаў, што яго ажыццяўленне не можа быць справай аднаго года, а павінна быць вынікам доўгатэрміновых і скаардынаваных у розных рэгіёнах імперыі намаганняў. Гэта думка атрымала далейшае развіццё ў чацвёртым параграфе, які называўся «Музеі правінцыйныя як адзіны сродак стварэння нацыянальнага музея».

Аўтар лічыў, што нацыянальнаму музею, калі ён будзе створаны па ўзорах ужо існуючых музеяў у Пецярбургу і Маскве, будуць уласцівы ўсе недахопы апошніх. У прыватнасці, такі музей не зможа вырашыць дзве важныя задачы: 1) адэкватна адлюстроўваць у сваіх калекцыях гісторыю, прыроду і прамысловасць розных, асабліва аддаленых рэгіёнаў краіны; 2) забяспечыць практычную даступнасць экспазіцыі для большасці правінцыяльнага насельніцтва. Т. Зан прапанаваў сваё, арыгінальнае рашэнне гэтай задачы, а менавіта: стварэнне нацыянальнага музея ў сталіцы як цэнтра разгалінаванай сеткі рэгіянальных музеяў.

Рэгіянальныя, альбо правінцыйныя, музеі разглядаліся Т. Занам як творчыя лабараторыі нацыянальнага музея і складалі з ім адзінае цэлае. Яны, з аднаго боку, стануць крыніцай па вывучэнні роднага краю, а з другога — з іх дапамогаю «веданне прадметаў прыроды і мастацтваў

працей распаўсюдзіцца ў жыцці народным, бо не толькі навучэнец і пісьменны, але і просты араты, заводчык і рамеснік, купец і работнік будуць мець блізкую і простую магчымасць убачыць у абласным сваім горадзе сабраныя ў адно месца цікавасці краю свайго, якія маюць шчыльную сувязь з яго намерамі, працай і дабрабытам».

Такім чынам, Т. Зан фактычна прапанаваў накід цэлай дзяржаўнай праграмы, ажыццяўленне якой у значнай ступені паспрыяла б развіццю музейнай справы ў Расійскай імперыі. Лагічна паўстае пытанне: наколькі рэальна было ажыццяўленне такой праграмы ў феадальнай прыгонніцкай краіне? Тым больш што першая частка пазбаўлена канкрэтыкі, маючы хутчэй канцэптуальны характар. У значнай ступені адказ на гэта пытанне дае другая частка праекта, якая мае назву «Стварэнне Заволжскага музея ў Арэнбургу» і характарызуецца практычнай накіраванасцю.

У сувязі з тым, што для збору разнастайных калекцый, іх сістэматызацыі, стварэння экспазіцый патрабаваўся працяглы час, аўтар прапанаваў першапачаткова адкрыць часовы музей, які павінен быў выконваць функцыі фондасховішча. Пасля пашырэння калекцый часовы музей ператвараўся ў пастаянны. Т. Зан разумеў, што ў правінцыі цяжка знайсці неабходную колькасць людзей, падрыхтаваных да музейнай працы. У сувязі з гэтым ён прапанаваў набіраць найбольш здольных вучняў мясцовых адукацыйных устаноў, вучыць іх асновам музейнай справы на месцы, а потым накіроўваць на вучобу і стажыроўку ў сталічныя ўніверсітэты і музеі.

Вялікая ўвага ў праекце надавалася кіраўніцтву музеем. Дырэктар павінен быў ажыццяўляць навуковае кіраўніцтва, а ўся фінансавая і адміністрацыйна-гаспадарчая дзейнасць ускладалася на спецыяльны камітэт, у які ўваходзілі б асобы, вядомыя ў грамадстве. Камітэт фарміраваў бюджэт, які б складаўся з урадавых субсідый, прыватных ахвяраванняў, матэрыяльнай дапамогі з боку вучоных таварыстваў і ўніверсітэтаў, зацікаўленых у развіцці музея. Т. Зан зазначыў, што ажыццяўленне праекта будзе залежаць як ад падтрымкі з боку ўладаў, так і ўдзелу ў ім грамадскасці. Таму невыпадкова ў якасці эпіграфа да ўсёй працы былі абраны словы паэта XVI ст. Я. Каханоўскага: «Будзьма служыць дабрачыннай хвале, а хто як можа хай спрыяе карысці агульнага дабра».

Такім чынам, нягледзячы на асобныя малараспрацаваныя палажэнні, праект Т. Зана з'явіўся важным крокам у развіцці тэорыі і методыкі музейнай справы. Выказаныя ў ім ідэі апярэдзілі свой час, а іх рэалістычнасць была даказана самім жыццём.

Ініцыятарам стварэння ***Віленскага-музея-старажытнасцей*** пры Археалагічнай камісіі быў таксама выпускнік Мінскай гімназіі ***Яўстах-Тышке-віч*** (1814—1873) — вядомы беларускі археолаг і калекцыянер, ся-



*Я. Тышкевіч*

бра Пецярбургскай і Стакгольмскай акадэмій навук, Лонданскага археалагічнага інстытута і іншых навуковых таварыстваў.

Я. Тышкевіч валодаў шырокім навуковым кругаглядам, быў вельмі настойлівым у дасягненні сваіх мэт, у ім спалучаліся арганізацыйны энтузіязм з навуковай эрудыцыяй. Грамадскі аўтарытэт, які ён здабыў дзякуючы гэтым якасцям, дапамог яму вельмі хутка аб'яднаць вакол сябе навукоўцаў, а таксама аматараў гісторыі і старажытнасцей, прыцягнуць увагу мясцовай адміністрацыі да ідэі стварэння музея. У 40-я гг. XIX ст. гісторыка-археалагічная калекцыя, якой валодаў Я. Тышкевіч, набыла грамадскае значэнне. Яна рэгулярна папаўнялася не толькі ў выніку навуковых даследаванняў уладальніка, але таксама за кошт ахвяраванняў мецэнатаў і энтузіястаў. Азнаёміцца з гэтай калекцыяй мог кожны, хто цікавіўся гісторыяй.

Аднак сам Я. Тышкевіч не быў задаволены такім становішчам і меў больш шырокія планы. У 1848 г. ён звярнуўся да віленскага генерал-губернатара І. Г. Бібікава з праектам стварэння музея ў Вільні, падмуркам якога, на думку аўтара, павінна была стаць яго асабістая калекцыя. Можна меркаваць, што на гэта рашэнне паўплываў прыклад скандынаўскіх музеяў, якія Тышкевіч аглядаў падчас навуковых падарожжаў, у прыватнасці Музей паўночных старажытнасцей, створаны К. Ю. Томсенам у Капенгагене, — лепшы ў навуковых адносінах у тагачаснай Еўропе.

І. Г. Бібікаў падтрымаў праект, але рэзалюцыя імператара Мікалая І «не бачу перашкодаў, але з адпаведнай разборлівасцю» замарудзіла арганізацыю музея і камісіі. І толькі ў красавіку 1855 г., нягледзячы на процістаянне мясцовых чыноўнікаў, «Палажэнне аб Музеуме старажытнасцей і часовай археалагічнай камісіі ў Вільні» было зацверджана. Згодна з ім, сфера дзейнасці новай камісіі была вельмі шырокай. Яна павінна была займацца вывучэннем беларускіх зямель не толькі ў гістарычных, але і ў гандлёвых, прамысловых і статыстычных адносінах. Музей і камісія падпарадкоўваліся Міністэрству народнай асветы, для іх уводзіўся адзіны штат. Сябрамі камісіі маглі стаць асобы з вопытам навуковых даследаванняў і ў распараджэнні якіх былі матэрыяльныя сродкі для дапамогі ствараемай установы. Старшынёй камісіі і апякуном музея стаў Я. Тышкевіч, яго намеснікам — М. Балінскі, навуковым сакратаром — М. Круповіч, а членамі камісіі — археолаг К. Тышкевіч, бы-

лыя прафесары Віленскага ўніверсітэта І. Ярашэвіч і М. Гамаліцкі, гісторыкі І. Крашэўскі і Т. Нарбут, краязнаўца У. Сыракомля і інш.



*А. Кіркор*

На працягу года ў зале публічных пасяджэнняў былога Віленскага ўніверсітэта ішла падрыхтоўка да адкрыцця экспазіцыі новага музея. Мэтай яе аўтараў было стварэнне атмасферы ўрачыстасці, велічы мінулага Радзімы. Пры ўваходзе віселі штандары з выявамі гербаў Вільні, Гародні, Мінска, тут жа знаходзіліся мармуровыя бюсты славутых продкаў, вайсковы рыштунак. Цікавы погляд самога Я. Тышкевіча на тое, што павінен паказваць новы музей: «ствараючы музей у Вільні, я перад усім браў пад увагу старажытнасці і помнікі мясцовыя, гэта значыць — літоўска-рускія. Пад словамі “Віленскі музей” я разумеў і разумею збор рэчаў, які б як у люстэрку даваў адбітак жыцця і дзеянняў літоўска-рускага народа на кожным з этапаў яго існавання». Такая пазіцыя вучонага сведчыла не толькі аб яго шчырасці, але і аб першых спробах этнічнай самаідэнтыфікацыі ў музейнай справе Беларусі.

Музейныя прадметы былі сістэматызаваны паводле калекцыйнага прынцыпу, што адпавядала дасягненням тагачаснай экспазіцыйнай практыкі. На момант адкрыцця экспазіцыя выглядала наступным чынам:

1) калекцыя манет і медалёў;

2) калекцыя гравюр, геаграфічных картаў і атласаў;

3) калекцыя карцін, партрэтаў і скульптур;

4) калекцыя дыпломаў, рукапісаў, аўтографаў гістарычных дзеячаў;

5) мемарыяльная калекцыя, у складзе якой меліся важныя гістарычныя помнікі;

6) археалагічная калекцыя. Яе асновай былі знаходкі з раскопак, якія праводзіліся на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Выключэннем былі 100 каменных прылад працы, прывезеных Я. Тышкевічам са Скандынавіі;

7) бібліятэка.

У пачатку 1856 г. падрухтоўка экспазіцыі была амаль скончана, і ўжо на першым пасяджэнні камісіі, якое адбылося 11 студзеня 1856 г., Я. Тышкевіч прапанаваў скласці каталогі па ўсіх раздзелах музея. Кожную калекцыю каталагізаваў асобны сябра камісіі, які меў вопыт работы з дадзенай групай першакрыніц. Каталагізацыяй найбольш значнай, археалагічнай калекцыі заняўся А. Кіркор — вучоны, вядомы сваімі працамі па археалогіі.

17 красавіка 1856 г. ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося афіцыйнае адкрыццё Віленскага музея старажытнасцей. У ім бралі ўдзел прадстаўнікі ўлад, святары, вайскоўцы, рамеснікі, літаратары і студэнты — усіх каля 300 асоб. Будынак музея быў прыгожа ілюмінаваны, а ўсе запрошаныя атрымалі ўлёткі з вершам, напісаным з гэтай нагоды У. Сыракомлем.

У сваёй прадмове ў той дзень Я. Тышкевіч з падзякай узгадваў імёны шматлікіх мецэнатаў, якія ахвяравалі музею матэрыяльныя каштоўнасці і грошы. Ахвяраванні былі атрыманы ад 102 асоб, самыя буйнейшыя зрабілі А. Кіркор і Ю. Крашэўскі, якія перадалі матэрыялы археалагічных раскопак; І. Кулакоўскі — ахвяраваў архіўныя матэрыялы па гісторыі Рэчы Паспалітай XVI—XVIII стст.; мітрапаліт віленскі Іосіф перадаў асобнік Статута 1588 г. Вялікага Княства Літоўскага. Асабіста Я. Тышкевіч перадаў у музей калекцыю залатых і срэбраных манет і медалёў — усяго каля 300 рэчаў. Сярод гэтых вельмі каштоўных прадметаў, перададзеных сапраўднымі аматарамі і знаўцамі старажытнасці, у музей трапілі такія рэчы, як какосавы арэх, калода картаў, персідская чарнільніца. Тлумачылася гэта тым, што стваральнікі музея на першым этапе яго развіцця не хацелі зніжаць энтузіязм ахвярадаўцаў, сярод якіх былі прадстаўнікі амаль усіх слаёў грамадства.

Першыя пяць гадоў існавання музея характарызаваліся інтэнсіўным павелічэннем фондаў, галоўным чынам, за кошт ахвяраванняў. Важнай крыніцай папаўнення музейнага збору былі раскопкі, якія праводзіла археалагічная камісія. Летам 1856 г. у Барысаўскім і Вілейскім паветах іх праводзіў кансерватар археалагічнага аддзела А. Кіркор. У ліпені 1858 г. камісія выдала адкрыты ліст на правядзенне раскопак у Віленскай, Мінскай, Гродзенскай і Ковенскай губернях археолагу А. Плятэру. Актыўныя археалагічныя даследаванні праводзіў і сам Я. Тышкевіч.

Каштоўным набыткам для музея стала калекцыя старадаўняй зброі графа С. Касакоўскага, канфіскаваная расійскімі ўладамі пасля паўстання 1831 г. і перададзеная з Пецярбурга ў музей дзякуючы намаганням старшыні камісіі.

Адразу ж пасля адкрыцця музея быў арганізаваны збор дакументальных матэрыялаў. Асновай гэтай калекцыі сталі дакументы, звязаныя з вайной 1812 г. У 1858 г. калекцыя дакументаў узбагацілася фамільным архівам Сапегаў, які перадала ў музей гродзенская палата дзяржаўных маёмасцей.

Ужо ў першы год існавання музея быў пачаты збор этнаграфічных матэрыялаў, якія разглядаліся як частка гістарычнага мінулага краю.

Разам з фарміраваннем калекцый гістарычных помнікаў у фонды музея пачалі трапляць прадметы, звязаныя з натуральнай гісторыяй. Напрыклад, у кастрычніку 1857 г. кіраўнік Віленскай вучэбнай акругі аддаў загад аб перадачы музею мінералагічнага і заалагічнага кабінетаў былога Віленскага ўніверсітэта. Як сказана вышэй, сын К. Тызенгаўза перадаў

*Экспазіцыя Віленскага музея старажытнасцей*



у музей славутую арніталагічную калекцыю свайго бацькі. Да 1861 г. у музей трапіла энтамалагічная калекцыя прыродазнаўца С. Гроса, якая налічвала каля 20 тыс. адзінак, а таксама некаторыя іншыя ўзоры беларускай флоры і фаўны. Хуткае павелічэнне прыродазнаўчага аддзела музея паставіла пытанне аб змене профілю музея, а таксама аб пашырэнні сферы дзейнасці камісіі, якая дагэтуль займалася выключна гістарычнымі помнікамі. Неўзабаве ў музеі адкрылася новая прыродазнаўчая зала, а да працы ў камісіі сталі прыцягвацца вучоныя-натуралісты. Былі ўведзены новыя пасады кансерватараў натуральных калекцый, якія занялі прыродазнаўцы Л. Кёнэ, А. Адамовіч і В. Прыбыльскі.

Першапачатковы склад фондаў музея, які цалкам быў накіраваны на адлюстраванне гістарычнага мінулага беларускіх зямель, пашыраўся таксама і за кошт паступленняў з іншых рэгіёнаў імперыі. У пачатку 1861 г. апякунскі савет музея дзякаваў землякам у Хіве, Сібіры, Амуры і на Каўказе за дасланыя прадметы, што ўзбагацілі калекцыі музея.

Папулярнасць Віленскага музея старажытнасцей хутка расла, аб чым сведчыла павелічэнне колькасці наведвальнікаў. Адпаведна з рашэннем археалагічнай камісіі дзверы яго былі адчынены для наведвальнікаў усіх саслоўяў два дні на тыдзень па чатыры гадзіны. Нягледзячы на такі абмежаваны час для наведванняў, у першыя два месяцы свайго існавання музей прыняў каля 3,5 тыс. чалавек, а ўсяго за 1856 г. яго наведала 7150 жыхароў Вільні і прыезджых. У наступныя гады музей штомесяц аглядалі каля тысячы чалавек, якім даваў тлумачэнні і адказваў на пытанні супрацоўнік музея. У дні, зачыненыя для наведвальнікаў, у экспазіцыйных залах праводзіліся заняткі.

Такім чынам, мяжа 50—60-х гг. XIX ст. была перыядам уздыму дзейнасці Віленскага музея старажытнасцей. Але планы яго стваральнікаў былі значна большымі. Вышэй сказана, што «Палажэнне аб Музеуме старажытнасцей...» мела часовы характар, і ў красавіку 1858 г. тэрмін яго дзеяння заканчваўся. Хуткае развіццё музея акрэсліла новыя напрамкі дзейнасці, якія павінны былі адлюстравацца ў новым палажэнні. Цяпер сябры камісіі вялі размову ўжо аб зусім іншай музейнай установе, падзеленай на тры аддзелы: гісторыка-археалагічны, этнаграфічны і прыродазнаўчы. У кастрычніку 1857 г. А. Кіркор у лісце да Ю. Крашэўскага выказваў надзею на адкрыццё публічных курсаў пры кожным з аддзелаў. Праз чатыры месяцы дазвол на адкрыццё курсаў быў атрыманы, але адносіўся ён толькі да прыродазнаўчага аддзела.

Публічныя курсы пры музеі разглядаліся сябрамі камісіі як пачатак Віленскага навуковага таварыства і нават маглі б стаць падмуркам для ўзнаўлення Віленскага ўніверсітэта. Вялікія надзеі рэалізаваць гэты праект звязваліся з візітам у Вільню імператара Аляксандра II. У верасні 1858 г. ён азнаёміўся з музеем, застаўся вельмі задаволены ўбачаным і згадзіўся ўзяць музей пад асабістую апеку. Аднак пададзеная яму просьба аб перайменаванні археалагічнай камісіі ў навуковае таварыства засталася без адказу. Насуперак спадзяванням Я. Тышкевіча апякунства імператара ніяк не паўплывала на дзейнасць музея. Але да фінансавых і адміністрацыйных складанасцей дадалося асуджэнне з боку мясцовых дэмакратычных колаў.

Практычную музейную работу сябры камісіі спалучалі з навукова-даследчыцкай дзейнасцю ў галіне профільных дысцыплін. Шмат у чым гэта праца абапіралася на вывучэнне помнікаў, якія захоўваліся ў музейным зборы. У 1858 г. быў выдадзены першы том «Запісак...» камісіі, падрыхтаваны да друку другі і трэці тамы. М. Крупові́ч выдаў археаграфічны зборнік, у які ўвайшлі каштоўныя матэрыялы па беларускай гісторыі. Кансерватар археалагічнага аддзела А. Кіркор працаваў над складаннем і выданнем беларуска-расійскага слоўніка. Пад кіраўніцтвам Я. Тышкевіча праводзілася важная, з музейнага пункту гледжання, праца па пошуку і апрацоўцы прыватных збораў. Была распачата справа па выданні слоўніка сабраных старажытнасцей. Даследаванні на базе фондавых калекцый праводзіліся ў галіне прыродазнаўства.

Размах дзейнасці археалагічнай камісіі сведчыў аб яе пераўтварэнні ў сур'ёзную навуковую ўстанову па комплексным вывучэнні гісторыі і прыроды беларускіх зямель.

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. віленскі генерал-губернатар М. М. Мураўёў стварыў спецыяльную камісію, мэтай якой быў роспуск археалагічнай камісіі і рэвізія музея. Гэта камісія складалася з расійскага

чыноўніцтва на чале з папячыцелем Віленскай навучальнай акругі І. П. Карнілавым. У выніку доўгіх дыскусій Віленскі музей старажытнасцей быў абвешчаны ідэалагічна шкодным установай, цэнтрам польскага сепаратызму. Я. Тышкевіч неаднаразова спрабаваў апратэставаць гэта рашэнне: «Не маю на мэце і не клапачуся аб тым, каб прадстаўленыя прадметы адлюстроўвалі толькі светлыя моманты з гісторыі і дзеянняў маіх продкаў, ці аб тым, каб постаці іх былі прывабнымі. Я жадаў толькі, каб яны былі падобнымі і служылі дакладным адбіткам мінулага на непахісных пачатках гісторыі... Магу сведчыць адкрыта, у Віленскім музеі ўласна польскіх прадметаў амаль што няма. Усё, што ёсць, мясцовае, літоўска-рускае».

На жаль, гэтыя аргументы не былі заўважаны. У тым жа 1865 г. па ініцыятыве І. П. Карнілава музей, які на гэты час ужо пакінулі найбольш таленавітыя супрацоўнікі, у тым ліку і Я. Тышкевіч, быў аб'яднаны з публічнай бібліятэкай і падпарадкаваны непасрэдна кіраўніцтву Віленскай навучальнай акругі. Гісторыка-мастацкія прадметы (256 адзінак), якія «...нагадвалі польскае ўладанне ў краі і штучна падтрымлівалі ў насельніцтва дарэмныя надзеі і нядобрыя памкненні...», былі перададзены ў Румянцаўскі музей. Да польскіх прадметаў аднеслі ў асноўным беларускія матэрыялы, у т. л. партрэты Барбары Радзівіл, Антонія Тызенгаўза, Тэадора Нарбута, уніяцкія царкоўныя старажытнасці з Брэста, Слуцка і г. д. Справа дайшла нават да знішчэння старажытных фрэсак, якія ўпрыгожвалі экспазіцыйную залу.

Наступныя 50 гадоў існавання музея вызначыла «Палажэнне аб часовай камісіі па арганізацыі і кіраванні Віленскай публічнай бібліятэкай і Музеем пры ёй». Згодна з палажэннем, музей юрыдычна і фактычна ставіўся ў падпарадкаванне бібліятэцы, яго экспазіцыйныя плошчы абмяжоўваліся, а штат складаўся ўсяго з двух чалавек. Адсутнасць адпаведных ведаў, кваліфікацыі і вопыту не дазваляла новым супрацоўнікам узняцца вышэй за выкананне бюракратычных абавязкаў. Вынікам гэтага было амаль поўнае занядбанне збіральніцкай і экспазіцыйнай дзейнасці, а таксама зніжэнне цікавасці грамадскасці да музея. А. Кіркор, які наведаў музей хутка пасля яго рэарганізацыі, быў абураны станам экспазіцыі: «...калекцыі арніталагічная, мінералагічная, нумізматычная ўяўляюць хутчэй брыдкую кучу, чым збор, які меў навуковыя мэты. Былі зроблены бязглуздыя этыкеткі. Шмат якіх прадметаў, што раней захоўваліся ў музеі: чучалаў двух зуброў, мядзведзяў, статуі Святавіта і інш., — увогуле не было. Слуцкі пояс ляжаў сярод кітайскіх рэчаў, драпежныя птушкі разам з хатнімі... Дах музея не адрамантаваны і дождж цячэ скрозь яго; рамы пагнілі і каля вокнаў на верхніх паверхах пасля дажджу стаяць лужыны».

У апошняй чвэрці XIX ст. стан музея крыху палепшыўся. Тлумачылася гэта перш за ўсё з'яўленнем новых супрацоўнікаў, якія пачалі праводзіць у музеі навуковыя даследаванні. Сярод іх былі К. І. Шміт і Ф. В. Пакроўскі, якія займаліся археалагічнымі даследаваннямі, Ф. А. Бяльковіч — аўтар арыгінальнай сістэмы класіфікацыі і каталагізацыі прыродазнаўчых збораў, В. В. Грazноў, які выканаў новае мастацкае афармленне экспазіцыі.

Новы штуршок да актывізацыі ўсіх напрамкаў музейнай дзейнасці даў IX Археалагічны з'езд, які адбыўся ў 1893 г. у Вільні. Падчас яго падрыхтоўкі музею былі перададзены каштоўныя археалагічныя помнікі. Выстава, прысвечаная з'езду, давала ўзор навуковай класіфікацыі матэрыялу, а яе мэтай было павышэнне грамадскай цікавасці да гістарычнага мінулага. На пасяджэннях з'езда разглядаліся не толькі пытанні археалогіі, але абмяркоўвалася развіццё музейнай справы ў краі.

У пачатку XX ст. у музей былі запрошаны вядомыя беларускія даследчыкі — Е. Р. Раманаў, Д. І. Рыкаў, Д. І. Даўгяла. У гэты ж час паўстала пытанне аб вяртанні з Масквы рэчаў, канфіскаваных мураўёўскай камісіяй, зроблена спроба стварэння этнаграфічнага аддзела, адноўлены заняткі ў экспазіцыі з навучэнцамі. Аднак і на пачатку XX ст. Віленскі музей старажытнасцей заставаўся ў жорсткіх ідэалагічных рамках, вызначаных кіраўніцтвам Віленскай навучальнай акругі. Не спрыяла развіццю музея таксама сціплае фінансаванне. Выключэннем было шчодрае мэтанакіраванае фінансаванне з 1901 па 1915 г. мемарыяльнага аддзела (пазней самастойнага музея) М. М. Мураўёва, які складаўся пераважна з дакументальных і бібліяграфічных матэрыялаў. Гэта, зразумела, не спрыяла павышэнню аўтарытэта музея, беручы пад увагу адносіны да «вешальніка» дэмакратычных колаў грамадства.

У 1915 г. падчас наступлення нямецкіх войскаў Віленскі музей старажытнасцей быў эвакуіраваны мясцовымі губернскімі ўладамі ў Маскву. А пасля падпісання ў сакавіку 1921 г. Рыжскага мірнага дагавора, згодна з яго IX артыкулам аб абмене культурнымі каштоўнасцямі паміж Расіяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай — з другога, калекцыі музея, за выключэннем археалагічных, былі вернуты ў Вільню.

Пасля закрыцця Віленскай археалагічнай камісіі, грамадская патрэба ў навуковым вывучэнні беларускіх зямель праявілася ў з'яўленні шэрагу праектаў арганізацыі новых навуковых таварыстваў. Аднак царскі ўрад насцярожана ставіўся да праяўленняў грамадскай ініцыятывы ў нацыянальных рэгіёнах і неахвотна ішоў на афіцыйнае стварэнне навуковых таварыстваў, статуты якіх павінны былі зацвярджацца ў Міністэрстве ўнутраных спраў.

У 1889 г. была зроблена спроба адкрыць археалагічнае таварыства і музей у Полацку. З 1886 г. тут дзейнічала археалагічная суполка, у якой

працавалі гісторык і археограф А. П. Сапуноў, археолаг і краязнаўца А. М. Семянтоўскі і іншыя настаўнікі, землеўласнікі, чыноўнікі — усяго 18 асоб. Сябры суполкі пачалі складанне археалагічных калекцый, якія знаходзіліся ў адным з памяшканняў полацкага кадэцкага корпуса. Перспектыву пераўтварэння археалагічнай суполкі ў таварыства яе ўдзельнікі звязвалі з пераўтварэннем калекцыі ў музей гістарычнага профілю. Гэты план падтрымлівалі такія аўтарытэтныя вучоныя, як М. В. Калачоў, І. Я. Забелін, кіраўніцтва Маскоўскага археалагічнага таварыства. На жаль, ні падтрымка навуковай грамадскасці, ні заклікі А. М. Семянтоўскага да высокага начальства («Беларусь жыве, мацуецца і расце, і яна вартая таго, каб ёй заняліся навукоўцы, захавалі яе старажытнасці і адкрылі шлях да яе лепшай будучыні!») не паўплывалі на рашэнне міністра ўнутраных спраў І. М. Дурнаво аб забароне стварэння таварыства.

Крыху пазней у Магілёве быў зарэгістраваны статут «Таварыства вывучэння Беларускага краю», які прадугледжваў стварэнне гістарычных і прыродазнаўчых музеяў. Але справа не пайшла далей размоў з той жа прычыны, што і ў Полацку, — негатыўнае стаўленне ўлад, якое праявілася ўжо на арганізацыйным этапе.

Пасля падаўлення паўстання 1863 г. на беларускіх землях не засталося аніводнай навуковай установы. У гэтай сітуацыі адзінымі месцамі збору і першаснай апрацоўкі матэрыялаў па гісторыі і прыродзе краю (акрамя прыватных калекцый) былі губернскія статыстычныя камітэты. Статыстычныя камітэты як навукова-адміністрацыйныя ўстановы мелі вельмі шырокае поле дзейнасці. Іх задачай было вывучэнне і апісанне губерняў не толькі ў статыстычным, але і ў гаспадарчым, прамысловым, а таксама гандлёвым аспектах. Усе даныя статыстычных камітэтаў апрацоўваліся для іх далейшага выкарыстання адміністрацыяй і навуковымі ўстановамі.

Сябрамі камітэтаў былі чыноўнікі з мясцовых органаў улады, прадстаўнікі свецкай і духоўнай інтэлігенцыі, а таксама тыя, хто меў цікавасць да навуковай працы. Аднак асноўную работу выконвалі сакратары камітэтаў, якія займалі адзіную штатную аплачваемую пасаду. Менавіта гэтыя людзі, а дакладней іх адукацыя, асабістыя якасці, зацікаўленасць і добрасумленнасць вызначылі характар дзейнасці музеяў статыстычных камітэтаў і іх стан. Навуковая дзейнасць музеяў фарміравалася пад уплывам праграм археалагічных даследаванняў, якія распрацоўвала Імператарская археалагічная камісія, на яе ўплывалі таксама запыты Акадэміі мастацтваў, урадавыя распараджэнні аб упарадкаванні старых архіваў, удзел ва ўсерасійскіх выставах.

15 лістапада 1867 г. на пасяджэнні ***магілёўскага статыстычнага камітэта*** было прынята рашэнне заснаваць ***музей*** у мэтах вывучэння сельскагаспадарчай, рамеснай, фабрычнай дзейнасці жыхароў губерні, а так-

ОПИСАНІЕ

# МОГИЛЕВСКАГО МУЗЕЯ

(редактора Могилев. Вѣдом. М. В. Фурсова).

## I) ОТДѢЛЪ ИСТОРИЧЕСКІЙ.

**1) Тронное кресло Императрицы Екатерины II.** Стиль кресла рококо. Оно вызолочено по дереву, обито парчею изъ чистой серебряной нити съ шелковыми затканными въ нее цвѣтами по темно-сѣрому фону. На сидѣньи и по обѣ стороны спинки вытканъ государственный гербъ съ вензелемъ Императрицы на груди орла. Обивка прикрѣплена золоченными кнопками къ остову кресла.

Кресло доставлено Г. Начальнику губерніи отъ причта Пропойской православной церкви при легендѣ, что оно подарено Императрицею Церкви во время проѣзда ея чрезъ Пропойскъ на югъ Россіи въ Крымъ. Легенда эта однако не имѣетъ никакой исторической подкладки. Скорѣе должно предположить, что кресло ранѣе находилось въ апартаментахъ Могилевскаго путеваго дворца, построеннаго на случай свиданія Русской Императрицы съ Германскимъ Императоромъ Іосифомъ II и затѣмъ перешло въ частную собственность, впослѣдствіи при сломкѣ и продажѣ Дворца, переданнаго по Высочайшему повелѣнію въ 1808 году въ собственность Могилевской Гимназіи и начальствомъ ея сломаннаго за ветхостію въ 1819 г. Существуетъ еще одно предположеніе, основанное на запискахъ Добрынина, гдѣ упоминается о тронномъ залѣ въ домѣ бѣлорусскаго Намѣстника. Тронное кресло могло стоять и тамъ.

*Каталог-Магілёўскага-музея*

сама азнаямлення спажыўцоў з прадметамі мясцовай вытворчасці. За першыя два гады дзейнасці Магілёўскага музея яму было перададзена 106 прадметаў, якія склалі аснову калекцый глеб, раслін, мадэлей сельскагаспадарчых прылад працы.

Значна пашырыліся калекцыі ў 70—80-я гг. XIX ст., што тлумачылася актыўнай дзейнасцю па ўсебаковым вывучэнні губерні, якую разгарнуў новы магілёўскі губернатар А. С. Дамбавецкі. У гэты час, як сцвярджае каталог, музей узбагачаецца тронным крэслам Кацярыны II, санямі Напалеона, каштоўнымі прадметамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва XVIII ст., нумізматыкай, зброяй, дакументамі, старадрукамі. Паводле загаду А. С. Дамбавецкага з паветаў дасылаліся рэчы, неабходныя для вывучэння фабрычна-заводскай, рамесніцкай і кустарнай прамысловасці насельніцтва губерні. Частка гэтых матэрыялаў была адпраўлена на Усерасійскую антрапалагічную выставу 1879 г., дзе магілёўскі губернатар і сакратар статыстычнага камітэта А. А. Сіманоўскі былі адзначаны вышэйшымі ўзнагародамі.

Значнаму папаўненню археалагічнай калекцыі паспрыяла падрыхтоўка камітэта да ўдзелу ў IX Археалагічным з'ездзе ў Вільні. Былі арганізаваны раскопкі, якія праводзіў дырэктар Магілёўскай гімназіі М. В. Фурсаў і чыноўнік па асобых даручэннях С. Ю. Чалоўскі. У выніку музей прадставіў на выставу, што праходзіла пры з'ездзе, самастойны аддзел, які налічваў 170 прадметаў, а таксама археалагічную карту губерні. Нарэшце, папаўненню музейных калекцый садзейнічалі ахоўныя мерапрыемствы, што праводзіліся А. С. Дамбавецкім у адносінах да гістарычных помнікаў. Быў усталяваны кантроль за гандлем антыкварнымі рэчамі, уведзены пакаранні службовых асоб за псаванне прадметаў даўніны і мастацтва, збіраліся звесткі аб прыватных калекцыях.



*А. М. Семянтоўскі*

Такі інтэнсіўны колькасны рост музея паставіў пытанні пра яго структуру, каталагізацыю і даступнасць для публікі. За правядзенне гэтых работ узяўся М. В. Фурсаў, які надрукаваў каталог музея. У адпаведнасці з ім музей падзяляўся на тры аддзелы: прамысловы, гістарычны, геаграфічны. У апошнім знаходзіліся каштоўныя матэрыялы па этнаграфіі жыхароў губерні, што тлумачылася шчыльнымі сувязямі статыстычнага камітэта з вядомым этнографам і фалькларыстам П. В. Шэйнам. 25 кастрычніка 1898 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё новай пашыранай экспазіцыі, якая ў большай ступені, чым папярэдняя, абапіралася на даныя навуковых даследаванняў. Уваход у музей быў вольны.

На жаль, планы далейшага развіцця музея засталіся не выкананымі, што тлумачылася звальненнем М. В. Фурсава, а ў 1919 г. калекцыі музея былі ўключаны ў склад фондаў Магілёўскага губернскага музея.

Штуршком да стварэння ***музея віцебскага статыстычнага камітэта*** быў яго ўдзел ва Усерасійскай этнаграфічнай выставе 1867 г., дзе яго калекцыі адзначылі ганаровай граматай.

Музей у Віцебску быў заснаваны 29 кастрычніка 1868 г. узгаданым вышэй ***А. М. Семянтоўскім***. Аўтар больш за 150 гісторыка-краязнаўчых прац, ён займаў у той час пасаду сакратара віцебскага статыстычнага камітэта. З ім супрацоўнічаў археолаг-аматар М. Ф. Кусцінскі і іншыя гісторыкі-аматары, што абумовіла хуткае фарміраванне багатых археалагічнай і нумізматычнай калекцый. З прычыны адсутнасці экспазіцыйнага памяшкання і грашовых сродкаў асветніцкая работа ў музеі

віцебскага статыстычнага камітэта амаль што не вялася. І толькі аднойчы ў час мастацка-археалагічнай выставы, арганізаванай А. М. Семянтоўскім у красавіку 1871 г., жыхары Віцебска змаглі азнаёміцца з яго калекцыяй.

Пасля выхаду з камітэта А. М. Семянтоўскага, не атрымліваючы аніякай падтрымкі з боку ўлад, музей прыйшоў у заняпад, перыядычна раскрадаўся. У 1893 г. мясцовая інтэлігенцыя спрабуе адрадзіць музей. У выніку інтэнсіўнай збіральніцкай працы з'явіліся новыя аддзелы з больш дакладнай сістэматызацыяй — археалогіі, этнаграфіі, нумізматыкі, прыродазнаўства. А праз год сябры камітэта адкрылі музей для вольнага агляду публікай, пра што паведамлялася ў друку. Калекцыі музея віцебскага статыстычнага камітэта прыцягвалі ўвагу вучоных, у прыватнасці вядомага этнографа і фальклярыста М. Я. Нікіфароўскага.

У 1901 г. па распараджэнні ўлад увесь археалагічны аддзел музея, а таксама некаторыя іншыя гістарычныя помнікі перадалі ў Віцебскі царкоўна-археалагічны музей, а праз 12 гадоў астатнія калекцыі паступілі ў распараджэнне Віцебскай вучонай архіўнай камісіі.

Асновай ***музея мінскага статыстычнага камітэта*** сталі калекцыі, якія збіраліся для мясцовага музея лясной гаспадаркі на мяжы 50—60-х гг. XIX ст. Ляснічыя Мінскай губерні дасылалі ў будучы музей чучалы птушак, узоры мінералаў, вырабы лясных промыслаў. Аднак ад часу перадачы гэтых калекцый у статыстычны камітэт у 1867 г. і да 1878 г. музей папаўняўся эпізадычна.

Як і ў папярэдніх выпадках, ажыўленне працы па стварэнні музея ў Мінску было звязана з прыходам у статыстычны камітэт новых сяброў. Сярод іх былі выдатныя асобы: мінскі губернатар В. І. Чарыкаў — рознабакова адукаваны чалавек, які падтрымліваў увядзенне культурных і тэхнічных навін, этнограф і археолаг, член-карэспандэнт Маскоўскага археалагічнага таварыства Р. Г. Ігнацьеў, археолаг і калекцыянер Г. Татур. У пачатку 1878 г. у мясцовым друку быў апублікаваны зварот губернатара да грамадскасці — садзейнічаць павелічэнню калекцый музея пры статыстычным камітэце дасылкай гістарычных помнікаў, а таксама ўзораў прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі. Кожная рэч, якую дасылалі ў музей, атрымлівала этыкетку з надпісам месца вышуку і імем папярэдняга ўладальніка.

На працягу першай паловы 1878 г. у «Мінскіх губернскіх ведамасцях» рэгулярна публікаваліся звесткі аб папаўненні музейных калекцый, пераважна нумізматыкай і ўзорамі сельскагаспадарчай вытворчасці. У артыкулах называліся імёны ахвяравальнікаў — настаўнікаў, сялян, чыноўнікаў, святароў і інш.

У фарміраванні археалагічнага аддзела важную ролю адыгралі курганныя раскопкі, якія праводзіліся пад кіраўніцтвам Г. Татура ў Мінскім,

Ігуменскім і Барысаўскім паветах. Было зроблена шмат цікавых знаходак, у т. л. пярсцёнкі, пацеркі, бранзалеткі, ланцужкі, спражкі ад конскай збруі, а таксама вялікая колькасць каменных прылад працы. Вынікамі даследаванняў Р. Г. Ігнацьева сталі багатыя зборы фальклору беларускіх вёсак, прадметы побыту і музычныя інструменты.

Час для агляду гэтых збораў быў абмежаваны. Сярод наведвальнікаў пераважалі навукоўцы, падарожнікі, высокапастаўленыя асобы. Адносіны сакратароў статыстычных камітэтаў да навукова-асветніцкай працы не змяніліся і ў наступныя гады, калі яна ў лепшым выпадку абмяжоўвалася ўпарадкаваннем музея. Аднак музей мог паслужыць справе асветніцтва і распаўсюджванню гістарычных ведаў сярод простых жыхароў, тым больш што музею было чым ганарыцца. У 1889 г. свае ўражанні ад наведвання музея выказаў прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі М. І. Пятроў, які адзначыў, што музей мінскага статыстычнага камітэта лепшы з усіх, што ён бачыў дагэтуль. У 1909 г. гісторыка-археалагічная калекцыя, разам з гістарычнай бібліятэкай і рукапісамі былі перададзены ў музей мінскага царкоўна-археалагічнага камітэта. Усе астатнія прадметы былі страчаны.

Пачатак фарміравання ***музея гродзенскага статыстычнага камітэта*** адносіцца да сярэдзіны 60-х гг. XIX ст., калі ў камітэт пачалі трапляць некаторыя незвычайныя прадметы, вышуканыя на тэрыторыі губерні. Пэўным укладам у развіццё музея былі калекцыі, што збіраліся для музея лясной гаспадаркі пры гродзенскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Колькаснаму росту музейнага збору садзейнічалі археалагічныя матэрыялы, якія збіралі ў губерні па праграме прафесара Варшаўскага ўніверсітэта Д. Я. Самаквасава. Лепшыя калекцыі музея былі прадстаўлены на Політэхнічнай выставе ў Маскве, якая адбылася ў 1872 г.

Усе прадметы ў музеі былі размешчаны ў спецыяльных шафах і знаходзіліся ў невялікім пакоі пры канцылярыі статыстычнага камітэта. Прадметы класіфікаваліся ў залежнасці ад прыналежнасці да профільнай навуковай дысцыпліны ці галіны вытворчасці. Недахоп экспазіцыйнай плошчы зрабіў калекцыі музея недасягальнымі для наведвальнікаў.

На старонках тагачаснага друку мы знаходзім наступную характарыстыку музея: «Музей невялікі, але калі ўпарадкаваць тут усё, скласці каталогі, то ён мог бы стаць карыснай установай, — зараз жа аб ім ніхто не ведае, а сабраныя рэчы не прыносяць нікому аніякай карысці». Музей гродзенскага статыстычнага камітэта не змяніў статуса закрытай ведамаснай установы ў апошняе дзесяцігоддзе XIX ст. і паступова страціў сваё значэнне. У справаздачы камітэта за 1899 г. коратка адзначалася, што музей на самай справе не існуе.

Калі ацэньваць трыццацігадовы перыяд існавання музеяў пры статыстычных камітэтах, трэба адзначыць, што гэта былі першыя ў Беларусі

губернскія цэнтры па зборы і вывучэнні краязнаўчага матэрыялу. Іх дзейнасць абумовіла агульнаграмадская патрэба ў вывучэнні гісторыі, прыроды і эканомікі. Сабраныя калекцыі атрыбуціраваліся, праходзілі першасную класіфікацыю, звесткі аб іх заносіліся ў каталогі.

У канцы XIX ст. кола вывучаемых гістарычных помнікаў значна пашырылася. Разам з археалагічнымі, этнаграфічнымі і нумізматычнымі зборамі пачалі паступова фарміравацца зборы беларускіх царкоўных старажытнасцей. Апошнія ўтваралі шматлікую і амаль не даследаваную ў навуковых адносінах групу помнікаў.

У XIX ст. у Беларусі было шмат прыкрых фактаў знішчэння высокамастацкіх помнікаў жывапісу і царкоўных рэчаў, кніг і рукапісаў. Тлумачылася гэта не толькі невуцтвам значнай часткі духавенства[1], але і іх міжканфесійнай непрыязнасцю, якая нярэдка перарастала ў рэзкія сутычкі. Так, у 1830 г. мясцовыя праваслаўныя святары праігнаравалі распараджэнне обер-пракурора Свяшчэннага сінода П. С. Мяшчэрскага з патрабаваннем даць звесткі аб старажытнасцях, што захоўваліся ў цэрквах і манастырах беларускіх губерняў. Праз дзесяцігоддзе паводле загаду мітрапаліта І. Сямашкі было спалена шмат уніяцкіх старадрукаў. У другой палове XIX ст. адносіны да захавання царкоўных старажытнасцей не змяніліся, а адзінкавыя спробы іх збірання прыводзілі часам да адваротных вынікаў[2]. Толькі на мяжы стагоддзяў са стварэннем царкоўна-археалагічных музеяў быў распачаты арганізаваны збор разглядаемай групы помнікаў. Да гэтага ж часу адносіцца станаўленне царкоўнай археалогіі як навуковай дысцыпліны. Паспрыяў гэтаму таксама пачатак т. зв. «царкоўнага рэнесансу», які адлюстраваўся ў росце знешняй велічы праваслаўя, яго ўплыве на агульнадзяржаўныя справы, павышэнні матэрыяльнай забяспечанасці царквы.

Царкоўна-археалагічныя музеі існавалі ва ўсіх губернскіх гарадах Беларусі. Тры з іх, у Віцебску, Магілёве і Вільні, былі створаны галоўным чынам дзякуючы працы аднаго чалавека — ***Е. Р. Раманава***, вядомага археолага, этнографа, энтузіяста музейнай справы.

У ліпені 1892 г. Е. Р. Раманаў звярнуўся да полацка-віцебскага епіскапа Антаніна з прапановай заснаваць ***царкоўна-археалагічны музей-***

---

[1] Праца па вывучэнні беларускіх старажытнасцей, якая праводзілася ў сярэдзіне XVIII ст. архімандрытам гродзенскага Каложскага манастыра І. Кульчыцкім, не была заўважана сучаснікамі і не знайшла сваіх прыхільнікаў.

[2] Напрыклад, калі ў 70-я гг. XIX ст. полацка-віцебскім епархіяльным кіраўніцтвам быў дадзены загад усім цэрквам і манастырам даслаць у Віцебск старажытныя прадметы, то ігумен аднаго з манастыроў на працягу двух тыдняў ацяпляў свой пакой «старымі паперамі», а потым заявіў, што ў яго манастыры няма аніякіх старажытных актаў.

*у Віцебску*. Праз паўгода стварэнне музея было даручана аўтару прапановы, а таксама гісторыку А. П. Сапунову і святару В. В. Гаворскаму. Яны арганізавалі рамонтныя работы ў адной з залаў архірэйскага дома, пачалі збор экспанатаў у цэрквах Віцебска, выпрацавалі праект статута музея. Не абмяжоўваючыся зборам і вывучэннем музейных прадметаў, гісторык, археограф і музеязнаўца Д. І. Даўгяла, які быў загадчыкам сховішча з 1895 па 1903 г., распачаў вывучэнне нерухомых царкоўных помнікаў.

*Е. Р. Раманаў*



У адпаведнасці са статутам мэтай новай установы было захаванне помнікаў царкоўнай даўніны Полацкай епархіі і вывучэнне яе гісторыі. Апошні пункт статута прадугледжваў агляд экспазіцыі ў пэўныя дні асобамі хрысціянскага веравызнання ўсіх званняў, але асветніцкая работа была наладжана толькі ў 1904 г., калі на пасаду загадчыка сховішча царкоўных старажытнасцей быў запрошаны мясцовы настаўнік М. М. Багародскі. Для наведвальнікаў дзверы былі адчынены кожную нядзелю. У сярэднім у год музей наведвалі да 1,5 тыс. чалавек, сярод якіх пераважалі навучэнцы, святары, стараабрадцы. Тлумачэнні пры аглядзе музея даваў сам М. М. Багародскі, які за кароткі тэрмін здолеў анатаваць экспанаты і ўдакладніць структуру аддзелаў, што значна спрошчвала ўспрыняцце экспазіцыі. У 1909 г. ён арганізаваў пры музеі гістарычную суполку, дзейнасць якой атрымала станоўчыя водгукі на Усерасійскім музейным з’ездзе.

Нягледзячы на ўсе намаганні, Віцебскі царкоўна-археалагічны музей так і не стаў агульнадаступнай грамадскай установай. Спроба ажывіць працу музея была зроблена ў 1915 г., калі ўзнікла царкоўна-археалагічнае таварыства на ўзор тых, што ўжо існавалі у іншых епархіях Беларусі. Быў распрацаваны праект статута таварыства, пашырана тэматыка камплектавання, якая ўключала этнаграфічныя і археалагічныя прадметы, прадугледжвалася арганізацыя мерапрыемстваў па захаванні нерухомых царкоўных помнікаў. Вялікая ўвага надавалася асветніцкай працы, якая праводзілася ў форме музейных экскурсій, археалагічных выставаў, публічных лекцый і публікацый у друку. Аднак у сувязі з рэвалюцыйнымі падзеямі гэтыя планы не былі рэалізаваны, і ў красавіку 1919 г. калекцыі Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея перайшлі да Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута.


Краткій путеводитель
ПО МОГИЛЕВСКОМУ МУЗЕЮ
церковныхъ древностей.
1916 г.

МОГИЛЕВЪ ГУБ.
Типографія I. Б. Клаза и М. Л. Кагана.
1916

*Кароткі даведнік па царкоўна-археалагічным музеі ў Магілёве*

З'яўленне ў 1895 г. ***царкоўна-археалагічнага музея ў Магілёве*** было звязана з пераездам у гэты горад Е. Р. Раманава. Карыстаючыся станоўчым вопытам працы Віцебскага сховішча старажытнасцей, ён звярнуўся да магілёўскага епіскапа з прапановай стварэння такога ж музея ў яго епархіі. У прыватнасці, у сваім звароце Е. Р. Раманаў адзначаў наяўнасць вялікай колькасці каштоўных помнікаў царкоўнай даўніны, якія не выкарыстоўваліся на літургіях і падлягалі музейнаму выкарыстанню.

Першыя прадметы, набытыя дзякуючы намаганням Е. Р. Раманава, а таксама выкладчыкаў духоўнай семінарыі Ф. А. Жудро, А. А. Скварцова і святара М. Р. Янушэўскага, дазволілі ўжо 27 мая 1897 г. адкрыць музей. Гэту падзею, якая адбылася ва ўрачыстых абставінах, асвятляў мясцовы і сталічны друк.

Аднак першапачатковая дзейнасць музея не мела поспеху. Экспазіцыя, размешчаная ў невялікім пакоі пры Васкрасенскай царкве, была амаль недасягальнай для наведвальнікаў і не магла змясціць новых набыткаў музея. Праца па апісанні і складанні каталога найкаштоўнейшай у музеі калекцыі рукапісаў ішла вельмі павольна. Востра адчуваўся недахоп сродкаў. У пачатку XX ст. музей знаходзіўся ў вельмі цяжкім становішчы, і сітуацыя вымагала неадкладных мер па змяненні ўмоў яго існавання.

У 1904 г. новы магілёўскі епіскап Стэфан аддаў загад прадставіць музею тры залы ў будынку былога бернардзінскага кляштара і выдзеліў сродкі на рамонт і набыццё экспазіцыйнай мэблі. У хуткім часе адбылося адкрыццё новай экспазіцыі, якая была сістэматызавана па наступных раздзелах: 1) уніяцкі; 2) іканаграфічны; 3) прадметаў рэлігійнага ўшанавання; 4) царкоўныя прадметы; 5) свяшчэнныя адзенні; 6) нумізматычны; 7) бібліяграфічны. У стварэнні экспазіцыі, а таксама ў каталагізацыі прадметаў актыўна ўдзельнічаў выпускнік Археалагічнага інстытута У. У. Дабраслаўскі. Ён жа пры дапамозе Е. Р. Раманава наладзіў шырокую асветніцкую працу.

Цікавае апісанне абстаноўкі, што панавала ў экспазіцыі ў гэты час, пакінуў адзін з наведвальнікаў: «З 10 раніцы да 4—5 гадзін бесперапынна сюды прыходзіць самая розная публіка: правінцыйныя землеўласнікі, гарадскія жыхары ўсіх званняў, вясковыя настаўнікі, святары, сяляне. Усе разглядаюць прадметы і распытваюць, некаторыя нешта занатоўваюць».

На працягу першага дзесяцігоддзя XX ст. калекцыі музея няспынна папаўняліся новымі помнікамі. Найбольш каштоўныя з іх — абразы XVII—XVIII стст., напісаныя магілёўскім майстрам П. Сліжыкам; вышываная шоўкам і золатам плашчаніца 1569 г. з Чарэйскага манастыра; епітрахіль 1641 г., асабістыя рэчы магілёўскага епіскапа Г. Каніскага; выданні беларускіх друкарняў XVII—XVIII стст. і інш.

У 1919 г. гэтыя калекцыі ўвайшлі ў склад Магілёўскага губернскага музея.

У лістападзе 1904 г. уласны ***музей заснаваў гродзенскі царкоўна-археалагічны камітэт***. Мэтай музея было збіранне, вывучэнне і папулярызацыя помнікаў мясцовай царкоўнай гісторыі. Гэта ідэя была адлюстравана ў статуце камітэта, зацверджанага Сінодам у 1905 г. Праз тры гады камітэт надрукаваў зварот да праваслаўнага святарства з прапановай перадаваць царкоўныя старажытнасці ў музей, а таксама захоўваць нерухомыя помнікі мінулага. На жаль, большасць з тых, да каго быў адрасаваны заклік, не адгукнуліся на яго.

Праз два гады старшыня камітэта І. А. Глебаў атрымаў ад гарадскіх улад памяшканне для музея ў Барысаглебскім манастыры, куды былі перавезены сабраныя прадметы. Праз некаторы час музей папоўніўся рэшткамі калекцый гродзенскага статыстычнага камітэта і некаторымі арыгінальнымі царкоўнымі помнікамі, сярод якіх была ўніяцкая саламяная царская брама работы пінскіх майстроў. Але музей так і не атрымаў магчымасці праводзіць навуковую і асветніцкую дзейнасць. А ў 1915 г. у сувязі з акупацыяй Гродна музей і камітэт былі закрыты. Такім чынам, вынікі дзесяцігадовага існавання царкоўна-археалагічнага музея ў Гродне былі даволі сціплыя. Прычына ў тым, што мерапрыемствы па ахове і зборы помнікаў, якія ініцыіравала праваслаўная царква, не знайшлі падтрымкі ў жыхароў губерні, большасць з якіх была каталікамі.

Важнае месца сярод збіральнікаў царкоўных старажытнасцей належала ***музею мінскага царкоўна-археалагічнага камітэта***, што ўзнік у пачатку 1908 г. Ініцыятыва яго стварэння зыходзіла ад групы гарадской інтэлігенцыі, якая займалася вывучэннем краю, — А. К. Сніткі, Д. В. Скрынчанкі, Н. Н. Былова, А. П. Смародскага, А. Д. Юрашкевіча. Карыстаючыся прыкладам ужо існаваўшых на той час музеяў у Віцебску і Магілёве, сябры камітэта звярнуліся да царквы за фінансавай падтрымкай[1].

Паводле статута камітэт меў шырокае кола задач: вывучэнне грамадзянскай і царкоўнай гісторыі, помнікаў матэрыяльнай культуры, збі-

[1] Вядома, што звароту да царквы папярэднічалі безвыніковыя спробы гісторыка і краязнаўца А. К. Сніткі атрымаць ад гарадскіх улад дазвол на адкрыццё Беларускага музея ў Мінску.



*Мінскае архірэйскае падвор'е, дзе знаходзіўся царкоўна-археалагічны музей*

ральніцтва народных звычаяў, казак і спеваў. Камітэт абавязваўся браць на ўлік старажытныя цэрквы, могілкі і іншыя помнікі, папярэджваць іх знішчэнне, а таксама распаўсюджваць у грамадстве гістарычныя веды, абуджаць цікавасць да мінулага пры дапамозе выставаў і публічных чытанняў. Статут прадугледжваў захаванне і экспанаванне ў музеі прадметаў мясцовай археалогіі, побыту і рамёстваў, царкоўнага і свецкага мастацтва, а таксама нумізматыкі. Старадрукі і рукапісы павінны былі захоўвацца ў спецыяльна створаным пры музеі архіве. Уся інфармацыя аб прадметах заносілася ў спецыяльны вопіс, а ў перспектыве прадугледжвалася публікацыя каталогаў калекцый.

У 1909 г. пачалі друкавацца «Працы...» камітэта, усяго былі выдадзены чатыры выпускі, якія змяшчалі багаты краязнаўчы матэрыял. У гэты ж час пад рэдакцыяй А. К. Сніткі выйшаў каталог найбольш каштоўных калекцый музея — старадрукаў і рукапісаў. Паводле каталога музей валодаў дакументамі вялікага архіва Слуцкага Троіцкага манастыра, тут знаходзіўся «Апостал» XVIII ст., Мінея месячная 1521 г., статуты сярэдневяковых беларускіх цэхаў і інш.

Для экспазіцыі былі выдзелены два пакоі архірэйскага дома. Наведвальнікаў музей прымаў па панядзелках. Сябры камітэта, якія мелі дзяжурствы ў гэтыя дні, давалі тлумачэнні наведвальнікам падчас агляду экспазіцыі і таксама чыталі лекцыі па гісторыі.

На працягу некалькіх перадваенных гадоў колькасць сяброў мінскага царкоўна-археалагічнага камітэта павялічылася да 40 асоб. Яны пераважна займаліся зборам старажытных рукапісаў, народных звычаяў, абрадаў, спеваў і публікавалі вынікі сваёй дзейнасці ў «Працах...». Праводзіліся гістарычныя даследаванні Мінскай губерні, у прыватнасці раёна пераправы войскаў Напалеона цераз р. Бярэзіну, дзе былі

зроблены цікавыя знаходкі. Актыўна вялася праца па ахове рухомых і нерухомых помнікаў. Кіраўніцтву мінскіх навучальных устаноў прапаноўвалася накіроўваць вучняў па нядзелях у музей. У перыядычным друку з'яўляліся артыкулы сяброў камітэта аб неабходнасці захавання гістарычнай спадчыны. Святары атрымлівалі апытальныя лісты з мэтай пошуку новых экспанатаў. А ў 1913 г. мінскі епіскап выдаў загад, дзе ўводзілася адказнасць духавенства за псаванне царкоўных старажытнасцей і называліся элементарныя правілы іх рэстаўрацыі.




*«Мінская даўніна». Працы мінскага царкоўна-археалагічнага камітэта.* 1909 г.

У пачатку Першай сусветнай вайны лепшыя калекцыі музея былі эвакуіраваны ў Разань. Пасля іх вяртання ў Мінск у 1922 г. яны ляглі ў аснову Беларускага дзяржаўнага музея.

Неабходнасць стварэння ***сховішча царкоўных старажытнасцей у Вільні*** ўпершыню была сфармулявана ў рэдакцыйным артыкуле часопіса мясцовага праваслаўнага брацтва ў 1907 г. У якасці галоўнага аргумента на карысць стварэння музея ў ім адзначаўся пераезд у Вільню заснавальніка віцебскага царкоўнага сховішча старажытнасцей, а потым і магілёўскага музея Е. Р. Раманава. Падмуркам новага музея стала ўласная калекцыя Е. Р. Раманава — каля 150 адзінак нумізматыкі, царкоўных рэчаў, археалагічных знаходак, а таксама абразы, адзенне, літургічнае начынне, што дасылаліся святарамі Лідскага, Дзісенскага і іншых паветаў. Каб узбагаціць збор, Е. Р. Раманаў праводзіў даследаванні ў сутарэннях віленскіх манастыроў, вандраваў па мястэчках губерні. Ён звярнуўся да духавенства з прапановай дасылаць у музей каштоўныя прадметы. Новыя набыткі музея былі размешчаны ў трох пакоях Троіцкага манастыра ў вітрынах, спраектаваных самім Е. Р. Раманавым.

Такім чынам, на мяжы XIX—XX стст. на тэрыторыі Беларусі сфарміравалася група музеяў, зборы якіх складаліся пераважна з царкоўных старажытнасцей. Іх статуты сведчылі аб з'яўленні ўстаноў з выразна акрэсленай функцыяй захавання, вывучэння і папулярызацыі помнікаў царкоўнай і часткова грамадзянскай гісторыі. Аднак з самага пачатку свайго існавання царкоўна-археалагічныя музеі апынуліся ў складаных матэрыяльных і юрыдычных умовах. У большай ступені гэтыя цяжкасці былі пераадолены ў Мінску і Магілёве, у меншай — у Гродне і Вільні.

Ініцыятыва стварэння царкоўна-археалагічных музеяў у беларускіх епархіях належала свецкай інтэлігенцыі, якая займалася вывучэннем

гісторыі краю. Удзел царквы абмяжоўваўся выдзяленнем сціплых грашовых сродкаў, а таксама ўключэннем у склад камітэтаў, што кіравалі музеямі, аднаго-двух святароў. У шэрагу выпадкаў духавенства спрабавала выкарыстоўваць музеі для вырашэння задач ідэалагічнага характару — пры дапамозе экспазіцый, выстаў, а таксама публічных чытанняў даць пастве яшчэ адзін доказ адвечнасці існавання праваслаўнай царквы на Беларусі. Такая пазіцыя, натуральна, выключала вялікую колькасць неправаслаўнага насельніцтва з працэсу стварэння музеяў, а гэта значыць, фонды музеяў пазбаўляліся каштоўных помнікаў каталікоў, іўдзеяў, мусульман.

Тым не менш, нягледзячы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы і валанцёрскі характар работы супрацоўнікаў камітэтаў (усе працавалі ў музеях у вольны ад выканання службовых абавязкаў час), стваральнікі царкоўна-археалагічных музеяў здолелі дасягнуць пэўных поспехаў. У выніку прыватных ахвяраванняў і збіральніцкай працы былі сфарміраваны калекцыі, якія пасля ляглі ў аснову першых савецкіх музеяў. Праводзілася асветніцкая праца, экскурсіі, школьныя заняткі ў экспазіцыі, супрацоўнікі музея чыталі лекцыі. Ажыццяўлялася выдавецкая дзейнасць, друкаваліся каталогі, даведнікі, навуковыя працы. Вяліся пэўныя рэстаўрацыйныя работы.

Пасля прыняцця ў сакавіку 1906 г. Міністэрствам юстыцыі Часовых правіл аб грамадствах і саюзах, якія давалі права губернскім уладам зацвярджаць статуты новых неўрадавых арганізацый, у тым ліку і навуковых, колькасць апошніх значна павялічылася. У маі 1909 г. распачала сваю працу ***Віцебская вучоная архіўная камісія***. Яе сябры спарадкавалі мясцовыя архівы, а таксама вялі пошук, апісвалі і публікавалі помнікі даўніны, што прывяло да стварэння ўласнага ***музея***.

Сярод прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі, што стваралі камісію ў Віцебску, з цягам часу вызначылася група вучоных і калекцыянераў, якія мелі практычны вопыт назапашвання і сістэматызацыі калекцый (А. П. Сапуноў, В. П. Федаровіч, І. Х. Каладзееў). Старшынёй Віцебскай вучонай архіўнай камісіі быў аднагалосна абраны В. С. Арсенneў — 25-гадовы энергічны саветнік віцебскага губернскага праўлення, які меў шырокія сувязі ў абедзвюх сталіцах. Вопыт і веды гэтых людзей адкрывалі шырокія навуковыя перспектывы перад таварыствам.

У 1911 г. была распачата планавая збіральніцкая праца. Усім урадавым установам губерні і некаторым прыватным асобам былі дасланы спецыяльныя паведамленні, у якіх выкладалася распрацаваная камісіяй праграма па зборы прадметаў археалогіі, этнаграфіі і старажытнага мастацтва. Паведамленне заканчвалася заклікам садзейнічаць камплектаванню музейных калекцый. Па ініцыятыве У. Г. Краснянскага сябры камісіі распрацавалі праграму па зборы і рэгістрацыі помнікаў вайны 1812 г., для студэнтаў і настаўнікаў духоўнай семінарыі была выда-

дзена інструкцыя па зборы музейных прадметаў. Прыкладна ў гэты ж час сябры камісіі распачалі работу па выяўленні прыватных збораў і музеяў, дзе перахоўваліся віцебскія старажытнасці. Праводзіліся таксама і археалагічныя даследаванні. Большасць матэрыялаў, сабраных у выніку гэтай працы, мела вялікую навуковую і мастацкую каштоўнасць[1]. Работу па інвентарызацыі, сістэматызацыі і афармленні экспазіцыі выканаў К. А. Змігродскі, які абагульніў усё зробленае ў двух апублікаваных каталогах. Паводле іх у 1912 г. у музеі было 1690 адзінак захоўвання, якія падзяляліся паміж сямю аддзеламі: рэлігійных прадметаў, выкапнёвых прадметаў, ваеннага рыштунку, пячатак, мінералогіі і геалогіі, нумізматыкі, рознага.

*У. Г. Краснянскі — сябра Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, педагог, архівіст, музеязнаўца*



Асветніцкая праца ў экспазіцыі музея амаль не праводзілася з-за нязручнага памяшкання. Тым не менш сябры камісіі імкнуліся кампенсаваць гэты недахоп. Рэгулярна чыталіся публічныя лекцыі, інфармацыя аб некаторых помніках публікавалася ў «Працах...». У наладжванні асветніцкай работы музея і прыцягнення грамадскай увагі да захавання і вывучэння гістарычных помнікаў вялікую ролю адыграла Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, якое было адкрыта ў 1911 г. дзякуючы намаганням камісіі. Разам з іншымі дапаможнымі гістарычнымі дысцыплінамі прафесары з Масквы знаёмілі студэнтаў з курсам музеязнаўства.

У 1915 г. К. А. Змігродскі заняў пасаду дырэктара польскага музея ў Раперсвілі (Швейцарыя). У хуткім часе музей пакінулі іншыя актыўныя сябры. Гэта замарудзіла музейныя работы і, урэшце, прывяло да закрыцця самога музея. У 1914 г. памяшканне музея заняла ваенная ўстанова, а калекцыі былі перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археалагічнага інстытута.

У 1912 г. быў адкрыты ***музей Мінскага таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі***. Адкрыццё музея было прадугледжана статутам таварыства, але першыя крокі на шляху фарміравання калекцый былі зроблены значна раней.

У кастрычніку 1909 г. гласны мінскай гарадской думы В. О. Янчэўскі і інжынер М. Н. Кузняцоў звярнуліся да кіраўніцтва горада з прапано-

[1] У музей таксама трапілі прадметы, якія не мелі гістарычнай каштоўнасці, і нават кур'ёзы кшталту «пакутніцкай крыві Сталыпіна».

вай, у якой абгрунтоўвалася неабходнасць стварэння ў горадзе Палескага музея экалагічнага напрамку. У прапанове, у прыватнасці, сцвярджалася: «Палессе, якое большай часткаю ўваходзіць у склад Мінскай губерні, уяўляе вялікі край, які характарызуецца самабытнымі асаблівасцямі, якія заслугоўваюць вывучэння... Аднак з кожным годам лясы ўсё больш высякаюцца, балоты асушваюцца, фаўна Палесся бяднее... Праз продаж буйных фальваркаў дробнымі кавалкамі ідзе наплыў некарэннага насельніцтва. Мясцовыя асаблівасці знікаюць, твар Палесся ўсё больш змяняецца і хутка застанецца толькі ва ўспамінах. Натуральна, паўстае думка аб установе, якая паставіла б сабе мэту збіранне і захаванне для нашчадкаў усяго, што характарызуе сучаснае Палессе».

Па выніках абмеркавання гэтай прапановы мінская дума стварыла камісію, якая на працягу трох гадоў ніяк не вызначылася сваёй дзейнасцю. І толькі ў сярэдзіне 1912 г., калі ў склад камісіі былі прыняты сябры Мінскага таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі, пытанне аб музеі нарэшце вырашылі.

Быў выпрацаваны і зацверджаны статут Мінскага гарадскога музея. Гарадская дума выдзеліла спецыяльнае памяшканне і асігнавала 2 тыс. рублёў на яго стварэнне. Добраахвотныя ахвяраванні паскорылі падрыхтоўчыя работы, і ў 1913 г. адкрылася выстава першых набыткаў музея. Дэманстраваліся калекцыі мінералаў і глебы, сялянскія строі і нумізматыка. Асаблівая ўвага надавалася набыццю матэрыялаў па заалогіі Мінскай губерні.

Вялікі поспех атрымала выстава жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што адбылася ў Мінску ў 1916 г. У выставе разам з музеем удзельнічаў мінскі аддзел аховы помнікаў пры польскім культурна-асветніцкім «Таварыстве крэсовым». Аддзел прадставіў 250 экспанатаў, у тым ліку карціны П. Брэйгеля, А. Дзюрэра, Б. Мурыльё, Рэмбранта, Я. Рустэма, І. Пешкі, Я. Дамеля, а таксама старажытную зброю, мастацкае шкло, парцэляну, дываны і інш.

Рэвалюцыйныя падзеі спынілі працу па стварэнні стацыянарнай экспазіцыі Мінскага гарадскога музея. У хуткім часе ён быў закрыты, а ў 1920 г. сабраныя калекцыі перададзены ў Мінскі абласны музей.

***Гродзенскае педагагічнае таварыства***, мэтай якога было павышэнне якасці адукацыі ў навучальных установах губерні, паводле традыцыі планавала выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці ўласны ***музей***. У 1912 г. мясцовы настаўнік І. Г. Астравумаў прапанаваў стварыць камісію па арганізацыі ў Гродне агульнаадукацыйнага музея, у склад якой увайшлі 15 найбольш актыўных сяброў таварыства. Было выпрацавана палажэнне аб музеі, якое вызначыла два галоўныя напрамкі яго дзейнасці (збор прадметаў і калекцый як матэрыял для ўсебаковага вывучэння гісторыі, прыроды і жыцця Гродзенскай губерні; азнаямленне наведвальнікаў з

працай па вывучэнні гэтых калекцый і з адпаведнымі ім навукамі), а таксама пытанні кіравання, фінансавання і штату. Праводзіўся збор грашовых сродкаў, рыхтавалася памяшканне для экспазіцыі, пачалі паступаць першыя прадметы.

Удзельнікі стварэння музея добра ўсведамлялі, што паспяховая рэалізацыя праекта залежыць ад грамадскай актыўнасці, таму сябры ад імя камітэта няспынна звярталіся да жыхароў губерні з прапановай ахвяраваць у музей старажытныя рэчы, праводзілі работу з навучэнцамі, распаўсюджвалі ў выглядзе ўлёткі брашуру І. Г. Астравумава «Музеі і іх значэнне». Апошняя дазваляла зразумець погляды стваральнікаў музея на яго месца ў культурным і навуковым жыцці грамадства. Аўтар сцвярджаў, што кожны горад раней ці пазней будзе мець свой музей, які нагадае народны ўніверсітэт у мініяцюры.

У дзейнасці камісіі ў 1912—1913 гг. вызначальнай стала праца па фарміраванні калекцый музея. Першапачаткова паводле плана камплектавалася педагагічная калекцыя, і менавіта гэта дало магчымасць у маі 1913 г. правесці выставу работ навучэнцаў. Пасля быў распачаты збор прыродазнаўчых і этнаграфічных помнікаў. Сярод першых набыткаў музея вызначаліся матэрыялы археалагічных раскопак вядомага гродзенскага гісторыка і педагога Я. Ф. Арлоўскага.

17 лістапада 1913 г. у адным з прыватных дамоў на Тэатральнай плошчы адбылося адкрыццё музея. Нягледзячы на абмежаваны час для наведвання (2 гадзіны на тыдзень і святочныя дні), у канцы 1913 — пачатку 1914 г. цікавасць да музея няспынна павялічвалася. Адлюстравалася гэта ў шматлікіх прыватных ахвяраваннях і грашовых субсідыях гарадскіх улад. Узрастала і колькасць наведвальнікаў. Паводле сведчання аднаго з супрацоўнікаў, калі ў першыя дні пасля адкрыцця музей наведвалі 6—8 асоб, то ў вясеннія месяцы 1914 г. — ужо каля 250 чалавек у дзень.

Далейшае развіццё музея было перапынена ваеннымі падзеямі. У сувязі з набліжэннем кайзераўскіх войскаў, калекцыі перанеслі ў сутарэнні. Там у 1920 г. іх знайшлі ўжо члены польскай камісіі аховы помнікаў.

У перадваенны час пачаў фарміравацца ***музей-Віленскага-таварыства-аматараў-навук***, заснаванага мясцовай інтэлігенцыяй у 1907 г. Яго захавальнікам стаў урач і грамадскі дзеяч У. Загорскі, вядомы сваёй дзейнасцю ў абарону занядбаных помнікаў гісторыі і культуры. Дзякуючы намаганням У. Загорскага, музей набыў вельмі каштоўныя калекцыі гісторыка-краязнаўчага зместу, значная частка якіх была складзена з уласна беларускіх рэчаў (збраёўня, ахвяраваная Ю. Праздзецкім з Паставаў, археалагічная і этнаграфічная калекцыя В. Шукевіча з Начы, частка калекцыі Ф. Тышкевіча). Хуткае павелічэнне калекцый тлумачылася не толькі энтузіязмам іх захавальніка, але новай сістэмай камплектавання, якая прадугледжвала дэпаніраванне прадметаў прыватнымі асобамі.



*Будынак, у якім размяшчаўся музей Віленскага таварыства аматараў навук*

Да ліку найбольш каштоўных набыткаў музея трэба аднесці рукапісную спадчыну І. Храптовіча, С. Богуш-Сестранцэвіча, Т. Касцюшкі, А. Кіркора, якую перадаў у музей А. Ельскі, ваенна-гістарычныя помнікі з калекцыі І. Луцкевіча, беларускія этнаграфічныя матэрыялы, помнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапіс. Асобае месца ў экспазіцыі займалі мемарыяльныя комплексы, прысвечаныя А. Міцкевічу і Э. Ажэшка. Паралельна з камплектаваннем гістарычных калекцый у музеі быў распачаты збор матэрыялаў па флоры і фаўне Беларусі і Літвы.

У 1914 г. гэтыя і іншыя калекцыі былі перавезены ў спецыяльна пабудаванае ў Вільні памяшканне. Падчас вайны праца ў музеі была прыпынена, але пасля заканчэння ваенных дзеянняў таварыства працягвала пашырэнне музейных калекцый.

Музеі навуковых таварыстваў у Беларусі забяспечвалі крыніцазнаўчую базу для развіцця археалогіі, археаграфіі, нумізматыкі, батанікі, заалогіі, глебазнаўства. Большасць сфарміраваных калекцый дэманстравалася шырокай аўдыторыі, што сведчыць аб акцэнтаванні ўвагі іх стваральнікаў на асветніцкай працы.

На музейную дзейнасць навуковых таварыстваў значна паўплываў распаўсюджаны ў Расіі пачатку XX ст. радзімазнаўчы рух. Асобае значэнне гэты рух набыў у нацыянальных рэгіёнах імперыі. Вывучэнне эканамічных, гістарычных і культурных асаблівасцей аб'ектыўна прыводзіла да думкі аб нацыянальнай культуры, стварэнні для яе развіцця аптымальных сацыяльна-эканамічных і палітычных умоў.

Працу музеяў навуковых таварыстваў суправаджалі цяжкасці і недахопы, характэрныя для большасці тагачасных музеяў: адсутнічала дакладная прафілізацыя калекцый, іх камплектаванне было за нешматлікімі выключэннямі выпадковым, асветніцкая праца знаходзілася ў зародкавым стане. Пераадолець гэтыя недахопы давялося ўжо пасля заканчэння Першай сусветнай вайны.

* * *

У гады Першай сусветнай вайны музеі Беларусі апынуліся ў складаных умовах. На тэрыторыі, занятай нямецкай арміяй, яны былі закрыты і часткова разрабаваны, а ў прыфрантавой паласе расійскае вайсковае камандаванне займала іх памяшканні пад шпіталі і вайсковыя скла-



*Зала А. Міцкевіча ў музеі Віленскага таварыства аматараў навук*

ды. Некаторыя музеі і прыватныя зборы мясцовыя ўлады эвакуіравалі: Віленскі музей старажытнасцей — у Маскву, збор А. Р. Брадоўскага — у Віцебск, Мінскі царкоўна-археалагічны музей — у Разань, дзе прадметы захоўваліся закансерваванымі. Асобныя спробы стварэння музеяў, што рабіліся падчас вайны некаторымі ведамствамі, не далі плёну (у 1914 г. «музей сучаснай вайны» планаваўся ў Мінску, у наступным годзе — «гідратэхнічны музей» у Магілёве, камплектаваліся калекцыі і ў некаторых навучальных установах). Адной з найбольш яскравых падзей музейнага жыцця ваеннага часу была выстава беларускага мастацтва, арганізаваная І. Луцкевічам і А. Іпелем.

На агульным фоне згортвання культурнага жыцця выдзялялася дзейнасць мінскага і магілёўскага аддзелаў аховы помнікаў пры польскім культурна-асветніцкім «Таварыстве крэсовым». У 1916—1918 гг. яны разгарнулі шырокі фронт работ па ўліку і збіранні помнікаў беларускай архітэктуры, жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кніг і рукапісаў. Супрацоўнікі аддзелаў арганізавалі ў азначаныя гады больш за 50 экспедыцый, у выніку якіх было сабрана 36 тыс. каштоўных прадметаў беларускай гісторыі і культуры (у т. л. з калекцый А. Ельскага, Э. Булгака, Э. Гутэн-Чапскага, К. Тышкевіча і інш.). На жаль, гэтыя работы не спрыялі ўзбагачэнню фондаў беларускіх музеяў, таму што ўсё сабранае было вывезена ў Варшаву.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Часовы ўрад не паспеў правесці якіх-небудзь сур'ёзных рэформаў у галіне музейнай справы. Асобныя мерапрыемствы, кшталту расфарміравання мемарыяльнага музея М. М. Мураўёва, не маглі змяніць становішча карэнным чынам. Паранейшаму захоўвалася ведамасная раздробленасць, не хапала кваліфікаваных кадраў, сродкаў, памяшканняў. Гэта становішча ўскладнялася баявымі дзеяннямі на тэрыторыі краю.

# Глава 2
# СТАНАЎЛЕННЕ МУЗЕЙНАЙ СПРАВЫ ў 1917—1941 гг.

## 2.1. ДЗЯРЖАЎНЫЯ МУЗЕІ БССР

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. сацыяльна-эканамічныя, юрыдычныя і ідэалагічныя падмуркі музейнай дзейнасці на ўсходніх і цэнтральных беларускіх землях кардынальна змяніліся. Савецкая ўлада праводзіла маштабныя змены па чатырох напрамках: выпрацоўка заканадаўства, накіраванага на перадачу помнікаў гісторыі і культуры з прыватнай у дзяржаўную ўласнасць, стварэнне цэнтральных і мясцовых органаў кіраўніцтва музейнай справай і аховы помнікаў, прыцягненне да музейнай дзейнасці старых «буржуазных» спецыялістаў, выкарыстанне гісторыка-культурнай спадчыны ў прапагандысцка-асветніцкіх мэтах.

Заканадаўчая база савецкай музейнай справы фарміравалася паступова. «Дэкрэт аб зямлі», прыняты 26 кастрычніка 1917 г., паклаў пачатак нацыяналізацыі сядзіб і палацаў разам з калекцыямі мастацтва, прадметамі даўніны, кнігамі і дакументамі, якія ў іх змяшчаліся. У адносінах да царкоўнай маёмасці тыя ж меры прадугледжваў дэкрэт 20 студзеня 1918 г. «Аб сумленні, царкоўных і рэлігійных таварыствах». Летам — восенню 1918 г. з’явіліся дэкрэты «Аб адмене прыватнай уласнасці на нерухомасць у гарадах», «Аб забароне вывазу і продажу за мяжой прадметаў асаблівага мастацкага і гістарычнага значэння». Паводле дэкрэта 5 кастрычніка 1918 г. «Аб рэгістрацыі, прыёме на улік і захаванні помнікаў мастацтва і даўніны, што знаходзяцца ў прыватных асоб, таварыстваў і ўстаноў» была абвешчана першая дзяржаўная рэгістрацыя культурных каштоўнасцей. Такім чынам народныя камісарыяты асветы (НКА) РСФСР і іншых савецкіх рэспублік[1] атрымалі заканадаўчую базу для нацыяналізацыі і ўзяцця на ўлік гістарычна-культурнай спадчыны.

[1] Агульнасаюзнага Народнага камісарыята асветы не існавала.

Для правядзення падобных пераўтварэнняў патрэбен быў дзяржаўны орган кіравання музейнай справай, які з'явіўся ў 1918 г. у Маскве ў выглядзе музейнага аддзела НКА. Неўзабаве пасля ўтварэння БССР у Мінску па расійскім узоры спецыяльнай урадавай пастановай ад 30 студзеня 1919 г. уся адказнасць за збор і ахову рухомых помнікаў гісторыі і мастацтва была ўскладзена на мастацка-археалагічны пададдзел НКА БССР, у склад якога ўвайшлі мастак У. А. Дзмітрыеў, антыквар Л. Н. Замкоў, выкладчык гісторыі мастацтваў М. Г. Сыркін і інш. Пададдзел пачаў сваю працу з таго, што ўзяў пад ахову помнікі мастацтва і старасветчыны, якія знаходзіліся ў памяшканнях урадавых устаноў. Быў распачаты вываз у сховішча НКА каштоўных прадметаў з кватэр заможных гараджан, а таксама сядзіб шляхты.

Сакавіком 1919 г. датуюцца першыя крокі па ўзяцці пад ахову і пераўтварэнні ў музей Нясвіжскага замка. Прыкладна ў той жа час НКА прыняў рашэнне аб утварэнні на аснове сабраных помнікаў ***Абласнога музея ў Мінску***. Для яго быў адведзены будынак былога Дваранскага сходу, скляпенні якога пераабсталявалі пад сховішчы. Загадчыкам музея прызначылі У. А. Дзмітрыева, які адначасова выконваў функцыі загадчыка мастацка-археалагічнага пададдзела, захавальнікам — Л. Н. Замкова. Менавіта У. А. Дзмітрыеў, які падзяляў погляды рускіх мастакоў-авангардыстаў, упершыню сфармуляваў асноўныя погляды новай улады на музейную справу, а менавіта: стаўленне да гістарычна-культурнай спадчыны як да агульнанароднага набытку, адмаўленне ў праве валодання ёю прыватным асобам, утылітарны погляд на гістарычныя і мастацкія помнікі, як на сродкі выхавання і прапаганды, не маючыя ніякай эстэтычнай каштоўнасці. Апошняя «пралеткультаўская» пазіцыя адносна гістарычна-культурнай спадчыны была выкладзена аўтарам у наступных словах: «...нам зразумела адно: не можа быць ганебнага гандлю і спрэчак з-за гэтых вельмі сумніўных "скарбаў", нельга ўпрыгожваць гэтымі "скарбамі" нашыя палацы, залы і школы, гэтыя "скарбы" трэба абясшкодзіць — сабраць і замкнуць у вязніцы-музеі».

Цяжка сказаць, што ўяўляў «вязніца-музей», створаны У. А. Дзмітрыевым у Мінску, але хутчэй за ўсё ў яго экспазіцыі сумяшчаліся інтэр'ерны і калекцыйны спосабы паказу жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадметаў матэрыяльнай культуры.

Далейшае развіццё Абласнога музея перапынілася з перамяшчэннем НКА ў Вільню ў сувязі з абвяшчэннем Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У Мінску пакінулі аддзел народнай адукацыі пры рэўкаме, у кампетэнцыю якога адышлі пытанні музейнай справы і аховы помнікаў. Тым не менш і ў той час былі зроблены пэўныя крокі ў галіне музейнага будаўніцтва.

*Экспазіцыя Абласнога музея ў Мінску*








*Архітэктурны праект мастацкага музея В. Ельскага ў Мінску*

22 лютага 1919 г. старшыня часовага ўрада Літбела В. С. Міцкевіч-Капсукас падпісаў пастанову аб ахове культурных каштоўнасцей на тэрыторыі рэспублікі. Гэта пастанова прадугледжвала абвяшчэнне ўласнасцю дзяржавы ўсіх помнікаў, агульную забарону на іх вываз, а таксама арганізацыю ўліку. На працягу першай паловы 1919 г. размяркоўвалі каштоўнасці, нацыяналізаваныя аддзелам народнай адукацыі. Найбольш важнае з пункту гледжання гісторыі і мастацтва накіроўвалі ў Абласны музей і кабінеты БДУ, рэчы, не вартыя ўвагі, заставаліся ў пазашкольных установах — клубах, бібліятэках, народных дамах.

Нягледзячы на намаганні НКА, накіраваныя на арганізацыю музеяў і ахову помнікаў, знішчэнне і вываз беларускай гісторыка-культурнай спадчыны ў той час дасягнулі небывалых памераў. Помнікі знікалі ў выніку неаднаразовага перамяшчэння лініі фронту, вандалізму і галоўнае — мэтанакіраванага вывазу найбольш значных каштоўнасцей у суседнія дзяржавы. Летам 1920 г. перад адступленнем з Беларусі польскія войскі вывезлі разам з калекцыямі Мінскага абласнога музея шэраг прыватных збораў. Сярод іх была багатая калекцыя мясцовага і заходнееўрапейскага жывапісу В. Ельскага, на падмурку якой, згодна з планам уладальніка, у Мінску меркавалася стварыць першы публічны мастацкі музей[1].

Новыя вялікія страты помнікаў матэрыяльнай культуры Беларусь панесла пасля падпісання ў сакавіку 1921 г. (пры адсутнасці беларускай дэлегацыі) мірнага дагавора паміж Расіяй і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай — з другога. Разам з прызнаннем гістарычных правоў Поль-

[1] Здзейсніць гэты высакародны ўчынак Вільгельму Ельскаму перашкодзіла заўчасная смерць у снежні 1919 г. Захаваўся архітэктурны праект музея.

шчы на землі Заходняй Беларусі XI артыкул дагавора прызнаваў польскі народ уласнікам усіх рухомых помнікаў гісторыі і культуры, створаных у Заходняй Беларусі, нават калі яны знаходзіліся па-за межамі апошняй. У сваю чаргу палякі ўзялі на сябе абавязак вярнуць Расіі і Украіне іх нацыянальныя культурныя каштоўнасці, што трапілі ў розныя часы ў зборы Польшчы. На практыцы гэта азначала перадачу з расійскіх сховішчаў у Польшчу прадметаў са збораў Радзівілаў, Сапегаў, Браніцкіх і інш. У адваротным кірунку перадаваліся шматлікія помнікі мастацтва і гістарычныя рэліквіі, якія мелі ўсходнебеларускую тэрытарыяльную прывязку.

Падчас работы спецыяльнай змешанай камісіі, якая ажыццяўляла XI артыкул Рыжскага дагавора, у складзе НКА БССР ужо дзейнічала, абапіраючыся на некалькі адпаведных заканадаўчых актаў, структура па ахове помнікаў мастацтва і старажытнасцей. Але яе прадстаўнікоў не запрасілі ў склад змешанай камісіі. Гэта не выклікала абурэння — пасля няўдалай спробы аднавіць у 1918 г. незалежную дзяржаву большасць нацыянальнай інтэлігенцыі знаходзілася ў эміграцыі. А кіраўніцтва БССР з ахвотаю дэлегавала свае правы Маскве.

У 1920 г. на тэрыторыі БССР, якая зменшылася да памераў Мінскай губерні, пачаў дзейнічаць пададдзел аховы помнікаў НКА. Ва ўмовах пасляваенных разбурэнняў і адсутнасці грашовых сродкаў гэтая праца ішла павольна. На паперы засталіся рэзалюцыі прадстаўнікоў асветы і культуры аб неабходнасці вяртання ў Беларусь усіх культурных каштоўнасцей, якія былі вывезены падчас вайны. Працягваліся стыхійныя рабаўніцтвы кінутых сядзіб. Прыпыніла сваю дзейнасць большасць музеяў.

У гэтай сітуацыі 24 ліпеня 1920 г. старшыня Мінскага губернскага рэўкама А. Р. Чарвякоў падпісаў загад, у якім прыватным асобам прапаноўвалася ў трохдзённы тэрмін паведаміць у Абласны музей пра маёмасць, што мае гістарычна-культурную каштоўнасць для яе ўліку і перадачы ў музей. Сітуацыя змянілася да лепшага пасля ўтварэння ў 1921 г. у складзе НКА Акадэмічнага цэнтра, які аб'яднаў усіх навукоўцаў, што мелі дачыненне да вывучэння і аховы гістарычна-культурнай спадчыны. Акадэмічны цэнтр кіраваў дзейнасцю навукова-даследчых, мастацкіх устаноў, а таксама музеяў, дзеля чаго ў яго структуры была створана Музейная камісія (Галоўмузей). Нягледзячы на цяжкасці матэрыяльна-тэхнічнага характару, яна ўпершыню паставіла мэту стварэння агульнадзяржаўнай музейнай сеткі з цэнтральным кіраваннем. Музейная камісія складалася са старшыні — нумізмата П. В. Харламповіча, якога запрасіў з Расіі кіраўнік Акадэмічнага цэнтра С. М. Некрашэвіч, двух членаў і сакратара.

Першым і галоўным заданнем камісіі было аднаўленне Абласнога музея ў Мінску, які пасля адступлення польскіх войскаў знаходзіўся ў



*Будынак---
Беларускага-
дзяржаўнага-
музея--
ў-Мінску*

цяжкім стане. У 1921 г. у ім заставалася каля 1 тыс. прадметаў мастацтва і каля 2 тыс. адзінак нумізматыкі. Аднаўленне Абласнога музея ішло ўжо ў новым памяшканні — у будынку архірэйскага дома. У 1921—1922 гг. тут праводзіліся інтэнсіўныя работы па зборы і інвентарызацыі калекцый. У ліку паступленняў таго часу трэба прыгадаць калекцыю тканін, вопраткі і замалёвак, якую сабрала экспедыцыя НКА ў Слуцкім павеце. Фонды музея ўзбагацілі рукапісныя кнігі, нумізматычны збор, культавыя рэчы былога Мінскага царкоўна-археалагічнага музея, рээвакуіраваныя з Разані. З Мінскага таварыства аматараў гісторыі і старасветчыны музею былі перададзены матэрыялы археалагічных раскопак у Заслаўі і рэшткі калекцый былога Мінскага гарадскога музея.

На аднаўленне музея звярнулі ўвагу вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы БССР: ЦВК ахвяраваў калекцыю старажытных манет, СНК — калекцыю акварэляў XIX ст., Наркамат земляробства — карціны і старажытную зброю. Галоўны музейны фонд РСФСР передаў невялікую калекцыю фарфору і прадметаў выяўленчага мастацтва. Адзін з найбольш каштоўных падарункаў зрабіў Цэнтрархіў БССР — частку знакамітай выставы І. Луцкевіча і А. Іпеля. Напрыканцы 1922 г. з'езд Саветаў вырашыў перадаць у музей выставу, арганізаваную да яго адкрыцця. Фонды і экспазіцыя яшчэ знаходзіліся ў стане фарміравання, калі 19 лістапада 1922 г. у музей прыйшла першая экскурсія вучняў.

У снежні 1923 г. СНК БССР выдаў пастанову «Аб рэгістрацыі, прыёме на ўлік і ахове помнікаў мастацтва, мінуўшчыны, побыту і мясцовасцей прыроды, якія з'яўляюцца ўласнасцю ўстаноў і таварыстваў, а таксама прыватных асоб». Гэтай пастановай забараняліся вываз і продаж помнікаў культуры за мяжу, перадача іх ад аднаго ўладальніка другому. Перамяшчэнне помнікаў павінна было абавязкова рэгістравацца

*Экспазіцыя Беларускага дзяржаўнага музея ў Мінску*



навукова-экспертнай камісіяй, якая была створана НКА. Пры продажы таго ці іншага помніка перавагу мела навукова-экспертная камісія. Музеі маглі выкарыстоўваць помнікі, якія знаходзіліся ў прыватнай уласнасці. У цэлым пастанова стварала прававую базу збіральніцкай дзейнасці дзяржаўных музеяў БССР.

Падчас выхаду пастановы СНК ***Беларускі дзяржаўны музей*** (БДМ) — так было вырашана назваць аднаўлены Абласны музей — ужо меў уласны статут. Адпаведна яму БДМ з'яўляўся цэнтральнай установай для захавання рухомай часткі гістарычна-культурнай спадчыны з уласнымі архівам і бібліятэкай. Вышэйшым кіруючым органам музея была рада, якая складалася з дырэктара, навуковых супрацоўнікаў і вучонага сакратара. У кампетэнцыю рады ўваходзіла вырашэнне найбольш складаных пытанняў дзейнасці музея, у тым ліку прызначэнне дырэктара. БДМ меў статус навуковай установы з правам самастойнага вырашэння пытанняў унутранага жыцця. Асаблівае значэнне надавалася параграфу, дзе добраахвотныя члены-карэспандэнты музея разглядаліся як жывая сувязь з правінцыяй. Аўтарам статута быў дырэктар музея П. В. Харламповіч, які адначасова працягваў выконваць абавязкі старшыні музейнай камісіі Акадэмічнага цэнтра.

У першы год існавання БДМ быў адкрыты для наведвання па нядзелях ад 12 да 15 гадзін, экскурсіі праводзіліся па папярэднім запісе, уваход быў платны. Сёння выклікае ўсмешку параграф статута, які рэгламентаваў паводзіны наведвальнікаў: «Забараняецца ў музеі гучна размаўляць, грукаць, пляваць на падлогу, паліць і дакранацца да прадметаў рукамі. Наведвальнікі з палкамі, парасонамі, кошыкамі, партфелямі ў музей не дапускаюцца».

У 1924 г. СНК БССР зацвердзіў спіс музеяў, якія фінансаваліся з дзяржаўнага бюджэту Акадэмічным цэнтрам. У яго ўвайшлі тры музеі: Беларускі дзяржаўны музей у Мінску, Музей пралетарскай культуры ў Магілёве і Гістарычна-археалагічны музей у Віцебску. У 1926 г. да гэтага спісу быў далучаны Гомельскі культурна-гістарычны музей. Астатнія (у асноўным гэта былі музеі краязнаўчых таварыстваў) разглядаліся як музеі мясцовага значэння і мусілі фінансавацца з мясцовых бюджэтаў.

Было вырашана ісці па шляху канцэнтрацыі — БДМ у Мінску надаваўся статус цэнтральнай музейнай установы з філіяламі (аддзяленнямі) у Віцебску і Магілёве (з 1926 г. і ў Гомелі), куды павінны былі перадавацца ўсе помнікі агульнарэспубліканскага значэння. На думку ініцыятараў гэтага праекта, філіялізацыя не азначала простае паглынанне малых музеяў сталічным. Аб'яднаныя музеі, падпарадкоўваючыся волі савета сталічнага музея і музейнай камісіі Акадэмічнага цэнтра, захоўвалі аўтаномію навуковай работы, свабоду папаўнення калекцый і іх недатыкальнасць. Усе гэтыя палажэнні былі выкладзены ў пастанове СНК БССР ад 19 лістапада 1924 г. «Аб канцэнтрацыі мастацкіх і гісторыка-культурных кашоўнасцей».

Такім чынам, у 1924 г. была выпрацавана і рэалізавана праграма аб'яднання музеяў рэспублікі ў пэўную сістэму. Яна тычылася музеяў дзяржаўнага значэння, якія ўваходзілі ў сістэму НКА. Сетка краязнаўчых музеяў, якія фінансаваліся з мясцовых бюджэтаў і па колькасці значна пераўзыходзілі наркамасветаўскія, патрабавала сур'ёзнай арганізацыйнай і навуковай прапрацоўкі. Не былі ўлічаны музеі, якія заставаліся ў іншых структурах (ЦК КП(б)Б, Наркамзема, Інбелкульта, БДУ і інш.).

Перыядам актыўнага назапашвання фондавых калекцый сталі 1924—1925 гг. Згодна з пастановай «Аб канцэнтрацыі...» у Мінск перавезлі калекцыі былых Мсціслаўскай духоўнай семінарыі і Горы-Горацкага інстытута, найбольш каштоўныя экспанаты са Слуцкага краязнаўчага музея. Бабруйскае краязнаўчае таварыства перадало ў Мінск 537 сярэбраных манет XVII ст. У 1926 г. з Віцебскага музея ў БДМ перавезлі помнікі яўрэйскай культуры са збору А. Р. Брадоўскага.

Акрамя таго калекцыі папаўняліся за кошт ахвяраванняў грамадзян і планавых экспедыцый. Вельмі плённай была экспедыцыя па зборы этнаграфічных прадметаў для беларускага аддзела на Усесаюзнай выставе ў Маскве. Летам 1926 г. археалагічны аддзел музея праводзіў раскопкі гарадзішча Банцараўшчына, даследаваў курганы каля Лагойска, а таксама стаянку каменнага веку ў Кострыне каля Пухавіч. Этнаграфічны аддзел правёў дзве экспедыцыі на Мазыршчыну і Барысаўшчыну. Яўрэйскі аддзел праводзіў экспедыцыю па зборы экспанатаў на Калініншчыне.

Сябры рады БДМ звязвалі вялікія надзеі з павелічэннем фондавых калекцый першакласнымі помнікамі беларускай культуры, якія былі вы-

везены ў канцы XVIII — пачатку XX ст. у расійскія сталіцы. Ужо ў 1924 г. намеснік наркама асветы А. В. Баліцкі звяртаўся да камісара па ваенных справах у Маскве з просьбаю пра дастаўку ў БДМ узораў зброі і рыштунку часоў Першай сусветнай вайны. У больш рашучай форме прэтэнзіі да РСФСР вярнуць культурныя помнікі былі выказаны ўдзельнікамі 1-га з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, які па ініцыятыве Інбелкульта адбыўся ў Мінску 17—18 студзеня 1926 г. У рэзалюцыі з'езда № 4 «Аб музейнай справе», між іншым, гаварылася: «З'езд лічыць патрэбным падняць перад Урадам пытанне аб звароце ў музеі БССР прадметаў археалогіі і мастацтва, якія вывезены ў розныя часы за межы Беларусі і знаходзяцца ў музеях РСФСР, як, напрыклад: а) у Смаленскім музэі — 25 работ італьянскіх і нідэрландскіх майстроў XIV—XVII стст. з Горак; б) у Маскве — куфар з срэбра і шкатулка з дыямэнтамі, эвакуяваныя з Менскага музею; в) ва Ульянінску — часткі музейных рэчаў беларускага гісторыка Жыркевіча».

Гэтыя патрабаванні былі перададзены ўрадам БССР у НКА РСФСР і ўжо 19 ліпеня 1926 г. за подпісам В. У. Куйбышава выйшла спецыяльная пастанова СНК СССР «Аб вяртанні ў Беларускі дзяржаўны музей некаторых музейных экспанатаў з музеяў РСФСР». Першыя чатыры пункты пастановы адмаўлялі беларускаму боку ў пералічаных вышэй патрабаваннях на падставе таго, што апошнія мелі агульнасаюзнае значэнне. І толькі апошні, пяты, пункт дазваляў вярнуць у БДМ «...шрыфт і абсталяванне старажытнай яўрэйскай друкарні, старажытнай работы Тору, ханукальную лампаду любавіцкага равіна Шэерсона, сярэбраныя ўпрыгожанні да Торы, сярэбраны крыж XVII ст. з Заслаўскай царквы».

11 жніўня 1926 г. па дамоўленасці з Галоўмузеем НКА РСФСР у Маскву па музейныя прадметы былі камандзіраваны дырэктар БДМ П. В. Харламповіч і супрацоўнік Інбелкульта мастацтвазнаўца М. М. Шчакаціхін. Кіраўніцтва НКА РСФСР аказалася больш шчодрым, чым саюзны СНК. Акрамя пазначаных у пятым пункце яўрэйскіх старажытнасцей, беларускім навукоўцам перадалі з музейнага фонду 39 карцін рускіх мастакоў — І. Айвазоўскага, І. Рэпіна, В. Макоўскага, Г. Семірадскага, В. Сярова, скульптуры М. Антакольскага, каля 500 старажытных манет.

15 студзеня 1927 г. П. В. Харламповіч зноў адпраўляецца ў Маскву, дзе атрымлівае ад Галоўмузея каля 30 карцін рускіх мастакоў, больш за 40 старажытных прадметаў з фарфору і хрусталю, 40 гравюр, 80 манет, 5 абразоў, 2 слуцкія паясы і 40 кніг па гісторыі мастацтва. На працягу 1927 г. НКА БССР арганізаваў яшчэ дзве камандзіроўкі сваіх супрацоўнікаў у Маскву і Ленінград з рэстытуцыйнымі мэтамі. Але плёну яны не далі.

Інтэнсіўныя работы па камплектаванні фондавых калекцый БДМ, агульная колькасць якіх да канца першага пяцігоддзя яго існавання




*Каталог выставы слуцкіх паясоў у Беларускім дзяржаўным музеі.* 1927 г.

дасягнула 30 тыс. адзінак, абумовілі стварэнне новай, больш складанай сістэмы ўліку. Кожны прадмет паступаў у музей з суправаджальным дакументам, потым заносіўся ў кнігу паступленняў, калекцыйны вопіс і даведачную картатэку.

Хуткі рост калекцый паспрыяў пошуку новых шляхоў у экспазіцыйнай рабоце. На працягу 1926 г. у музеі была праведзена рээкспазіцыя, пасля чаго 10 кастрычніка 1926 г. адбылося адкрыццё новай экспазіцыі БДМ. Мастацкі аддзел займаў чатыры пакоі, у трох з якіх экспанаваліся творы рускіх мастакоў XIX — пачатку XX ст., а ў чацвёртым была разгорнута выстава «Старажытны беларускі партрэт». Звяртаў таксама на сябе ўвагу этнаграфічны аддзел, які займаў памяшканне былой хатняй архірэйскай царквы. Яго стваральнікі імкнуліся адысці ад манатоннага акадэмічнага пакалекцыйнага паказу этнаграфічных экспанатаў, увесці элемент тэатралізацыі з дапамогай манекенаў, інтэр’ера сялянскай хаты, а таксама мастацкага аздаблення сцен былой царквы. Акрамя беларускага этнаграфічнага аддзела, у абноўленай экспазіцыі з’явіўся яўрэйскі аддзел[1], дзе пераважна дэманстраваліся прадметы яўрэйскага побыту і культу. Самастойнае значэнне меў археалагічны аддзел з пададдзелам нумізматыкі.

Нягледзячы на абмежаваны па часе доступ наведвальнікаў і адсутнасць спецыяльнага аддзела, які б займаўся навукова-асветніцкай работай, у другой палове 20-х гг. XX ст. БДМ разгарнуў вялікую работу па папулярызацыі сярод насельніцтва БССР помнікаў беларускай гісторыі і мастацтва. Пераважна гэта былі навучэнцы, для якіх распрацавалі спецыяльныя экскурсіі. У лічбавых паказчыках наведванне музея ў 1924—1927 гг. выглядае наступным чынам:

| Гады | Колькасць груп | Колькасць наведвальнікаў |
|---|---|---|
| 1924—1925 | 430 | 11 696 |
| 1925—1926 | 280 | 8823 |
| 1926—1927 | 481 | 16 671 |

[1] Яўрэйская навуковая грамадскасць лічыла яўрэйскі аддзел БДМ музеем культуры яўрэяў Беларусі, таксама як функцыі цэнтральнага яўрэйскага музея ва Украіне выконваў музей імя Мендэля ў Адэсе.

Развіццё музейнай справы было б немагчымым без забеспячэння дзяржавай матэрыяльных і фінансавых умоў. Гаспадарчы хаос пачатку 20-х гг. XX ст. адмоўна адбіўся на ўсім грамадстве, у тым ліку на музейнай сферы. Трэба было рамантаваць музейныя будынкі, не хапала паліва, большасць мясцовых краязнаўчых музеяў не атрымлівала асігнаванняў увогуле. З 1923 г. фінансавае становішча музеяў палепшылася, калі ім дазволілі мець спецыяльныя сродкі, якія складаліся з даходаў ад продажу білетаў на ўваход, продажу выданняў, эксплуатацыі зямельных участкаў, будынкаў і інш.



*В. Ю. Ластоўскі*

У 1926/27 акадэмічным годзе[1] значна павялічыўся штат музея — у ім працавалі 12 чалавек: дырэктар, яго намеснік і тры навуковыя супрацоўнікі, астатнія — тэхнічныя супрацоўнікі. З'явіліся студэнты-практыканты. Падчас летніх канікул у музеі звычайна працавалі добраахвотнікі з педагагічнага факультэта БДУ. Важную ролю ў жыцці музея адыгрывала яго рада, якая акрамя навуковага персаналу музея ўключала супрацоўнікаў Інбелкульта Д. І. Даўгялу і І. А. Сербава, прадстаўніка ЦБК А. З. Казака, супрацоўніка бюро краязнаўства А. А. Сцепуржынскага. На рэгулярных пасяджэннях рады абмяркоўваліся планы летніх экспедыцый, тэматыка выстаў, сістэма ўліку музейных прадметаў. А на пасяджэнні рады музея 29 сакавіка 1927 г. абмяркоўвалася пытанне правядзення з'езда музейных супрацоўнікаў Беларусі. Гэта сведчыла, што музейная справа Беларусі знаходзіцца на мяжы новага этапа развіцця.

У 1927 г. дырэктарам БДМ быў прызначаны славуты беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, этнограф, філолаг, калекцыянер ***В. Ю. Ластоўскі***, які ў красавіку прыехаў у БССР з Коўна. На перыяд знаходжання В. Ю. Ластоўскага на пасадзе дырэктара (май 1927 — жнівень 1929 гг.) прыпадае найвышэйшы пік дзейнасці БДМ.

Адным з першых крокаў акадэміка В. Ю. Ластоўскага на пасадзе дырэктара музея было выратаванне нацыянальнай святыні — славутага крыжа Ефрасінні Полацкай, створанага выдатным майстрам Лазарам Богшам. Крыж знайшлі падчас полацкай экспедыцыі ў мясцовым фінаддзеле і перадалі на захаванне ў БДМ. Вялікія здабыткі дала сумес-

[1] Знаходзячыся ў падпарадкаванні Наркамасветы, БДМ «жыў» па графіку навучальных устаноў, зачыняючы свае дзверы на адзін летні месяц на канікулы.

ная этнаграфічная экспедыцыя БДМ і Інбелкульта на чале з В. Ю. Ластоўскім на Случчыну і Мазыршчыну, дзе было сабрана шмат этнаграфічных прадметаў — мастацкіх тканін, старажытнай вопраткі, разьбы па дрэве і інш. Экспедыцыя знаёмілася на месцы з рознымі прадметамі, якія мелі археалагічнае і гістарычнае значэнне. Праводзілася фотафіксацыя сялянскіх тыпаў і арнаментаў. У выніку экспедыцый БДМ на Тураўшчыну і Мсціслаўшчыну ў 1928 г. было набыта больш за тысячу прадметаў, сярод якіх кавалкі дываноў XVII ст., кубкі, талеркі, паясы, світкі.

Павялічвалася колькасць ахвяраванняў ад прыватных асоб. У пратаколе пасяджэння рады музея ад 19 студзеня 1928 г. чытаем: «...музей атрымаў ад Я. Купалы 3 прадметы: сярэбраны крыжык, шкляное баккара, жалезны старасвецкі замок». Вядомы этнограф А. К. Сержпутоўскі перадаў музею каля 50 прадметаў побыту, сабраных ім улетку 1924 г. у Аршанскай акрузе. Выкарыстоўваліся сувязі з краязнаўчымі арганізацыямі на месцах, якія таксама дапамагалі набываць новыя прадметы. Значна папоўнілася калекцыя нумізматыкі, дасягнуўшы 20 тыс. адзінак.

Да 1930 г. у музеі з'явіліся новыя аддзелы: царкоўна-археалагічны, прамысловы, сфрагістыкі, старажытнабеларускай вайсковасці. Рабіліся захады да пабудовы аддзела гравюрнага і акварэльнага мастацтва, польскага і латышскага аддзелаў, а таксама збіраліся матэрыялы, якія тычыліся жыцця цыганоў і татараў у Беларусі.

Мастацкі аддзел значна пашырыўся за кошт старажытнага і сучаснага мастацтва і быў структураваны В. Ю. Ластоўскім наступным чынам: а) беларускае мастацтва (работы Рустэма, Арлоўскага, Урублеўскага, Ясінскага, Піліповіча і інш.); б) рускае мастацтва; в) заходнееўрапейскае мастацтва.

У археалагічным аддзеле, загадчыкам якога быў арганізатар першых у БССР археалагічных экспедыцый А. М. Ляўданскі, дэманстраваліся знаходкі з каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў, была прадстаўлена значная колькасць прадметаў курганных раскопак (грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі).

Загадчык яўрэйскага аддзела А. Д. Палеес прадставіў у сваім раздзеле пераважна яўрэйскія культавыя старажытнасці і ў меншай ступені — этнаграфічны матэрыял.

У нумізматычным аддзеле можна было ўбачыць манеты і медалі розных краін: Старажытных Грэцыі і Рыма, Сярэдняй Азіі і інш. У аснову іх класіфікацыі былі пакладзены перыяды праўлення манархаў.

Вялікае навуковае значэнне меў царкоўны аддзел, дзе захоўвалася значная колькасць помнікаў беларускай іканапіснай школы (найста-

*А. Д. Палеес*



ражытным быў абраз прарока Іллі ад 1447 г.), а таксама старажытных прадметаў праваслаўнага рэлігійнага культу.

Аддзел «Стары Менск» быў адкрыты ў 1927 г. Сярод першых паступленняў выдзяляліся партрэты мінскіх ваяводаў, старажытныя рамесніцкія прылады, цэхавыя харугвы (шапавалаў, ткачоў, музыкантаў, сталяроў), старыя планы і малюнкі Мінска і інш.

У той час у фондах БДМ у Мінску налічвалася ўжо каля 60 тыс. адзінак захоўвання.

У жніўні 1928 г. на калегіі Наркамасветы быў зацверджаны новы статут беларускіх дзяржаўных музеяў. Згодна з ім былыя аддзяленні Белдзяржмузея выдзяляліся ў самастойныя гаспадарчыя адзінкі з уласным бюджэтам. У сувязі з гэтым дзяржаўным музеям былі дадзены наступныя назвы: Беларускі дзяржаўны культурна-гістарычны музей (г. Мінск), Беларускі дзяржаўны культурна-гістарычны музей (г. Віцебск), Беларускі дзяржаўны краязнаўчы музей (г. Магілёў), Беларускі дзяржаўны мастацка-культурны музей (г. Гомель).

Між тым у Маскве ў ідэалагічным кіраўніцтве пачало складвацца новае ўяўленне пра музеі. 20 ліпеня 1928 г. на пасяджэнні Усесаюзнага ЦВК была прынята рэзалюцыя аб музейным будаўніцтве, дзе музейныя работнікі крытыкаваліся за нездавальняючую працу з пункту гледжання сацыялістычнага будаўніцтва. У якасці галоўных задач, што стаялі перад музеямі, былі выдзелены абслугоўванне культурна-асветніцкіх патрабаванняў працоўных мас, удзел у вывучэнні прыродных і вытворчых сіл краіны, рабочага руху і побыту працоўных, індустрыялізацыі і ўмацаванні абараназдольнасці краіны. Пачалася перабудова работы савецкіх музеяў, падчас якой значна змяніліся напрамкі іх дзейнасці, а таксама склад навуковых кадраў.

1 жніўня 1929 г. спецыяльная камісія НКА, якая абследавала БДМ, рэзка крытыкавала аддзел «Стары Менск» за экспанаванне партрэтаў мінскіх ваяводаў, яўрэйскі — за экспанаванне яўрэйскіх культавых старажытнасцей, этнаграфічны — за дэманстрацыю выключна сялянскіх рэчаў, мастацкі — за набыццё прадметаў царкоўнага мастацтва. Канстатавалася, што акрамя бюста Леніна ў экспазіцыі няма сродкаў камуністычнай прапаганды. Адбыліся і прымусовыя кадравыя перастаноўкі. З музея былі звольнены навуковыя супрацоўнікі з неадпаведным класавым паходжаннем. Моцна крытыкавалі В. Ю. Ластоўскага за неразуменне ролі музея як выхаваўчай пралетарскай установы. Неўзабаве ён разам са старшынёй Галоўнавукі С. М. Некрашэвічам быў арыштаваны. Абвінавачаныя ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі», абодва былі асуджаны на розныя тэрміны ссылкі ў глыб Расіі, а ўвосень 1937 г. паўторна арыштаваны і расстраляны.

У снежні 1930 г. у Маскве сабраўся Усерасійскі музейны з’езд. На ім гучалі заклікі пераадолець «рэакцыйнае руцінёрства», адысці ад «музеяў-кунсткамер», паставіць іх на службу сацыялістычнаму будаўніцтву. У дакладах на з’ездзе ставіліся дзве кардынальныя праблемы: метадалагічныя асновы пабудовы экспазіцый, іх ідэйны змест і структура; аб’екты музейнага паказу, роля аўтэнтычных помнікаў у музеі. Абедзве праблемы былі вырашаны на карысць ідэалогіі, а не культуры. Абраны ў Маскве курс замацавала Усебеларуская нарада музейных супрацоўнікаў, што адбылася ў Мінску ў 1932 г. Прынятая на нарадзе рэзалюцыя патрабавала ад музеяў перш за ўсё ўдзелу ў класавай барацьбе пралетарыяту з капіталістычнымі элементамі, у канчатковым выкарчоўванні карэнняў капіталізму і рашучай барацьбе з контррэвалюцыйным беларускім нацдэмакратызмам. На нарадзе гучалі заклікі да выгнання старых спецыялістаў, чысткі фондаў, карэннай перабудовы экспазіцый.

У пачатку 1930 г. СНК БССР выселіў БДМ з будынка Архірэйскага падвор’я, выдзеліўшы для яго ў часовае карыстанне чатыры пакоі ў Доме селяніна. Туды ж перавялі Заалагічны музей Інбелкульта. У гэтым памяшканні калекцыі музея з новай назвай — «Мінскі сацыяльна-гістарычны», нягледзячы на шматлікія звароты яго супрацоўнікаў у самыя высокія інстанцыі з просьбамі вярнуць былы будынак, заставаліся да часу іх вывазу нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў 1944 г.

Пасля арышту В. Ю. Ластоўскага на працягу года абавязкі дырэктара выконваў М. І. Шапавалаў. У лютым 1931 г. на гэтай пасадзе яго змяніў выдатны дзеяч беларускага нацыянальнага руху, былы сябра Рады БНР, сябра ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады С. А. Рак-Міхайлоўскі, які за некалькі месяцаў да гэтага прыехаў у БССР з Польшчы. У хуткім тэмпе пад яго кіраўніцтвам разгарнулі новую экспазіцыю, у аснову якой

была пакладзена марксісцкая схема змены сацыяльна-эканамічных фармацый. Усе матэрыялы аўтары падзялілі па перыядах: першабытнае грамадства, феадалізм, капіталізм, дыктатура пралетарыяту і сацыялістычнае будаўніцтва. Найбольшая ўвага была нададзена апошняму перыяду, дзе з дапамогай макетаў, мадэлей і дыяграм распавядалася пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, Грамадзянскую вайну, індустрыялізацыю, электрыфікацыю, сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, дасягненні ленінскай нацыянальнай палітыкі.

*С. А. Рак-Міхайлоўскі*



У асветніцка-прапагандысцкай рабоце асноўная ўвага была звернута на стварэнне перасоўных выставаў, прысвечаных гаспадарча-палітычным кампаніям, рэвалюцыйным святам і інш. Выставы накіроўваліся ў школы, калгасы, прамысловыя прадпрыемствы, вайсковыя часці. Падобная змена кірунку ў асветніцкай рабоце музея тлумачыцца не толькі імкненнем выйсці на максімальна шырокую аўдыторыю, але і вельмі абмежаванымі магчымасцямі прыняць наведвальнікаў у стацыянарнай экспазіцыі.

У гэты ж час адбыліся змены ў структуры кіраўніцтва музейнай справай БССР. Пасля чарговай рэарганізацыі, у выніку якой Галоўнавука была скасавана, Наркамасветы структурна стаў падзяляцца на кіраўніцтвы і аддзелы. У 7-ы аддзел, які аб’ядноўваў хаты-чытальні, клубы, дамы культуры і паркі, трапілі і музеі. Такім чынам, музеі фактычна былі пераўтвораны з навуковых устаноў у культурна-асветніцкія. А кіраўніцтва музейнай справай з калегіяльнага органа, які аб’ядноўваў буйнейшых спецыялістаў у галіне вывучэння і аховы гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны, ператварыўся ў звычайны бюракратычны дэпартамент, які займаўся перадачай загадаў па інстанцыі.

Пасля арышту па абвінавачванні ў «шпіёнскай дзейнасці» ў жніўні 1933 г. С. А. Рак-Міхайлоўскага на пасаду дырэктара Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея быў прызначаны яго намеснік, аспірант гістарычнага факультэта БДУ С. М. Якубчык. Пасля двух гадоў змагання з уладамі за музейны будынак ён пайшоў на своеасаблівы крок адчаю — звярнуўся з лістом у рэдакцыю газеты «Праўда». У гэтым лісце, у прыватнасці, ён пісаў: «Музейная справа ў БССР відавочна недаацэньваецца. Цэнтральны гістарычны музей у Мінску знайшоў прытулак у чатырох маленькіх пакойчыках. Мастацкі аддзел музея зачынены, таму што

няма выставачнай плошчы. Гэтакі багаты фонд помнікаў мастацтва, археалагічныя калекцыі, вялікі этнаграфічны і антырэлігійны матэрыял музей вымушаны ўтрымліваць у вільготных скляпеннях».

Публікацыя гэтага крытычнага ліста ў галоўнай партыйнай газеце краіны выклікала прыняцце трох пастаноў бюро ЦК КП(б)Б, спецыяльна прысвечаных стану музейнай справы ў рэспубліцы. Першая з іх, якая выйшла 29 красавіка 1935 г., пачыналася з рэзкай крытыкі ўсіх напрамкаў музейнай дзейнасці ў БССР. Партыйнае кіраўніцтва было незадаволена адсутнасцю работы па стварэнні музейнай сеткі, слабым паказам сацыялістычнага будаўніцтва, адсутнасцю сувязі з гаспадарчымі і навукова-даследчымі ўстановамі, дрэнным улікам і аховай помнікаў, нізкай якасцю экскурсійнага абслугоўвання. Прычым віна за ўсё гэта ўскладалася на НКА і Беларускую акадэмію навук. Паляпшэнню стану музейнай справы, на думку аўтараў пастановы, павінна было паспрыяць неадкладнае выкананне наступных мер: стварэнне спецыяльнага органа кіраўніцтва музеямі рэспублікі, паляпшэнне матэрыяльна-фінансавага становішча музеяў, сістэмы прафесійнай падрыхтоўкі музейных супрацоўнікаў, увядзенне крымінальнай адказнасці за псаванне гістарычных помнікаў.

Ніводная з гэтых мер, а кожная з якіх, безумоўна, спрыяла б паляпшэнню стану музейнай справы ў БССР, не была і не магла быць выканана ва ўмовах ідэалагічнага клімату, які склаўся ў рэспубліцы ў 1930-я гг. Тым не менш 21 чэрвеня 1936 г. з’явілася новая пастанова ЦК КП(б)Б «Аб краязнаўчай рабоце і становішчы музейнай справы ў БССР», якая дубліравала папярэднюю пастанову. Але і гэта пастанова не была выканана, што зафіксавана ў лютым 1937 г. у трэцяй пастанове Бюро ЦК КП(б)Б «Аб выкананні рашэнняў Бюро ЦК КП(б)Б ад 29 красавіка 1935 г. і 21 чэрвеня 1936 г. аб музеях».

У сваёй аснове трэцяя пастанова ўздымала тыя ж пытанні, што і дзве папярэднія: сістэму кіраўніцтва, кадраў, матэрыяльна-фінансавага забеспячэння. Але на гэты раз яны атрымалі іншую палітычную афарбоўку. Тон усёй пастанове задаваў першы сказ, дзе размова ішла пра нізкі ідэйна-палітычны змест работы музеяў па прапагандзе грамадзянскай гісторыі, гісторыі бальшавізму і сацыялістычнага будаўніцтва. Экспазіцыі ўсіх музеяў гісторыка-краязнаўчага профілю планавалася перабудаваць у адпаведнасці са зместам пастановы ЦК УсеКП(б) «Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР». На бліжэйшую будучыню было намечана ліквідаваць Мінскі сацыяльна-гістарычны музей шляхам зліцця яго з Музеем рэвалюцыі і ўтварэння адзінага Цэнтральнага гісторыка-рэвалюцыйнага музея (гэта не было здзейснена). Усіх беспартыйных кіраўнікоў музеяў загадвалі замяніць камуністамі і

камсамольцамі. Працаваць на пасадах навуковых супрацоўнікаў беспартыйныя маглі толькі пад пільным наглядам камуністаў.

На гэты раз партыйнае кіраўніцтва не абмежавалася цьмянымі абвінавачваннямі ў адрас НКА і Беларускай акадэміі навук. За «сабатаж» выканання пастаноў ЦК быў зняты са сваёй пасады і расстраляны ў маі 1938 г. пасля паўгадавога зняволення ў турме дырэктар Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея С. М. Якубчык[1]. Рашэнні лютаўскай пастановы Бюро ЦК КП(б)Б 1937 г. замацавала Усебеларуская нарада музейных супрацоўнікаў, якая праходзіла ў Мінску 25—26 лютага 1938 г. Удзельнікі нарады аднагалосна прынялі пастанову аб перабудове экспазіцый усіх музеяў БССР адпаведна партыйным рашэнням аб пастаноўцы гістарычнай адукацыі. Быў вызначаны тэрмін — 20-годдзе ўтварэння БССР. Выкананне рашэнняў нарады абумовіла паралелізм у дзейнасці музеяў БССР, размыццё граней паміж профілямі музеяў, а ў шэрагу выпадкаў іх закрыццё. Многія рашэнні, прынятыя на нарадзе, тычыліся матэрыяльна-тэхнічнай дзейнасці музеяў, забеспячэння іх кваліфікаванымі кадрамі. Так, было вырашана абавязаць абласныя і раённыя савецкія ўлады фінансаваць дзейнасць сваіх музеяў, павысіць якасць захавання фондавых калекцый, павялічыць штатныя расклады, заробкі музейных работнікаў, стварыць пры Мінскім сацыяльна-гістарычным музеі кабінет музеязнаўства. У адрозненне ад задач ідэалагічнага характару, задачы паляпшэння матэрыяльна-тэхнічнага і кадравага стану музеяў БССР, ухваленыя Усебеларускай нарадай 1938 г., не былі выкананы.

Пачатак стварэння сеткі дзяржаўных музеяў на ўсходнебеларускіх землях быў звязаны з дзейнасцю Саюза камун Паўночнай вобласці з цэнтрам у Петраградзе (Заходняй камуны). У склад гэтай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі Савецкай Расіі акрамя этнічных расійскіх зямель увайшлі неакупаваныя немцамі паветы Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў.

Пасля пераезду савецкага ўрада ў сакавіку 1918 г. у Маскву частка апарату НКА на чале з А. В. Луначарскім засталася ў Петраградзе. Яна ўзяла на сябе функцыі Камісарыята асветы Заходняй камуны. Тады ж у аддзеле народнай адукацыі камуны была створана калегія па справах музеяў, якую ўзначаліў мастацтвазнаўца, урадавы камісар Г. С. Ятманаў. На працягу двух гадоў петраградская музейная калегія дзейнічала аўтаномна ад усерасійскага аддзела музеяў, створанага ў Маскве летам 1918 г. пад кіраўніцтвам Н. І. Троцкай.

[1] Так праз тры гады партыйнае кіраўніцтва БССР адпомсціла С. М. Якубчыку за крытычны ліст у рэдакцыю газеты «Праўда» пра стан музейнай справы ў рэспубліцы.

У Віцебскай губерні пытанні музейнага будаўніцтва з самага пачатку знаходзіліся ў кампетэнцыі камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва Заходняй камуны на чале з А. О. Цшохерам. На працягу 1919—1920 гг. ён фарміраваў губернскі музейны фонд, браў на ўлік помнікі і музейныя калекцыі, займаўся іх апісаннем і фотафіксацыяй. У лістападзе 1918 г. камісія распачала стварэнне ***Віцебскага-гістарычна-археалагічнага-музея***, у аснову якога быў пакладзены прыватны збор А. Р. Брадоўскага. Музей адкрыўся для наведвальнікаў у маі 1919 г. у будынку Базыльянскага кляштара. Яго экспазіцыі, спраектаваныя А. Р. Брадоўскім (ён быў прызначаны дырэктарам новай установы), карысталіся вялікай папулярнасцю. Адначасова з абавязкамі дырэктара музея ён выконваў абавязкі старшыні створанай у лютым 1920 г. музейнай камісіі, у кампетэнцыю якой адышлі пытанні аховы і вывучэння рухомай гісторыка-культурнай спадчыны ў губерні. У склад музейнай камісіі, якая праіснавала да 1924 г., уваходзілі мастакі С. Б. Юдовін, А. Г. Ром, а таксама гісторык М. М. Багародскі. Музейная камісія надавала вялікую ўвагу камплектаванню калекцый. Дзякуючы намаганням яе сяброў у фонды музея паступіла значная частка калекцый В. П. Федаровіча, калекцыі эвакуіраванага ў Віцебск Віленскага афіцэрскага таварыства, каштоўныя рукапісы. Шмат помнікаў было дастаўлена ў музей з рэзідэнцый заможнай шляхты Віцебскай губерні. У выніку гэтай дзейнасці фонды музея падчас далучэння Віцебска да БССР у 1924 г. налічвалі ўжо каля 30 тыс. адзінак захоўвання.

У 1924 г. 65-гадовага А. Р. Брадоўскага[1] на пасадзе дырэктара змяніў вядомы археолаг і педагог Я. І. Васілевіч. Яго першым на новай пасадзе заданнем было выкананне рашэння СНК БССР ад 4 лістапада 1924 г. аб перадачы Віцебскаму музею будынка гарадской ратушы. Музей, якому ў 1925 г. рашэннем гарадскога Савета было нададзена імя Францыска Скарыны, вылучаўся сярод іншых моцным кадравым складам. З 1921 г. і да сваёй смерці ў 1930 г. навуковым супрацоўнікам у музеі працаваў вядомы музейны дзеяч з дарэвалюцыйным стажам У. Г. Краснянскі. Дзякуючы яго намаганням былі апісаны, каталагізаваны і тым самым захаваны для навуковага выкарыстання калекцыі былых ВВАК і царкоўна-археалагічнага музея, а таксама збор В. П. Федаровіча. З 1928 па 1936 г. намеснікам дырэктара і адначасова загадчыкам царкоўнага аддзела з'яўляўся старшыня гісторыка-культурнай секцыі Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства член-карэспандэнт Інбелкульта М. М. Багародскі. Даследаваннямі гістарычных помнікаў займаўся былы віцебскі

[1] А. Р. Брадоўскі да сваёй смерці ў 1928 г. не пакідаў музейна-краязнаўчай работы, выконваючы абавязкі кансультанта музея і члена праўлення Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства.

настаўнік, краязнаўца В. В. Дабравольскі. Дырэктар Я. І. Васілевіч, акрамя выканання адміністрацыйных абавязкаў, адказваў за этнаграфічны і мастацкі аддзелы.

У 1924—1927 гг. актыўна папаўняліся і сістэматызаваліся фондавыя калекцыі, выпрацоўваліся планы будучай новай экспазіцыі. У 1924 г. пасля смерці славутага гісторыка А. П. Сапунова ў фонды былі перададзены яго архіў (каля 800 рукапісаў) і асабістыя рэчы. З Масквы вярнулі ў музей на захоўванне мошчы св. Ефрасінні Полацкай[1]. Яўрэйская секцыя Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства ладзіла этнаграфічныя экспедыцыі з мэтай стварэння ў будучым яўрэйскага аддзела. У выніку за 1924—1925 гг. фонды музея павялічыліся на 2550 адзінак, у наступныя тры гады — яшчэ на 3500, перавысіўшы лічбу ў 30 тыс. Адкрыццё новай экспазіцыі культурна-гістарычнага музея ў Віцебску, якая складалася з шасці раздзелаў: археалагічнага, гістарычнага, мастацкага, этнаграфічнага, сучаснай прамысловасці і царкоўнага — адбылося 27 красавіка 1927 г.

Як бачым, аўтары плана — спецыялісты ў розных галінах матэрыяльнай культуры — нават не рабілі спроб пакласці ў аснову групоўкі матэрыялаў раскрыццё пэўных гістарычных тэм. Гутарка ішла толькі пра пакалекцыйнае прадстаўленне прадметаў. Але задача, якая была пастаўлена стваральнікамі новай экспазіцыі — даць агульнае ўяўленне пра гістарычнае мінулае краю, у цэлым была выканана. Вялікую ўвагу наведвальнікаў прыцягвалі палеанталагічныя знаходкі, даспехі эпохі Рэнесансу, гарматы-гарлачы паўстанцаў К. Каліноўскага, харугвы віцебскіх цэхаў, старажытныя манеты, масонскія знакі, жывапісныя творы беларускіх мастакоў. Пры пабудове экспазіцыі музея не ўдалося пазбегнуць метадычных памылак — у шэрагу залаў адсутнічалі тлумачальныя надпісы нават фармальнага характару, а некаторыя мелі анекдатычны характар, напрыклад: «Масоны былі першымі рэвалюцыянерамі ў Расіі», «Шпонка ў памяць Л. М. Талстога, як рэвалюцыянера 1917 г.».

Аднак не гэтыя хібы вызначалі дзейнасць Віцебскага музея ў другой палове 1920-х гг. Новы змест экспазіцыі музея, павышэнне агульнай цікавасці насельніцтва да мінулага свайго краю паспрыялі павышэнню колькасці наведвальнікаў. У гэты перыяд музей штогод аглядала ад 12 да

---

[1] Пасля адкрыцця савецкімі ўладамі ў антырэлігійных мэтах дамавіны з мошчамі св. Ефрасінні Полацкай, што захоўваліся ў Спаса-Праабражэнскім храме ў Полацку, яны былі перавезены ў Маскву для дэманстрацыі на антырэлігійнай выставе. У час нямецкай акупацыі, калі былі зноў адкрыты храмы і адноўлены манастыры, віцебляне перанеслі мошчы ў Свята-Пакроўскую царкву, а 23 кастрычніка 1943 г. яны ўрачыста вярнуліся ў Полацк.

23 тыс. чалавек. Сацыяльна-ўзроставы склад наведвальнікаў выглядаў наступным чынам: рабочыя і сяляне — 40 %, навучэнцы — 31 %, чырвонаармейцы — 29 %.

У 1930 г. музей, павялічыўшы агульную колькасць сваіх фондавых калекцый да 38 тыс. адзінак, знаходзіўся напярэдадні новага пад'ёму сваёй дзейнасці.

У лютым 1930 г. спецыяльнай камісіяй, якая складалася з прадстаўнікоў НКА, рабоча-сялянскай інспекцыі, гарсавета, адбылася праверка Віцебскага культурна-гістарычнага і археалагічнага музея. Камісія канстатавала нізкі ідэалагічны ўзровень яго работы. У побытавым аддзеле не дэманстравалася перамога калектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай, у антырэлігійным — прадметы культу не атрымалі антырэлігійнага тлумачэння, у мастацкім — не было аніводнага малюнка з рэвалюцыйным сюжэтам. Аўтары экспазіцыі крытыкаваліся за дэманстрацыю партрэтаў Ф. Скарыны, В. Цяпінскага, С. Буднага, К. Каліноўскага. Дырэктару музея Я. І. Васілевічу ўзгадалі яго дзейнасць па арганізацыі беларускай гімназіі падчас нямецкай акупацыі, навуковым супрацоўнікам В. В. Дабравольскаму — службу афіцэрам у царскай арміі, М. М. Багародскаму — пасаду рэдактара епархіяльных ведамасцей. Па выніках работы камісіі 11 лютага 1930 г. Віцебскі акруговы камітэт КП(б)Б прыняў пастанову, згодна якой увесь навуковы персанал музея быў звольнены. Хутка пасля звальнення быў арыштаваны і сасланы ў Башкірыю, дзе неўзабаве памёр, Я. І. Васілевіч. Як «ворагі народа» ў 30-я гг. ХХ ст. былі рэпрэсіраваны яго наступнікі Ю. Т. Шэўчык, А. С. Рафаловіч, а таксама навуковы супрацоўнік музея М. М. Багародскі.

Пасля выгнання спецыялістаў з музеяў пачалі знікаць аўтэнтычныя помнікі — іх замянілі плакаты, фотаздымкі, макеты. 11 красавіка 1932 г. згодна з пастановай сакратарыята Віцебскага ГК КП(б)Б Віцебскі культурна-гістарычны і археалагічны музей «з мэтай адлюстравання грамадскіх фармацый і рэвалюцый» быў перайменаваны ў сацыяльна-гістарычны. За выкананнем рашэнняў, выкладзеных у пастанове сакратарыята Віцебскага ГК КП(б)Б, назіраў новы дырэктар член партыі С. Р. Шчуцкі, а таксама музейны савет, утвораны з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і рабочых. Вынікам іх дзейнасці было рэзкае скарачэнне фондавых калекцый (да 1938 г. агульная колькасць прадметаў зменшылася да 17 тыс. адзінак) і поўны развал музейнай гаспадаркі.

15 чэрвеня 1938 г. пасля доўгатэрміновай рэканструкцыі адкрылася новая экспазіцыя Віцебскага музея, якая складалася з трох аддзелаў: старажытная гісторыя; сярэдневяковая гісторыя; аддзел сацыялістычнага будаўніцтва і Сталінскай Канстытуцыі. На асобных планшэтах пазало-




***Насценная газета супрацоўнікаў Віцебскага сацыяльна-гістарычнага музея*** – 1935 г.

чаным цісненнем былі выведзены назвы глаў Канстытуцыі. Адпаведна зместу экспазіцыі будавалася прапагандысцкая дзейнасць музея. Спецыяльныя мерапрыемствы праводзіліся ў гонар 70-годдзя Леніна і 60-годдзя Сталіна. На працягу апошняга перадваеннага 1940 г. рэканструяваны Віцебскі музей наведала 36,5 тыс. чалавек. У маі 1940 г. у будынку Антоніеўскага касцёла адкрыўся філіял Віцебскага сацыяльна-гістарычнага музея — Антырэлігійны музей.

Значную ролю ў культурным жыцці Віцебска ў першыя паслярэвалюцыйныя гады адыгрываў ***Музей сучаснага мастацтва***, ініцыятыва стварэння якога зыходзіла ад упаўнаважанага Наркамасветы РСФСР па Віцебскай губерні па арганізацыі школ, музеяў і выставаў М. З. Шагала. Актыўны ўдзел у камплектаванні калекцыі жывапісу бралі першы дырэктар Віцебскага мастацкага вучылішча М. В. Дабужынскі, кіраўнік вучэбнай майстэрні К. С. Малевіч, выкладчыкі А. Г. Ром і В. М. Ермалаева, а таксама члены віцебскай камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва.

Канцэпцыя будучага музея выклікала значныя спрэчкі паміж яго стваральнікамі, перш за ўсё паміж М. З. Шагалам і К. С. Малевічам, якія па-рознаму разумелі сутнасць новага мастацтва. Калі згодна першапачатковай задуме М. З. Шагала музей павінен быў мець два аддзелы — гістарычна-мастацкі і сучаснага мастацтва, то пасля далучэння да працы ўвосень 1919 г. К. С. Малевіча ад гістарычна-мастацкага аддзела вырашана было адмовіцца. Падобны падыход адпавядаў радыкальнаму светапогляду, філасофска-эстэтычнай канцэпцыі апошняга, якая прапанавала погляд на традыцыйны музей, як на стваральніка ілюзіі



*Антырэлігійны музей у Віцебску*

адвечнасці культуры. Яна разумелася мастаком як мёртвае цела, захоўваць якое ў музеі адпаведна было бессэнсоўна, ды і немагчыма. Стваральнікі ж класічных музеяў, на думку К. С. Малевіча, займаліся нічым іншым, як забойствам прадметаў і зняволеннем іх у музеях. Нягледзячы на ўвесь радыкалізм мастацкай тэорыі К. С. Малевіча, ён усё ж дапускаў існаванне музея, але насычанага не творамі мастацтва, а немастацкімі рэчамі[1].

Першыя паступленні музея дэманстраваліся на выставе, арганізаванай у Віцебску ў лістападзе 1919 г. А падчас святкавання трэціх угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі адбылося адкрыццё Музея сучаснага мастацтва, экспазіцыі якога былі разгорнуты ў памяшканні мастацкага вучылішча. Гэта былі работы Канчалоўскага, Фалька, Лентулава, Розанавай, Асьмёркіна, Ганчаровай, Ле-Данто, Экстэр, Шаўчэнкі, Малевіча, Шагала, Пэна, Сомава, Бразера, Юдовіна і інш. (усяго каля 80 твораў).

З канца 1921 г. віцебскі аддзел народнай адукацыі, напалоханы смелымі эксперыментамі ў галіне мастацкай педагогікі, імкнуўся абмежаваць работу мастацкага вучылішча, у той час ужо перайменаванага ў Мастацка-практычны інстытут. Былі скарочаны штатныя пасады выкладчыкаў. Першы паверх інстытута, дзе знаходзілася музейная экспазіцыя, перадалі музычнаму тэхнікуму. Тады ж з Віцебска з’ехалі стваральнікі музея — М. З. Шагал, К. С. Малевіч, шэраг іх паплечнікаў. У гэтых умовах далейшае існаванне Музея сучаснага мастацтва зрабілася немагчымым. На працягу 1922 г. выкладчыца інстытута В. М. Ермалаева перадала большасць палотнаў у Рускі музей і Траццякоўскую галерэю. Віцебскаму гістарычна-археалагічнаму музею перадалі 31 карціну левага кірунку, а ў пачатку 30-х гг. XX ст. і іх вывезлі ў Маскву.

Акрамя Гістарычна-археалагічнага музея і Музея сучаснага мастацтва Віцебская камісія па ахове помнікаў даўніны і мастацтва адкрыла

[1] Прамыя заклікі да знішчэння музея як сацыяльнага інстытута можна знайсці ў эсэ К. С. Малевіча «Аб музеі». Падзялялі гэту пазіцыю і шмат іншых авангардыстаў пачатку XX ст.

ў 1919 г. ***Прыродазнаўчы музей***. Ён займаў тры пакоі ў сельскагаспадарчым тэхнікуме і змяшчаў каля 60 тыс. узораў флоры і фаўны пераважна Віцебшчыны, але былі таксама і прывезеныя з розных краін Еўропы, Азіі і Амерыкі. Прыродазнаўчы музей падзяляўся на два кабінеты — энтамалагічны і заалагічны — і вылучаўся не толькі прывабнымі экспазіцыямі, але і высокім узроўнем сістэматызацыі і навуковай апрацоўкі калекцый. Апошняе было зроблена стваральнікам і загадчыкам музея, вядомым беларускім натуралістам У. А. Плюшчык-Плюшчэўскім. Паводле ацэнак спецыялістаў гэта быў адзін з лепшых музеяў дадзенага профілю ў Савецкай Расіі. А ў 1923 г. Прыродазнаўчы музей наведала 6537 чалавек, для якіх было праведзена 60 экскурсій.

*М. З. Шагал — адзін са стваральнікаў Музея сучаснага мастацтва ў Віцебску*
Аўтапартрэт



Захаваліся сведчанні пра існаванне ў паслярэвалюцыйным Віцебску ***Сельскагаспадарчага музея*** пры Доме селяніна, ***Эканамічна-прамысловага музея*** пры эканамічным тэхнікуме, ***Ветэрынарнага музея*** пры губернскім ветэрынарным аддзеле, а таксама ***Музея санітарнай асветы і гігіены*** пры губернскім аддзеле аховы здароўя.

Са студзеня 1919 г. актыўную дзейнасць па выяўленні і ўліку культурных каштоўнасцей разгарнуў пададдзел па справах музеяў і аховы помнікаў даўніны і мастацтва Магілёўскага губернскага аддзела народнай адукацыі, які ўзначальваў вядомы этнограф І. А. Сербаў. Ужо праз месяц у гонар першай гадавіны ўтварэння Чырвонай арміі рашэннем аддзела быў створаны ***Магілёўскі дзяржаўны музей пралетарскай культуры***. Тады ж музею перадалі будынак былога Сялянскага банка, у той час лепшы ў горадзе. Акрамя гістарычных помнікаў, наведвальнікі музея маглі аглядаць карцінную галерэю, якая складалася з работ беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх мастакоў, перасоўныя прыродазнаўчыя і атэістычныя выставы. Абразы, крыжы, царкоўнае начынне і іншыя культавыя прадметы, перавезеныя з былога Магілёўскага царкоўна-археалагічнага музея, як варожыя пралетарскай культуры, склалі ў бранiраваны пакой, дзе раней захоўваліся банкаўскія каштоўнасці[1].

[1] У 1918 г. немцы вывезлі каля 500 лепшых прадметаў з царкоўна-археалагічнага музея, большая частка калекцый музея статыстычнага камітэта была таксама разрабавана.



*У. Л. Венюкоў*

У 1924 г. Магілёўскі музей пралетарскай культуры страціў свой незалежны статус і стаў аддзяленнем БДМ у Магілёве. Новы статус вымагаў правядзення структурных і ідэалагічных пераўтварэнняў. Ажыццяўляць апошнія выпала навуковаму калектыву музея, які складаўся з трох чалавек на чале з 21-гадовым выпускніком Чэрыкаўскай гімназіі У. Л. Венюковым, прызначаным на пасаду загадчыка аддзялення ў снежні 1924 г. Да гэтага часу У. Л. Венюкоў ужо меў вопыт арганізатарскай і музейнай работы. У 1921—1922 гг. ён з'яўляўся загадчыкам пададдзела па справах музеяў і палітработы ў Магілёўскім губаддзеле народнай асветы, годам пазней стварыў у горадзе Музей санітарнай асветы. З 1925 г. адначасова з выкананнем абавязкаў дырэктара Магілёўскага аддзялення БДМ У. Л. Венюкоў з'яўляўся намеснікам старшыні Магілёўскага акруговага краязнаўчага таварыства.

Першыя гады існавання музея ў складзе БССР сведчылі пра імкненне пашырыць работу па вывучэнні помнікаў матэрыяльнай культуры і прыроды краю. З дапамогай мясцовых краязнаўцаў была складзена карта глеб акругі. Музейныя калекцыі папоўніліся неалітычнымі помнікамі з гарадзішча Нямкі, нумізматыкай са знойдзеных на Магілёўшчыне скарбаў, магістрацкімі актамі і кнігамі, старажытнымі гравюрамі з відамі горада, работамі Вато, а таксама мясцовымі царкоўнымі старажытнасцямі, кшталту шлюбных вянкоў, карон, званоў, рыз, крыжоў, у тым ліку плашчаніцы 1566 г. з Чарэйскага манастыра, асабістымі рэчамі Г. Каніскага і інш. Важныя падзеі адбыліся ў лістападзе 1929 г., калі кіраўніцтва БССР прыняло рашэнне аб перамяшчэнні каштоўнасцей са сталіцы рэспублікі ў Магілёў, далей ад магчымай лініі фронту. Тады У. Л. Венюкоў перавёз з БДМ у магілёўскае аддзяленне крыж Ефрасінні Полацкай, Евангелле, напісанае ў 1582 г. рукой слуцкага князя Юрыя Алелькавіча, залатыя ўпрыгожанні з раскопак Пампеі, сярэбраную булаву Жыгімонта III, старажытныя келіхі, табакеркі, гадзіннікі, пярсцёнкі з каштоўных металаў, абразы, старадрукі.

Адначасова з работай па папаўненні калекцый і іх вывучэнні навуковыя супрацоўнікі распрацавалі новую структуру экспазіцыі музея:

- мастацкі аддзел — карціны рускіх мастакоў Васняцова, Макоўскага, Айвазоўскага, Паленава, Ярашэнкі, Мясаедава, Баравікоўскага, некалькі

*Слуцкае-Евангелле-*
1582 г.



карцін заходнееўрапейскіх мастакоў, а таксама прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з фарфору, серабра, бронзы. Перспектывы развіцця аддзела былі звязаны з адлюстраваннем старажытнага і сучаснага беларускага мастацтва, у прыватнасці, з вытворчасцю мастацкай мэблі, чым славіўся Магілёў;

● этнаграфічны аддзел — манекены, апранутыя ў беларускія сялянскія строі, старажытныя прылады працы, народнае пляценне і вышыўка, хатняе начынне з гліны, дзіцячыя цацкі, батлейка, фотаздымкі мясцовых этнаграфічных тыпаў. Папаўненне аддзела планавалася ажыццяўляць праз экспедыцыйную дзейнасць;

● гістарычна-археалагічны аддзел — шкілет мамента, археалагічныя знаходкі каменнага і жалезнага вякоў, старажытная зброя, 1115 расійскіх і заходнееўрапейскіх манет;

● прыродазнаўчы аддзел — мінералогія, арніталогія, 20 акварыумаў, біястанцыя, прэпаратная майстэрня;

● прамыслова-эканамічны аддзел — узоры вытворчасці мясцовых прадпрыемстваў, парод дрэў, мадэлі машын, дыяграмы, малюнкі;

● аддзел рэвалюцыйнага руху — каля 2 тыс. копій дакументаў і фотаздымкаў, зробленых у розных архівах;

● аддзел «Старажытны Магілёў».

У другой палове 20-х гг. XX ст. супрацоўнікамі музея былі выдадзены даведнікі па асобных аддзелах, распрацаваны экскурсіі, створана суполка сяброў музея, складзены спіс нерухомых помнікаў гісторыі



*Будынак былога Сялянскага банка, які займала Магілёўскае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага музея*

і архітэктуры, якія знаходзіліся ў зоне яго дзейнасці і падлягалі ахове і навуковаму вывучэнню[1].

На канец 20-х гг. XX ст. прыпадае росквіт Беларускага краязнаўчага музея ў Магілёве. У пяцігадовым плане (1929—1933) музея мы знаходзім наступныя пункты: комплекснае вывучэнне Магілёўскага і Быхаўскага раёнаў, стварэнне двух новых аддзелаў — геабатанічнага і нумізматычнага — выданне першага нумара «Прац музея», адкрыццё пры музеі кабінета методыкі музейна-краязнаўчых даследаванняў, навуковыя стажыроўкі супрацоўнікаў музея ў Расіі і Германіі.

На жаль, ніводны з гэтых пунктаў плана, які сведчыў аб пераўтварэнні Магілёўскага музея ў хуткім будучым у буйнейшы ў рэгіёне музейна-

[1] У Магілёве помнікі падзяляліся: 1) на *архітэктурныя* — гарадская ратуша, Брацкі манастыр, архірэйскае падвор'е, магіла маскоўскага гарнізона, які загінуў у Магілёве ў 1661 г., капліца — помнік рускім воінам, што загінулі ў Паўночнай вайне, капліца ў памяць загінуўшых у бітве пры Салтанаўцы, езуіцкі калегіум, будынак, дзе была абвешчана савецкая ўлада, будынак, дзе размяшчаўся штаб першых атрадаў Чырвонай арміі, магіла байцоў-камунараў, дом, дзе жыў у 1919 г. С. Арджанікідзе; 2) *археалагічныя* — група курганоў у калгасным садзе ў Салтанаўцы, гарадзішчы Барсукова гара і Гарадок у Палыковічах, гарадзішча ва ўрочышчы Пелагееўка. Па Магілёўшчыне былі вызначаны толькі архітэктурныя аб'екты: палац Сапегаў у Быхаве, палац Пацёмкіна ў Крычаве, ратуша ў Шклове, шклоўскі парк, касцёл у Мсціславе, Пустынскі манастыр, помнік у в. Лясная, сінагога ў м. Расна.

краязнаўчы цэнтр, не ажыццявіўся. У 1933 г. паводле загаду мясцовага партыйнага кіраўніцтва музей выселілі з будынка Сялянскага банка. З дапамогай міліцыі і студэнтаў фондавыя калекцыі і разманціраваную экспазіцыю са значнымі стратамі за 24 гадзіны перавезлі ў невялікі, непрыстасаваны будынак. Праз непрацяглы час там была разгорнута экспазіцыя па гісторыі савецкага грамадства. Прадметы з каштоўных металаў і камянёў (у тым ліку крыж Ефрасінні Полацкай) засталіся ў браніраваным пакоі-сейфе банкаўскага будынка пад наглядам яго новага гаспадара — Магілёўскага абкама КП(б)Б.

У студзені 1934 г. на пасаду дырэктара музея быў прызначаны архіварыус партархіва ЦК КП(б)Б І. С. Мігулін, які кіраваў музеем да чэрвеня 1941 г. Ва ўмовах жорсткага ідэалагічнага дыктату і адсутнасці адпаведнага экспазіцыйнага памяшкання ён сканцэнтраваў сваю ўвагу на выставачнай дзейнасці, а таксама на ахове нерухомай гісторыка-культурнай спадчыны. У 1934 г. І. С. Мігулін спрабаваў уратаваць ад разбурэння Іосіфаўскую царкву, стварыўшы там філіял свайго музея — Музей гісторыі рэлігіі і атэізму. У гэтым філіяле, акрамя прадметаў па гісторыі хрысціянства ў Беларусі, дэманстраваліся археалагічная і палеанталагічная (у тым ліку адзіны ў БССР шкілет мамантa) калекцыі. Праз два гады І. С. Мігулін стварыў яшчэ адзін філіял у доме, дзе ў 1919 г. жыў і працаваў член рэўваенсавета 16-й арміі Заходняга фронту С. Арджанікідзе.

У 1938 г. па распараджэнні в. а. першага сакратара ЦК КП(б)Б А. А. Волкава Іосіфаўская царква была ўзарвана[1], а музейныя калекцыі перавезлі ў будынак закрытай сінагогі, потым — у струхнелы будынак летняга цырка. Урэшце, каля 7 тыс. прадметаў, што складала прыкладна 25 % ад колішніх фондаў, перавезлі ў капліцу на Успенскіх могілках, дзе яны згарэлі летам 1941 г. Месцазнаходжанне каштоўнасцей з пакоя-сейфа, у т. л. крыжа Ефрасінні Полацкай, не вядома.

У сярэдзіне 1919 г. пасля скасавання Магілёўскай губерні губернскі пададдзел па справах музеяў пераехаў з Магілёва ў Гомель. У якасці першачарговай задачы пададдзел вызначыў стварэнне ў горадзе музейнага

[1] І. С. Мігулін энергічна пратэставаў супраць зносу Кафедральнага сабора (помніка архітэктуры другой паловы XVIII ст., які знаходзіўся пад аховай дзяржавы). Пасля яго ліста ў рэдакцыю газеты «Праўда», у Магілёў з Мінска прыбыла камісія на чале з прэзідэнтам АН БССР К. В. Горавым, якая фактычна санкцыянавала гэты беззаконны акт. У адчаі, калі ўсё ўжо было падрыхтавана да выбуху, І. С. Мігулін адмовіўся пакінуць будынак і быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС. Фондавыя калекцыі музея, выкінутыя на вуліцу, на працягу некалькіх дзён рабаваліся ўсімі жадаючымі. Сам І. С. Мігулін цудам пазбегнуў пакарання — праз два тыдні пасля арышту ў Магілёў прыйшоў адказ на яго чарговую скаргу В. М. Молатаву, дзе апошні асуджаў знос помніка.

фонду, які б складаўся з культурных каштоўнасцей, што да рэвалюцыі знаходзіліся ў прыватнай уласнасці. Для экспертызы і выкарыстання музейнага фонду ў асветніцкіх мэтах быў утвораны вучоны савет, куды ўвайшлі мясцовыя навукоўцы і мастакі, а таксама эмісар НКА з Масквы І. А. Маневіч. Яны размяркоўвалі прадметы музейнага значэння паміж мясцовымі школамі, дзіцячымі дамамі, бібліятэкамі, клубамі. Найбольш рэдкія і каштоўныя прадметы вывозілі ў Маскву, у тым ліку старадрукі і рукапісы, нумізматычныя і геральдычныя калекцыі, карціны і мініяцюры, фарфоравыя вырабы і інш.

20 ліпеня 1919 г. пры музейным фондзе быў урачыста адкрыты ***Гомельскі культурна-гістарычны музей імя Н. І. Троцкай***[1]. Супрацоўнікі музея імкнуліся зрабіць музейныя экспазіцыі максімальна зразумелымі для неадукаваных мас. Дзеля гэтага чыталіся бясплатныя лекцыі па гісторыі мастацтва, праводзілася агітацыя за ахову помнікаў праз мясцовы друк, былі наладжаны заняткі па падрыхтоўцы грамадскіх экскурсаводаў. Гомельскі мастацка-гістарычны музей карыстаўся вялікай папулярнасцю. Толькі ў дзень адкрыцця яго наведала больш за тысячу чалавек. Нечакана ў кастрычніку 1919 г. НКА РСФСР аддаў загад аб пераводзе музея разам з музейным фондам з Гомеля ў Маскву, дзе яго сляды губляюцца.

8 мая 1917 г. Гомельскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў пастанавіў рэквізаваць палац княгіні Паскевіч, а маёмасць і каштоўнасці ўзяць пад сваю апеку. Неабходнасці ў гэтай пастанове на самай справе не было — удава апошняга гаспадара палаца, княгіня І. І. Варанцова-Дашкава (яна заставалася ў палацы разам з дварэцкім М. Н. Далговым да сваёй смерці ў 1921 г.), прыхільна ставілася да ідэі стварэння ў яе палацы агульнадаступнага музея. На працягу 1917—1918 гг. палац Румянцавых — Паскевічаў, перайменаваны рэвалюцыйнымі ўладамі ў «народны замак», выкарыстоўваўся па чарзе расійскімі і нямецкімі вайскоўцамі. У сакавіку 1919 г. палац быў значна пашкоджаны падчас Стракапытаўскага мяцяжу. Эвакуацыю з палаючага палаца найбольш каштоўных карцін, гравюр, кніг, рукапісаў, нумізматыкі, ювелірных вырабаў, прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва арганізаваў прыкамандзіраваны да заходніх губерняў эмісар музейнага аддзела Наркамасветы РСФСР В. В. Пашуканіс. Паводле яго справаздачы толькі прадметы з каштоўных металаў, якія ён перавёз з Гомельскага палаца ў Гістарычны музей у Маскву, важылі каля ста пудоў[2].

---

[1] Троцкая (у дзявоцтве Сядова) Наталля Іванаўна — жонка дзеяча міжнароднага рабочага і сацыялістычнага руху, узначальвала музейны аддзел НКА РСФСР на працягу першага дзесяцігоддзя (1918—1927) яго існавання.

[2] Вядома, што ў 1919 г. з мэтай вывазу каштоўнасцей у Маскву В. В. Пашуканіс аглядаў Магілёў, Оршу, Нясвіжскі палац і шэраг іншых шляхецкіх сядзіб.

*Калектыў супрацоўнікаў Гомельскага гістарычнага музея*




Хутка пасля падаўлення Стракапытаўскага мяцяжу гомельскія ўлады атрымалі тэлеграму ад наркама асветы РСФСР А. В. Луначарскага, у якой ён патрабаваў ажыццявіць неадкладныя меры па стварэнні музея на падмурку палаца Румянцавых — Паскевічаў. Мясцовыя ўлады выдзелілі сродкі, пасля чаго пачаліся работы па інвентарызацыі і сістэматызацыі рэшты прадметаў і стварэнні на іх аснове гістарычна-мастацкіх экспазіцый. Быў сфарміраваны штат, які складаўся з дзесяці чалавек, на чале з І. А. Маневічам. Урэшце, 7 лістапада 1919 г. у вежы палаца адкрыўся ***Гомельскі музей імя А. В. Луначарскага***.

Пасля передачы ў склад БССР Гомельскага і Рэчыцкага паветаў у снежні 1926 г. на аснове Гомельскага музея ўтварылася аддзяленне БДМ. У восьмі залах палаца (астатнія былі заняты яўрэйскім педтэхнікумам, савецка-партыйнай школай і некаторымі іншымі арганізацыямі) наведвальнік мог убачыць мармуровыя скульптурныя партрэты: Арысціда работы Дж. Дэль Неро, І. Панятоўскага — Торвальдсэна, Аляксандра I — Трэсконі, Мікалая I з жонкай — Раўха, М. П. Румянцава — Шубіна і інш. Вялікую зацікаўленасць спецыялістаў выклікалі фарфоравыя вырабы французскіх, саксонскіх і расійскага імператарскага заводаў, дываны і габелены фламандскай, французскай, японскай і турэцкай работы, калекцыя этрускіх ваз, падараваная князю Паскевічу Папам Піем VII, калекцыя расійскіх медалёў. Асобна дэманстраваліся партрэты і батальныя палотны майстроў розных еўрапейскіх школ — Лампі, Ван Боонена, Шыльдэра, Доу, Зіч. Акрамя гэтага, у экспазіцыі дэманстраваліся палеанталагічная (буйнейшая ў тагачаснай БССР) і археалагічная (з рас-

копак Е. Р. Раманава) калекцыі, а таксама матэрыялы па рэвалюцыйным руху на Гомельшчыне.

Навуковыя супрацоўнікі аддзялення ў гэты час сабралі вялікую калекцыю старадрукаў XV—XVIII стст. З Мазыра прывезлі лісты вядомага рускага паэта В. А. Жукоўскага. У рукапісным аддзеле можна было ўбачыць арыгінал рукапісу п'есы А. С. Грыбаедава «Гора ад розуму».

Гомельскае аддзяленне БДМ славілася як папулярны музей БССР. Пра гэта сведчаць наступныя лічбы: у 1928/29 навучальным годзе колькасць яго наведвальнікаў перавысіла 50 тыс. чалавек, прыкладна палова з якіх аглядала экспазіцыю з дапамогай экскурсавода.

У пачатку 30-х гг. XX ст. структура экспазіцыі гомельскага аддзялення БДМ, ужо перайменаванага ў Беларускі дзяржаўны мастацка-культурны музей, змянілася. Цяпер яна складалася з трох аддзелаў: рэвалюцыйнага руху, агульнага, дзе дэманстравалася мастацкая калекцыя Паскевічаў, і краязнаўства. Нават пры беглым поглядзе на новую структуру музея відавочны перакос у бок рэвалюцыйнай тэматыкі, якая раскрывалася ў першым аддзеле з дапамогай копій. Агульны аддзел таксама атрымаў матэрыялістычную афарбоўку і быў падзелены на наступныя тэмы: «Роля гандлёвага капіталізму ў развіцці прыгоннай дзяржавы ў былой Расіі», «Рэвалюцыйная буржуазія канца XVIII і першай паловы XIX стагоддзя», «Буржуазія і мастацтва». Гэтыя змены былі рэакцыяй на рэзкую крытыку гомельскага музея з боку мясцовага партыйнага кіраўніцтва, якое разглядала палац як месца, дзе захоўваецца «непатрэбнае барахло былога абшарніка».

Пастановай ЦК КП(б)Б ад 28 ліпеня 1937 г. Гомельскі гістарычны музей, які з-за спецыфікі сваіх калекцый не адпавядаў новым патрабаванням часу, падлягаў закрыццю. Палац Паскевічаў было вырашана аддаць пад палац піянераў. І толькі выпадковая рэпліка пра неабходнасць берагчы сабранае, кінутая К. Я. Варашылавым падчас агляду палаца, уратавала каштоўны збор. Аднак палац піянераў у адным з крылаў будынка ўсё ж адкрылі.

Як частку дзяржаўнай палітыкі трэба разглядаць продаж мастацкіх і гістарычных помнікаў з музейных сховішчаў за мяжу. Храналагічна ўсе продажы з музеяў БССР ахоплівалі перыяд першай пяцігодкі (1928—1933), калі краіне, паводле планаў сталінскага кіраўніцтва, трэба было разгарнуць будаўніцтва новых галін прамысловасці, павялічыць вытворчасць усіх відаў прадукцыі і распачаць выпуск новай тэхнікі. Адабранне і адсылка ў Маскву гісторыка-культурных каштоўнасцей з беларускіх музеяў ажыццяўлялася канторай Дзяржгандальбел і кантралявалася вышэйшым партыйным кіраўніцтвам. Першай ахвярай рабаўніцтва стаў БДМ у Мінску, дзе ў канцы 1928 г. быў адабраны шэраг абразоў,



*Экспертызы адабраных каштоўнасцей у Дзяржаўным музейным фондзе ў Маскве.* Канец 1920-х гг.

якія зацікавілі заходніх калекцыянераў. У тым жа годзе з фондаў музея зніклі карціны М. Антакольскага, Ю. Пэна, Я. Кругера і іншых вядомых мастакоў. У наступным годзе вываз экспанатаў з музеяў БССР дасягнуў такога ўзроўню, што паўстала неабходнасць стварыць у Мінску экспартную камісію і экспартны музейны фонд.

Але тэмпы і аб'ёмы адабранняў з музеяў БССР не задавальнялі саюзнае кіраўніцтва. Загадчыкі музеяў шукалі любыя зачэпкі, каб замарудзіць справу. Таму ў лістападзе 1931 г. з Масквы ў БССР быў камандзіраваны прадстаўнік «Антыкварыяту», які ажыццявіў буйнамаштабнае адабранне. Тады з Мінскага, Магілёўскага, Віцебскага і Гомельскага дзяржаўных музеяў вывезлі 285 гістарычных і мастацкіх помнікаў. Сярод іх — дрэварыты Дзюрэра, фламандскія габелены, нямецкія сярэдневяковыя вырабы з серабра, слуцкія залататканыя паясы і інш.

Апошняе масавае і найбольш варварскае адабранне рэчаў з музеяў БССР для продажу за мяжу адбылося ў 1933 г. На пасяджэнні сакратарыяту ЦК КП(б)Б 22 жніўня 1933 г. пад старшынствам першага сакратара М. Ф. Гікала была прынята пастанова «Аб каштоўнасцях у музеях БССР». У ёй сказана пра стварэнне камісіі па праверцы ўліку і захавання каштоўнасцей у музеях НКА БССР. Сапраўднымі ж мэтамі камісіі, работа якой была закамуфліравана пад праверку, з'яўлялася выяўленне залатых і срэбраных рэчаў для іх далейшай пераплаўкі. У спісах на адабранне не фіксавалася ні іх мастацкая, ні гістарычная значнасць. Залатой шыйнай грыўні XII ст. аўтары спіса надавалі не большае значэнне, чым залатой шпільцы для гальштука 1916 г. вытворчасці. Тэхніка прыёмкі прыёмшчыкамі-ацэншчыкамі «Антыкварыяту» і пераўтварэнне музейных каштоўнасцей у сродак плацяжу была варварскай — золата і

срэбра прымалася як лом, каштоўныя камяні, механізмы, эмаль, дрэва, косць выломліваліся, старажытныя манеты і ўзнагароды пераплаўляліся ў злiткі. Такім чынам, нацыянальныя гістарычна-культурныя каштоўнасці знікалі не толькі з месца іх паходжання, як гэта было ў выпадку з рэчамі, прададзенымі на замежных аўкцыёнах, — яны прападалі ўвогуле.

Сетка дзяржаўных музеяў БССР складалася не толькі з музеяў НКА. Яе істотнай часткай з’яўляліся музеі іншых наркаматаў, арганізацый і ведамстваў. НКА не імкнуўся сабраць гэтыя музеі пад сваё цэнтралізаванае кіраўніцтва. Для гэтага не хапала сродкаў. Свой уплыў на музеі іншых ведамстваў ён спрабаваў ажыццяўляць шляхам метадычнага кіраўніцтва, а таксама стварэння міжведамасных органаў. Так, паводле Пастановы СНК БССР ад 14 кастрычніка 1932 г. пры сектары навукі НКА была ўтворана міжведамасная музейная камісія з прадстаўнікоў наркаматаў лёгкай прамысловасці, лясной прамысловасці, цяжкай прамысловасці, шляхоў зносін, забеспячэння, а таксама Белкалгасцэнтра і ЦК ЛКСМБ. На жаль, далей абвяшчэння справа не пайшла, і юрыдычнае існаванне камісіі ніяк не паўплывала на паляпшэнне існуючай практыкі. Звернемся да фактычнага матэрыялу пра ведамасныя музеі, створаныя ў разглядаемы перыяд.

Новай з’явай у развіцці музейнай справы БССР было ўзнікненне музеяў, прысвечаных палітычнай гісторыі. Знаходзячыся ў сістэме Гістпарта (Камісіі па гісторыі Кастрычніцкай рэвалюцыі і КП(б)Б), гэтыя музеі ствараліся перш за ўсё з мэтай прапаганды бальшавіцкай ідэалогіі. Яны з’яўляліся таксама важнымі цэнтрамі па выяўленні і вывучэнні першакрыніц па гісторыі рэвалюцыйнага руху.

Першы падобны ***музей*** быў заснаваны ў Мінску ***ў доме, дзе адбыўся I з’езд РСДРП***, калі пастановай ад 19 студзеня 1923 г. ЦВК БССР нацыяналізаваў адпаведны будынак на вул. Савецкай. У дзень адкрыцця музея, прымеркаванага да 25-годдзя правядзення з’езда, адбыўся мітынг з удзелам аднаго з дэлегатаў з’езда — Б. Л. Эйдэльмана. Пасля мітынгу над домам быў узняты чырвоны сцяг, і першыя наведвальнікі змаглі агледзець экспазіцыю. Яна мела мемарыяльны характар і паказвала абстаноўку, у якой праходзілі пасяджэнні з’езда ў сакавіку 1898 г.

Задачу супрацоўнікаў Гістпарта, якія стваралі экспазіцыю, ускладняла амаль поўная адсутнасць аўтэнтычных прадметаў — з 1898 г. у доме змянілася шмат гаспадароў. Невялікая колькасць уласных рэчаў, што былі перададзены Гістпарту П. В. Румянцавым — ён пражываў у доме падчас правядзення з’езда, — вырашала праблему толькі часткова. Тым не менш у значнай ступені дзякуючы кансультацыям П. В. Румянцава інтэр’ер пакояў быў узноўлены максімальна блізка да гістарычнай рэальнасці.

*Дом-музей I з’езда РСДРП у Мінску* 1920-я гг.



Падчас правядзення падрыхтоўчых работ па мемарыялізацыі дома, дзе праходзіў I з’езд РСДРП, супрацоўнікі Гістпарта звярнуліся ў ЦК КП(б)Б з прапановай аб арганізацыі ***Музея рэвалюцыі ў Мінску***. Прайшлі два гады, перш чым вышэйшае партыйнае кіраўніцтва дало станоўчы адказ. У 1925 г. на пасяджэнні СНК БССР было вырашана выдаць неабходную суму для будаўніцтва будучага музея. Першапачаткова для яго размяшчэння планавалася ўзвесці спецыяльны будынак побач з Домам-музеем I з’езда РСДРП. Але пазней вялікі кошт праекта вымусіў ад яго адмовіцца і абмежавацца прыстасаваннем пад экспазіцыйныя залы пакояў невялікага двухпавярховага дома ў старой частцы горада.

Па выніках падрыхтоўчай дзейнасці супрацоўнікі Гістпарта правялі выставу сабраных матэрыялаў, на аснове якой 2 мая 1926 г. і адбылося ўрачыстае адкрыццё Музея рэвалюцыі. Газета «Звязда» наступным чынам апісвала гэтую падзею: «На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі партыйных, прафсаюзных і савецкіх арганізацый, рабочыя мінскіх заводаў і прадстаўнікі вайсковых частак. Урачысты мітынг у двары музея адкрыў заг. Гістпарта т. Агурскі. У прывітальнай прамове т. Крыніцкі[1] агучыў тэлеграму аб страйку англійскіх рудакопаў, што выклікала вялікі энтузіязм сярод прыйшоўшых. Далей т. Крыніцкі спыніўся на вялікай ролі музея ў нашых беларускіх умовах. У Беларусі былі асабліва развіты шматлікія палітычныя групоўкі: Бунд, паалей-цыён, сацыял-дэмакраты, сацыял-рэвалюцыянеры і г. д. Без вывучэння гэтых партый мы не можам дэтальна вывучаць гісторыю нашай партыі. Камсамол, шырокія рабочыя

[1] А. І. Крыніцкі — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. З верасня 1924 па май 1927 г. у БССР, займаў пасады сакратара, а са снежня 1925 г. 1-га сакратара ЦК КП(б)Б.

масы атрымаюць у музеі веды неабходныя для нашай далейшай барацьбы і творчай работы па пабудове сацыялізму».

Экспазіцыя новага музея будавалася па ўзоры Цэнтральнага музея рэвалюцыі ў Маскве і ў асноўным уключала копіі матэрыялаў па рэвалюцыйным руху ў Расіі ад дзекабрыстаў да сацыялістычнага будаўніцтва — партрэты, карціны, фота, газеты, улёткі, кнігі, рукапісы. Але быў і беларускі аддзел, які меў арыгінальныя дакументы па дзейнасці народнікаў, Бунда, нацыянальных сацыялістычных арганізацый, камплекты газет, якія выходзілі ў беларускіх гарадах у 1917—1921 гг., і іншыя каштоўныя помнікі палітычнай гісторыі. Першым дырэктарам стаў удзельнік рэвалюцыі 1905 г., вядомы дзеяч Бунда, загадчык Гістпарта С. Х. Агурскі.

Другая палова 20-х гг. XX ст. была перыядам росту музея: актыўнага назапашвання фондавых матэрыялаў, пашырэння прапагандысцкай работы. З 1926 па 1931 г. колькасць фондаў павялічылася амаль удвая, штомесяц музей наведвала каля 2 тыс. чалавек. Адпаведна павялічыўся штат, дасягнуўшы 15 чалавек. 5 снежня 1931 г. Прэзідыум ЦВК БССР зацвердзіў палажэнне аб Музеі рэвалюцыі, дзе былі вызначаны яго структура, сістэма кіраўніцтва і фінансавання. З гэтага часу музей складаўся з чатырох сектараў: масавай работы, навукова-музейнага, архіўна-бібліятэчнага, арганізацыйна-адміністрацыйнага. Самастойнасць дырэктара музея абмяжоўвалася грамадскім саветам.

На працягу 30-х гг. XX ст. Музей рэвалюцыі перыядычна падпадаў пад жорсткую крытыку вышэйшага рэспубліканскага кіраўніцтва, перш за ўсё за экспазіцыйны паказ гістарычных падзей. Навуковыя супрацоўнікі не паспявалі падладжвацца пад змены палітычнай кан'юнктуры. У верасні 1931 г. Прэзідыум ЦВК БССР на адным са сваіх пасяджэнняў канстатаваў, што галоўным недахопам у рабоце музея з'яўляецца недастатковае выяўленне ролі бальшавізму і гісторыі класавай барацьбы ў Беларусі, абмежаванасць экспазіцыі музея перыядам Грамадзянскай вайны і амаль поўная адсутнасць матэрыялаў перыяду сацыялістычнага будаўніцтва. На тым жа пасяджэнні было вырашана на працягу 1932 г. правесці рэарганізацыю ўсёй экспазіцыі, пасля чаго адтуль знікла нават узгадванне пра існаванне небальшавіцкіх палітычных партый.

У 1935 г. музей наведала камісія з Інстытута гісторыі партыі, якая выявіла шэраг палітычных памылак, фальсіфікацыю матэрыялаў у экспазіцыі, неапрацаванасць архіўных дакументаў. «Палітычнымі памылкамі і фальсіфікацыяй» члены камісіі назвалі экспанаванне партрэта і асабістых рэчаў рэпрэсіраванага вядомага савецкага военачальніка Г. Д. Гая, групавога фотаздымка са сцягам на заднім плане з надпісам «Бунд», партрэта гісторыка партыі У. І. Неўскага, абвінавачанага ў трацкізме, і г. д. Вынікі работы камісіі каштавалі жыцця некальком супрацоўнікам музея.

Увосень 1935 г. па абвінавачанні ў трацкізме былі арыштаваны і асуджаны адпаведна да пяці і трох гадоў папраўча-працоўных лагераў дырэктар А. А. Данільчык і навуковы супрацоўнік М. Ф. Кійко (абодва загінулі). Палітычныя памылкі падчас правядзення экскурсій каштавалі трох з паловай гадоў лагераў навуковаму супрацоўніку С. Г. Розінай.

Пасля чысткі 1935 г. Музей рэвалюцыі канчаткова губляе сваё значэнне як цэнтр вывучэння і папулярызацыі палітычнай гісторыі Беларусі. У ліпені 1938 г. быў ліквідаваны Гістпарт, а летам 1939 г. музей перавялі ў маленькае непрыстасаванае памяшканне. Там была разгорнута экспазіцыя, структураваная па главах «Кароткага курса УсеКП(б)», якая не карысталася папулярнасцю. За першае паўгоддзе 1940 г. яе агледзела меней за 2 тыс. чалавек. Музей спыніў свае існаванне ў 1941 г.

Акрамя Дома-музея І з'езда РСДРП і Музея рэвалюцыі, у другой палове 20-х гг. ХХ ст. у Мінску існаваў яшчэ адзін ***музей*** палітычнай гісторыі — ***Таварыства паліткатаржан і ссыльных перасяленцаў***.

Інстытут беларускай культуры — буйнейшая навуковая ўстанова БССР — меў права ствараць свае бібліятэкі, архівы і музеі згодна са статутам, распрацаваным у 1921 г. Ужо з першых дзён існавання інстытута пад кіраўніцтвам С. М. Некрашэвіча шэраг яго камісій распачаў інтэнсіўны збор матэрыялаў, у выніку чаго былі хутка створаны каштоўныя этнаграфічныя, заалагічныя, геалагічныя калекцыі, роўныя па значэнні самастойным музеям.

У 1925 г. тут пачынае дзейнічаць ***Музей прыроды Інбелкульта***, экспазіцыя якога складалася з трох аддзелаў: заалогіі, батанікі і глеб. У сувязі з немагчымасцю раўнамернага развіцця гэтых збораў у рамках аднаго музея было вырашана ўтварыць на базе аддзелаў самастойныя музеі. 7 лістапада 1927 г. на першым паверсе мінскай архірэйскай царквы адкрыўся ***Заалагічны музей***. Ён складаўся з двух аддзелаў: навуковага, дзе захоўваліся калекцыі для вывучэння фаўны Беларусі, і выставачнага, які ўяўляў сістэматычныя экспазіцыі і біягрупы, даступныя шырокаму колу наведвальнікаў. Нягледзячы на маленькі штат, які складаўся з дырэктара, навуковага супрацоўніка, таксадэрміста і тэхнічнага супрацоўніка, музей хутка набыў статус цэнтральнай установы ў галіне вывучэння і распаўсюджвання ведаў пра свет жывёл. За першыя паўтара месяца існавання музея яго наведала каля 5 тыс. чалавек, пераважна навучэнцы школ Мінска і навакольных вёсак. Вялікую цікавасць у іх выклікала чучала зубра, якога ў той час немагчыма было ўбачыць жывым. Згодна з задумай стваральнікаў, прэстыж музея павінен быў значна павысіцца пасля адкрыцця пры ім заапарка.

У 1928 г. з аддзела глеб Музея прыроды Інбелкульта намаганнямі кіраўніка геалагічнай экспедыцыі прафесара Б. К. Тарлецкага ў будын-

ку Сельскагаспадарчага даследчага інстытута ў Мінску быў створаны ***Геалагічны музей***. Там наведвальнікі маглі азнаёміцца з узорамі зямных парод і карысных выкапняў Беларусі. Як самастойныя падраздзяленні ў Інбелкульт уваходзілі ***археалагічны і антрапалагічны кабінеты***, што ўзніклі ў выніку актыўнай экспедыцыйнай дзейнасці гэтай установы. Па ініцыятыве секцыі мастацтва інстытута, якую ўзначальваў Я. Л. Дыла, у 1925 г. у Мінску была праведзена 1-я Усебеларуская мастацкая выстава. Праз тры гады секцыя распачала работы па стварэнні асобнага ***Музея беларускага мастацтва***, праект якога быў распрацаваны членам секцыі мастацтва М. М. Шчакаціхіным яшчэ падчас правядзення выставы. Шырока падтрымлівалася грамадствам работа тэатральнай секцыі Інбелкульта па стварэнні ***Тэатральнага музея***. Члены секцыі распрацавалі структуру музея, якая ахоплівала ўсе перыяды існавання беларускага тэатра. У 1926—1928 гг. яго фонды атрымалі ад В. Ю. Ластоўскага архіў тэатра І. Буйніцкага, ад У. Галубка — архіў яго ўласнай трупы, ад М. Ільінскага — матэрыялы пра жыццё і творчасць Ф. Аляхновіча. Тэатральны музей знаходзіўся яшчэ ў стадыі фарміравання, калі ў 1930 г. яго зборы перадалі Таварыству дрампісьменнікаў і кампазітараў. Вялікую навуковую каштоўнасць меў ***Музей сельскай і лясной гаспадаркі***, адкрыты ў 1928 г. у аднайменным навукова-даследчым інстытуце ў Мінску пры актыўнай падтрымцы членаў Інбелкульта.

Згодна з пастановай СНК БССР ад 3 чэрвеня 1931 г., кіраўніцтва дзейнасцю ўсіх навукова-даследчых устаноў, у тым ліку музеяў былога Інбелкульта, ускладалася на прэзідыум Беларускай акадэміі навук. Ва ўмовах таталітарнага наступу на непралетарскія нацыянальныя культуры гэта падзея мела найгоршыя вынікі. Акадэмічныя музеі было загадана выкарыстоўваць перш за ўсё не ў навуковых, а ў палітасветніцкіх мэтах, што прывяло да іх заняпаду.

Асобнае месца сярод ведамасных музеяў займалі музеі вышэйшых навучальных устаноў. Гэта тлумачылася не толькі высокім навуковым узроўнем прафесараў і энтузіязмам студэнтаў, але і глыбокай гістарычнай традыцыяй дзейнасці музеяў дадзенай групы. Адзін з іх — ***Заалагічны музей*** — быў заснаваны ў снежні 1921 г. на кафедры заалогіі педагагічнага факультэта БДУ. Яго загадчыкам быў выпускнік Маскоўскага ўніверсітэта А. У. Фядзюшын, запрошаны ў Мінск для арганізацыі вучэбнага працэсу ў ствараемым універсітэце. Ён уласнаручна заклаў аснову фондавых калекцый падчас трох экспедыцый: у Бабруйскі павет, па рэчышчы р. Пціч і ў Віцебскую губерню. У выніку былі сабраны тысячы ўзораў беларускай фаўны, прэпарыраваць, сістэматызаваць і вывучаць якія А. У. Фядзюшыну дапамагалі студэнты. Больш за тысячу ўзораў марскіх жывёл было дастаўлена з Мурманскай біястанцыі, Мексікі і Індыі. З Заалагічнага музея АН СССР у якасці падарунка былі атры-

маны такія каштоўныя экспанаты, як аўстралійскі казуар, калібры і інш.



*А. У. Фядзюшын*

Хуткае развіццё Заалагічнага музея БДУ спынілася ў 1933 г., калі пры пашпартызацыі жыхароў БССР А. У. Фядзюшыну і яго жонцы было адмоўлена ў выдачы пашпартоў, пасля чаго яны пакінулі Мінск. Новы загадчык музея не надаваў яму значэння як навуковай установе, і яго калекцыі выкарыстоўваліся пераважна падчас выкладання. Адзінае паступленне вялікай колькасці экспанатаў гэтага часу датуецца 1939 г., калі з сядзіб, нацыяналізаваных у Заходняй Беларусі, у тым ліку з Нясвіжскага замка, былі дастаўлены паляўнічыя трафеі. У другой палове 30-х гг. XX ст. усе работы ў Заалагічным музее БДУ выконваў пераважна адзін чалавек — таленавіты прэпаратар-таксідэрміст А. К. Ціток, дзейнасць якога была накіравана пераважна на захаванне калекцый.

Акрамя Заалагічнага музея, ***кабінеты глебазнаўства, батанікі, першабытнай культуры (апошні ў 1940 г. перайменаваны ў гісторыка-археалагічны музей)*** існавалі на іншых факультэтах БДУ. Намаганнямі навуковай грамадскасці развіваліся таксама вучэбныя музеі іншых вышэйшых навучальных устаноў — ***Інстытута фізічнай культуры ў Мінску***, ***Сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках***, ***Ветэрынарнага інстытута ў Віцебску*** і інш.

Важная падзея ў музейным і мастацкім жыцці БССР адбылася 24 студзеня 1939 г., калі СНК БССР ухваліў пастанову аб стварэнні ***Дзяржаўнай мастацкай галерэі ў Мінску***. Першапачаткова ў галерэі планаваліся тры аддзелы: жывапісу, скульптуры, графікі. Але вельмі хутка з'явіўся чацвёрты аддзел — мастацкай прамысловасці, што, верагодна, тлумачылася спецыяльнасцю дырэктара галерэі мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва М. П. Міхалапа. Аснову калекцыі галерэі склалі мастацкія творы, якія перадаваліся з музеяў НКА, пераважна з Гомельскага, а таксама з некаторых іншых дзяржаўных устаноў. Першыя наведвальнікі, што ўвайшлі ў галерэю 7 лістапада 1939 г.[1], маглі ўбачыць «Забойства Стэфана» С. Розы, «Запарожцы...» І. Рэпіна, «Пейзаж» Г. Клевера, «Продаж з торгу»

[1] Рабочая група па стварэнні галерэі працавала з 1937 г. Навуковыя супрацоўнікі будучай галерэі, куды ўваходзіла стваральнік і дырэктар (1944—1977) Дзяржаўнага мастацкага музея БССР А. В. Аладава, праходзілі падрыхтоўку ў буйнейшых музеях Масквы, займаліся збіраннем і рэстаўрацыяй твораў мастацтва, дастаўкай экспазіцыйнай мэблі.



*М. П. Міхалап*

Рыцоні, «Кардынала» Якобі, дзевяць работ Сухадольскага, карціны, гравюры і скульптуры іншых майстроў. У апошні мірны год у галерэі з поспехам прайшла выстава беластоцкіх мастакоў-графікаў.

У тым жа, 1939 г., быў створаны другі мастацкі музей у Віцебску. Ініцыятарам яго стварэння быў славуты жывапісец і педагог Ю. М. Пэн, які за два тыдні да сваёй трагічнай смерці ахвяраваў гораду 772 жывапісныя палатны. Фактычная перадача мастацкай спадчыны Ю. М. Пэна ў грамадскае карыстанне адбылася ўжо пасля яго смерці, калі 28 лютага 1937 г. СНК БССР ухваліў пастанову «Аб мастацкай спадчыне і перапісцы мастака Ю. М. Пэна». Пастанова прадугледжвала арганізацыю мастацкай галерэі, узвядзенне помніка, выданне манаграфіі, прысвечанай мастаку, а таксама ўстанаўленне стыпендыі яго імя. Галерэя, адкрытая ў чэрвені 1939 г. у былой кватэры мастака, заняла два вялікія пакоі, дзе было развешана каля 130 карцін, згрупаваных згодна з перыядамі творчасці Ю. М. Пэна, у тым ліку знакамітыя «Апошняя субота», «Развод», «Чалавек у чырвоным», «Стары цыган», «Жабрак» і інш. У экспазіцыі была паказана толькі малая частка калекцыі, якая налічвала больш за 800 карцін, эскізаў і эцюдаў. Нягледзячы на абмежаваныя магчымасці правядзення ў гэтых умовах шырокай асветніцкай работы, у апошні перадваенны 1940 г. галерэю наведала больш за 15 тыс. чалавек, для якіх было арганізавана звыш 230 экскурсій.

Новая сістэма народнай адукацыі, якая стваралася ў БССР пасля 1919 г., выклікала неабходнасць забеспячэння школ новымі нагляднымі дапаможнікамі і літаратурай. З 1919 г. ***Педагагічны музей*** існаваў ***у Гомелі***. Ён увабраў калекцыі дарэвалюцыйных навучальных устаноў горада і планаваўся як дапаможная ўстанова па забеспячэнні школ, калоній і дзіцячых дамоў нагляднымі дапаможнікамі, падручнікамі і літаратурай. Педагагічны музей валодаў багатымі мінералагічнай, заалагічнай, энтамалагічнай, батанічнай калекцыямі, гербарыямі, заспіртаванымі прэпаратамі, табліцамі, невялікай хімічнай лабараторыяй. Акрамя таго, пры ім існавала біястанцыя, дзе вучні непасрэдна вывучалі свет раслін і жывёл. У 1928/29 навучальным годзе гэтымі калекцыямі карысталіся каля 10 тыс. настаўнікаў і вучняў, першыя — падчас семінараў і самастойнай працы, другія — на экскурсіях.

У верасні 1926 г. Мінскі акруговы аддзел народнай асветы заснаваў ***Цэнтральны педагагічны музей***, які павінен быў стаць творчай майстэрняй

і сродкам прапаганды новага школьнага будаўніцтва, новых метадаў і формаў працы. Камплектаваўся музей пераважна працамі вучняў школ Мінскай акругі. Былі таксама атрыманы экспанаты з метадычных цэнтраў Ленінграда, наладжана сувязь з Маскоўскім педагагічным музеем. Ужо праз год пасля заснавання Педагагічны музей пераўтварыўся ў метадычны цэнтр, вакол якога гуртаваліся найбольш актыўныя настаўнікі Мінска. Музей не вёў статыстыкі наведвання, таму пра яго асветніцкую дзейнасць мы можам ускосна даведацца з запісаў у кнізе водгукаў наведвальнікаў. Так, настаўнік адной са школ Уздзенскага раёна пісаў: «Лічу, што пэдмузэй мае вельмі вялікае значэньне з боку мэтадычнага, і асабліва карысна пабыць у ім вясковаму настаўніку і наладзіць сувязь». Настаўнік Койданаўскай яўрэйскай школы ацэньваў музей як «...вельмі каштоўнае месца для абмену вопытам працы».

Акрамя пералічаных вышэй педагагічных музеяў, яшчэ існаваў ***Політэхнічны музей пры Цэнтральнай школьнай станцыі ў Мінску***.

Пасля ўсталявання савецкай улады дзяржава абвясціла сваім абавязкам прапаганду аховы працы і санітарна-гігіенічных ведаў. Для гэтага ў 1921 г. быў створаны ***Медыцынскі музей народнага здароўя ў Гомелі***, у 1926 г. — ***Музей працы пры Інстытуце сацыяльнай гігіены ў Мінску***.

Музейную сетку Беларусі ў разглядаемы перыяд узбагачалі такія ведамствы, як Саўнаргас — ***сельскагаспадарчыя музеі ў Мінску і Магілёве, прамысловы музей у Гомелі, сталая будаўнічая выстава ў Мінску***, Беларуская ваенная акруга — ***Музей пры Доме Чырвонай арміі ў Мінску***, НКУС — ***Музей крымінальнага вышуку ў Мінску***, Галоўнае мытнае ўпраўленне — ***мытны музей***, Бярэзінскі запаведнік — ***музей прыроды***, а таксама асобныя прамысловыя прадпрыемствы.

Такім чынам, у гісторыі дзяржаўных музеяў БССР прасочваюцца два выразныя этапы. Першы этап (1918—1929) характарызуецца стварэннем падмурка музейнага заканадаўства, творчым пошукам арганізацыйных формаў дзейнасці музеяў, прыцягненнем да працы дарэвалюцыйных кадраў навуковай і мастацкай інтэлігенцыі. Упершыню на беларускіх землях быў створаны орган кіраўніцтва музейнай справай — музейны аддзел НКА. Асноўная ўвага ў гэты перыяд надавалася збору і ахове культурных каштоўнасцей, а таксама іх папулярызацыі сярод насельніцтва. Сетка дзяржаўных музеяў стала важнай часткай сістэмы нацыянальнага выхавання, інструментам палітыкі беларусізацыі. Другі этап (1930—1941) быў часам, калі развіццё дзяржаўных музеяў адбывалася як частка агульнадзяржаўнай і партыйнай прапагандысцкай работы. Гіпертрафіраваліся прапагандысцкія функцыі музеяў пры недаацэнцы спецыфікі музея як навукова-даследчай і навукова-асветніцкай установы. Былі скасаваны Галоўнавука і музейная рада як калегіяльныя органы, якія ўключалі буйнейшых прадстаўнікоў беларускай навукі і

культуры. Замест іх у складзе НКА быў створаны бязлікі аддзел, дзе музеі згубіліся паміж клубамі і хатамі-чытальнямі. Запаволенне развіцця музеяў НКА тлумачылася пазбаўленнем іх уласных памяшканняў, сыходам найбольш кваліфікаваных супрацоўнікаў, продажам за мяжу сотняў каштоўных экспанатаў.

Дзейнасць ведамасных музеяў не падлягае агульным ацэнкам. У кожным асобным выпадку навуковы ўзровень таго ці іншага музея быў абумоўлены кваліфікацыяй і фінансавымі магчымасцямі яго стваральнікаў. Спецыфіка дзейнасці ведамства ці арганізацыі акрэслівала ступень адкрытасці іх музеяў для грамадства. Пры ўсіх адмоўных баках — раскіданасць музеяў гэтай групы па розных ведамствах, выкарыстанне рознай уліковай дакументацыі, паўтор чужых памылак пры пабудове ўласных экспазіцый і г. д. — варта адзначыць факт з'яўлення арыгінальных устаноў, якія былі пазбаўлены адбітку наркамасветаўскай уніфікацыі і дапаўнялі музейную сетку зборамі прыродазнаўчага, тэхніка-эканамічнага, сельскагаспадарчага і іншых профіляў.

## 2.2. ГРАМАДСКІЯ КРАЯЗНАЎЧЫЯ МУЗЕІ БССР

Адной з найбольш яскравых з'яў культурнага жыцця ў СССР 20-х гг. XX ст. быў краязнаўчы рух. Гэты час называюць «залатым дзесяцігоддзем» савецкага краязнаўства.

Тэрмін «краязнаўства» вельмі ёмісты і шматзначны. Па-першае, краязнаўства — гэта навукова-даследчая і навукова-папулярызатарская дзейнасць, накіраваная на комплекснае, гуманітарнае і прыродазнаўчае вывучэнне пэўнай мясцовасці. Па-другое, краязнаўства апіраецца на міждысцыплінарныя навуковыя сувязі і ўлічвае не толькі вывады навуковых тэорый, але і першасных назіранняў звычайнай жыццёвай практыкі. Па-трэцяе, краязнаўства — гэта школа выхавання культурай, гістарычнымі традыцыямі, школа, у якой можна спасцігнуць складаную сістэму сувязей паміж прыродай і грамадствам. Па-чацвёртае, краязнаўства — гэта адна з найважнейшых формаў самаарганізацыі грамадства і станаўлення грамадзянскай супольнасці. Іншымі словамі, краязнаўства вызначае як характар засваення мінулага, так і спосаб пераўладкавання сучаснага. Усё гэта цалкам адносіцца і да беларускіх зямель, дзе глеба для развіцця краязнаўства (да 1917 г. — радзімазнаўства) была падрыхтавана яшчэ да ўсталявання савецкай улады.

На хвалі беларускага адраджэння пачатку XX ст. масавы культурна-асветніцкі рух працягваў развівацца нават у складаных умовах Першай сусветнай вайны. У правінцыі, дзе была ініцыятыўная інтэлігенцыя,

пераважна настаўнікі, пачалі з'яўляцца культурна-асветныя таварыствы, якія ставілі пытанне аховы нацыянальнай гістарычна-культурнай спадчыны. У маі 1917 г. для каардынацыі намаганняў інтэлігенцыі па развіцці беларускай культуры пад эгідай Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску было заснавана таварыства беларускай культуры «Прасвета» (са жніўня 1918 г. — «Бацькаўшчына»). З канца лета 1917 г. у Мінску існаваў гурток беларускай моладзі «Вянок», рэарганізаваны пазней у агульнанацыянальнае таварыства «Беларуская вучнёўская грамада». З 1918 па 1921 г. існаваў Смалярскі гурток радзімазнаўства ў Ігуменскім павеце. Пачатак краязнаўчай работы на Случчыне таксама трэба аднесці да 1917 г., калі пісьменнік і грамадскі дзеяч Ф. Шантыр заснаваў у Слуцку культурна-асветнае таварыства «Папараць-кветка».

Важнай падзеяй у гісторыі беларускага краязнаўчага руху было стварэнне 29 снежня 1923 г. Цэнтральнага бюро краязнаўства (ЦБК). Думка пра важнасць арганізацыйнага боку краязнаўчай дзейнасці была ўпершыню выказана супрацоўнікамі Інбелкульта. Менавіта яны ў 1922 г. упершыню звярнуліся да насельніцтва БССР з прапановай ствараць краязнаўчыя арганізацыі на месцах. У той час Інбелкульт імкнуўся аб'яднаць і каардынаваць дзейнасць краязнаўцаў перш за ўсё ў рэчышчы работы тэрміналагічнай камісіі. Пасля ўтварэння ЦБК краязнаўчы рух у БССР набыў арганізаваны характар. 29 лістапада 1924 г. была склікана 1-я Усебеларуская краязнаўчая канферэнцыя. Яна вызначыла метады каардынацыі краязнаўчай работы ў межах БССР, спосабы прапаганды краязнаўчых ідэй, а таксама рэкамендавала выданне спецыяльнага краязнаўчага часопіса[1]. На агульным сходзе Інбелкульта быў абраны склад ЦБК, куды ўвайшлі дзяржаўны і партыйны дзеяч П. Р. Вілянстовіч (старшыня), журналіст Р. К. Шукевіч-Траццякоў (намеснік старшыні), вучоны-аграном С. В. Скандракоў (сакратар), гісторыкі У. І. Пічэта і В. Д. Друшчыц, географы А. А. Смоліч і М. В. Азбукін, літаратар К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), этнограф І. А. Сербаў і інш.

ЦБК працавала пад навуковым кіраўніцтвам прэзідыума Інбелкульта і ажыццяўляла сувязь паміж апошнім і краязнаўчымі арганізацыямі. Аматары-краязнаўцы актыўна ўдзельнічалі ў рабоце секцый Інбелкульта шляхам пісьмовых паведамленняў, збору навуковых матэрыялаў і назіранняў па заданнях секцый. Адным з найбольш плённых кірункаў супрацоўніцтва было складанне дыялекталагічных краёвых слоўнікаў. Праз краязнаўчыя арганізацыі Інбелкульт атрымліваў багаты матэ-

[1] Часопіс «Наш край» выдаваўся ў Мінску пры Інбелкульце з кастрычніка 1925 па кастрычнік 1930 г. пад рэдакцыяй вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча С. Я. Плаўніка (Змітрака Бядулі).



*К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва)*

рыял па фальклоры, этнаграфіі, назіраннях за з'явамі прыроды. Гэта сувязь праявілася таксама ў сумесным правядзенні навуковых экспедыцый.

Дзейнасць ЦБК у першую чаргу была накіравана на стварэнне сеткі краязнаўчых арганізацый на ўсёй тэрыторыі БССР. Паступова сфарміравалася наступная структура краязнаўчага руху ў рэспубліцы. Адпаведна адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму падзелу рэспублікі з'явіліся краязнаўчыя арганізацыі трох узроўняў: акруговыя таварыствы, раённыя таварыствы і гурткі. Напрыканцы 1925 г. агульная колькасць іх сяброў дасягнула 5 тыс. чалавек. Падобная сістэма арганізацыі краязнаўчага руху выключала магчымасць жорсткага бюракратычнага адміністрыравання, давала максімальную свабоду дзеяння арганізацыям усіх узроўняў. Што тычыцца ЦБК, то яно мела на мэце менавіта каардынацыю, а не кіраўніцтва дзейнасцю краязнаўчай сеткі БССР. Задачы і змест работы бюро былі вызначаны статутам, зацверджаным прэзідыумам Інбелкульта ў 1928 г. Кіраўніцтва краязнаўчай дзейнасцю ЦБК ажыццяўляла на з'ездах і канферэнцыях, а паміж імі — на пашыраных пленумах, у рабоце якіх бралі ўдзел прадстаўнікі мясцовых арганізацый.

У пачатку 1926 г. наспела патрэба падвесці вынікі краязнаўчай работы, дзеля чаго быў скліканы 1-ы Усебеларускі краязнаўчы з'езд. Для яго падрыхтоўкі ЦБК звярнулася за дапамогай у Інбелкульт, да некаторых ВНУ, здаўна звязаных з работай на месцах, а таксама да вядомых вучоных-краязнаўцаў. З'езд адбыўся 7—10 лютага 1926 г. У ім удзельнічалі 120 дэлегатаў ад 87 краязнаўчых арганізацый БССР, агульны лік якіх на пачатку 1926 г. дасягнуў 167. На з'ездзе было ўхвалена шмат важных пастаноў, якія дазваляюць нам сёння даведацца аб структуры і напрамках дзейнасці краязнаўчых арганізацый у другой палове 20-х гг. XX ст. Пастанова па арганізацыйных пытаннях ставіла задачу стварэння краязнаўчых арганізацый ва ўсіх раённых цэнтрах і па магчымасці ў сельсаветах БССР, прычым у якасці іх першачарговай задачы вызначалася стварэнне мясцовых музеяў. Удзельнікі з'езда надавалі асаблівую ўвагу школьнаму краязнаўству. На іх погляд, уся сістэма пачатковай і сярэдняй адукацыі павінна была мець краязнаўчы ўхіл. А перад раённымі арганізацыямі ставілася задача на працягу вясны — лета 1926 г. закласці

падмурак краязнаўчых музеяў ва ўсіх школах БССР. Спецыяльная пастанова была прысвечана навуковай дзейнасці краязнаўцаў. Яны мусілі даваць апісанне ўласнай тэрыторыі, звяртаючы асаблівую ўвагу на дынаміку змен у жыцці вёскі. Гэтыя апісанні ўсе разам павінны былі скласці агульную карціну краязнаўства БССР. Важным сродкам папулярызацыі вынікаў навуковай дзейнасці краязнаўцаў была лектарска-экскурсійная дзейнасць.



*А.-З. Казак*

Рэзалюцыя № 4 з'езда была цалкам прысвечана краязнаўчым музеям і бібліятэкам. У ёй, у прыватнасці, гаварылася: «Кожная краязнаўчая арганізацыя павінна арганізаваць музей, прычым рэчы агульнадзяржаўнага значэння павінны праз ЦБК накіроўвацца ў Дзяржаўны музей і яго аддзяленні. У цэнтрах акруг закладваюцца музеі мясцовага краю, утрыманне якіх пажадана правесці па мясцовым бюджэце. Раённыя музеі павінны адлюстроўваць у экспазіцыях прыроду, гаспадарку і побыт свайго раёна. Калі гэтыя музеі не атрымліваюць сродкаў па мясцовым бюджэце, дык яны змяшчаюцца альбо пры мясцовым краязнаўчым таварыстве, альбо пры адной з мясцовых культурных устаноў».

Першыя вынікі выканання гэтай рэзалюцыі былі падагульнены на 2-м Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе, які адбыўся 10—13 лютага 1927 г. У прыватнасці, перад яго 187 дэлегатамі, якія прадстаўлялі ўжо 9 тыс. беларускіх краязнаўцаў, ставілася задача гуртавання мясцовых сіл з прыцягненнем шырокіх працоўных мас і органаў улады вакол музеяў.

Падчас адкрыцця 2-й Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі ў студзені 1929 г. пад кіраўніцтвам ЦБК, якое ў той час узначальваў настаўнік і публіцыст ***А.-З. Казак***, дзейнічалі ўжо 8 акруговых краязнаўчых таварыстваў, 101 раённае таварыства і 96 краязнаўчых гурткоў, куды ўваходзілі 10,5 тыс. сяброў. Апрача музейных збораў, краязнаўчыя арганізацыі БССР да гэтага часу сабралі шмат разнастайных, каштоўных для навукі матэрыялаў: каля 150 тыс. картак-слоў мясцовай мовы, каля 30 тыс. фальклорных запісаў, больш за 200 розных калекцый і 600 апісанняў, каля 2 тыс. запоўненых анкет і інш. Лічбы, змешчаныя ў справаздачы ЦБК канферэнцыі, сведчылі пра значную навукова-асветную працу, што была праведзена пасля 2-га Усебеларускага краязнаўчага з'езда. Гэтыя лічбы адлюстроўвалі найвышэйшы ўзлёт краязнаўчага руху ў БССР, якому былі ўласцівыя творчы пошук, эксперыменты, адкрытыя дыскусіі. Літаратар В. Сташэўскі адрасоўваў стваральнікам раённых краязнаўчых музеяў

прапановы, блізкія, па сутнасці, да асноў дзейнасці сучасных экамузеяў. В. Ю. Ластоўскі крытыкаваў краязнаўчыя музеі за непрадуманую методыку іх арганізацыі. Батанік М. А. Збіткоўскі прапанаваў кожнаму краязнаўчаму музею перш за ўсё скласці гербарыі сваёй мясцовасці.

Пытанні музейнага будаўніцтва ўздымаліся амаль на кожным пленуме бюро ЦБК, абмяркоўваліся на старонках часопіса «Наш край». Так, ужо ў першым нумары часопіса быў апублікаваны ўзорны статут раённага краязнаўчага таварыства, дзе сярод яго галоўных мэт вызначалася арганізацыя ўласнага музея. У шэрагу артыкулаў знайшла адлюстраванне праблема методыкі збірання экспанатаў і пабудовы музейных экспазіцый. На пасяджэнні ЦБК 30 чэрвеня 1927 г. быў зацверджаны расклад лекцый па краязнаўстве на радыё, адна з якіх мела назву «Як арганізаваць мясцовы музей». На курсах-студыі па краязнаўстве пры БДУ В. Ю. Ластоўскі чытаў цыкл лекцый «Музеязнаўства і музеябудаўніцтва». Аналагічныя курсы былі ўведзены ў праграмы педтэхнікумаў. Кіраўніцтва ЦБК рэгулярна ўздымала пытанне матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння дзейнасці краязнаўчых музеяў. Большасць з іх знаходзілася ў невялікіх непрыстасаваных будынках, дзе немагчыма было разгарнуць маштабную навукова-фондавую і экспазіцыйную работу. Таму ў сярэдзіне 1926 г. бюро афіцыйна звярнулася да старшынь акрвыканкамаў з просьбай аб адводзе памяшканняў пад музеі.

Краязнаўчыя музеі былі вынікам работы таварыстваў па вывучэнні прыроды, гісторыі і эканомікі сваёй мясцовасці. Таму ў большасці музеяў меліся тры галоўныя аддзелы: прыродазнаўчы, культурна-гістарычны і грамадска-эканамічны. У той жа час у некаторых з іх пачалі фарміравацца мастацкія калекцыі. З простых сховішчаў навуковага матэрыялу грамадскія краязнаўчыя музеі БССР ператварыліся ў своеасаблівыя навукова-даследчыя ўстановы, якія праводзілі асветніцкую работу ў цеснай сувязі з сістэмай народнай адукацыі.

Шырокая работа па стварэнні краязнаўчых музеяў разгарнулася пасля 1-га Усебеларускага краязнаўчага з'езда.

Першы грамадскі ***краязнаўчы музей*** на тэрыторыі БССР быў сфарміраваны ***ў Слуцку***. Ствараць яго пачалі ў 1921 г. па ініцыятыве мясцовага аддзела народнай асветы. Новы імпульс гэта праца атрымала пасля прызначэння ў слуцкі аддзел на пасаду інспектара сацыяльнага выхавання ***М. І. Каспяровіча***[1]. У 1922 г. ён стварыў у горадзе камісію белару-

[1] Каспяровіч Мікалай Іванавіч (1900—1937) з'яўляўся найбольш яскравай постаццю ў гісторыі беларускага краязнаўчага руху 20-х гг. XX ст. Найбольш плённыя гады яго жыцця прыпадаюць на другую палову 20-х гг., калі ён з'яўляўся навуковым сакратаром ЦБК і, адышоўшы ад практычнай дзейнасці, звярнуўся да пытанняў гісторыі, тэорыі і методыкі краязнаўства і музейнай справы.

сазнаўства, на якую былі ўскладзены абавязкі па арганізацыі краязнаўчага музея з педагагічным, этнаграфічным, прамысловым аддзеламі. Арганізаваная тады ж слуцкае музейнае бюро правяло некалькі экспедыцый па зборы рэчавага матэрыялу і запісе фальклору, разаслала анкеты з мэтай выяўлення помнікаў старажытнасці і прыроды, зрабіла захады па іх ахове. Урэшце, члены бюро распрацавалі план стварэння школьных павятовых краязнаўчых музеяў. Ідэя разгортвання музейнага руху прапагандавалася таксама праз лекцыйную дзейнасць. Сябры музейнага бюро прадэманстравалі публіцы першыя сабраныя калекцыі ўжо ў 1923 г. на павятовай сельскагаспадарчай выставе, дзе працаваў спецыяльны этнаграфічны аддзел. Пасля закрыцця выставы калекцыі, сабраныя членамі бюро, перавезлі ў будынак Слуцкай царквы-брамы, які да 1926 г. выкарыстоўваўся ў якасці фондасховішча.

*М. І. Каспяровіч*



Хутка пасля пераўтварэння ў верасні 1923 г. камісіі беларусазнаўства ў Слуцкае павятовае таварыства краязнаўства большасць актыўных членаў музейнага бюро на чале з М. І. Каспяровічам з'ехалі са Слуцка. Праца па фарміраванні фондаў Слуцкага музея спынілася на два гады — да 22 лістапада 1925 г., калі быў зацверджаны новы статут Слуцкага акруговага таварыства краязнаўства. Апошні прадугледжваў стварэнне ў структуры таварыства музейнай секцыі, куды адразу ж запісаліся 32 асобы, пераважна моладзь. Сябры секцыі ў кароткі тэрмін склалі і распаўсюдзілі па акрузе адозву аб ахвяраванні прадметаў музейнага значэння, перавезлі архіў кальвінскага збору, пашырылі бібліятэку, знайшлі экспазіцыйнае памяшканне, заснавалі краязнаўчыя музеі ў Капылі, Любані, Старых Дарогах і Старобіне.

Адкрыццё новай экспазіцыі музея адбылося 28 сакавіка 1927 г. У той час на ёй было прадстаўлена 1946 прадметаў, згрупаваных у тры аддзелы:

• культурна-гістарычны — партрэты слуцкіх князёў, рукапіснае Евангелле, епітрахіль і посах XVI ст., малюнкі В. Катарбінскага, неалітычныя малаткі і цёслы, знойдзеныя ў курганах чарапы, косці, гаршкі, шкляныя пацеркі, галаўная грыўня, жалезная сякера XII ст., фрагмент кальчугі, план Слуцка 1780 г., палова слуцкага пояса XVIII ст., нумізматычная калекцыя, партрэты, мастацкія вышыўкі XVIII ст., старажытная цэгла, прылады працы, гарматныя ядры;

• прыродна-геаграфічны — тапаграфічная і глебавая карты Слуцкай акругі, планы гарадоў, алеявыя малюнкі пейзажаў Случчыны, фотаздымкі палескіх тыпаў сялянскай вопраткі, чучалы дзіка, сусліка, пацука, крата, геаграфічныя карты, складзеныя на дрэве, калекцыі матылёў, мінералаў і мясцовых раслін;

• грамадска-эканамічны — альбом тканін, мадэль бараны, снапкі збожжа гаспадароў, якія атрымалі прэміі на сельскагаспадарчай выставе, узоры насення, вырабы народнай творчасці, мадэль моста, эканамічная карта Слуцкай акругі, калекцыя па ахове здароўя і інш.

Пры музеі існавала краязнаўчая бібліятэка.

Музей, адкрыты для публікі два дні на тыдзень, карыстаўся вялікай папулярнасцю. Толькі за першыя пяць месяцаў існавання яго агледзела больш за 7 тыс. наведвальнікаў, для якіх праводзіліся экскурсіі.

***Бабруйскі краязнаўчы музей*** быў створаны ў 1924 г. мясцовымі краязнаўцамі на чале з энтузіястам музейнай справы Ц. Я. Славіным[1]. Музей размяшчаўся ў невялікім уласным будынку і разглядаўся яго арганізатарамі як важны сродак разгортвання політэхнічнай адукацыі. Асноўны экспазіцыйны аддзел быў прысвечаны завадскому і фабрычнаму жыццю Бабруйшчыны. У ім Ц. Я. Славін размясціў мадэлі, якія дэманстравалі працэс вытворчасці на мылаварным, маслабойным, дрэваапрацоўчым, гутным і іншых заводах. Усё гэта ілюстравалася схемамі, статыстычнымі данымі вытворчасці і збыту, дыяграмамі прафесійных хвароб і неабходнымі тлумачэннямі па санітарыі і гігіене. У гэтым жа аддзеле меўся пададдзел электрафікацыі, дзе наглядна дэманстраваліся канструкцыі тэлефона, званка, тэлеграфа, лямпы, кінаапарата. Меншымі па памерах былі аддзелы сельскай і лясной гаспадаркі, земляробства, пчалярства, меліярацыі, саматужніцтва, палявання. Асобна дэманстравалася прыродазнаўчая калекцыя — выкапні, гербарыі, чучалы птушак і жывёл. Мелася невялікая колькасць экспанатаў па археалогіі і этнаграфіі Бабруйшчыны.

Праз два гады пасля заснавання музея, у лютым 1926 г., удзельнікі 1-й Краязнаўчай канферэнцыі Бабруйскай акругі канстатавалі, што адным з найважнейшых дасягненняў таварыства з'яўляецца арганізацыя

[1] Славін Цодзік Якаўлевіч (1887—1937) нарадзіўся ў в. Гарадок Глускага павета, з 1920 г. працаваў бібліятэкарам дзіцячага аддзялення гарадской бібліятэкі, у 1924—1937 гг. з'яўляўся загадчыкам Бабруйскага краязнаўчага музея. Ц. Я. Славін быў рознабакова адораным чалавекам, меў музычныя здольнасці, імкнуўся да самаадукацыі, быў адданы справе стварэння музея. Адзін з сучаснікаў назваў Ц. Я. Славіна «паэтам у сваёй працы». У жніўні 1937 г. ён быў арыштаваны па абвінавачанні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці, загінуў у адным з лагераў ГУЛАГа.

акруговага музея. Бабруйскі музей вылучаўся актыўнай адукацыйна-асветніцкай работай, пік якой прыпадае на 1929/30 вучэбны год. Гэты бок яго дзейнасці наглядна ілюструе наступная табліца:

| Месяц і год | Колькасць экскурсій | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Навучэнцы | Ваеннаслужачыя | Сяляне | Усяго |
| Кастрычнік, 1929 | 42 | — | 1 | 43 |
| Лістапад, 1929 | 33 | 7 | — | 40 |
| Снежань, 1929 | 75 | 17 | — | 92 |
| Студзень, 1930 | 56 | 26 | 2 | 84 |
| Люты, 1930 | 77 | 6 | — | 83 |
| Сакавік, 1930 | 52 | 11 | — | 63 |
| Красавік, 1930 | 55 | 18 | — | 73 |
| Усяго | 390 | 85 | 3 | 478 |

Калі ўлічыць, што сярэдняя колькасць экскурсійнай групы складала 40 чалавек, то відавочна, што толькі арганізавана за сем месяцаў музей наведала 19,2 тыс. экскурсантаў, што суадносна з аналагічнымі паказчыкамі БДМ і яго аддзяленняў. Як бачна з табліцы, абсалютная большасць наведвальнікаў складалі навучэнцы і ваеннаслужачыя. Рабочыя, сяляне, прадстаўнікі інтэлігентных прафесій амаль не праяўлялі цікавасці да музея. Гэтыя паказчыкі можна растлумачыць імкненнем сяброў краязнаўчага таварыства максімальна выкарыстаць патэнцыял музея ў педагагічных мэтах. З іншага боку, навучэнцы і ваеннаслужачыя ўяўлялі «лёгкаарганізуемыя» сацыяльныя групы насельніцтва, з жаданнем ці нежаданнем якіх наведаць музей мала хто лічыўся.

Хуткае павелічэнне колькасці наведвальнікаў і фондавых калекцый прымусіла кіраўніцтва краязнаўчага таварыства ў 1930 г. узняць перад акруговым выканкамам пытанне пра новае памяшканне для музея. Хутка яно знайшлося — гэта быў большы па плошчы будынак з прыбудовай для фондасховішча. Але фінансаванне музейных работ, за выключэннем невялікага заробку загадчыка музея Ц. Я. Славіна, з мясцовага бюджэту адкрыта так і не было. Тым не менш музейны актыў у 1930 г. планаваў арганізаваць пры музеі метэастанцыю, закласці паказальныя ўчасткі паляводства, ілюстраваць у натуральным выглядзе жыццё шкоднікаў, правесці лабараторна-даследчыя работы.

Важнымі асяродкамі краязнаўчай работы з'яўляліся ***два музеі***, заснаваныя ў 1924 г. сябрамі ***Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства***

(іх колькасць складала больш за 700 чалавек) пад кіраўніцтвам старшыні прэзідыума таварыства, кіраўніка аршанскай партыйнай арганізацыі В. І. Саўліча[1].

У ***культурна-гістарычным музеі*** працавалі сябры музейна-археалагічнай секцыі Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства. Яны шмат зрабілі для камплектавання этнаграфічнай, археалагічнай і мастацкай калекцый. Культурна-гістарычны музей увабраў таксама калекцыі невялікага мясцовага музея старажытнасцей, які існаваў да ўваходжання горада ў склад БССР.

Стварэннем аршанскага ***сельскагаспадарчага музея*** займалася прыродна-эканамічная секцыя краязнаўчага таварыства, сябры якой прыцягнулі да справы камплектавання калекцый раённыя краязнаўчыя арганізацыі Аршанскай акругі. У 1926 г. Аршанскі сельскагаспадарчы музей разгарнуў свае сталыя экспазіцыі ў будынку мясцовай школы. Структурна яго экспазіцыя была падзелена на аддзелы: вытворчасці, лугаводства, паляводства, заалагічны, батанічны і энтамалагічны.

Хутка пасля заснавання аршанскіх музеяў высветлілася, што матэрыяльных сродкаў для забеспячэння нармальнай работы абодвух музеяў у краязнаўчым таварыстве не хапае. Таму на 3-й Акруговай краязнаўчай канферэнцыі ў снежні 1926 г. вырашылі аб'яднаць іх пад адным дахам, што і было зроблена на працягу 1928/29 навучальнага года. Новую аб'яднаную экспазіцыю музея адкрылі ўжо ў новым будынку былой царквы.

***Барысаўскі краязнаўчы музей***, які быў заснаваны ў жніўні 1924 г. акруговым таварыствам пад кіраўніцтвам інспектара сацвыхавання В. А. Самцэвіча, меў невялікую калекцыю прадметаў мясцовай прыроды і побыту. Стварэннем музея займалася спецыяльная камісія, куды ўваходзілі выкладчыкі Барысаўскага педтэхнікума. Экспазіцыя музея была адкрыта для агляду два разы на тыдзень у адным з пакояў тэхнікума. У наступныя гады яго калекцыі ўзбагаціліся археалагічнымі знаходкамі, тапаграфічнымі картамі раёна, табліцамі феналагічных і метэаралагічных назіранняў, фотаздымкамі нерухомых гістарычных помнікаў, арніталагічнай і энтамалагічнай калекцыямі.

Краязнаўчая праца, якая пачала разгортвацца на паўночным усходзе БССР пачынаючы з восені 1925 г., выклікала патрэбу ў арганізацыі ***акруговага краязнаўчага музея ў Полацку***. Музейная рада мясцовага краязнаўчага

[1] В. І. Саўліч з'яўляўся яркай індывідуальнасцю, што праявілася не толькі ў яго краязнаўчай, але і палітычнай дзейнасці. Ён рэзка крытыкаваў першага сакратара ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкага за адыход ад палітыкі беларусізацыі, што прымусіла апошняга публічна адказваць на крытыку на Х з'ездзе КП(б)Б.

таварыства 3 верасня 1925 г. пад кіраўніцтвам настаўніка С. М. Мялешкі распачала збор і сістэматызацыю экспанатаў. Ёй дапамагалі каля 450 сяброў раённых краязнаўчых таварystваў, якія дасылалі ў Полацк каштоўныя знаходкі, праводзілі экскурсіі, збіралі звесткі пра нерухомыя помнікі. Энтузіязм краязнаўцаў дазволіў ужо ў чэрвені 1926 г. разгарнуць сталую экспазіцыю ў будынку Сафійскага сабора. Перадача музею гэтага будынка адбылася дзякуючы прыхільнаму стаўленню кіраўніцтва Полацкага акрвыканкама, які штогод выдзяляў на музейныя работы 1000 рублёў. Уся экспазіцыя падзялялася на тры аддзелы:

● культурна-гістарычны, які складаўся з наступных пададдзелаў: а) мастацкага (67 партрэтаў дзеячаў езуіцкага і дамініканскага ордэнаў, копіі Карэджа і Тыцыяна, малюнкі тагачасных полацкіх мастакоў, скульптура, мэбля, узоры тканін, вышывак, дываны, слуцкія паясы, некалькі ўзораў візантыйскага і ўніяцкага мастацтва); б) нумізматычнага (больш за 1000 манет Вялікага Княства Літоўскага і Расійскай імперыі, якія паходзілі са скарбаў, знойдзеных на Полаччыне, а таксама папяровыя грошы); в) вайсковага (халодная і агнястрэльная зброя пераважна XIX ст.); г) археалагічнага (каля 100 знаходак, датуемых эпохай неаліту); д) старажытнага друку (рукапісныя кнігі XVII ст., Біблія на нямецкай і польскай мовах XVI—XVII ст., лекцыі прафесараў і запіскі студэнтаў Полацкай езуіцкай акадэміі, акты, планы, граматы па гісторыі старажытнага Полацка, друкарскі станок XVIII ст.); е) рэвалюцыйнага руху на Полаччыне (фотаздымкі рэвалюцыянераў і памятных рэвалюцыйных мясцін); ж) савецкага будаўніцтва на Полаччыне (матэрыялы па ўсталяванні савецкай улады, павятовых і акруговых з’ездаў Саветаў);

● грамадска-эканамічны, дзе змяшчаліся экспанаты пераважна па этнаграфіі насельніцтва Полаччыны. Матэрыяльная культура сялян была прадстаўлена аўтэнтычнымі прадметамі і замалёўкамі. Цэнтральнае месца ў аддзеле займала хата полацкага селяніна XIX ст., дзе паказаны яго побыт, а таксама манекены гаспадара і гаспадыні. Асобна дэманстраваліся ўзоры тканін, посцілкі, кросны, прасніцы, бёрды, сукала і інш. Акрамя таго, у экспазіцыі можна было ўбачыць сялянскую вопратку, народныя музычныя інструменты, шкляныя і ганчарныя вырабы;

● прыродна-геаграфічны меў 40 чучалаў звяроў, 23 гербарыі, узоры глеб Полаччыны.

Музейная рада Полацкага акруговага таварыства краязнаўства прыкладала актыўныя намаганні па папулярызацыі сабраных калекцый. Нягледзячы на абмежаваны доступ (музей быў адкрыты тры дні на тыдзень з 10 да 16 гадзін), яго аглядала 5 тыс. чалавек у год.




*Афіша выставы краязнаўчых фатаграфій і замалёвак, наладжанай сумесна ЦБК і БДМ.* Мінск 1927 г.

30 ліпеня 1926 г. пасля сямімесячных падрыхтоўчых работ у памяшканні Дома асветы адбылося адкрыццё ***Клімавіцкага акруговага краязнаўчага музея*** (Калінінская акруга). Хуткае развіццё новай установы адбывалася дзякуючы падтрымцы гарадскіх выканаўчых улад, якія фінансавалі музейнае будаўніцтва ў межах усёй акругі. У аснову фондавых калекцый музея былі пакладзены нешматлікія курганныя знаходкі і старажытныя манеты, якія засталіся ад музея мужчынскай гімназіі, што існаваў у горадзе да Першай сусветнай вайны. Музей складаўся з пяці аддзелаў: заалагічнага, археалагічнага, гістарычнага, нумізматычнага і мастацкага. У хуткім часе планавалася адкрыццё двух новых аддзелаў — рэлігійнага і краязнаўчага.

Найбольш каштоўным у навуковых адносінах быў археалагічны аддзел, дзе наведвальнікі маглі ўбачыць помнікі старажытнаегіпецкага мастацтва (бронзавыя статуэткі Азірыса, Апіса, Лунуса і інш.), палеалітычныя помнікі (крамянёвыя сякеры, долаты, скрабкі), курганныя знаходкі (пацеркі, завушніцы, спражкі, скроневыя кольцы, шыйныя абручы), сярэдневяковую зброю (мячы, кальчугі, панцыры). У гістарычным аддзеле прыцягвала ўвагу калекцыя бюстаў старажытнарымскіх палкаводцаў і палітычных дзеячаў, у мастацкім — калекцыі саксонскай парцэляны і французскіх гравюр з малюнкаў Вернэ. Падчас адкрыцця музея ў ім налічвалася крыху больш за 1 тыс. прадметаў, але калекцыі хутка павялічваліся дзякуючы энтузіязму мясцовага насельніцтва. Пра папулярнасць музея сведчыць таксама наступная лічба — за першыя два месяцы існавання яго наведала каля 4 тыс. чалавек, не лічачы экскурсійных груп.

Апошні ***акруговы краязнаўчы музей*** адкрыўся ў ***Мазыры***. Рашэнне пра яго стварэнне было ўхвалена 3 красавіка 1927 г. на агульным сходзе Мазырскага акруговага таварыства пад кіраўніцтвам яго старшыні А. І. Крукоўскага. Як і ў папярэдніх выпадках, фарміраванне калекцый было вынікам аматарскай працы мясцовага насельніцтва ў галіне вывучэння краю. Так, мазырскі саюз паляўнічых арганізаваў збор арніталагічнай калекцыі. Летам 1927 г. падчас удзелу сяброў таварыства ў экспедыцыі Усесаюзнага музея нарадазнаўства значна папоўнілася

этнаграфічная калекцыя. Акрамя таго, на працягу 1927/28 навучальнага года фонды ўзбагацілі археалагічныя знаходкі, нумізматыка, царкоўныя старажытнасці, а таксама прыродазнаўчая калекцыя, што дазволіла адкрыць музей для агляду 1 студзеня 1929 г. Экспазіцыя Мазырскага акруговага музея, адкрытая для агляду шырокай публікай два разы на тыдзень, адрознівалася ад іншых імкненнем яе стваральнікаў паказаць падзеі найноўшай палітычнай гісторыі БССР — польскую і нямецкую акупацыю, усталяванне савецкай улады, барацьбу з бандытызмам. Планаваўся паказ дасягненняў мясцовых калектыўных гаспадарак.

Да 1926 г., акрамя вышэй пералічаных музеяў, актыўную дзейнасць разгарнулі Мінскае, Віцебскае, Магілёўскае і Гомельскае акруговыя краязнаўчыя таварыствы. Але ў сувязі з тым, што ў гэтых гарадах існавалі аддзяленні БДМ, з якімі таварыствы цесна супрацоўнічалі, самастойных краязнаўчых музеяў там не стварылі. Цэнтр увагі ў сваёй музейнай дзейнасці гэтыя таварыствы перанеслі на раённыя гарады. Напрыклад, у Віцебскім таварыстве разгортваннем музейнага руху ў раёнах займалася асобная секцыя.

Не менш важнай з’явай у музейным жыцці Беларусі 20-х гг. XX ст. было масавае стварэнне раённых краязнаўчых музеяў. Большасць з іх з’явілася ў 1927—1928 гг., што сведчыла пра новы этап развіцця краязнаўчага руху, яго пранікненне ў глыб правінцыі. Для беларускай гістарычнай і прыродазнаўчай навук, якія знаходзіліся ў той перыяд у стадыі збору і сістэматызацыі першакрыніц, падобная з’ява мела асаблівае значэнне.

Колькасць ***раённых краязнаўчых музеяў у БССР*** напрыканцы 1920-х гг. дасягнула 27. Яны існавалі ў ***Азарычах, Асіповічах, Бабры, Беразіно, Бешанковічах, Быхаве, Бялынічах, Ушачах, Гарадку, Дрысе, Камарыне, Капаткевічах, Капылі, Лагойску, Лепелі, Мсціславе, Нароўлі, Плешчаніцах, Смалявічах, Смілавічах, Суражы, Сянне, Талачыне, Тураве, Хоцімску, Чэрыкаве, Чэрвені.*** У той жа час на стадыі фарміравання знаходзіліся музеі краязнаўчых таварystваў у ***Асвеі, Бялынічах, Грэску, Горках, Жлобіне, Клічаве, Лельчыцах, Лёзна, Міласлаўі, Рагачове, Самахвалавічах, Старых Дарогах, Уваравічах, Чашніках, Чырвонай Слабадзе, Шклове.***

Лепшы раённы краязнаўчы музей знаходзіўся ў Асіповіцкім раёне, які ЦБК у 1927 г. вызначыла як узорны. Музей быў адкрыты для ўсеагульнага агляду ў сакавіку 1928 г. у будынку Асіповіцкай чыгуначнай школы. Зборам экспанатаў, афармленнем экспазіцый і правядзеннем экскурсій займалася музейная камісія з чатырох чалавек на чале з настаўнікам А. Г. Немцавым. Усе экспанаты музея падзяляліся на тры аддзелы: прыродна-геаграфічны, побытавы і культурна-гістарычны. Асноўнае месца ў іх займалі матэрыялы мясцовага паходжання. Іх паступленне фіксавалася ў спецыяльнай інвентарнай кнізе, што сведчыла




***Структура краязнаўчай сеткі БССР***

пра спробы асіповіцкіх краязнаўцаў наладзіць улік музейных прадметаў. Адначасова вёўся улік наведвальнікаў, якія маглі пакінуць свае ўражанні ў кнізе водгукаў. З 1927 г. прыцягвалі ўвагу навукоўцаў і шырокіх колаў грамадскасці прыродазнаўчыя, этнаграфічныя і нумізматычныя калекцыі раённых краязнаўчых музеяў у Чэрвені, Чэрыкаве і Смілавічах.

Настаўнікі-краязнаўцы 1920-х гг. упершыню ўсур’ёз паставілі пытанне пра ролю, змест, месца школьнага музея ў адукацыйным працэсе. Наконт спецыфікі школьнага музея і музейнай адукацыі сярод настаўнікаў-краязнаўцаў не было адзінага пункту гледжання. Гэта пытанне актыўна абмяркоўвалася на старонках перыёдыкі тых гадоў. Ініцыятарам яго публічнага абмеркавання ў 1923 г. быў М. І. Каспяровіч, які выказаў думку, што мэтай стварэння школьнага краязнаўчага музея з’яўляецца, з аднаго боку, вывучэнне мясцовага краю, з другога — развіццё здольнасцей вучняў падчас збіральніцкай работы. Ён сцвярджаў, што галоўнае — не сам музей, а працэс яго ўтварэння. Вядомы педагог і арганізатар краязнаўчага руху разумеў школьны краязнаўчы музей як «метад у руках настаўніка і месца ў якім дзеці практыкуюць сваю волю, завострываюць розум, гадуюць пачуцці, навучаюцца свядомым і ўдумлівым адносінам да акружаючага».

Вельмі цікавае апісанне ўзнікнення школьнага краязнаўчага музея мы знаходзім у артыкуле аднаго з вясковых настаўнікаў: «Як стала вясна, пасыпаліся ў музей вучнёўскія працы і сшыткі, малюнкі, падзелкі з жалеза, дрэва і рэчы, вылепленыя з гліны, сплеценыя з пруцця, выразаныя з бібулы, засушаныя расліны, кузуркі і інш. Калі сталі паступаць батанічныя і заалагічныя калекцыі, з’явілася патрэба адрозніць гэты матэрыял, утварыць з яго аддзяленне краязнаўчае. Такім чынам, у нашым музеі раслі 2 аддзяленні: педагагічнае і краязнаўчае. З цягам часу з’явілася патрэба адчыніць яшчэ адно аддзяленне — гістарычнае. Усе ма-

тэрыялы, якія адносіліся да вайны германскай і грамадзянскай: розныя лісты, апавяданні ўдзельнікаў, кускі шрапнэляў, супрацьгазавыя маскі, ранцы — усе гэтыя рэчы зламжылі трэці багаты аддзел — гістарычны. Цяпер у музеі робіцца шмат экскурсій. Кожная школа раёну лічыць сваім абавязкам прыйсці сюды з выпускнымі вучнямі. А калі-небудзь нашы матэрыялы скарыстаюць вучоныя».

Лепшыя вучэбныя краязнаўчыя музеі былі створаны ў Мсціслаўскім, Рэчыцкім і Рагачоўскім педтэхнікумах, Краснабярэзскім аграпедтэхнікуме, Магілёўскай саўпартшколе. Прыкметнай з'явай было ўзнікненне вясковых школьных краязнаўчых музеяў. У якасці прыкладу можна прывесці музей у в. Ульянава Полацкай акругі, дзе пад кіраўніцтвам мясцовага настаўніка Б. Паршуты былі створаны экспазіцыі па археалогіі, этнаграфіі, геалогіі, батаніцы і школьным краязнаўстве.

Часам найвышэйшага ўзлёту музейна-краязнаўчага руху ў БССР можна лічыць 1928—1929 гг. Да гэтай дзейнасці далучыліся асобы рознага сацыяльнага становішча і рознай ступені падрыхтоўкі, але ў асноўным інтэлігентных прафесій і навучэнцы. Выяўленне, улік, ахова і выкарыстанне імі культурных каштоўнасцей стала асноўным напрамкам дзейнасці большасці краязнаўчых арганізацый, што давала магчымасць ствараць новыя музеі.

Паступова з другой паловы 1920-х гг. узмацнілася імкненне да ідэалагізацыі работы краязнаўцаў, асабліва ў адукацыйнай сферы. Гэта прасочваецца па выступленнях на краязнаўчых канферэнцыях дзяржаўных і палітычных дзеячаў, публікацыях у перыядычным друку, арганізацыйна-метадычнай дзейнасці ЦБК. Работа краязнаўцаў была формай дэмакратычнай самадзейнасці, самаарганізацыі жыцця, якая брала пачатак ад дарэвалюцыйных, земскіх традыцый. Далучэнне да ведаў адбывалася абмінаючы дзяржаўныя кіраўнічыя ўстановы, без уніфікаваных методык і абавязковых распараджэнняў.

Гэта не адпавядала курсу на бюракратызацыю грамадскага жыцця, які быў узяты ва ўмовах фарміравання культу асобы Сталіна. Калі ўлады імкнуліся ўсё нівеліраваць, краязнаўцы лічылі сваім абавязкам знайсці адметнасць, своеасаблівасць. Калі ўлады сілаю намагаліся падзяліць грамадства і навязаць думку пра абвастрэнні класавай барацьбы, краязнаўцы стараліся захапіць агульнай культурнай працай людзей розных пакаленняў, рознага сацыяльнага паходжання, узроўню адукаванасці. У гады паўсюдных міграцый намецілася тэндэнцыя разрыву насельніцтва са сваімі каранямі. Краязнаўцы ж захоўвалі гэтыя сувязі, каб яны сталі крыніцай далейшага культурнага развіцця. Такім чынам, краязнаўчы рух зрабіўся непатрэбным




*Часопіс-«Савецкая-краіна»-* 1931 г.

ва ўмовах каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, якая фарміравалася Сталіным. Пачынаючы з 1930 г. у агульнасаюзным маштабе разгортваецца кампанія за «новы этап» у развіцці краязнаўства, маючы на мэце цесную сувязь яго з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва. У якасці галоўнай задачы краязнаўцаў вызначаецца вывучэнне пяцігадовага плана развіцця раёна і практычная дапамога ў яго выкананні. Арганічнай часткай рэалізацыі сталінскай мадэлі пабудовы сацыялізму былі масавыя рэпрэсіі, ахвярамі якіх сталі многія беларускія краязнаўцы, у т. л. усё кіраўніцтва ЦБК.

Новы курс у краязнаўстве быў абвешчаны на 3-й Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску 25—26 студзеня 1930 г. На ёй гучала разгромная крытыка дзейнасці лепшых краязнаўчых арганізацый, загадзя арганізаваная партыйным кіраўніцтвам рэспублікі. ЦБК абвінавацілі ў адсутнасці яснай устаноўкі па эканамічных пытаннях. Дэлегаты, а яны загадзя атрымалі ўказанне якім павінна быць выступленне, адзначалі нізкі ўзровень работы па вывучэнні калгаснага руху і прамысловасці, патрабавалі ліквідацыі нацыянальных секцый пры таварыствах, краязнаўчыя музеі называлі «катэдрамі сацыялістычнага будаўніцтва». Прадстаўнік Музея рэвалюцыі прапаноўваў краязнаўцам засяродзіцца на зборы матэрыялаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху. Загадчык Полацкага музея гаварыў пра неабходнасць аб'яднаць усе музеі ў межах аднаго горада. Упершыню прагучала трывожная інфармацыя пра знішчэнне музеяў. Неадкладна знайшлася ахвяра: краязнаўчы музей у Камарыне, які быў выкінуты на вуліцу мясцовай кааперацыяй.

У выніку на канферэнцыі была прынята рэзалюцыя «Аб становішчы краязнаўчай справы ў БССР», якая заклікала беларускіх краязнаўцаў да ўдзелу ў індустрыялізацыі краіны, вывучэння энергетычных рэсурсаў, калгасаў і калгаснага руху, праблем павышэння ўраджайнасці сельскай гаспадаркі, эканамічнага стану раёна, вытворчых сіл, рэвалюцыйнага руху.

Пасля 3-й Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі прайшлі краязнаўчыя канферэнцыі ў раённых цэнтрах БССР, дзе арганізатары краязнаўчага руху абвінавачвалі сябе ў здрадзе ідэі сацыялістычнага будаўніцтва, галасавалі за выключэнне са складу арганізацый сваіх таварышаў,

арыштаваных АДПУ, распрацоўвалі планы перабудовы сваёй дзейнасці. Адначасова з канферэнцыяй у рэспубліканскім маштабе праходзіла краязнаўчая пяцідзёнка пад лозунгам раскрыцця нацыяналізму ў краязнаўстве. Гэта акцыя, якая дапаўняла канферэнцыю, напалохала найбольш актыўных краязнаўцаў. Член ЦБК Ф. П. Садоўскі ў сярэдзіне 1931 г. быў вымушаны канстатаваць, што ў шэрагу месцаў назіраецца поўны развал краязнаўчай работы, старыя краязнаўцы адышлі ад работы, а новыя не прыцягнуты. Так, былі разгромлены краязнаўчыя арганізацыі ў Барысаве, Ветцы, Оршы, Віцебску, Полацку, Лепелі, Дрысе, Крупках, Горках, Мінску.

Прыклад спроб старых краязнаўцаў прыстасавацца да новай сітуацыі знаходзім у звароце І. А. Сербава ў НКА, складзеным у красавіку 1930 г. Сябра ЦБК прапанаваў арганізоўваць этнаграфічныя музеі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі. Цалкам апраўданую і высакародную работу па кансервацыі і экспанаванні этнаграфічных помнікаў славуты навуковец прапаноўваў праводзіць у апусцелых хатах заможных сялян, высланых разам з сем'ямі ў Сібір падчас кампаніі за суцэльную калектывізацыю ў другой палове 1929 г. У прыватнасці, ён пісаў: «Там зусім лёгка знайсці старую сядзібу і прыстасаваць гэтую сядзібу цалкам да музея». Канешне, улады мелі зусім іншыя, больш прагматычныя планы адносна жыллёвага фонду, які вызваляўся. За тры месяцы да арышту новае разуменне тэрміна «краязнаўства» на старонках перыядычнага друку спрабаваў даць М. І. Каспяровіч: «...усебаковае вывучэнне краю арганізаванымі мясцовымі грамадскімі сіламі для перабудовы краю на соцыялістычны лад».

Новыя людзі, прызначаныя на пасады замест арыштаваных і выгнаных краязнаўцаў, не мелі ані жадання, ані ведаў, каб узначаліць краязнаўчы рух. Працытуем адказ Гомельскага раённага бюро краязнаўства на запыт ЦБК пра становішча спраў у 1931 г.: «Па сутнасці, адкрыта кажучы, таварыства не існуе, сяброў няма і ніякай працы не вядзецца. Два разы прызначалася пашыранае пасяджэнне праўлення па пытаннях аб краязнаўчай пяцідзёнцы з удзелам прадстаўнікоў Гаркаму КП(б)Б, камсамолу, Гарпрафсавету, гарінспектуры Нарасветы, але абодвы разы ніхто не з'явіўся... На гэтым праца і спынілася... Старшыня таварыства, выдзелены Гаркамам КП(б)Б, ніякай працы не вядзе, аб чым Гаркам добра ведае, але ўзамен яго нікога не вылучае».

Апошні перыяд існавання (1930—1933) ЦБК пад кіраўніцтвам супрацоўніка апарату НКА В. С. Серафімава працавала ў складзе Акадэміі навук БССР. Краязнаўчая работа ў той час разумелася як частка масавай работы на фабрыках і заводах, у калгасах і саўгасах. Узнік новы тэрмін —



*Школьнікі падчас краязнаўчай экскурсіі на завод «Чырвоная Бярэзіна».* 1929 г.

«вытворчае краязнаўства». У той час бюро было занята пераважна стварэннем праграм і інструкцый па вытворчым вывучэнні раёнаў, а таксама лекавых раслін, карысных выкапняў, фenaлагічных з'яў, гісторыі Грамадзянскай вайны, партызанскага руху і г. д. З лістапада 1930 г. часопіс «Наш край» пачынае выходзіць пад назвай «Савецкая краіна». З яго старонак паступова знікае гістарычная тэматыка, а на яе месца прыходзяць зусім іншыя, далёкія ад краязнаўчых задач матэрыялы.

Наступнай мерай, накіраванай на знішчэнне краязнаўчага руху, была арганізацыйная перабудова краязнаўчай сеткі БССР. Сутнасць яе была ў пабудове сеткі па вытворчым прынцыпе, г. зн. перанясенне ўсёй работы ў краязнаўчыя ячэйкі на фабрыках і заводах, калгасах і саўгасах. Структурна сетка краязнаўчых арганізацый БССР пасля рэарганізацыі выглядала наступным чынам: ячэйка — райбюро — ЦБК. Раённыя бюро існавалі пры райвыканкамах і складаліся з 10—15 чалавек. Ранейшы структурны падзел краязнаўчых арганізацый па секцыях (прыродна-геаграфічная, грамадска-эканамічная, культурна-гістарычная, а таксама нацыянальныя — яўрэйская, польская і інш.) быў заменены новым (прамысловая, сельскагаспадарчая і школьная). Такім чынам, добраахвотныя, дэмакратычныя грамадскія арганізацыі былі заменены бюракратычнымі органамі, якія выконвалі толькі адміністрацыйныя функцыі.

Адміністрацыйнае кіраўніцтва дзейнасцю краязнаўчых арганізацый ажыццяўлялася без уліку іх патрабаванняў і рэальных магчымасцей. Яны ці супраціўляліся перабудове, захоўваючы старую арганізацыйную структуру, ці самараспускаліся. З 75 раёнаў БССР толькі ў 15 здолелі стварыць райбюро краязнаўства. Не больш паспяховай была работа па

арганізацыі краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах. Па ўсёй БССР іх было створана 94, якія аб'ядноўвалі каля 1 тыс. чалавек.

На пачатку 1930-х гг. улады яшчэ спрабавалі адрадзіць краязнаўчы рух, выкарыстоўваючы адміністрацыйныя рычагі. Ствараецца аддзел краязнаўства і музеяў у складзе Наркамасветы. Ухваляецца зварот культпропа ЦК КП(б)Б, культсектара Цэнтральнага савета прафсаюзаў, Наркамасветы да мясцовых улад з заклікам дапамагаць краязнаўчым таварыствам. У пастановах ЦК КП(б)Б і СНК БССР мы знаходзім рэкамендацыі па арганізацыі матэрыяльнай дапамогі краязнаўчым арганізацыям, указанні на неабходнасць выдання навукова-папулярнай літаратуры, бібліяграфічных даведнікаў і дапаможнікаў для краязнаўчых ячэек.

Але нягледзячы на вышэйпамянёныя меры, краязнаўчая работа ў рэспубліцы так і не адрадзілася. Калі ў маі 1932 г. Акадэміяй навук БССР і Дзяржпланам БССР была склікана Усебеларуская канферэнцыя па навукова-даследчай рабоце, то краязнаўчы рух на ёй прадстаўлялі толькі 9 чалавек. Прычым прадстаўнікі Рэчыцкай, Полацкай, Мазырскай, Мсціслаўскай і Рагачоўскай арганізацый, дзе ўжо былі дагэтуль адкрыты важныя ў навуковых адносінах музеі, паведамлялі аб пачатку работ па стварэнні ўласных музеяў. Як відаць, праца, зробленая ў 1920-я гг., пад увагу не бралася.

Падобнае стаўленне да грамадскіх краязнаўчых музеяў было ідэалагічна замацавана на Усебеларускай нарадзе музейных работнікаў у 1932 г. Увага на становішча краязнаўчых музеяў была звернута ў дакладзе В. С. Серафімава «Музей і краязнаўчая работа». У ім не ўлічвалася спецыфіка работы краязнаўчага музея, што адбілася на змесце рэзалюцыі, прынятай па дакладзе. Краязнаўчым музеям прапаноўвалася ў максімальна кароткія тэрміны стварыць новыя марксісцкія экспазіцыі, аднак канкрэтныя спосабы рэалізацыі гэтай задачы не раскрываліся. Новыя раздзелы экспазіцый не мелі аўтэнтычных помнікаў і ствараліся на ілюстрацыйных і тэкставых матэрыялах. Барацьба супраць так званага «рэчавага фецішызму» абумовіла амаль поўнае выключэнне помнікаў з экспазіцый краязнаўчых музеяў і ператварала іх у збор этыкетак і тэкстаў. Уплыў сацыялагізму і схематызму адбіўся ў рэкамендацыях па стварэнні спрошчаных экспазіцый, у якіх пад загадзя прынятую схему падганяліся экспанаты, а калі такіх не знаходзілася, выраблялiся навукова-дапаможныя матэрыялы.

Адкрыццё новага прамысловага прадпрыемства павінна было адразу ж адлюстроўвацца ў краязнаўчым музеі з мэтай нагляднага інфармавання насельніцтва аб ходзе рэалізацыі пяцігадовага плана. У кантэксце вышэйсказанага трэба разумець з'яўленне ўтапічных праектаў, накшталт таго, што быў распрацаваны чыноўнікамі Наркамасветы напрыканцы 1932 г. Яго сутнасць была ў стварэнні сеткі політэхнічных музеяў

па ўсёй тэрыторыі БССР — своеасаблівай альтэрнатывы грамадскім краязнаўчым музеям, якія закрываліся. Сетка політэхнічных музеяў, на думку аўтараў праекта, павінна прывязвацца да прадпрыемстваў і калгасаў (саўгасаў).

Імкненне накіраваць краязнаўчы рух у рэчышча бягучых гаспадарчых патрэб ужо ў сярэдзіне 1930-х гг. прывяло да катастрафічных вынікаў — была ліквідавана большасць краязнаўчых арганізацый разам з іх музеямі. У выніку цяжкі ўдар атрымалі не толькі навука, якая страціла сваю крыніцазнаўчую базу, але і маральны стан грамадства. Развіццё краязнаўства на дзесяцігоддзі затармазілася.

У 1936 г. была зроблена апошняя спроба з боку партыйнага кіраўніцтва БССР адрадзіць краязнаўчы рух у рэспубліцы — 21 чэрвеня прынята пастанова ЦК КП(б)Б «Аб краязнаўчай рабоце і становішчы музейнай справы ў БССР». У пастанове прапаноўвалася кіраўніцтву Наркамасветы, ЦК ЛКСМБ, Беласводу і Цэнтральнаму савету прафсаюзаў актыўна ўключыцца ў работу па разгортванні краязнаўчага руху ў рэспубліцы. Партыйнае кіраўніцтва збіралася рабіць гэта з дапамогай наступных мерапрыемстваў: правядзення школьных турысцкіх паходаў, шлюпачных прабегаў па рэках, арганізацыі экскурсій да помнікаў Грамадзянскай вайны, выдання інструкцый па стварэнні школьных гербарыяў, мінералагічных калекцый і заалагічных музеяў. У асобным пункце пастановы ішла гутарка пра стварэнне савета па краязнаўстве пры Наркамасветы. Як бачым, у сярэдзіне 1930-х гг. змянілася нават разуменне сутнасці феномена краязнаўства і краязнаўчага музея. Цяпер апошні разумеўся толькі як сродак дзіцячага выхавання, ідэалагічна афарбаваны дапаможнік, які спрашчае засваенне школьнай праграмы.

Найбольш разбуральным вынікам новага стаўлення дзяржавы да грамадскіх краязнаўчых музеяў з’явілася знішчэнне на працягу 1930-х гг. Аршанскага краязнаўчага музея. У 1936—1938 гг. закрыліся краязнаўчыя музеі ў Слуцку, Мазыры, Нароўлі, Мсціславе, Чэрвені і некаторых іншых гарадах, лёс калекцый якіх не вядомы. Некалькі захаваных грамадскіх краязнаўчых музеяў набылі дзяржаўны статус шляхам перадачы іх у падпарадкаванне Наркамасветы. Такім чынам, само паняцце «грамадскі музей» у БССР на некалькі дзесяцігоддзяў было забыта.

Дзейнасць краязнаўцаў 1920-х гг. мела вялікае значэнне для развіцця навукі, уздымала інтэлектуальны ўзровень малых гарадоў і вёсак, спрыяла асвеце шырокіх колаў насельніцтва і ў той жа час прыцягвала да сацыялістычнага будаўніцтва старую інтэлігенцыю. Так захоўваліся і выкарыстоўваліся культурная спадчына і культурныя кадры, фарміраваліся новыя традыцыі культурнай і народнай адукацыі.

Значныя заслугі краязнаўцаў, асабліва тых, хто працаваў у музеях і архівах, у развіцці спецыяльных гістарычных і філалагічных дысцыплін, у распрацоўцы метадаў атрыбуцыі і апісання музейных прадметаў, рукапісаў, выданняў.

Пры ўсіх хібах — непрыстасаваных памяшканнях, слабым фінансаванні, адсутнасці аплачваемых пасад — краязнаўчыя музеі адыгралі вялікую ролю ў павышэнні культурнага ўзроўню краіны. Яны былі формай праяўлення дэмакратычнай самадзейнасці насельніцтва, апавядалі пра традыцыі, нацыянальныя карані, кансалідавалі грамадства. Вынікі працы краязнаўцаў, якія на базе сабраных матэрыялаў праводзілі канкрэтныя даследаванні, дапамаглі савецкай гістарычнай навуцы захавацца ў гады панавання сацыялагічнай вульгарызацыі.

## 2.3. МУЗЕІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Пасля Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. значная частка беларускай гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны апынулася па-за заходняй мяжой БССР. Для разумення ідэалагічнага клімату, у якім адбывалася развіццё музейнай справы ў Заходняй Беларусі ў 1920—30-я гг., неабходна падкрэсліць, што на мясцовым краязнаўчым руху і дзейнасці па ахове гістарычна-культурнай спадчыны адбілася ідэя нацыянальнага і дзяржаўнага адзінства Польшчы.

Але ажыўленыя дыскусіі пра арганізацыю музейнай справы ў краіне пачаліся яшчэ да атрымання ёю незалежнасці. Выказванні Д. Раскіна і У. Морыса пра музеі як могілкі мастацтва, праекты А. Ліхтварка, якія падкрэслівалі асветніцкую функцыю музеяў, стваралі інтэлектуальны клімат, у якім фарміравалася музейная справа ў Польшчы. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў красавіку 1914 г. у Кракаве адбыўся першы з’езд прадстаўнікоў польскіх музеяў, якія стварылі Саюз польскіх музеяў. А ў 1917 г. з’явілася кніга, якая падсумавала дасягненні музейнай справы ў Польшчы ва ўмовах страты дзяржаўнасці. Атрыманне незалежнасці краіны ў 1918 г. стварыла новыя ўмовы для развіцця музеяў.

У 1918 г. урад Польшчы сканцэнтраваў апеку над музеямі ў Міністэрстве мастацтва і культуры, пазней гэтыя функцыі былі перададзены Міністэрству веравызнанняў і народнай асветы. Тады ж была ўтворана спецыяльная структура, якая адказвала за кансервацыю і рэстаўрацыю помнікаў. У 1928 г. музейная дзейнасць у Польшчы атрымала заканадаўчую базу — з’явіўся «Закон аб ахове твораў мастацтва і помнікаў старажытнасці», які, у прыватнасці, забараняў іх вываз за мяжу. Гэты акт быў падмацаваны законам 1933 г. «Аб апецы над публіч-

нымі зборамі», згодна з ім мясцовыя ўлады былі абавязаны спрыяць развіццю музеяў. Важнай мерай па каардынацыі дзейнасці польскіх музеяў з'явілася стварэнне Дырэкцыі дзяржаўных мастацкіх калекцый, якой падпарадкоўваліся буйнейшыя музеі Варшавы і Кракава. У 1935 г. з гэтай жа мэтай фарміруецца Музейны савет, куды ўвайшлі спецыялісты, якія прадстаўлялі музеі розных профіляў.

Істотную кансалідуючую ролю ў музейным жыцці Польшчы адыгрывала прафесійная грамадская ініцыятыва ў выглядзе Саюза музеяў, які ўзнавіў сваю работу ў 1921 г. Яго дзейнасць выяўлялася галоўным чынам у арганізацыі штогадовых музейных з'ездаў, а таксама выданні часопіса «Музейны дзённік». Але выпрацоўка адзінай праграмы, каардынацыя музейнай дзейнасці ў маштабах краіны ўскладнялася прыналежнасцю музеяў да розных дзяржаўных устаноў, грамадскіх інстытутаў, а таксама прыватных асоб. Польская дзяржава давала неабмежаванае права ўсім жадаючым ствараць свае музеі.

Характарызуючы агульны напрамак развіцця музеяў Польшчы ў міжваенны перыяд, трэба адзначыць, што ўсе намаганні дзяржаўных органаў і грамадскасці скіроўваліся на асноватворныя задачы, якія не маглі быць выкананы раней ва ўмовах адсутнасці дзяржаўнасці, супраціўленне польскай нацыянальнай культуры германізатарскім і русіфікатарскім уплывам. У гэтай сітуацыі беларускі нацыянальна-культурны рух на «крэсах усходніх» успрымаўся палякамі насцярожана, а найбольш радыкальнай часткай грамадства, як варожая з'ява.

Гэту думку можна яскрава праілюстраваць на прыкладзе існавання ***Беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні.*** Падчас заснавання музея радай Беларускага навуковага таварыства ў 1921 г. вынікі збіральніцкай дзейнасці І. Луцкевіча ўжо атрымалі рэпутацыю найкаштоўнейшага сховішча рухомых беларускіх помнікаў. Будынак на Вастрабрамскай, 9 (Базыльянскія муры), які перадаў таварыству ў бясплатнае карыстанне Віленскі праваслаўны епіскапат, ведалі ўсе, хто цікавіўся беларускай старасветчынай. Фонды музея папаўняліся штогод, але былая прыватная калекцыя І. Луцкевіча па-ранейшаму складала аснову калекцый нават у апошні перыяд існавання музея. Новыя паступленні міжваеннага перыяду складаліся з закупак, перадачы з розных арганізацый, але пераважна з ахвяраванняў прыватных асоб. На 1941 г. фондавы збор музея налічваў 13,5 тыс. адзінак захоўвання.

У якасці крытэрыя яго структурызацыі быў пакладзены прынцып прыналежнасці прадметаў да пэўнай спецыяльнай гістарычнай дысцыпліны: 1) археалогія; 2) сфрагістыка; 3) нумізматыка; 4) этнаграфія; 5) прадметы рэлігійнага культу; 6) абразы; 7) свецкае мастацтва; 8) зброя і рыштунак; 9) палеаграфія; 10) кнігазбор.

Археалагічны аддзел музея налічваў больш за 200 адзінак, знойдзеных пры раскопках курганоў, якія праводзіў І. Луцкевіч. Некалькі комплексаў прадметаў было з раскопак Я. Тышкевіча, П. Церабеева ў 1893—1894 гг. на Дзісеншчыне, а таксама Г. Татура ў 1870-я гг. у Мінскай губерні (крамянёвыя прылады працы, бронзавыя ўпрыгожанні, гаршкі з пахавальных курганоў, жалезныя сякеры і інш.). З навейшых набыткаў сваёй навуковай вартасцю вылучаліся прадметы, здабытыя падчас раскопак Ніжняга замка ў Вільні (кафля, цэгла, дахоўка, фрагменты посуду), а таксама на тэрыторыі Мядзельскай гміны.

У сфрагістычным аддзеле знаходзілася больш за 100 пячатак, сярод якіх даследчыкі выдзялялі адбіткі з пярсцёнкаў полацкіх князёў Усяслава і Барыса, вялікага князя Міндоўга, караля Яна Сабескага, а таксама розных дзяржаўных устаноў, грамадскіх і рэлігійных арганізацый Вялікага Княства Літоўскага.

У аддзеле нумізматыкі было сабрана каля 3 тыс. узораў манет Рэчы Паспалітай і іншых краін Еўропы.

У этнаграфічным аддзеле, які налічваў каля 200 адзінак, знаходзіліся ўзоры народнай вопраткі і тканін[1], прадметы сялянскага побыту, музычныя інструменты, вялікая колькасць твораў народных разьбяроў. Калекцыю тканін упрыгожвалі шытыя золатам і серабром шляхецкія кунтушы, залататканыя жаночыя гарсэты, слуцкія паясы. Калекцыю прадметаў хатняга ўжытку — гліняныя, медныя, цынкавыя вазы, збаны, тале́ры і іншы посуд. Не меншую ўвагу спецыялістаў прыцягвала калекцыя музычных інструментаў.

Сярод прадметаў рэлігійнага культу можна было ўбачыць калекцыю крыжоў, медальёнаў, складняў, найбольш старажытныя з якіх датаваліся XII ст., сакасы віленскіх мітрапалітаў XV—XVI стст.

Самастойнае значэнне мела калекцыя абразоў, найбольш старажытныя з якіх датаваліся XIII ст.

Аддзел выяўленчага мастацтва (больш за 2 тыс. адзінак) уяўляў выдатную калекцыю твораў славутых беларускіх мастакоў, разьбяроў, невядомых народных майстроў. Асаблівае значэнне ў аддзеле мела калекцыя гістарычнага партрэта, дзе захоўваліся працы мастакоў віленскай (Ф. Смуглевіча, Я. Рустэма, І. Хруцкага, Ю. Пешкі) і расійскай (І. Трутнева, К. Брулова) школ. Акрамя партрэтнага мастацтва, у аддзеле мелася скульптура (Б. Арлоўскага, М. Антакольскага, Р. Яхімовіча) і калекцыя прац віленскіх гравёраў. Супрацоўнікі музея таксама збіралі творы сучасных мастакоў як беларускага (П. Сергіевіч, Я. Драздовіч), так і літоўскага паходжання.

---

[1] Адна частка гэтай калекцыі знікла падчас яе дастаўкі ў Вільню з Мінска, дзе яна дэманстравалася на выставе І. Луцкевіча і А. Іпеля ў 1918 г., другая частка пазней была перададзена ў фондавы збор БДМ.

У вайсковым аддзеле сваёй разнастайнасцю вылучалася стралковае і халоднае ўзбраенне — крыжацкія мячы, турэцкія ятаганы з дамаскай сталі, шпагі, крамянёвыя і пістонныя стрэльбы, пісталеты, бронзавыя гарматы-салютоўкі, лукі і стрэлы, сялянскія рагаціны і дубіны. Нязменную ўвагу наведвальнікаў прыцягваў меч віленскага ка́та. Асобна ў аддзеле фарміравалася калекцыя вайсковага абмундзіравання і рыштунку — рэнесансныя даспехі, кальчугі мясцовай вытворчасці, па-мастацку выкананыя рагавыя парахаўніцы, чапракі на сёдлы і г. д.

Аддзел рукапісаў быў найбольш шматколькасны і змяшчаў каля 6 тыс. адзінак, якія храналагічна ахоплівалі перыяд XIV—XIX стст. Сярод іх вылучаўся ўнікальны палеаграфічны помнік пад назвай «Поучения огласительные» Феадора Студзіта (1476) — рэдкі для славянскай традыцыі літаратурны твор, перапісаны ў Вільні паводле загаду вялікага князя Аляксандра. Вялікую каштоўнасць мелі грамата пінскага князя Фёдара Іванавіча 1508 г., Слуцкі памяннік 1517 г., трэбнік 1545 г. з Жыровіцкай царквы, граматы каралёў Жыгімонта ІІ Аўгуста, Стафана Баторыя, Жыгімонта ІІІ, Уладзіслава IV і інш. Сярод амаль 400 рукапісных кніг асаблівую цікавасць спецыялістаў выклікалі экзэмпляры кірылаўскага пісьма, у тым ліку Жухавіцкае евангелле XIV ст., Віленскае евангелле, літургічныя праваслаўныя і ўніяцкія кнігі XV—XVIII стст., чэцці-мінеі, літаратура, а таксама календары, апісанне беларускіх праваслаўных і ўніяцкіх цэркваў і манастыроў, метрычныя кнігі, зборнікі выпісак з дакументаў XVI—XIX стст. Важнае месца сярод палеаграфічных помнікаў займалі рукапісы лацінскага пісьма — польскамоўныя дзённікі і апісанні вандраванняў, каталіцкія спеўнікі, катэхізісы для беларусаў-каталікоў, лацінскамоўныя літургічныя кнігі. Асобную складаную частку калекцыі ўяўлялі архівы беларускіх выдавецтваў, выданняў, арганізацый, асобных палітычных, рэлігійных і культурных дзеячаў, у тым ліку рукапісы М. Багдановіча і Я. Купалы, М. Гарэцкага і І. Дварчаніна, В. Жылкі і М. Танка, Р. Шырмы і Ц. Гартнага. Тут жа зберагаліся архівы Беларускай Народнай Рэспублікі, Слуцкага паўстання, Беларускага пасольскага клуба пры Польскім сейме, Беларускай рабоча-сялянскай грамады.

Пры музеі існавала бібліятэка, якая налічвала каля 15 тыс. кніг. Яна складалася з кніг І. Луцкевіча (пераважна са старадрукаў), часткі бібліятэкі Е. Р. Раманава і бібліятэкі Б. Даніловіча, вядомай у Вільні з 1904 г. як бібліятэка-чытальня «Веды». Найбольш старажытным выданнем у бібліятэцы была «Трыёдзь каляровая Швайпольта Фіёля» (каля 1493 г.), якая змяніла многіх уладальнікаў, І. Луцкевіч яе набыў у старавераў. Не меншую каштоўнасць мелі скарынаўскія выданні, Статут 1588 г. Вялікага Княства Літоўскага, іншыя старадрукі. З пазнейшых выданняў меліся беларускія кнігі перыяду ўзнаўлення беларускага друку ў XIX ст. (пачынаючы з кнігі А. Рыпінскага «Беларусь», выдадзенай у Парыжы ў 1840 г.),

падборкі беларускіх газет, заходнебеларускія і савецкія беларускія выданні 1920—30-х гг.



*А. Луцкевіч*

У пяці невялікіх экспазіцыйных залах музея было прадстаўлена 2,3 тыс. прадметаў. Экспазіцыя адкрывалася залай археалогіі, найбольшай у музеі. У наступных асобных залах былі прадстаўлены этнаграфія, мастацтва, зброя. Такім чынам, кожны зал атрымаў дакладны профіль. Усе матэрыялы былі згрупаваны па калекцыйным прынцыпе. Нягледзячы на значную перагрузку залаў і не заўсёды дакладную сістэматызацыю матэрыялу, падобны падыход меў рацыю. У той час як у музеях БССР гістарычныя помнікі пераўтвараліся ў ілюстрацыі да пэўных ідэалагічных тэзісаў, экспазіцыя Беларускага музея была крыніцай унікальных ведаў пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Змены ў экспазіцыі музея, якія адбываліся на працягу 1930-х гг., характарызаваліся ў цэлым далейшым развіццём прынцыпу калекцыйнага паказу.

Развіццё Беларускага музея забяспечвала яго ўправа, што дзейнічала на правах секцыі пры Беларускім навуковым таварыстве. Абавязкі загадчыка музея (1921—1939) і адначасова старшыні таварыства (1923—1939) выконваў вядомы палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, літаратурны крытык, малодшы брат заснавальніка музея А. Луцкевіч. Бібліятэкарам у музеі працаваў вучоны-эрудыт, публіцыст У. Самойла, скарбнікам — грамадскі дзеяч, педагог А. Неканда-Трэпка. Мастацкія работы выконваў славуты беларускі графік і жывапісец Я. Драздовіч. Значны аб’ём менш кваліфікаваных работ у музеі выконвалі вучні Віленскай беларускай гімназіі, якая была заснавана ў Базыльянскіх мурах у 1919 г.

Нягледзячы на ўсе намаганні, на працягу 1920-х гг. Беларускае навуковае таварыства не здолела арганізаваць сістэматычнае і планамернае папаўненне і вывучэнне фондаў. Віленскі магістрат выдаткоўваў сродкі і прадастаўляў памяшканні толькі тым музеям, дзейнасць якіх адпавядала афіцыйнай ідэалогіі[1]. Грамадскіх жа ахвяраванняў хапала толькі на пра-

[1] У міжваеннай Вільні, акрамя Беларускага, існавалі наступныя музеі: Музей таварыства аматараў навук, археалагічны, этнаграфічны, мастацкі і прыродазнаўчы музеі Віленскага ўніверсітэта, Музей літоўскага навуковага таварыства, Музей гісторыка-этнаграфічнага таварыства імя Ш. Анскага, Музей сучаснага мастацтва, Музей горада Вільні, музейны збор бібліятэкі імя Урублеўскіх, музейны збор евангелічна-рэфармацыйнай царквы. У стадыі фарміравання знаходзіліся музеі караімскі, татарскі і дыяцэзіяльны.

вядзенне элементарных работ. Абмежаванымі былі вынікі ахвярнай працы добраахвотнікаў, якія не мелі спецыяльнай падрыхтоўкі.

Ажыўленне дзейнасці Беларускага навуковага таварыства і стварэнне пры ім музейнай рады ў сярэдзіне 1930-х гг. адкрыла перад музеем новыя перспектывы развіцця. Палепшылася яго матэрыяльнае становішча — павялічылася грашовая дапамога з боку грамадства (пералічэнні аднаго толькі старшыні Беларускага цэнтра ў Літве К. Дуж-Душэўскага з Коўна дазвалялі аплачваць працу ўсіх супрацоўнікаў). Невялікую суму пачалі выдаткоўваць польскія ўлады. Павялічыліся новыя паступленні ў фондавы збор музея. Узрастала колькасць наведвальнікаў. Дынаміку наведвання Віленскага беларускага музея за шэсць апошніх перадваенных гадоў дэманструюць наступныя лічбы:

| Год | Колькасць наведвальнікаў | Колькасць экскурсій |
|---|---|---|
| 1933 | 1320 | 48 |
| 1934 | 920 | 51 |
| 1935 | 903 | 42 |
| 1936 | 1494 | 64 |
| 1937 | 4569 | 110 |
| 1938 | 5000 | 70 |

Вось як апісвае атмасферу, што панавала ў Беларускім музеі, былая студэнтка Віленскага ўніверсітэта Р. Жук-Грышкевіч: «І чамусьці ў вачох, як жывы, паўстаў вобраз Музэю Івана Луцкевіча... сівы, сярэдняга ўзросту, паважны, у кажным цалю “джэнтэльмэн” (Антон Луцкевіч) паказвае нам, беларускім студэнтам старыя ёмістыя кнігі... Статут Вялікага Княства Літоўскага... Літоўская Мэтрыка... і наракае, што ў музэі замала мейсца на ўсё музэйнае бясцэннае багацьце, каб усё як належыцца й паказаць і перахаваць... а ў другой залі беларуская студэнтка Валя Жукоўская паясьняе наведнікам экспанаты — розных гатункаў зброі, якой нашыя слаўныя продкі баранілі свой край перад наезднікамі... а ў іншым пакоі іншыя экспанаты... На манэкіне апрануты беларускі народны строй, які даравала музэю беларуская студэнтка зь вёскі Шані, што на Палесьсі — у Пружаншчыне, а звонку музэю на залітым сонцам панадворку славутых Базыліянскіх муроў, у якіх аж кіпела беларускае жыццё, маса беларускіх студэнтаў сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні, што на Завальнай... сяброўкай якога мела гонар і шчасьце быць і я...».

Актывізацыя беларускага культурнага жыцця выклікала занепакоенасць у віленскіх гарадскіх улад. Напярэдадні Другой сусветнай вайны

яны перапыняюць фінансаванне Беларускага музея, распрацоўваюць планы яго злучэння спачатку з музеем Віленскага таварыства сяброў навук, потым — з музеем Літоўскага навуковага таварыства, даюць загад гарадскім экскурсаводам абыходзіць будынак на Вастрабрамскай. Тым не менш напярэдадні Другой сусветнай вайны Беларускі музей імя І. Луцкевіча знаходзіўся напярэдадні новага ўздыму. Яго калекцыі прыцягвалі ўвагу славутых гісторыкаў, археолагаў, мастацтвазнаўцаў. Пра аўтарытэт музея, у прыватнасці, сведчыць наступны факт. На адкрыцці X з'езда Саюза музеяў Польшчы, што праходзіў з 23 па 26 чэрвеня 1934 г. у Вільні з прывітальнай прамовай на беларускай мове да ўдзельнікаў было дазволена звярнуцца прадстаўніку толькі аднаго віленскага музея — Беларускага. Уся яго шматгадовая дзейнасць дае падставу гаварыць пра існаванне ў першай палове XX ст. у гістарычнай сталіцы Беларусі Нацыянальнага музея з уласнай бібліятэкай і архівам.

У пачатку лістапада 1939 г. савецкае кіраўніцтва перадало Вільню Літоўскай рэспубліцы. Ад гэтага часу да сярэдзіны чэрвеня 1940 г., калі Літоўская рэспубліка была далучана да СССР, Беларускі музей, пазбаўлены кіраўніцтва пасля арышту ў верасні 1939 г. А. Луцкевіча і А. Неканда-Трэпкі, быў закрыты. У гэты час музейныя калекцыі знаходзіліся пад наглядам мастака П. Сергіевіча. Пасля ўтварэння Літоўскай ССР Беларускае навуковае таварыства ў Вільні спыніла сваё існаванне, а Беларускі музей быў перададзены ў падпарадкаванне Акадэміі навук Літоўскай ССР. Яе прэзідэнт прафесар В. Крэве-Міцкявічус прызначыў новы штат супрацоўнікаў у складзе этнографа М. Пецюкевіча, які заняў пасаду дырэктара, нумізмата Я. Бэкіша, мастакоў П. Сергіевіча і У. Дрэмы, а таксама журналіста Я. Шутовіча.

20 мая 1941 г. па просьбе Я. Купалы і Я. Коласа прэзідыум Акадэміі навук БССР звярнуўся з афіцыйнай просьбай у прэзідыум Акадэміі навук Літоўскай ССР аб перадачы БССР Беларускага музея ў Вільні ў абмен на архіўныя і музейныя матэрыялы, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР і маюць літоўскае паходжанне. Прэзідыум АН Літоўскай ССР даў згоду на падобны абмен, пасля чаго на працягу чэрвеня ў Мінску была сфарміравана спецыяльная камісія па перавозцы калекцый Беларускага музея ў Мінск. Але на гэта камісіі ўжо не хапіла часу.

Перыяд нямецкай акупацыі Беларускі музей у Вільні перажыў амаль без страт. У лістападзе 1944 г. СНК Літоўскай ССР ухваліў рашэнне аб ліквідацыі музея і падзеле яго калекцый паміж Літоўскай ССР і Беларускай ССР, дзеля чаго сфарміраваў ліквідацыйную камісію пад кіраўніцтвам намесніка наркама асветы М. Мешкаўскене. Камісія падзяліла ўсе музейныя прадметы на чатыры групы: 1) прадметы, якія мелі

адносіны да гісторыі літоўскага народа[1]; 2) прадметы, якія мелі адносіны да гісторыі беларускага народа; 3) прадметы, якія мелі адносіны да гісторыі абодвух народаў; 4) прадметы, якія не мелі адносін да гісторыі абодвух народаў. Прадметы, якія ліквідацыйная камісія адносіла да першай і чацвёртай груп, заставаліся ў Вільні. Прадметы другой групы перадаваліся ў Мінск. Прадметы трэцяй групы падзяляліся паміж Вільняй і Мінскам у залежнасці ад іх гісторыка-культурнай каштоўнасці для беларускага і літоўскага народаў.

Сартаванне прадметаў на сваю карысць ажыццяўлялі літоўскія эксперты — аўтарытэтныя гісторыкі, мастацтвазнаўцы, археолагі, этнографы, музейныя прафесіяналы, мастакі. Навуковыя супрацоўнікі Беларускага музея выкарыстоўваліся толькі на тэхнічных работах. Урадавая дэлегацыя БССР на чале з В. В. Сабліным выконвала ролю статыста пры падзеле калекцый музея. Адукацыйны і маральны ўзровень яе членаў не дазваляў адстойваць інтарэсы беларускага народа нават у тых выпадках, калі літоўскі бок вызначаў як свае відавочна беларускія матэрыялы. У выніку работы ліквідацыйнай камісіі да чэрвеня 1945 г. фондавы збор Віленскага беларускага гісторыка-этнаграфічнага музея імя Івана Луцкевіча быў падзелены паміж рознымі дзяржаўнымі ўстановамі Літоўскай ССР і Беларускай ССР. Лепшыя калекцыі апынуліся ў Гісторыка-этнаграфічным музеі АН Літоўскай ССР і яго філіялах — Карціннай галерэі і Музеі прыкладнога мастацтва, Літоўскім дзяржаўным мастацкім інстытуце, таксама бібліятэках Віленскага ўніверсітэта і АН Літоўскай ССР. Невялікая колькасць гісторыка-мастацкіх помнікаў меншай вартасці была падзелена паміж Дзяржаўным мастацкім музеем БССР і Дзяржаўным музеем БССР. Нешматлікія дакументы, малюнкі і кнігі Беларускага музея апынуліся ў беларускіх дзяржаўных архіўных сховішчах.

Дзве вельмі важныя ў навуковых і культурных адносінах музейныя ўстановы ў міжваенны перыяд знаходзіліся ў Гродне.

Падмуркам ***Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея*** можна лічыць прыватную калекцыю Ю. Ядкоўскага, якую будучы вучоны пачаў збіраць яшчэ ў юнацтве пад уплывам свайго настаўніка, вядомага гродзенскага гісторыка і краязнаўца Я. Ф. Арлоўскага. Гэтая калекцыя значна ўзбагацілася падчас яго працы на пасадзе кансерватара ў Гродне напярэдадні Першай сусветнай вайны. Значную колькасць археалагічнага матэрыялу далі сумесныя раскопкі з В. Шукевічам у Начы,

[1] Пад тэрмінам «літва» сябры ліквідацыйнай камісіі разумелі тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага ў перыяд яго найвышэйшага роскавіту, г. зн. ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Берштах і Троках, з Ю. Талькам-Грынцэвічам — у Ланкішках. Згодна службовых абавязкаў Ю. Ядкоўскі павінен быў сачыць за станам не толькі рухомых, але і архітэктурных (нерухомых) помнікаў. Ён абследаваў замкі ў Крэве, Лідзе, Нясвіжы, Міры, палацы ў Свяцку і Дубічах, царкву ў Сынковічах. З яго дапамогай удалося зберагчы касцёл у Гарадзішчы з фрэскамі Л. Хубля, а таксама іканастас XVII ст. у Супраслі. З гэтых вандровак энергічны і настойлівы малады вучоны прывозіў каштоўныя этнаграфічныя матэрыялы, нумізматыку, старадрукі.

Важнай падзеяй у развіцці музейнай справы на Гродзеншчыне было ўтварэнне па ініцыятыве Ю. Ядкоўскага ў сакавіку 1920 г. Камісі па ахове помнікаў мастацтва і культуры пры гродзенскім павятовым упраўленні[1]. Першыя вынікі яе збіральніцкай дзейнасці былі прадстаўлены ў верасні 1921 г. на «Выставе мясцовых старажытнасцей і старога Гродна». Выстава карысталася вялікай папулярнасцю, што праявілася ў прытоку грашовых ахвяраванняў і вялікай колькасці наведвальнікаў. Сярод іх быў Ю. Пілсудскі, які аглядаў выставу ў суправаджэнні кіраўнікоў урада.

Грамадскі рэзананс, што атрымала «Выстава мясцовых старажытнасцей і старога Гродна», паспрыяў шырокай дзяржаўнай і грамадскай падтрымцы ідэі стварэння гістарычнага музея ў Гродне. Рашэнне пра гэта было ўхвалена ў чэрвені 1922 г. на адкрытым пасяджэнні камісіі з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства веравызнанняў і народнай асветы, у юрысдыкцыі якога ў міжваеннай Польшчы знаходзіліся буйнейшыя музеі краіны. Захавальнікам музея стаў Ю. Ядкоўскі. Ён жа адначасова займаў пасады кансерватара Беластоцкай акругі і загадчыка аддзела мастацтва і культуры Беластоцкага ваяводства[2]. Былі вызначаны тэрытарыяльныя межы дзейнасці музея: Гродзенскі, Ваўкавыскі, Сакольскі, Бельскі, Беластоцкі, Сувалскі, Аўгустоўскі і Сенненскі паветы. Гродзенская камісія па ахове помнікаў мастацтва і культуры прыпыніла сваё існаванне, замест яе была ўтворана музейная камісія.

9 снежня 1922 г. у адрэстаўраваным будынку староства адбылося ўрачыстае адкрыццё Гродзенскага музея (Ю. Ядкоўскі назваў яго ў прывітальным слове «першы Нацыянальны на крэсах»). З нагоды яго адкрыцця прывітальныя адрасы даслалі Варшаўскае навуковае таварыства, Пазнанскі музей, Музей імя Дзедушыцкіх у Львове, дэкан факультэта прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта Ф. Рушчыц, віленскі

[1] Падобныя камісіі, створаныя польскай грамадскасцю, выратавалі шмат помнікаў падчас нямецкай акупацыі на этнічных польскіх землях.

[2] Тэрытарыяльна кансерватарскія акругі, створаныя ў міжваеннай Польшчы з мэтай арганізацыі аховы нерухомай гісторыка-культурнай спадчыны, не супадалі з межамі ваяводстваў.



*Фрагмент экспазіцыі Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея. Шкляныя келіхі, выробленыя на мануфактуры А. Тызенгаўза, аптэчная пасудзіна, пячатка ў выглядзе арла, якая належала паэту Ю. Нямцэвічу*
1923 г.

акруговы кансерватар Е. Ромер і інш. Першая экспазіцыя, разгорнутая ў трох невялікіх залах, была адкрыта для наведвання па суботах і нядзелях з 11 да 15 гадзін.

У першай зале дэманстраваліся кафля з раскопак у Мірскім і Трокскім замках, калекцыя народных паясоў, сабраных на Гродзеншчыне, пацеркі, пісанкі, некалькі жывапісных палотнаў і медзярытаў з рэлігійнымі сюжэтамі XVI—XVII стст., а таксама некалькі арыгінальных дакументаў, у тым ліку прывілей Гродна на Магдэбургскае права, дадзены Казімірам IV Ягелончыкам у 1444 г.

Экспазіцыю другой залы адкрывалі старадрукі (Біблія на польскай мове, 1561 года выдання, першыя гродзенскія і супрасльскія старадрукі) і рукапісы (прывілеі з уласнаручнымі подпісамі каралёў Уладзіслава IV, Аўгуста II, Аўгуста III). Далей экспанаваліся партрэты знакамітых дзяржаўных і палітычных дзеячаў Рэчы Паспалітай — Тадэвуша Касцюшкі, Юліяна Нямцэвіча, маршалкаў Крыштофа Весялоўскага і Станіслава Юндзіла, віцебскага кашталяна Яўстаха Курча і інш. Тут жа знаходзілася «шафа Міхала Клеафаса Агінскага», дзе можна было ўбачыць аўтографы кампазітара, яго асабістыя рэчы, падсвечнікі, габелены.

Трэцяя зала знаёміла наведвальнікаў з калекцыямі нумізматыкі, керамікі і шкла (у апошняй былі выстаўлены па-мастацку выробленыя на Гродзенскай мануфактуры А. Тызенгаўза келіхі). У асобных вітрынах дэманстраваліся пячаткі, слуцкія паясы, вышыўкі золатам, кальчугі, рыцарскія спражкі, ліхтары, пячаткі, гравюры, касцельная разьба па дрэве. Заканчвалася экспазіцыя залы зноў старадрукамі.

Такім чынам, у момант адкрыцця і першы перыяд існавання экспазіцыя Гродзенскага музея мела яшчэ аматарскі характар. Яе стваральнікі імкнуліся размеркаваць сабраныя прадметы згодна з калекцыйным прынцыпам. У выпадку з комплексам рэчаў, прысвечаных М. К. Агінскаму, мы бачым спробу стварэння ансамблевай экспазіцыі. Акрамя экс-

пазіцыйных памяшканняў, у будынку Гродзенскага староства музею былі выдзелены плошчы пад рэстаўрацыйную майстэрню, архіў і бібліятэку.

Асаблівую ўвагу захавальнік Гродзенскага музея надаваў арганізацыі і правядзенню часовых выставаў, як сродка прыцягнення дадатковых наведвальнікаў. Ён асабіста вёў папярэднюю перапіску з экспанентамі, праводзіў мантаж экспазіцый, складаў тэксты каталогаў выставаў і, нарэшце, выконваў абавязкі экскурсавода. У красавіку 1924 г. у будынку староства адбылося адкрыццё першай вясенняй выставы, якая знаёміла жыхароў Гродна з працамі віленскага мастака Я. Казімяроўскага. У лістападзе таго ж года прайшла другая восеньская выстава, прымеркаваная да 50-годдзя творчай працы польскага мастака Я. Мальчэўскага. Пасля двухгадовага перапынку Ю. Ядкоўскі вярнуўся да выставачных праектаў. У маі 1926 г. ён арганізаваў выставы твораў мясцовых мастакоў-пейзажыстаў З. Буйноўскага і М. Сланецкага, у лістападзе — зноў выставу М. Сланецкага і варшаўскай мастачкі З. Станкевіч. Яшчэ праз два гады, у лістападзе 1928 г., гродзенская публіка магла пазнаёміцца з выставай работ вядомага польскага мастака У. Гофмана, прымеркаванай да 25-годдзя яго творчай дзейнасці.

Надаючы шмат увагі арганізацыі і правядзенню выставаў, Ю. Ядкоўскі сваёй асноўнай задачай усё ж лічыў збіранне і захаванне гістарычна-археалагічных матэрыялаў, а таксама пабудову на іх аснове сталай экспазіцыі. Ён праводзіў археалагічныя раскопкі, арганізоўваў экспедыцыі, набываў рэчы ў віленскіх, варшаўскіх і львоўскіх антыквараў, вёў перапіску з польскімі і замежнымі музеямі, якім прапаноўваў дублеты ў абмен на помнікі з мясцовай тэрытарыяльнай прывязкай, разгортваў выдавецкую дзейнасць. Не паслабляўся энтузіязм грамадскасці, дзякуючы якому фондавы збор музея таксама ўзбагачаўся каштоўнымі помнікамі. Нарэшце, у красавіку 1928 г. Ю. Ядкоўскі стварыў Камітэт рэстаўрацыі Старога замка. Яго намаганнямі ў 1931 г. музей быў пераведзены і пачаў дзейнічаць у калысцы горада, помніку архітэктуры XI—XIX стст. — Старым замку.

У 1936 г. у выніку канфлікту Ю. Ядкоўскага з варшаўскімі археолагамі ён адмовіўся ад кіраўніцтва музеем і прыняў рашэнне аб пераездзе ў Варшаву. У наступныя гады ўсімі музейнымі і археалагічнымі работамі на тэрыторыі Старога замка кіраваў супрацоўнік Археалагічнага музея ў Варшаве доктар З. Дурчэўскі, запрошаны ў Гродна Камітэтам рэстаўрацыі замка. Яго асноўныя намаганні былі скіраваны на археалагічныя і кансервацыйныя работы. Так, па яго ініцыятыве ў 1937 г. пачаліся работы па стварэнні на тэрыторыі замка яшчэ аднаго археалагічнага музея на аснове закансерваваных раскопаў.

Пасля ўз'яднання заходнебеларускіх зямель з БССР у дзейнасці музея, фондавы збор якога налічваў ужо 16 тыс. адзінак, адбыліся значныя змены. Па загаду савецкіх улад старая экспазіцыя была згорнута. Пачалася канцэнтрацыя ў замку нацыяналізаванай прыватнай маёмасці, якая мела гістарычна-мастацкую каштоўнасць. Рыхтаваліся перадаць яе разам з музейнымі калекцыямі ў Беласток для плануемага там абласнога краязнаўчага музея. У Гродзенскім замку новыя супрацоўнікі ладзілі часовыя выставы прапагандысцкага зместу, якія дасылаліся з Масквы. А ў красавіку 1941 г. у 12 залах замка яны адкрылі новую экспазіцыю, якая ілюстравала марксісцкую версію гісторыі Беларусі са старажытных часоў да 1940 г.

Значнае месца ў міжваенны перыяд у культурным і навуковым жыцці горада, дзе традыцыі збірання прыродазнаўчых калекцый былі закладзены яшчэ славутым Ж. Э. Жыліберам, адыгрываў ***Гродзенскі прыродазнаўчы музей***. Заснаванне гэтага музея было звязана з вяртаннем у 1924 г. у Гродна палымянага натураліста і калекцыянера С. Жыўны[1]. З першых дзён знаходжання ў родным горадзе ён імкнуўся папулярызаваць ідэю стварэння ў Гродне агульнадаступнай навуковай і асветнай установы, падобна тым, якія ён бачыў на паўночнаамерыканскім кантыненце. Пазней вакол натураліста згуртавалася кола прыхільнікаў з мясцовай інтэлігенцыі. Іх цікавіў перш за ўсё яго прыватны збор — экзатычныя мінералы, насякомыя, чучалы птушак і інш. Хутка зборам С. Жыўны зацікавіліся таксама гарадскія ўлады, накіраваўшы да яго спецыяльную камісію з мэтай вывучэння і ацэнкі калекцыі. Па выніках работы камісіі ў чэрвені 1924 г. было ўхвалена рашэнне аб неабходнасці стварэння ў горадзе агульнадаступнага музея прыроды. Малады натураліст, які прысвяціў калекцыяніраванню ўсё свядомае жыццё, пры передачы сваіх калекцый ва ўласнасць горада паставіў толькі адну ўмову — залічэнне яго на пасаду захавальніка будучага музея.

Першапачатковая ўвага С. Жыўны на новай пасадзе была нададзена сістэматызацыі калекцый, а таксама іх папаўненню перш за ўсё мясцовымі ўзорамі флоры і фаўны. Адначасова былі праведзены меры арганізацыйнага характару — створаны грамадскі камітэт па кіраўніцтве му-

[1] Жыўна Станіслаў (1893—1940) нарадзіўся ў Гродне ў сям'і фельчара, у пошуках працы з'ехаў у ЗША, дзе на працягу 15 гадоў працаваў прэпаратарам на кафедры прафесара Вуда ў Весліянскім універсітэце, штат Канектыкут. С. Жыўна разам з Вудам удзельнічаў у шматлікіх экспедыцыях у розныя краіны свету, у выніку стварыў уласную багатую прыродазнаўчую калекцыю, з якой у 1924 г. вярнуўся ў родны горад. З 1926 па 1939 г. з'яўляўся захавальнікам Прыродазнаўчага музея ў Гродне.

зеем, ухвалены яго статут, абраны дырэктар. Нарэшце, 21 лістапада 1926 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё музея. У асобных залах у вітрынах размясціліся калекцыі млекакормячых, птушак, земнаводных, рыб і мінералаў. У спецыяльным пакоі знаходзілася вучэбная прыродазнаўчая калекцыя, якая выкарыстоўвалася падчас выкладання прадметаў прыродазнаўчага цыкла ў школах горада. Акрамя таго, планавалася выдзеліць усе прадметы мясцовага паходжання ў самастойны аддзел. Музей быў адкрыты для наведвання кожны дзень з 9 да 13 гадзін, а ў нядзелю з 12 да 18 гадзін, уваход быў платны.

С. Жыўна надаваў асветніцкай дзейнасці асаблівую ўвагу, звяртаючыся перш за ўсё да моладзі. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць наступныя лічбы. У 1931/32 навучальным годзе музей наведала 12 920 навучэнцаў, для якіх захавальнік правёў 470 экскурсій. Лічба дарослых наведвальнікаў была значна меншай — 4634 чалавекі, прычым большасць з іх складалі ваеннаслужачыя. Не абмяжоўваючыся асветніцкай дзейнасцю ў сценах музея, С. Жыўна імкнуўся папулярызаваць яго калекцыі ў іншых гарадах. У 1928 г. прадметы з Гродзенскага прыродазнаўчага музея можна было ўбачыць на рэгіянальнай выставе ў Беластоку, а ў 1930 г. — на турыстычнай выставе ў Познані. Музейныя экспазіцыі дапаўняліся аддзеламі сістэматыкі, біялогіі, лекавых раслін, дрэў і кустоў Гродзенскага батанічнага саду, створанага ў сярэдзіне 1920-х гг. сябрамі батанічнай секцыі мясцовага таварыства аматараў прыроды.

Значную частку новых паступленняў перадавалі ў музей прыватныя асобы. Буйнейшыя ахвяраванні зрабілі М. Вэнжык-Відаўская, якая перадала ў 1927 г. больш за 500 мінералаў з Урала і Сібіры, інжынер А. Дзержаноўскі падараваў калекцыю чучалаў вадаплаваючых птушак, якую сабраў у розных краінах свету. Сярод ахвяравальнікаў, што дасылалі ў музей прадметы большай ці меншай каштоўнасці, можна знайсці імёны доктара навук і каменданта павятовай паліцыі, гміннага старасты і вучня сярэдняй школы. Важнай крыніцай новых паступленняў былі абмены дублетамі з іншымі навуковымі ўстановамі. У 1932 г. такім чынам былі атрыманы каштоўныя экспанаты з Варшаўскага заалагічнага музея (чучалы малайскага мядзведзя, афрыканскай жырафы і леапарда). Свае дублеты ў Гродна дасылалі марская лабараторыя ў Гелі, гідрабіялагічная станцыя ў Віграх і інш.

Знешне простая ўліковая работа, для якой быццам бы не патрабавалася высокая навуковая кваліфікацыя, непазбежна прыводзіла да навуковых даследаванняў. З'яўляючыся сябрам Гродзенскага таварыства аматараў прыроды, С. Жыўна рэгулярна выступаў на яго пасяджэннях, якія адбываліся ў памяшканні музея, дапамагаў парадамі і

практычнымі дзеяннямі маладым натуралістам. Ён распрацоўваў і рассылаў па лясніцтвах анкеты для збору звестак пра мясцовую флору і фаўну, перадаваў для даследчых мэт прадметы калекцый іншым навукоўцам. Гродзенскі прыродазнаўчы музей быў сапраўдным навуковым цэнтрам па збіранні, вывучэнні і папулярызацыі мясцовай, а таксама замежнай флоры і фаўны.

Пасля ўсталявання ў Гродне савецкай улады ў 1939 г. батанічны сад быў закрыты для наведвальнікаў, а Прыродазнаўчы музей у якасці аддзела далучаны да Гістарычнага музея. С. Жыўну, які стварыў і кіраваў музеем на працягу 15 гадоў, звольнілі з працы, што адмоўна адбілася на далейшым лёсе калекцый. У красавіку 1941 г. Беластоцкі абкам КП(б)Б пастанавіў перадаць калекцыі былога Прыродазнаўчага музея Гродзенскаму педінстытуту, але высветлілася, што каля паловы чучал жывёл і птушак на працягу 1940 г. загінула, і перадача не адбылася. Частка калекцый Гарадскога прыродазнаўчага музея захавалася да нашых дзён. Яна ўваходзіць у аддзел прыроды Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея.

Захаванне і выкарыстанне ў навукова-асветніцкіх мэтах гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны на заходнебеларускіх землях у міжваенны перыяд адбывалася ў кантэксце шырокага агульнаеўрапейскага інтэлектуальнага і грамадскага руху, вядомага пад назвай «рэгіяналізм»[1]. Сутнасць рэгіяналізму была ў папулярызацыі навуковых ведаў, стварэнні ўмоў для навуковай працы ў правінцыі, абуджэнні ў мясцовых жыхароў ініцыятывы. Росквіт рэгіяналізму ў Еўропе прыпадаў на 20-я гг. XX ст. У той час у розных краінах адначасова было распрацавана шмат розных праграм, скіраваных на змяненне правінцыяльнага жыцця ў трох кірунках: адміністрацыйным, гаспадарчым, культурным. Апошні нас асабліва цікавіць, таму што большасць аўтараў менавіта музеі разглядала як найважнейшы цэнтр па развіцці правінцыяльнай культуры.

У Польшчы — краіне з багатымі краязнаўчымі традыцыямі і вопытам, ідэі рэгіяналізму ў жыццё праводзіла Польскае краязнаўчае таварыства (ПКТ), заснаванае ў Варшаве ў 1906 г. Кіраўніцтва ПКТ з самага пачатку імкнулася арганізаваць намаганні аматараў-адзіночак па вывучэнні краю, аб’яднаўшы іх у рэгіянальныя таварыствы. Пасля атрымання Польшчай незалежнасці рэгіяналізм робіцца прадметам тэарэтычнага абмеркавання, ажыўленых дыскусій, і гэта, безумоўна, уплывае на актывізацыю музейнай дзейнасці па ўсёй краіне.

[1] Канцэпцыя рэгіяналізму была сфармулявана ў другой палове XIX ст. у Францыі заснавальнікам літаратурнага гуртка фелібраў Ф. Містралем (1830—1914). За дзейнасць па адраджэнні правансальскай народнай мовы і культуры Ф. Містраль у 1904 г. быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй.

У 1926 г. у Варшаве была апублікавана праграма рэгіяналізму. Яна характарызавалася прадуманасцю, лагічнасцю і выклікала вялікую цікавасць у Чэхіі, Англіі, Францыі, Італіі. У праграме, у прыватнасці, падкрэслівалася асаблівая роля музеяў у культурным і гаспадарчым жыцці правінцыі. У праграме давалася азначэнне краязнаўчага музея, які павінен быў стаць «навуковай станцыяй і інстытутам асветніцкай працы, што каардынуе дзейнасць усіх правінцыйных культурных устаноў пры іх поўнай аўтаноміі з адзінаю мэтаю: вывучэнне розных рэгіёнаў Польшчы». Такім чынам, краязнаўчы музей атрымаў статус каардынатара ўсёй навуковай і культурнай дзейнасці ў правінцыі.


D. Georgiewski.

ZBIORY
ETNOGRAFICZNE I PRZYRODNICZE
MUZEUM POLESKIEGO
IM. MARSZAŁKA J. PIŁSUDSKIEGO
w PIŃSKU.

PRZEWODNIK NAUKOWY

PIŃSK. 1935

***Каталог этнаграфічнай і прыродазнаўчай калекцый Палескага музея ў Пінску. Аўтар — Д. Геаргіеўскі.*** 1935 г.

Хуткае павелічэнне колькасці правінцыяльных музеяў абумовіла ўзнікненне ў 1927 г. музейнай камісіі пры ПКТ. На чале яе стаў выдатны тэарэтык і арганізатар музейнай справы прафесар У. Антаневіч. Ён жа кіраваў секцыяй рэгіянальных музеяў пры Саюзе музеяў Польшчы. Члены камісіі распрацавалі ўзорны статут краязнаўчага музея, дзе вызначаліся яго структура, мэты і задачы, крытэрыі да вядзення ўліковай дакументацыі, пабудовы экспазіцый, фарміравання бюджэту. У наступныя гады камісія ўздымала шэраг важных тэарэтычных і метадычных пытанняў развіцця музейнай справы ў краіне на нарадах захавальнікаў краязнаўчых музеяў, музейных з’ездах, у сталай рубрыцы, прысвечанай краязнаўчым музеям, у часопісе «Зямя». Была створана пасада дырэктара музеяў ПКТ з каардынацыйнымі функцыямі, кожнаму музею вызначылі пэўную геаграфічную тэрыторыю яго дзейнасці, адкрыліся курсы для музейных захавальнікаў. Важным крокам наперад была распрацоўка ў 1930 г. акрэдытацыйных стандартаў для краязнаўчых музеяў Польшчы, у адпаведнасці з якімі музей набываў такі статус толькі пры наяўнасці ўласнага памяшкання, калекцый значнай навуковай ці мастацкай вартасці, захавальніка — спецыяліста ў пэўнай дысцыпліне — і сталыя крыніцы фінансавання.

На заходнебеларускія землі ў міжваенны перыяд сістэма арганізацыі польскага краязнаўчага руху распаўсюджвалася без змен і абмежаванняў. Ствараліся ваяводскія і павятовыя аддзяленні ПКТ, актыўна

працавалі краязнаўчыя гурткі моладзі пры гімназіях і школах, выдаваліся краязнаўчыя часопісы, нарысы, хронікі работы таварystваў. У 1936 г. у Віленскім краязнаўчым таварystве налічвалася 63 сябры, Навагрудскім — 208, Свянцянскім — 12, Беластоцкім — 79, Гродзенскім — 20, Ваўкавыскім — 24, Баранавіцкім — 30, Лідскім — 15, Слонімскім — 35, Брэсцкім — 30, Пінскім — 41, Браслаўскім — 24, Глыбоцкім — 41.

Каштоўнымі калекцыямі па этнаграфіі, флоры, фаўне і гістарычным мінулым Заходняй Беларусі валодаў ***Палескі-музей-у-Пінску***. Рашэнне пра яго стварэнне ўхвалілі на арганізацыйным пасяджэнні Палескага краязнаўчага таварystва ў кастрычніку 1924 г. Практычная работа па арганізацыі музея была ўскладзена на музейную камісію, якую ўзначаліў настаўнік мясцовай гімназіі Р. Гарашкевіч, які да таго часу ўжо меў вопыт практычнай музейнай работы[1]. Ён жа заклаў падмурак будучага музейнага збору, перадаўшы таварystву сваю бібліятэку, а таксама знаходкі, зробленыя падчас археалагічных раскопак у Пінскім, Лунінецкім і Столінскім паветах.

Першапачаткова музей займаў два невялікія пакоі ў будынку магістрата, дзе апрацоўваліся, сістэматызаваліся і вывучаліся першыя паступленні. Тут жа ў 1926 г. была адкрыта экспазіцыя музея. У 1928 г. пасля ад’езду Р. Гарашкевіча на пасаду захавальніка музея быў запрошаны Д. Геаргіеўскі[2]. Ён распрацаваў новую структуру музея, згодна з якой з’явіліся наступныя аддзелы: нежывой прыроды (мінералы, узоры глеб, разрэзы шахтаў і штольняў, фота і малюнкі каменаломняў, берагоў рэк, цагельні, геалагічныя карты), прыроды і грамадства (палеанталогія, батаніка, заалогія, прамысловасць, гандаль, археалогія, этнаграфія,

[1] Гарашкевіч Раман (1892—1962) — выпускнік Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве, у 1922—1923 гг. асістэнт археалагічнага кабінета Музея імя Дзедушыцкіх у Львове. У 1924—1929 гг. працаваў настаўнікам гісторыі ў гімназіях Лунінца і Пінска. Рэдагаваў і выдаваў часопіс «Земя Піньска». З 1929 г. на пасадзе намесніка ваяводскага кансерватара ў Брэсце. У 1936 г. Р. Гарашкевіч змяніў прафесію і пачаў працаваць у дырэкцыі Польскага радыё ў Варшаве, потым — на радыёстанцыях у Вільні і Баранавічах. Удзельнік Другой сусветнай вайны. З 1946 г. працаваў ва ўстановах культуры г. Аполе ў Польшчы. Аўтар шэрагу прац па гісторыі Палесся.

[2] Геаргіеўскі Дзмітры (1889—194?) нарадзіўся ў сям’і доктара ў Пінску, у 1908 г. скончыў Пінскае рэальнае вучылішча, у 1916 г. — прыродазнаўчае аддзяленне Варшаўскага ўніверсітэта. Выкладаў прыродазнаўства, геаграфію і матэматыку ў сярэдніх навучальных установах Пінска, аўтар шэрагу этнаграфічных прац. З 1928 па 1939 г. з’яўляўся захавальнікам, а з 1939 па 1941 г. — навуковым супрацоўнікам Палескага музея ў Пінску. Лёс Д. Геаргіеўскага падчас нямецкай акупацыі не вядомы.

мастацтва), архіўны (дакументы, графіка, дрэварыты, малюнкі, фотаздымкі).

Першая палова 1930-х гг. у жыцці Пінскага музея характарызавалася перш за ўсё сістэматычнай работай па камплектаванні калекцый, якая праводзілася ў межах Драгічынскага, Камень-Кашырскага, Кобрынскага, Косаўскага, Лунінецкага, Пружанскага, Столінскага і Пінскага паветаў. Для збірання этнаграфічных і археалагічных матэрыялаў музей арганізоўваў экспедыцыі і выезды на веласіпедах, лодках, конях і пешшу. Важнай крыніцай паступленняў былі ахвяраванні ад мясцовых жыхароў — настаўнікаў, ваенных, сялян, вучняў. Асобныя прадметы і кнігі перадавалі дзяржаўныя ўстановы — Кракаўская акадэмія навук, Міністэрства адукацыі, Праўленне водных шляхоў. Асаблівая ўвага пры камплектаванні музейнага збору надавалася этнаграфічным матэрыялам, што тлумачылася імкненнем зафіксаваць самабытную матэрыяльную культуру Палесся, шматлікія архаічныя рысы жыцця, якія знікалі пад уплывам цывілізацыі. Цэнтральнае месца ў этнаграфічных зборах музея займала калекцыя гараднянскай керамікі, якая камплектавалася як падчас выездаў, так і дзякуючы ахвяраванням патомных гараднянскіх ганчароў. Была наладжана сістэма рэгістрацыі і каталагізацыі новых паступленняў.

Вынікі амаль дзесяцігадовай працы Д. Геаргіеўскага і іншых пінскіх краязнаўцаў па збіранні, каталагізацыі і вывучэнні культурнай і прыроднай спадчыны аднаго з найбольш унікальных рэгіёнаў Еўропы падсумавала экспазіцыя, якая адкрылася ў новым будынку ў красавіку 1936 г. Акрамя музейнай экспазіцыі, там знаходзіліся прыродазнаўчая лабараторыя і бібліятэка. Гэтыя ўстановы выклікалі вялікую зацікаўленасць сярод пінчукоў і шматлікіх турыстаў, якія прыязджалі на Палессе знаёміцца з прыродай і культурай краю. Так, у апошнім перадваенным 1938 г. музей, які быў адкрыты штодзённа з 10 да 14 гадзін, наведала 5,5 тыс. чалавек. У Палескі музей часта звярталіся вучоныя, арганізатары розных выставаў, а таксама супрацоўнікі польскіх музеяў, якія жадалі набыць палескія народныя мастацкія вырабы. Д. Геаргіеўскі дапамагаў камплектаваць палескімі матэрыяламі зборы музеяў: Варшаўскага археалагічнага, Кракаўскага этнаграфічнага, Бутомскай зямлі на Горным Шлёнску, Шлёнскага ў Катавіцах і інш. Важнай падзеяй у жыцці музея было запрашэнне аргкамітэта Сусветнай выставы 1939 г. у Нью-Йорку да ўдзелу ў польскай нацыянальнай экспазіцыі. Туды былі дасланы палескія «карабаны».

У верасні 1939 г. Пінскі музей быў падпарадкаваны гарадскому аддзелу народнай адукацыі і перайменаваны ў Пінскі гісторыка-рэвалюцыйны музей. Быў створаны новы аддзел «Край пад ігам буржуазнай Польшчы». Значна павялічыўся, дасягнуўшы ў 1941 г. 11 тыс. адзінак,

аб'ём фондавага збору музея за кошт прадметаў гісторыі і мастацтва, канфіскаваных новай уладай у заможных грамадзян горада.

У 1929 г. пастанову аб арганізацыі выставы, якая б адлюстроўвала мінулае і сучаснасць горада, а таксама культурнае становішча рэгіёна, ўхваліў Баранавіцкі павятовы рэгіянальны камітэт. Падрыхтоўка выставы была даручана выкладчыку адной з мясцовых школ Л. Турскаму. Працуючы над экспазіцыяй, ён прыйшоў да высновы пра магчымасць стварэння сталай установы — ***Баранавіцкага павятовага музея***. Л. Турскі прадставіў рэгіянальнаму камітэту праект стварэння музея, які павінен быў складацца з трох аддзелаў — прыроды, этнаграфіі, гісторыі — і дэманстраваць сувязь Баранавіцкага павета з гісторыяй Польшчы.

Работа па стварэнні Баранавіцкага музея праводзілася з вялікім энтузіязмам. Мясцовыя ўлады згадзіліся выдаткоўваць краязнаўцам штогадовую фінансавую падтрымку. Акрамя экспанатаў выставы, фондавыя калекцыі ўзбагацілі прыватныя ахвяраванні. Актыўны ўдзел у музейнай рабоце брала грамадскасць, асабліва моладзь. І ўжо ў кастрычніку 1929 г. першыя наведвальнікі аглядалі экспазіцыю новага музея, які складаўся з трох аддзелаў. Гістарычны аддзел змяшчаў манетныя клады, знойдзеныя на тэрыторыі павета, невялікую калекцыю баністыкі, старажытны посуд, вырабы з фарфору, калекцыю зброі. Да найбольш цікавых прадметаў адносіліся дарожны несэсэр XVIII ст. і капілка XVII ст. У аддзеле прыроды дэманстраваліся батанічная, мінералагічная і заалагічная калекцыі. У этнаграфічным аддзеле меліся ўзоры народнага адзення, прылад працы, ткацтва, ганчарства.

Пасля ўз'яднання заходнебеларускіх зямель з БССР музеем, як сховішчам каштоўных калекцый і базай для развіцця музейнай справы ў рэгіёне, зацікавілася Камісія па абследаванні помнікаў гісторыі і культуры. Як вынік — на працягу першай паловы 1940 г. з нацыялізаваных навакольных шляхецкіх сядзіб і заможных гарадскіх кватэр у музей пачалі паступаць каштоўныя творы жывапісу і графікі, фарфор, старажытная мэбля, нумізматычныя калекцыі, старадрукі. Вялікая колькасць першакласных твораў мастацтва, у тым ліку творы Рэмбранта, Матэйкі, Зімлера, Канеўскага, Раўха, калекцыя японскага, саксонскага і сеўрскага фарфору, італьянская мэбля эпохі Рэнесансу, калекцыя шкатулак XVII—XVIII стст., што папоўніла фонды музея ў гэты перыяд, абумовілі змену яго профілю. А ў 1939 г. з'явілася рашэнне СНК БССР пра стварэнне ў Баранавічах Музея выяўленчага мастацтва. Яго адкрыццё адбылося ўжо у новым, больш прасторным будынку і было прымеркавана да гадавіны ўз'яднання — 17 верасня 1940 г.

Як і ў Баранавічах, адкрыццю ***Краязнаўчага музея ў Слоніме*** папярэднічала правядзенне ў 1924 г. выставы старажытных дакументаў і кніг,

арганізаванай ***І. І. Стаброўскім***[1]. Але толькі праз чатыры гады пасля правядзення арганізацыйнага збору мясцовых краязнаўцаў і ўтварэння Слонімскага аддзела ПКТ пачаліся падрыхтоўчыя работы па адкрыцці музея. Было знойдзена памяшканне ў будынку павятовай адміністрацыі, закуплена экспазіцыйнае абсталяванне, прызначаны дырэктар новай установы — І. І. Стаброўскі.



*І. І. Стаброўскі*

У верасні 1929 г. у прысутнасці прэзідэнта Польшчы І. Масціцкага адбылося ўрачыстае адкрыццё музея, які меў яскрава акрэслены гістарычны профіль. Уся экспазіцыя была пабудавана на аснове калекцый, што на працягу жыцця збіраў і ахвяраваў гораду дырэктар новай установы. Сярод іх можна было ўбачыць экспанаты, якія маглі б упрыгожыць залы лепшых тагачасных музеяў: багатую калекцыю неалетычных і мезалітычных прылад працы і керамікі, галаву старажытнаславянскага ідала, старажытнаславянскія рэліквары, слонімскія судовыя акты XVI—XVIII стст., Статут Вялікага Княства Літоўскага, слуцкія паясы, драўляную скульптуру са слонімскіх касцёлаў, асобную вітрыну, прысвечаную паўстанню 1863 г., два клады шведскіх манет, аўтографы М. М. Карамзіна, Г. Р. Дзяржавіна, Л. М. Талстога, А. С. Пушкіна.

З'яўляючыся апантаным вучоным-краязнаўцам і калекцыянерам, І. І. Стаброўскі аддаваў увесь час вывучэнню і каталагізацыі калекцый. Сучаснік наступным чынам апісвае адзін з тыповых рабочых дзён вучонага: «Калі адпачывае чалавек, цяжка сказаць. На мой погляд, ён пераблытаў дзень з ноччу. Калі не прыйдзеш, усё застаеш яго за справай... На двары невялікі мароз, а ў памяшканні халадэча. Не хапае паліва. Зазірнула ў

[1] Стаброўскі Іосіф Іосіфавіч (1869—1968) — нарадзіўся ў Слоніме, скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскае александраўскае ваеннае вучылішча, Маскоўскі археалагічны інстытут, Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне ў званні палкоўніка, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў у Чырвонай арміі. З 1921 г. жыў у Слоніме, дзе цалкам прысвяціў сябе музейна-краязнаўчай рабоце. Стваральнік і дырэктар (1929—1948) Слонімскага краязнаўчага музея. Быў членам-карэспандэнтам Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства, аўтар 16 навуковых прац і двух вынаходніцтваў.



***Стылізаваны пад старажытную грамату акт аб адкрыцці Слонімскага краязнаўчага музея*** — 20 верасня 1920 г.

пакой, дзе працуе Іосіф Іосіфавіч. Сядзіць, наставіўшы каўнерык свайго шыняля, а форткі ў вокнах насцеж. Пытаюся, як гэта разумець? Кажа: “Так лепш зберагаюцца экспанаты ад плесені”». Пасля ўсталявання ў горадзе савецкай улады Слонімскі музей быў часова закрыты.

Актыўную дзейнасць разгарнуў ***Ваўкавыскі краязнаўчы музей***, створаны інжынерам, энтузіястам-фатографам Ч. Будына-Давідоўскім, які ўзначаліў мясцовае аддзяленне ПКТ у 1929 г. Галоўны акцэнт быў зроблены на вывучэнне гістарычных помнікаў, народнай культуры і прыроды Ваўкавыскага павета. Акрамя таго, ставілася задача фотафіксавання найбольш каштоўных архітэктурных і прыродных аб’ектаў, наладжвання на сталай аснове экскурсійнай работы і, урэшце, адкрыцця ўласнага музея. Першыя вынікі дзейнасці членаў аддзялення былі прадстаўлены грамадскасці ў снежні 1933 г. на Ваўкавыскай краязнаўча-турыстычнай выставе. Дэманстраваліся абразы, народныя тканіны, старажытныя рукапісы, старадрукі, карты, фотаздымкі. Найбольшая ўвага надавалася старажытнаму Ваўкавыску. Да 1937 г. калекцыі аддзялення ўжо стала экспанаваліся ў будынку магістрата. Іх вывучэннем і сістэматызацыяй займаўся Г. І. Пех — ваўкавыскі чыгуначнік, аматар-калекцыянер і краязнаўца, які выдаткоўваў уласныя сродкі на набыццё новых прадметаў для музея. У 1940 г., пасля надання савецкай уладай Ваўкавыскаму музею статуса дзяржаўнага, Г. І. Пех сумесна з супрацоўнікамі Гродзенска-



*Дом-музей А. Міцкевіча ў Навагрудку.* 1930-я гг.

га музея праводзіў раскопкі на Шведскай гары, якія значна ўзбагацілі фондавы збор музея.

У другой палове 1930-х гг. актыўныя работы па камплектаванні музейных калекцый вялі аддзяленні ПКТ у ***Глыбокім*** (на чале з камісарам аховы лясоў Л. Пякарскім) і ***Браславе*** (старшыня — школьны інспектар І. Суя). Акрамя таго, ёсць некаторыя звесткі пра існаванне калекцый напярэдадні Другой сусветнай вайны пры аддзяленнях ПКТ у ***Лідзе***, ***Дзісне*** і ***Брэсце***.

Тры музеі, якія існавалі на заходнебеларускіх землях у міжваенны перыяд, мелі мемарыяльны характар. Яны не падпарадкоўваліся ані гарадскім уладам, ані ПКТ. Узнікненне і дзейнасць гэтых музеяў была вынікам добраахвотнай ініцыятывы мясцовых жыхароў, якія імкнуліся ўшанаваць памяць сваіх славутых землякоў.

Найвялікшы грамадскі рэзананс меў ***Мемарыяльны музей А. Міцкевіча ў Навагрудку***. Першыя захады па яго стварэнні ў доме, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады паэта і які ў розныя часы наведалі І. Дамейка, В. Каратынскі, Э. Ажэшка, М. Канапніцкая і іншыя выдатныя дзеячы культуры, былі зроблены ў 80-я гг. XIX ст. Тады інтэлігенцыя горада ўхваліла рашэнне пра стварэнне дома-музея і звярнулася да яго новага ўладальніка, але атрымала адмову. Наступная спроба мемарыялізацыі дома А. Міцкевіча была зроблена ў 1919 г., калі Навагрудскі часовы рэвалюцыйны камітэт абвясціў пра ўзяцце пад ахову дзяржавы дома паэта і арганізацыю ў ім музея. Але і гэта спроба не дала плёну, што тлумачылася ўключэннем у 1921 г. Навагрудка ў склад Польскай дзяржавы.




*Мемарыяльны музей Т. Касцюшкі ў Мерачоўшчыне* 1930-я гг.

Справа зрушылася толькі пасля стварэння ў Навагрудку добраахвотнага навуковага таварыства пад назвай Міцкевічаўскі камітэт. Камітэт займаўся мемарыялізацыяй месцаў, звязаных з жыццём паэта, выданнем яго твораў, наладзіў экскурсійнае абслугоўванне шматлікіх турыстаў. А на пасяджэнні камітэта 10 мая 1930 г. было ўхвалена рашэнне пра арганізацыю ў горадзе мемарыяльнага музея паэта. Праз год члены камітэта зрабілі першы практычны крок у гэтым напрамку — падчас шырокага святкавання Міцкевічаўскіх дзён у будынку адміністрацыі ваяводства адбылася выстава. На ёй дэманстраваліся розныя выданні А. Міцкевіча, яго партрэты, асабістыя рэчы, лісты філаматаў, творы мастацтва і г. д.

У 1935 г. частку гэтых матэрыялаў члены камітэта размясцілі ў дзвюх вітрынах у флігелі дома Міцкевіча, а праз два гады, пасля перадачы ўсяго дома ва ўласнасць Міцкевічаўскага камітэта, пачаліся поўнамаштабныя работы па яго пераўтварэнні ў музей. 11 верасня 1938 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё. У той час экспазіцыя музея яшчэ не мела дакладнага плана. У шасці пакоях размясціліся партрэты паэта і яго сям’і, блізкіх знаёмых, мадэль сялянскай хаты, па якой сумаваў паэт на чужыне, бронзавая копія помніка Міцкевічу ў Парыжы работы А. Бурдэля, асабістыя рэчы паэта, мэбля, яго пасмертная гіпсавая маска работы французскага скульптара А. Прэольта, судовыя справы, метрычныя кнігі. Асаблівую ўвагу сябры камітэта надавалі фарміраванню музейнай бібліятэкі, якая складалася з розных выданняў твораў А. Міцкевіча і навукова-літаратурных прац пра яго.



***Кабінет пісьменніцы Э. Ажэшка ў мемарыяльным музеі ў Гродне***

У верасні 1939 г. Міцкевічаўскі камітэт спыніў свае існаванне і на працягу доўгага часу музей не меў пэўнага статуса. Так працягвалася да 25 верасня 1940 г., калі ЦК КП(б)Б прыняў пастанову, адпаведна якой музей пераходзіў у падпарадкаванне НКА. Планавалася ўзвесці на кургане помнік паэту, узбагаціць мемарыяльную частку экспазіцыі мэбляй XVIII і XIX стст., адрамантаваць будынак. Але рэалізаваць гэтыя планы ўжо не хапіла часу.

У канцы 1920-х гг. аматары-гісторыкі арганізавалі невялікі ***Мемарыяльны музей, прысвечаны Т. Касцюшку***. Ён размясціўся ў адным з пакояў сядзібы ў Мерачоўшчыне, дзе ў 1746 г. нарадзіўся Т. Касцюшка і прайшло яго дзяцінства. Арыгінальныя інтэр'еры сядзібы ў той час ужо не захаваліся. Тым не менш там можна было ўбачыць некалькі асабістых рэчаў знакамітага генерала, мэблю, яго партрэты і іншы ілюстрацыйны матэрыял. Пераўтварэнню ўсёй сядзібы ў мемарыяльны музей перашкодзіў пачатак Другой сусветнай вайны, падчас якой сядзіба згарэла.

У 1939 г. савецкія ўлады расфарміравалі створаны ў сярэдзіне 1930-х гг. ***Мемарыяльны музей Э. Ажэшка ў Гродне***. Яго памяшканне спачатку было занята музычнай школай, потым — фізкультурным тэхнікумам. Частку рукапісаў славутай пісьменніцы, перавезеных у Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей, здолелі захаваць, але большасць матэрыялаў знікла.

Важным цэнтрам па вывучэнні ўнікальнай з'явы прыроды — Белавежскай пушчы — быў ***Музей прыроды ў Белавежы***, заснаваны ў 1919 г. па ініцыятыве тагачаснага начальніка акруговай рады дзяржаўных лясоў Ю. Шрэдарса. Работы па камплектаванні калекцый будучага музея па-

шырыліся ў 1921 г. пасля надання Белавежскай пушчы статусу запаведнай зоны і прызначэння на пасаду кіраўніка прафесара Ю. Пачоскага. Ён паклаў у аснову арганізацыі музея створаны ўласнаручна зельнік раслін Белавежскай пушчы. Спадкаемца Ю. Пачоскага на пасадзе кіраўніка запаведнай зоны прафесар Ю. Карпінскі працягваў інтэнсіўнае вывучэнне пушчы, прычым не толькі з прыродазнаўчага, але і з этнаграфічнага боку. Як вынік, у дадатак да зельніка з'явіліся заалагічная і этнаграфічная калекцыі. У 1930 г. Музей у Белавежы, першапачаткова размешчаны ў царскім палацы, быў адкрыты для наведвання шырокай публікі, перш за ўсё турыстаў. Новыя магчымасці правядзення навукова-даследчай і асветніцкай дзейнасці адкрыліся ў 1937 г. пасля пераезду музея ў спецыяльна ўзведзены для яго побач з палацам будынак.

У кастрычніку 1939 г. НКА БССР накіраваў у заходнія раёны рэспублікі брыгаду навуковых супрацоўнікаў музеяў, якая абследавала музеі і помнікі. Паводле вынікаў абследавання СНК БССР забараніў вываз з далучаных тэрыторый мастацкіх і архіўных каштоўнасцей без спецыяльнага дазволу. НКА паставіў на ўлік найбольш каштоўныя заходнебеларускія помнікі. Аддзелы народнай адукацыі часовых кіраўніцтваў узялі музеі на свой бюджэт. Народнагаспадарчы план на 1940 г. прадугледжваў арганізацыю ў заходніх абласцях БССР наступных музеяў: абласных гістарычна-рэвалюцыйных — у Беластоку, Брэсце і Пінску, раённых краязнаўчых — у Ваўкавыску, Слоніме, Міры, літаратурнага — у Навагрудку, выяўленчых мастацтваў — у Баранавічах і Беластоку, гістарычнага — у Гродне. Выкананне гэтага плана было перарвана пачаткам нямецкай акупацыі.

Знаёмства з дзейнасцю музеяў Заходняй Беларусі паказвае, што ў сваім унутраным развіцці яны праходзілі тыя ж этапы, што і музеі БССР. У той жа час знешнія ўмовы іх работы значна адрозніваліся. Па-першае, у Польшчы існавала права на ўтрыманне ў прыватнай уласнасці гісторыка-культурных каштоўнасцей. Па-другое, дзейнасць заходнебеларускіх музеяў грунтавалася на ліберальна-дэмакратычным ідэалагічным падмурку. Па-трэцяе, іх дзейнасць у значнай ступені абапіралася на прыватную ініцыятыву і дабрачыннасць.

* * *

Пасля нападу нацысцкай Германіі на СССР дзейнасць беларускіх музеяў была згорнута. У ліпені 1941 г. з Віцебска эвакуіравалі найбольш каштоўныя калекцыі абласнога музея разам з Мастацкай галерэяй Ю. Пэна. Яны былі накіраваны спачатку ў Куйбышаў, потым — у Саратаў. Крыху пазней супрацоўнікі Гомельскага абласнога музея здолелі адправіць у эва-

куацыю ў г. Камышын Сталінградскай вобласці калі 5 тыс. прадметаў калекцый. Загінулі амаль усе ацалеўшыя пасля шматлікіх «перакідак» 1930-х гг. калекцыі Магілёўскага абласнога музея, будынак якога згарэў у першыя дні вайны. Найбольш важныя ў гістарычна-мастацкіх адносінах помнікі матэрыяльнай культуры засталіся ў старым будынку музея у браніраваным пакоі-сейфе. Аднак у ліпені 1941 г. усе яны, разам з нацыянальнай каштоўнасцю беларускага народа — крыжом Ефрасінні Полацкай, бясследна зніклі. Музеі заходняй і цэнтральнай частак БССР за невялікімі выключэннямі эвакуіраваць на паспелі. Яны панеслі вялікія страты. Значная частка іх фондавых калекцый загінула, былі разбураны будынкі, з'ехала на вёску альбо эвакуіравалася большасць музейных супрацоўнікаў.

Выяўленнем і адпраўкай у Германію беларускіх музейных калекцый займалася Міністэрства па справах усходніх абласцей пад кіраўніцтвам А. Розенберга. Яно раскінула сетку сваіх аддзяленняў па ўсёй акупіраванай тэрыторыі СССР. Адно з іх знаходзілася ў Мінску. Ужо летам 1941 г. яго супрацоўнікі вывезлі ва Усходнюю Прусію каля 50 слуцкіх паясоў і 170 твораў рускага і заходнееўрапейскага мастацтва з Дзяржаўнай мастацкай галерэі. Мінскі сацыяльна-гістарычны музей страціў радзівілаўскія гарматы, а таксама карціны, кнігі, рукапісы, прадметы рэлігійнага культу, звязаныя з яўрэйскай культурай Беларусі, якія загадалі перадаць у Венскі інстытут гебраістыкі. Вывезлі багатую калекцыю паляўнічых трафеяў Радзівілаў з Заалагічнага музея БДУ. Ведамства А. Розенберга таксама забрала каштоўныя калекцыі жывапісу і нумізматыкі, зброі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з Баранавіцкага абласнога мастацкага музея, Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, Пінскага абласнога гісторыка-краязнаўчага музея, з музейных збораў у Слоніме, Ваўкавыску, Полацку, Бабруйску.

Насуперак рабаўніцкай палітыцы, якая праводзілася акупантамі, беларуская інтэлігенцыя рабіла захады па захаванні і выкарыстанні нацыянальнай гістарычна-культурнай спадчыны. На працягу 1941—1944 гг. настаўнік А. Шукелойць праводзіў элементарныя кансервацыйныя, рэстаўрацыйныя і ўліковыя работы ў Мінскім сацыяльна-гістарычным музеі. У кастрычніку 1942 г. пад кіраўніцтвам паэта і краязнаўца С. Новіка-Пяюна ўзнавіў сваю дзейнасць Слонімскі музей. У тым жа годзе зноў адкрыліся для наведвальнікаў экспазіцыі краязнаўчых музеяў у Баранавічах і Пінску. Але ва ўмовах нацысцкага акупацыйнага рэжыму гэтыя спробы не маглі даць вялікага плёну.

У чэрвені 1944 г. адступаючыя нямецкія войскі вывезлі калекцыі Мінскага сацыяльна-гістарычнага музея ў г. Істэнбург (Прусія), а затым

у замак Хёхштэт (Баварыя), дзе знаходзіліся культурныя каштоўнасці, нарабаваныя ва Усходняй Еўропе. Але ўжо праз год савецкая ваенная адміністрацыя ў Германіі адправіла з Хёхштэта ў БССР каля 15 тыс. музейных прадметаў, якія былі перададзены на захаванне ў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей і Акадэмію навук БССР. Акрамя таго, вясной 1945 г. савецкія войскі знайшлі ў Кёнігсбергу і перадалі ў Мінск частку вывезенай з Мастацкай галерэі нясвіжскай калекцыі карцін.

Паводле акта Беларускай рэспубліканскай камісіі садзейнічання рабоце Надзвычайнай дзяржаўнай камісіі, якая выяўляла памеры страт былога СССР у час з 1941 па 1944 г., у БССР было разрабавана 11 музеяў. Акупанты знішчылі будынкі Музея рэвалюцыі, Дома-музея I з'езда РСДРП і Мемарыяльнага музея А. Міцкевіча. Страты, панесеныя ад разбурэння і знішчэння будынкаў і калекцый, вызначаны камісіяй у 317 млн рублёў. Гэтыя лічбы няпоўныя.

## Глава 3
# РАЗВІЦЦЁ МУЗЕЙНАЙ СПРАВЫ ў 1944—1991 гг.

Неабходнасць аднаўлення і вяртання да жыцця музеяў БССР ва ўмовах пасляваенных цяжкасцей патрабавала правядзення шэрагу мерапрыемстваў адміністрацыйна-кіраўнічага і метадычнага характару. Перш за ўсё гэта тычылася аднаўлення органаў кіраўніцтва музейнай справай. Згодна з Пастановай СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 15 мая 1945 г. функцыі НКА па кіраўніцтве музейнай справай былі перададзены Камітэту па справах культурна-асветніцкіх устаноў пры СНК (з сакавіка 1946 г. — пры Савеце Міністраў) БССР. Пры выканкамах абласных і гарадскіх Саветаў народных дэпутатаў ствараліся аддзелы культурна-асветніцкай работы, а пры райвыканкамах уводзіўся штат інструктараў. У складзе Камітэта было створана ўпраўленне музеяў і паркаў. У 1948 г. яно пашырылася шляхам стварэння ў яго складзе аддзела ўліку, аховы і рэстаўрацыі археалагічных і гістарычных помнікаў і адпаведна гэтаму атрымала назву ўпраўлення музеяў, уліку, аховы і рэстаўрацыі археалагічных і гістарычных помнікаў. Гэтым актам быў аформлены перавод асноўнай масы музеяў рэспублікі ў сістэму культурна-асветніцкіх устаноў, якімі яны, па сутнасці, з'яўляліся з 1930-х гг. Дзяржаўная карцінная галерэя адносілася да кампетэнцыі Упраўлення (з 1949 г. — Камітэта) па справах мастацтваў пры Савеце Міністраў БССР.

У 1953 г. у выніку рэарганізацыі і ўзбуйнення кіраўнічага апарату было створана Міністэрства культуры БССР з асобным аддзелам музеяў і помнікаў, у падпарадкаванне якога перайшлі ўсе музеі былога Камітэта па справах культурна-асветніцкіх устаноў. Мастацкія музеі знаходзіліся ў падпарадкаванні ўпраўлення па справах мастацтва. На месцах музеі знаходзіліся ў падпарадкаванні органаў культуры выканаўчых камітэтаў Саветаў абласных і раённых народных дэпутатаў.



*Будынак, у якім у першыя пасляваенныя гады знаходзіліся Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Дзяржаўная карцінная галерэя БССР і Дом-музей Я. Купалы*

У сваёй музейнай дзейнасці Міністэрства культуры кіравалася наступнымі задачамі: распрацоўка і ажыццяўленне мерапрыемстваў для паляпшэння дзейнасці музеяў, павышэнне іх ролі ў камуністычным выхаванні працоўных, забеспячэнне высокаідэйнай навукова-даследчай і навукова-асветніцкай работы, вывучэнне, абагульненне і распаўсюджванне вопыту музейнай работы. Арганізацыя планавання, кантроль за дзейнасцю музеяў, падбор кадраў, арганізацыя вучобы, падрыхтоўка канферэнцый, семінараў, распрацоўка нарматываў, давядзенне да мясцовых органаў культуры і музеяў рашэнняў вышэйстаячых арганізацый — вось няпоўнае кола музейнай дзейнасці міністэрства.

У 1947 г. была прынята пастанова ЦК КП(б)Б «Аб паляпшэнні работы музеяў і разгортванні краязнаўства ў Беларусі», якая, акрамя складанасцей з разгортваннем краязнаўчага руху, пералічвала з'явы, што ў найбольшай ступені перашкаджалі аднаўленню музейнай сеткі рэспублікі. Да іх адносіліся: 1) адсутнасць у большасці музеяў адпаведных памяшканняў; 2) кадравая праблема; 3) нізкая якасць музейных экспазіцый. Аўтары пастановы прапанавалі ўзнавіць даваенныя абласныя краязнаўчыя арганізацыі, Цэнтральны дом тэхнікі як Рэспубліканскі політэхнічны музей, Беларускі дзяржаўны музей, стварыць на гістарычным і біялагічным факультэтах БДУ кафедры музеязнаўства па падрыхтоўцы прафесійных кадраў. Трэба адзначыць, што, калі музейныя прапановы ў праекце былі цалкам рэалістычныя і ў выніку рэалізацыі паспрыялі б хутчэйшаму развіццю музейнай справы Беларусі, то прапанова адраджэння даваеннай краязнаўчай сеткі ва ўмовах жорсткага ідэалагічнага дыктату і разумення самога краязнаўства выключна як сродку паскарэння гаспадарчага развіцця была ў прынцыпе нерэалістычнай.

Важная ініцыятыва прагучала ў тым жа годзе ў пастанове Савета Міністраў БССР «Аб мерапрыемствах па паляпшэнні паказу сацыялістычнага будаўніцтва ў музеях БССР». Пастанова ставіла задачу перад краязнаўчымі музеямі арганізаваць мэтанакіраванае, комплекснае камплектаванне фондаў матэрыяламі па сацыялістычным будаўніцтве, пераважна рэчавага характару. Дзеля гэтага ўсе міністэрствы, ведамствы і выканкамы абавязваліся бясплатна перадаваць у музеі рэчы і дакументы, якія характарызавалі гісторыю прадпрыемстваў, узнаўленне народнай гаспадаркі, культуры, асноўныя і новыя віды прадукцыі, мадэляваныя схемы тэхналагічных працэсаў, мадэлі і макеты станкоў, рацыяналізатарскіх прапаноў, вынаходніцтваў і прыстасаванняў. Для папаўнення калекцый творамі мастацтва, якія адлюстроўвалі дадзеную тэматыку, у Камітэце па справах культурна-асветніцкіх устаноў засноўваўся цэнтральны закупачны фонд. Акрамя таго, з мэтай накаплення матэрыялаў, якія адлюстроўвалі сацыялістычнае будаўніцтва на буйных прадпрыемствах і ў калгасах, ствараліся музеі і музейныя куткі. Такім чынам, была абвешчана дзяржаўная рэспубліканская праграма камплектавання фондавых калекцый беларускіх музеяў матэрыяламі па сучаснасці. Калі ўзяць пад увагу, што да яе прыняцця фонды краязнаўчых музеяў папаўняліся падобнымі матэрыяламі пераважна ў выглядзе юбілейных падарункаў, фотаздымкаў і плакатаў, то ініцыятыву Савета Міністраў трэба ацаніць як значны крок наперад у справе стварэння дзяржаўнага музейнага фонду. Галоўным недахопам гэтай праграмы была яе ідэалагічная афарбоўка, якая выключала з поля зроку супрацоўнікаў музеяў розныя аспекты развіцця тагачаснага беларускага грамадства, перш за ўсё штодзённага жыцця людзей.

Пытанням метадычнага забеспячэння і стандартызацыі фондавай работы быў прысвечаны семінар супрацоўнікаў музеяў БССР (1952). На ім распрацавалі і ўхвалілі інструкцыю, якая прадугледжвала тры этапы дзяржаўнага ўліку музейных каштоўнасцей: 1) дзяржаўная рэгістрацыя; 2) дзяржаўная інвентарызацыя (улік); 3) навуковая каталагізацыя. У асобную групу вылучаліся прадметы з каштоўных металаў, удакладняліся паняцці асноўнага і абменнага фондаў, што павышала пачуццё адказнасці супрацоўнікаў музеяў за захаванне помнікаў. Уводзіліся інвентарныя кнігі адзінага ўзору, якія з'яўляліся дзяржаўным дакументам, пашпарты на прадметы калекцый.

Паралельна з пытаннямі навукова-фондавай работы на мяжы 1940—50-х гг. пачынаецца абмеркаванне методыкі пабудовы гісторыка-краязнаўчых экспазіцый. Кіраўніцтва патрабавала ад музеяў правядзення гэтай работы з апорай на аўтэнтычныя помнікі, з улікам рэгіянальнай спецыфікі і па загадзя складзеных тэматыка-экспазіцыйных пла-



*Школьнікі каля помніка А. В. Сувораву ў Кобрынскім ваенна-гістарычным музеі* — 1950 г.

нах. Аднак асноўныя намаганні ў справе арганізацыі і кіраванні музейнай справай прыкладаліся на хутчэйшую пабудову экспазіцыйных раздзелаў, прысвечаных гісторыі савецкага грамадства. Другім прыярытэтным напрамкам Камітэта было павелічэнне аб'ёмаў асветніцка-прапагандысцкай дзейнасці музеяў.

Маральна-палітычны клімат у СССР, які склаўся пасля смерці Сталіна і ХХ з'езда КПСС, працэс дэмакратызацыі жыцця ў краіне не маглі не адбіцца на музейнай дзейнасці. Новыя ідэалагічныя задачы вызначалі і новыя патрабаванні да музеяў, перш за ўсё да зместу іх экспазіцый і навукова-асветніцкай дзейнасці. Працэс рэабілітацыі рэпрэсаваных дзяржаўных і палітычных дзеячаў, выдатных асоб навукі і культуры даў магчымасць пачаць камплектаванне і экспанаванне матэрыялаў аб шматлікіх удзельніках гістарычных падзей, памяць аб якіх імкнуліся скасаваць у гады культу. Акрамя таго, працэс дэмакратызацыі грамадскага жыцця даў работнікам музеяў надзеі на вырашэнне шматлікіх застарэлых праблем, адкрыццё новых перспектыў у рабоце (напрыклад, у сувязі з уступленнем у 1957 г. Савецкага Саюза ў Міжнародны савет музеяў). Аднак за ўвесь перыяд «хрушчоўскай адлігі» мала што змянілася. Паранейшаму асноўная ўвага партыйна-дзяржаўных органаў была сканцэнтравана на выкананні музеямі выключна ідэалагічных задач пры мінімальных выдатках і захаванні дырэктыўных метадаў кіраўніцтва. Усе сталыя і часовыя музейныя экспазіцыі знаходзіліся пад пільным ідэалагічным кантролем цэнзурнага ведамства — Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтва (Галоўліта) БССР.

*Лідскі замак — архітэктурны помнік рэспубліканскага значэння*



Напрыканцы 1950-х гг. значна ўзрастае цікавасць і занепакоенасць грамадскасці станам аховы і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры. У 1959 г. была распачата работа па пашпартызацыі помнікаў гісторыі, археалогіі і мастацтва. Адказнасць за яе правядзенне была ўскладзена на абласныя гісторыка-краязнаўчыя музеі, але ва ўмовах супрацьдзеяння ахоўным мерапрыемствам гаспадарнікаў розных узроўняў, занядбання саміх помнікаў, а таксама абмежаванай колькасці і невысокай кваліфікацыі навуковага персаналу, гэта патрабаванне абласныя музеі выканаць не змаглі.

Наступны важны крок у гэтым кірунку ў БССР быў зроблены ў 1967 г., калі ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР прынялі пастанову «Аб стане і мерах паляпшэння аховы помнікаў гісторыі, мастацтва і архітэктуры ў БССР». Падчас прыняцця пастановы ў рэспубліцы ўжо дзейнічала Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, створанае ў 1966 г. Яно мела каля тысячы пярвічных арганізацый, якія аб'ядноўвалі больш за 80 тыс. членаў. Аднак задачы рэстаўрацыі і кансервацыі патрабавалі дзяржаўнага, прафесійнага падыходу. Непасрэдным вынікам пастановы было заснаванне ў складзе Міністэрства культуры дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў і навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань. У штатах Дзяржаўнага музея БССР і абласных музеяў уводзілася пасада навуковага супрацоўніка па ахове помнікаў. Актывізаваліся работы па выяўленні і ўліку помнікаў, пачалося стварэнне вакол іх ахоўных зон і зон рэгулявання забудовы. Нарэшце чатыры помнікі — Верхні і Ніжні замкі разам з Сафійскім саборам у Полацку, Замкавая гара з усімі архітэктурнымі і гістарычнымі помнікамі ў Гродне, Замкавая гара і могільнік у Пінску, гарадзішча з Праабражэн-

скай царквой у Заслаўі — былі абвешчаны архітэктурна-археалагічнымі запаведнікамі.

Новай з'явай у музейным жыцці БССР у другой палове 1950— 60-х гг. было стварэнне грамадскіх музеяў — тых, што былі сфарміраваны па ініцыятыве грамадскасці і дзейнічалі на грамадскіх пачатках. Гэтыя музеі з'яўляліся важным кампанентам музейнай сеткі БССР, крыніцай папаўнення дзяржаўнага музейнага фонду. Кіравалі імі грамадскія саветы, куды ўключаліся прадстаўнікі партыйных, камсамольскіх, прафсаюзных арганізацый, што забяспечвала ідэалагічнае кіраўніцтва. Фінансавалі грамадскія музеі звычайна тыя ўстановы, пры якіх яны паўсталі. У іх стварэнні бралі ўдзел людзі розных узростаў, прафесій і творчых памкненняў. У гэтым сэнсе лепшыя грамадскія музеі выступалі ў ролі своеасаблівых клубаў, якія аб'ядноўвалі людзей па іх зацікаўленнях і давалі ім магчымасць праявіць і рэалізаваць свае здольнасці. Галоўным фактарам, які аб'ядноўваў людзей вакол грамадскіх музеяў, была цікавасць да гісторыі сваёй малой радзімы, клопат аб захаванні і папулярызацыі помнікаў гісторыі і роднай прыроды.

Аднак дырэктыўная дзейнасць партыйных органаў адразу прывяла да фармалізацыі і ідэалагізацыі грамадскіх пачынанняў, да з'яўлення грамадскіх музеяў, якія не мелі калекцый аўтэнтычных прадметаў. Так, у адпаведнасці з загадам Міністэрства асветы БССР, выдадзеным у 1980 г., кожны педагагічны калектыў павінен быў абсталяваць у школе пакой Леніна альбо мець музей рэвалюцыйнай, баявой ці працоўнай славы. У шэрагу выпадкаў фармальны падыход дазволіў узвесці ў ранг музея чырвоныя куткі і пакоі славы, якія не мелі аўтэнтычных матэрыялаў, ці ствараць народныя музеі за кошт фондаў дзяржаўных музеяў і сіламі супрацоўнікаў апошніх. Адсутнасць прафесійнага і фінансавага забеспячэння пры арганізацыі музеяў часта прыводзіла да таго, што ўзнікала ўстанова з неакрэсленым профілем і тэматыкай. Нярэдка, запоўніўшы стэнды і паліцы экспанатамі, музей абачліва запіралі на замок, каб адчыніць яго толькі ў выключных выпадках — на вялікае свята ці для інспектарскай камісіі.

12 мая 1964 г. ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб павышэнні ролі музеяў у камуністычным выхаванні працоўных». Задачы, якія былі пастаўлены ў пастанове, можна аб'яднаць у некалькі асноўных блокаў: 1) абавязковая арганізацыя ва ўсіх музеях, акрамя мемарыяльных, аддзелаў савецкай гісторыі; 2) умацаванне сувязей музеяў з прамысловымі і сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, іншымі ўстановамі, пашырэнне краязнаўчага руху; 3) пашырэнне ўсіх формаў масава-палітычнай работы, асабліва ў сельскай мясцовасці; 4) упарадкаванне сеткі музеяў рэспубліканскага і мясцовага значэння, удакладненне іх профіляў, ства-



***Сястра Марата Казея ў школьным музеі, прысвечаным памяці яе брата*** 1974 г.

рэнне новых музеяў толькі з дазволу ЦК кампартый саюзных рэспублік па прадстаўленні органаў культуры і толькі пры наяўнасці сапраўдных каштоўных матэрыялаў і памяшкання для экспазіцый. Як бачым, у пастанове былі замацаваны асноўныя задачы музейнай дзейнасці, якія ўжо выпрацаваліся да таго часу — дэманстрацыя поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва, пашырэнне масава-прапагандысцкай работы, узмацненне дзяржаўна-партыйнага кантролю над музейнай сеткай.

2 ліпеня 1965 г. саюзным урадам была прынята пастанова «Аб музейным фондзе Саюза ССР». На падмурку гэтай пастановы Міністэрства культуры СССР у тым жа годзе зацвердзіла «Палажэнне аб музейным фондзе Саюза ССР». Гэты дакумент вызначаў агульныя ўяўленні аб музейным фондзе, склад, арганізацыю і парадак яго выкарыстання, змест фондавай работы, а таксама ўзаемаадносіны музеяў з іншымі ўстановамі, якія захоўваюць гісторыка-культурную спадчыну. «Палажэнне...» спрыяла ўзмацненню ўвагі да ўсяго комплексу фондавай работы, перш за ўсё да камплектавання калекцый. Разуменне камплектавання як формы дзейнасці музея, якая абумоўлівае ўсе іншыя формы, у т. л. навукова-даследчую, экспазіцыйную і навукова-асветніцкую, пачало вяртацца ў савецкую музейную практыку пасля зацвярджэння гэтага дакумента. Разам з тым, у «Палажэнні...» недвухсэнсоўна ставілася задача камплектавання матэрыялаў, якія дазвалялі адлюстроўваць поспехі камуністычнага будаўніцтва, перамогу ленінскага курсу, павышэнне дабрабыту народа. Пры гэтым натуральна адпадала неабход-



*Музей – Мінскага мотавелазавода*

насць у камплектаванні матэрыялаў, якія адлюстроўвалі складанасці, супрацьлегласці працэсу пабудовы сацыялізму ў СССР.

Прыняцце «Палажэння...» 1965 г. патрабавала ад аддзела музеяў і помнікаў Міністэрства культуры БССР правядзення шэрагу мерапрыемстваў па паляпшэнні захавання нацыянальнай рухомай гістарычна-культурнай спадчыны. У 1965 г. з мэтай упарадкавання музейнага фонду была створана рэспубліканская экспертная камісія, абласныя экспертныя камісіі, а таксама фондавыя камісіі пры буйнейшых музеях. Міністэрства культуры БССР распачало пераразмеркаванне абменных фондаў паміж музеямі рэспублікі адпаведна іх профілям. Дзяржаўныя музеі абавязваліся браць на ўлік прадметы музейнага значэння, якія знаходзіліся на той час у грамадскіх музеях, а таксама ва ўласнасці ўстаноў, арганізацый і прыватных асоб. Пачаліся работы па складанні зводнага навуковага каталога рухомай гістарычна-культурнай спадчыны Беларусі.

Найбольш прыкметнай з'явай музейнага жыцця ў СССР у 1970-я гг. стала ўстойлівая тэндэнцыя цэнтралізацыі музеяў з мэтай больш рацыянальнага выкарыстання фондавых калекцый. На практыцы гэта тэндэнцыя праявілася ў стварэнні музеяў-запаведнікаў, музейных аб'яднанняў і філіялізацыі музеяў. Для падрыхтавання калекцый да каталагізацыі і ў перспектыве стварэння зводнага навуковага каталога Музейнага фонду СССР у гэтыя гады была распачата зверка наяўнасці фондаў з уліковай дакументацыяй. Фактычна гэта з'явілася першай спробай за ўсе гады савецкай улады правесці інвентарызацыю музейнай гаспадаркі краіны.



*У экспазіцыі Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея. – Раздзел сацыялістычнага будаўніцтва –* 1976 г.

У 1976 г. быў распрацаваны і прыняты закон СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры». Аналагічны заканадаўчы акт з той жа назвай быў прыняты ў ліпені 1978 г. у БССР. Закон усклаў на Міністэрства культуры арганізацыю работ па ўліку, забеспячэнні захаванасці, рэстаўрацыі, эфектыўным выкарыстанні і кантролю за вывазам усіх відаў помнікаў гісторыі, археалогіі, архітэктуры, мастацтва, акрамя дакументальных, за якія адказвала Галоўнае архіўнае ўпраўленне пры СМ БССР. Нягледзячы на тое што ў большасці параграфаў закона размова ішла пра нерухомыя помнікі гісторыі і культуры, ён актывізаваў дзейнасць дзяржаўных органаў таксама па захаванні рухомай культурнай спадчыны. У 1981 г. было ўзноўлена ўпраўленне музеяў і аховы помнікаў (дагэтуль пэўны час музеямі апекаваўся адзіны інспектар у складзе ўпраўлення культурна-асветніцкіх устаноў). У Дзяржаўным мастацкім музеі арганізавалі аддзел старажытнага беларускага мастацтва. Усталявалі адзіны парадак выяўлення, уліку і аховы помнікаў у культавых будынках і прыватных калекцыях. У снежні 1985 г. на аснове рэстаўрацыйных майстэрань было створана спецыялізаванае навуковарэстаўрацыйнае вытворчае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя».

Нарэшце, у жніўні 1982 г. ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб паляпшэнні ідэйна-выхаваўчай работы музеяў», дзе як і ў папярэдняй майскай (1964 г.) пастанове вышэйшага партыйнага кіраўніцтва музей вызначаўся як важны сродак у арсенале ідэалагічнай работы. У чарговы раз музеям было дадзена настаўленне, што для гэтага трэба рабіць, як буда-

ваць экспазіцыю і што ў ёй паказваць. Міністэрству культуры, Акадэміі навук і іншым ведамствам прапанавалі сачыць за адлюстраваннем у музеях дасягненняў грамадства развітога сацыялізму, сучаснага этапу навукова-тэхнічнай рэвалюцыі і асабліва дзейнасці партыйнага кіраўніцтва па развіцці эканомікі і вырашэнні сацыяльных праблем. Актыўным інструментам па правядзенні такой палітыкі сталі агляды музеяў, якія праводзіліся рэгулярна, пачынаючы з 1965 г. Фармалізм, уласцівы правядзенню традыцыйнага сацыялістычнага спаборніцтва ва ўсіх сферах вытворчай і невытворчай дзейнасці, адбіўся і на правядзенні аглядаў, якія пераўтварыліся ў механізм збору рапартаў і падліку колькасных паказчыкаў. Нягледзячы на вялікія намаганні шматлікіх музейных спецыялістаў, большасць экспазіцый па гісторыі савецкага грамадства былі неглыбокімі па праблематыцы, невыразнымі з мастацкага пункту гледжання, абмежаванымі па экспанатуры.

У другой палове 1980-х гг. у сувязі з пачаткам працэсу перабудовы і дэмакратызацыі жыцця ў грамадстве ўзнікла вострая неабходнасць перабудовы маральна і фізічна састарэлых экспазіцый. Шэраг сталічных музейных установаў адгукнуліся на настойлівыя патрабаванні часу новымі актуальнымі выставамі. Але атрымаўшы магчымасць шчыра і адкрыта выказацца па вострых гістарычных праблемах, супрацоўнікі музеяў адчулі цяжар асабістай адказнасці за тое, што не сказалі ўчора, і за тое, што павінны сказаць сёння. Стала відавочным адставанне ўзроўню інтэрпрэтацыі падзей мінулага ў экспазіцыях беларускіх музеяў ад агульнага развіцця грамадскай думкі, іх метадалагічная слабасць.

У БССР план выхаду музейнай галіны з крызіснага стану быў выпрацаваны ўжо ў апошнія гады існавання Савецкага Саюза. Напрыканцы 1989 г. пасля ўзгадненняў і кансультацый з вядучымі навуковымі ўстановамі, творчымі саюзамі і грамадскімі арганізацыямі Міністэрствам культуры была прынята «Праграма развіцця сеткі дзяржаўных музеяў і філіялаў у БССР да 2000 г.». Яна прадугледжвала змяненне структуры і тэматыкі музейнай сеткі рэспублікі, стварэнне буйных нацыянальных музеяў, умацаванне матэрыяльнай базы існуючых музеяў, падрыхтоўку і перападрыхтоўку музейнага персаналу. У рамках выканання праграмы ў красавіку 1991 г. была створана Праблемная навуковая рада па пытаннях захавання, рэстаўрацыі і экспанавання музейных калекцый. Рада мела статус навукова-кансультацыйнага органа на грамадскіх пачатках пры міністэрстве і аб’ядноўвала вядучых спецыялістаў галіны. На раду ўскладалася значная частка функцый упраўлення музеяў і аховы помнікаў.

Да 1991 г. музейная сетка БССР структурна набыла сучасны выгляд: 1) дзяржаўныя музеі сістэмы Міністэрства культуры; 2) дзяржаўныя ведамасныя (галіновыя) музеі, якія належалі іншым міністэрствам і ведамствам; 3) грамадскія (школьныя) музеі Міністэрства адукацыі.



*Выстава «Покліч» у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры* — 1991 г.

У падпарадкаванні Міністэрства культуры знаходзілася найбольш важная ў навуковым і асветніцкім значэнні група беларускіх музеяў. Усе яны падзяляліся па профілях на краязнаўчыя, гістарычныя, мастацкія, літаратурныя і прыродазнаўчыя, а па адміністрацыйна-тэрытарыяльнай прыналежнасці — на рэспубліканскія, абласныя і раённыя.

Ведамасныя музеі ствараліся і з'яўляліся структурнымі падраздзяленнямі розных міністэрстваў, навуковых, вучэбных устаноў, прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і адпаведна імі фінансаваліся. Іх работа не была нікім рэгламентавана, статыстыку ніхто не вёў. Прафесійны ўзровень і маштабы дзейнасці ведамасных музеяў залежалі ад характару ўстаноў, што іх заснавалі. Ведамасныя музеі, за невялікімі выключэннямі, заставаліся па-за полем зроку Міністэрства культуры, што тлумачылася навуковай альбо тэхнічнай накіраванасцю іх дзейнасці.

Грамадскія музеі, згодна з Палажэннем Міністэрства культуры СССР 1978 г., падзяляліся на тры асноўныя групы. Да першай групы адносіліся музеі, якія ствараліся па загадзе і падпарадкоўваліся мясцовым органам кіраўніцтва — аддзелам культуры раённых і гарадскіх выканкамаў альбо сельскім і пасялковым Саветам народных дэпутатаў[1]. Да другой групы

[1] У БССР падобныя ўстановы пад назвай «Музеі народнай славы» былі арганізаваны напрыканцы 1960 — пачатку 70-х гг. у Мядзеле, Рагачове, Клічаве, Бягомлі, Лельчыцах, г. п. Акцябрскім. Яны з'яўляліся грамадскімі толькі па назве і хутка набылі юрыдычны статус дзяржаўных.

былі аднесены музеі прамысловых прадпрыемстваў, саўгасаў, калгасаў, навуковых, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, створаныя па ініцыятыве іх адміністрацыі, партыйнай, камсамольскай, прафсаюзнай арганізацыі, вучонага альбо педагагічнага савета. Мяжа паміж грамадскімі музеямі гэтай групы і дзяржаўнымі ведамаснымі музеямі была размытая. У трэцюю, найбольш вялікую групу грамадскіх музеяў, былі ўключаны школьныя музеі, якія працавалі пад кіраўніцтвам органаў народнай адукацыі. Іх дзейнасць каардынавалася дзіцячымі экскурсійна-турыстычнымі станцыямі і рэгулявалася спецыяльным палажэннем. Асаблівасцю грамадскіх школьных музеяў была іх вучэбна-выхавальніцкая накіраванасць.

## 3.1. КРАЯЗНАЎЧЫЯ МУЗЕІ

Яшчэ да заканчэння вайны, НКА БССР распрацаваў план узнаўлення музейнай сеткі рэспублікі, у якім галоўнае месца адводзілася музеям краязнаўчага профілю. Хуткі колькасны рост краязнаўчых музеяў патрабаваў забеспячэння арганізацыйных і юрыдычных асноў іх дзейнасці. Менавіта такая задача была пастаўлена ў дакуменце пад назвай «Палажэнне аб краязнаўчым музеі», прынятым у Міністэрстве культуры БССР у маі 1954 г. Палажэнне замацавала за краязнаўчымі музеямі статус культурна-асветніцкіх устаноў. Разам з тым, яно ставіла перад музеямі задачу ўсебаковага вывучэння раёна, што патрабавала ад супрацоўнікаў навуковай кваліфікацыі. Важным было вызначэнне структуры краязнаўчых музеяў, якая складалася з трох экспазіцыйных аддзелаў: прыроды, дарэвалюцыйнага мінулага, савецкага перыяду. У апошнім, найбольш важным аддзеле прадугледжвалася дэманстрацыя матэрыялаў ад падрыхтоўкі Кастрычніцкай рэвалюцыі да пачатку Вялікай Айчыннай вайны, а таксама паказ дасягненняў апошніх гадоў у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, культуры і г. д. Акрамя вышэйназваных, краязнаўчы музей павінен быў мець аддзел фондаў, бібліятэку, навуковы архіў, фоталабараторыю, дапаможныя кабінеты, майстэрні, у т. л. рэстаўрацыйныя. Музеі атрымалі права пры наяўнасці калекцый ствараць самастойныя экспазіцыйныя аддзелы — мастацкія, літаратурныя і інш.

Акрамя структуры, палажэнне вызначала сістэму кіраўніцтва краязнаўчым музеем. На чале яго стаяў дырэктар, якога прызначаў мясцовы аддзел культуры. Па прадстаўленні дырэктара аддзел культуры зацвярджаў кандыдата на другую па значнасці пасаду ў музеі — загадчыка фондаў. Пры дырэктары музея дзейнічаў музейна-краязнаўчы савет, у склад якога,

акрамя навуковых супрацоўнікаў музея, уваходзілі прадстаўнікі мясцовых партыйных, савецкіх і гаспадарчых устаноў. Знешне стварэнне музейна-краязнаўчых саветаў выглядала крокам у бок дэмакратызацыі кіраўніцтва работай краязнаўчых музеяў. Аднак, улічваючы іх склад і непрацяглую практыку дзейнасці, саветы з'яўляліся ў большай ступені органамі цэнзуры і рэгламентацыі музейна-краязнаўчай работы.

Першае пасляваеннае дзесяцігоддзе дало шэраг выпадкаў пагардлівых, фармальных адносін партыйных і савецкіх органаў улады да краязнаўчых музеяў. Рэакцыяй Міністэрства культуры на гэта былі пункты палажэння, якія забаранялі ліквідацыю музеяў, іх перамяшчэнне з займаемых памяшканняў, а таксама перадачу ў іншыя рукі прадметаў фондавых калекцый без спецыяльнага дазволу Савета Міністраў БССР. «Палажэнне аб краязнаўчым музеі» аказала дваісты ўплыў на развіццё музейна-краязнаўчага руху. З аднаго боку, важна адзначыць у ім яскрава акрэслены ахоўны аспект, што павышала статус музея як сацыяльнага інстытута і забяспечвала захаванне калекцый. З іншага боку, палажэнне абумовіла з'яўленне аднабаковых, стандартных экспазіцый, якія адразу ж узгадваюцца і сёння, калі гутарка ідзе аб краязнаўчых музеях. Стандартная структура была вельмі зручнай для кіраўнічага апарату пры правядзенні разнастайных праверак і інспекцый. Акрамя таго, разглядаючы краязнаўчыя музеі як ідэалагічныя ўстановы, аўтары палажэння ў асобным пункце ўвялі цэнзураванне ўсіх новых экспазіцый — практыку, якая захоўвалася да канца разглядаемага перыяду.

Важнай падзеяй у навуковым і культурным жыцці БССР было адкрыццё ў Мінску ***Дзяржаўнага-музея-БССР***, які выконваў функцыі цэнтральнага краязнаўчага музея рэспублікі. Яшчэ ў 1943 г. СНК БССР прыняў пастанову «Аб аднаўленні работы Гістарычнага музея БССР», але яна не была выканана. Пачынаючы з сярэдзіны 1940-х гг. Камітэт па справах культурна-асветніцкіх устаноў шмат разоў звяртаўся ў Савет Міністраў БССР з прапановай адрадзіць у Мінску БДМ. Гэту ідэю падтрымлівала Акадэмія навук БССР. Але кожны раз прапановы адхіляліся з-за недахопу памяшкання і сродкаў. Між тым, збор фондавых калекцый для будучага Дзяржаўнага музея БССР быў распачаты супрацоўнікамі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны згодна з загадам Камітэта па справах культурна-асветніцкіх устаноў ужо ў ліпені 1949 г. У аснову калекцый былі пакладзены прадметы, якія засталіся ад БДМ і Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні. Збіральніцкая дзейнасць актывізавалася пасля распараджэння Савета Міністраў БССР ад 15 снежня 1956 г. «Аб Арганізацыйнай групе па стварэнні Дзяржаўнага музея БССР». Першапачаткова ўся дзейнасць



*Першае пасяджэнне Арганізацыйнай групы па стварэнні Дзяржаўнага музея БССР. Першы злева — С. З. Сапешка*

Арггрупы пад кіраўніцтвам С. З. Сапешкі[1] была скіравана на камплектаванне калекцый.

У другой палове 1950-х гг. супрацоўнікі аддзела першабытна-абшчыннага ладу сумесна з сектарам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР правялі раскопкі палеалітычных стаянак «Елісеевічы», «Юровічы», неалітычных стаянак «Трафімавы кусты», «Белая града» Навагрудскага раёна, а таксама курганных могільнікаў каля в. Хадасовічы Гомельскай вобласці. У зімовы перыяд у музеі вывучалі і апрацоўвалі помнікі зарубінецкай культуры з раскопак селішчаў «Адаменка» Быхаўскага, матэрыялы гарадзішча «Таўкач» Полацкага, палеалітычных стаянак «Бердыж», «Журавель», «Падлужжа» Чачэрскага, «Каромка» Рагачоўскага, «Добры бор» Баранавіцкага раёнаў.

Супрацоўнікі аддзела феадалізму былі пераважна заняты пошукамі аўтэнтычных прадметаў у архівах Масквы, Ленінграда, Львова, Гродна, музеях БССР, сталічных антыкварных крамах. Рабіліся захады па вяртанні матэрыялаў беларускага паходжання з музеяў ПНР. Выраблялiся копіі і муляжы. У 1959 г. аддзел Дзяржаўнага музея БССР сумесна з Інстытутам гісторыі матэрыяльнай культуры АН СССР пад кіраўніцтвам Л. В. Аляксе-

[1] Сапешка Станіслаў Захаравіч (1908—1969) — музейны дзеяч, нарадзіўся ў в. Шастакі Капыльскага раёна. Пасля заканчэння рабфака БДУ (1934) і Ленінградскага педінстытута імя Герцэна (1939) працаваў настаўнікам. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, у 1945—1948 гг. служыў у Войску польскім. З 1948 г. працаваў навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела, намеснікам дырэктара Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У 1959—1967 гг. — загадчык Арггрупы па стварэнні Дзяржмузея БССР, у 1967—1969 гг. — яго дырэктар. Выкладаў музеязнаўчыя дысцыпліны на гістарычных факультэтах БДУ і Мінскага педінстытута імя М. Горкага. Заслужаны работнік культуры БССР.



*Супрацоўнікі Арггрупы па стварэнні Дзяржаўнага музея БССР Л. А. Міхайлоўскі (злева) і В. Н. Рабцэвіч* 1958 г.

ева правёў раскопкі старажытнага Друцка, сумесна з Інстытутам гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам А. Р. Мітрафанава — раскопкі Полацка.

Супрацоўнікі аддзела капіталізму наладзілі сувязі са старымі мінчанамі, у выніку чаго музей атрымаў пячатку мінскай гарадской думы, шынель чыгуначніка пачатку XX ст., касцюм гараджанкі канца XIX ст., гімназічныя падручнікі і камплекты дарэвалюцыйнай перыёдыкі. Праводзіліся комплексныя гістарычна-побытавыя экспедыцыі ў розныя рэгіёны БССР.

Найбольш шматлікім быў аддзел савецкага перыяду. Адначасова з работай у архівах яго супрацоўнікі збіралі матэрыялы на беларускіх прадпрыемствах, у сем'ях дзяржаўных дзеячаў, выдатных военачальнікаў, вучоных, пісьменнікаў. У выніку гэтай работы калекцыі ўзбагаціліся асабістымі рэчамі і рознымі цікавымі паперамі П. Броўкі, М. Танка, П. Пестрака. Летам 1961 г. аддзел правёў гістарычна-побытавую экспедыцыю ў Казахстан, былі сабраны матэрыялы аб беларусах, якія ўдзельнічалі ў асваенні цаліны.

Вялікую навуковую каштоўнасць мелі вынікі экспедыцыі аддзела прыроды ў Белавежскую пушчу, а таксама выезды па зборы матэрыялаў у розныя прыродныя рэгіёны БССР. Акрамя таго, супрацоўнікі ўсіх аддзелаў з мэтай набыцця прадметаў музейнага значэння вялі перапіску з абласнымі і раённымі музеямі, краязнаўцамі рэспублікі. У фонды будучага музея перадаваліся знойдзеныя ў рэспубліцы клады, начынне з закрытых цэркваў, экспанаты выставаў. У рэстаўрацыйнай майстэрні і біялабараторыі выраблялiся макеты і муляжы.



*Л. Д. Клок, супрацоўнік Арггрупы па стварэнні Дзяржаўнага музея БССР*

Дапамогу ў стварэнні Дзяржмузея БССР аказалі ўстановы культуры Ленінграда. Цэнтральны гістарычны ваенна-марскі музей у Ленінградзе перадаў халодную і агнястрэльную зброю сярэдзіны XIX ст., Ваенна-гістарычны музей артылерыі, інжынерных войскаў і войскаў сувязі ў Ленінградзе — рускую і французскую зброю перыяду напалеонаўскіх войнаў, шмат плакатаў і лубкоў перыяду Першай і Другой сусветных войнаў, Музей гісторыі Ленінграда — матэрыялы аб паўстанні дзекабрыстаў, Дзяржаўны рускі музей — этнаграфічныя матэрыялы сярэдзіны XIX ст., сабраныя ў Мінскай губерні. У аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына былі зроблены копіі граматы ад 25 красавіка 1389 г. мсціслаўскага князя Сімеона Лугвеня Альгердавіча каралю Польшчы Ягайлу і яго жонцы Ядвізе, грамат рускага цара Аляксея Міхайлавіча мінскаму, магілёўскаму, полацкаму, барысаўскаму і шклоўскаму ваяводам, гербаў беларускіх гарадоў, картаў XVIII ст., малюнкаў і гравюр па гісторыі Лівонскай і Паўночнай войнаў, асобных нумароў газет XIX ст. У мастацка-афармленчым камбінаце Ленінграда былі зроблены муляжы рускай зброі XI—XIII стст., а таксама наўгародскіх і літоўскіх манет. Міністэрства культуры УССР таксама перадало Дзяржмузею шэраг прадметаў, у т. л. фрагмент слуцкага пояса XVIII ст.

У выніку першага пяцігоддзя работы Арггрупы было сфарміравана ядро фондавага збору будучага музея. На 1 студзеня 1961 г. агульная колькасць прадметаў склала 38 тыс. адзінак, прычым палова з іх паступіла ў 1960 г. Акрамя таго, мелася каштоўная спецыялізаваная бібліятэка, якая налічвала каля 15 тыс. тамоў.

Пачынаючы з 1962 г., галоўная ўвага Арггрупы была звернута на падрыхтоўку экспазіцыі: складанне тэматыка-экспазіцыйных планаў, стварэнне картаў, схем, табліц, дыяграм, навуковых даведак. Супрацоўнікі Арггрупы наведалі больш за 20 музеяў СССР з мэтай пераймання лепшага вопыту. Адначасова мастацкая група, куды ўваходзілі вядомыя творцы — жывапісец У. Стальмашонак і архітэктар Г. Бенядзіктаў, працавала над эскізамі будучай экспазіцыі. Распрацоўка тэматыка-экспазіцыйнага плана выявіла лакуны ў калекцыях, што вымушала актывізаваць

збіральніцкую работу. Толькі ў 1963 г. было праведзена 10 навуковых экспедыцый і 78 камандзіровак, якія павялічылі фондавы збор на 14 тыс. адзінак. Павышэнню агульнага ўзроўню работы Арггрупы паспрыяла стварэнне ў 1963 г. у яе складзе вучонага савета, куды ўвайшлі беларускія навукоўцы Л. С. Абэцэдарскі, А. І. Залескі, В. С. Тарасенка, А. І. Азараў, А. В. Аладава, І. М. Сяржанін і інш. У Арггрупе ў розныя часы працавалі нумізмат В. Н. Рабцэвіч, арганізатар музейнай справы У. А. Гілеп, мастацтвазнаўца З. С. Пазняк.

7 лістапада 1964 г. ЦК КПБ прыняў Пастанову аб адкрыцці ў Мінску Дзяржаўнага музея БССР. На гэты час у яго фондах ужо налічвалася 120 тыс. адзінак захоўвання. 12 лістапада таго ж года С. З. Сапешка ва ўрачыстых абставінах атрымаў ад будаўнікоў ключы ад будынка на праспекце Леніна, 25а, пасля чаго ў ім пачаўся мантаж экспазіцыі. Калі работы ўжо падыходзілі да завяршэння, у лістападзе 1965 г., урадавай пастановай мантаж быў спынены, усе экспанаты перавезены ў будынак на вул. К. Маркса, 12, які займаў Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, апошні ж заняў будынак на праспекце Леніна, 25а. У выніку новую гістарычную экспазіцыю Дзяржмузея БССР прыйшлося манціраваць на плошчы ў тры разы меншай, чым папярэднюю, аддзел жа прыроды знайшоў прытулак у падвальным памяшканні. Афіцыйнае адкрыццё музея адбылося 2 лістапада 1967 г. Яго экспазіцыя была размешчана ў 18 залах і знаёміла наведвальнікаў з прыродай і гісторыяй Беларусі са старажытных часоў да нашых дзён.

Асноўнай пляцоўкай адукацыйна-асветніцкай работы была стацыянарная экспазіцыя, якая мела наступную структуру: 1) прырода; 2) гісторыя першабытна-абшчыннага ладу; 3) гісторыя Сярэдніх вякоў і перыяду капіталізму; 4) рэвалюцыя 1905—07 гг.; 5) Кастрычніцкая рэвалюцыя і Грамадзянская вайна; 6) сацыялістычнае будаўніцтва; 7) Вялікая Айчынная вайна; 8) аднаўленне народнай гаспадаркі; 9) навукова-тэхнічны прагрэс, сельская гаспадарка, навука, культура, дабрабыт у сучасны перыяд.

Найбольшую ўвагу наведвальнікаў у экспазіцыі прыцягвалі першабытныя вырабы з косці, скульптурныя выявы жывёл, фібулы, творы сярэдневяковага рамяства, упрыгожанні з косці, шкла і бурштыну, драўляная скульптура, слуцкія паясы, паліхромная кафля, урэцкае шкло, старадрукі і рукапісы XVI—XVIII стст., найбагацейшы этнаграфічны матэрыял XVIII—XX стст., асабістыя рэчы беларускіх грамадскіх дзеячаў, вайскоўцаў, пісьменнікаў.

Акрамя сталай стацыянарнай экспазіцыі, вялікая ўвага надавалася стварэнню часовых стацыянарных і перасоўных выставаў. Уяўленне аб змесце і маштабах выставачнай дзейнасці Дзяржмузея БССР дае наступ-



*Р. В. Доўнар-Запольская і У. А. Маслыка, супрацоўнікі Аргрупы па стварэнні Дзяржаўнага музея БССР*
1960 г.

ная вытрымка з яго справаздачы за 1978 год: «Больш за 300 тыс. савецкіх грамадзян і замежных турыстаў аглядзела наступныя выстаўкі — “60 год БССР і КПБ”, “З імем Леніна”, “Імі ганарыцца рэспубліка”, “Помнікі і памятныя месцы рэвалюцыйнай славы Беларусі”, “Браты назаўсёды (да 100-годдзя вызвалення Балгарыі)”, “Манетныя клады Беларусі”, “Мікрамініяцюры заслужанага майстра Украіны М. Сядрыстага”, “Мастацкая фатаграфія, прысвечаная 60-годдзю БССР і КПБ (сумесна з Саюзам журналістаў)”, “Ідэі Кастрычніка жывуць і перамагаюць”, “Беларускае народнае мастацтва”, “Старая і новая вёска”, “Мінералы СССР”, “З фондаў музея”, “Халодная і агнястрэльная зброя”, “Музычныя інструменты”».

Больш за 80 % ад агульнай колькасці наведвальнікаў музея аглядала яго экспазіцыі з дапамогай экскурсаводаў, якія прапаноўвалі аглядную і 26 тэматычных экскурсій. Акрамя экскурсійнага абслугоўвання, выкарыстоўваліся такія формы масавай работы, як лекцыі, урокі, тэматычныя вечарыны, дні прафесій, сустрэчы з ветэранамі вайны і працы, камсамольскія зборы, піянерскія лінейкі і інш. З мэтай распаўсюджвання інфармацыі пра выставачную і масавую работу музея ў розных раёнах Мінска былі расстаўлены рэкламныя шчыты, расклеены афішы, рассылаліся лісты кіраўнікам буйных прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў, выкарыстоўваліся сродкі масавай інфармацыі. Нарэшце, аўтобусны прыпынак на вуліцы К. Маркса быў перайменаваны паводле назвы музея.




***Фрагмент экспазіцыі Дзяржаўнага музея БССР, прысвечанай утварэнню БССР –*** 1988 г.

Нетрадыцыйны спосаб камплектавання за кошт помнікаў гісторыі і культуры, знойдзеных у гідрасферы, быў прапанаваны ў 1982 г., калі пры Дзяржмузеі быў арганізаваны клуб падводных гісторыка-археалагічных даследаванняў. Новыя перспектывы ў распрацоўцы пытанняў кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў матэрыяльнай культуры адкрыла стварэнне рэстаўрацыйных майстэрняў. Акрамя работы з уласнымі калекцыямі, рэстаўратары музея аказвалі значную дапамогу музеям рэспублікі, дзе рэстаўрацыйныя службы адсутнічалі ўвогуле. Важнае месца ў дзейнасці музея займаў навукова-метадычны аддзел, створаны ў 1967 г. Яго супрацоўнікі праводзілі сістэматычныя заняткі з музейнымі работнікамі рэспублікі, аналізавалі работу раённых краязнаўчых музеяў, складалі метадычныя дапаможнікія. З 1970 г. на базе музея рэгулярна праводзіліся практыкі студэнтаў-гісторыкаў БДУ і МДПІ імя М. Горкага. Усё гэта сведчыла аб пераўтварэнні Дзяржмузея ў буйнейшы ў рэспубліцы навукова-метадычны цэнтр музейнай і гісторыка-краязнаўчай работы.

Напярэдадні святкавання 60-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі была адкрыта новая экспазіцыя, прысвечаная савецкаму перыяду беларускай гісторыі. Нягледзячы на тое што змест экспазіцыі 1977 г., як і папярэдняй, вызначаўся пануючай дзяржаўнай ідэалогіяй і бягучымі задачамі партыйнай прапаганды, з прафесійнага пункту гледжання яна значна адрознівалася ў лепшы бок ад папярэдняй. Новая экспазіцыя

была пазбаўлена памылак, тыповых для тагачаснай савецкай музейнай практыкі. Ужо не было той перагружанасці экспанатамі, матэрыял меў дакладную, зразумелую сістэматызацыю. Кожны зал меў сваю дамінанту, свой «твар», сваю арыгінальную задуму. Разам з тым, абагульняючай тэмай усіх залаў было жыццё народа — яго праца, творчасць, дабрабыт.

Тым не менш ужо ў канцы 1980-х гг. гістарычная экспазіцыя музея стала аб'ектам грамадскай крытыкі. Адзін з чытачоў газеты «Чырвоная змена» ў гэты час наступным чынам апісваў свае ўражанні: «Аб якой павазе да сваёй мінуўшчыны, мовы можна тут гаварыць? Уся гісторыя нашай Радзімы, якая знаходзіцца на скрыжаванні шляхоў, якую закранулі амаль усе войны Усходняй Еўропы, заключана ў нешматлікіх стэндах. А ў якім становішчы знаходзяцца нават тыя экспанаты, што ёсць!» Адказам на грамадскую крытыку сталі непалітызаваныя, новыя па змесце выстаўкі — «Францыск Скарына і яго час» (1990), «Клады Беларусі» (1991), «Чарнобыль — зона бяды» (1991), «Праца і святкаванне ў польскім народным мастацтве» (1991). А на пачатку 1990-х гг. кіраўніцтва Дзяржмузея БССР распачало яго поўную рээкспазіцыю.

Дзяржмузей БССР меў адзіны філіял — музей рамёстваў і народных промыслаў у г. п. Заслаўе, адкрыты ў 1978 г. у помніку архітэктуры XVI ст. — кальвінскім зборы (Спаса-Праабражэнскай царкве). У экспазіцыі філіяла дэманстравалася каля 900 твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва IX—XX стст.: выявы гербаў беларускіх гарадоў XIV—XVI стст., прадметы хатняга ўжытку, узоры народнага адзення XIX—XX стст., ювелірныя вырабы X—XIII стст., вырабы беларускіх злотнікаў (пацір XVI ст, прастольны крыж 1625 г.), ганчарныя вырабы IX—XX стст., кафля XVI—XVII стст. з Заслаўя, царскія вароты XVIII ст. з Давыд-Гарадоцкай Георгіеўскай царквы, скульптурныя выявы святых з Віцебскай і Гродзенскай абласцей, слуцкія паясы другой паловы XVIII — пачатку XX ст., неглюбскія ручнікі, абразы. Пачынаючы з 1981 г., тут праводзіліся тэатралізаваныя народныя святы з удзелам мінскай творчай інтэлігенцыі і студэнтаў. У 1988 г., пасля рашэння Міністэрства культуры аб перадачы кальвініскага збору Заслаўскаму гісторыка-культурнаму запаведніку, кіраўніцтва Дзяржмузея забрала з экспазіцыі свайго былога філіяла найбольш каштоўныя экспанаты. Яшчэ праз два гады кальвініскі збор быў перададзены вернікам.

Рашэннем Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта ад 28 сакавіка 1944 г. у горадзе аднаўляўся ***Гомельскі абласны краязнаўчы музей***. Яму была вернута частка даваеннага будынка — некалькі пакояў у палацы Румянцавых — Паскевічаў. На працягу двух першых гадоў ішло камплектаванне фондавых калекцый пераважна матэрыяламі па гісторыі партызанскага руху на Гомельшчыне. Летам 1946 г. Сталінградскі абласны музей



*Разбураны ў гады вайны палац Румянцавых — Паскевічаў*

вярнуў Гомельскаму музею эвакуіраваныя ў 1941 г. калекцыі. А ў чэрвені 1946 г. фондавы збор Гомельскага музея ўзбагаціўся каштоўнасцямі, рээвакуіраванымі з Урупінска. Сярод прывезенага былі карціны мастакоў І. Крамскога, П. Сухадольскага, Б. Залескага, С. Маршалкевіча і інш., бронзавая і мармуровая скульптура, побытавыя рэчы з палаца, а таксама рукапіс славутай камедыі А. С. Грыбаедава «Гора ад розуму». Але не ўсё было аддадзена Гомельскаму музею. Зніклі каштоўныя калекцыі нумізматыкі і фалерыстыкі, посуду, выраблենага з каштоўных металаў, бронзавая статуя А. Кановы «Веснік свету», помнік графу М. П. Румянцаву з Петрапаўлаўскага сабора і інш.

Афіцыйнае адкрыццё Гомельскага гісторыка-краязнаўчага музея адбылося на аснове сабраных першых 700 экспанатаў, яшчэ да прыбыцця даваенных збораў, 1 сакавіка 1946 г. яго экспазіцыя, якая змяшчала пераважна дакументы і фотаздымкі, пасля ўзгаднення з ідэалагічным аддзелам абласнога камітэта КП(б)Б набыла наступную структуру: 1) сацыялістычны Гомель да Вялікай Айчыннай вайны; 2) зверствы нямецка-фашысцкіх акупантаў на Гомельшчыне; 3) партызанская барацьба на Гомельшчыне; 4) вызваленне Гомеля і аднаўленчы перыяд. Зразумела, што ў такой экспазіцыі каштоўныя дарэвалюцыйныя калекцыі, з цяжкасцю вернутыя з эвакуацыі, былі непатрэбныя.

Пэўныя змены ў дзейнасці музея пачаліся ў 1954 г., калі па выніках сумесных археалагічных раскопак на тэрыторыі Гомельскай вобласці, якія праводзіліся Інстытутам гісторыі матэрыяльнай культуры і Гомельскім

гісторыка-краязнаўчым музеем, быў адкрыты новы экспазіцыйны раздзел «Археалогія краю». Праз тры гады ўзніклі раздзелы «З мінулага краю» і «Прырода краю». Увядзенне новых тэм было вынікам навукова-пошукавай работы, якая праводзілася супрацоўнікамі музея на працягу некалькіх гадоў у архіўных і музейных установах БССР, а таксама Масквы і Ленінграда. Дзякуючы ёй колькасць фондавых калекцый значна павялічылася і дасягнула ў 1959 г. 30,5 тыс. адзінак. Другім вынікам гэтай работы было з'яўленне некалькіх выданняў краязнаўчага і археаграфічнага характару і шэрагу артыкулаў у мясцовым перыядычным друку. Далейшаму развіццю музея паспрыяла рашэнне мясцовых улад аб перадачы яму ў 1962 г. усяго левага крыла палаца, дзякуючы чаму экспазіцыйная плошча павялічылася амаль утрая.

З'яўленне вялікай колькасці новых матэрыялаў у экспазіцыі Гомельскага музея напачатку 1960-х гг. паставіла пытанне аб яе мастацкім і тэхнічным узроўні. Дэмакратызацыя грамадскага жыцця паспрыяла таму, што гэтыя пытанні сталі прадметам шырокага абмеркавання на старонках перыядычнага друку. Адзін з карэспандэнтаў газеты «Літаратура і мастацтва» наступным чынам характарызаваў сітуацыю, якая склалася ў музеі ў той час: «Наогул на мастака ў Гомельскім музеі глядзяць, як на рамесніка-афарміцеля, усяляк стрымліваючы яго творчы запал, яго спробы ўнесці нешта новае, незвычайнае ў раскрыццё зместу асобных тэм і раздзелаў. Напісаць этыкетку да шматлікіх экспанатаў, назвы тэм, памагчы супрацоўніку храналагічна-паслядоўна і сіметрычна размясціць арыгіналы дакументаў і фотакопіі ў стандартных вітрынах або на спецыяльных шчытах і стэндах, якія займуць усе сцены ў пакоях — вось да чаго зводзяцца абавязкі мастака. А шкада! Ён жа можа знайсці адзіна правільнае кампазіцыйна-прасторавае вырашэнне экспазіцыі, надаць ёй глыбокую вобразнасць і комплекснае адзінства. Адным словам, зрабіць яе больш яркай, выразнай, запамінальнай». Гэта крытыка была пачута. У сярэдзіне 1960-х гг. група маладых мастакоў па заказе кіраўніцтва распачала распрацоўку эскізаў новай экспазіцыі з улікам выкарыстання новага лёгкага экспазіцыйнага абсталявання, каляровага вырашэння памяшкання, асвятлення і г. д.

Гомельскі гістарычна-краязнаўчы музей быў непарыўна звязаны з выдатным помнікам класіцызму XIX ст. — палацам Румянцавых — Паскевічаў. Увесь палаца-паркавы ансамбль, у які акрамя палаца ўваходзілі Петрапаўлаўскі сабор, капліца і парк, складаў разам з музеем адзінае цэлае, што натуральна павінна было вызначаць як профіль стацыянарнай экспазіцыі, так і тэматыку выстаў. Але, нягледзячы на ўключэнне аб'ектаў ансамбля ў экскурсійныя маршруты, дзейнасць Гомельскага музея была па-ранейшаму зарыентавана выключна на краязнаўчую тэматыку.

У 1980 г. супрацоўнікі музея правялі вялікую і карпатлівую работу па арганізацыі адкрытага захоўвання фондавых калекцый. Гэта стала магчымым пасля перадачы музею ў якасці філіяла палаца Халецкіх у в. Хальч Веткаўскага раёна. Захоўванне калекцый у дзесяці пакоях палаца было наладжана такім чынам, што іх маглі аглядаць наведвальнікі. Найбольшую цікавасць выклікалі пакоі, у якіх былі паказаны інтэр'еры сялянскага жылля канца XIX — пачатку XX ст. і прысвечаныя творчасці народных мастакоў Гомельшчыны. Акрамя Хальчанскага палаца, адкрытае захоўванне было наладжана ў ніжнім склепе палаца Румянцавых — Паскевічаў, частку якога па-ранейшаму займаў Палац піянераў. У выніку, калі сярэднестатыстычны беларускі музей паказваў у стацыянарнай экспазіцыі каля 10 % ад агульнай колькасці прадметаў у яго фондасховішчы, то ў Гомельскім музеі гэты паказчык складаў 70 %. У 1980 г. Гомельскі музей разам з філіяламі (акрамя Хальчанскага палаца існаваў яшчэ адзін філіял — мемарыяльны музей імя П. М. Лепяшынскага) агледзела 340 тыс. чалавек.

У другой палове 1980-х гг. супрацоўнікі музея звярнулі сваю ўвагу на матэрыялы, якія расказвалі пра вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сярод паступленняў гэтага перыяду вылучаліся прадметы ранняй бронзаліцейнай вытворчасці, арабскія дырхемы, упрыгожанні, прылады працы, прадметы ўзбраення IX—XI стст., клад грыўняў XI—XII стст., віслая пячатка XII ст., віленскае «Евангелле» Пятра Мсціслаўца 1575 г., фарфоравыя і фаянсавыя вырабы нямецкай, англійскай і расійскай вытворчасці XIX — пачатку XX ст., комплекс сярэбраных вырабаў рускіх і заходнееўрапейскіх майстроў, гадзіннік XIX ст. фірмы Ф. Жалі і інш.

Пасля двух няўдалых спроб у 1944 і 1946 гг. адрадзіць ***Магілёўскі абласны краязнаўчы музей*** адпаведная пастанова абласнога Савета дэпутатаў у 1949 г. была выканана. Першыя гады пасля заснавання музея былі часам шматлікіх экспедыцый і камандзіровак навуковых супрацоўнікоў, у выніку якіх з'явілася магчымасць адлюстраваць музейнымі сродкамі гісторыю Магілёўшчыны савецкага перыяду. Для будучага аддзела дасавецкага перыяду зброю і рыштунак, узнагароды і муляжы знамён у Магілёў перадалі маскоўскі Дзяржаўны гістарычны музей, а таксама Ваенна-гістарычны музей артылерыі, інжынерных войскаў і войскаў сувязі і Ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава ў Ленінградзе. Кіраўнікам усіх прадпрыемстваў горада былі адпраўлены лісты з просьбай даслаць у музей узоры ўласнай вытворчасці, даныя статыстычнага і гістарычнага характару.

1 студзеня 1951 г. дырэктар музея І. С. Мігулін адкрыў экспазіцыю Магілёўскага музея, якая складалася з двух раздзелаў: «Вялікая Айчынная вайна» і «Пасляваеннае сацыялістычнае будаўніцтва». Яна займала частку будынка Дома Саветаў і імкнулася адлюстраваць падзеі агульна-



*Супрацоўнікі Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея аглядаюць рэшткі маманта.* 1952 г.

саюзнага маштабу. У першым раздзеле былі заяўлены такія тэмы, як абарона Масквы, Ленінграда, Адэсы, Севастопаля, Сталінградская і Курская бітвы, вызваленне ад нацызму цэнтральнаеўрапейскіх краін, Берлінская аперацыя. Зразумела, што раскрыць усе гэтыя тэмы музейнымі сродкамі абласны музей не мог. Завяршаўся агляд экспазіцыі эмацыянальнай дамінантай — вялікай карцінай пад назвай «Раніца Радзімы нашай». Вось як перадае сучаснік свае пачуцці падчас яе агляду: «Велічны воблік дарагога правадыра на фоне краявіду, на якім бачны лесаахоўныя палосы, высакавольтныя лініі электраперадач, трубы фабрык і заводаў, калоны трактароў, пакідае незабыўнае ўражанне, што наша краіна няспынна ідзе да сонечных вяршынь камунізму».

У другой палове 1950-х гг. стала відавочна, што далейшае развіццё Магілёўскага краязнаўчага музея ў некалькіх невялікіх пакоях Дома Саветаў немагчыма. Дзякуючы І. С. Мігуліну, які смела звяртаўся за дапамогай да сакратароў ЦК КПБ, у рэдакцыю газеты «Праўда» і іншыя высокія інстанцыі, у 1961 г. музей нарэшце атрымаў уласны будынак былога акруговага суда на Савецкай плошчы. 5 лістапада 1967 г. адбылося адкрыццё новай экспазіцыі, якая адразу ж атрымала шматлікія станоўчыя водгукі ў прэсе. Яе першым наведвальнікам быў першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў — ён аглядаў музейныя залы ў суправаджэнні мясцовага партыйнага кіраўніцтва. Агляд экспазіцыі, якая займала дванаццаць залаў, пачынаўся з жывёльнага і расліннага свету краю, паказанага ў шматлікіх чучалах і дыярамах. Наступны раздзел знаёміў з дарэвалюцыйнай гісторыяй. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў у ім прыцягвалі археалагічныя знаходкі, макет гарадзішча, даспехі сярэдневяковых рыцараў, зброя, клады, інтэр'еры шляхецкага маёнтка і сялянскай хаты. У якасці галоўных экспазіцыйных ідэй аўтарамі раздзела былі абраны барацьба беларускага народа супраць прыгоннага ўціску, барацьба з захопнікамі і імкненне да аб'яднання з рускім народам. Раздзел савецкага перыяду пачынаўся дыярамай «Штурм Зімняга» і заканчваўся паказам сацыяльна-эканамічных і культурных дасягненняў вобласці ў пасляваенны перыяд.

Новая экспазіцыя Магілёўскага краязнаўчага музея мела ўсе хібы, абумоўленыя часам яе стварэння: перагружанасць плоскасным матэрыялам копій, перабольшаная ўвага да савецкага перыяду, спрошча-

нае мастацкае афармленне. Разам з тым, падчас яе падрыхтоўкі ўпершыню былі вывучаны і сістэматызаваны цэлыя пласты гісторыі краю, сабраны вялікі рэчавы і дакументальны матэрыял аб яго ўраджэнцах. Нарэшце, упершыню быў дадзены сістэматычны паказ прыроды Магілёўшчыны. Аб поспеху экспазіцыі 1967 г. ускосна сведчылі лічбы наведвання: на працягу 1970-х гг. яе аглядала да 100 тыс. чалавек у год. Акрамя экскурсій, у музейных залах праводзіліся іншыя формы адукацыйна-выхаваўчай работы. З 1977 па 1990 г. Магілёўскі абласны краязнаўчы музей быў зачынены на капітальны рамонт, пасля якога адкрылася новая абноўленая экспазіцыя. У ёй па-ранейшаму значная ўвага надавалася адлюстраванню падзей савецкай гісторыі.



*У экспазіцыі Магілёўскага краязнаўчага музея* — 1950-я гг.

Падчас святкавання 250-годдзя бітвы пад Лясной адбылося адкрыццё філіяла Магілёўскага абласнога музея, прысвечанага гэтай гістарычнай падзеі. Яго экспазіцыя размясцілася ў мемарыяльнай капліцы, пабудаванай у 1912 г. па праекце архітэктара А. Гагена. Капліца з'яўлялася кампазіцыйным цэнтрам Ляснянскага мемарыяльнага комплексу, куды таксама ўваходзілі манумент у гонар перамогі рускіх войскаў над шведскім корпусам А. Левенгаўпта 28 верасня 1708 г. і мармуровы абеліск на брацкіх могілках рускіх воінаў. У 1981 г. у горадзе быў створаны яшчэ адзін філіял Магілёўскага музея — музей этнаграфіі. У яго двух экспазіцыйных залах былі выстаўлены прылады працы і побыту, адзенне сялян Магілёўскай губерні XIX — пачатку XX ст., узоры старажытнага і сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Нарэшце, у 1986 г. у Магілёве ў будынку былога калегіума ўніятаў была разгорнута экспазіцыя трэцяга філіяла абласнога музея, прысвечанага дзекабрыстам. Выбар будынка філіяла быў абумоўлены тым, што ў ім пасля разгрому ў студзені 1826 г. паўстання Чарнігаўскага палка ўтрымліваліся пад вартай члены тайных таварыстваў браты С. І. і М. І. Мураўёвы-Апосталы, М. П. Бястужаў-Румін і інш.

Калі ў жніўні 1945 г. з Саратава ў Віцебск вярнуліся эвакуіраваныя музейныя калекцыі, у будынку гарадской ратушы ўжо ішлі работы па выкананні пастановы мясцовага абласнога Савета дэпутатаў ад 4 верасня 1944 г. аб аднаўленні ***Віцебскага абласнога краязнаўчага музея***. Гэтыя работы

ішлі з вялікімі цяжкасцямі. Слабай была матэрыяльная база, музей дзяліў будынак ратушы са шматлікімі жыхарамі, вельмі востра адчуваўся недахоп прафесійных кадраў. У ліпені 1945 г. наведвальнікам была прапанавана выстава «Віцебская вобласць у гады Вялікай Айчыннай вайны». Сталая экспазіцыя музея сфарміравалася ў пачатку 1950-х гг. і структурна складалася з трох раздзелаў: 1) Віцебск і вобласць да рэвалюцыі 1917 г.; 2) Віцебск савецкі — росквіт горада і вобласці пасля Кастрычніка; 3) Віцебск у гады Вялікай Айчыннай вайны. У канцы 1950-х гг. з'явіліся два новыя раздзелы — прыроды і мастацтва.

Часам актыўных пошукаў навуковых супрацоўнікаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея ў галіне методыкі пабудовы экспазіцый сталі 1970-я гг. Да найбольш цікавых эксперыментаў трэба аднесці аўтаматычную аўдыёсістэму, з дапамогай якой аповед экскурсавода суправаджаўся гукавым фонам, згодна са зместам кожнай з 22 залаў. Аднак зрабіць прывабнымі для наведвальнікаў залы савецкага перыяду не дапамагала нават аўтаматыка. Дазорца гэтых залаў расказвала аб сваёй рабоце карэспандэнту часопіса «Нёман»: «Я раней дзесяць год у даўніне (залах, прысвечаных дарэвалюцыйнай гісторыі краю. — *А. Г.*) сядзела. Народу там заўсёды шмат, хвалюешся, каб дзеткі з месца нічога не кранулі. Стомішся за дзень, бегаючы. Як бліжэй стала да пенсіі, сюды перавялі, кажуць: “У сучаснасці (залах, прысвечаных савецкай гісторыі краю. — *А. Г.*), Настасся Фамінічна, Вам будзе спакайней”. Так яно і ёсць. І лягчэй, і спакайней, а сумна. Калі людзі ідуць, дык весялей. А тут рэдкія экскурсіі, і ўсё бегам імкнуцца».

Зусім іншай была рэакцыя публікі на адкрыты ў 1970 г. пасля рээкспазіцыі раздзел выяўленчага мастацтва. Яго аснову склалі работы, рускіх і беларускіх мастакоў XIX — пачатку XX ст., перададзеныя ў дар Дзяржаўным мастацкім музеем БССР, у т. л. І. Хруцкага, І. Крамскога, У. Макоўскага, В. Паленава, А. Архіпава, К. Каровіна, С. Жукоўскага, Д. Якерсона, І. Бароўскага і інш.

У 1976 г. пачалася рэстаўрацыя Віцебскай ратушы, у сувязі з чым доступ публікі да стацыянарнай экспазіцыі быў абмежаваны, а неўзабаве ўвогуле спынены. Падчас правядзення рэстаўрацыйных работ, якія зацягнуліся на доўгія 18 гадоў, асноўную ўвагу супрацоўнікі абласнога музея звярнулі на камплектаванне фондавага збору і стварэнне выставаў. На пачатку 1980 г. агульная колькасць прадметаў калекцый ужо дасягнула 88 тыс., з якіх прыкладна трэцюю частку складала нумізматыка. У тым жа годзе было арганізавана 13 выставаў у музеі і 18 па-за яго межамі. Найбольшай папулярнасцю карысталася гісторыка-краязнаўчая і мастацтвазнаўчая тэматыка — «Архітэктура Віцебска», «Нашы землякі — пісьменнікі», «Вопратка сялян канца XIX — пачатку XX стагоддзя», «Фарфор і шкло XIX стагоддзя».



***Будынак Віцебскага абласнога краязнаўчага музея*** — 1951 г.

У 1988 г. да філіялаў Віцебскага абласнога музея — былой вязніцы СД — і экспазіцый, прысвечаных падпольнай групе «Юныя мсціўцы» ў Обалі і генералу Л. М. Даватару ва Уле дадалася сядзіба І. Я. Рэпіна «Здраўнёва». Першы крок на шляху аднаўлення сядзібнага дома І. Я. Рэпіна[1] быў зроблены ў 1956 г., калі дзякуючы намаганням беларускіх і рускіх дзеячаў культуры Я. Коласа, В. Бялыніцкага-Бірулі, І. Грабара на яго месцы была ўсталявана мемарыяльная дошка. А праз чатыры гады Віцебскі абласны камітэт КПБ прыняў рашэнне аб узнаўленні былога лецішча мастака і пераўтварэнні яго ў філіял Віцебскага абласнога музея. Рэканструкцыю лецішча праводзілі супрацоўнікі спецыялізаванай майстэрні Саюза архітэктараў БССР. Вялікая пошукавая работа была праведзена супрацоўнікамі Віцебскага абласнога музея. У працэсе аднаўлення сядзібнага дома значна дапамаглі пісьмы дачкі І. Я. Рэпіна — Т. М. Дзяканавай, матэрыялы, перададзеныя іншымі сваякамі мастака, успаміны былых вучняў мясцовай школы. Адначасова са збіраннем

[1] Сядзіба Здраўнёва ў 1892—1901 гг. была месцам летняга адпачынку І. Я. Рэпіна і яго сям'і і натхніла вялікага майстра на стварэнне шырока вядомых палотнаў «Восеньскі букет», «Беларус», «Дуэль» і інш. Пасля 1917 г. Здраўнёва стала месцам жыхарства сям'і малодшай дачкі мастака. Нягледзячы на намаганні І. Я. Рэпіна прыцягнуць увагу віцебскіх губернскіх улад да аховы сядзібы, пасля ад'езду ў 1930 г. яе ўладальнікаў за мяжу дом і іншыя пабудовы былі прададзены на дровы.



*Музей-сядзіба І. Я. Рэпіна «Здраўнёва»*

рэпінскай спадчыны, супрацоўнікі Віцебскага краязнаўчага музея фарміравалі фонд літаратурных матэрыялаў для яшчэ аднаго філіяла. А ў лютым 1990 г. ужо адбылося публічнае абмеркаванне архітэктурнага вырашэння і мастацкага ўвасаблення будучай экспазіцыі Літаратурнага музея.

У верасні 1944 г. пачаліся работы па аднаўленні ***Дзяржаўнага гістарычна-археалагічнага музея ў Гродне***, які валодаў у той час буйнейшым гістарычным зборам (каля 45 тыс. адзінак) у БССР. Структурна музей складаўся са Старога замка, падземнага музея на месцы археалагічных раскопак, Каложскай царквы, прыродазнаўчага музея і дома пісьменніцы Э. Ажэшка. На працягу трох пасляваенных дзесяцігоддзяў музей узначальваў М. І. Собаль, з імем якога звязана другое нараджэнне музея. Абавязкі галоўнага захавальніка выконваў вядомы гісторык і археолаг Л. В. Аляксееў. У 1949 г. пад кіраўніцтвам вядомага расійскага археолага і гісторыка мастацтва М. М. Вароніна былі праведзены раскопкі на Замкавай гары, выяўлены рэшткі муроў XII ст., храм з маёлікавай падлогай, жылыя будынкі. У 1952—1954 гг. супрацоўнікі гісторыка-археалагічнага аддзела праводзілі археалагічныя разведкі на тэрыторыі вобласці, па выніках якіх была складзена археалагічная карта. Станоўчы водгук на сесіі Інстытута археалогіі АН СССР атрымала паведамленне аб раскопках у Індуры і Турыйску, якія ажыццяўляліся сіламі музея.



*Стары замак у Гродне*

Усе гэтыя работы выконваліся ва ўмовах вялікіх побытавых цяжкасцей. Навуковая супрацоўніца музея тых гадоў К. Т. Кавальская ўзгадвае: «Зімою ва ўсім музеі было холадна, таму што печы недастаткова ацяплялі памяшканні. Усе былі ў паліто, у т. л. наведвальнікі ў залах... Летам мы ладзілі комплексныя экспедыцыі аддзелаў у раёны Гродзенскай вобласці. Месяцамі жылі ў вёсках, ішлі пешшу ад вёскі да вёскі, з хаты ў хату. Аўтобусы ў той час хадзілі нерэгулярна, а з глыбінкай транспартнай сувязі ўвогуле не было. Нягледзячы на гэта, не было ў Гродзенскай вобласці кутка, дзе б не пабывалі музейныя супрацоўнікі».

Фонды музея папаўняліся не толькі за кошт правядзення этнаграфічных экспедыцый і археалагічнага вывучэння Гродзеншчыны. У 1953 г. шэраг ленінградскіх музеяў перадалі ў Гродна старажытную зброю і абмундзіраванне, у т. л. мундзір Гродзенскага гусарскага палка.

Адначасова з пашырэннем складу калекцый ішла рэстаўрацыя Старога замка, што дало магчымасць распачаць работы па стварэнні сталай экспазіцыі, якая адкрылася ў 1957 г. У адпаведнасці з патрабаваннямі таго часу каля 70 % плошчаў залаў у Старым замку занялі матэрыялы па гісторыі савецкага грамадства. У сярэдзіне 1950-х гг. змяніўся статус прыродазнаўчага філіяла Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, які стаў аддзелам, а яго экспазіцыя была пераведзена ў Стары замак. Акрамя тэматычных комплексаў, яна змяшчала асобную залу, дзе паказваліся калекцыі са збору С. Жыўны.

У сярэдзіне 1960-х гг. зрабілася відавочнай неадпаведнасць каштоўнасці сабранага матэрыялу эстэтычнай якасці яго падачы ў экспазіцыі. Мастацтвазнаўца А. А. Сурскі так апісвае свае ўражанні пасля знаёмства з экспазіцыяй Гродзенскага музея: «Тры дні блукаў я тут, адчуваючы глыбокую павагу да ўсяго, што мяне акружала, пранікаючыся ўсё большай пашанай да карпатлівай працы работнікаў музея, але разам з



*У экспазіцыі Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея —* 1959 г.

тым і адчуваючы незадавальненне. Пераходзячы ў залах ад адной да другой шафы, гледзячы на шчыты, стэнды ў традыцыйных багетных рамах, абцягненыя сумным, шэрым палатном і скрозь утыканыя экспанатамі, проста патанаеш у гэтай аднастайнасці. І як да выратавальнага круга кідаешся да надпісаў і тлумачэнняў. Але стандартныя этыкеткі з датамі і цытатамі, якія нагадваюць сумныя вытрымкі з падручнікаў гісторыі, толькі падкрэсліваюць навукападобнасць падобнай сістэмы. Тут ужо паволі пачынаеш сумнявацца ў акадэмічных музейных запаведзях: “строгасць”, “нічога лішняга”, “экспанат гаворыць сам за сябе”. Даруйце, што ён гаворыць, калі, напрыклад, у адну шафу плошчаю 2 кв. метра — толькі адну! — уціснена 339 экспанатаў».

Вялікую ролю ў культурным жыцці горада адыгралі экспазіцыі Гродзенскага гістарычна-археалагічнага музея, адкрытыя па-за яго сценамі. У 1973 г. першыя наведвальнікі агледзелі гістарычную экспазіцыю, разгорнутую ў шэдэўры архітэктуры XII ст. — Барысаглебскай царкве. Праз тры гады намаганнямі супрацоўніцы музея вядомай беларускай паэтэсы Д. Бічэль-Загнетавай у доме, дзе прайшлі дзіцячыя гады Максіма Багдановіча, адкрылася экспазіцыя літаратурнага аддзела. Яна перадавала атмасферу, у якой фарміравалася асоба паэта ў раннім дзяцінстве. Адразу ж пасля адкрыцця гэта экспазіцыя набыла характар нацыянальнага грамадскага-культурнага цэнтра. Тут працавалі дзіцячае аб’яднанне «Вянок», выдавецкая суполка імя М. Багдановіча, аб’яднанне каталікоў-беларусаў. Вынікам вывучэння і збірання ўзораў флоры і фаўны Гродзенскай вобласці было адкрыццё ў студзені 1970 г. у шасці залах музея новай экспазіцыі аддзела прыроды.

Пачынаючы з 1986 г. экспазіцыйная і асветніцкая дзейнасць Гродзенскага музея рэзка скарацілася[1] ў сувязі з пачаткам правядзення археалагічна-архітэктурных даследаванняў для падрыхтоўкі праекта рэстаўрацыі помнікаў Замкавай гары. На працяглы тэрмін залы зачыніліся для закладкі зандажоў, потым для правядзення рамонту і аднаўлення экспазіцый. Новыя перспектывы развіцця перад музеем адкрыла перадача яму часткі Новага замка, які раней займаў абласны камітэт КПБ. Замкавыя памяшканні было вырашана выкарыстоўваць у якасці выставачных залаў. Гэта, на думку супрацоўнікаў музея, адпавядала атмасферы і духу, што панавалі ў замку, калі яго гаспадаром быў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — мецэнат, апякун мастацтва і калекцыянер. 25 кастрычніка 1991 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё першай музейнай экспазіцыі Новага замка, якая складалася з чатырох выставаў: «Зброя мінулых стагоддзяў», «На зямлі і пад вадой», а таксама выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Рашэнне аб стварэнні ***Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея*** было прынята ў чэрвені 1945 г., але на працягу першага пасляваеннага дзесяцігоддзя ён не быў адкрыты для агляду. Пасля працяглага падрыхтоўчага перыяду ў 1957 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё музея, экспазіцыя якога ўражвала знаходкамі з раскопак Берасцейскага гарадзішча, рэдкімі музычнымі інструментамі XVIII ст., прыладамі працы, хатнім начыннем XIX ст., манетамі, рукапіснымі і друкаванымі кнігамі XVII ст., зброяй і даспехамі XIII—XIX стст. Раздзел савецкага перыяду камплектаваўся дакументамі, баявымі рэліквіямі, узнагародамі, фотаздымкамі, якія адлюстроўвалі падзеі рэвалюцыйнага руху, Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннае сацыялістычнае будаўніцтва. У аддзеле прыроды былі сабраны ўзоры жывёл і раслін вобласці. Экспазіцыя Брэсцкага краязнаўчага музея была разгорнута ў адным з зачыненых культавых будынкаў горада. Яна мела традыцыйную структуру і невысокі, нават для свайго часу, мастацкі ўзровень. Таму ў 1963 г. было прынята рашэнне аб правядзенні рээкспазіцыі. Да найбольш атракцыйных частак новага мастацкага праекта адносіліся дзве агучаныя дыярамы — «Абарона Брэсцкай крэпасці» і «Белавежская пушча».

Развіццё Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея на працягу 1970—80-х гг. характарызавалася хуткім павелічэннем аб'ёму фондавых калекцый. У пачатку 1980-х гг. агульная колькасць прадметаў у іх дасягнула ўжо 100 тыс. адзінак. Па крыніцах камплектавання гэты фондавы збор меў дзве асаблівасці: першая з іх была абумоўлена раскопкамі, што праводзіліся

---

[1] У 1985 г. Гродзенскі гістарычна-археалагічны музей агледзела 230 тыс. чалавек.



***Будынак Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея*** — 1968 г.

на Берасцейскім гарадзішчы, другая — работай Брэсцкай мытні, адкуль рэгулярна паступалі канфіскаваныя творы мастацтва. Як і ў першыя гады пасля адкрыцця, асноўным наведвальнікам Брэсцкага абласнога музея былі турысты. На пачатку 1980-х гг. штогод музей разам з філіяламі аглядала больш за 400 тыс. чалавек.

Прыкладам наватарскага падыходу да экспазіцыйнай дзейнасці ў Брэсцкім краязнаўчым музеі з'яўляецца выстава пад адкрытым небам (мастацкія творы, этнаграфічныя вырабы, філатэлія, плакаты і інш.), арганізаваная супрацоўнікамі музея ў 1981 г. падчас святкавання Міжнароднага дня музеяў. Гэты дэмакратычны спосаб прэзентацыі помнікаў карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод жыхароў горада і турыстаў. У 1986 г., на гэты раз ужо ў сценах музея, адбылася выстава шэдэўраў мастацтва, канфіскаваных брэсцкімі мытнікамі за спробу незаконнага вывазу за мяжу. Падчас правядзення выставы колькасць канфіскаванай кантрабанды ў фондасховішчы музея дасягнула значнай лічбы — адных толькі абразоў было перададзена каля 1,5 тыс. адзінак. Акрамя абразоў, на ёй дэманстраваліся карціны, старажытныя кнігі, ювелірныя вырабы з каштоўных металаў, фарфор і інш.

Новы перыяд у жыцці музея пачаўся ў 1991 г., пасля таго як ён пераехаў у будынак мясцовага гаркама КПБ. Невялікі касцёл, памяшканне якога на працягу трох дзесяцігоддзяў займаў Брэсцкі абласны музей, быў вернуты вернікам.

Структурнай часткай Брэсцкага краязнаўчага музея з'яўляўся помнік архітэктуры XIII ст. — Камянецкая вежа, — які з цягам часу атрымаў статус філіяла. Пачатак рэстаўрацыйных работ на гэтым помніку, а таксама падрыхтоўка да стварэння ў ім экспазіцыі датуюцца 1968 г.

У 1982 г. на тэрыторыі Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці адкрыўся новы, унікальны па спосабе захавання і экспанавання гістарычных помнікаў філіял Брэсцкага абласнога музея — археалагічны музей «Бярэсце». Гэтаму папярэднічала адкрыццё і шматгадовае археалагічнае вывучэнне гарадзішча Бярэсця невялікім атрадам аддзела археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам П. Ф. Лысенкі. Палявыя

*Філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея — археалагічны музей «Бярэсце»*



сезоны 1971—1981 гг. суправаджаліся нечаканымі адкрыццямі, рэдкімі знаходкамі і, самае галоўнае, выяўленнем выдатна захаваных драўляных збудаванняў і гарадской інфраструктуры. Усё гэта выклікала вялікую цікавасць у спецыялістаў і шырокай грамадскасці. Да месца правядзення раскопак прыходзілі турысцкія групы, мясцовыя жыхары, і ўжо тады зарадзілася думка — стварыць пасля завяршэння даследаванняў незвычайны археалагічны музей.

Выкананню гэтага праекта былі аддадзены гады напружанай працы. У 1970—1973 гг. для захавання рэшткаў старажытных пабудоў група супрацоўнікаў Беларускага тэхналагічнага інстытута пад кіраўніцтвам прафесара В. Я. Віхрова распрацавала і ўпершыню ажыццявіла метад кансервацыі драўляных збудаванняў у палявых умовах. Праект павільёна з бетону, алюмінію і шкла павінен быў накрыць закансерваваныя археалагічныя раскопы. У 1982 г. першыя наведвальнікі ўбачылі асноўную экспазіцыю музея, якая ўключала больш за 30 драўляных жылых і гаспадарчых пабудоў, рэшткі маставых, частаколаў. Акрамя закансерваваных раскопаў, у залах музея наведвальнікі знаёміліся з палітычным, эканамічным і культурным развіццём Бярэсця ў XI—XIV стст. Гэту магчымасць давала шматлікая і разнастайная археалагічная калекцыя: прылады працы (сярпы, косы, ліцейная форма, акоўкі, нажы, жорны, лапаты і інш.), прадметы ўзбраення і амуніцыі конніка (наканечнікі коп’яў і стрэл, шпоры, фрагменты даспехаў, кальчугі і інш.), прадметы бытавога прызначэння (замкі, ключы, крэсівы, дзвярныя кольцы і прабоі і інш.), жаночыя ўпрыгожанні (бранзалеты, падвескі, пацеркі, фібулы і інш.), вырабы з дрэва, скуры, косці. Сярод экспанатаў можна было ўбачыць такія рэдкія знаходкі, як самшытавы грэбень з выразанымі кірылічнымі

літарамі, касцяны мастыхін, металічнае пісала, касцяная шахматная фігурка і інш.

Рашэнне аб заснаванні апошняга па часе музея абласнога падпарадкавання — ***Мінскага абласнога краязнаўчага музея*** ў Маладзечне — было прынята ў ліпені 1959 г. Гэтаму рашэнню папярэднічала краязнаўчая дзейнасць студэнтаў Маладзечанскага настаўніцкага інстытута пад кіраўніцтвам выкладчыка кафедры беларускай літаратуры, будучага славутага даследчыка М. І. Ермаловіча. Назапашаны імі этнаграфічны матэрыял дазволіў узняць пытанне аб музеі ў перыядычным друку, а таксама ў кабінетах органаў кіравання культурай. Пасля рашэння апошніх аб арганізацыі рабочай групы па стварэнні музея дыяпазон збіральніцкай працы пашырыўся. Шэраг каштоўных помнікаў матэрыяльнай культуры ў фондавы збор быў перададзены з раскопак, якія праводзіліся археолагамі Л. Д. Побалем, М. М. Чарняўскім, Г. В. Штыхавым, А. Р. Мітрафанавым, М. М. Ткачовым. Сярод іх — залатое скроневае кальцо XII ст. са Старабарысава, посуд з неалітычнага паселішча Лысая Гара Стаўбцоўскага раёна, кафля з Маладзечанскага замчышча, гліняная галоўка чалавека з гарадзішча Багушэвічы Бярэзінскага раёна, унікальная разьба па косці. З г. Калініна была перададзена грамата, выдадзеная З. Даленгу-Хадакоўскаму ў 1818 г., якая дазваляла праводзіць археалагічныя раскопкі, а таксама працаваць у архівах і бібліятэках. Дзяржаўны гістарычны музей у Маскве перадаў у Маладзечна залататканы слуцкі пояс. Дачка беларускага пісьменніка Альберта Паўловіча прыслала са Львова асабістыя рэчы бацькі і дарункі вядомага беларускага асветніка Б. І. Эпімах-Шыпілы. Дачка краязнаўца А. К. Сніткі таксама перадала асабістыя рэчы бацькі, ліст акадэміка Б. А. Тарашкевіча. Свае работы падарылі музею мастакі К. Харашэвіч, Я. Радзялоўская, А. Пупко, Ю. Герасіменка, М. Купава, А. Марачкін. Асобную групу складалі матэрыялы аб жыцці і творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Сярод каштоўнейшых паступленняў пазнейшага часу была скрыпка вядомага кампазітара М. К. Агінскага.

Пасля адкрыцця 26 красавіка 1964 г. экспазіцыі Мінскага абласнога краязнаўчага музея[1] разгарнулася шырокая навукова-асветніцкая дзейнасць. На працягу толькі першага няпоўнага года экспазіцыю агледзела 17 тыс. чалавек. У наступныя гады колькасць наведвальнікаў штогод павялічвалася. Акрамя традыцыйных экскурсій, для жыхароў вобласці праводзіліся выязныя лекцыі, сустрэчы. Камплектаванне і апрацоўку

[1] Пасля скасавання ў 1960 г. Маладзечанскай вобласці музей перайшоў у падпарадкаванне мінскіх абласных органаў культуры.

калекцый, а таксама іх папулярызацыю праводзіў невялікі па колькасці штат супрацоўнікаў, які доўгі час узначальваў Г. А. Каханоўскі[1]. Акрамя захавання музейных калекцый, супрацоўнікі рупіліся аб выяўленні і ахове нерухомай гістарычна-культурнай спадчыны. У 1979 г. быў устаноўлены нетыповы для таго часу мемарыяльны знак у в. Мясата Маладзечанскага раёна, прысвечаны выдатным людзям, якія ішлі і ехалі ў розныя часы па дарозе Мінск — Вільня. Такім незвычайным чынам была ўшанавана памяць славутых падарожнікаў С. Буднага, М. Агінскага, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, Б. Тарашкевіча і інш.

*Г. А. Каханоўскі, дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея*



Колькасць прадметаў асноўнага фонду ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі да 1991 г. дасягнула 30 тыс. адзінак. На працягу 1970—80-х гг. адбыліся новыя папаўненні: музей прыняў адзін з буйнейшых скарбаў, знойдзеных на тэрыторыі Беларусі, які налічваў 5768 манет XVI—XVII стст. з в. Мароські Маладзечанскага раёна; адзін са старажытных дакументаў напісаных на старабеларускай мове — «Вопіс на дарэнне зямлі ў карысць Хохлаўскай царквы», зроблены князем С. Кішкай у 1607 г.; драўляную скульптуру «Распяцце» XVII ст. з в. Ілля Вілейскага раёна; драўляную скульптуру «Кціар» XIX ст. з Нясвіжскага касцёла Божага цела; старадрук «Тлумачэнні да твораў Цыцэрона» з Нясвіжскай друкарні Радзівілаў 1762 г.; самаробны партызанскі медаль «За заслугі». Павелічэнне фондавых калекцый дазволілі тройчы — у 1970, 1979 і 1984 гг. — правесці перабудову стацыянарнай экспазіцыі, а таксама арганізаваць шматлікія стацыянарныя і перасоўныя выставы. Далейшае развіццё музея стрымлівала яго слабая матэрыяльна-тэхнічная база:

---

[1] Г. А. Каханоўскі (1936—1994) музейны дзеяч, археолаг, краязнавец, літаратуразнавец, доктар гістарычных навук. Пасля заканчэння Маскоўскага педагагічнага інстытута з 1964 г. працаваў навуковым супрацоўнікам, намеснікам дырэктара, дырэктарам Мінскага абласнога краязнаўчага музея. З 1981 г. — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з 1991 г. — старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела Навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны. У 1989 г. быў ініцыятарам адраджэння і старшынёй Беларускага краязнаўчага таварыства.



***Лепельскі гістарычна-краязнаўчы музей*** – 1967 г.

на працягу ўсяго разглядаемага перыяду ён знаходзіўся ў маленькім будынку барачнага тыпу.

Значную ўвагу дзяржава надавала будаўніцтву сеткі раённых краязнаўчых музеяў. У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ***раённыя краязнаўчыя музеі*** былі адкрыты ў ***Барысаве*** (1950), ***Тураве*** (1950), ***Рэчыцы*** (1954), ***Століне*** (1955), ***Ашмянах*** (1955). Праводзіліся работы па стварэнні раённых музеяў у ***Слуцку*** і ***Лепелі***. Большасць створаных у першыя пасляваенныя гады экспазіцый не мелі папярэдняй навуковай падрыхтоўкі і больш адпавядалі паняццю «часовая выстава». Калі для раздзелаў, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне, былі сабраны баявыя рэліквіі, трафеі і іншыя арыгінальныя матэрыялы, то раздзелы прыроды, дасавецкай гісторыі і савецкага перыяду характарызаваліся бессістэмнасцю і дылетантызмам. У шэрагу выпадкаў раённыя краязнаўчыя музеі спрабавалі адлюстраваць у сваіх экспазіцыях гісторыю ўсёй краіны. У выніку іх экспазіцыі ўяўлялі набор шматтыражных ілюстрацый па гісторыі СССР, якія магчыма было знайсці ў падручніку або альбоме наглядных дапаможнікаў.

У 1954 г. колькасць раённых краязнаўчых музеяў у БССР павялічылася. У сувязі са скасаваннем Бабруйскай, Баранавіцкай, Палескай, Пінскай і Полацкай абласцей статус музеяў, якія знаходзіліся ў іх цэнтрах, знізіўся да раённых. За гэтымі музеямі былі замацаваны групы раёнаў (зоны), у межах якіх вялася ўся работа. У зону Бабруйскага музея ўваходзілі г. Бабруйск, Бабруйскі, Кіраўскі, Клічаўскі, Асіповіцкі раёны; у зону Баранавіцкага — г. Баранавічы, Нова-Мышскі, Ляхавіцкі, Быценскі, Гарадзішчанскі раёны; у зону Мазырскага — г. Мазыр, Мазырскі, Калінкавіцкі, Васілевіцкі раёны; у зону Пінскага — г. Пінск, Пінскі, Давыд-Гарадоцкі, Ганцавіцкі, Драгічынскі, Жабчыцкі, Іванаўскі, Ленін-

скі, Лагішынскі, Лунінецкі, Столінскі, Целяханскі раёны; у зону Полацкага — г. Полацк, Полацкі, Ветрынскі, Дрысенскі, Асвейскі, Ушацкі, Расонскі раёны. Брэсцкі, Віцебскі, Гомельскі і Магілёўскі абласныя краязнаўчыя музеі, што засталіся, павінны былі будаваць сваю дзейнасць у межах абласцей. Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей меў статус рэспубліканскага, але ў сваёй збіральніцкай, навуковай і асветніцкай дзейнасці асаблівую ўвагу надаваў рэгіянальным аспектам. Мінская і Маладзечанская (скасавана ў 1960 г.) вобласці сваіх краязнаўчых музеяў увогуле не мелі.

У 1962 г. колькасць раённых краязнаўчых музеяў зменшылася. Паводле рашэння ЦК КПСС аб неабходнасці эканомнага выдаткавання сродкаў на сацыяльна-культурныя патрэбы Савет Міністраў БССР падрыхтаваў план скарачэння выдаткаў на ўтрыманне сеткі краязнаўчых музеяў. У выніку ў 1962 г. Ашмянскі, Бярозаўскі, Крычаўскі, Лепельскі, Рэчыцкі, Слуцкі, Столінскі і Тураўскі дзяржаўныя раённыя краязнаўчыя музеі былі пераўтвораны ў народныя са скарачэннем усіх штатных адзінак. Ва ўмовах адсутнасці альтэрнатыў дзяржаўнаму фінансаванню культуры ў БССР гэта азначала іх фактычнае знішчэнне. Праз два гады музеям быў вернуты дзяржаўны статус.

Сярод музейных установаў раённага падпарадкавання важнымі ў гістарычна-культурных адносінах калекцыямі выдзяляўся ***Слонімскі-раённы-гісторыка-краязнаўчы-музей***. Яго стваральнік і першы дырэктар І. І. Стаброўскі прыкладаў шмат намаганняў, каб ўратаваць сабранае падчас нямецкай акупацыі. Пачынаючы з лета 1944 г. ён праводзіў экскурсіі для ваеннаслужачых і школьнікаў, чытаў лекцыі для настаўнікаў. У 1946 г. Слонімскі раённы гістарычна-краязнаўчы музей быў перайменаваны ў Баранавіцкі абласны гісторыка-краязнаўчы музей. Гэта рашэнне ўлад тлумачылася тым, што ў Слоніме знаходзіўся буйнейшы музейны збор Баранавіцкай вобласці, а Баранавіцкі абласны музей выяўленчага мастацтва быў цалкам знішчаны падчас нямецкай акупацыі.

Тады ж да кіраўніцтва Слонімскім музеем прыйшлі новыя людзі, якія кампенсавалі недахоп ведаў і прафесіяналізму адміністрацыйнымі і прадпрымальніцкімі здольнасцямі. У канцы 1947 г. паніжаны ў пасадзе навуковы супрацоўнік І. І. Стаброўскі выступіў з рэзкім пратэстам супраць набыцця для раздзела Вялікай Айчыннай вайны карцін вельмі нізкай якасці па свядома завышаным кошце. Яго прынцыповасць дорага абышлася. У 1948 г. загадам упраўлення музеяў Камітэта па справах культурна-асветніцкіх установаў І. І. Стаброўскі быў звольнены з працы. З гэтага моманту і да сярэдзіны 1950-х гг. у музеі змянілася 6 дырэктараў і 22 навуковыя супрацоўнікі. Вынікам гэтых кадравых ракіровак быў заняпад усіх напрамкаў яго дзейнасці: адсутнічаў падзел на прадме-



***Слонімскі раённы гістарычна-краязнаўчы музей***

ты асноўнага і навукова-дапаможнага фонду, у экспазіцыі меліся грубыя памылкі ў выкладанні агульнавядомых гістарычных падзей. З цяжкасцю ўладкаваўшыся ў музей касірам, амаль без сродкаў да існавання І. І. Стаброўскі не мог абыякава назіраць за тым, як прыходзіць у заняпад справа яго жыцця. Ён адправіў 38 скаргаў у вышэйшыя савецкія і партыйныя ўстановы, адстойваючы сваё дзіця. Але адзіным адказам было абвінавачванне яго ў фальсіфікацыі гістарычных падзей і нагнятанні песімізму.

У кастрычніку 1952 г., калі Слонімскі раён увайшоў у склад Гродзенскай вобласці, музей быў зноў перайменаваны ў Слонімскі раённы краязнаўчы. Частка яго калекцый пры гэтым была перададзена Баранавіцкаму абласному і Гродзенскаму гісторыка-археалагічнаму музеям. У 1957 г. Слонімскі музей атрымаў двухпавярховы будынак, у якім была разгорнута новая стацыянарная экспазіцыя. Праз два гады сіламі музея ўпершыню былі праведзены археалагічныя раскопкі на старажытным Слонімскім замчышчы. Лепшае са знойдзенага ўвайшло ў самастойны экспазіцыйны комплекс, які распавядаў аб узнікненні горада і яго сацыяльна-эканамічным развіцці ў XI—XVIII стст. Пазней па заказе музея былі праведзены гістарычна-археалагічныя даследаванні гістарычнага цэнтра Слоніма, вынікам якіх таксама сталі каштоўныя экспанаты. Сістэматычна праводзіўся збор матэрыялаў па сацыяльна-эканамічным развіцці краю. Гэтыя і іншыя матэрыялы, прадстаўленыя ў дзевяці экспазіцыйных залах, у сярэднім аглядала каля 20 тыс. чалавек у год.

*Драўляны ровар з калекцыі Пінскага раённага краязнаўчага музея*



***Пінскі раённы краязнаўчы музей*** узнавіў сваю працу ў статусе абласнога ў ліпені 1945 г. на аснове археалагічнай, этнаграфічнай і прыродазнаўчай калекцый, якія захаваліся пасля адступлення нямецкіх войскаў. Першае пасляваеннае дзесяцігоддзе было часам актыўнага назапашвання калекцый. У 1955 г. ажыццёўлены першыя раскопкі на гарадзішчы старажытнага Пінска, у выніку якіх археалагічная калекцыя музея ўзбагацілася на 4 тыс. адзінак. Даследаванні археалагічнай спадчыны Піншчыны працягваліся, у т. л. гарадзішча ў в. Гароднае Столінскага, курганных могільнікаў у в. Ясінец Ганцавіцкага і в. Крыўчыцы Іванаўскага раёнаў. У выніку ў экспазіцыі музея з'явіліся каштоўныя помнікі даўніны: унікальная па разнастайнасці формаў паліўная керамічная плітка XII ст., фрагмент амфары XII ст., віслая пячатка князя Ізяслава Яраславіча, тураўскі саркафаг XII ст. Агульная колькасць фондавых калекцый у 1961 г. дасягнула 30 тыс.

У маі 1965 г. у жыцці Пінскага музея адбылася важная падзея. Яго мастацкі аддзел атрымаў экспазіцыйнае памяшканне ў велічных залах былога езуіцкага калегіума і адкрыўся для агляду пад назвай Пінскай карціннай галерэі. Яе з'яўленню папярэднічаў калектыўны ліст пінчукоў міністру культуры СССР К. А. Фурцавай з просьбай стварыць у іх горадзе «малую Траццякоўку». Гэта ідэя спадабалася ў Маскве, і хутка залы калегіума ўжо ўпрыгожвалі карціны У. Айвазоўскага, В. Пярова, І. Шышкіна, В. Васняцова, В. Паленава, К. Макоўскага, В. Бялыніцкага-Бірулі, П. Канчалоўскага, Ю. Пэна, У. Цвірко. Выдатныя творы жывапісу перадалі Мастацкі фонд СССР, Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, Дзяр-



***М. Ф. Мельнікаў, дырэктар Крычаўскага раённага краязнаўчага музея***
1959 г.

жаўны мастацкі музей БССР. Каштоўныя дарункі прымаў і на іх аснове стварыў першую экспазіцыю загадчык галерэі палымяны энтузіяст мастацтва У. У. Баравікоў.

Паводле рашэння ЦК КПБ у 1979 г. Пінскі краязнаўчы музей быў перайменаваны ў Беларускі дзяржаўны музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся. Сфера яго дзейнасці пашырылася на большасць раёнаў Брэсцкай, паўднёвыя Мінскай і ўсходнія Гомельскай абласцей. Гэта перайменаванне паўплывала не толькі на тэрыторыю, але і на змест дзейнасці музея. Асаблівае месца ў збіральніцкай і экспазіцыйнай рабоце занялі матэрыялы, якія паказвалі тагачаснае сацыяльна-эканамічнае аблічча Палесся, меліярацыйную будоўлю, работу перадавых сельскагаспадарчых і прамысловых прадпрыемстваў. Планавалася адкрытая пляцоўка для паказу прылад працы, якія ўжываліся пры меліярацыі з часоў асваення Палесся чалавекам.

У другой палове 1980-х гг. пачаліся грунтоўныя змены ў рабоце Пінскага музея. Быў выпрацаваны новы тэматыка-экспазіцыйны план, у якім адсутнічала апалагетыка пераўтварэнняў, што праводзіліся на Палессі ў пасляваенны перыяд. Навуковыя супрацоўнікі ўпершыню звярнуліся да вывучэння гарадскога побыту. У сем’ях старых пінчан, у старажылаў колішніх мястэчак удалося прыдбаць разнастайныя рэчы хатняга ўжытку, асобныя дэталі інтэр’ераў, адзенне. А ў лістападзе 1990 г. па ініцыятыве супрацоўнікаў Пінскага музея ён быў перайменаваны ў ***Музей Беларускага Палесся***.

Узнікненне ***Крычаўскага раённага краязнаўчага музея*** звязана з імем ***М. Ф. Мельнікава***[1]. Вывучаць родны край, збіраць помнікі мінуўшчыны

[1] Мельнікаў Міхаіл Фёдаравіч (1921—1993), беларускі музейны дзеяч, краязнавец, нарадзіўся ў Крычаве, вучыўся ў БДУ. У 1939 г. беспадстаўна рэпрэсіраваны, асуджаны на 5 гадоў зняволення ў ГУЛАГу. У 1950 г. вярнуўся на радзіму, працаваў у бібліятэцы, Доме культуры. Адначасова збіраў матэрыялы па гісторыі Крычаўшчыны і яе ўраджэнцаў з мэтай стварэння мясцовага музея, стваральнікам і дырэктарам якога быў у 1961—1982 гг. (з 1982 г. — навуковы супрацоўнік). Заслужаны работнік культуры БССР, аўтар шэрагу кніг, нарысаў, сцэнарыяў дакументальных фільмаў.

ён пачаў яшчэ юнаком у 1930-я гг., калі разам з бацькам, тэхнікам па сельскім будаўніцтве, ездзіў па Магілёўшчыне. Усё сабранае юным калекцыянерам загінула разам з бацькоўскім домам, спаленым падчас вайны. Пасля вяртання на радзіму М. Ф. Мельнікаў прыняў рашэнне аднавіць і пашырыць сваю калекцыю дзеля стварэння на яе падмурку мясцовага музея. На працягу 1950-х гг. наведваў бібліятэкі, архівы, музеі Магілёва, Мінска, Масквы, знаёміўся з вучонымі, журналістамі, пісьменнікамі, дзяржаўнымі дзеячамі, якім даводзілася працаваць, ваяваць на Крычаўшчыне. Яны дапамагалі даследаваць падзеі і факты, звязаныя з гісторыяй краю, высветліць іх узаемасувязі з агульнай гісторыяй краіны. Павелічэнню калекцыі спрыялі мясцовыя краязнаўцы, якія гуртаваліся вакол будучага музея. З іх дапамогай новыя прадметы праходзілі першасны ўлік — рэгістраваліся і сістэматызаваліся, некаторыя з іх зрабіліся аб'ектам вувучэння. Усе матэрыялы для будучага музея М. Ф. Мельнікаў набываў за ўласныя сродкі, часта адмаўляючы сабе ў неабходным. «Старэнькі пінжак, паношаныя чаравікі, выцвілая сарочка — многім менавіта такім запомніўся Міхаіл Фёдаравіч у тую пару» — сведчыў сучаснік.

Напачатку 1960-х гг. колькасць сабраных прадметаў і дакументаў дазволіла ўзняць пытанне аб адкрыцці на іх аснове мясцовага музея. Але ўжо пасля першых хадайніцтваў М. Ф. Мельнікаў сутыкнуўся з абыякавасцю і непаразуменнем улад. Многія лічылі яго дзіваком. Тым не менш энтузіязм і ўпартасць краязнаўца дазволілі дасягнуць поспеху. Крычаўскі дзяржаўны раённы краязнаўчы музей быў адкрыты 15 кастрычніка 1961 г. у невялікім аднапавярховым драўляным будынку паблізу ракі Сож. Пасля пераўтварэння музея ў грамадскі на працягу 1962—1964 гг. М. Ф. Мельнікаў працаваў адзін, не атрымліваючы аніякага заробку. За гэты час яму прыходзілася не толькі папулярызаваць калекцыі (напрыклад, у 1964 г. музей агледзела больш за 40 тыс. чалавек), але ажыццяўляць іх ахову, у т. л. ад сваіх мінскіх калег, якія планавалі далучыць крычаўскія калекцыі да фондавага збору Арггрупы па стварэнні Дзяржмузея БССР[1]. Летам 1964 г. М. Ф. Мельнікаў, даведзены да адчаю, звярнуўся з лістом да М. С. Хрушчова, дзе пісаў аб агульным заняпадзе беларускай культуры, пагардлівых адносінах улад да музеяў,

[1] Гэта была вымушаная мера з боку кіраўніцтва Арггрупы і, напэўна, адзіны спосаб выратаваць калекцыі музея, якія страцілі дзяржаўны статус. Напрыклад, пасля пераводу на грамадскія пачаткі Слуцкага музея яго фондавы збор быў звалены ў невялікім пакоі ў мясцовым Доме культуры, калекцыі Рэчыцкага музея перадалі ў гарадскі школу-інтэрнат, адкуль яны былі перавезены ў фондасховішча Арггрупы.

скарачэнні іх колькасці і пераводзе на грамадскія пачаткі. З падобнымі лістамі М. Ф. Мельнікаў звяртаўся ў Міністэрства культуры БССР, а яго справаздачы, якія ён рэгулярна дасылаў у Мінск, больш нагадвалі планы разгортвання музейна-краязнаўчай работы ў рэспубліцы.

Пасля вяртання дзяржаўнага статуса ў 1965 г. развіццё Крычаўскага музея працягвалася. Яго экспазіцыя дазваляла наведвальнікам скласці ўражанне аб мінуўшчыне і прыродзе Крычаўшчыны. Экспазіцыйны аповед пачынаўся з дэманстрацыі матэрыялаў археалагічных раскопак, у т. л. Крычаўскага замка. З этнаграфічнай калекцыі было прадстаўлена народнае адзенне, прылады працы і побыту канца XIX — пачатку XX ст., узоры прыкладнога мастацтва. Асобныя комплексы распавядалі пра ўдзел беларусаў у Грунвальдскай бітве 1410 г., казацкія войны сярэдзіны XVII ст., падзеі Паўночнай вайны 1700—1721 гг., Крычаўскае паўстанне першай паловы XVIII ст., дзейнасць Крычаўскай суднаверфі ў XVIII ст., удзельнікаў народніцкага і сацыял-дэмакратычнага рухаў. Да ўнікальных помнікаў музея адносіліся крычаўскі звон, адліты мясцовымі ліцейшчыкамі з бронзы ў 1748 г., крычаўская кераміка XV—XX стст. — выраблены з чырвонай гліны паліваны сталовы посуд, кафля, дэкаратыўныя архітэктурныя ўпрыгожанні, вазы, цацкі, якія вылучаліся высокім узроўнем тэхналогіі вытворчасці, і інш.

Праводзячы экскурсіі па сваім музеі, М. Ф. Мельнікаў добра разумеў, што ніякі падручнік па гісторыі не ў стане спаборнічаць з арыгінальнымі помнікамі ні па ўзроўні эмацыянальнага ўздзеяння, ні па трываласці захоўвання ў памяці гістарычных фактаў. Яго бліскучыя экскурсіі былі вынікам паглыбленага вывучэння першакрыніц і з дапамогай розных прыёмаў вучылі разумець «мову» рэчаў. Кожная яго музейная экскурсія, вечарына на прадпрыемстве альбо ў школе, лекцыя ў вёсцы мелі індывідуальны характар і карысталіся нязменным поспехам.

У лістападзе 1978 г. паводле распараджэння Гомельскага аблвыканкама у былым купецкім асабняку XIX ст. быў заснаваны ***Веткаўскі музей-народнай-творчасці***. Як вядома, Ветка, закладзеная старaверамі ў 1685 г., хутка стала буйным рэлігійным і эканамічным цэнтрам рускага расколу і ўяўляла буйное пасяленне з самакіраваннем, шырокімі гандлёвымі сувязямі, акружанае шматлікімі слабодамі, манастырамі і скітамі. Яны былі цэнтрамі пашырэння пісьменства, развіцця мастацтва іканапісу. Тут жа сфарміравалася самабытная школа веткаўскай разьбы, у якой спалучыліся мясцовыя беларускія і рускія традыцыі народнага архітэктурнага дэкору.

У падмурак музея была пакладзена прыватная калекцыя мясцовага таленавітага мастака, разьбяра па дрэве, чаканшчыка, пераплётчы-

*Ф. Р. Шкляраў, дырэктар Веткаўскага музея народнай творчасці —* 1981 г.



ка, ткача Ф. Р. Шклярава[1], які стаў першым дырэктарам музея. На працягу дзесяцігоддзяў з ранняй вясны да глыбокай восені ён абыходзіў вёскі Гомельшчыны і ніколі не вяртаўся з пустымі рукамі. Хуткаму павелічэнню калекцый Ф. Р. Шклярава спрыялі не толькі яго апантанасць і настойлівасць, але такія якасці, як такт і абаяльнасць. З цягам часу да экспедыцый Ф. Р. Шклярава далучыліся яго першыя супрацоўнікі Г. Р. Нячаева і С. І. Лявонцьева. Створаная імі самабытная арыгінальная экспазіцыя, адкрытая для агляду 1 лістапада 1987 г., адразу ж атрымала высокую ацэнку спецыялістаў і шырокай публікі. «Цудоўны свет, калі ў ім ёсць такія апантаныя людзі, захавальнікі і збіральнікі старажытнасцей, як у музеі г. Веткі» — пакінуў у кнізе водгукаў свае ўражанні ад убачанага пісьменнік Н. Гілевіч.

Да найбольш каштоўных калекцый «веткаўскай жамчужыны» адносіліся старадрукі XVI—XVIII стст., у т. л. «Евангелле вучыцельнае» І. Фёдарава і П. Мсціслаўца (Заблудаў, 1569), «Апостал» І. Фёдарава (Львоў, 1574), «Евангелле» П. Мсціслаўца (Вільня, 1575), кнігі В. Гарабурды (Вільня, друкарня Мамонічаў), А. і І. Нявежаў (Масква, друкарні Бурцава і Фофанава, першая палова XVII ст.), «Евангелле» А. Радзішэўскага (Масква, 1606), выданні XVIII ст. з Куцеінскай друкарні; рукапісныя кнігі XVI—XX стст., пераважна рукапісы крукавога нотнага пісьма; абразы і прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва работы мясцовых

---

[1] Шкляраў Фёдар Рыгоравіч (1925—1988) нарадзіўся ў Ветцы, паходзіў з сям'і старавераў, працаваў у мясцовым клубе мастаком-афарміцелем. На працягу 1950—70-х гг. сабраў гісторыка-мастацкую калекцыю, на аснове якой у 1978 г. быў адкрыты Веткаўскі музей народнай творчасці. Спачатку ён займаў пасаду грамадскага дырэктара музея, а пасля таго, як Веткаўскі музей набыў статус дзяржаўнага, узначальваў яго на прафесійнай аснове.



***Будынак Браслаўскага раённага гістарычна-краязнаўчага музея*** — 1989 г.

майстроў-стараавераў рознага часу, у тым ліку Р. Рагаткіна (іканапіс), Р. Свяшчэннікава (чаканка), М. Смірновай (шыццё бісерам), П. Кастылёва (разьба па дрэве); традыцыйнае і сучаснае ткацтва — ручнікі, абрусы і хусткі з в. Неглюбка і пас. Рэпішча; традыцыйныя строі Веткаўскага раёна.

Правядзенне выставаў у гарадах рэспублікі і за яе межамі, выпуск каталогаў, удзел у тэлеперадачах — вось няпоўны пералік дзейнасці супрацоўнікаў музея па папулярызацыі сабраных унікальных помнікаў. На пачатку 1960-х гг. у Веткаўскім музеі пачалася распрацоўка і рэалізацыя комплекснай адукацыйнай праграмы «Аз буки веди — глаголь добро», якая знаёміла школьнікаў з гісторыяй, тэхналогіяй, духоўнай сутнасцю народнага ткацтва, семантыкай народнага арнаменту. Гэта праграма з'явілася лагічным завяршэннем усёй канцэпцыі музея, накіраванай на ўзнаўленне рознабаковых сувязей сучаснага чалавека з традыцыйнай культурай.

Важны цэнтр па адраджэнні рэгіянальнай культуры — ***Браслаўскі раённы гістарычна-краязнаўчы музей*** на працягу другой паловы 1980-х гг. з'явіўся ў адным з турыстычных цэнтраў Беларусі. Гэтыя гады былі часам напружанай збіральніцкай працы. Навуковы супрацоўнік К. С. Шыдлоўскі штогод праводзіў да 100 выездаў па камплектаванні фондавага збору музея. У 1988 г. экспазіцыя Браслаўскага музея, размешчаная ў будынку былой прыватнай друкарні, прыняла першых наведвальнікаў. Яе аснову склалі экспанаты, якія адлюстроўвалі найважнейшыя старонкі гісторыі горада і краю, а таксама знаёмілі з традыцыйнымі для Браслаў-

шчыны відамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. У адрозненне ад большасці музеяў БССР гэтага профілю ў экспазіцыі адсутнічалі тагачасныя ідэалагічныя клішэ, напрыклад не было раздзелу дасягненняў сацыялістычнага будаўніцтва. З цягам часу музей узбагаціўся цікавымі археалагічнымі матэрыяламі, этнаграфічным комплексам «Куток сялянскай хаты», а таксама манаграфічнымі экспазіцыйнымі комплексамі, прысвечанымі выдатным землякам — П. Сергіевічу, С. Нарбуту і інш.

Браслаўскі музей вылучаўся сярод іншых краязнаўчых музеяў рэспублікі таксама высокім узроўнем навукова-даследчай работы. Супрацоўнікі музея выступілі арганізатарамі і ўдзельнічалі ў вывучэнні неалітычнай стаянкі Дубкі (1988), гарадзішчаў Маскавічы (1988), Браслава (1989—1990), Дрысвят (1991), бескурганнага могільніка Пашавічы (1991). З 1989 г. у музеі пачалі праводзіцца міжнародныя краязнаўчыя канферэнцыі «Браслаўскія чытанні», у якіх удзельнічалі навукоўцы з Мінска, Гродна, Масквы, Пецярбурга, Польшчы. Выдаваліся краязнаўчыя зборнікі «Браслаўскія сшыткі». Супрацоўнікі музея падрыхтавалі і выдалі дапаможнік па гісторыі для настаўнікаў раёна, апублікавалі дзясяткі артыкулаў у выданнях навуковага і даведачнага характару.

Разнастайнасцю адрозніваліся формы адукацыйна-асветніцкай работы Браслаўскага музея. Не абмяжоўваючыся экскурсійным абслугоўваннем насельніцтва, музей прапанаваў школам раёна правядзенне музейных урокаў, лекцый, быў створаны клуб юных краязнаўцаў. Поспехам у браслаўчан карысталіся выставы «Калядныя ўзоры», «Жанчына сярод кветак» і інш. Неад'емнай часткай работы стала дапамога школам у стварэнні грамадскіх музеяў. Яшчэ адным важным напрамкам дзейнасці было адраджэнне і развіццё народнай творчасці. З 1986 г. пры музеі працавала творчае аб'яднанне майстроў і самадзейных мастакоў «Ля возера», якое пазней стала падмуркам арганізацыі «жывога» музея рамёстваў. Распрацоўваліся планы стварэння падобных музеяў — карчмы і заезнага двара. Планавалася адкрыццё музея прыроды і этнаграфіі, музея традыцыйнай культуры. Пашырэнне фондавага збору Браслаўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, у якім налічвалася 15 тыс. прадметаў, аб'яднаных у 16 калекцый, а таксама ўключэнне ў сферу яго дзейнасці шэрагу новых аб'ектаў узняло пытанне аб статусе, які павысіўся ў снежні 1995 г., калі Віцебскі аблвыканкам прыняў рашэнне аб стварэнні Браслаўскага раённага аб'яднання музеяў.

Прыклады творчых адносін да вывучэння і папулярызацыі гістарычна-культурнай і прыроднай спадчыны давалі новыя ***музеі раённага падпарадкавання: Горацкі гістарычна-этнаграфічны***, ***Мсціслаўскі гісторыка-археалагічны***, ***народнай творчасці ў Моталі*** і некаторыя інш. Але большасць раённых краязнаўчых музеяў існавала ў цяжкіх матэрыяльна-тэхнічных умовах, што стрымлівала іх далейшае развіццё. У непрыстасаваных

маленькіх будынках без гардэроба, месцаў агульнага карыстання, з пячным ацяпленнем туліліся ***раённыя краязнаўчыя музеі ў Бешанковічах***, ***Вілейцы***, ***Гарадку***, ***Ельску***, ***Капылі***, ***Клецку***, ***Лунінцы***, ***Любані***, ***Пухавічах***, ***Рагачове***, ***Шуміліне*** і інш. Дырэктар Баранавіцкага краязнаўчага музея ў справаздачы за 1983 г. канстатаваў: «Трэба адзначыць, што ўмовы захавання ніяк не адпавядаюць інструкцыям. Музейныя прадметы захоўваюцца ў неверагодна дрэнных умовах. 40,8 тыс. адзінак захоўвання знаходзяцца ў пакоі плошчай 30 м$^2$». У тым жа годзе дырэктар аднаго са старэйшых краязнаўчых музеяў Беларусі ў Бабруйску наступным чынам вызначыў перашкоды, якія стрымлівалі развіццё яго ўстановы: «1. Малая экспазіцыйная плошча. 2. Недахоп фондавых памяшканняў. 3. Адсутнасць лекцыйнай залы. 4. Адсутнасць аўтатранспарату. 5. Адсутнасць гардэроба».

Не толькі цяжкасці матэрыяльна-тэхнічнага характару перашкаджалі развіццю раённых краязнаўчых музеяў. Сур’ёзныя нараканні з боку грамадскасці выклікала іх экспазіцыйная практыка. Пісьменніца С. Алексіевіч у сваім нарысе «...І ўбачаць нас» з расчараваннем пісала: «Як шкада, што можна з зачыненымі вачыма арыентавацца ў многіх раённых музеях, так яны падобныя адзін да аднаго. Ну, канешне, у цэнтры пакоя на высокай падстаўцы вы ўбачыце дзясятак пераходзячых чырвоных вымпелаў, сцяжкоў, якімі ўзнагароджваюць ударнікаў. Але, калі зацікавіцеся гісторыяй гэтых экспанатаў, дык высветліцца, што яны безыменныя... А так хацелася б даведацца аб чалавечых лёсах, імёнах, якія стаяць за гэтымі вымпеламі і сцяжкамі! У музеях шмат узораў мясцовай прамысловасці: кофтачкі, сукенкі, абутак... Складаецца ўражанне нібыта стаіце вы перад вітрынай крамы. А ці з такім пачуццем мы павінны сыходзіць з музея?».

Пераважная большасць грамадскіх школьных музеяў БССР, таксама як і дзяржаўных, мела краязнаўчы профіль. Адзін з першых школьных краязнаўчых музеяў рэспублікі быў створаны ў ***Юравіцкай сярэдняй школе Калінкавіцкага раёна*** і з’явіўся вынікам краязнаўчай работы настаўнікаў і вучняў, якая праводзілася з сярэдзіны 1950-х гг. Экспазіцыя музея складалася з наступных раздзелаў: 1) археалогія; 2) этнаграфія; 3) нумізматыка; 4) прырода; 5) гісторыя мясцовага калгаса. Найбольш каштоўны быў першы раздзел, што тлумачылася знаходжаннем побач з в. Юравічы групы археалагічных помнікаў, якія ў 1960—1965 гг. даследаваў дырэктар школы, будучы вядомы даследчык гісторыі першабытнага ладу ў Беларусі У. Ф. Ісаенка. Пад яго ж кіраўніцтвам быў напісаны летапіс вёскі ў двух тамах. Музей Юравіцкай сярэдняй школы з’яўляўся метадычным цэнтрам, дзе рэгулярна праводзіліся краязнаўчыя семінары з удзелам прадстаўнікоў розных культурна-асветніцкіх і адукацыйных устаноў Гомельскай вобласці.

На пачатку 1960-х гг. актыўную дзейнасць разгарнулі таксама краязнаўчыя музеі школ № 54 і 60 г. Мінска, дрысенскай сярэдняй школы № 2 Віцебскай, мар'інагорскай сярэдняй школы № 2 Мінскай, Валеўскай сярэдняй школы Гродзенскай, пружанскай сярэдняй школы № 2 Брэсцкай абласцей і інш.

## 3.2. ГІСТАРЫЧНЫЯ МУЗЕІ

Усе музеі гістарычнага профілю, што існавалі ў БССР, падзяляліся на ваенна-гістарычныя, гістарычна-рэвалюцыйныя, гістарычна-рэлігійныя, этнаграфічныя, археалагічныя і гістарычна-манаграфічныя. Важнымі сховішчамі і папулярызатарамі рухомай і нерухомай спадчыны Беларусі былі гісторыка-культурныя музеі-запаведнікі.

З'яўленне буйнейшага ваенна-гістарычнага музея БССР — ***Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны*** звязана з Пастановай ЦК КП(б)Б ад 2 чэрвеня 1942 г. аб стварэнні ў Маскве рэспубліканскай Камісіі па зборы дакументаў і матэрыялаў Айчыннай вайны. Старшынёй Камісіі быў прызначаны сакратар ЦК КП(б)Б па прапагандзе Ц. С. Гарбуноў, яе адказным сакратаром — В. Д. Стальноў, які пазней стаў першым дырэктарам музея. Галоўнымі крыніцамі паступленняў матэрыялаў у Камісію былі камандзіроўкі яе супрацоўнікаў у вайсковыя часці, партызанскія фарміраванні, на эвакуіраваныя беларускія прадпрыемствы. Яны прывозілі лісты з франтоў, інфармацыю аб баявых дзеяннях партызан, падпольныя газеты і часопісы, лістоўкі, фотаздымкі і інш. Вялікую ролю ва ўзбагачэнні калекцый адыграла т. зв. Віцебская (Суражская) «брама». Супрацоўнікі Камісіі накіроўваліся праз яе ў нямецкі тыл для збору матэрыялаў. Пасля ліквідацыі брамы, гэта работа праводзілася з дапамогай ваенна-транспартнай авіяцыі. Паводле ўспамінаў удзельнікаў тых падзей, пасля вяртання самалётаў з нямецкага тылу на лётнае поле выходзілі супрацоўнікі Камісіі, стэнаграфісткі, каб, не губляючы часу, запісаць аповеды пілотаў і партызан.

Вынікі першых шасці месяцаў дзейнасці Камісіі былі прадстаўлены на выставе «Беларусь жыве, Беларусь змагаецца, Беларусь была і будзе Савецкай», якая адкрылася ў пачатку лістапада 1942 г. у Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве. Яе дырэктарам прызначылі былую супрацоўніцу Дзяржаўнай мастацкай галерэі ў Мінску А. В. Аладаву. Выстава складалася з пяці раздзелаў, 313 экспанатаў якой адлюстроўвалі партызанскі рух, удзел беларусаў у баях на франтах, а таксама тылавой працы.

У верасні 1944 г. у Мінск перавезлі выставу «Беларусь жыве...», якая стала асновай першай экспазіцыі Белдзяржмузея Вялікай Айчыннай

вайны. Падчас прыбыцця ў Мінск экспанатаў выставы ЦК КП(б)Б у верасні 1943 г. ужо прыняў рашэнне аб стварэнні ў сталіцы БССР музея па гісторыі барацьбы беларускага народа з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Работу па падрыхтоўцы да адкрыцця музея курыраваў асабіста старшыня СНК БССР П. К. Панамарэнка. Музею перадалі адзіны з лепшых ацалеўшых у Мінску будынкаў — Дом прафсаюзаў на плошчы Свободы, надалі 1-ю катэгорыю, зацвердзілі штатную структуру ў памеры 167 чалавек[1]. У адміністрацыйных і гаспадарчых адносінах ён падпарадкоўваўся Упраўленню па справах мастацтваў пры СНК БССР, у ідэалагічным — ЦК КП(б)Б. Дырэктарам музея быў прызначаны В. Д. Стальноў (ужо ў 1946 г. яго змяніў былы дырэктар Музея рэвалюцыі БССР М. Я. Гракаў).

Увосень 1944 — вясной 1945 гг. былі чатыры камандзіроўкі па зборы экспанатаў на фронт, дзве ў Польшчу, дзве ў Берлін, з вынікам у тысячу каштоўных прадметаў. Адначасова актыўныя пошукі вяліся на тэрыторыі БССР. Атмасферу, якая панавала ў калектыве музея ў тыя дні, перадаюць успаміны навуковага супрацоўніка П. М. Ганчарова: «Дамовіліся напачатак арганізаваць выставу “Узбраенне беларускіх партызан”. Але дзе ўзяць экспанаты? Партызанскія атрады раззброіліся пад Мінскам, у Лошыцы. Я, прызначаны начальнікам партызанскага аддзела музея, накіраваўся да прадстаўніка штаба партызанскага руху... Дазвол атрымаў. Але як даставіць усю гэтую зброю ў Мінск? Стаў шукаць у горадзе грузавыя машыны. Каюся: угаворваў вадзіцеля зрабіць незаконны рэйс. А што было рабіць? Разлічваўся са свайго рэчавага мяшка. Так, так! Перад тым як раз атрымаў заробак — амаль за палову сорак першага года, за сорак другі, сорак трэці і за паўгода сорак чацвёртага. Амаль цэлы мяшок грошай. Дык вось першыя буйныя сумы выдаткаваў на аплату транспарту, які даставіў з Лошыцы ў музей вінтоўкі, кулямёты, самаробныя міны, гарматы, адрамантаваныя ў лясных майстэрнях, трафейныя аўтаматы».

22 кастрычніка 1944 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Экспазіцыя ў выглядзе дзвюх выставаў «Узбраенне беларускіх партызан» і «Бальшавіцкі друк Беларусі ў дні Вялікай Айчыннай вайны» была размешчана ў 15 адрамантаваных сіламі былых партызан залах. Адначасова з адкрыццём музея ў раёне

---

[1] Маштабы гэтага праекта асабліва ўражваюць на фоне галечы і разрухі першых пасляваенных гадоў. На думку аўтараў праекта, акрамя навуковага і адміністрацыйна-тэхнічнага персаналу музей павінен быў мець уласныя камендатуру, сакрэтную частку, ваенізаваную ахову і, нарэшце, уласную гаспадарку. З 1948 г. пачаліся скарачэнні штатаў, прычым першымі ахвярамі станавіліся супрацоўнікі, якія знаходзіліся на акупіраванай тэрыторыі альбо рэпрэсіраваныя органамі дзяржбяспекі.



***Адкрыццё экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны***
1944 г.

Дома Чырвонай арміі была разгорнута Рэспубліканская выстава ўзораў трафейнага ўзбраення, сабранага на месцы баёў у мінскім і бабруйскім «катлах». Яна складалася з чатырох раздзелаў — артылерыйскага, танкавага, авіяцыйнага і інжынернага, экскурсіі па якіх праводзілі афіцэры — удзельнікі аперацыі «Баграціён». У 1948 г. выстава трафейнага ўзбраення была дэманціравана.

Пасля адкрыцця музея працягвалася інтэнсіўнае павелічэнне яго калекцый. Ішлі актыўныя паступленні ад Камісіі па зборы дакументаў і матэрыялаў Вялікай Айчыннай вайны, Беларускага штаба партызанскага руху, прыватных асоб, установ і арганізацый. На аснове гэтых паступленняў 1 мая 1947 г. была адкрыта першая стацыянарная экспазіцыя, якая складалася ўжо з шасці раздзелаў: 1) гістарычнае развіццё беларускага народа; 2—3) Вялікая Айчынная вайна; 4) партызанскі рух у Беларусі; 5) вызваленне Беларусі; 6) узнаўленне народнай гаспадаркі і культуры Савецкай Беларусі. З гэтай структуры вынікае, што ў адсутнасці БДМ кіруючыя органы імкнуліся ўскласці на Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны яго функцыі. Але, улічваючы склад фондавых калекцый і задачы новага ваенна-гістарычнага музея, стварыць у ім экспазіцыю па гісторыі Беларусі было немагчыма.

Адразу ж пасля адкрыцця новая экспазіцыя стала аб'ектам крытыкі Упраўлення агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б. Ад кіраўніцтва музея патрабавалі зняць тэму «Другі фронт», скараціць паказ матэрыялаў аб масавым знішчэнні яўрэяў у мінскім гета. Адначасова экспазіцыю крытыкавалі за схематычны паказ падзей на франтах вайны, даваеннай гісторыі Беларусі, а таксама першых пасляваенных гадоў. У 1948—1949 гг.



***У адной з залаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны*** 1954 г.

амаль ва ўсе залы Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны былі ўнесены праўкі. Адначасова прыводзілася ў парадак фондавая «гаспадарка» музея. Наладжваліся сувязі з прадпрыемствамі і вучэбнымі ўстановамі горада. Новы імпульс развіццю музея павінен быў надаць створаны ў 1950 г. савет музея, куды ўвайшлі 26 прадстаўнікоў навуковых і грамадскіх устаноў, а таксама музеяў горада. За першыя дзесяць гадоў існавання музей сабраў каштоўныя калекцыі, агульная колькасць якіх склала каля 60 тыс. адзінак захоўвання. За той жа час яго экспазіцыі агледзела звыш 600 тыс. чалавек.

У перыяд «адлігі», як і ў папярэдняе дзесяцігоддзе, кіраўніцтва музейнай галіной рэспублікі надавала асноўную ўвагу раскрыццю ваенна-патрыятычнай тэматыкі. Гэта задача ўскладалася перш за ўсё на музеі ваенна-гістарычнага профілю, буйнейшым з якіх быў Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У чэрвені 1964 г. яму перадалі новы будынак на вул К. Маркса, 12, дзе ў сціслыя тэрміны супрацоўнікі зманціравалі экспазіцыю, адкрыццё якой было прымеркавана да святкавання 20-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі. Экспазіцыя мела часовы характар — планавалася ў хуткім часе правесці рэканструкцыю будынка. У ёй ужо адсутнічалі агульныя матэрыялы па гісторыі Беларусі, яны адышлі ў фонды Дзяржмузея БССР. У той жа час з’явіліся матэрыялы аб падзеях на іншых тэатрах баявых дзеянняў Другой су-

*Будынак Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны*




светнай вайны. Нечакана пасля адкрыцця новай экспазіцыі Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на вул. К. Маркса, 12, партыйнае кіраўніцтва рэспублікі прыняло рашэнне аб перадачы яму новага будынка Дзяржаўнага музея БССР на праспекце Леніна, 25а. Там 20 лютага 1966 г. адкрылася для агляду экспазіцыя на першым паверсе (мастак — М. Кірылаў). А ў лістападзе 1967 г. была адкрыта ўся экспазіцыя музея.

Перыяд з 1969 па 1974 г. быў часам вельмі напружанай працы, калі творчым калектывам пад кіраўніцтвам дырэктара П. С. Лавецкага[1], намесніка па навуковай рабоце У. А. Гілепа, мастака А. Кроля былі пераároблены ўсе экспазіцыйныя тэмы на трох паверхах музея. У чэрвені 1969 г. была адкрыта мемарыяльная зала В. І. Казлова. Праз два гады мастакі П. Крохалеў, Б. Аракчэеў, У. Лагун, Л. Асядоўскі стварылі дыяраму «Мінскі “кацёл”» (першапачаткова з мэтай яе размяшчэння планавалася ўзвесці спецыяльную прыбудову да музея). У 1973 г. супрацоўнікі аддзела гісторыі партызанскага руху пад кіраўніцтвам Р. А. Чарнаглазавай выканалі экспазіцыі ўсіх залаў, прысвечаных гісторыі партызанскага

[1] Лавецкі Пётр Спірыдонавіч (1917—2003) — музейны дзеяч. Нарадзіўся ў Жлобіне, пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. З лістапада 1942 г. — радавы, намеснік камандзіра па разведцы, начальнік штаба партызанскага атрада «Буравеснік» Мінскай вобласці, член Мінскага падпольнага райкама ЛКСМБ. Са жніўня 1944 г. па пуцёўцы Беларускага штаба партызанскага руху на працы ў Белдзяржмузеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Займаў пасады загадчыка аддзела, намесніка дырэктара па навуковай рабоце, дырэктара (1968—1982), з 1982 г. на пенсіі. Заслужаны работнік культуры БССР.




*Мемарыяльны комплекс «Хатынь»*

руху. У 1975 г. перабудаваны экспазіцыі залаў Перамогі і гарадоў-герояў. У выніку гэтага з'явілася стацыянарная экспазіцыя, якая праіснавала з невялікімі зменамі да канца савецкага перыяду і карысталася вялікай папулярнасцю сярод наведвальнікаў. Важнай падзеяй у жыцці музея было адкрыццё 3 ліпеня 1977 г. пляцоўкі цяжкага ўзбраення. Вялікае ўражанне на гледачоў пакідала зала, дзе з 1980 г. дэманстравалася серыя жывапісных работ М. Савіцкага «Лічбы на сэрцы».

Працэс стварэння філіялаў Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны пачаўся 29 кастрычніка 1965 г., калі быў адкрыты Музей камсамольскага падполля ў пас. Обаль Віцебскай вобласці. Экспазіцыя, якая расказвала аб дзейнасці ў 1942—1943 гг. Обальскага камсамольска-маладзёжнага падполля «Юныя мсціўцы», была змантавана ў сціслыя тэрміны супрацоўнікамі музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на чале з яго дырэктарам С. Р. Шчуцкім. Адкрывала музей былы сакратар Обальскай падпольнай камсамольскай арганізацыі Е. С. Зянькова.

5 ліпеня 1969 г. адкрыліся два новыя філіялы Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Курган Славы. Узнавіць гісторыю гібелі Хатыні дапамагла газета Плешчаніцкага камуністычнага падполля, дзе ў 1943 г. быў надрукаваны артыкул пад назвай «Запомні! Адпомсці!», які стаў дакументальным помнікам хатынскай трагедыі. У студзені 1966 г. ЦК КПБ прыняў пастанову аб стварэнні на месцы былой вёскі Хатынь мемарыяльнага комплексу ў памяць соцень беларускіх вёсак, знішчаных у гады нямецкай акупацыі. Распрацоўка комплексу была даручана скульптару С. Селіханаву, а таксама архітэктарам Ю. Градаву, В. Занковічу, Л. Левіну. У аснову мемарыяла была пакладзена планіроўка даваеннай вёскі. Высвятляліся месцазнаходжанне і спосабы



*Курган-Славы*

мемарыялізацыі пад'язных шляхоў, жылых дамоў, калодзежаў, адрыны, у якой спалілі людзей, іх брацкай магілы. У цэнтры комплексу было вырашана ўсталяваць бронзавую скульптуру Няскоранага чалавека з забітым хлопчыкам на руках. Гэта задума была здзейснена да канца 1968 г. Аднак вялікая колькасць наведвальнікаў у першыя месяцы работы мемарыяла выклікалі пашырэнне канцэпцыі. У выніку стварэння другой чаргі мемарыяла з'явіліся могілкі спаленых вёсак, комплекс адроджаных вёсак, сцяна жалобы вязняў нацысцкіх канцлагераў і Вечны агонь. Мемарыяльны камплекс «Хатынь» праіснаваў у якасці філіяла да сакавіка 1991 г., пасля чаго набыў статус самастойнай установы.

Курган Славы быў узведзены па праекце скульптараў А. Бембеля, А. Арцімовіча і архітэктараў А. Стаховіча, Л. Міцкевіча, В. Лапцэвіча на 21-м км шашы Мінск — Масква ў гонар подзвігу воінаў 1-, 2-, 3-га Беларускага і 1-га Прыбалтыйскага франтоў у Беларускай аперацыі 1944 г. Цырымонія закладкі Кургана Славы адбылася 30 верасня 1966 г. з удзелам прадстаўнікоў Масквы, Ленінграда, Валгаграда, Севастопаля, Адэсы, Кіева, Брэста і Мінска. Пасля завяршэння будаўнічых работ, якія працягваліся амаль тры гады, Курган Славы ўяўляў складанае інжынерна-архітэктурнае збудаванне, вышыня якога складала 35 метраў. На яго вяршыні былі ўмацаваны чатыры штыкі-абеліскі, якія сімвалізавалі франты, што вызвалялі Беларусь, ніжнюю частку ўпрыгожвалі мазаічныя выявы савецкіх ордэнаў. Да агляднай пляцоўкі на вяршыні Кургана вялі дзве лесвіцы.

У ліпені 1981 г. адкрыўся яшчэ адзін філіял музея, прысвечаны баявой садружнасці беларускіх, рускіх, латышскіх і літоўскіх партызан у пас. Расоны Віцебскай вобласці. Структура філіяла выглядала наступ-

ным чынам: першая зала была прысвечана станаўленню савецкай улады на Расоншчыне, апошняя зала — кіраўніку Расонскага патрыятычнага падполля П. М. Машэраву, астатнія адзінаццаць залаў раскрывалі падзеі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Акцэнт у экспазіцыі быў зроблены на сумеснай барацьбе народаў СССР супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яшчэ адзін, апошні, філіял музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрыўся ў маі 1984 г. у г. п. Лоеў Гомельскай вобласці пад назвай «Музей бітвы за Дняпро». У снежні 1989 г. расонскі і лоеўскі філіялы былі пераўтвораны ў самастойныя музеі.

Пік цікавасці публікі да музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прыпаў на 1975 г., калі яго агледзела 533,5 тыс. чалавек. У тым жа годзе ў Хатыні пабывала 1700 тыс. чалавек, што зрабіла яе найбольш папулярным музейным аб'ектам у рэспубліцы. На працягу 1970—80-х гг. дзясяткі тысяч людзей аглядала выставы музея, якія экспанаваліся ў Польшчы, Нікарагуа, Францыі, Японіі, Вьетнаме, Нідэрландах, Югаславіі, Чэхаславакіі, ГДР, ФРГ, Аўстраліі. У 1975 г. агульная колькасць фондавых калекцый склала 127 255 адзінак захоўвання і яшчэ ўсё павялічвалася. У фондах музея працавалі сотні даследчыкаў, матэрыялы прадастаўляліся выдавецтвам, кінастудыям, абласным і раённым музеям. Было выдадзена больш за 80 даведнікаў, альбомаў, буклетаў, каталогаў, метадычных рэкамендацый і інш.

Дэмакратызацыя грамадскага жыцця ў краіне, перагляд вузлавых момантаў савецкай гісторыі, у т. л. перыяду Другой сусветнай вайны, абумовілі з'яўленне ў сакавіку 1988 г. Пастановы ЦК КПБ аб абнаўленні экспазіцыі Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У адпаведнасці з ім супрацоўнікі распачалі выпрацоўку новых агульных падыходаў да ацэнкі падзей і фактаў вайны, у т. л. прычын адступлення ў першыя дні, новых крытэрыяў паказу персаналій, імкнуліся надаць экспазіцыі навуковасць і праўдзівасць, пазбегнуць аднастайнасці ў паказе ўдзельнікаў вайны.

Другі беларускі ваенна-гістарычны музей з'явіўся ў Кобрыне, калі ў 1946 г. урад рэспублікі прыняў пастанову аб неадкладным аднаўленні сядзібы А. В. Суворава. Гэта сядзіба разам з сямю тысячамі душ была падаравана генералісімусу Кацярынай II у 1795 г. за падаўленне нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі. У першы пасляваенны год сядзіба ўяўляла змрочнае відовішча — разбураны гонтавы дах, перакошаныя старыя драўляныя сцены, пустыя аконныя і дзвярныя праёмы, густа пераплеценыя калючым дротам. Такую яе ўбачыў А. М. Мартынаў, прызначаны ў жніўні 1946 г. на пасаду дырэктара пакуль што не існуючага ***Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава***.

З гэтага часу музей стаў галоўным аб'ектам прыкладання сіл і здольнасцей дырэктара. Адначасова з аднаўленнем сядзібы А. В. Суворава

А. М. Мартынаў распачаў збор матэрыялаў адпаведна профілю музея. Не абмяжоўваючыся межамі БССР, ён вёў пошук помнікаў ваеннай гісторыі ў буйнейшых музеях краіны. На заклік аб аказанні дапамогі першым адгукнуўся Ваенна-гістарычны музей артылерыі, інжынерных войскаў і войскаў сувязі ў Ленінградзе, перадаўшы ў Кобрын значную колькасць прадметаў са свайго дублетнага фонду, пераважна зброю і абмундзіраванне. Неўзабаве пачалі прыходзіць каштоўныя прадметы з Міністэрства абароны, Эрмітажа, Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве, Дзяржаўнага ваенна-гістарычнага музея А. В. Суворава ў Ленінградзе і іншых устаноў.



*А. М. Мартынаў (на пярэднім плане), дырэктар Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава.* 1953 г.

Гэтыя здабыткі дазволілі А. М. Мартынаву ў 1948 г. адкрыць для публічнага агляду першую экспазіцыю музея, якая складалася з трох аддзелаў: 1) нашы вялікія продкі; 2) А. В. Сувораў; 3) Айчынная вайна 1812 г. Не ўсе вызначаныя тэмы былі ў ёй раскрыты з дапамогай рэчавых першакрыніц, нізкі быў узровень яе тэхнічнага абсталявання, амаль цалкам ігнаравалася беларуская ваенная гісторыя. Тым не менш экспазіцыя адразу ж выклікала цікавасць сярод мясцовага насельніцтва. У канцы 1940 — пачатку 50-х гг. фондавыя калекцыі і экспазіцыя Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея значна ўзбагаціліся дзякуючы энтузіязму яго дырэктара. У пошуках матэрыялаў, звязаных з расійскай ваеннай гісторыяй, перш за ўсё эпохай Кацярыны II, ён наведаў каля 150 гарадоў СССР, адкуль прывёз некалькі тысяч рэчавых помнікаў і дакументаў, якія склалі аснову фондавага збору музея.

На аснове гэтых паступленняў у сярэдзіне 1960-х гг. адкрылася новая экспазіцыя Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава, якая займала ўжо два будынкі. У суворaўскай сядзібе раскрывалася тэма «Вялікі рускі палкаводзец А. В. Сувораў». У пяці залах другога будынка пераважна на капійных матэрыялах схематычна даваўся агляд расійскай ваеннай гісторыі, пачынаючы з Айчыннай вайны 1812 г. і канчаючы Вялікай Айчыннай вайной 1941—1945 гг. Кобрынскі ваенна-гістарычны музей заўсёды быў адным з найбольш папулярных у БССР сярод наведвальнікаў. Напрыклад, у 1965 г. яго агледзела каля 70 тыс.

чалавек, большасць з якіх складалі турысты. Павелічэнню наплыву турыстаў паспрыяла заканчэнне рэстаўрацыі будынка Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея ў 1980 г.

Першым з раённых краязнаўчых музеяў працу па збіранні, вывучэнні і папулярызацыі ваенна-гістарычнай спадчыны разгарнуў Ваўкавыскі раённы краязнаўчы музей. Рашэнне аб аднаўленні яго дзейнасці было прынята мясцовымі ўладамі на пачатку 1946 г. Для музея было знойдзена памяшканне ў доме, дзе летам 1812 г. знаходзіўся штаб генерала П. І. Баграціёна, прызначаны яго дырэктар — Г. І. Пех. Аднак далей гэтага справа не пайшла. Сітуацыя змянілася ў 1948 г. пасля прыняцця пастановы Савета Міністраў БССР «Аб узнаўленні дзейнасці Ваўкавыскага раённага краязнаўчага музея ў доміку Баграціёна». Была праведзена рэстаўрацыя будынка, перад уваходам устаноўлены бюст П. І. Баграціёна, сістэматызаваны калекцыі, распрацавана структура экспазіцыі. Першыя наведвальнікі маглі азнаёміцца з наступнымі раздзеламі: 1) вайна рускага народа 1812 г.; 2) Ваўкавыск — старадаўні рускі горад; 3) нашы вялікія продкі. Падзеі мясцовай гісторыі ў іх, як бачна з назваў, інтэрпрэтаваліся як частка агульнарасійскай, цэнтральнае месца ў залах займалі партрэты Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, Кузьмы Мініна, Дзмітрыя Пажарскага, Пятра І, А. В. Суворава.

Нягледзячы на падобную інтэрпрэтацыю, у экспазіцыі дэманстраваўся каштоўны рэчавы матэрыял па беларускай ваеннай гісторыі: археалагічныя знаходкі XI—XIII стст., зброя і даспехі Рэчы Паспалітай XVII ст., узоры зброі і абмундзіравання эпохі напалеонаўскіх войнаў. Матэрыялы па сацыялістычным будаўніцтве, у адрозненне ад іншых краязнаўчых музеяў БССР, адсутнічалі. Гэта выклікала рэзкую крытыку музея ў рэспубліканскім партыйным друку. У 1953 г. загадам Камітэта па справах культурна-асветніцкіх устаноў Ваўкавыскі раённы краязнаўчы музей быў перапрафіляваны і атрымаў назву ***Ваўкавыскі ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна***, што зняло вастрыню сітуацыі.

Адным з найбольш паспяховых у гісторыі Ваўкавыскага ваенна-гістарычнага музея імя П. І. Баграціёна быў 1962 год, калі ў СССР святкавалася 150-годдзе Айчыннай вайны 1812 г. Галоўная ўвага супрацоўнікаў музея была накіравана на экскурсійнае абслугоўванне наведвальнікаў, колькасць якіх у юбілейным годзе дасягнула 40 тыс. чалавек. Асветніцкія мерапрыемствы дапаўняліся работамі па папаўненні фондавых калекцый музея помнікамі ваеннай гісторыі, якія дасягнулі лічбы 66 тыс. Лепшыя з гэтых помнікаў шырокая публіка ўбачыла ў 1982 г., калі ў музеі адкрылася новая стацыянарная экспазіцыя.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе распачаліся работы па мемарыялізацыі музейнымі сродкамі герояў — франтавікоў і партызан. Першым вынікам гэтых работ быў ***Мемарыяльны музей К. С. Заслонава***, які распачаў



*Маці К. С. Заслонава ў музеі, прысвечаным яе сыну* 1951 г.

дзейнасць у жніўні 1948 г. у Оршы і быў прысвечаны аднаму з арганізатараў і кіраўнікоў падполля і партызанскага руху ў Віцебскай вобласці. Яго супрацоўнікі арганізоўвалі вялікую колькасць перасоўных выставаў, выезды былых партызан і моладзі ў в. Купаваць Сенненскага раёна на месца гібелі легендарнага Дзядзькі Косці, турыстычныя паходы моладзі па месцах баявых дзеянняў пад кіраўніцтвам былых партызан-заслонаўцаў.

8 лістапада 1956 г. паводле загаду Міністэрства абароны СССР адбылося адкрыццё ***Музея абароны Брэсцкай крэпасці***. Адкрыццю музея папярэднічала вялікая даследчыцкая праца, праведзеная пісьменнікам С. С. Смірновым, які расказаў свету аб подзвігу абароны крэпасці, расшукаў яе абаронцаў у розных кутках краіны. Некаторыя з іх трапілі ў палон цяжкапараненыя ці кантужаныя і, спазнаўшы нямецкія лагеры для ваеннапалонных, апынуліся пасля вызвалення ў ГУЛАГу. Некаторыя з іх адчулі на сабе кляймо здраднікаў. Напрыклад, Герой Савецкага Саюза П. М. Гаўрылаў быў звольнены з працы, трагічна склаўся лёс А. М. Філя і Б. А. Маслава. Пасля XX з'езда КПСС, дзякуючы намаганням С. С. Смірнова, былі рэабілітаваны і адноўлены ў правах многія абаронцы цытадэлі. У прадмове да сваёй кнігі «Брэсцкая крэпасць» пісьменнік звяртаўся да герояў абароны з наступнымі словамі: «Дзесяць гадоў назад Брэсцкая крэпасць ляжала ў забытых, закінутых руінах, а вы — яе героі абаронцы — не толькі былі невядомымі, але як людзі, што ў сваёй большасці прайшлі праз гітлераўскі палон, сустракалі крыўдны недавер да сябе, а часам адчувалі і простую несправядлівасць. Наша партыя і яе XX з'езд, пакончыўшы з беззаконнямі і памылкамі перыяду культу асобы Сталіна, адкрылі для вас, як і для ўсёй краіны, новую паласу жыцця... Цяпер у крэпасці ёсць добры музей, дзе поўна і цікава адлюстраваны



***Раскопкі на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці*** — 1966 г.

ваш подзвіг. Цэлы калектыў навуковых супрацоўнікаў-энтузіястаў займаецца вывучэннем барацьбы вашага легендарнага гарнізона, выяўляе новыя яе падрабязнасці, расшуквае яшчэ невядомых герояў».

Экспазіцыя музея была разгорнута ў былой казарме, якая захавалася на цэнтральным востраве крэпасці. Новы музей адразу ж зрабіўся адным з найбольш папулярных у рэспубліцы — на працягу 1957 г. яго наведала звыш 150 тыс. чалавек. Найвялікшую ўвагу наведвальнікаў прыцягвалі экспанаты, знойдзеныя пры раскопках: загад № 1 па гарнізоне ад 24 чэрвеня 1941 г., надпісы на цаглінах, пакінутыя абаронцамі, медальёны загінуўшых воінаў з іх развітальнымі запісамі, будзільнік, які спыніўся ў першыя хвіліны артабстрэлу, зброя, аплаўленыя цагліны з казематаў і інш. Экспанаваліся таксама работы мастакоў і скульптараў, што адлюстроўвалі подзвіг абаронцаў крэпасці.

Першапачаткова Музей абароны Брэсцкай крэпасці знаходзіўся ў падпарадкаванні Міністэрства абароны, а ў 1969 г. далучыўся да музеяў Міністэрства культуры. У 1967—1971 гг. аўтарскі калектыў пад кіраўніцтвам скульптара А. Кібальнікава на тэрыторыі крэпасці стварыў мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой». Скульптурна-архітэктурны ансамбль уключаў ацалелыя збудаванні, закансерваваныя руіны, крапасныя валы і творы сучаснага манументальнага мастацтва — «Смага», «Мужнасць», некропаль, дзе былі пахаваны астанкі 850 чалавек, мемарыяльная пляцоўка гарадоў-герояў. Вастрыню ўспрымання комплексу ўзмацнялі дэкаратыўнае падсвечванне і гукавое афармленне.

Мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой» адносіўся да найбольш папулярных музейных установ рэспублікі. На пачатку 1980-х гг. колькасць наведвальнікаў пераўзышла лічбу 800 тыс. у год, большасць з якіх складалі турысты. У якасці асноўнага кірунку яго дзейнасці была вызначана работа з масавай аўдыторыяй, пераважна з моладдзю. У крэпасці праходзілі шматлікія тэматычныя вечарыны, урачыстыя зборы, мітынгі, святы, сустрэчы з ветэранамі, урокі, дні пагранічніка, уручэнні камсамольскіх білетаў. Акрамя таго, штогод супрацоўнікі музея стваралі да 10 перасоўных выстаў на ваенна-патрыятычную тэматыку.

15 кастрычніка 1968 г. у в. Леніна Горацкага раёна на месцы першага сумеснага бою часцей Чырвонай арміі і сфарміраванай у СССР 1-й Польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі супраць нямецкіх войскаў адкрыўся ***Музей савецка-польскай баявой садружнасці***. Яго адкрыццё было прымеркавана да 25-й гадавіны бою і адбылося ва ўрачыстых абставінах з удзелам ветэранаў вайны дзвюх краін. Музей з'яўляўся цэнтральнай кампазіцыяй аднайменнага мемарыяльнага комплексу і вылучаўся наватарскімі архітэктурнымі прыёмамі (архітэктары Я. Белапольскі, В. Хавін, скульптар У. Цыгаль). Яго будынак уяўляў сіметрычны купал дыяметрам 34 м і вышынёй 11 м з жалезабетону, шкла і алюмінію, зроблены ў форме салдацкай каскі і накрыты невялікімі шчытамі з чорнай бляхі, пакладзенымі на каркас. Лесвічныя вузлы былі вылучаны блокамі і ўпрыгожаны звонку барэльефнымі выявамі пяціканцовай зоркі і арла — сімваламі дзвюх краін. Перад шырокім арачным уваходам у музей змяшчалася стэла, увянчаная выявай сцяга, дрэўка якога трымалі дзве рукі. Непадалёку ад музея, на схіле вышыні, знаходзіліся дзве брацкія магілы загінуўшых савецкіх і польскіх воінаў з усталяваным на іх помнікам — прабітым снарадамі, пакарабачаным лістом брані.

Экспазіцыя Музея савецка-польскай баявой садружнасці была прысвечана гісторыі ўтварэння і фарміравання Войска польскага — баявыя сцягі, зброя, дакументы, фотаздымкі, схемы баявых аперацый, урны з зямлёй з усіх ваяводстваў Польшчы. У яе цэнтральнай частцы знаходзілася дыярама «Бітва пад в. Леніна», якая паказвала яе кульмінацыйны момант. Атмасферу ўрачыстасці ў экспазіцыі стварала мармуровая дошка, на якой былі высечаны прозвішчы польскіх і савецкіх салдат, якія загінулі ў баі пад в. Леніна. Музей савецка-польскай баявой садружнасці быў аб'ектам пераважна турыстычнага агляду. Штогод яго ў сярэднім наведвала каля 40 тыс. чалавек.

Частка савецкіх музеяў ваенна-гістарычнага профілю знаходзілася ў падпарадкаванні Міністэрства абароны, у т. л. ***Музей гісторыі войскаў Беларускай ваеннай акругі***, заснаваны ў Мінску ў 1974 г. На працягу чатырохгадовага перыяду падрыхтоўкі да адкрыцця музейная група, створаная




***Будынак Музея савецка-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна*** — 1981 г.

кіраўніцтвам акругі, сабрала каля 12 тыс. прадметаў — зброю, баявыя ўзнагароды, дакументы і асабістыя рэчы палкаводцаў і салдат, франтавыя газеты, улёткі, фотаздымкі, мемуары военачальнікаў. Экспазіцыя Музея гісторыі войскаў Беларускай ваеннай акругі была адкрыта для агляду ў красавіку 1978 г. Яе структура складалася з наступных тэм: «Падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны на Беларусі», «Удзел беларускага народа ў стварэнні Чырвонай арміі», «Утварэнне Мінскай ваеннай акругі ў 1918 г.», «Савецка-польская вайна 1920 г.», «Беларуская ваенная акруга ў 1922—1941 гг.», «Удзел войскаў акругі ў Вялікай Айчыннай вайне», «Акруга ў пасляваенны перыяд».

Ваенна-гістарычная тэматыка традыцыйна прываблівала школьных краязнаўцаў. Добра вядомым у рэспубліцы і па-за яе межамі быў ***Музей народнай славы ў в. Іканы Барысаўскага раёна***, створаны ў 1964 г. па ініцыятыве дырэктара мясцовай сярэдняй школы В. В. Ігнатовіча. Ужо першая экспазіцыя музея вылучалася каштоўнымі матэрыяламі і высокай мастацкай якасцю іх прадстаўлення. У зале баявой славы экспанаваліся зброя і асабістыя рэчы партызан Барысаўска-Бягомльскай зоны, у т. л. чэхаў і славакаў, карта спаленых вёсак і фотаздымкі, што сведчылі аб злачынствах акупантаў. Асобны стэнд распавядаў пра авіяполк «Нармандыя-Нёман», які ў 1944 г. удзельнічаў у вызваленні Барысаўшчыны. У мемарыяльнай зале на стэлах былі напісаны імёны жыхароў Барысаўскага раёна, загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны. Сам будынак музея знаходзіўся ў Парку герояў, дзе побач з кожным дрэвам былі замацаваны таблічкі з імёнамі воінаў і партызан, што загінулі на Барысаўшчыне.

*Адкрыццё Дома-музея I з'езда РСДРП* 1948 г.



Праз пяць гадоў пасля стварэння музею было прысвоена званне народнага, а з 1977 г. ён набыў статус дзяржаўнага — стаў філіялам Барысаўскага краязнаўчага музея. Музей быў уключаны ва Усесаюзную турыстычна-краязнаўчую экспедыцыю «Мая Радзіма — СССР», і гэта забяспечвала вялікі прыток наведвальнікаў з розных саюзных рэспублік.

У верасні 1945 г. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прыняў спецыяльную пастанову аб узнаўленні ў Мінску першага беларускага гістарычна-рэвалюцыйнага музея — ***Дома-музея I з'езда РСДРП***. Дом згарэў у 1941 г., але захаваўся яго фундамент, што дазволіла высветліць дакладныя памеры, а таксама зрабіць тэрытарыяльную прывязку. Рэканструяваць Дом-музей дапамаглі супрацоўнікі Музея рэвалюцыі ў Маскве, дзе захаваўся маштабны макет дома, а таксама жывыя сведкі, у т. л. былы дырэктар Музея рэвалюцыі БССР М. Я. Гракаў, аўтар мастацкага вырашэння даваеннай экспазіцыі Дома-музея РСДРП А. Кроль і інш.

Першыя экскурсанты, якія ўвайшлі ў залы музея 1 студзеня 1949 г., маглі азнаёміцца з двума раздзеламі. Першы з іх быў прысвечаны пачатку рэвалюцыйнай дзейнасці Леніна і Сталіна. Другі расказваў пра рэвалюцыйны пад'ём пачатку XX ст., II з'езд РСДРП, дзейнасць газеты «Іскра», барацьбу з меншавікамі. Зразумела, што падобная экспазіцыя была пабудавана выключна на матэрыяле копій. У 1953 г., у сувязі з узвядзеннем манумента Перамогі, музей быў перанесены бліжэй да р. Свіслачы, а ў 1954 г. была адкрыта для наведвання мемарыяльная частка музея, у якой быў узноўлены інтэр'ер кватэры П. В. Румянцава, дзе праходзілі пасяджэнні з'езда.

Дом-музей I з’езда РСДРП быў адным з найбольш папулярных і ў той жа час ідэалагізаваных музеяў БССР. Большасць наведвальнікаў былі «арганізаванымі» — слухачы гурткоў па вывучэнні гісторыі партыі, слухачы рэспубліканскай партыйнай школы, студэнты, навучэнцы, ваеннаслужачыя. У адрозненне ад большасці музеяў рэспублікі, асноўнай формай навукова-асветніцкай дзейнасці Дома-музея былі аглядныя і тэматычныя лекцыі. Ён быў месцам абавязковага наведвання ўрадавых дэлегацый, высокіх гасцей рэспублікі, турысцкіх груп, школьнікаў і студэнтаў. У яго залах праводзіліся заняткі па гісторыі КПСС, прыём у піянеры, выдача партыйных і камсамольскіх білетаў. З пачаткам перыяду «адлігі» навуковыя супрацоўнікі музея пачалі пошукі новых матэрыялаў пра з’езд і няпростыя лёсы яго ўдзельнікаў. Частка гэтых матэрыялаў, якія адлюстроўвалі працэс фарміравання сацыял-дэмакратыі ў Расійскай імперыі напрыканцы XIX ст., з’явілася ў экспазіцыі. У 1959 г. Дом-музей быў выведзены з падпарадкавання Міністэрства культуры БССР і перададзены Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ, што, з аднаго боку, палепшыла матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне музея, а з другога — паставіла яго дзейнасць пад яшчэ больш жорсткі ідэалагічны кантроль.

У рэспубліцы не толькі аднаўляліся створаныя да вайны гістарычна-рэвалюцыйныя музеі, але і арганізоўваліся новыя. У 1950 г. ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне аб рэканструкцыі сядзібы Дзяржынава ў Налібоцкай пушчы, дзе прайшлі дзіцячыя гады вядомага дзеяча РСДРП(б), старшыні Усерасійскай надзвычайнай камісіі Ф. Э. Дзяржынскага, і стварэнні ў ёй мемарыяльнага музея. Адкрыццё ***Музея Ф. Э. Дзяржынскага*** было прымеркавана да 25-годдзя са дня яго смерці ў ліпені 1951 г. Але, нягледзячы на тое што падрадчыкам была будаўнічая арганізацыя Міністэрства дзяржаўнай бяспекі, адкрыццё музея ў Дзяржынаве затрымалася надоўга.

11 верасня 1957 г. у дзень 80-годдзя з дня нараджэння Ф. Э. Дзяржынскага на яго радзіме ў г. п. Івянец Маладзечанскай вобласці адкрыўся гістарычна-рэвалюцыйны музей, прысвечаны яго памяці. Першая экспазіцыя, створаная ў сціслыя тэрміны, за шэсць месяцаў, змяшчала пераважна капійныя матэрыялы. З цягам часу ў выніку збіральніцкай работы экспазіцыя ўзбагацілася «Кнігай Дзераўнянскай рымска-каталіцкай прыходскай царквы пра нованароджаных у 1876—1883 гг.», з запісам у ёй пра нараджэнне Ф. Э. Дзяржынскага, яго асабістымі рэчамі, сямейным альбомам з фотаздымкамі, макетамі маёнтка Дзяржынава і рабочага кабінета ў Маскве. Акрамя таго, у фондавы збор трапілі творы, лісты, копіі распараджэнняў і загадаў, фотаздымкі, фанатэка з запісамі ўспамінаў, дакументальныя фільмы, кнігі, творы мастацтва. Партыйнае кіраўніцтва БССР надавала гэтаму музею вялікае значэнне ў спра-




***Адкрыццё Музея Ф. Э. Дзяржынскага*** 1957 г.

ве ідэалагічнага выхавання насельніцтва. Ён быў уключаны ў маршруты, якія прапаноўвалі турыстычныя арганізацыі савецкім і замежным групам. Асобным кірункам у дзейнасці музея ў Івянцы была метадычная і практычная дапамога ў стварэнні школьных музеяў, прысвечаных Ф. Э. Дзяржынскаму. У 1972—1977 гг. на месцы былога маёнтка Дзяржынава ў Стаўбцоўскім раёне, дзе нарадзіўся Ф. Э. Дзяржынскі, быў створаны мемарыяльны комплекс, які стаў філіялам Івянецкага гісторыка-рэвалюцыйнага музея.

Пастановай бюро ЦК КПБ ад 23 кастрычніка 1973 г. з мэтай атэістычнага выхавання насельніцтва быў заснаваны адзіны ў БССР гістарычна-рэлігійны музей — ***Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі***. Першыя крокі па яго стварэнні былі зроблены ў Полацку, калі для новай установы выдзелілі памяшканне ў Сафійскім саборы. Сярод першых паступленняў у музей былі калекцыя ўсходняга дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва другой паловы XIX — пачатку XX ст., вялікая калекцыя абразоў, перададзеная з Брэсцкай мытні, кнігі, гравюры рэлігійнага зместу, ліццё.

У 1977 г. было прынята рашэнне аб пераводзе Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродна для правядзення атэістычнай прапаганды ў рэгіёне з найбольшай колькасцю веруючага насельніцтва. Музею былі адведзены напаўразбураныя памяшканні базыльянскага кляштара Нараджэння Маці Божай. Адначасова з правядзеннем рэстаўрацыйных работ у кляштары яго новыя гаспадары разгарнулі актыўную збіральніцкую работу. Атмасферу энтузіязму, творчага пошуку, захаплення гісторыяй краю падтрымліваў у музеі вядомы беларускі пісьменнік А. Карпюк, запрошаны ў гэты час на пасаду дырэктара.



*Экспанат «Вадаліў» з калекцыі Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродне*

У 1977—1991 гг. навуковыя супрацоўнікі штогод праводзілі экспедыцыі, адшукваючы на гарышчах сялянскіх хат, пад скляпеннямі зруйнаваных храмаў струхнелыя абразы, кнігі, начынне. Паступова ў фонды трапілі ўнікальныя прадметы — помнік дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва XII—XIII стст. «Вадаліў», жывапіс XVII—XVIII стст., у т. л. «Святая сям'я» Г. Хаецкага, «Святая Тэкля» невядомага мастака, слуцкія паясы, старадрукі XVII—XVIII стст. Была набыта частка бібліятэкі ксяндза А. Станкевіча. Высокай якасцю характарызавалася этнаграфічная калекцыя, якая дазволіла правесці шэраг яскравых выставаў, у т. л. «Семантыка ў беларускай этнаграфіі», «Беларускі ручнік — повязь часоў» і інш. Значнымі падзеямі ў культурным жыцці Гродна былі выставы «Адрэстаўраваныя помнікі», «Гісторыя кананізацыі святых», «Помнікі меднага ліцця Беларусі».

У студзені 1985 г. у базыльянскім кляштары адбылося адкрыццё першай часткі сталай экспазіцыі, праца над якой працягвалася да канца 1991 г. Яе структура выглядала наступным чынам: «Паходжанне рэлігіі і яе раннія формы», «Хрысціянізацыя старажытнай Русі. Веравучэнне і культ праваслаўнай царквы», «Папства. Веравучэнне і культ каталіцкай царквы», «Гісторыя царквы ў Вялікім Княстве Літоўскім», «Гісторыя царквы на беларускіх землях у Рэчы Паспалітай», «Гісторыя царквы на беларускіх землях у Расійскай імперыі». Стваральнікі экспазіцыі Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі імкнуліся пазбавіцца падчас сваёй працы суб'ектывізму, спрошчаных ацэнак, негатыўных ацэнак дзейнасці царквы

і яе ідэалогіі. У 1991 г. дзейнасць музея спынілася, калі гродзенскія абласныя ўлады прынялі рашэнне аб вяртанні музейнага будынка вернікам, не паклапаціўшыся аб тым, каб знайсці які-небудзь іншы.

У XX ст. у розных краінах свету распаўсюдзілася нетрадыцыйная форма захавання, вывучэння і папулярызацыі этнаграфічнай спадчыны ў выглядзе музеяў пад адкрытым небам, альбо скансэнаў[1]. Узнікненне музеяў гэтага тыпу было рэакцыяй грамадства на нівеліроўку жыцця і пагрозу страты рэштак традыцыйных, народных культур, перш за ўсё нерухомай спадчыны ў выніку індустрыялізацыі. У БССР таксама паўстала рэальная пагроза страты рэштак народнага дойлідства, якія ацалелі ў віхуры сусветных войнаў і сацыяльна-эканамічных трансфармацый.

Афіцыйнае рашэнне аб стварэнні ***Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту*** было прынята Саветам Міністраў БССР у снежні 1976 г. Адпаведна гэтаму рашэнню ў сферу камплектавання яго калекцый увайшлі амаль усе этнаграфічныя помнікі беларускага народа, пачынаючы з жылых і гаспадарчых пабудоў і канчаючы дзіцячай цацкай. Ва ўмовах адсутнасці этнаграфічнага музея Беларусі традыцыйнага тыпу падобны падыход з'яўляўся прадукцыйным. Для музея была адведзена тэрыторыя ў 12 км на паўднёвы захад ад Мінска, каля вярхоўя Воўкавіцкага вадасховішча на р. Пціч, паблізу аўтадарогі Брэст — Масква. Была сфарміравана рабочая група па стварэнні музея, якую ўзначаліў архітэктар С. А. Сергачоў.

Згодна з генпланам тэрыторыя музея павінна была займаць 250 га дзеля паказу ўсёй Беларусі з яе помнікамі драўлянага дойлідства і падзяляцца на экспазіцыйную, запаведную і ахоўную зоны. Экспазіцыйная зона складалася з сектараў, прысвечаных матэрыяльнай і мастацкай культуры асноўных этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі (Паазер'е, Падняпроўе, Цэнтральная Беларусь, Панямонне, Заходняе Палессе, Усходняе Палессе), сектараў «Мястэчка», лясных промыслаў і ўнікальных помнікаў (прыстань з экспазіцыяй суднаходства, паромам, нізкаводнымі мастамі на палях, вадзяным млынам). Акрамя таго, у экспазіцыйнай зоне прадугледжваўся паказ рэгіянальных асаблівасцей земляробства, садаводства і агародніцтва, лясной гаспадаркі. Запаведная зона аб'яднала курганныя могільнікі, гарадзішча на Менцы, фальварак і в. Строчыца. Ахоўныя зоны былі прызначаны зберагаць экалогію і ландшафт, а таксама помнікі археалогіі і архітэктуры ў навакольных паселішчах. Першы праект, распрацаваны ў 1979 г. БелНДІ горадабудаўніцтва, прадугледжваў, што Беларускі дзяржаўны музей народнага дойлідства і побыту,

[1] Скансэн (літаральна: востраў акопаў, тэрыторыя, на якой захаваліся рэшткі фартыфікацыйных збудаванняў) — назва першага музея пад адкрытым небам, заснаванага А. Хазеліусам у 1891 г. у Стакгольме на востраве Дзюргардэн.



*У Белдзяржмузеі народнай архітэктуры і побыту* — 1991 г.

дзякуючы блізкасці значных гістарычных помнікаў (Заслаўе, Прылукі), будзе ўключаны ў перспектыўны турыстычны маршрут «Старажытнае кальцо горада Мінска».

У другой палове 1980-х гг., калі пераасэнсаванне феномена скансэна ў музеялогіі супала са зменамі сацыяльна-палітычнага клімату ў СССР, лёс музея народнага дойлідства і побыту зрабіўся прадметам грамадскага абмеркавання. Адначасова з праектнымі баталіямі супрацоўнікі рабочай групы праводзілі экспедыцыйнае абследаванне Беларусі. На працягу дзесяцігоддзя было выяўлена некалькі соцень помнікаў народнага дойлідства, з якіх каля 30 перавезлі на тэрыторыю музея. Акрамя таго, было сабрана каля 12 тыс. рухомых помнікаў, першы з якіх — дзіцячая калыска XIX ст. — меў сімвалічны сэнс. Усе рухомыя помнікі згрупавалі ў 24 тэматычныя калекцыі — абразоў, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісу, старадрукаў, ткацтва і вышыўкі, строяў, пляцення, керамікі і інш.

У 1987 г. адбылося адкрыццё сектара «Цэнтральная Беларусь» Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. У ім дэманстраваўся фрагмент вёскі XIX — пачатку XX ст. з вулічнай планіроўкай. Кампазіцыйны цэнтр утваралі будынкі царквы XVIII ст. і грамадскага свірна першай паловы XIX ст. На прыкладзе сялянскіх двароў пачатку XX ст. былі паказаны эвалюцыя двара пагоннага тыпу. У інтэр'ерах гэтых будынкаў праз ансамблевыя і сістэматычныя экспазіцыі прасочваліся асаблівасці побыту насельніцтва цэнтральнай Беларусі. У кузні экспанаваліся прылады працы і кавальскія вырабы. Экспазіцыю сектара дапаўняў вятрак-казлоўка, некалькі сялянскіх сядзіб і ветраны млын. Астатнія сектары экспазіцыйнай зоны музея знаходзіліся ў стане праектавання.

Меншымі па памерах этнаграфічнымі калекцыямі рэгіянальнага альбо тэматычнага характару валодалі грамадскія *музей сялянскага побыту ў в. Астрамечава Брэсцкага раёна*, *музей хлеба ў в. Вялікая Кракотка Слонімскага раёна*, *этнаграфічны музей у в. Блонь Пухавіцкага раёна*, *музей народнай творчасці ў в. Дарасіна Любанскага раёна*, *музей мастацтва і этнаграфіі ў в. Лужкі Шаркоўшчынскага раёна*, *музей фальклору ў Капыльскай музычнай школе*.

Буйнейшы ў БССР спецыялізаваны дзяржаўны археалагічны музей *«Бярэсце»* ужо ўзгадваўся вышэй у якасці філіяла Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Іншыя па змесце калекцыі з’явіліся ў выніку сумеснай працы выкладчыкаў і студэнтаў у *археалагічным музеі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта*, адкрытым у 1980 г. Фонды музея склаліся пераважна за кошт археалагічных раскопак, якія праводзіліся ў розныя гады выпускнікамі ўніверсітэта ў складзе атрадаў Інстытута гісторыі АН БССР. Частка матэрыялаў была перададзена на часовае захаванне з фондаў абласнога краязнаўчага музея. У экспазіцыі музея дэманстраваліся прылады працы эпох палеаліту, мезаліту, неаліту, бронзавага і ранняга жалезнага вякоў, віды посуду, пачынаючы з неалітычнага, упрыгожанні і побытавыя рэчы эпохі феадалізму. Пазней музей узбагаціўся этнаграфічнымі матэрыяламі і быў перайменаваны ў археалагічна-этнаграфічны. Вялікі адукацыйны патэнцыял меў *мастацка-археалагічны музей у в. Гарадзец Шаркоўшчынскага раёна*. Праблема стварэння дзяржаўнага археалагічнага музея Беларусі ў разглядаемы час не пайшла далей кулуарных музейных і акадэмічных абмеркаванняў.

Другая палова XX ст. была часам стварэння шэрагу важных у культурных адносінах гістарычна-манаграфічных музеяў, экспазіцыі якіх былі прысвечаны гісторыі пэўнай дзяржаўнай галіны, установы альбо сацыяльна-культурнай з’явы. У 1966 г. пры кінастудыі «Беларусьфільм» быў створаны *Музей кінематаграфіі БССР*. З 1982 г. яго экспазіцыя была разгорнута ў Рэспубліканскім Доме кіно. Стваральнікі музея пад кіраўніцтвам Т. У. Лашынай на аснове невялікага фондавага збору здолелі паказаць асноўныя этапы развіцця беларускага кіно: станаўленне кінапрацэсу ў 1920—30-я гг., кіно ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны, у 1940—60-я гг. сучаснае кіно. Меўся асобны «пакой-казка», прысвечаны мультыплікацыі. У экспазіцыі можна было ўбачыць Пастанову СНК БССР ад 17 снежня 1924 г. аб стварэнні ў складзе Наркамасветы кіраўніцтва па справах кіно (Белдзяржкіно), кінакадры з фільмаў заснавальнікаў беларускага кіно Ю. Тарыча «Лясная быль», У. Гардзіна «Кастусь Каліноўскі», літаратурныя і рэжысёрскія сцэнарыі, мантажныя аркушы фільмаў, здымкі вытворчых момантаў, успаміны ветэранаў беларускага кіно, прызы беларускіх фільмаў на кінафестывалях. Шмат каштоўных матэрыялаў для музея было пера-



*Касцёл Святых Сымона і Алены ў Мінску, дзе ў 1980-я гг. знаходзіўся Музей кінематаграфіі БССР*

дадзена з «калыскі» Белдзяржкіно — кінастудыі Ленфільм. Асаблівасцю гэтага музея было тое, што адначасова з папулярызатарскай функцыяй ён ад самага пачатку свайго існавання выконваў функцыю інфармацыйна-даведачнага цэнтра. Яго матэрыяламі актыўна карысталіся рэжысёры, сцэнарысты, кіназнаўцы, студэнты.

У 1966 г. у Віцебску пры гарадскім упраўленні транспарту быў створаны першы ў Савецкім Саюзе ***Музей трамвая***. Ініцыятыва яго стварэння зыходзіла ад мясцовага жыхара Л. А. Забелы, які пачаў збіраць матэрыялы для будучага музея ў канцы 1950-х гг. На яго рашэнне аб выбары тэмы сваёй калекцыі паўплываў той факт, што віцебскі электрычны трамвай, пушчаны ў 1898 г. быў адным з першых у Расійскай імперыі. Экспазіцыя музея адкрывалася дагаворам, падпісаным у студзені 1896 г. паміж акцыянерным таварыствам «Віцебскі трамвай» і гарадской управай аб пачатку будаўнічых работ. З вялікай цікавасцю наведвальнікі знаёміліся з нотамі «Трамвай-марша», напісанага спецыяльна ў гонар адкрыцця новага віду транспарту, «Інструкцыяй для вагонаважатых», выдадзенай у 1910 г., макетамі першых вагонаў. Асобныя стэнды ў экспазіцыі музея былі прысвечаны гісторыі віцебскага трамвая ў савецкі час.

Вялікую работу па арганізацыі музеяў уласнай гісторыі ў 1970—80-я гг. разгарнулі іншыя ведамствы, установы і прадпрыемствы БССР. Сярод гістарычна-манаграфічных музеяў вышэйшых навучальных устаноў БССР колькасцю назапашаных калекцый, а таксама маштабамі навукова-педагагічнай работы, якая праводзілася на іх базе, вылучаўся

***Музей гісторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта***, які з'явіўся ў 1977 г. на гістарычным факультэце. Стваральнікі яго экспазіцыі А. Л. Абэцэдарская, А. А. Стуканаў, А. А. Яноўскі надавалі найвялікшую ўвагу гісторыі ўніверсітэта, а таксама жыццёвым лёсам яго выкладчыкаў, супрацоўнікаў, студэнтаў і выпускнікоў. Значную колькасць матэрыялаў, прадстаўленых у экспазіцыі, перадалі члены студэнцкай пошукавай групы «Абавязак». Каштоўныя з навуковага пункту гледжання калекцыі археалогіі, этнаграфіі і нумізматыкі знаёмілі наведвальнікаў музея са старажытнай гісторыяй Беларусі. Вялікай была папулярнасць гэтых аддзелаў. Там праходзілі семінарскія заняткі са студэнтамі-гісторыкамі, а таксама школьнікамі горада. Грамадскі рэзананс атрымалі выставы, якія праводзіліся ў музеі гісторыі БДУ ў 1980-я гг. — «Помнікі дойлідства Беларусі XII—XVIII стагоддзяў», «500-годдзе з дня нараджэння Ф. Скарыны», а таксама графічных работ М. Басалыгі, М. Купавы, Г. Паплаўскага, Г. Ціхановіча і іншых беларускіх мастакоў.

Меншыя па аб'ёме фондавых калекцый і экспазіцыйных плошчах гістарычна-манаграфічныя ***музеі*** былі створаны ў ***Віцебскім ветэрынарным інстытуце*** (1977), ***Беларускім політэхнічным інстытуце*** (1978), ***Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі*** (1979), ***Мінскім радыётэхнічным інстытуце*** (1984), ***Беларускім інстытуце фізічнай культуры*** (1984), ***Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце*** (1986), ***Мінскім педагагічным інстытуце*** (1989) і інш.

Уласны гістарычна-манаграфічны музей быў заснаваны ў ***Акадэміі навук БССР*** у 1980 г. па ініцыятыве акадэміка М. А. Барысевіча. Падчас падрыхтоўчага перыяду было сабрана каля 10 тыс. адзінак асноўнага фонду. Лепшыя з іх стваральнікі музея выкарысталі ў адкрытай у 1989 г. экспазіцыі, у т. л. пастанову СНК і ЦВК БССР аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук, матэрыялы пра першых акадэмікаў, страты навуковых кадраў у выніку палітычных рэпрэсій, дакументы аб удзеле супрацоўнікаў акадэміі ў Вялікай Айчыннай вайне, аднаўленні акадэміі ў пасляваенны час, працы вучоных, дыпломы аб адкрыццях і вынаходніцтвах, макеты тэхналагічных установак.

Музеі, прысвечаныя ўласнай гісторыі, адкрылі рэспубліканскія ведамствы і прадпрыемствы: ***Мінскі трактарны завод*** (1970), ***Беларуская чыгунка*** (1971), ***Гомельскі абласны драматычны тэатр*** (1973), ***Аршанскі завод «Чырвоны Кастрычнік»*** (1973), ***Мінскі дзяржаўны цырк*** (1977), ***БелГРЭС*** (1980), ***Мінскі завод імя С. М. Кірава*** (1981), ***ДТСААФ*** (1982), ***Мінскі Палац піянераў*** (1988), ***МВД БССР*** (1989). Пачалі ствараць уласныя музеі Міністэрства сувязі БССР і ЦК ЛКСМБ. Работы па мемарыялізацыі ўласнай гісторыі распачалі дзясяткі разнастайных невялікіх арганізацый, у т. л. ***быхаўская раённая газета «Маяк Прыдняпроўя»*** (1971), ***мінскае тралейбуснае дэпо № 1*** (1978), ***Бераставіцкая раённая паліклініка*** (1987), ***ЖЭУ-1 г. Пінска*** (1980).

Вялікая колькасць гістарычна-манаграфічных музеяў была створана ў калгасах рэспублікі. Экспазіцыі большасці з іх дэманстравалі пераважна капійныя матэрыялы і распавядалі аб «баявых і працоўных традыцыях» вёскі, а таксама лёсах яе жыхароў. Аднак у шэрагу выпадкаў на вёсцы з'явіліся арыгінальныя, пазбаўленыя агульнапрынятых штампаў сапраўдныя асяродкі культуры, значэнне якіх выходзіла за межы калгасаў. Да іх ліку адносіліся ***музей імя акадэміка П. Ф. Ракіцкага ў в. Кустаўніца Мазырскага раёна***, ***музей меліярацыі ў в. Камуна Любанскага раёна***. Лепшым з іх было прысвоена званне народных.

Разглядаемы перыяд быў часам стварэння ў БССР першых музеяў-запаведнікаў — музейных устаноў новага тыпу, якія сфарміраваліся на аснове нерухомых помнікаў з захаваннем альбо ўзнаўленнем гісторыка-культурнага асяроддзя. Першы ў рэспубліцы ***Дзяржаўны гістарычна-культурны музей-запаведнік*** з'явіўся ў ***Полацку***. Выбар месца яго стварэння быў абумоўлены гісторыка-культурнай значнасцю помнікаў, што захаваліся ў горадзе, а таксама звязаных з імі падзей. Адкрыццю запаведніка папярэднічала вывучэнне археалагічнага матэрыялу, назапашанага ў выніку даследаванняў старажытнага Полацка, якія ў розныя гады праводзілі вядомыя вучоныя А. М. Ляўданскі, А. Р. Мітрафанаў, Л. В. Аляксееў, М. К. Каргер, Г. В. Штыхаў.

Архітэктурна-археалагічны запаведнік у Полацку быў заснаваны яшчэ ў верасні 1967 г. на тэрыторыі плошчай у 31,3 га і першапачаткова ўключаў тэрыторыю Ніжняга і Верхняга замкаў, а таксама Сафійскі сабор. Заснаванне запаведніка стварыла ўмовы не толькі для даследавання, але для рэстаўрацыі і музейнага выкарыстання помнікаў. Гэтыя работы атрымалі далейшы імпульс пасля таго, як у сакавіку 1971 г. запаведніку (перайменаванаму ў гістарычна-археалагічны) былі перададзены памяшканні Сафійскага сабора для захавання калекцый і работы невялікага навуковага калектыву. Наступнай важнай датай у гісторыі Полацкага гістарычна-археалагічнага запаведніка з'яўляецца чэрвень 1985 г., калі яму быў нададзены статус галаўной установы і да яго былі далучаны ўсе помнікі археалогіі, гісторыі і культуры, а таксама музеі горада.

Пасля ўзбуйнення структура запаведніка набыла наступны выгляд. Да нерухомых помнікаў адносіліся: паселішча 1-га тысячагоддзя да н. э. у гістарычным раёне Запалоцце, селішча і гарадзішча VII—VIII стст., Спаса-Праабражэнская царква з фрэскамі, фундаменты храма-пахавальні XII ст., комплекс Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра, Верхні замак з Сафійскім саборам XI—XVIII стст., Ніжні замак з валам Івана Грознага XVI ст., Домік Пятра I XVII ст., Богаяўленскі сабор і жылы будынак XVIII ст., Чырвоны мост XIX ст., Крыжаўзвіжанская царква XIX—XX стст., Лютэранская кірха XX ст., рэшткі езуіцкага калегіума.

*Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку*



Фонд рухомых помнікаў запаведніка быў размеркаваны паміж наступнымі музеямі. У старэйшым з іх, краязнаўчым, найбольш важныя ў навуковых адносінах матэрыялы змяшчаліся ў раздзеле дасавецкай гісторыі, у т. л. вырабы з крэменю, косці, скуры, кераміка, нумізматычная калекцыя, старажытная зброя, адзенне. Этнаграфічны матэрыял быў прадстаўлены комплексам «Куток сялянскай хаты канца XIX — пачатку XX ст.», вырабамі ткацтва, ганчарства, узорамі пляцення і дрэваапрацоўкі. Часткай запаведніка з'яўляўся таксама заснаваны ў 1971 г. Музей баявой славы, у пяці залах якога паказвалася гісторыя Полаччыны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1981 г. у Богаяўленскім саборы было адкрыта яшчэ адно структурнае падраздзяленне Полацкага запаведніка — Карцінная галерэя. Падчас адкрыцця ў фондах Карціннай галерэі змяшчалася каля 2 тыс. твораў жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у т. л. В. Бялыніцкага-Бірулі, Г. Вашчанкі, А. Кашкурэвіча, А. Марачкіна, Г. Паплаўскага, М. Савіцкага, У. Стальмашонка, Н. Шчаснай. У 1991 г. адбылася перадача будынка Богаяўленскага сабора праваслаўным веруючым, а пад карцінную галерэю пачалі рыхтаваць адзін з карпусоў езуіцкага калегіума.

Наступны музей, які адыгрываў у запаведніку дамінантную ролю, адкрыўся ў 1987 г. у Сафійскім саборы і быў прысвечаны яго гісторыі і

архітэктуры. Экспазіцыя Музея гісторыі і архітэктуры Сафійскага сабора размяшчалася ў двух залах і ахоплівала храналагічны перыяд з сярэдзіны XI ст. да нашых дзён. Сярод іншага ў ёй дэманстраваліся пліткі падлогі XI ст., фрагменты фрэскавага роспісу, рэчы з пахаванняў XIII—XVI стст., віслая пячатка кіеўскага князя Усевалада (Андрэя) XI ст., вапнавы камень з імёнамі сведак будаўніцтва сабора ў XI ст., найбольш цікавыя плінфы са знакамі і надпісамі. Арганічнай часткай экспазіцыі з'яўляліся фрагменты сцен сабора, якія паказвалі ход рэстаўрацыйных работ у 1969—1983 гг. Акрамя музея, у Сафійскім саборы з 1985 г. дзейнічала арганная канцэртная зала. Самы маленькі музей у складзе запаведніка — Музей-кватэра Героя Савецкага Саюза З. М. Тусналобавай-Марчанка — адкрыўся таксама ў 1987 г. у кватэры, дзе прайшлі апошнія гады знакамітай палачанкі.

У 1990 г. у будынку былой брацкай школы пачаў дзейнічаць Музей беларускага кнігадрукавання, у чатырнаццаці залах якога экспанаты былі згрупаваны па наступных раздзелах: 1) развіццё пісьменства, формаў і матэрыялаў кнігі; 2) рукапісная кніга на беларускіх землях; 3) жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны; 4) Скарыніяна; 5) кнігадрукаванне другой паловы XVI—XVIII ст., XIX — пачатку XX ст.; 6) гісторыя кніжнай ілюстрацыі; 7) тыпы і віды друкаванай прадукцыі; 8) развіццё паліграфіі. Былі прадстаўлены інтэр'еры майстэрні перапісчыка XVI ст. і друкарні XVII ст., прылады працы мастакоў-графікаў, друкарскае і паліграфічнае абсталяванне, а таксама слайды і відэафільмы, звязаныя з працэсам кнігадрукавання.

На пачатку 1990-х гг. агульная колькасць калекцый у фондах Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка наблізілася да лічбы 40 тыс. Сярод іх найвялікшае навукова-культурнае значэнне мелі скарб арабскіх куфіцкіх дырхемаў, знойдзены ў в. Казьянкі, свінцовая віслая пячатка XI ст., віты залаты пярсцёнак XI ст., залатыя скроневыя кольцы паўднёвага тыпу XII ст., каменны абразок «Канстанцін і Алена» XII ст. У ліпені 1990 г. згодна з рашэннем Савета Міністраў БССР Полацкі гісторыка-культурны запаведнік атрымаў статус установы рэспубліканскага значэння з вызначанымі мэтамі і задачамі, рэжымам утрымання помнікаў і зонамі яго аховы.

Прыклад новых адносін да музейнай дзейнасці, пераасэнсавання яе тэарэтычных асноў даў напрыканцы 1980—90-х гг. ***Дзяржаўны гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе»***. Як і ў Полацку, запаведнік быў створаны на аснове існаваўшага з 1967 г. Заслаўскага архітэктурна-археалагічнага запаведніка, у склад якога ўваходзілі гарадзішча «Замэчак» X ст., курганныя могільнікі X—XI стст., гарадзішча «Вал» XVI ст., кальвінскі збор XVI ст. (Спаса-Праабражэнская царква). Рашэнне Савета Міністраў БССР аб стварэнні гісторыка-культурнага запаведніка,

прынятае ў 1986 г., дазволіла ўключыць у яго склад некаторыя іншыя помнікі — касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVIII ст., рэшткі палацавага комплексу «Заслаўе» XIX ст., вуліцы сярэдневяковага горада, а таксама навакольныя маляўнічыя ландшафты. Рэалізацыя дадзенага рашэння адбывалася на фоне крызісу таталітарнай ідэалогіі, дэмакратызацыі грамадскага жыцця, працэсу адраджэння беларускай культуры. Усё гэта ў атмасферы галоснасці вызначыла склад і характар дзейнасці сфарміраванага ў 1988 г. творчага калектыву запаведніка на чале з А. М. Калбаска і рэалізацыі шэрагу ідэй новай музеялогіі[1].

У 1989 г. супрацоўнікамі была распрацавана і прынята канцэпцыя запаведніка, у падмурак якой паклалі прынцыпы непарыўнай узаемасувязі самасвядомасці народа і яго культуры, экалагічны падыход да месца і ролі чалавека ў прыродзе і грамадстве. Горад у канцэпцыі разглядаўся як культурная экасістэма, дзе культурныя і прыродныя кампаненты звязаны паміж сабой прынцыпамі самазахавання і самаабнаўлення. Быў праведзены аналіз стану помнікаў у Заслаўі, акрэслены напрамкі дзейнасці, арганізацыйная структура запаведніка, этапы яго развіцця. Адначасова распачаўся збор прадметаў музейнага значэння як у ваколіцах Заслаўя, так і далёка за яго межамі. Сабраныя помнікі рэгістраваліся з дапамогай распрацаванай у 1991 г. сумесна з Мінскім радыётэхнічным інстытутам першай у БССР праграмы «Камп'ютарызацыя фондаў».

З мэтай аб'яднання савецкіх прыхільнікаў ідэй новай музеялогіі кіраўніцтва Заслаўскага запаведніка арганізавала на пачатку 1990 г. канферэнцыю, у якой удзельнічалі прадстаўнікі музеяў-запаведнікаў з Архангельска, Кемерава, Ноўгарада, Львова, Румшышкеса, Таліна. Удзельнікі канферэнцыі, падагульняючы вопыт зробленага на месцах, прынялі дэкларацыю, у якой абвясцілі аб сваім далучэнні да міжнароднага руху «За новую музеялогію».

Чарговым крокам на шляху развіцця запаведніка стала пастанова Савета Міністраў БССР ад 19 верасня 1990 г. «Аб гісторыка-культурным запаведніку "Заслаўе"», што пацвярджала статус запаведніка, фіксаваліся межы яго ахоўнай зоны і межы зон рэгулявання забудовы ахоўваемага прыроднага ландшафту. Неўзабаве, пасля вызначэння заканадаўчых і

[1] Новая музеялогія — новы напрамак у развіцці музейнай тэорыі і практыкі, а таксама міжнародны рух, звязаны з пошукамі шляхоў абнаўлення і дэмакратызацыі музеяў, пераасэнсавання іх ролі ў сучасным грамадстве. Ідэі новай музеялогіі абапіраюцца на выніках эксперыментаў новых музейных устаноў — экамузеяў, якія ўзніклі ў Францыі на пачатку 1970-х гг. Тэарэтычнае абгрунтаванне экамузея было ўпершыню зроблена Ж. А. Рыўерам, які выкарыстаў скандынаўскую мадэль музея пад адкрытым небам з адным адрозненнем — будынкі павінны былі заставацца ў іх арыгінальным кантэксце, без перасоўвання ў спецыяльна адведзенае месца.



*Этнаграфічны комплекс «Млын» у Дзяржаўным гісторыка-культурным запаведніку «Заслаўе»*

тэарэтычных асноў сваёй дзейнасці, супрацоўнікі запаведніка распачалі практычныя захады па захаванні помнікаў у кантэксце іх культурнага і прыроднага асяроддзя. Першымі былі створаны этнаграфічны комплекс «Млын», хата завознікаў і свіран. Па суседстве ад дзеючага комплексу «Млын» быў адкрыты жывы музей «Кузня», а таксама ганчарная майстэрня. У выставачным комплексе запаведніка на пачатку 1990-х гг. жыхары Заслаўя і турысты пазнаёміліся з першымі традыцыйнымі музейнымі экспазіцыямі: музычныя інструменты «Музыка вячорак», маляваныя дыванкі «Алена Кіш. Паміж двух сусветаў» і, нарэшце, «Мара аб Заслаўі», якая давала прыклад нетрадыцыйнай, мастацка-вобразнай інтэрпрэтацыі тысячагадовай гісторыі горада. Трэба адзначыць, што гэтыя музейныя праекты ажыццявіліся дзякуючы не толькі энтузіязму супрацоўнікаў, але і таму, што ў канцы 1980-х гг. дзяржава дазволіла музеям самастойна размяркоўваць бюджэтныя сродкі.

Адукацыйна-асветніцкая дзейнасць экамузея накіравана перш за ўсё на насельніцтва мясцовасці, у якой ён існуе. Менавіта ў выніку супрацоўніцтва і дыялогу паміж экамузеем і насельніцтвам узнікае ўзаемапаразуменне і павага. У Заслаўі працэс пошукаў кантактаў запаведніка з мясцовым насельніцтвам адбываўся хваравіта і няпроста. Гэты працэс абцяжарвалі размытасць абшчыннай псіхалогіі, моцны ўціск суседняга мегаполіса, няпэўнасць нацыянальна-гістарычнай самаідэнтыфікацыі ў мясцовага насельніцтва. Першапачаткова мясцовыя жыхары ставіліся да намаганняў па стварэнні запаведніка як гледа-

чы своеасаблівага этнаграфічнага шоу. Разуменню імі сэнсу дзейнасці запаведніка паспрыялі такія акцыі, як экалагічны мітынг, арганізаваны супрацоўнікамі ў 1989 г., рэгулярнае правядзенне фальклорных свят, вяртанне гістарычных назваў вуліцам Заслаўя, музейна-педагагічныя заняткі з вучнёўскай моладдзю горада, удзел у гарадскім радыёэфіры.

## 3.3. МАСТАЦКІЯ, ЛІТАРАТУРНЫЯ І ПРЫРОДАЗНАЎЧЫЯ МУЗЕІ

Старшыня СНК БССР П. К. Панамарэнка падпісаў 16 мая 1944 г. пастанову аб узнаўленні дзейнасці ***Беларускай-дзяржаўнай-карціннай-галерэі*** з часовай базай у Гомелі. Дырэктарам галерэі была прызначана А. В. Аладава, якая ўзначальвала аддзел рускага і беларускага мастацтва галерэі ў даваенны час. Фарміраванне пасляваеннага фондавага збору галерэі адбылося ў значнай ступені дзякуючы яе 33-гадовай самаахвярнай падзвіжніцкай працы на гэтай пасадзе. У аснову новай калекцыі Дзяржаўнай карціннай галерэі былі пакладзены карціны беларускіх мастакоў, якія дэманстраваліся на выставах 1944 г. у Маскве і 1945 г. у Мінску. На выдзеленыя ўрадам грошы ўжо ў жніўні 1945 г. былі набыты палотны Б. Кустодзіева, В. Паленава, К. Брулова, І. Левітана. Дзяржаўны музей выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна і Рускі музей перадалі тры краявіды А. Куінджы, краявід А. Багалюбава і парадны партрэт імператрыцы Кацярыны II. На былым Архірэйскім падвор'і ў Мінску, дзе да вайны знаходзіўся БДМ, былі знойдзены абразы, у т. л. такія шэдэўры беларускага іканапісу, як «Нараджэнне Маці Божай» Пятра Яўсеевіча з Галынца 1649 г. і «Узнясенне» XVI ст.

Канцэпцыя збіральніцкай дзейнасці галерэі, распрацаваная А. В. Аладавай, у асноўным арыентавалася на збіранне айчыннай і рускай класікі. У калекцыянераў былі набыты палотны выдатных мастакоў-беларусаў — І. Аляшкевіча, А. Гараўскага, І. Хруцкага, С. Заранкі, Н. Сілівановіча. У гэтай рабоце ёй дапамагалі творчыя сувязі з выдатнымі расійскімі мастакамі, рэстаўратарамі, мастацтвазнаўцамі, у т. л. І. Грабаром, А. Фёдаравым-Давыдавым, братамі Корынамі, У. Фаворскім, П. Канчалоўскім, В. Бялыніцкім-Бірулем. Дзякуючы іх дарункам, парадам і кансультацыям у галерэі былі закладзены асновы калекцыі беларускага і рускага класічнага мастацтва.

На канец 1940-х і па 1950-я гг. прыпадае асабліва актыўная работа па ўзбагачэнні фондаў лепшымі ўзорамі айчыннага мастацтва. Актыўная экспедыцыйная дзейнасць, якая пачалася ўжо ў 1946 г. і спалучалася з разгортваннем навукова-даследчых і рэстаўрацыйных ра-

бот, дазволіла сфарміраваць выдатную калекцыю беларускага мастацтва XII—XVIII стст. У гэтыя гады ў галерэю трапляюць абразы XV—XVIII стст. — «Маці Божая Адзігітрыя», «Параскева», «Маці Божая Адзігітрыя Смаленская», «Абраныя святыя» з Шарашова, каменныя абразы, шахматы з Ваўкавыска, царскія вароты з Нікольскай царквы Магілёва.

У лістападзе 1947 г. адкрылася невялікая экспазіцыя галерэі. Яна размясцілася ў пяці залах будынка Дома прафсаюзаў, дзе ў той час ўжо знаходзіўся Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У экспазіцыі дэманстраваліся творы рускай класікі і сучаснае савецкае (у т. л. беларускае) мастацтва. Далейшаму разгортванню сталай экспазіцыі перашкаджала адсутнасць памяшкання, таму асноўны акцэнт у экспазіцыйнай дзейнасці галерэі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе рабіўся на правядзенне выставаў. Напрыклад, у 1955 г. праходзілі наступныя выставы: «Заходнееўрапейскае мастацтва са збораў Дзяржаўнага Эрмітажа» (Мінск), «Польскае выяўленчае мастацтва канца XVIII—XX стст. з музеяў і прыватных збораў Польшчы» (Мінск), «Творы народнага мастака БССР А. А. Бембеля. Да 50-годдзя са дня нараджэння» (Мінск), «Выяўленчае мастацтва і народная творчасць Беларускай ССР» (Масква), «Творы беларускіх мастакоў і народных майстроў» (Каўнас).

Работы па аднаўленні Дзяржаўнай карціннай галерэі ішлі поўным ходам, калі нечакана ў жніўні 1950 г. па рашэнні Савета Міністраў БССР Польскай Народнай Рэспублікі былі перададзены 89 нясвіжскіх партрэтаў з яе фондаў. У гэтым акце «добрай волі», які нанёс вялікую страту беларускай мастацкай спадчыне, праявіўся, з аднаго боку, нігілізм да нацыянальнай культуры беларускага савецкага кіраўніцтва, з другога — маштабы рэстытуцыйнай дзейнасці Польшчы пасля заканчэння Другой сусветнай вайны не толькі на Захадзе, але і на Усходзе. Перадача радзівілаўскіх партрэтаў была вынікам работы польскага ўрада, якая мэтанакіравана праводзілася разам з савецкім бокам па перадачы ўсіх польскіх культурных каштоўнасцей.

Тым не менш збіранне твораў мастацтва працягвалася. Былі набыты «Смерць Аданіса» А. Ласенкі, «Партрэт Т. Разнатоўскай» Д. Лявіцкага, «Партрэт К. Радзянкі» У. Баравікоўскага, «Старая сялянка» А. Венецыянава, «Партрэт А. Легран» П. Фядотава, «Царэўна» В. Сурыкава, «З прашэннем» В. Васняцова, «Паводка» І. Левітана, «Дзяўчына ў вянку» С. Канёнкава. Як і раней, асаблівая ўвага надавалася збіранню творчасці мастакоў, жыццё і дзейнасць якіх былі звязаны з Беларуссю. Сярод іх трэба ўзгадаць «Групавы партрэт» І. Аляшкевіча; «Партрэт Ф. Талстога» С. Заранкі; «Ружы і плады», «Партрэт сына» І. Хруцкага; «Каля кузні», «Жаночы партрэт», «Вечар у Мінскай губерні» А. Гараўскага;

«Летні дзень» Ф. Ясноўскага; «Жаночы партрэт», «Партрэт мужчыны» К. Карсаліна; «Імерацінская арба з буйваламі» Ф. Хадаровіча; «Месячная ноч. Здраўнёва» І. Рэпіна; «Пахмурны дзень», «Рэчка. Вечар», «Ціхая светлая ноч. Вясковая вуліца» В. Бялыніцкага-Бірулі; «Возера Сенеж», «Інтэр'ер», «Вясковая ноч» С. Жукоўскага.



*А. В. Аладава* 1950-я гг.

У 1957 г. Дзяржаўная карцінная галерэя, перайменаваная ў ***Дзяржаўны мастацкі музей БССР***, пераехала ў новы будынак (архітэктар М. Бакланаў), дзе ў тым жа годзе адбылося яе адкрыццё. Падчас пераезду агульная колькасць твораў мастацтва ў фондавых калекцыях дасягнула 3,5 тыс. адзінак. Цікавасць публікі да гэтага збору была вялікая. Толькі за першыя шэсць месяцаў 1958 г. музей агледзела 40,5 тыс. чалавек. Наведвальнікі ўбачылі ў залах класічную мастацкую спадчыну беларускага і рускага народаў. Моцнае ўражанне пакідалі старажытны беларускі жывапіс і драўляная «рэзь», якія ўпершыню занялі належнае месца ў экспазіцыі музея. Шырока была паказана творчасць сучасных беларускіх мастакоў — І. Ахрэмчыка, В. Волкава, Я. Зайцава, К. Касмачова, А. Шыбнёва, В. Цвіркі, М. Філіповіча, З. Азгура, А. Бембеля, А. Глебава і інш.

Дзяржаўны мастацкі музей БССР адыгрываў вялікую ролю ў культурным жыцці краіны і належаў да найбольш значных музеяў гэтага профілю ў СССР. Яго калекцыі, а па колькасці і якасці яны саступалі толькі зборам вядучых мастацкіх музеяў Масквы і Ленінграда, па сваім складзе ўяўлялі значную гісторыка-культурную каштоўнасць і ўключалі шэраг унікальных твораў. Яны выклікалі цікавасць з боку спецыялістаў і шырокай грамадскасці, публікаваліся ў айчыннай і замежнай літаратуры.

Працягвалася планамерная і сістэматычная экспедыцыйная работа па выяўленні, вывучэнні і ахове гісторыка-культурнай спадчыны, у выніку якой значна ўзбагацілася калекцыя старажытнабеларускага мастацтва. З 1946 па 1988 г. музеем было арганізавана 80 навуковых экспедыцый, абследаваны 1354 населеныя пункты, дзе выяўлена і прынята на ўлік больш за 2 тыс. помнікаў жывапісу, скульптуры, прыкладнога мастацтва, манускрыптаў і стáрадрукаў. Гэта работа дазволіла зрабіць агульныя высновы пра характар, своеасаблівасці і асноўныя тэндэнцыі развіцця мастацтва Беларусі XII—XVIII стст. Адначасова са збіраннем і



*Будаўніцтва Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у 1956 г.*

вывучэннем экспедыцыйных матэрыялаў былі разгорнуты работы па іх рэстаўрацыі. У 1989 г. у складзе музея пачалі працаваць рэстаўрацыйныя майстэрні з вялікім штатам спецыялістаў розных напрамкаў.

Буйнейшай у зборы мастацкага музея па-ранейшаму з'яўлялася калекцыя беларускага выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладного мастацтва XX ст. Яна фарміравалася дзякуючы планамернаму набыццю твораў беларускіх мастакоў М. Савіцкага, А. Анікейчыка, Г. Вашчанкі, В. Грамыкі, Г. Паплаўскага, Л. Шчамялёва, В. Цвіркі, П. Масленікава і інш. на выставах і непасрэдна ў майстэрнях. Да канца 1970-х гг. склалася калекцыя заходнееўрапейскага мастацтва, якая ўключала больш за тысячы адзінак. Яна змяшчала творы прадстаўнікоў розных школ, эпох, напрамкаў і храналагічна ахоплівала перыяд XVI—XX стст. Узбагачэнню гэтай калекцыі паспрыяла мінская выстава твораў заходнееўрапейскага мастацтва 1965 г., калі быў закуплены шэраг каштоўных твораў. Дзяржаўны музей выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна перадаў у дар свае карціны. Перадача з маскоўскага Музея народаў Усходу калекцыі мастацтва Кітая і Індыі паклала пачатак калекцыі арыенталістыкі. Яе камплектаванне праводзілася ў наступныя гады па шырокай праграме — ад сярэдневяковых бронзавых вырабаў, лакавых мініяцюр і эмалей да сучаснага жывапісу на шоўку, вышывак і народных друкаваных карцінак.

Штогод у музеі праводзілася 30—35 стацыянарных і перасоўных выставаў, якія мелі розную гісторыка-культурную каштоўнасць. Да найбольш яскравых поспехаў трэба аднесці выставу «Партрэты з Нясвіжа і



*У адным з залаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР* 1950-я гг.

Гродна XVI—XIX стст.», якая праходзіла ў 1982 г. У яе аснову былі пакладзены рэшта нясвіжскай партрэтнай галерэі і партрэты сям'і Весялоўскіх, знойдзеныя ў 1966 г. у кляштары брыгітак у Гродне. Сапраўднымі падзеямі ў культурным жыцці БССР былі замежныя выставы, якія праводзіліся ў гэты час, — «Мастацтва Галандыі і Фландрыі XVII ст. з Дзяржаўнага Эрмітажа» (1966), «Заходнееўрапейскі жывапіс у зборах ЗША. Са збору А. Хамера» (1973), «Шэдэўры польскага жывапісу XIX — пачатку XX ст. З музеяў Польшчы» (1974), «Скарбы Дрэздэнскай галерэі» (1975), «Кераміка Пікаса» (1981), «Сучаснае мастацтва Канады. З калекцыі Файерстоўна. Таронта» (1988). У сваю чаргу, музей даў магчымасць пазнаёміцца з творчасцю беларускіх мастакоў жыхарам больш за 50 краін свету, у т. л. Польшчы, Венгрыі, Аўстрыі, Грэцыі, Італіі і іншых краін.

У сярэднім экспазіцыю мастацкага музея аглядала больш за 200 тыс. чалавек у год. У якасці найбольш важнай і перспектыўнай часткі яго аўдыторыі была вызначана моладзь. Асноўным напрамкам работы з ёю было эстэтычнае выхаванне — лекторый выхаднога дня, музычныя вечарыны, гурток юных аматараў мастацтва, універсітэты культуры па папулярызацыі мастацкіх ведаў. У плане іх работы былі не толькі заняткі ў музеі, але і сустрэчы з мастакамі, наведванне выставаў, экскурсіі ў іншыя гарады і да гістарычна-культурных помнікаў. Лібералізацыя ўмоў гаспадарання ў канцы разглядаемага перыяду дазволіла кіраўніцтву музея выкарыстоўваць эксперыментальныя формы работы, у прыватнасці правядзенне выставаў-аўкцыёнаў.



*Музей беларускай народнай творчасці ў Раўбічах*

Адной з асаблівасцей работы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР было стварэнне сеткі філіялаў і аддзелаў у розных частках рэспублікі. Гэта работа праходзіла пад кіраўніцтвам мастака-графіка і мастацтвазнаўца Ю. А. Карачуна, які ўзначальваў музей на працягу 20 гадоў, пачынаючы з 1977 г. У 1978 г. быў адкрыты філіял музея — карцінная галерэя ў в. Гурыны Мазырскага раёна, заснаваная ў 1976 г. як музей на грамадскіх пачатках. У яе сямі залах было прадстаўлена каля 200 твораў сучаснага беларускага мастацтва. З 1979 г. з асаблівасцямі народнага мастацтва Беларусі, мінулага і сучаснасці знаёміў яшчэ адзін філіял — Музей беларускай народнай творчасці ў Раўбічах. Больш за 100 твораў В. Бялыніцкага-Бірулі, якія адлюстроўвалі творчы шлях славутага мастака, дэманстраваліся ў магілёўскім філіяле Дзяржаўнага мастацкага музея, адкрытым у 1982 г. Акрамя карцін, у Мастацкім музеі В. Бялыніцкага-Бірулі ў спецыяльных мемарыяльных залах можна было пазнаёміцца з жыццёвым шляхам мастака. Пазней адкрыліся новыя важныя філіялы Мастацкага музея: у 1983 г. — Гальшанскі замак, з 1984 г. — сядзібны дом Ваньковічаў у Мінску, а з 1987 г. — Мірскі замак. Распачаліся работы на Лошыцкай сядзібе ў Мінску.

Вельмі важная ў навуковых і культурных адносінах установа мастацка-гістарычнага профілю — ***Музей старажытнабеларускага мастацтва*** — была заснавана рашэннем прэзідыума Акадэміі навук БССР 7 ліпеня 1977 г. і з'явілася вынікам сумесных намаганняў супрацоўнікаў дзвюх акадэмічных устаноў — Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору і Інстытута фізікі. Вытокі музея звязаны са стварэннем



*Э. І. Вецер у экспедыцыі ў Аршанскім раёне* — 1984 г.

на пачатку 1970-х гг. па ініцыятыве навуковага супрацоўніка Інстытута фізікі Ю. В. Хадыкі клуба аматараў старажытнабеларускага мастацтва. Першапачаткова ў склад клуба ўваходзілі зацікаўленыя мастацтвам вучоныя-фізікі. Адзіным прафесіянальным мастацтвазнаўцам сярод іх была супрацоўніца Дзяржаўнага мастацкага музея БССР Э. І. Вецер. Хутка ў клубе з'явіліся новыя члены, людзі розных прафесій, ахопленыя жаданнем вывучаць старажытнае беларускае мастацтва. На свае семінары члены клуба запрашалі буйнейшых у рэспубліцы спецыялістаў — гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, архітэктараў, рэстаўратараў. На працягу дзесяці гадоў існавання клуба яго членамі былі праведзены дзясяткі экспедыцый у розныя рэгіёны Беларусі. Падчас гэтых экспедыцый абследаваліся зачыненыя цэрквы і манастыры, дзе сярод смецця і пылу было выяўлена і дастаўлена ў Акадэмію навук каля 400 старажытных абразоў, скульптур, помнікаў дэкаратыўнага мастацтва, кніг.

Адначасова з клубам аматараў старажытнабеларускага мастацтва экспедыцыйную дзейнасць па выяўленні і фіксацыі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі разгарнуў сектар Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, створаны ў складзе Акадэміі навук[1]. Першая экспедыцыя сек-

[1] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі – структурнае падраздзяленне Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР было створана ў канцы 1969 г. пасля пастановы прэзідыума АН СССР і Міністэрства культуры СССР 1967 г. аб падрыхтоўцы «Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР». Вынікам работы сектара стала выданне ў 1984–1988 гг. сумесна з аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР і выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» сямітомнага аднайменнага выдання, якое змяшчала больш за 14 тыс. артыкулаў пра нерухомую гісторыка-культурную спадчыну Беларусі.

тара, арганізаваная яго кіраўніком В. В. Церашчатавай[1] у 1970 г. у Брэсцкую вобласць, паклала падмурак яго калекцыі рухомых помнікаў (абразы, скульптуры, мастацкія тканіны XVII—XVIII стст.). Не менш плённыя былі наступныя комплексныя экспедыцыі сектара, якія праводзіліся штогод да трох разоў.

Падчас кампаніі супраць нацыяналістычных ухілаў сярод беларускай інтэлігенцыі, якая пачалася пасля красавіцкага (1974 г.) Пленума ЦК КПБ, калекцыю старажытнабеларускага мастацтва, сабраную членамі клуба, было загадана перадаць Дзяржаўнаму мастацкаму музею БССР. Шматлікія пратэсты Ю. В. Хадыкі і Э. І. Вецер не былі пачуты прадстаўнікамі ўлад. Хутка і сам клуб прыпыніў сваю дзейнасць. Далейшыя работы па фіксацыі, вывучэнні і зборы гісторыка-культурнай спадчыны працягваліся ўжо толькі ў рамках Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі пад кіраўніцтвам В. В. Церашчатавай. У гэтай рабоце ўдзельнічалі таксама члены былога клуба старажытнабеларускага мастацтва.

Неўзабаве новыя экспедыцыйныя знаходкі, а таксама частка калекцыі, вернутая з Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, дазволілі сектару ўзняць перад кіраўніцтвам Акадэміі навук пытанне аб стварэнні музея на аснове сабраных помнікаў. Гэтаму паспрыялі надыходзячыя ўрачыстасці, прысвечаныя юбілею Акадэміі навук. Для будучага музея было выдзелена памяшканне ў новым корпусе гуманітарных навук, выраблена экспазіцыйнае абсталяванне. Дзякуючы арганізатарскім здольнасцям і энергіі В. В. Церашчатавай з музейных сховішчаў Масквы і Вільні ўдалося атрымаць абразы з даваенных мінскіх збораў і рэдкія ўзоры народнага мастацтва. Аддзел рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук перадаў на часовае захаванне беларускія старадрукі, Інстытут гісторыі — дакументальныя матэрыялы. Адначасова з ліквідацыяй лакун у калекцыях рэстаўратары рыхтавалі прадметы для экспанавання ў залах.

Адкрыццё Музея старажытнабеларускай культуры адбылося 15 мая 1979 г. У экспазіцыі было прадстаўлена каля 2,5 тыс. прадметаў, размер-

[1] Церашчатава Вольга Васільеўна (1926—1992) нарадзілася ў г. п. Лоеў Гомельскай вобл., з 1944 г. дабравольцам уступіла ў Чырвоную армію, некалькі гадоў служыла ў Германіі. Пасля дэмабілізацыі скончыла Маскоўскі паліграфічны інстытут, аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, дзе абараніла кандыдацкую дысертацыю. У 1969 г. узначаліла сектар Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, з 1974 г. кіравала групай музейнага фонду, а з 1979 г. — работ Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Аўтар шматлікіх навуковых прац па гісторыі беларускага мастацтва.



*Бялыніцкі абраз Божай Маці XVII ст. са збору Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі*

каваных па мастацкім, этнаграфічным і археалагічным раздзелах. Археалагічныя матэрыялы асвятлялі этапы засваення чалавекам тэрыторыі Беларусі ад эпохі палеаліту да позняга феадалізму. Сярод іх выдзяляліся: скульптурная выява галавы чалавека 3—2-га тыс. да н. э., фрагменты арнаментаванага керамічнага посуду канца 3-га тыс. да н. э., сякера канца 5—3-га тыс. да н. э., узоры скуранога абутку XII ст. з Полацка. У раздзеле этнаграфіі былі выстаўлены экспанаты, якія характарызавалі матэрыяльную культуру беларусаў XIX — пачатку XX ст., у т. л. народны касцюм, прылады працы, хатняе начынне, вырабы народнага мастацтва, кафлю XV—XX стст., цацкі, работы сучасных разьбяроў па дрэве. У раздзеле мастацтва прыцягвалі ўвагу наведвальнікаў абразы «Маці Боская Замілаванне» XIV—XV стст., «Пакланенне вешчуноў» 1514 г., «Вогненнае ўшэсце Іллі» 1744 г., «Тройца старазапаветная» першай паловы XVII ст., драўляная скульптура «Евангеліст Іаан» пачатку XVI ст., надмагілле П. Сапегі і членаў яго сям’і пачатку XVII ст., узоры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мастацкія тканіны, у т. л. слуцкія паясы XVII—XIX стст., фрагменты іканастасаў, алтароў, абклады абразоў і інш. Вялікую мастацкую і гістарычную каштоўнасць меў «моладаўскі звон», адліты ў 1583 г. паводле загаду дзяржаўнага і ваеннага дзеяча С. Войны для царквы ў сваім маёнтку Моладава (цяпер Іванаўскі раён). Акрамя таго, у экспазіцыі дэманстраваліся кнігі першых беларускіх друкарняў, у т. л. Брэсцкая біблія 1563 г. і Статуты 1588 і 1619 гг. Вялікага Княства Літоўскага.

З першых дзён існавання Музей старажытнабеларускай культуры стаў важным навуковым цэнтрам па вывучэнні матэрыяльнай культуры Беларусі. У ім рэгулярна праводзіліся навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя розным аспектам гісторыка-культурнай праблематыкі. Вынікі даследаванняў супрацоўнікаў музея друкаваліся ў спецыяльным выданні «Новыя адкрыцці»[1]. Праводзіўся культуралагічны семінар «Сумоўе», удзельнікамі якога былі супрацоўнікі розных акадэмічных інстытутаў, выкладчыкі БДУ, мастакі. Фондавыя калекцыі вывучалі выкладчыкі ВНУ, мастакі, студэнты.

Музей старажытнабеларускай культуры, як і большасць ведамасных музеяў, даваў абмежаваныя магчымасці агляду сваіх экспазіцый для шырокай аўдыторыі. Адсутнічалі штатныя пасады экскурсаводаў, наглядчыкаў. Іх абавязкі выконвалі навуковыя супрацоўнікі музея. Ён быў адкрыты два разы на тыдзень у буднія дні, што выклікала незадаволенасць грамадскасці. Так, адзін са звычайных турыстаў, якому не пашанцавала трапіць у музей, з крыўдаю адзначаў: « ...выклікае горкія пачуцці той факт, што музей адкрыты практычна толькі для груп "Інтурыста" і некаторых абраных». А дзесяцікласнікі адной з цэнтральных мінскіх школ шчыра прызналіся ў кнізе водгукаў: «Вельмі шкада, што не ведалі аб гэтым музеі раней».

У 1988 г. у будынку былога Пазямельна-сялянскага банка распачалася праца ***Магілёўскага абласнога мастацкага музея***. У першыя гады існавання (тады яшчэ мастацкай галерэі) у яе залах праводзіліся пераважна часовыя выставы з фондаў розных музеяў, а таксама прадстаўленыя мастакамі.

У наступным годзе ў Брэсце адкрыўся яшчэ адзін музей мастацкага профілю, аснову фондаў якога склалі каштоўнасці, канфіскаваныя брэсцкімі мытнікамі. У дзень адкрыцця ***Музея выратаваных каштоўнасцей*** колькасць жадаючых агледзець яго экспазіцыю пераўзышла тэхнічныя магчымасці. Тыя, хто здолеў патрапіць на адкрыццё, убачылі абразы XVI—XIX стст., заходнееўрапейскі і рускі жывапіс XVII—XIX стст., клады, калекцыю рускіх самавараў, мэблю, фарфор, зброю.

У ліпені 1942 г. была прынята пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б «Аб літаратурнай спадчыне народнага паэта БССР Янкі Купалы», згодна з якой пры АН БССР стваралася камісія для збору ўсіх матэрыялаў, што тычыліся жыцця і дзейнасці паэта. Работа камісіі праводзілася па плану, распрацаваным удавой Я. Купалы — У. Ф. Луцэвіч. Значная колькасць матэрыялаў, сабраных камісіяй, дазволіла ўжо ў 1943 г. узняць пы-

[1] Да 1991 г. з друку выйшлі тры зборнікі: «Помнікі старажытнабеларускай культуры. Новыя адкрыцці». Мінск, 1984; «Помнікі культуры. Новыя адкрыцці». Мінск, 1985; «Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Новыя даследаванні». Мінск, 1989. Рыхтаваўся да выдання чацвёрты.

танне аб стварэнні музея, прысвечанага паэту. А ў жніўні 1945 г. СНК БССР і ЦК КП(б)Б прынялі пастанову «Аб увекавечанні памяці народнага паэта Янкі Купалы». У пастанове ішла гутарка аб будаўніцтве ***Дома-музея Я. Купалы ў Мінску*** і арганізацыі філіялаў: аднаго ў Вязынцы Радашковіцкага раёна, на радзіме паэта, другога ў Ляўках Аршанскага раёна, дзе да вайны знаходзілася лецішча Я. Купалы. Першапачаткова музей знаходзіўся ў падпарадкаванні АН БССР. Яму былі перададзены некалькі пакояў у будынку Дома прафсаюзаў, дзе ў той час ужо знаходзіліся два музеі — гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Дзяржаўная карцінная галерэя.



*У. Ф. Луцэвіч, дырэктар Музея Я. Купалы —* 1952 г.

У першыя гады існавання музея Я. Купалы пад кіраўніцтвам яго дырэктара У. Ф. Луцэвіч была разгорнута актыўная збіральніцкая праца. Аднак справа ўскладнялася тым, што мінскі дом Я. Купалы ў гады нямецкай акупацыі згарэў разам з бібліятэкай і архівам. Тым не менш у выніку пошукаў у архівах і дапамогі з боку прыватных асоб былі сабраны амаль усе выданні кніг Я. Купалы, яго рукапісы, асабістыя рэчы, фотаздымкі, успаміны сяброў. На аснове гэтых матэрыялаў у верасні 1945 г. адкрылася першая невялікая экспазіцыя музея ў Мінску, а ў чэрвені 1948 г. — яго філіяла на радзіме песняра ў Вязынцы.

У 1950 г. музей пераехаў у новы будынак на вуліцы Энгельса, 27, дзе ў наступным годзе адбылося яго ўрачыстае адкрыццё. У пяці экспазіцыйных залах музея дэманстравалася каля тысячы экспанатаў, з дапамогай якіх былі адлюстраваны дзве тэмы: «Я. Купала — паэт і драматург» і «Адлюстраванне асобы паэта ў творах мастацтва». Трэба адзначыць, што ў абедзвюх экспазіцыях асноўны акцэнт рабіўся на творчасць Я. Купалы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, у цэлым жа яны давалі спрошчаную, ідэалагізаваную інтэрпрэтацыю яго жыцця.

З'яўляючыся адной з устаноў АН БССР, музей Я. Купалы ўжо ў першыя пасляваенныя гады распачаў актыўную навуковую работу. З 1946 г. у ім штогод праводзіліся Купалаўскія чытанні, у якіх бралі ўдзел навукоўцы і пісьменнікі з розных рэспублік СССР. Праводзілася сістэматызацыя і падрыхтоўка да друку рукапісаў, складаўся жыццёвы летапіс і бібліяграфічны даведнік твораў, да 70-годдзя са дня нараджэння паэта быў выдадзены юбілейны зборнік.

У 1957 г. на былым папялішчы дома, у якім паэт жыў да вайны, было распачата ўзвядзенне будынка для літаратурнага музея Я. Купалы.




*Мемарыяльны запаведнік «Вязынка» на радзіме Я. Купалы*
1953 г.

У стварэнні новай экспазіцыі, адкрытай у маі 1960 г., бралі ўдзел вядомыя пісьменнікі — К. Крапіва, М. Лынькоў, П. Глебка, П. Броўка. Тры першыя залы музея былі прысвечаны дарэвалюцыйнаму перыяду жыцця паэта, пяць наступных — савецкаму, у апошняй зале размяшчалася выстава «Янка Купала ў народнай творчасці» (мастацкае афармленне — А. Кроль). У цокальным паверсе знаходзілася лекцыйная зала. У 1962 г. падчас святкавання 80-годдзя песняра ў будынку былой канторы Капыскага лясніцтва адкрыўся філіял музея «Ляўкі».

У 1963 г. Літаратурны музей Я. Купалы быў выведзены са складу Акадэміі навук і падпарадкаваны Міністэрству культуры. Гэта рашэнне абумовіла змену прыярытэтаў — галоўным паказчыкам якасці работы музея цяпер стала адукацыйна-асветніцкая, а не навукова-даследчая дзейнасць. Між тым, і ў наступны час навуковыя супрацоўнікі музея зрабілі шэраг важных знаходак, якія дазвалялі па-новаму расказаць пра жыццё, літаратурную і грамадскую дзейнасць паэта, шырэй паказаць яго пісьменніцкае асяроддзе. У 1973 г. была створана творчая група па распрацоўцы новага тэматыка-экспазіцыйнага плана, якую ўзначаліла загадчыца экспазіцыйнага аддзела Ж. К. Дапкюнас. Мастацкі бок праекта выконвала група мінскіх мастакоў на чале з Э. Агуновічам. Новая экспазіцыя была арганізавана па тэматыка-храналагічным прынцыпе, асноўная ўвага ў ёй надавалася па-ранейшаму савецкаму перыяду жыцця Я. Купалы. У дванаццаці залах была прадстаўлена вялікая колькасць твораў мастацтва, якія адлюстроўвалі старонкі жыцця паэта. Быў узноўлены мемарыяльны інтэр’ер — кабінет Я. Купалы. Урачыстае адкрыццё новай экспазіцыі адбылося 15 мая 1976 г. Яна праіснавала да канца разглядаемага перыяду і атрымала вялікую колькасць




*Адкрыццё Дома-музея А. Міцкевіча ў Навагрудку.* 1955 г.

станоўчых водгукаў дзякуючы сур'ёзнай навуковай распрацоўцы і ўдалым дызайнерскім знаходкам. На жаль, такія тэмы як адносіны паэта і ўлады, абставіны яго смерці і некаторыя іншыя заставаліся па-за сценамі экспазіцыйных залаў.

У 1972 г. на радзіме Я. Купалы на аснове філіяла музея быў заснаваны мемарыяльны запаведнік «Вязынка», куды ўвайшлі хатка дваровых, помнік паэту работы З. Азгура, гарадзішча II—IV стст. н. э., валуны з выбітымі на іх паэтычнымі радкамі, дубовы гай, пасаджаны беларускімі пісьменнікамі, малыя архітэктурныя формы. Праз шэсць гадоў падобны мемарыяльны запаведнік паўстаў на аснове другога філіяла купалаўскага музея ў Ляўках. А ў 1989 г. было прынята рашэнне аб стварэнні новага філіяла на месцы былога фальварка Акопы на Лагойшчыне. Мемарыяльныя запаведнікі, якія паказвалі пэўныя перыяды жыцця песняра, сталі месцам правядзення купалаўскіх свят паэзіі, злётаў моладзі, іншых тэматычных мерапрыемстваў. Пік гэтай дзейнасці прыпаў на 1982 г., калі святкавалася 100-годдзе з дня нараджэння Я. Купалы. У той юбілейны год мінскую экспазіцыю разам з філіяламі наведала каля 200 тыс. чалавек.

Да 100-годдзя са дня смерці паэта ў 1955 г. было прымеркавана аднаўленне будынка ***Дома-музея А. Міцкевіча ў Навагрудку***, які згарэў падчас вайны. Будынак гэтага літаратурнага музея рэканструяваўся на месцы, дзе стаяў дом бацькоў паэта. У тым жа годзе для агляду была адкрыта яго экспазіцыя, створаная пераважна на матэрыяле копій. З цягам часу экспазіцыя набыла літаратурна-мемарыяльны характар. Яна ўзбагацілася асабістымі рэчамі А. Міцкевіча (гадзіннік, акуляры і інш.), макетам помніка паэту ў Парыжы работы скульптара А. Бурдэля, помнікам-гарэльефам, заказаным да 100-годдзя з дня нараджэння



*Мастак Э. Агуновіч падчас стварэння экспазіцыі Літаратурнага музея М. Багдановіча* 1991 г.

паэта яго старэйшай дачкой у Варшаве, карцінамі В. Ваньковіча, Р. Мясаедава, творамі тагачасных беларускіх мастакоў і пісьменнікаў, прысвечанымі А. Міцкевічу, прадметамі побыту з археалагічных раскопак на радзіме А. Міцкевіча — хутары Завоссе, вырабамі са шкла, фарфору, фаянсу XIX ст. У кніжны фонд паступілі рукапісы, прыжыццёвыя выданні, пераклады твораў паэта, старадрукі і інш. Экспазіцыя Дома-музея была падмуркам яго навукова-асветніцкай дзейнасці. Музей карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод турыстаў, у т. л. Польшчы. Штогод музей аглядала да 1 тыс. груп экскурсантаў. Акрамя таго, праводзілася вялікая колькасць выставаў, лекцый, іншых нетрадыцыйных формаў работы з наведвальнікамі, у прыватнасці літаратурна-музычныя салоны.

У 1990 г. пасля рэканструкцыі музея адбылося ўрачыстае адкрыццё яго новай экспазіцыі. Рэканструкцыя праводзілася польскай будаўнічай фірмай «Будымэкс» на беларускія сродкі ў рамках пагаднення аб супрацоўніцтве, падпісаным паміж Домам-музеем А. Міцкевіча ў Навагрудку і Літаратурным музеем у Варшаве. Крыху больш за год спатрэбілася спецыялістам «Будымэкса», каб, па-сутнасці, нанова ўзвесці сядзібу паэта. У першапачатковым выглядзе быў узноўлены дом і флігель, звязаныя лёхам, свіран, калодзеж, альтанка. Пакоі дома (дзіцячы, маці, кабінет бацькі, сталовая) набылі мемарыяльны характар. Літаратурная экспазіцыя, якая раней займала дом, пераехала ў флігель. Галоўным праекціроўшчыкам рэканструкцыі сядзібы паэта быў беластоцкі архітэктар М. Балаш, праектаваннем экспазіцыі займаўся мінскі мастак В. Філімонаў. Рэканструкцыі папярэднічала вялікая даследчая работа, праведзеная беларускімі і польскімі музеяведамі, архітэктарамі, літаратуразнаўцамі.

Праз тры дні пасля смерці Якуба Коласа, 16 жніўня 1956 г., ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР прынялі пастанову «Аб увекавечанні памяці народнага паэта БССР Якуба Коласа», дзе адным з пунктаў было распараджэнне аб стварэнні прысвечанага яму літаратурнага музея ў Мінску і філіяла гэтага музея ў Стаўбцоўскім раёне. Першым дырэктарам му-

зея стаў старэйшы сын паэта Д. К. Міцкевіч, які прысвяціў сваё жыццё справе ўшанавання памяці свайго славутага бацькі, папулярызацыі яго творчай спадчыны. Экспазіцыя ***Літаратурнага музея Я. Коласа*** адкрылася ў снежні 1959 г. у невялікай сядзібе, дзе паэт правёў апошнія 11 гадоў свайго жыцця, і мела мемарыяльны характар. Першапачаткова музею быў нададзены статус навукова-даследчай установы ў складзе Акадэміі навук БССР (з 1963 г. — у падпарадкаванні Міністэрства культуры).

За першае дзесяцігоддзе дзейнасці ў музеі былі сфарміраваны калекцыі агульнай колькасцю ў 10 тыс. адзінак. Найдаражэйшыя з іх — рукапісы вершаў, паэм «Сымон-музыка», «Рыбакова хата», «Суд у лесе», «Адплата», кнігі «На ростанях», апавяданняў, публіцыстычных артыкулаў, лісты і дзённікі. Вялікую каштоўнасць мелі фатаграфічны фонд (каля тысячы выяваў паэта), кніжны фонд (амаль усе выданні кніг Я. Коласа на розных мовах), выяўленчы фонд (працы амаль усіх беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў), фонд фонадакументаў (успаміны дзяржаўных і грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, мастакоў). Навукова-даследчая дзейнасць праводзілася супрацоўнікамі па двух напрамках: складанне бібліяграфіі твораў Я. Коласа і летапіс яго жыцця і творчасці. Здабыткі збіральніцкай і навукова-даследчай дзейнасці знайшлі сваю рэалізацыю ў бібліяграфічных даведніках, зборніках артыкулаў і ўспамінаў пра песняра, альбомах пра яго жыццё і творчасць, тэлеперадачах. Штогод «Коласаў дом» наведвала да 20 тыс. чалавек. Лепш зразумець і адчуць творы Я. Коласа, у якіх знайшлі адлюстраванне навакольная прырода, жыццё і побыт землякоў, сям'і Міцкевічаў, дапамагаў філіял музея ў Смольні. Літаратурна-манаграфічная экспазіцыя філіяла была размешчана ў хаце сям'і Міцкевічаў у 1967 г. і змяшчала шэраг рэчаў, якімі карыстаўся паэт.

У 1982 г. да 100-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі, прысвечаным яго памяці, у Мінску адкрылася новая экспазіцыя. Аўтарамі яе мастацкага вырашэння былі мастакі Э. Агуновіч і Ф. Ладуцька. На першым паверсе ў чатырох залах размясцілася біяграфічная экспазіцыя, якая расказвала аб дзяцінстве, першых пробах пяра, пра тое, як ён працаваў настаўнікам, служыў у войску, як расквітаў талент паэта. На другім паверсе знаходзілася мемарыяльная частка экспазіцыі, якая ўключала гасцёўню, сталовую, фрагмент рабочага кабінета. Эмацыянальнай дамінантай мемарыяльнай часткі экспазіцыі з'яўляўся ліст, недапісаны паэтам і датаваны днём яго смерці. Мяркуючы па шматлікіх водгуках наведвальнікаў, аўтары экспазіцыі здолелі перадаць цеплыню і атмасферу добразычлівасці, што панавала ў «Коласавым доме».



***М. С. Ляпеха, захавальнік Дома-музея Ф. Багушэвіча ў Кушлянах***
1986 г.

У 1987 г. з мэтай аптымізацыі дзейнасці літаратурных музеяў у Мінску было створана ***Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў БССР***. Згодна са статутам, гэта было галоўнае сховішча гістарычна-літаратурных каштоўнасцей рэспубліканскага значэння, у аснову дзейнасці якога была пакладзена адзіная сістэма кіравання, каардынацыя ўсіх кірункаў работы на месцах. Першапачатково ў склад аб'яднання ўвайшлі нанова створаны ***Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры***, Літаратурны музей Я. Купалы з філіяламі — мемарыяльнымі запаведнікамі «Вязынка» і «Ляўкі», Літаратурны музей Я. Коласа з філіялам — Коласаўскім мемарыяльным запаведнікам у Стаўбцоўскім раёне, ***Літаратурны музей П. Броўкі*** з філіялам — хатай-музеем у в. Пуцілкавічы Ушацкага раёна і ***Літаратурны музей М. Багдановіча***. У 1988 г. кіраўніцтва аб'яднання распачало работы па мемарыялізацыі апошняга месца жыцця пачынальніка беларускай літаратуры Ф. Багушэвіча ў в. Кушляны Смаргонскага раёна, якое дагэтуль захоўваў знаўца жыцця і творчасці паэта М. С. Ляпеха[1]. Практыка работы аб'яднання прадэманстравала неэфектыўнасць палітыкі цэнтралізацыі і праз непрацяглы час яно спыніла свае існаванне. Апошні па часе дзяржаўны літаратурны музей у БССР адкрыўся 25 чэрвеня 1991 г. у Мінску. ***Філіял Літаратурнага музея М. Багдановіча «Беларуская хатка»*** размясціўся ў драўляным дамку ў цэнтры сталіцы, дзе з кастрычніка 1916 па люты 1917 г. жыў класік беларускай літаратуры. Тут жа калісьці знайшоў прытулак клуб беларускай інтэлігенцыі «Беларуская хатка», актыўным сябрам якога быў паэт.

Значны ўклад у справу збірання і папулярызацыі літаратурнай, а таксама этнаграфічнай спадчыны зрабіў ***грамадскі музей у в. Гудзевічы Маетоўскага раёна***, заснаваны ў 1965 г. Ініцыятарам яго стварэння і ня-

[1] Ляпеха Міхал Сымонавіч (1903—1992) з 1945 г. працаваў майстрам па здабычы вапны ў Смаргонскім раёне. Высветліў месцазнаходжанне сядзібнага дома Ф. Багушэвіча ў в. Кушляны, арганізаваў яго выкарыстанне ў якасці бібліятэкі, з 1951 г. — яе вартаўнік. На аматарскіх асновах на працягу амаль сарака гадоў праводзіў рамонтна-рэстаўрацыйныя і ахоўныя работы, збіраў матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю пісьменніка, стварыў мемарыяльную экспазіцыю, арганізаваў экскурсійны агляд сядзібнага комплексу.

зменным кіраўніком з'яўляўся мясцовы настаўнік А. М. Белакоз[1], які аддаваў музею ўвесь вольны час і нават частку сваёй сціплай настаўніцкай зарплаты. За першыя 25 гадоў існавання ў фондах было сабрана каля 12 тыс. адзінак. Крыніцы папаўнення калекцый былі розныя. У якасці кансультантаў і ахвярадаўцаў выступілі В. Быкаў, Я. Брыль, Д. Бічэль-Загнетава, З. Верас, Н. Гілевіч, У. Караткевіч, А. Мальдзіс, М. Ткачоў і інш. Сярод перададзеных імі матэрыялаў асаблівую каштоўнасць мелі тыя, у якіх аўтары давалі трактоўку сваіх твораў, апавядалі пра літаратурных герояў, дзеячаў навукі і культуры. Вельмі дапамагалі вучні, якія не толькі прыносілі свае сямейныя рэліквіі, але і далучалі да музейнай справы іншых. Першапачаткова экспазіцыя месцілася ў чатырох невялікіх пакоях, перанасычаных экспанатамі, дзе ў цесным суседстве былі каменныя прылады неаліту і здымкі беларускіх касманаўтаў. Матэрыяльную базу значна ўмацавала рашэнне калгаснага кіраўніцтва перавесці яго са школьнага ў сваё падпарадкаванне. А ў 1990 г., ужо маючы агульнае прызнанне і статус дзяржаўнага, Гудзевіцкі літаратурна-этнаграфічны музей паказваў свае калекцыі ў дванаццаці экспазіцыйных залах.



*А. М. Белакоз, дырэктар Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея.* 1991 г.

Да найбольш каштоўных экспанатаў, прадстаўленых у літаратурнай экспазіцыі, адносіліся грамата Станіслава Аўгуста Панятоўскага, напісаная ім з прычыны склікання апошняга сейму Рэчы Паспалітай, матэрыялы пра беларускіх першадрукароў, пра ўдзел мясцовых сялян у паўстанні 1863—1864 гг., газеты «Наша ніва», першыя выданні твораў Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Цёткі, выданні твораў вуснай народнай творчасці, лемантар «Зорка» А. Смоліча, «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча. У экспазіцыі, прысвечанай этнаграфіі,

[1] Белакоз Алесь (Аляксандр Мікалаевіч), беларускі музейны дзеяч, краязнаўца, педагог, нарадзіўся ў 1928 г. у в. Ляткі Ваўкавыскага павета. Пасля заканчэння Гродзенскага педагагічнага інстытута ў 1958 г. працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Гудзевіцкай сярэдняй школы, дзе заснаваў музей. Распрацаваў методыку далучэння вучняў да літаратурна-краязнаўчага пошуку, музейнай справы. У 1990 г. А. М. Белакоз быў прызначаны дырэктарам Гудзевіцкага літаратурна-этнаграфічнага музея. Заслужаны работнік культуры БССР.

дэманстраваліся вырабы з косці, каменю і крэменю часоў неаліту, вырабы мясцовых кавалёў XVIII—XX стст., калекцыя падвойных дываноў, вырабы з ільну, саломкі, лазы, дрэва, гліны. Асобную групу складалі творы жывапісу, графікі, скульптуры работы Я. Куліка, А. Кашкурэвіча, У. Кіслага, М. Купавы, А. Марачкіна, П. Сергіевіча. Акрамя традыцыйнай экспазіцыі, экскурсанты аглядалі помнік народнага дойлідства — сялянскую хату XVIII ст. з выстаўленымі ў ёй прадметамі сялянскага побыту. У музеі дэманстраваліся зёлкі і апісанне іх выкарыстання, а таксама спосабы народных прыёмаў лячэння.

Увагу школьнікаў прыцягвалі ***грамадскія музеі*** літаратурнага профілю, ***прысвечаныя Я. Купалу ў Сенненскай сярэдняй школе Мінскага раёна***, ***А. Блоку — у в. Лапаціна Пінскага раёна***, ***А. Макаёнку — у в. Журавічы Рагачоўскага раёна***.

У разглядаемы перыяд не з’явілася музеяў прыродазнаўчага профілю ў падпарадкаванні Міністэрства культуры БССР. Гэту лакуну ў культурным ландшафце рэспублікі запаўнялі іншыя ведамствы і ўстановы.

***Заалагічны музей БДУ*** ўзнавіў сваю дзейнасць у 1944 г. на аснове фрагментаў калекцый, захаваных прэпаратарам-таксідэрмістам А. К. Цітком. Канец 1940 — пачатак 50-х гг. былі часам хуткага павялічэння калекцый: біяматэрыялы збіраліся падчас палявых выездаў, дублеты перадалі заалагічныя музеі некаторых ВНУ СССР, а таксама прыватныя асобы. Планамерныя паступленні ішлі з заснаванай у 1946 г. біялагічнай станцыі на возеры Нарач. Пасля экспедыцыі на Баранцава і Белае моры пад кіраўніцтвам загадчыка музея Л. П. Шклярава фонды ўзбагаціліся каланіяльнымі відамі птушак і некаторымі прадстаўнікамі ластаногіх. Выпускнікамі біяфака БДУ з марскіх экспедыцый у Ціхі і Атлантычны акіяны, а таксама на ўзбярэжжа Антарктыды былі дастаўлены рэдкія віды марскіх жывёл. На працягу 1970—80-х гг. каштоўныя ўзоры фаўны дастаўляліся ў Мінск з экспедыцый на Алтай, Ямал, Далёкі Усход, у Сярэднюю Азію.

У 1981 г., пасля пераезду біялагічнага факультэта ў новы будынак, у ім адкрылася пашыраная экспазіцыя, якая адрознівалася ад папярэдняй лепшым мастацкім узроўнем, новымі біягрупамі і ланшафтнымі дыярамамі. Пазней да традыцыйнай экспазіцыі быў далучаны зоаэкзатэрарыум — своеасаблівы мікразаапарк, які карыстаўся вялікай папулярнасцю не толькі сярод наймаладзейшых, але і дарослых наведвальнікаў. Акрамя стацыянарнай экспазіцыі ў БДУ, лепшыя калекцыі Заалагічнага музея мелі магчымасць аглядаць шматлікія наведвальнікі Савецкай выставы ў Лондане (1979), Сусветнай выставы паляўнічых трафеяў у Плоўдзіве (1981), ВДНГ БССР у Мінску.

Аналагічныя работы па ўзнаўленні геолага-мінералагічных калекцый пачаліся ў 1948 г. на геаграфічным факультэце БДУ пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры геалогіі прафесара А. В. Фурсенкі. У аснову геалагічнага музея была пакладзена рэшта даваенных калекцый, захаваных Н. Е. Кавалёвым. Неўзабаве фонды музея ўзбагаціліся палеанталагічнай і мінералагічнай калекцыямі, перададзенымі адпаведна АН БССР і АН СССР, каштоўнае музейнае і лабараторнае абсталяванне падараваў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт, вялікую колькасць геалагічных узораў было даставулена студэнтамі-геолагамі БДУ пасля летняй практыкі 1954 г. на Паўднёвым Урале. Неўзабаве гэтыя геолага-мінералагічныя калекцыі з'явіліся падмуркам ***Музея мінералогіі і петраграфіі БДУ***.

Пасля пераводу ў 1969 г. геалагічнага аддзялення з БДУ ў Гомельскі ўніверсітэт, у апошні разам з вучэбным абсталяваннем з Мінска была перададзена частка мінералагічных калекцый. Гэта прывяло да згортвання ўсіх відаў работ у музеі мінералогіі і петраграфіі. Новы перыяд развіцця гэтага падраздзялення геаграфічнага факультэта, перайменаванага ў 1974 г. у ***Музей землязнаўства***, быў звязаны са стварэннем ва ўніверсітэце кафедры агульнага землязнаўства. Са складу кафедры былі прызначаны навуковы кіраўнік (праф. В. М. Шырокаў), старшыня савета (праф. В. Ф. Якушка), загадчык (К. Н. Раманенка) музея, якія прапанавалі яго новую канцэпцыю. Яна адлюстроўвала атрыманыя вучонымі ў апошні час веды пра космас, узаемасувязь усіх фізічных працэсаў, якія адбываюцца на Зямлі. Высокую мастацкую якасць новай экспазіцыі музея, адкрытай у 1992 г., забяспечыла супрацоўніцтва кіраўніцтва факультэта з мастакамі-прафесіяналамі.

У 1958 г. пасля атрымання памяшкання і экспазіцыйнага абсталявання разгарнуў навуковую і вучэбную дзейнасць ***Анатамічны музей кафедры нармальнай анатоміі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута***. Створаны пад непасрэдным кіраўніцтвам загадчыка кафедры прафесара Д. М. Голуба музей валодаў значнай колькасцю сухіх і вільготных прэпаратаў па параўнаўчай анатоміі, згрупаваных у раздзелы астэалогіі, артрасіндэсмалогіі, міялогіі, эмбрыялогіі. У 1967 г. быў адкрыты спецыяльны раздзел, прысвечаны гісторыі кафедры нармальнай анатоміі. У 1970 г. у сувязі з падрыхтоўкай да 9-га Міжнароднага кангрэса анатамаў праводзіліся вялікія работы па рэканструкцыі анатамічнага музея кафедры нармальнай анатоміі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Была праведзена рэстаўрацыя старых прэпаратаў, выраблена шмат новых. У наступныя гады ў структуры музея былі выдзелены некалькі новых аддзелаў, у выніку чаго яго экспазіцыя, разгорнутая ў трох спецыяльных пакоях, ахоплівала ўсе раздзелы анатоміі.

Важны ў навуковых адносінах ***Музей прыроды*** ў 1950 г. быў створаны ў дзяржаўнай ***запаведна-паляўнічай гаспадарцы «Белавежская пушча»***. Кам-



***Мастакі (злева направа) А. Русакоў, М. Геншафт і А. Бушуеў падчас стварэння новай экспазіцыі ў Музеі прыроды Белавежскай пушчы*** – 1963 г.

плектаванне яго калекцый на працягу другой паловы 1940-х гг. праводзілі вядомыя вучоныя-натуралісты з Мінска і Масквы. Некаторыя экспанаты музея дэманстраваліся ў беларускім павільёне на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве. Больш сціплыя былі набыткі Музея прыроды ў галіне навукова-асветніцкай работы. За першы год яго экспазіцыю агледзела толькі 5 тыс. чалавек. Адной з першых у рэспубліцы спроб парушыць шаблон і пабудаваць музей, які б расказваў аб прыродзе на аснове сучасных прыёмаў, з'явілася новая экспазіцыя музея Белавежскай пушчы, якая адкрылася для агляду ў 1963 г. Тут у шчыльнай садружнасці з навукоўцамі працавалі мастакі А. Русакоў, А. Бушуеў і М. Геншафт. Па іх праекце экспазіцыя была пабудавана на прынцыпова новай аснове. Арыгінальнае светлавое і каляровае афармленне залаў, вітражы на вокнах, лёгкія стэнды, размяшчэнне экспанатаў і буйнамаштабных фатаграфій было праведзена вельмі пераканальна і вобразна. У выніку кожная зала мела сваё непаўторнае аблічча. Арыгінальнасцю вылучаліся анатацыі да экспанатаў, некаторыя з якіх нагадвалі фрагменты паэтычных твораў. Садружнасць навукоўца і мастака зрабіла музей змястоўным, цікавым, ажывіла экспанаты, дапамагла кожнаму з іх загаварыць вобразнай мовай і ў выніку ўсебакова раскрыць тэму.

Станоўчы вопыт музейнага будаўніцтва, назапашаны ў Белавежскай пушчы, паўплываў на рашэнне аб правядзенні падобных работ іншых прыродаахоўных органаў. Напрыклад, у 1987 г. адкрыўся ***Музей лесу Смаргонскага лясгаса***. У ім былі прадстаўлены ўсе пароды мясцовых дрэў, а таксама чучалы звяроў і птушак. Аўтары экспазіцыі арганізавалі сабраныя матэрыялы ў жывапісныя біягрупы. У планы стваральнікаў Музея лесу ўваходзіла адкрыццё пры ім дэндрарыя.

***Музей валуноў АН БССР*** 1980-я гг.



У 1965 г. на аснове калекцый, назапашаных падчас экспедыцыйнай дзейнасці, быў створаны ***Музей Інстытута геалогіі АН БССР***, які складаўся з трох раздзелаў: сістэматычнага, геалогіі і стратыграфіі, а таксама карысных выкапняў БССР. У 1983 г. на базе назапашаных калекцый была адкрыта новая экспазіцыя музея. Арганізаваная па тэматычным прынцыпе, яна выкарыстоўвалася як у навукова-даследчых мэтах, так і для папулярызацыі геалагічных навук сярод навучэнцаў.

Па ініцыятыве акадэміка Г. І. Гарэцкага праз дваццаць гадоў у складзе таго ж інстытута ўзнік яшчэ адзін галіновы музей, незвычайны па змесце сваіх калекцый і форме іх экспанавання. ***Музей валуноў*** размясціўся на плошчы каля 6 га пад адкрытым небам паміж Акадэмгарадком і мікрараёнам Уручча. Тут знайшлі сваё месца і былі ўзяты пад ахову больш за 2 тыс. ледніковых камянёў, размешчаных у некалькіх тэматычных экспазіцыях. Іх распрацоўцы папярэднічалі шматгадовыя даследаванні беларускіх вучоных. Цэнтральная частка экспазіцыі Музея валуноў была выканана ў выглядзе карты Беларусі. Зарыентаваная па баках свету, на ёй у выглядзе ўзгоркаў былі адлюстраваны асноўныя элементы рэльефу Беларусі — узвышшы і грады. Пешаходныя сцежкі імітавалі рэкі, два невялікія штучныя басейны нагадвалі возера Нарач і Мінскае мора. Такая надзвычай цікавая карта дазваляла наведвальнікам не толькі скласці агульнае ўражанне пра рэльеф краіны, але ўпэўніцца ў бязмежнасці фантазіі прыроды. Акрамя карты рэльефу Беларусі, у экспазіцыі была прадстаўлена выстава «Камень у жыцці чалавека», дзе дэманстраваліся камяні з паганскімі знакамі, каменныя крыжы, жорны і інш.

* * *

Ацэньваючы развіццё музейнай справы БССР у 1944—1991 гг., трэба адзначыць, што яно мела ў цэлым пазітыўны, паступальны характар. Пасля аднаўлення музейнай сеткі ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе назіраўся яе стабільны якасны і колькасны рост. Узнікалі новыя дзяржаўныя і грамадскія музеі розных профіляў, з'явіліся музейныя ўстановы новых тыпаў, напрыклад гісторыка-культурныя запаведнікі і скансэны. Станоўчай тэндэнцыяй было адкрыццё філіялаў галоўных музеяў у помніках дойлідства, што выратавала іх ад канчатковага разбурэння. Назіралася паглыбленне змястоўных аспектаў камплектавання і экспанавання матэрыялаў. Павелічэнне дзяржаўнага музейнага фонду ў колькасных адносінах абумовіла правядзенне вельмі важных мер па ўпарадкаванні захавання і ўліку калекцый. Узніклі новыя экспазіцыі, прысвечаныя раскрыццю розных аспектаў нацыянальнай культуры, новыя формы работы з наведвальнікамі. Адбывалася паступовая прафесіяналізацыя музейнай работы, прыцягненне ў яе навукоўцаў. Нарэшце, назіралася агульнае пашырэнне музейнай дзейнасці, што было вынікам узрастання грамадскай актыўнасці і цікавасці да гістарычна-культурнай спадчыны.

Разам з тым менавіта ў гэты час канчаткова зацвердзіўся паварот у бок падпарадкавання ўсёй дзейнасці музеяў БССР па адлюстраванні і прапагандзе гісторыі савецкага грамадства за кошт іншых гістарычных перыядаў. Матэрыяльна-тэхнічная база музеяў была па-ранейшаму слабай, фінансаванне — абмежаваным. Усе кірункі музейнай дзейнасці былі прасякнуты ідэалагічным зместам, што адлюстроўвала агульную культурную палітыку, якая нязменна праводзілася партыйным кіраўніцтвам. Удзел у камуністычным выхаванні насельніцтва з'яўляўся галоўным паказчыкам работы кожнага музея.

Уяўленне аб выглядзе музейнай сеткі (без уліку філіялаў) сістэмы Міністэрства культуры на 1 студзеня 1985 г. дае наступная табліца:

| Вобласць і горад | Колькасць | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | музеяў | прадметаў асноўнага фонду | наведвальнікаў, тыс. чал. | праведзеных выставаў | музейных супрацоўнікаў |
| Брэсцкая | 6 | 179 219 | 792,2 | 59 | 108 |
| Віцебская | 13 | 182 348 | 338,9 | 153 | 135 |
| Гомельская | 9 | 175 402 | 282,2 | 105 | 106 |
| Гродзенская | 11 | 206 199 | 420,1 | 75 | 96 |
| Магілёўская | 10 | 145 159 | 206, 0 | 42 | 123 |
| Мінская | 14 | 106 707 | 202,1 | 140 | 103 |
| Мінск | 8 | 391 666 | 1113, 6 | 188 | 495 |
| Усяго | 74 | 1 470 253 | 3355,1 | 256 | 1361 |

У 1981 г. грамадскія музеі БССР размяркоўваліся па профільных групах наступным чынам: гістарычныя — 400, літаратурныя — 22, мастацкія — 8, прыродазнаўчыя — 6, іншыя — 120. З іх 12 набылі статус дзяржаўных. На працягу 1980-х гг. колькасць музеяў, якія працавалі на грамадскіх асновах у БССР, павялічылася больш як удвая і да канца дзесяцігоддзя дасягнула 1380.

Абагульняючых колькасных даных аб ведамасных музеях БССР не існуе.

Пачынаючы з сярэдзіны 1980-х гг. становішча беларускіх музеяў пагоршылася ў сувязі з памяншэннем фінансавання іх дзейнасці з боку дзяржавы, рэзкім зніжэннем колькасці наведвальнікаў, адтокам маладых і найбольш актыўных спецыялістаў. Між тым, само жыццё патрабавала ад музеяў знайсці сваё месца ў адраджэнні нацыянальных культур, вырашэнні сацыяльных і экалагічных праблем. Гэта актывізавала музейную грамадскасць, пачалося абмеркаванне найбольш вострых праблем, у т. л. па стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы дзейнасці музеяў у новых гаспадарчых умовах.

Вельмі небяспечнай тэндэнцыяй у другой палове 1980-х гг. стала рэзкае павелічэнне крадзяжоў гісторыка-культурнай спадчыны. У сярэднім у гэты час на працягу аднаго года крымінальны вышук БССР фіксаваў 50—60 злачынстваў, звязаных з крадзяжом прадметаў антыкварыяту. Асабліва дзёрскія злачынствы ў музеях зламыснікі ўчынілі ў 1991 г. З Музея старажытнабеларускай культуры АН БССР уначы з калекцыі былі ўкрадзены два найкаштоўнейшыя абразы. Не хаваючыся, удзень злодзеі ў масках з'явіліся ў Барысаўскі краязнаўчы музей і скралі сярэдневяковую нумізматыку.

У той жа час выйшла на паверхню праблема вяртання з музеяў культавых рэчаў, забраных у цэрквах і касцёлах, якія былі закрыты ў савецкія часы. Гэта падзяліла грамадскую думку на два лагеры. Адны казалі аб парушэнні дзяржавай правоў чалавека, якая пазбавіла яго свабоды веравызнання, аб прафесійным падыходзе да захавання культавых рэчаў святарамі Мінскага кафедральнага сабора, ксяндзамі Нясвіжскага і Пінскага касцёлаў. Другія з поўнай падставай пярэчылі апанентам, што толькі дзякуючы музейным спецыялістам шэраг культавых помнікаў быў захаваны для беларускай культуры ў гады ваяўнічага бязбожжа, пра адсутнасць у большасці цэркваў і касцёлаў належных умоў захавання, штатных мастацтвазнаўцаў, рэстаўратараў і г. д. Грамадская дыскусія аб

прыналежнасці культавага мастацтва выклікала яшчэ больш сур'ёзнае пытанне аб узаемаадносінах царквы і музея, у прыватнасці, пра сацыяльна-культурныя функцыі прадметаў мастацтва, калі яны не абмяжоўваюцца рэлігійным канонам. Калі ў ліберальна-дэмакратычных еўрапейскіх краінах супрацоўніцтва царквы і музея арганічна выпрацавалася на працягу дзесяцігоддзяў, то ў перабудоўчыя гады ў былым СССР пытанне набыло канфрантацыйны характар. Гэтыя і іншыя вострыя пытанні музейнага жыцця Беларусі вырашаліся ўжо ў наступны перыяд гісторыі краіны.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

## МУЗЕЙНАЯ СПРАВА НА МЯЖЫ XX і XXI стст.

Пачатак 1990-х гг. адкрыў новы этап у музейнай справе Беларусі. Распад СССР, пазбаўленне ўлады КПСС, перамены ў палітычнай і эканамічнай сферах карэнным чынам змянілі абставіны жыцця музеяў. Новы статус знаходжання ў культурнай прасторы незалежнай еўрапейскай краіны патрабаваў ад музеяў Беларусі пераасэнсавання ўласнай дзейнасці на філасофскім і функцыянальным узроўнях. З іншага боку перагледзець сваю ролю ў грамадстве, выйсці за рамкі традыцыйных функцый і сістэм, звярнуцца тварам да працэсаў і з'яў, якія адбываюцца ў сучасным свеце, ад музеяў патрабавалі працэсы глабалізацыі.

Закрыліся і былі перапрафіліраваны найбольш адыёзныя экспазіцыі, якія ўсхвалялі савецкі лад жыцця. Адкрыліся новыя экспазіцыі, як спроба даць навуковую інтэрпрэтацыю складаных праблем беларускай гісторыі, а таксама экалагічных праблем. Недастатковае дзяржаўнае фінансаванне пачало ўсё больш пакрывацца за кошт спонсараў, мецэнатаў, камерцыйнай дзейнасці саміх музеяў. Узрасло значэнне грамадскай ініцыятывы ў музейнай справе Беларусі. Адкрыліся прыватныя музеі і галерэі. Дзве буйнейшыя музейныя ўстановы краіны гістарычнага і мастацкага профілю атрымалі статус нацыянальных. Ішлі інтэнсіўныя творчыя пошукі ў галіне музейнага праектавання, экспазіцыйна-выставачнай дзейнасці, музейнай педагогікі, вынікі якіх акумуляваліся на старонках новых выданняў.

У кантэксце фарміравання новых дзяржаўна-царкоўных адносін пачалася дэмузеефікацыя некаторых канфіскаваных раней у царквы культавых будынкаў. Богаяўленскі сабор у Полацку, які з 1981 г. выкарыстоўваўся як карцінная галерэя, у 1991 г. быў перададзены веруючым.



***Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі***

У верасні 1992 г. згодна з рашэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь будынак Музея гісторыі войскаў Беларускай ваеннай акругі адышоў Беларускаму экзархату Рускай праваслаўнай царквы. Гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе» перадаў вернікам Спаса-Праабражэнскую царкву XVI ст. і касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Дзевы Марыі XVIII ст. У 1994 г. Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі, які размяшчаўся ў будынку жаночага манастыра Нараджэння Багародзіцы, перадаў яго законным гаспадарам. Адбываўся рух і ў адваротным кірунку — у 1996 г. Музей Беларускага Палесся ў Пінску атрымаў адрэстаўраваны будынак езуіцкага калегіума.

Праіснаваўшы нядоўгі час аддзел музеяў і выставаў Міністэрства культуры падчас скарачэння дзяржаўнага кіраўнічага апарата на пачатку 1990-х гг. быў скасаваны. Было вырашана, што каардынацыяй, вызначэннем агульных напрамкаў і стымуляваннем музейнай работы ў маштабах краіны будзе займацца адзін чалавек — галоўны спецыяліст па музеях Міністэрства культуры. У дапамогу яму на грамадскіх пачатках пачаў працаваць кансультацыйны орган — Савет дырэктараў рэспубліканскіх музеяў. З 2004 г. пры Міністэрстве культуры дзейнічае Рэспубліканскі навукова-метадычны савет па пытаннях музейнай справы, на абмеркаванне якога выносяцца найбольш складаныя прафесійныя праблемы. На рэгіянальным узроўні канкрэтныя меры развіцця існуючай музейнай сеткі і фарміравання новых музеяў аднесены да кампетэнцыі мясцовых органаў улады і саміх музеяў.

*Езуіцкі калегіум у Пінску*



7 ліпеня 2004 г. Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь зацвердзіла «Канцэпцыю развіцця музейнай справы». Гэты стратэгічны дакумент вызначыў перспектывы і кірункі развіцця музейнай галіны Беларусі. 22 верасня 2005 г. Калегія Міністэрства культуры ўхваліла Праграму развіцця музейнай справы краіны на 2006—2010 гг. Яна прадугледжвала далейшае ўдасканаленне сістэмы кіравання, мадэрнізацыю матэрыяльна-тэхнічнай базы, структурнае рэфармаванне ўсіх відаў музейнай дзейнасці, развіццё новых інфармацыйных тэхналогій і павышэнне прафесійнага патэнцыялу, а таксама рацыянальную камерцыялізацыю дзейнасці, накіраваную на павышэнне даходаў музейных устаноў.

У ліпені 2008 г. пры Нацыянальным гістарычным музеі быў створаны Цэнтр дзяржаўнага каталога Музейнага фонду Рэспублікі Беларусь. Ён ажыццяўляе цэнтралізаваны ўлік асабліва каштоўных музейных прадметаў і калекцый музеяў Беларусі ў аўтаматызаваным рэжыме, а таксама метадычнае і лінгвістычнае забеспячэнне гэтай дзейнасці, у т. л. распрацоўку даведнікаў, слоўнікаў і стандартаў.

У дзяржаўнай праграме «Культура Беларусі», размеркаванай Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь на тэрмін з 2011 па 2015 г., галоўны акцэнт зроблены на павышэнне сацыяльнай і эканамічнай эфектыўнасці функцыянавання сферы культуры, інавацыйныя да яе падыходы. Перад музейнымі ўстановамі краіны праграма ставіць задачы прыцягнення пазабюджэтных сродкаў, стварэння апякунскіх саветаў, поўнай камп'ютарызацыі, адкрыцця новых стацыянарных экспазіцый у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь і Белдзяржмузеі гісторыі



*Пасяджэнне Рэспубліканскага навукова-метадычнага савета па пытаннях музейнай справы ў Нясвіжскім замку –* 2011 г.

Вялікай Айчыннай вайны, запуску інтэрнэт-партала «Музеі Беларусі», правядзення нацыянальнага фестывалю «Інтэрмузей — Беларусь».

Першыя крокі па мадэрнізацыі музейнай дзейнасці паказалі, што без стварэння сучаснай заканадаўчай базы гэты працэс не будзе эфектыўны. Стала відавочна супрацьлегласць паміж сучаснымі прафесійнымі стандартамі музейнай работы і яе састарэлым юрыдычным падмуркам, а ў шэрагу выпадкаў адсутнасцю адпаведнай заканадаўчай базы ўвогуле.

Дзяржаўны абавязак захоўваць гістарычна-культурную спадчыну зафіксаваў артыкул № 15 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. 4 ліпеня 1991 г. Вярхоўны Савет прыняў Закон Рэспублікі Беларусь аб культуры, які заклаў асноўныя прынцыпы культурнай дзейнасці ў краіне. 9 студзеня 2006 г. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў закон «Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны», накіраваны пераважна на яе нерухомую частку. Прыняцце гэтага закона было выклікана неабходнасцю пазбавіцца ад недахопаў прававога рэгулявання, выяўленых у працэсе рэалізацыі нормаў закона «Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны», прынятага ў 1992 г.

З 5 верасня 1996 г. работа музеяў у краіне пачала рэгулявацца законам «Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь», які пазней быў прыняты ў дзвюх новых рэдакцыях 12 снежня 2005 г. і 6 ліпеня 2011 г. Закон вызначыў напрамкі дзяржаўнай палітыкі ў сферы музейнай справы, сфармуляваў змест музейнай дзейнасці, зацвердзіў прынцыпова новыя канцэпцыі музея і музейнага фонду, дэкларываў цэнтралізаваны ўлік музеяў усіх формаў уласнасці і стварэнне дзяржаўнага электроннага каталога найбольш каштоўнай часткі Музейнага фонду Рэспублікі Беларусь.

Апошняя рэдакцыя закона ўдакладніла тэрміны «музейны прадмет», «музейны фонд», «нематэрыяльная гістарычна-культурная каштоўнасць». Замацаваны новыя падыходы да рэгулявання міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы музейнай справы. Упершыню атрымалі заканадаўчае забеспячэнне такія пытанні, як стварэнне рэестра музеяў краіны, дзейнасць Рэспубліканскай рады дырэктараў музея, асаблівасці прававога стану музеяў пад адкрытым небам і інш.

Пасля прыняцця закона «Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» пачалася распрацоўка механізму яго праваўжывання, які прадугледжвае неабходнасць змен у падатковым, крымінальным, адміністрацыйным, грамадзянскім заканадаўстве, распрацоўку новых палажэнняў і інструкцый. Гэты працэс працягваецца і сёння. Прыняты ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб некаторых пытаннях перамяшчэння музейных прадметаў і (альбо) музейных калекцый праз мяжу Рэспублікі Беларусь» ад 10 ліпеня 2006 г., пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Палажэнне аб Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» ад 10 чэрвеня 2006 г., «Палажэнне аб парадку работы наведвальнікаў музеяў з музейнымі прадметамі і (альбо) музейнымі калекцыямі» ад 3 жніўня 2006 г., інструкцыі Міністэрства культуры «Аб парадку стварэння і адкрыцця экспазіцый і выставаў музеяў» (2006), «Аб парадку камплектавання, унутрымузейнага ўліку і захавання музейных прадметаў і музейных калекцый, уключаных у Музейны фонд Рэспублікі Беларусь, навукова-дапаможных і сыравінных матэрыялаў» (2007), «Аб устанаўленні пераліку відаў культурных каштоўнасцей, якія вызваляюцца ад падатку на дабаўлены кошт пры іх увозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, а таксама пры рэалізацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» (2011). Усе гэтыя нарматыўныя акты юрыдычна афармілі і замацавалі асноўныя рэгламентуючыя нормы музейнай дзейнасці ў краіне.

На мяжы стагоддзяў адначасова з павышэннем патрабаванняў грамадства да музеяў, назіралася ўзмацненне канкурэнцыі на рынку культурных паслуг, што ўскладняла іх фінансавае становішча. Сёння музеі ўсё больш адчуваюць патрэбу ў дадатковых сродках для ўзбуйнення сваіх калекцый, захавання і прэзентацыі публіцы сабранага з дапамогай новых адукацыйных тэхналогій. Аднак дзяржава не ў стане задаволіць усе гэтыя патрабаванні. Прагноз на будучыню таксама не надта аптымістычны, калі ўзяць пад увагу стабільную тэндэнцыю павелічэння колькасці музейных устаноў. Сёння амаль кожны населены пункт, кожны рэгіён імкнецца захаваць і паказаць сваю гісторыю і традыцыі ва ўласных музеях. А гэта патрабуе актыўнага пошуку сродкаў для іх эфектыўнай дзейнасці.

Нягледзячы на артыкул закона «Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь», які дазваляе музеям займацца камерцыйнай




*Новы ўваходны білет у Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь*

дзейнасцю і атрымліваць спонсарскую дапамогу, а таксама давядзенне Міністэрствам культуры гадавых планавых паказчыкаў па аб'ёмах пазабюджэтных фінансавых паступленняў, вызначальную ролю для абсалютнай большасці музеяў Беларусі адыгрывае дзяржаўнае фінансаванне. Пазабюджэтныя сродкі складаюць у сярэднім 10—15 % ад іх бюджэту. Тым не менш камерцыялізацыя музейнай дзейнасці — прыкметная асаблівасць сённяшняга дня. Многія музеі Беларусі пачынаюць актыўна развіваць платныя паслугі, займацца рэкламай, уводзіць у музейную інфраструктуру дадатковыя функцыі. Прыкладам найбольш плённага супрацоўніцтва музейнай сферы з бізнесам з'яўляецца рэгулярная падтрымка дзейнасці Нацыянальнага мастацкага музея, якую ажыццяўляе з 2001 г. кампанія «Брыціш амерыкэн табако». Гэты працэс, аднак, стрымліваецца з прычыны абмежаванай эканамічнай свабоды беларускіх музеяў і нераспрацаванага заканадаўства ў галіне эканамічных зносін. Напрыклад, для музеяў няма падатковых ільгот, існуе практыка абавязковага ліцэнзавання многіх відаў камерцыйнай дзейнасці, рэгламентацыя і планаванне платных паслуг музеяў, недахоп кваліфікаваных менеджараў і інш.

Як важны крок наперад на шляху пераадолення гэтых бар'ераў трэба разглядаць навукова-практычную канферэнцыю «Культурная спадчына, менеджмент, маркетынг. Іх роля ў развіцці музея», якая адбылася ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту ў снежні 2009 г. Разам з прэзентацыяй лепшага вопыту выкарыстання сучасных маркетынгавых тэхналогій, прыёмаў менеджменту некамерцыйных устаноў у беларускай музейнай практыцы на ёй гучалі перасцярогі аб тым, што дзелавая актыўнасць музеяў, развіццё сферы культурнага адпачынку не павінны пераважаць над іх традыцыйнымі сацыяльнымі функцыямі, абавязкамі перад грамадствам. Прагнастычны аналіз сведчыць, што найбольш запатрабаваныя ў XXI ст. будуць тыя музейныя

ўстановы, якія знойдуць гібкую мяжу, баланс паміж навукай, адукацыяй, з аднаго боку, і забавай, адпачынкам — з другога.

Музейная сетка Рэспублікі Беларусь сёння — гэта сукупнасць музейных устаноў розных профіляў, тыпаў, ведамаснага падпарадкавання і формаў уласнасці, якая гістарычна склалася на тэрыторыі краіны. Музейная сетка Беларусі ўвесь час расце. Кожны год на карце краіны з'яўляецца дзясятак новых музеяў і іх філіялаў. Новыя музеі ўзнікаюць не толькі ў сталіцы, але і ў рэгіёнах. Гэта — вынік іх культурнага самавызначэння, пошуку ўласнай ідэнтычнасці. Абагульненыя даныя аб музеях Беларусі збіраюцца і сістэматызуюцца ў рэестры музейных устаноў краіны. Найлепш вывучана частка музейнай сеткі Беларусі, падпарадкаваная Міністэрству культуры. Збудаваная згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльным прынцыпам, яна складаецца са 153 музеяў і 60 іх філіялаў, з якіх 13 маюць рэспубліканскае і 140 — рэгіянальнае (абласное, гарадское і раённае) падпарадкаванні. Гэтыя музеі займаюць 312 будынкаў.

Усю сукупнасць музеяў Беларусі можна структураваць па розных крытэрыях.

*Крытэрый профілю* музея паказвае тэндэнцыю стабільнага колькаснага і якаснага развіцця ў краіне традыцыйных профільных груп. Адначасова адбываецца далейшая профільная спецыялізацыя музеяў адпаведна больш вузкім навуковым дысцыплінам і сферам чалавечай дзейнасці. Усе музеі Міністэрства культуры размеркаваны па профільных групах наступным чынам: краязнаўчыя — 50 %, гістарычныя — 23, мастацкія — 13, літаратурныя — 10, іншыя — 4 %.

Як бачна з прыведзеных лічбаў, палова ад агульнай колькасці музеяў Міністэрства культуры мае краязнаўчы профіль. Абсалютная большасць іх была створана ў савецкі час адпаведна задачам і стандартам той эпохі. У 1990-я гг. у сувязі з трансфармацыямі ў грамадскім жыцці змяніўся статус краязнаўчага музея. Масавай перапрафілізацыі гэтых музеяў, да чаго заклікалі найбольш радыкальныя рэфарматары, не адбылося. Іх дзейнасць па-ранейшаму мае комплексны характар, але змянілася сацыяльная роля. Паступова з прапагандысцкіх устаноў, дзе культура і асвета займалі падпарадкаванае становішча, краязнаўчыя музеі пераўтвараюцца ў навукова-адукацыйныя цэнтры рэгіянальнай культуры.

Як адзін з прыкладаў — праца ***Гомельскага палаца-паркавага ансамбля Румянцавых — Паскевічаў***. Тут упершыню ў беларускай музейнай практыцы з мэтай пашырэння адукацыйна-рэкрэацыйных паслуг быў створаны аддзел турызму. Рэалізаваны шэраг наватарскіх выставачных праектаў, напрыклад «Таямніцы высокай моды» з удзелам В. Юдашкіна (2010). На працягу 1990—2000-х гг. сфарміравалася новае аблічча ***Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.*** У 1995 г. тут адкрылася стацыянарная экспазіцыя, прысвечаная Вялікай Айчыннай вайне, у 1998 г. — выстава «Ста-



*Выстава «Нараджэнне горада» ў Музейным комплексе гісторыі і культуры Аршаншчыны*. 2010 г.

ражытны Віцебск», у 2003 г. — экспазіцыя, якая распавядае пра прыроду краю. У 1990-я гг. сучасны выгляд набыла экспазіцыя ***Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Е. Р. Раманава***.

Да раённых краязнаўчых музеяў новага пакалення адносяцца: ***Краснапольскі раённы гістарычна-этнаграфічны музей*** (1991), ***Івацэвіцкі раённы гістарычна-краязнаўчы музей*** (1993), ***Дрыбінскі раённы гістарычна-этнаграфічны музей*** (1995), ***Хоцімскі раённы гістарычна-краязнаўчы музей*** (1998), ***«Пружанскі палацык»*** (1999), ***Чачэрскі гістарычна-этнаграфічны музей*** (2004), ***Добрушскі раённы краязнаўчы музей*** (2005), ***Шклоўскі раённы гістарычна-краязнаўчы музей*** (2007). Яны пашыраюць сферу свайго ўплыву на мясцовую супольнасць і развіваюцца тэрытарыяльна. Сёння гэта ўжо не адзін музей, а кангламерат музеяў, якія адлюстроўваюць гістарычнае мінулае і прыродныя асаблівасці краю і дэманструюць разнастайнасць музейных формаў — ад традыцыйных калекцыйных музеяў да экамузеяў: ***Музейны комплекс гісторыі і культуры Аршаншчыны***, ***Барысаўскі дзяржаўны аб’яднаны музей***.

Буйнейшы музей гістарычнага профілю паўстаў у краіне ў 1992 г., калі Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь надаў Дзяржаўнаму музею БССР статус нацыянальнага. Тады ж да ***Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь*** у якасці філіяла далучылі Дом-музей I з’езда РСДРП, дзе неўзабаве з’явілася новая экспазіцыя, пазбаўленая старых ідэалагічных штампаў. У 2003 г. Нацыянальны музей атрымаў памяшканне — будынак былога шпіталя пачатку XIX ст. для размяшчэння фондасховішчаў.



*«5-ы форт» — філіял мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой»*

Значныя перспектывы развіцця маюць музеі гістарычнага профілю за кошт іх спецыялізацыі, напрыклад, стварэння археалагічных і этнаграфічных музеяў і тых, якія з'явіліся на месцах падзей. ***Музей этнаграфіі — філіял Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Е. Р. Раманава*** адкрыў стацыянарныя экспазіцыі «Зямлі роднай кругазварот» (1999) пра побыт сялян канца XIX — пачатку XX ст. і «Магілёў губернскі» (2004) пра жыццё гараджан у той жа час. Экспазіцыя ***Мотальскага музея фальклору, этнаграфіі і народнай творчасці***, адкрытага ў 1995 г., накіравана на раскрыццё рэгіянальных адметнасцей матэрыяльнай і духоўнай культуры заходняй тэрыторыі Палесся. У 2008 г. адкрыўся новы раздзел экспазіцыі музея ў будынку ветранога млына, якая знаёміць з унікальнымі драўлянымі механізмамі, тэхналогіяй размолу зерня. Фарміраванню культурнага плюралізму, засваенню насельніцтвам каштоўнасцей сваёй і іншых культур рэгіёна спрыяе ***Іўеўскі музей нацыянальных культур***, адкрыты ў 2009 г.

Характэрнай адметнасцю апошняга часу было стварэнне ***музеяў гісторыі*** гарадоў Беларусі — ***Брэста*** ў 1998 г., ***Магілёва*** ў 2002 г., ***Наваполацка*** ў 2008 г., ***Оршы*** ў 2008 г., ***Гомеля*** ў 2009 г., ***Светлагорска*** ў 2009 г.

Як і ў савецкі час, вялікая ўвага з боку беларускіх улад надавалася музейнай інтэрпрэтацыі падзей Вялікай Айчыннай вайны. Гэта праявілася ў шматлікіх юбілейных выставах, а таксама ў здзяйсненні такіх маштабных праектаў як ***«5-ы форт» — філіял мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой»*** (2000), ***Гомельскі абласны музей ваеннай славы*** (2005) з філіялам — ***Музеем крыміналістыкі*** (2010), новы ***Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны***. Падзеі беларускай ваеннай гісторыі, аддаленыя ў часе, атрымалі больш сціплае экспазіцыйнае ўвасабленне, напрыклад у ***Музеі-сядзібе Т. Касцюшкі***, адкрытым у 2004 г. ва ўрочышчы Мерачоўшчына Брэсцкай вобласці.



***Дом-музей Марка Шагала***

На мяжы стагоддзяў у Беларусі дынамічна развіваліся музеі мастацкага профілю. У 1992 г. паводле рашэння аблвыканкама ў помніку архітэктуры XIX ст. адкрыўся філіял Віцебскага абласнога краязнаўчага музея — ***Віцебскі мастацкі музей***. У яго экспазіцыі прадстаўлены творы класікаў беларускага мастацтва (С. Заранкі, І. Хруцкага, В. Бялыніцкага-Бірулі, Ю. Пэна), выкладчыкаў і выпускнікоў Віцебскага мастацкага тэхнікума (В. Сухаверкава, В. Цвірко, І. Ахрэмчыка) і сучасных віцебскіх мастакоў. ***Магілёўскі абласны мастацкі музей імя П. В. Масленікава*** разгарнуў сваю першую сталую экспазіцыю ў 1994 г. у будынку былога Сялянскага банка (помніку архітэктуры пачатку XX ст.). У музеі прадстаўлены рэтраспекцыя творчасці народнага мастака П. В. Масленікава, прысвечаны яго памяці мемарыяльны пакой, тэматычная зала «Захаваная спадчына». Астатнія дзесяць залаў аддадзены пад часовыя выставы.

У 1997 г. быў адкрыты ***Дом-музей Марка Шагала*** ў яго бацькоўскім доме ў Віцебску. Экспазіцыя змяшчае прадметы побыту гараджан канца XIX — пачатку XX ст., а таксма фотаздымкі і копіі архіўных дакументаў, якія распавядаюць пра гады жыцця М. Шагала і яго сям'і ў Віцебску. У Арт-цэнтры Дома-музея рэгулярна праводзяцца выставы з уласнага фондавага збору, а таксама твораў сучасных беларускіх і замежных мастакоў. Міжнародную вядомасць атрымалі Шагалаўскія дні, якія штогод праводзіць Дом-музей.

У год адкрыцця Дома-музея Марка Шагала ў Мінску пачаліся работы па стварэнні ***Музея сучаснага выяўленчага мастацтва***. З моманту ўрачыстага адкрыцця ў 1998 г. музей быў арганізатарам альбо ўдзельнікам больш за 400 выставаў беларускіх і замежных мастакоў. У рамках папулярызацыі айчыннага мастацтва добра вядомымі сталі праграмы музея — «Новыя імёны», «Прадстаўляем рэгіён», «Новая калекцыя».

Падчас святкавання 200-годдзя з дня нараджэння мастака В. Ваньковіча ў Мінску адкрыўся новы ***філіял Нацыянальнага мастацкага музея*** —

*Замкавы комплекс «Мір»*



***Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX ст.*** Аўтары яго праекта мелі на мэце аднавіць гарадскую сядзібу мастака як адзін з цэнтраў культурнага жыцця сталіцы, месца правядзення мастацкіх выставаў, літаратурных і музычных вечарын. У экспазіцыі музея прадстаўлены арыгіналы твораў сучаснікаў В. Ваньковіча — Я. Рустэма, Я. Дамеля, І. Хруцкага, А. Манюшкі.

Жаданне адкрыць музей у майстэрні, дзе народны мастак Беларусі З. Азгур працаваў апошнія адзінаццаць гадоў свайго жыцця, было выказана самім майстрам. Ён імкнуўся сабраць у майстэрні ўсе гіпсавыя арыгіналы сваіх работ. Таму ў 2000 г., калі ***Мемарыяльны музей З. І. Азгура*** адкрыўся для наведвальнікаў, у ім была найбольш поўна прадстаўлена яго творчая спадчына.

У 2002 г. адчынілі свае дзверы два рэгіянальныя мастацкія музеі. Экспазіцыя ***Брэсцкага мастацкага музея***, створанага ў Паўднёвай казарме Брэсцкай крэпасці ў статусе філіяла абласнога краязнаўчага музея, дазваляе ўявіць шлях развіцця мастацтва на Брэстчыне ў XX — пачатку XXI ст. ***Карцінная галерэя Г. Х. Вашчанкі ў Гомелі*** знаёміць наведвальнікаў з творамі народнага мастака Беларусі і іншымі выдатнымі прадстаўнікамі сучаснага айчыннага мастацтва.

У 2005 г. са складу Цэнтра гісторыі і культуры Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці была выведзена ў якасці самастойнай музейнай установы ***Карцінная галерэя Л. Н. Дробава***. Яе экспазіцыя складаецца са 120 жывапісных работ, перададзеных аўтарам у галерэю яшчэ пры жыцці, і мемарыяльнага раздзела. У тым жа годзе адкрылася ***Крупская мастацкая галерэя — філіял Крупскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея*** (1995). З 2007 г. працуе ***Буда-Кашалёўская карцінная галерэя імя Я. Я. Майсеенкі***, народнага мастака СССР, ураджэнца раёна.

У снежні 2010 г. пасля заканчэння рэстаўрацыі і музеефікацыі адбылося ўрачыстае адкрыццё ***філіяла Нацыянальнага мастацкага музея — замкавага комплексу «Мір»***. Прыцягненню ўвагі з боку дзяржавы і шырокай публікі паспрыяла ўключэнне замкавага комплексу ў Спіс помнікаў сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА.

Да новых літаратурных музеяў Беларусі адносіцца ***Музей «Акопы» — філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы***, адкрыты ў 1992 г. да 110-годдзя песняра ў адноўленай сядзібе, якую арандавала яго маці і дзе ў поўнай меры раскрыўся геній паэта. ***Музей Максіма Гарэцкага — філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры***, адкрыўся ў 1993 г. у адноўленай бацькоўскай хаце пісьменніка ў в. Багацькаўка Мсціслаўскага раёна. Падчас святкавання 200-годдзя з дня нараджэння А. Міцкевіча, у 1998 г. на месцы яго нараджэння адкрыўся ***Музей-сядзіба «Завоссе» — філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры***. Ён уяўляе рэканструкцыю шляхецкага фальварка канца XVIII ст. У залах сядзібнага дома разгорнута літаратурна-дакументальная экспазіцыя «Вяртанне пана Тадэвуша», якая знаёміць з гісторыяй фальварка, дэманструе адноўленыя інтэр'еры сядзібы, малюе вобразы яе жыхароў. Адной з найважнейшых спроб ушанаваць памяць славутага беларускага пісьменніка з бліжэйшай да нас эпохі з'явілася адкрыццё новага ***філіяла Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны — Музея Уладзіміра Караткевіча***. Гэта падзея была прымеркавана да святкавання 70-годдзя пісьменніка ў 2000 г. Класіку беларускай літаратуры прысвячаны ***Музей-сядзіба Васіля Быкава***, адкрыты ў якасці ***філіяла Ушацкага музея народнай славы імя У. Е. Лабанка*** ў 2004 г.

Зусім нешматлікая ў Рэспубліцы Беларусь профільная група прыродазнаўчых музеяў. ***Музей прыроды і экалогіі Рэспублікі Беларусь*** (1992), які знаходзіцца ў падпарадкаванні Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь, уабраў прыродазнаўчыя калекцыі былога Дзяржаўнага музея БССР. Лепшыя ўзоры флоры і фаўны Беларусі захоўваюцца ў ***музеях прыроды нацыянальных паркаў «Белавежская пушча»*** (1950), ***«Бярэзінскі біясферны запаведнік»*** (1960), ***«Прыпяцкі»*** (2001).

*Крытэрый ведамаснай падпарадкаванасці* дазваляе прыйсці да высновы пра рэзкае павелічэнне ў канцы XX — пачатку XXI ст. запатрабаванасці музея з боку розных дзяржаўных структур. У гэты час музейная сетка краіны павялічвалася пераважна за кошт разнастайных ведамасных музеяў, лепшыя з якіх наблізіліся па ўзроўні да музейных устаноў Міністэрства культуры. Усяго ў рэспубліцы каля 200 ведамасных музеяў. Большасць з іх мае гістарычны профіль, прэзентуючы ў экспазіцыі біяграфію ўстановы-стваральніка альбо нейкай галіны. Да буйнейшых ведамасных музеяў Беларусі адносяцца ***Музей гісторыі медыцыны Беларусі Міністэрства аховы здароўя*** (1993), ***Музей сувязі РУП «Белтэлекам»*** (1993),



*Фрагмент экспазіцыі Музея гісторыі медыцыны Беларусі*

*Музей мастацтва цацкі пры Тэатры цацак* (1996), *Музей Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі* (1998), *Музей пажарнай і аварыйна-выратавальнай справы МНС* (2001), *Музей крыміналістыкі МУС* (2001), *Музей Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь* (2001), *Музей ваеннай гісторыі Рэспублікі Беларусь Міністэрства абароны* (2002), *Музей гісторыі Савецкага раёна г. Мінска* (2003), *Музей беларускага тэлебачання і радыё Белтэлерадыёкампаніі* (2004), *Музей гісторыі спажывецкай каапераціі ў Камянцы* (2004), *Музей гісторыі дарожнай гаспадаркі Белдарбуда* (2004), *Музей паштовай сувязі Гомельскага філіяла РУП «Белпошта»* (2005), *Музей беларускай мытні Мытнага камітэта* (2006), *Музей алімпійскай славы Беларусі НАК* (2006), *Музей гісторыі БДУ* (2006), *Гісторыка-дэманстрацыйны цэнтр КДБ* (2007), *Музей вады НДІ выкарыстання водных рэсурсаў* (2007), *Музей гісторыі прафсаюзнага руху Беларусі ФПБ* (2007).

Арганічнай часткай музейнай сеткі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца музеі Міністэрства адукацыі, пераважная большасць якіх па-ранейшаму знаходзіцца ў сярэдніх навучальных установах. Іх каля 1,4 тыс. Арганізацыйна-метадычнае забеспячэнне работы музеяў школ і прафесійна-тэхнічных устаноў адукацыі ажыццяўляюць турысцка-экалагічныя цэнтры дзяцей і моладзі. Цікавымі экспазіцыямі і формамі выхаваўчай работы вызначаюцца *Музей баявой славы імя П. М. Гаўрылава СШ № 26 г. Брэста* (1992), *Музей «Якуб Колас і Палессе» Сінкевіцкай СШ Лунінецкага раёна* (1992), *Музей гісторыі авіяцыі СШ № 1 г. Мінска* (1999), *Музей «Мой родны кут» СШ № 181 г. Мінска* (2002), *Музей «Побыт беларусаў XIX ст.» СШ № 68 г. Мінска* (2003), *Музей сясцёр міласэрнасці ў СШ № 32 г. Гродна* (2007), *Музей гісторыі вылічальнай тэхнікі гімназіі № 1 г. Мядзела* (2009).



***Музейны комплекс старажытных народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі»***

У 2000 г. званне народнага атрымаў ***Музей баявой славы СШ № 104 г. Мінска***, у 2003 г. — ***Музей гісторыі адукацыі 12-й гімназіі г. Мінска***.

*Крытэрый формы ўласнасці* дэманструе сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні, якія адбыліся ў беларускім грамадстве на працягу апошніх дваццаці гадоў. Ён дазваляе аналізаваць рост музейнай сеткі за кошт не толькі дзяржаўных, але прыватных музеяў. Новы маральна-палітычны клімат, які ўзнік пасля абвяшчэння Рэспублікі Беларусь, працэс дэмакратызацыі жыцця ў краіне не маглі не адбіцца на прыватным калекцыянiраваннi. Нацыянальнае заканадаўства вызначыла статус прыватных музеяў Беларусі, падзяліўшы музейны фонд на дзяржаўную і недзяржаўную часткі. Першы музей як вынік прыватнай калекцыянерскай дзейнасці з'явіўся ў ліпені 1993 г. на падмурку збору вядомага віцебскага калекцыянера І. Д. Галькевіча. Экспазіцыя адзінага ў рэспубліцы ***Музея прыватных калекцый — філіяла Віцебскага абласнога краязнаўчага музея*** займае чатыры залы і знаёміць наведвальнікаў з прадметамі побыту, археалогіі, нумізматыкай, пячаткамі, скульптурамі, значкамі, знакамі і жэтонамі розных дзяржаў і перыядаў. Літаратурная частка калекцыі прадстаўлена комплексам дакументаў і кнігамі з аўтографамі вядомых пісьменнікаў. Акрамя пастаяннай экспазіцыі, у музеі праходзяць выставы з прыватных збораў гараджан і фондаў Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

У 1994 г. у выніку намаганняў літаратара і прадпрымальніка Я. Д. Будзінаса адчыніла свае дзверы прыватнае ўнітарнае прадпрыемства ***Музейны комплекс старажытных народных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі»***. Сёння комплекс «Дудуткі», з'яўляючыся неад'емнай часткай турыстыч-

*Дзіцячы музей. Полацкі нацыянальны гістарычна-культурны музей-запаведнік*



най інфраструктуры Беларусі, атрымаў міжнародную вядомасць. Адзіная ў краіне аптэка-музей была адроджана ў 1996 г. у памяшканні аптэкі Гродзенскага езуіцкага кляштара навукова-вытворчым кааператывам «Біятэст». У снежні 1999 г. у Старых Дарогах Мінскай вобласці адбылося адкрыццё ***прыватнага музея А. Я. Белага***. Падмурак музея склала калекцыя па гісторыі і культуры Беларусі (жывапіс, графіка, скульптура, медалі, нумізматыка), якая стваралася ўладальнікам на працягу ўсяго жыцця. Экспазіцыя музея разгорнута ў васьмі залах і змяшчае каля 4 тыс. прадметаў. Адзіны ў Беларусі ***музей гісторыі фатаграфіі «Светфота»*** з'яўляецца таксама вынікам калекцыянерскай дзейнасці прыватнай асобы — мінчаніна В. П. Суглоба. У экспазіцыі музея, адкрытага ў 2004 г., сёння прадстаўлена больш за 1,5 тыс. фотаапаратаў XIX—XX стст. У 2007 г. у Полацку напярэдадні 90-годдзя з дня Кастрычніцкай рэвалюцыі адкрыўся адзіны ў Беларусі ***прыватны музей «Эпоха Леніна»***. Яго стваральнік М. Панкрат прадставіў у экспазіцыі больш за 400 скульптур і іншых пластычных выяваў У. І. Леніна і дзеячаў рэвалюцыйнага руху.

У Слоніме на ўласным падворку калекцыянера М. І. Рылко дзейнічае ***прыватны музей-майстэрня «Беларускае мястэчка канца XIX — пачатку XX ст.»***. У в. Нямнова, што на Аўгустоўскім канале, — прыватны музей Л. І. Зажэцкай, прысвечаны гісторыі гэтага гідратэхнічнага збудавання. У Ракаве — ***Арт-галерэя Фелікса Янушкевіча***.

Сведчаннем сацыяльна-эканамічных змен сталі таксама музеі, створаныя грамадскімі арганізацыямі Беларусі — ***Віцебскі музей воінаў-інтэрнацыяналістаў*** (1995), ***Музей гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі*** (2002), ***Музей беларускіх остарбайтэраў фонду «Узаемапаразуменне і прымірэнне»*** (2005), ***Музей камсамольскага і маладзёжнага руху БРСМ*** (2005), ***Музей авіяцыйнай тэхнікі Цэнтральнага аэраклуба ДТСААФ у г. п. Баравая Мінскага***



***Дзіцячы музей міфалогіі і лесу. Гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе»***

***раёна*** (2009). З'явіліся таксама муніцыпальныя — ***Музей гісторыі горада Мінска*** (2010) — і царкоўныя — ***Царкоўна-археалагічны кабінет Мінскай духоўнай акадэміі ў Жыровічах*** (2001) — музеі.

*Крытэрый спосабу захавання і прэзентацыі культурнай спадчыны* сведчыць пра пераасэнсаванне, пашырэнне паняцця «музейны прадмет» і «музей». Гэты крытэрый дазваляе выдзеліць музеі-запаведнікі, скансэны, экамузеі з асноўнай масы традыцыйных музейных устаноў і разглядаць іх як самастойныя тыпы музеяў, якія склаліся пад уплывам новага разумення помнікаахоўнай дзейнасці. Канец XX — пачатак XXI ст. былі часам плённага развіцця ***Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка***. У 1998 г. у яго складзе адкрыўся ***Музей традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я***, у 2004 г. — ***Дзіцячы музей***, у 2005 г. — ***Прыродна-экалагічны музей***.

У ***гісторыка-культурным запаведніку «Заслаўе»*** ў 1992 г. адчыніў свае дзверы ***музейна-выставачны комплекс***, дзе пачалі працаваць сталыя экспазіцыі «Зала габеленаў» і «Музыка вячорак», а таксама зала часовых выстаў. Адбылася музеефікацыя аб'ектаў ***этнаграфічнага комплексу*** — млына, хаты завознікаў, кузні і свірна, дзе адразу ж пачаліся музейна-педагагічныя заняткі і тэатралізаваныя экскурсіі. У 2005 г. у складзе запаведніка адкрыўся ***Дзіцячы музей міфалогіі і лесу***. Ідуць работы па музеефікацыі гарадзішча «Замэчак» і Заслаўскага замка.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 2 ліпеня 1993 г. «Аб мерах па адраджэнні гістарычна-культурнай спадчыны і развіцця г. Нясвіжа» была прынята прапанова Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама і Нясвіжскага райвыканкама аб стварэнні на падмурку палаца-паркавага ансамбля і іншых помнікаў гісторыі і культуры горада ***Нацыянальнага гістарычна-культурнага запаведніка***



***Экспазіцыя Нацыянальнага гістарычна-культурнага запаведніка «Нясвіж»***

***«Нясвіж»***. Пры гэтым улічвалася выключная каштоўнасць, значнае месца і роля старажытнага горада і помнікаў гісторыі, археалогіі, архітэктуры, што захаваліся ў ім у агульнанацыянальнай спадчыне. Сёння музей-запаведнік — гэта складаная сістэма аб'ектаў і ахоўных тэрыторый, аб'яднаных паміж сабою гістарычна, тэматычна і функцыянальна. У яго склад уваходзяць палаца-паркавы ансамбль XVI—XIX стст., комплекс былога кляштара езуітаў XVI—XIX стст., паркавы комплекс «Альба» XVII—XVIII стст., тэрыторыя былога калегіума з ацалелымі будынкамі казармаў XIX ст., былы заезны двор XIX ст., будынак былой плябаніі XVII ст., гарадская ратуша з гандлёвымі радамі XVI—XVIII стст., Слуцкая брама XVI—XVIII стст., Дом рамесніка 1721 г., комплекс былога кляштара бенедыкцінак XVI—XVIII стст. У 2005 г. «Архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі роду Радзівілаў у Нясвіжы» быў уключаны ў Спіс помнікаў сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА.

На мяжы XX—XXI стст. супрацоўнікі ***Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту*** фарміравалі новыя экспазіцыйныя сектары «Паазер'е» і «Падняпроўе», частка якіх яшчэ знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі.

Музейны фонд Беларусі з'яўляецца неад'емнай часткай нацыянальнай культурнай спадчыны, і яго ахова — гэта найважнейшы абавязак музея як сацыяльнага інстытута. У музеях падпарадкавання Міністэрства культуры захоўваецца каля 3 млн прадметаў калекцый асноўнага і каля 1 млн навукова-дапаможнага фонду. Штогод дзяржаўны музейны фонд павялічваецца на 2 %. Паказчыкам вывучанасці музейнага фонду, яго ўвядзення ў навуковае і культурнае абарачэнне з'яўляецца ўлік і наву-




*Дыплом, атрыманы інтэрнэт-парталам «Музеі Беларусі» за першае месца ў намінацыі «Культура і мастацтва» конкурсу «Інтэрнэт-прэмія “ТІВО-2009”»*

ковая інвентарызацыя музейных прадметаў. Паводле апошніх даных, навуковую інвентарызацыю прайшлі 54 % ад агульнай колькасці музейных прадметаў. Гэта значыць, што толькі крыху больш паловы дзяржаўнага музейнага фонду можа быць уведзена ў навуковы і культурны ўжытак. Інтэнсіфікацыя працэсу непасрэдна звязана са стварэннем электронных баз даных фондавых калекцый музеяў. Да гэтай справы прыступілі 54 дзяржаўныя музеі, якія перавялі на электронныя носьбіты каля 5 % дзяржаўнага музейнага фонду. З іх 15 маюць уласныя сайты ў інтэрнэце. Ёсць сайты музеяў Мінскай і Гомельскай абласцей, дзе кожны музей мае ўласную старонку. Гэта і іншая інфармацыя пра айчынныя музеі з 2008 г. была аб’яднана ў партале «Музеі Беларусі». Вынікам укаранення новых інфармацыйных тэхналогій у музейную практыку павінна стаць адзіная агульная база даных, прадстаўленая ў інтэрнэце, — Дзяржаўны электронны каталог Музейнага фонду Рэспублікі Беларусь.

На шляху ідэнтыфікацыі рухомай часткі нацыянальнай спадчыны ў Рэспубліцы Беларусь шмат чаго ўжо зроблена. У большасці музеяў сёння ўкараняецца распрацаваная фірмай «ІНЕАК» новая версія АІС «Фонды», праводзіцца работа па замене старой версіі на новую і адпаведна канвертацыі даных у музеях рэспубліканскага значэння. Для гэтай сістэмы ў рамках Дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы «Культура» быў створаны стандарт навуковага апісання музейных прадметаў, а таксама варыянт універсальнай класіфікацыйнай схемы музейных калекцый. Для шэрагу апісальных катэгорый АІС распрацоўваюцца слоўнікі-дыскрыптары і гласарыі. Гэтыя пытанні, а таксама магчымасці стварэння мультымедыйных экспазіцый, аўтаматызаваных інфармацыйных сістэм кіравання і развіцця музея абмяркоўваліся на навукова-практычнай канферэнцыі «Культурная спадчына і інфармацыйныя тэхналогіі на постсавецкай прасторы. АДІТ-15[1]» у 2011 г. у Мінску.

Удзельнікі другога важнага музейнага форуму — навукова-практычнай канферэнцыі «Рэстаўрацыя і кансервацыя музейных каштоўнасцей: Праблемы і метады іх вырашэння», якая адбылася ў 1999 г. у Нацыяналь-

[1] АДІТ-15 — пятнаццатая штогадовая канферэнцыя, якая традыцыйна праводзіцца расійскім некамерцыйным партнёрствам «Аўтаматызацыя дзейнасці музеяў і інфармацыйныя тэхналогіі» ў розных рэгіёнах Расійскай Федэрацыі.



*У навукова-рэстаўрацыйным аддзеле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь*

ным гістарычным музеі, упершыню вынеслі на шырокае грамадскае абмеркаванне пытанні, звязаныя з захаванасцю Дзяржаўнага музейнага фонду. Удзельнікі канферэнцыі прынялі зварот да ўрада і грамадскасці Беларусі, дзе падкрэслівалася неабходнасць тэрміновых захадаў па выратаванні каштоўных помнікаў. Да канферэнцыі была прымеркавана выстава «Другое жыццё музейных каштоўнасцей». Падобная ж выстава пад назвай «Адкрыццё святой прыгажосці. Новае жыццё старажытных абразоў» адкрылася для агляду ў Нацыянальным мастацкім музеі ў сакавіку 2011 г. З красавіка 2010 г. пры Міністэрстве культуры дзейнічае Рэспубліканскі рэстаўрацыйны савет, які каардынуе намаганні музеяў, бібліятэк, іншых юрыдычных і фізічных асоб у гэтай галіне.

Музей — гэта не толькі сховішча гістарычна-культурнай спадчыны, але і пляцоўка, дзе адбываюцца камунікацыйныя працэсы. Адна са складаючых яго місіі фармулюецца як развіццё асобы чалавека спецыфічнымі сродкамі. Музейныя экспазіцыі рэтранслююць веды па гістарычным мінулым і прыродным асяроддзі чалавецтва, ствараючы прадметныя мадэлі рэчаіснасці. У гэтым іх унікальнасць як сацыяльна-культурных з'яў.

Экспазіцыі дзяржаўных музеяў сістэмы Міністэрства культуры на працягу года ў сярэднім аглядаюць каля 4 млн чалавек, 46 % з якіх складаюць навучэнцы. Напярэдадні распаду Савецкага Саюза ў БССР гэты паказчык складаў 3,5 млн, у сярэдзіне 1990-х гг. у Рэспубліцы Беларусь ён паменшыўся да 2,5 млн, але ўжо напрыканцы дзесяцігоддзя дасягнуў «савецкага» ўзроўню, пасля чаго ўвесь час павялічваецца. У экспазіцыйна-выставачнай музейнай прасторы краіны выкарыстоўваецца ў сярэднім 7 % ад агульнай колькасці дзяржаўнага му-



*Ноч музеяў у Нацыянальным гістарычным музеі* 2011 г.

зейнага фонду. Ва ўмовах абмежаванага дзяржаўнага фінансавання ў Рэспубліцы Беларусь прыярытэты аддаваліся найбольш значным стацыянарным экспазіцыйным праектам, рэалізаваным у Нацыянальным мастацкім музеі (2006), Мірскім і Нясвіжскім замках.

Лепшымі беларускімі дасягненнямі ў галіне навуковага і мастацкага экспазіцыйнага праектавання на мяжы XX—XXI стст., якія адначасова мелі важнае сацыяльнае, выхаваўчае значэнне, сталі часовыя выставы: «Покліч» у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры (1991), «Свет загадкавай сімволікі» ў Нацыянальным гістарычным музеі (1994), сумесная выстава двух беларускіх і літоўскага нацыянальных музеяў «Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага» (2001), «Залатыя і сярэбраныя клады Полацкай зямлі» ў Полацкім гістарычна-культурным запаведніку, «Зброя Перамогі» ў Белдзяржмузеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (2007), «Кераміка Пікаса» ў Нацыянальным мастацкім музеі (2009), «Ван Дэйк і яго эпоха» ў Гродзенскім дзяржаўным гістарычна-археалагічным музеі (2011) і шмат іншых.

На працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў сталае месца ў беларускай музейнай практыцы заняла новая дысцыпліна пад назвай «музейная педагогіка», якая трактуе музей як месца дыялогу культур, а наведвальніка як раўнапраўнага субяседніка, партнёра. Сучасны музей не з’яўляецца пасіўным адлюстраваннем культуры — ён актыўна ўключаны ў культурнае жыццё грамадства і нават фарміруе яго. Актывізацыя культурнай, асветніцкай, адукацыйнай ролі музея знайшла адлюстраванне ў практычнай дзейнасці шматлікіх беларускіх музеяў, якія распрацоўваюць новыя формы камунікацыі — музейна-педагагічныя заняткі, праграмы і нават аўтарскія арыгінальныя методыкі па рабоце



*Заняткі мастацка-адукацыйнай студыі для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «У госці да Цюбіка» ў Нацыянальным мастацкім музеі* 2011 г.

з асобнымі катэгорыямі наведвальнікаў. Найбольш распрацавана сістэма ўзаемадзеяння музея з вучнёўскай аўдыторыяй. Напрыклад, у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуюць дзіцячыя клубы, лекторыі. Спецыяльныя праграмы работы са школьнікамі розных узростаў ажыццяўляюцца ў Полацкім гістарычна-культурным музеі-запаведніку, Гродзенскім гістарычна-археалагічным музеі, Гомельскім і Магілёўскім абласных краязнаўчых музеях, у раённых музеях гарадоў Ветка, Рэчыца, Браслаў, Наваполацк і інш. Некаторыя музеі эфектыўна працуюць з іншымі катэгорыямі наведвальнікаў. Так, Нацыянальны гістарычны музей Беларусі стварыў праграму работы з сем'ямі. Ужо стала нормай мэтанакіраваная работа музея з дзецьмі 3—4-гадовага ўзросту.

Вялікай папулярнасцю сярод жыхароў Беларусі і турыстаў карыстаюцца фестываль арганнай музыкі «Званы Сафіі» ў Нацыянальным Полацкім музеі-запаведніку, фестываль этнічнай музыкі «Сымон-музыка» на Стаўбцоўшчыне, што праводзіцца Літаратурным музеем Якуба Коласа, канцэрты класічнай музыкі ў Нацыянальным мастацкім музеі. Асаблівасцю асветніцкай работы ***Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь*** (2002) з'яўляецца яе тэатралізаванасць — правядзенне батлеечных спектакляў, праслухоўванне музычных твораў, тэатральныя і літаратурныя вечарыны ў ***філіяле музея — Гасцёўні Уладзіслава Галубка***. Новымі прыкметамі музейнага жыцця сталі нетрадыцыйныя формы работы з наведвальнікамі, накшталт «Ночы музеяў», якая звычайна прымяркоўваецца да Міжнароднага дня музеяў, што святкуец-

ца штогод 18 мая, музейныя фестывалі і святы. Новы сістэмны падыход да адукацыйна-выхаваўчай работы ўвасобіўся ў распрацоўцы ў шэрагу музеяў (Гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе», Веткаўскі музей народнай культуры, Мазырскі раённы краязнаўчы музей) комплексных праграм музейна-педагагічнай дзейнасці.

На мяжы стагоддзяў эмпірычнае разуменне неабходнасці ўлічваць музейнымі практыкамі думкі і пажаданні наведвальнікаў ужо на этапе праектавання музейных экспазіцый і адукацыйных праграм увасобілася ў шэраг практычных крокаў. У 1998 г. да вывучэння музейнай аўдыторыі краіны прыступіў Інстытут культуры Беларусі, калі было праведзена комплекснае сацыялагічнае даследаванне работы музеяў з аўдыторыяй пад назвай «Музей і наведвальнік». Гэта дало магчымасць прасачыць дынаміку наведвання беларускіх музеяў на працягу 1990-х гг., убачыць сацыяльны партрэт наведвальніка, прааналізаваць асноўныя формы работы музеяў са сваёй аўдыторыяй, ацаніць асаблівасці ўзаемадзеяння музея з іншымі сацыяльнымі інстытутамі. Высвятленню патэнцыяльнай аўдыторыі музея было прысвечана сацыялагічнае даследаванне «Роля музея ў фарміраванні сацыяльна-культурнага асяроддзя рэгіёна», праведзенае ў 2001 г. супрацоўнікамі таго ж інстытута.

У музеях, падпарадкаваных Міністэрству культуры, працуюць каля 3 тыс. чалавек, з якіх трэцюю частку складаюць навуковыя супрацоўнікі. Іх мэтанакіраваная падрыхтоўка па спецыяльнасці «Музейная справа і ахова гістарычна-культурнай спадчыны» вядзецца з 1992 г. — у Беларускім дзяржаўным універсітэце, з 1994 г. — у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва, з 2001 г. — у Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава з прысваеннем ступеней бакалаўра і магістра. Падрыхтоўку кадраў вышэйшай кваліфікацыі ажыццяўляе аспірантура па спецыяльнасці «Музеязнаўства. Кансервацыя і рэстаўрацыя гісторыка-культурных аб’ектаў». Пачынаючы з 1994 г. у рамках двухгадовай школы музеялогіі перападрыхтоўка практыкуючых музейных супрацоўнікаў з прысваеннем кваліфікацыі «музеязнаўца» праходзіць у Інстытуце культуры Беларусі. З 2008 г. у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў рыхтуюць кадры па спецыяльнасці «рэстаўратар жывапісу».

Важную ролю ў навукова-метадычным забеспячэнні музейнай дзейнасці ў Беларусі з 1994 г. адыгрывае лабараторыя музейнай дзейнасці Інстытута культуры Беларусі. Асноўнымі кірункамі яе работы з’яўляюцца: правядзенне даследаванняў стану і прагнозу развіцця музейнай сферы, распаўсюджванне інфармацыі аб музеях, каардынацыя іх дзейнасці, развіццё міжмузейнай камунікацыі, удзел у падрыхтоўцы заканадаўчых актаў і нарматыўнай дакументацыі, фарміраванне адзінай інфармацыйнай сістэмы баз даных, збор і апрацоўка дзяржаўных статыстычных даных па музеях і музейным фондзе, правядзенне сацыя-

лагічных даследаванняў. У 1996 г. намаганнямі лабараторыі музейнай дзейнасці інстытут ажыццявіў першае беларускае музейнае выданне — неперыядычны навукова-метадычны зборнік «Музейныя сшыткі». Уласныя выданні маюць некаторыя музеі — серыі зборнікаў «Аладаўскія чытанні» (Нацыянальны мастацкі музей), «Заслаўскія чытанні» (гісторыка-культурны музей-запаведнік «Заслаўе»), «Браслаўскія чытанні» (Браслаўскае раённае аб'яднанне музеяў) і інш.

Галоўнай пляцоўкай міжнароднага музейнага супрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца Беларускі нацыянальны камітэт Міжнароднага савета музеяў (ICOM), створаны ў лютым 1999 г. на канферэнцыі музейных работнікаў Беларусі ў Мінску. Згодна са статутам Беларускі нацыянальны камітэт спрыяе рэалізацыі праграм Міжнароднага савета музеяў у сваёй краіне, а таксама прадстаўляе інтарэсы беларускай музейнай супольнасці на міжнароднай арэне. У 2000 г. дэлегацыя Беларускага камітэта ўдзельнічала ў рабоце Выканаўчага савета ICOM у Парыжы. Годам пазней старшыня Беларускага камітэта зрабіў паведамленне пра стан музейнай справы ў Беларусі на XIX Генеральнай канферэнцыі ICOM, якая праходзіла ў Барселоне. Падчас работы канферэнцыі было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве з Нацыянальным камітэтам ICOM Польшчы. У 2004 г. супрацоўнікі беларускіх музеяў актыўна ўдзельнічалі ў рабоце XX Генеральнай канферэнцыі ICOM у Сеуле, прысвечанай ахове і выкарыстанню header нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны. Вельмі плённым быў міжнародны семінар «Перамяшчэнне меж — змены ідэнтычнасці», арганізаваны і праведзены сумесна з нацыянальнымі камітэтамі ICOM Беларусі, Літвы і Украіны пад эгідай ICOM Еўропы ў Вільнюсе, Брэсце і Львове ў 2005 г. У 2010 г. Беларускі камітэт накіраваў свайго прадстаўніка на XXII Генеральную канферэнцыю ICOM у Шанхай. Беларускі камітэт ICOM таксама выступіў арганізатарам многіх прафесійных міжнародных і рэспубліканскіх выставаў і сустрэч у Беларусі, прысвечаных музейнаму менеджменту, выкарыстанню новых тэхналогій, кансервацыі і рэстаўрацыі музейных прадметаў.

Прызнаным лідэрам сярод музеяў Беларусі ў галіне міжнароднага супрацоўніцтва на мяжы стагоддзяў стаў Нацыянальны мастацкі музей. Апошнім часам яго кіраўніцтва падпісала дагаворы аб супрацоўніцтве з Эрмітажам, Траццякоўскай галерэяй, Каралеўскім замкам на Вавелі, Венскім мастацка-гістарычным музеем, Нацыянальным музеем Тайваня і інш. Сапраўднымі падзеямі ў культурным жыцці краіны сталі замежныя выставы, якія дэманстраваліся ў Нацыянальным мастацкім музеі — «Афорты Ф. Гоі» (1998), «Графіка Х. Міро» (2000), «Украінскі абраз трох стагоддзяў» (2001), «Шэдэўры Траццякоўскай галерэі» (2003). Увагу спецыялістаў і шырокай публікі выклікалі замежныя выставы, што праходзілі ў Нацыянальным гістарычным музеі, — «Вікінгі на Усходзе»



***Выстава «Касцюм нацыянальных меншасцей Кітая» ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь*** 2011 г.

(2002), «100 значных археалагічных знаходак у Кітаі» (2002), «Залаты век італьянскай маёлікі» (2004). Замежныя выставы дэманстраваліся таксама ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі — «Узнагароды Польшчы» (1992), у Віцебскім абласным мастацкім музеі — «Творчасць Рэрыхаў» (1998), у Белдзяржмузеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны — «Памятаю. Катынь. 1940» (2010) і многіх іншых. Плённы вопыт супрацоўніцтва з Музеем Марка Шагала ў Ніцы мае Дом-музей Марка Шагала ў Віцебску. У 2010 г. Гомельскі палаца-паркавы ансамбль атрымаў званне лаўрэата на конкурсе мемарыяльных музейных праектаў у Санкт-Пецярбургу.

На мяжы XX і XXI стст. на старонках беларускага друку з’явіліся звесткі пра існаванне музеяў, якія распавядалі пра беларускую гісторыю і культуру за межамі краіны — ***Беларускую бібліятэку і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане*** (1971), ***Музей беларускай культуры ў Ляймене*** (Германія, 1980), ***Музей М. Багдановіча ў Яраслаўлі*** (Расія, 1991), ***Музей беларускай культуры ў Гайнаўцы*** (Польшча, 1994), ***Беларускі музей пры саборы Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку*** (ЗША, 2007), ***музей «Беларусы Сочы»*** (2009).

У канцы 1980-х гг., калі пры Беларускім фондзе культуры была створана грамадская камісія «Вяртанне», шырокая музейная грамадскасць краіны даведалася пра тое, што ў замежных сховішчах знаходзіцца вялікая колькасць каштоўных помнікаў беларускага паходжання. Новая важная інфармацыя аб беларускай спадчыне, якая павінна была ўпрыгожыць залы лепшых айчынных музеяў, стала рэгулярна з’яўляцца на старонках зборнікаў «Вяртанне». Яна гучала ў выступленнях удзельнікаў міжнароднай канферэнцыі «Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей: праблема вяртання і сумеснага выкарыстання», якая адбылася пад эгідай ЮНЕСКА ў Мінску ў 1997 г. У 2005 г. функцыі камісіі



*Мацей Радзівіл перадае экспанаты Нацыянальнаму гістарычна-культурнаму запаведніку «Нясвіж»* 2009 г.

«Вяртанне» былі перададзены Камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны ўжытак нацыянальных культурных каштоўнасцей, якія апынуліся за межамі Беларусі. Пры Камісіі працуе навукова-даследчая экспертная група, арганізаваная на базе гістарычнага факультэта БДУ.

Намаганнямі айчынных навукоўцаў, культурных дзеячаў, дыпламатаў і дзякуючы добрай волі суседніх дзяржаў у беларускія музеі вярнуліся каштоўныя помнікі. У 1993 г. Інстытут гісторыі матэрыяльнай культуры РАН перадаў каля 9 тыс. адзінак археалагічных прадметаў, якія выявіў падчас раскопак у Навагрудку археолаг Ф. Д. Гурэвіч. У 1995 г. Прэзідэнт Украіны Л. Д. Кучма перадаў абраз «Апостал» XVII ст., які паходзіў з даваеннага музейнага фонду БССР. Але найбольш перспектыўнай формай вяртання беларускіх помнікаў на радзіму з'яўляецца мяккая рэстытуцыя ў выглядзе факсімільных выданняў (напрыклад, Тураўскае Евангелле з Акадэміі навук Літвы), электронных копій (напрыклад, нясвіжскія партрэты Радзівілаў з польскіх музейных сховішчаў), часовых выставаў (напрыклад, калекцыя слуцкіх паясоў, прадстаўленая Дзяржаўным гістарычным музеем у Маскве).

Музейная справа Беларусі, бадай як ніякая іншая сфера культуры, нясе на сабе адбітак усіх праблем, якія стаяць перад грамадствам у перыяд глыбокіх пераўтварэнняў: фінансавыя цяжкасці, змена каштоўнасных арыенціраў, пашырэнне сацыяльных функцый і г. д. У такой сітуацыі айчынныя музеязнаўцы пачалі ўсур'ёз задумвацца над глыбінным сэнсам музейнай справы і займацца пошукамі новых кірункаў, сродкаў і метадаў музейнай работы. Сёння на шматлікіх канферэнцыях, семінарах, трэнінгах змены ў беларускіх музеях усё часцей разуме-

юцца ў кантэксце маштабнай мадэрнізацыі айчыннай музейнай справы. Яе мэта — вывад музейнай галіны на якасны новы ўзровень праз удасканаленне сістэмы кіравання, паляпшэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы, структурнае рэфармаванне ўсіх відаў музейнай дзейнасці, павышэнне прафесіянальнага патэнцыялу, развіццё новых інфармацыйных тэхналогій і разумную камерцыялізацыю, пры захаванні базавых функцый музеяў, іх грамадскай місіі і прафесійных этычных стандартаў.

Да ключавых праблем музейнай справы Беларусі на мяжы XX і XXI стст., якія адначасова ўтвараюць праблемнае поле сучаснай айчыннай музеялогіі, адносяцца:

*1. Развіццё музейнай сеткі*:

● яе версіфікацыя, з'яўленне новых тыпаў музеяў і ўдасканаленне старых;

● развіццё прыватнага і грамадскага сектара ў музейнай сферы;

● развіццё гарызантальных сувязей музеяў, удасканаленне сістэмы кіравання музейнай справай, пашырэнне інфармацыйных магчымасцей беларускіх музеяў.

*2. Матэрыяльна-тэхнічная база музеяў*:

● развіццё і ўмацаванне музейнай інфраструктуры (дарогі, добраўпарадкаванне будынкаў, стварэнне інфармацыйных службаў, рэкрэацыйных і гандлёвых зон);

● рэканструкцыя старых музейных будынкаў і прыстасаванне іх пад музейныя патрэбы;

● узвядзенне новых музейных будынкаў, распрацоўка крытэрыяў развіцця спецыфічна музейнай архітэктуры;

● сістэмы аховы, распрацоўкі тыпавога фондасховішча музея і сістэмы жыццязабеспячэння музейных прадметаў;

● мадэрнізацыя тэхнічнага абсталявання музеяў, у тым ліку іх камп'ютарызацыя і інтэрнэтызацыя.

*3. Дзяржаўная фінансавая палітыка ў дачыненні да музеяў*:

● дзяржаўнае фінансаванне базавых музейных функцый, уключаючы камплектаванне асноўнага фонду;

● стварэнне рынкавых гаспадарчых механізмаў, якія б стымулявалі творчую актыўнасць музеяў;

● змяненне падатковай палітыкі ў дачыненні да музеяў, фарміраванне сістэмы падатковых ільгот;

● фінансаванне міжнароднага супрацоўніцтва музеяў, іх удзел у міжнародных арганізацыях і асацыяцыях;

● стымуляванне творчасці музейных супрацоўнікаў і заахвочвання іх;

● укараненне праектных метадаў фінансавання музейнага працэсу;

● камерцыялізацыя асобных формаў музейнай дзейнасці.

*4. Захаванне, вывучэнне і выкарыстанне Музейнага фонду Рэспублікі Беларусь*:

● развіццё камп'ютарных тэхналогій у музейнай практыцы, музейная інтэрнэтызацыя, інтэграцыя існуючых музейных інфармацыйных рэсурсаў у нацыянальны інтэрнэт-партал «museum.by»;

● стварэнне дзяржаўнага зводнага каталога музейных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, асноўныя кірункі яго дзейнасці;

● развіццё прэвентыўнай кансервацыі і рэстаўрацыі музейных прадметаў, стварэнне рэспубліканскага цэнтра музейнай кансервацыі і рэстаўрацыі, а таксама нацыянальнай школы па падрыхтоўцы музейных кансерватараў і рэстаўратараў;

● распрацоўка рэспубліканскай праграмы камплектавання Музейнага фонду Рэспублікі Беларусь і прыярытэтнае накіраванне на набыццё асабліва каштоўных рэчаў музейнага значэння цэнтралізаваных дзяржаўных сродкаў, арганізацыя рэспубліканскага фонду з рэгіянальнымі прадстаўніцтвамі па камплектаванні асабліва каштоўных помнікаў гісторыі і культуры;

● актывізацыя цыркуляцыі музейных прадметаў, іх шырокай прэзентацыі шляхам экспанавання на пастаянных і часовых музейных экспазіцыях;

● развіццё выставачнай дзейнасці музеяў як на ўзроўні ўнутраных, так і на ўзроўні знешніх карпаратыўных праектаў;

● стварэнне сістэмы музейнай індустрыі па праектаванні і вырабе фондавага і экспазіцыйнага абсталявання;

● маніторынг захавання Музейнага фонду і ажыццяўленне сістэмы мер па забеспячэнні яго бяспекі.

*5. Музейна-камунікатыўная палітыка*:

● развіццё актыўных сувязей музеяў з рознымі грамадскімі інстытутамі, у тым ліку з адукацыйнымі, фарміраванне эфектыўнай сістэмы сацыяльнага партнёрства;

● стварэнне адукацыйных праграм для розных катэгорый наведвальнікаў, іх далучэнне, перш за ўсё моладзі, да розных музейных інтэграцыйных праграм і праектаў;

● пашырэнне кола музейных наведвальнікаў за кошт патэнцыяльнай і мэтавай аўдыторый;

● сістэма інфармавання грамадскасці пра дзейнасць музеяў, выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі, рэкламы і ўнутраных музейна-камунікатыўных каналаў;

● выкарыстанне магчымасцей музеяў ва ўнутраным і міжнародным турызме. Разгляд музейных устаноў як арганічнай часткі турысцкіх маршрутаў;

● развіццё міжнародных сувязей і супрацоўніцтва ў межах розных помнікаахоўных арганізацый, у т. л. Міжнароднага савета музеяў;

● выкарыстанне навуковага патэнцыялу музеяў для ідэнтыфікацыі і папулярызацыі нацыянальнай культурнай спадчыны;

● удасканальванне музейнага сервісу.

*6. Фарміраванне музейнага лідэрства і прафесіяналізму*:

● стварэнне сістэмы музейнай акрэдытацыі, якая накіравана на павышэнне прэстыжу музейных установаў, удасканаленне іх арганізацыйнай структуры, стымуляванне творчага патэнцыялу і павышэнне прафесійных стандартаў;

● развіццё музейнага менеджменту і стварэнне дзяржаўнай праграмы па фарміраванні музейнага лідэрства;

● удасканаленне сістэмы прафесійнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі музейных спецыялістаў;

● развіццё базавых музеелагічных ведаў для ўдасканалення музейнай практыкі, фарміраванне беларускай музеелагічнай навуковай школы.

*7. Паляпшэнне нарматыўна-прававой базы*:

● удасканаленне закона «Аб музеях і музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» згодна з сучаснымі міжнароднымі музейнымі стандартамі;

● распрацоўка і ўкараненне сістэмы нарматыўна-прававой дакументацыі ў адпаведнасці з новымі палажэннямі Закона;

● прававое рэгуляванне музейнай дзейнасці ў кантэксце помнікаахоўнага заканадаўства.

# ЛІТАРАТУРА

*Алексеев, Л. В.* Археология и краеведение Беларуси XVI в. — 30-е годы XX в. / Л. В. Алексеев. — Минск : Беларус. навука, 1996. — 206 с.

*Аляксееў, А. А.* Спадчына Беларусі. Скарбы / А. А. Аляксееў, А. В. Лукашэвіч. — Мінск : Мінск. фабрыка каляр. друку, 2007. — 318 с.

Веткаўскі музей народнай творчасці / склад. : Г. Р. Нячаева, С. І. Лявонцьева, Ф. Р. Шкляраў. — Мінск : Беларусь, 1994. — 167 с.

Вяртанне : дак. і арх. матэрыялы па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь / Беларус. фонд культуры [і інш.] ; склад. А. А. Тоўсцік. — Мінск : БФК, 1992. — 256 с.

Вяртанне-2 : арт., дак. і арх. матэрыялы па праблемах пошукаў і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь / Беларускі фонд культуры ; склад. : А. Тоўсцік, М. Яніцкая. — Мінск : БФК, 1994. — 270 с.

Вяртанне-3 : зб. арт. і дак. па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей / Беларус. фонд культуры [і інш.] ; склад. : А. Тоўсцік, М. Яніцкая ; рэдкал. : А. Мальдзіс (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БФК, 1996. — 255 с.

Вяртанне-4. Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей : праблемы вяртання і сумеснага выкарыстання (юрыдычныя, навуковыя і маральныя аспекты) : матэрыялы Міжнар. канф., якая адбылася ў Мінску пад эгідай UNESCO 19—20 чэрв. 1997 г. ; пад рэд. А. Мальдзіса. — Мінск : ННАЦ імя Ф. Скарыны, 1997. — 334 с.

Вяртанне-6. Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных, бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах / рэдкал. : А. Мальдзіс (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БФК, 1999. — 368 с.

Вяртанне-7. Нясвіжскія зборы Радзівілаў. Іх фарміраванне, гістарычны лёс, цяперашняе месцазнаходжанне і шляхі выкарыстання / рэдкал. : А. Мальдзіс (гал. рэд.) [і інш.]. — Мінск : БФК, 2002. — 368 с.

*Гужалоўскі, А. А.* Музеі Беларусі. 1918—1941 / А. А. Гужалоўскі. — Мінск : НАРБ, 2002. — 176 с.

*Гужалоўскі, А. А.* Музеі Беларусі. 1941—1991 / А. А. Гужалоўскі. — Мінск : НАРБ, 2004. — 192 с.

*Гужалоўскі, А. А.* Нараджэнне беларускага музея / А. А. Гужалоўскі. — Мінск : НАРБ, 2001. — 106 с.

Елена Аладова. Музей — ее судьба : воспоминания, документы, исследования / авт. концепции и сост. : Б. Крепак, В. Прокопцов, Н. Усова. — Минск : Маст. літ., 2006. — 318 с.

Захоўваем і памятаем. Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. 1941—1945 / аўт.-уклад. Г. Д. Бабусенка. — Мінск : Беларус. дзярж. музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, 2009. — 69 с.

*Каханоўскі, Г. А.* Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. / Г. А. Каханоўскі. — Мінск : Навука і тэхніка, 1984. — 118 с.

*Каханоўскі, Г. А.* Руплівец нашай старасветчыны : Яўстах Тышкевіч / Г. А. Каханоўскі, А. Г. Каханоўскі. — Мінск : Навука і тэхніка, 1992. — 63 с.

*Лабачэўская, В. А.* Захавальнік Палескага музея Дзмітрый Георгіеўскі : да 75-годдзя адкрыцця музея ў Пінску / В. А. Лабачэўская. — Мінск : Тэхналогія, 2001. — 82 с.

*Мальдис, А. И.* Белорусские сокровища за рубежом / А. И. Мальдис. — Минск : ЛіМ, 2009. — 205 с.

Музеі Беларусі / рэд. савет : Г. П. Пашкоў, Л. В. Календа, М. Г. Нікіцін. — Мінск : Беларус. энцыкл., 2008. — 559 с.

Музеи Минска / Минск. гор. исполн. ком. — Минск : Рифтур, 2008. — 52 с.

Музей старажытнабеларускай культуры / уклад. А. А. Ярашэвіч. — Мінск : Беларусь, 2004. — 284 с.

Музей сучаснага выяўленчага мастацтва / склад. : Н. Зелянко, Н. Шаранговіч. — Мінск : Выд. цэнтр БДУ, 2006. — 111 с.

Нацыянальны мастацкі музей. З гісторыі даваенных збораў. Страты і вяртанне. Дакументы. Фотаздымкі. Віртуальная выстаўка / навук. кір. і аўт. праекта У. І. Пракапцоў. — Мінск : Нац. мастацкі музей Рэсп. Беларусь, 2009. — CD-ROM.

Полацк музейны : фотаальбом / фота І. У. Супранёнка. — Мінск : Беларусь, 2006. — 281 с.

Скарбы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь / склад. : В. Вайцахоўская [і інш.]. — Мінск : ООО «Белпрынт», 2004. — 115 с.

*Федорук, А. Т.* Старинные усадьбы Берестейщины / А. Т. Федорук. — Минск : Беларус. энцыкл., 2004. — 572 с.

*Федорук, А. Т.* Старинные усадьбы Минского края / А. Т. Федорук. — Минск : ООО «Полифакт» : ООО «Лекция», 2000. — 415 с.

*Шишанов, В. А.* Витебский музей современного искусства : история создания и коллекции (1918—1941) / В. А. Шишанов. — Минск : Медисонт, 2007. — 144 с.

*Aftanazi, R.* Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Cz. 1 : Wielkie Księstwo Litewskie, Inflanty, Kurlandia. T. 1. Wojewodztwa minskie, mscislawskie, polockie, witebskie / R. Aftanazi. — Wrocław etc. : Ossolineum, 1991. — 335 s.

*Aftanazi, R.* Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Cz. 1 : Wielkie Księstwo Litewskie, Inflanty, Kurlandia. T. 2. Wojewodztwa brzesko-litewskie, nowogrodzkie / R. Aftanazi. — Wrocław etc. : Ossolineum, 1992. — 473 s.

*Aftanazi, R.* Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. Cz. 1 : Wielkie Księstwo Litewskie, Inflanty, Kurlandia. T. 4. Wojewodztwo wilenskie / R. Aftanazi. — Wrocław etc. : Ossolineum, 1993. — 549 s.

# ЗМЕСТ

*На першай старонцы вокладкі*: **Бялыніцкі абраз Божай Маці XVII ст.** са збору Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі; **Слуцкі пояс** з калекцыі Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве

Вучэбнае выданне

**Гужалоўскі** Аляксандр Аляксандравіч

# ГІСТОРЫЯ МУЗЕЙНАЙ СПРАВЫ БЕЛАРУСІ

**Вучэбна-метадычны дапаможнік**

Рэдактар *Г. В. Мыцык*
Мастак вокладкі *Т. Ю. Таран*
Тэхнічны рэдактар *Т. К. Рамановіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. М. Ягоравай*
Карэктар *В. І. Багдановіч*

Падпісана да друку 15.06.2012. Фармат 60×84/16.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 17,67.
Ул.-выд. арк. 21,28. Тыраж 150 экз. Заказ 891.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.
ЛВ № 02330/0494425 ад 08.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 4, 220030, Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
ЛП № 02330/0494178 ад 03.04.2009.
Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.